АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1992

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ

# ПАЭЗІЯ БЕЛАРУСКАГА ЗЕМЛЯРОБЧАГА КАЛЕНДАРА



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1992

ББК 82.3 Бел.-6
П 22

Р э д а к ц ы й н а я к а л е г і я:
**В. К. Бандарчык, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік** (галоўны рэдактар), **Г. І. Цітовіч**

Укладанне, сістэматызацыя тэкстаў, уступны артыкул і каментарыі **А. С. Ліса**, народны каляндар падрыхтаваў **У. А. Васілевіч**

Рэдактар **А. С. Фядосік**

Р э ц э н з е н т ы:
кандыдаты філалагічных навук **А. І. Гурскі** і **А. С. Яскевіч**

П $\frac{4702120105-129}{М316(03)-92}$ 136—91

ISBN 5-343-00676-0

# КАЛЯНДАРНА-АБРАДАВАЯ ПАЭЗІЯ

Каляндарна-абрадавая паэзія адносіцца да вытокавых, карэнных з'яў народнай культуры. Разам з сямейна-абрадавым фальклорам каляндарныя абрады, звычаі і песні канцэнтравалі ў сабе погляд народа на свет, чалавека, прыроду, належалі да асноў народнага жыцця, былі рэгулятарам яго.

У мінулым народна-паэтычная творчасць суправаджала жыццё чалавека практычна штодзённа. Яна далучала яго да пазнання навакольнага свету, асэнсавання свайго месца ў ім і сярод людзей. Ідэі і вобразы каляндарнага і сямейна-абрадавага фальклору былі своеасаблівым паэтычным працоўным і маральным кодэксам народа, палажэнні якога перадаваліся вусна ад пакалення да пакалення. У гэтай паэзіі з вялікай сілай гучыць запавет продкаў нашчадкам. Цяжка пераацаніць ролю сямейна- і каляндарна-абрадавай паэтычнай творчасці ў развіцці і захаванні кожнага паасобнага этнасу. Адначасова абрадавы фальклор — глыбокая крыніца, здольная жывіць духоўную культуру кожнага народа ўжо на ўзроўні яго свядомага грамадска-палітычнага існавання як нацыі.

У каляндарнай і сямейна-абрадавай паэзіі вельмі поўна і ў нейкіх сваіх сутнасных праявах адбілася духоўнае аблічча народа: яго псіхалогія, асаблівасці гістарычнага лёсу, мастацкія патэнцыі. Пры многім супольным, што лучыць між сабой гэтыя два магутныя пласты народнай культуры — каляндарны і сямейны, яны вельмі розныя. Настолькі розныя і адметныя, наколькі розныя і спецыфічныя сферы жыцця, імі паэтычна асвоеныя. Калі сямейна-абрадавы фальклор суправаджаў асноўныя этапы жыцця чалавека, тры жыццёвыя вехі яго, то каляндарная паэзія ахоплівала, адлюстроўвала і асвячала сабой найважнейшую сферу дзейнасці чалавека — працоўную, у якой ён быў заняты паўсядзённа. Ішла поруч з ім на працягу ўсяго каляндарнага года, пастаянна, у адвечным кругабегу часу.

Каляндарна-абрадавая творчасць даўно стала аб'ектам навукі. Генезіс каляндарных абрадаў і звязанай з ім паэзіі, спецыфіка асваення рэчаіснасці, свету ў абрадавым фальклоры з XVIII ст. цікавілі гісторыкаў, этнографаў, філолагаў. На

сённяшні дзень навуковыя веды аб гэтым фенаменальным помніку народнай свядомасці ў яе гістарычным развіцці, аб гэтай цэласнай светапоглядна-паэтычнай сістэме набылі даволі стройную, хоць, можа, і незакончаную форму, канцэпцыю. Грунтуецца яна на матэрыялістычна-дыялектычнай філасофскай аснове.

Уяўленні і вераванні, што леглі ў аснову земляробчага календара, фальклору, які яго суправаджаў, зарадзіліся на золку чалавечай цывілізацыі, у раннеземляробчую эпоху, часы энеаліту[1]. Яны склаліся ў цэлую сістэму ў ходзе асваення старажытным чалавекам прыроды, у працэсе працоўнай практыкі.

Углядаючыся ў адвечны кругаварот у прыродзе (чаргаванні дня і ночы, змены пор года), назіраючы біялагічныя цыклы ў раслінным і жывёльным свеце, чалавек імкнуўся спасцігнуць прычыннасць гэтых змен, бо залежаў ад іх сваім бытаваннем, сваім жыццём. Тлумачыў іх адпаведна ўзроўню ведаў, назапашаных безліччу пакаленняў у ходзе жыццёвай, пераважна земляробчай, практыкі. Адны з гэтых уяўленняў старадаўняга чалавека — аб таямніцах прыроды, сусвету, аб рытмах, у якіх развівалася жыццё на зямлі,— насілі інтуітыўна-дыялектычны, стыхійна-матэрыялістычны характар, іншыя набывалі форму ірацыянальнага, ідэалістычнага зместу. Разам узятыя, яны склалі цэлую сістэму поглядаў на дэтэрмінаванасць жыцця на зямлі космасам, залежнасць усяго жывога ад сонца, ад іншых прыродных сіл, стыхій. Уяўленні, погляды старажытнага чалавека на геліябіялагічныя рытмы прыроды, на кругаварот часу, залежнасць ад іх працоўнай дзейнасці знайшлі выражэнне ў цэлым комплексе абрадаў, абрадавых дзействаў і паэзіі. У сваёй цэласнасці, характары яны адлюстравалі цыклічнасць развіцця прыроды. Паводле мэты, былі выражэннем імкнення старажытнага земляроба падпарадкаваць сабе ўспрынятыя эмпірычна незразумелыя яму яе законы. Самыя значныя, вызначальныя ў гадавым кругавароце часу этапы, дні старадаўні чалавек звязваў з летнім і зімнім сонцастаяннем. Вакол гэтых дзён у старажытнасці і канцэнтраваліся найбольшыя ўрачыстасці. На іх прыпадала найболей абрадаў, магічных дзеянняў, варожбаў, накіраваных на тое, каб забяспечыць чалавеку здароўе, добры ўраджай, прыплод буйной і дробнай жывёлы ў гаспадарцы як аснову дабрабыту сям'і, заруку прадаўжэння роду.

У беларусаў, як пераканаўча засведчыла этнаграфічная літаратура яшчэ ў XX ст., заспеўшы каляндарныя абрады

[1] Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы: Исторические корни и развитие обычаев. М., 1983. С. 68.

ў жывым бытаванні і неразбуранай форме, самымі буйнымі святамі гаспадарчага года былі Каляды (24 снежня ст.ст.) і Купалле (23 чэрвеня ст.ст.)*. Вакол гэтых свят, што супадалі з перыгеем і апагеем сонца, пышна развіліся аграрныя, паводле сваёй сутнасці, абрады, варожбы, гульні-ігрышчы. Мелі яны і багатае абрадава-песеннае суправаджэнне.

Абрадавыя комплексы, звязаныя са святамі, з'яўляліся своеасаблівым ядром: калядны — зімовага, а купальскі — летняга цыклаў. У цэлым беларускі гаспадарчы каляндар адпаведна порам года і вытворчым сезонам, залежным ад іх, меў чатыры цыклы. У адпаведнасці з імі і гадавыя святы падзяляліся на зімовыя, веснавыя, летнія і асеннія. Веснавы абрадава-песенны цыкл прама суадносіўся з перыядам веснавых палявых работ і ўключаў абрады «гукання вясны», святы Дабравешчанне (25 сакавіка), Вялікдзень з абходам двароў валачобнікамі, Юр'е (23 красавіка, дзень першага выгану жывёлы на пашу), Радаўніцу, Тройцу, або Сёмуху. Летні каляндарна-абрадавы цыкл акрамя купальскіх святкаванняў і абраднасці характарызаваўся абрадамі жытняга жніва і дажынак, скіраванымі на паспяховы збор ураджаю і забеспячэнне плёну на будучы год. Асноўныя аграрныя святы асенняй пары: Багач (8 верасня), Пакровы (1 кастрычніка, з ім звязвалася ўяўленне пра заканчэнне работ у полі) і Асяніны, або Змітраўскія дзяды,— урачыстасць у гонар продкаў (каля 26 кастрычніка).

Такім чынам, увесь каляндарны год, кожны этап гаспадарчых работ колішняга земляроба-беларуса быў шчодра абстаўлены абрадамі, любоўна-аграрнай варажбой, гульнямі, многія з якіх мелі абрадавы характар, і песнямі ды прыкметамі. «Беларус не працуе, а свяшчэннадзействуе»,— пісаў аб працоўным годзе беларускага селяніна вядомы этнограф Ф. Кудрынскі, маючы на ўвазе абрадавыя захады, што папярэднічалі палявым работам, кожнаму пачынанню ў гаспадарцы [2].

Каляндарна-абрадавая паэзія нарадзілася ва ўлонні земляробчай працы і аграрных абрадаў. Насіла напачатку прыкладны, прагматычны характар. Паводле свайго функцыянальнага прызначэння, была заклікана паспрыяць земляробу ў працы, прама або ўскосна паўплываць на ўрадлівасць яго нівы, садзейнічаць здароўю роду, яго дабрабыту, жыццю. Каляндарна-абрадавая творчасць усімі сваімі комплексамі канцэнтравалася пераважна вакол гадавых земляробчых свят або непасрэдна суправаджала палявыя і хатнія работы. Уласцівая прыродзе

---

* Паводле традыцыі, усе святы даюцца па ст.ст.

[2] Кудринский Ф. А. Белорусы. Вильна, 1905. С. 16.

цыклізацыя ляжыць ў аснове яе падзелу на чатыры вялікія цыклы, адпаведныя порам года, вытворчым сезонам у гаспадарцы: зімовыя песні, веснавыя, летнія і восеньскія. У кожным паравым цыкле ёсць свае групы, падгрупы і цэлыя жанры каляндарных песень. Усяго беларуская каляндарна-абрадавая паэзія налічвае звыш дваццаці песенных разнавіднасцей. Асобныя жанры ў ёй дасягнулі ўзроўню класічнай паэзіі. У цэлым песні гадавога круга вельмі багатыя і разнастайныя; паводле ахопу жыццёвых праяў, эстэтычных форм, пласт беларускай народнай культуры грунтоўна развіты і добра захаваны. У асноўных публікацыях беларускай фальклорнай спадчыны — у зборах П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава, А. Шлюбскага, М. Федароўскага, С. Сахарава, Р. Шырмы, Н. Гілевіча [3]— каляндарна-абрадавай паэзіі належыць да сарака працэнтаў агульнага аб'ёму. Яна — свайго роду рэпрэзентатар, візітная картка беларускага фальклору. Аб гэтым, напэўна, найлепей першнаперш сведчыць сама каляндарна-земляробчая паэзія беларусаў у шматлікіх публікацыях, якія, аднак, яшчэ далёка не поўна адлюстроўваюць усё яе багацце, асабліва ў яго рэгіянальным праяўленні. Нямала гаворыць аб беларускай каляндарна-абрадавай паэзіі і той факт, што ўзоры яе здаўна шырока выкарыстоўвалі ў сваіх навуковых пошуках такія выдатныя прадстаўнікі айчыннай і замежнай філалогіі, як А. Афанасьеў, А. Патабня, А. Весялоўскі, Я. Карскі, Людвіг Куба, Ян Быстронь, В. Гусеў і інш. У кантэксце сказанага не зашкодзіць коратка спыніцца на прычынах і перадумовах высокага развіцця беларускага каляндарнага фальклору, своеасаблівага фенамена яго.

Адной з першых прычын можна лічыць тую акалічнасць, што каляндарна-абрадавая творчасць ахоплівала сабой надзвычай шырокую жыццёвую сферу практычна ўсяго народа і перш за ўсё асновы нацыі ў мінулым. Не цураліся яе ў свой час і верхнія пласты грамадства. Беларуская гісторыя захавала няшмат сведчанняў таго, але яны ёсць. Ідэолаг праваслаўя, рэлігійны дзеяч XVI ст. Іаан Вішаньскі ў пасланні да князя Канстанціна Астрожскага раўніва наказваў: «Волочельное по воскресеньи з мест и сел выволокше, утопете и не хочет бо

---

[3] Шейн П. В. Белорусские народные песни. СПб., 1874; Ен жа. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887. Т. 1. Ч. 1.; Романов Е. Р. Белорусский сборник. Киев, 1886. Вып. 1, 2; Ен жа. Белорусский сборник. Вильна, 1912. Вып. 8; Шлюбскі А. Матэрыялы для вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Мн., 1927. Ч. 1. Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Warszawa, 1958. T. 5; Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940. Вып. 1; Шырма Р. Беларускія народныя песні: У 4 т. Мн., 1963. Т. 3; Гілевіч Н. С. Песні народных свят і абрадаў. Мн., 1974.

Христос... того смеху и руганья диавольского имети» [4]. У гэтым гарачым наказе адэпта хрысціянства свайму патрону звяртае на сябе ўвагу факт бытавання ў XVI—XVII стст. абрадавага фальклору, у прыватнасці валачобных звычаяў, у месце — горадзе.

Росту і захаванню каляндарнага фальклору на Беларусі ў сярэдневяковы перыяд і пазней садзейнічалі гістарычныя ўмовы, у цэлым неспрыяльныя для культурнага развіцця беларускага народа. У XVII—XIX стст. у выніку дэнацыяналізацыі пануючых класаў, у першую чаргу магнацкіх родаў, багацейшай і сярэдняй заможнасці шляхты, пазней і выхадцаў з разначынцаў, народ апынуўся без актыўных носьбітаў і праваднікоў афіцыйнай прафесійнай культуры, якімі былі маёмасныя, асвечаныя пласты грамадства, тагачасная інтэлігенцыя. Пазбаўлены дзейснага духоўнага ўплыву зверху народ засяродзіўся на сваім духоўным жыцці, развіваў яго ў даступных жанрах і відах, гэтым самым інстынктыўна захоўваючы сваю нацыянальную індывідуальнасць. Развіццю і зберажэнню беларускага фальклору, у тым ліку каляндарна-абрадавай паэзіі, не ў малой меры садзейнічала і тое, што на Беларусі доўгі час вялася зноў жа шкодная для кансалідацыі нацыі і развіцця духоўных сіл яе зацятая рэлігійная барацьба двух галін хрысціянства. Зацікаўленыя ва ўзаемным зваяванні прадстаўнікі ваяўнічага каталіцызму, асабліва езуіты, і афіцыйнага расійскага праваслаўя аб'ектыўна не мелі магчымасці, часу, каб звярнуць больш пільную ўвагу на тую народную культуру, якая сваімі вытокамі ў значнай меры мела ўяўленні і вераванні часоў язычніцтва, калі народнае пачуццё, фантазія не былі строга абмежаваны ідэалагічнымі рамкамі, развіваліся стыхійна.

Змены за гісторыю Беларусі на яе землях некалькіх канфесій (спачатку праваслаўе з часоў Кіеўскай Русі, затым каталіцызм, уніяцтва перыяду Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, іншыя адмены хрысціянства, як кальвінізм пары Рэфармацыі, суіснаванне побач у часткі насельніцтва іудзейскай і мусульманскай рэлігій) не маглі не садзейнічаць развіццю ў народзе індыферэнтнасці ў дачыненні афіцыйных рэлігійных вераванняў і інстытутаў наогул. Тым лягчэй адвечныя звычаі, абрады, іх песеннае суправаджэнне, якія ўзніклі ў працэсе першаснага спасціжэння прыроды, у ходзе земляробчай практыкі, зразумелыя, блізкія ратаю і сейбіту, трымаліся ў іх свядомасці, быце. Не праследаваныя з боку дзяржавы (нам невядомы дзяржаўныя акты, загады ў Літоўскім статуце ці ў якіх-небудзь іншых дакументах, Літоўскай метрыцы, якія,

[4] Акты Юго-Западной и Западной России. СПб., 1848. Т. 2. С. 223—224.

падобна «Стаглаву», забаранялі б старыя звычаі), не праклінаныя паслядоўна айцамі царквы, занятымі іншым клопатам — як зваяваць сваіх ідэалагічных сапернікаў, старадаўнія традыцыі, у тым ліку каляндарныя, заставаліся для асноўнай масы народа запаветам продкаў, духоўным апірышчам на жыццёвым шляху. Гэта аб'ектыўна таксама спрыяла развіццю і захаванню фальклору, у тым ліку каляндарнага, якому ў духоўным жыцці народа было, такім чынам, наканавана адыграць неардынарную ролю. Якраз менавіта істотная, важная роля ў бытавым і духоўным жыцці народа і звязаная з ёю змястоўнасць, ідэйна-эстэтычная ёмістасць беларускай каляндарнай паэзіі забяспечылі ёй доўгае жыццё ў часе. І сягоння яна не толькі прыгожы помнік народнага генія ў мінулым, але і жывое праяўленне духу народа, да якога сучаснік навукова-тэхнічнай рэвалюцыі не траціць цікавасці як у навуковым, так і ў культуралагічным прыкладным аспекце. Векавечнае дрэва гэта не перастала зелянець і прыносіць нам асалоду жывой красы. Нельга пераацаніць значэнне каляндарнай паэзіі для нарадазнаўства, чалавеказнаўства. Нельга не бачыць яе вялікай эстэтычнай каштоўнасці.

Свет паэзіі беларускага земляробчага, даўней сказалі б ратайскага, календара шырокі і шматмерны. Ён мае свае жыццёвыя каардынаты, светапоглядную і бытавую, працоўную асновы. Толькі комплексны падыход да яе аналізу ў гісторыка-этнаграфічным кантэксце дазваляе пранікнуць у сутнасць гэтай паэзіі, зразумець яе ідэйна-мастацкую своеасаблівасць, адметнасць як з'явы культуры.

У старажытнасці новы год, гадавы каляндарны круг пачынаўся вясною, у сакавіку[5]. Ён практычна супадаў з пачаткам палявых работ, з надыходам чыннай земляробчай дзейнасці селяніна. З увядзеннем юліянскага календара Новы год пачаў адзначацца першага студзеня, што фактычна супадала з паваротам сонца на лета, з адраджэннем, паводле старажытных уяўленняў, яго жыватворнай сілы. Гэта прывяло да невялікіх змен у гаспадарчым календары. Аднак ні дзяржаўныя заканадаўчыя акты, ні працяглае ўздзеянне на народныя каляндарныя звычаі і абрады дзвюх — усходняй і заходняй — разнавіднасцей хрысціянства не зрабілі значнага ўплыву на беларускі народны каляндар: вельмі трывалая была яго земляробчая, працоўная аснова. У сваім змесце ён заставаўся такім, якім быў у старажытнасці. Нязменнымі заставаліся яго цыклы, квадры, у цэлым абрады і асноўны песенны фонд.

[5] Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы: Исторические корни и развитие обычаев. С. 34.

**Зімовы перыяд** гаспадарчага календара беларускі селянін пачынаў са скончэннем усіх палявых работ, пасля пасеву азімых, адсвяткаваўшы старадаўняе свята ў гонар продкаў — асеннія Дзяды, або Асяніны. Гэта пераходны перыяд у яго гаспадарцы: падводзіліся вынікі мінулага года, дамалочвалася збажына з думкай, што «на семя, а што на емя». Зімовыя святы і абрады насілі падрыхтоўчы характар і павінны былі забяспечыць урадлівасць на будучы год. Яны мелі на сабе выразны знак рупнасці земляроба аб будучым працоўным годзе, аб тым, што будзе на лета. Зімовыя аграрныя абрады магічнага характару, што выдавала іх глыбока старажытныя вытокі, канцэнтраваліся ў асноўным вакол перыяду зімовага сонцастаяння і скіроўваліся на тое, каб забяспечыць здароўе сям'і, добры ўраджай, прыплод статка, шчодрае раенне пчол і іншыя матэрыяльныя асновы дабрабыту ў гаспадарцы. Спажыванне абрадавых страў на бедную куццю ў пярэдадзень Каляд і багатую, або шчодрую, куццю ў ноч перад Новым годам, паводле традыцыі, асвечанай стагоддзямі, было спробай магічным спосабам паўплываць на самую прыроду, яе жыватворныя сілы, і таксама імкненнем задобрыць памерлых продкаў, заручыцца іх падтрымкай, дапамогай у сваёй надзеі, працы на будучыню [6].

У цэлым святкаванне зімовага перыяду земляробчага календара складалася з некалькіх актаў: абрадавай вячэры на бедную і багатую куццю, абходу двароў калядоўшчыкамі на Каляды і шчадравальнікамі ў ноч перад Новым годам, ігрышчаў і гульняў на «святыя» («крывыя») вечары. Калі ўрачыстасці на бедную і багатую куццю мелі, так бы мовіць, малітоўна-строгі абрадавы характар, то хаджэнне калядоўшчыкаў і шчадравальнікаў, і асабліва ігрышчы-гульні ў «крывыя» вечары, давалі выхад энергіі, весялосці, насілі такую форму святкавання, якая на Захадзе атрымала назву карнавалу. Сам характар святочных урачыстасцей знайшоў выразны адбітак у каляндарнай паэзіі, у яе функцыянальнай і жанравай прыродзе. На Каляды і ў Шчодры вечар спявалі песні-зычэнні, песні-віншаванні, пераважна паважнага зместу, з устаноўкай на спрыянне гаспадару, усёй яго сям'і. Жартоўны рэпертуар у гэтыя дні практычна выключаўся. Хіба дадавалася штосьці гумарыстычнае ў рацэях. На ігрышчах у «святыя» вечары вадзіліся карагоды, спяваліся песні, гуляліся гульні, у якіх беспадзельна дамінавалі жарт,

---

[6] Шырэй аб характары і сутнасці аграрных абрадаў зімовага цыкла гл.: Чичеров В. И. Зимний период русского народного земледельческого календаря XVI—XIX вв. М., 1957; Гурский А. И. Зимняя поэзия белорусов. Мн., 1980; Виноградова Л. Н. Зимняя календарная поэзия западных и восточных славян. М., 1982.

гумар, карагодзіла весялосць. Нават гульня любоўна-абрадавага характару «Цярэшка», якая мела на мэце падрыхтаваць моладзь да будучай жаніцьбы, наскрозь прасякнута гумарам, насмешлівай весялосцю. Такім чынам, абрадавая ўстаноўка зімовага перыяду календара, з аднаго боку, насіла строгі заклінальны характар (ёй адпавядалі адны рытуалы і песні), а з другога — сваімі дзействамі (хоць бы гэта былі ігрышчы, гульні — у старажытнасці яны мелі абрадавы сэнс) давала выхад жыццёвай энергіі, выяўляючы пэўны рытм самой прыроды, самога жыцця.

Па функцыянальнай прыкмеце ў зімовым цыкле вылучаюцца наступныя групы, або віды, песень: **піліпаўскія, калядныя і шчадроўскія,** песні **зімовых карагодаў і гульняў.** Паводле жанравай прыроды, іх можна падзяліць на велічальныя, заклінальныя, гумарыстычныя, лірычныя і эпічныя. Лірычныя пераважаюць сярод піліпаўскіх. Піліпаўскія наогул моцна адрозніваюцца ад калядных і шчадроўскіх, якія складаюць ядро зімовага каляндарна-песеннага цыкла. Піліпаўскія песні спяваліся дзяўчатамі і жанкамі на так званых попрадках, зборы гурту папрадух. У іх пераважалі песні лірычныя, гучала тэма сямейнага жыцця. Пры гэтым увесь рэпертуар быў моцна афарбаваны гумарам. Узорамі піліпаўскіх песень можна назваць творы «Доўга, доўга з вечара сядзела», «Праду я, праду, спатанькі хачу», «Як пайшоў жа кужаль па кутах, па лаўках», «Да было не спаць да Піліпавай ночкі» і інш. [7] Песня «Праду я, праду, спатанькі хачу» паказвае не толькі становішча маладой жанчыны ў сям'і мужа, а і перадае вельмі тонкае разуменне абставін жыцця, душэўных перажыванняў маці і дачкі. Простая і дасканалая мастацкая матэрыя твора, яго інструментоўка:

Праду я, праду, спатанькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку там,
Ці не засну, ці не задрамлю.
Свякроўка ідзець, мяне судзячы:
Санлівая, драмлівая,
На работу лянівая.
Толькі ёй ўсё спаць,
Толькі ўсё драмаць.
Праду я, праду, спатанькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку там,
Ці не засну, ці не паляжу.
Мамачка ідзець, мяне жалеець:
— Дзіця ж маё дарагое,
Пайшло замуж маладое,
Дзеткі абнялі, спаткі не далі. [8]

---

[7] Зімовыя песні / Уклад. А. І. Гурскага, З. Я. Мажэйкі. Мн., 1975. С. 55.
[8] Там жа.

Сярод піліпаўскіх песень жартоўнага зместу вылучалася невялікая нізка твораў, у якіх паэтычна, гулліва перададзены настрой дзяўчат, іх нараканне на Піліпаўку і просьба-заклінанне, звернутая да Каляд, вызваліць ад цяжкай аднатоннай работы за кудзеляй, даць пагуляць «на ігрышчайку». У гэтыя песні, фактычна перадкалядныя, «заблукаў» і рэдкі сярод такога роду твораў сацыяльны матыў. У песні «Тыдзень, тыдзень да Каляд» паэтычна пераасэнсаваны факт грамадскага быту, сацыяльна-эканамічных адносін. Справа ў тым, што незадоўга перад Калядамі, на св. Сцяпана, у сярэдневяковай Беларусі быў звычай заключаць розныя эканамічна-прававыя дагаворы, быў час найму парабкаў[9]. У розных варыянтах названай песні то ў форме дыялога, то маналогам вуснамі чалядзінца, парабка малюецца абразок настрою, адчування ў гэты дзень пана-наймальніка і яго работніка, які кажа ў вочы свайму крыўдзіцелю праўду-матку і адмаўляецца далей служыць яму. Тэма песні вырашана ў гумарыстычным у дачыненні да пана ключы:

...Тыдзень, тыдзень да Каляд,
Пан наш чэлядзі не рад.
Пайшла чэлядзь скачучы,
Пан за ёю плачучы.
— Каб ты, пане, не даждаў,
Каб ты намі замысляў!
Твая пані ліхая,
На ўсю чэлядзь гукае.
Твой хамут і дуга,
А я табе не слуга[10].

Не разглядаючы піліпаўскія песні шырэй (складаюць невялікую і нехарактэрную групу каляндарных твораў), неабходна адзначыць, што яны даволі добра ў мастацкай форме сваёй узнаўляюць атмасферу Піліпаўскіх вечароў, попрадак, дзе было месца і глыбокаму роздуму над жыццём, і лірычнаму ўсплёску пачуцця, і насмешлівай ноце. Нялішне раскошная паэтыка піліпаўскіх песень мае, аднак, некалькі ўласцівых толькі ёй рыс. У паэтычных радках твораў часта ўпамінаюцца словы «кудзеля», «кужаль», «прасніца», «кросны» — атрыбуты прадзіва, ткацтва. Сталыя эпітэты *тонкая* пража, *белы* кужалёк кіруюць уяўленне слухача да рабочага занятку пралляў, да іх нялёгкай і такой неабходнай ва ўмовах натуральнай гаспадаркі колішняй вёскі працы.

---

[9] Киркор А. К. Следы язычества в празднествах, обрядах и песнях // Живописная Россия. СПб.; М., 1882. Т. 3. С. 251.

[10] Бессонов П. Белорусские песни. М., 1871. С. 70.

Трэба думаць, піліпаўскія песні (а назву сваю яны ўзялі ад Піліпаўкі, Піліпаўскага посту) — пазнейшыя паводле паходжання. Некалі бытавалі яны (аб гэтым сведчаць запісы М. Косіч, М. Доўнар-Запольскага, С. Сахарава, В. Камінскага, М. Гарэцкага і А. Ягорава, У. Дабравольскага і П. Шэйна, а таксама сучасных збіральнікаў) практычна на ўсім беларускім этнічным абшары. Аднак з прычыны сціплага месца ў агульным фондзе каляндарнай паэзіі, недастатковай жанравай выразнасці колькасна сабрана іх няшмат.

Найпаўней аграрна-светапоглядныя асновы зімовага цыкла каляндарнай паэзіі, паэтычны свет земляроба на этапе зімовага перыяду гаспадарчага года выяўляюць калядкі і шчадроўкі. Гэта жанр у яго тыповым каляндарна-абрадавым праяўленні. За доўгую гісторыю развіцця ён эвалюцыяніраваў функцыянальна, як і іншыя каляндарныя жанры. На першапачатковым этапе свайго развіцця калядкі і шчадроўкі мелі працоўна-магічныя мэты. Як і калядныя аграрныя абрады, яны, паводле думкі старажытнага земляроба, былі заклікаНы садзейнічаць урадлівасці. Генетычнай асновай узнікнення вобразаў багатага гаспадарскага двара, незвычайнага плёну на ніве, небывалага прыплоду ў хляве была вера старажытнага чалавека ў чарадзейную моц слова, у здольнасць цераз падобнае выклікаць жаданае. Спосабам мастацкай выявы (наіўная ідэалізацыя гаспадара, гаспадыні, наогул сялянскага двара) гіпербалізавалі будучы ўраджай, статак і г. д. Па меры знікнення старажытных уяўленняў аб магіі слова, дзейства змянілася і жыццёвая функцыя калядак і шчадровак, іх выканання ў час святочнага абходу двароў калядоўшчыкамі і шчадравальнікамі. Яна набыла святочна-віншавальны характар.

Калядныя і шчадроўскія песні адрасаваліся гаспадару як цэнтральнай постаці ў земляробстве, галаве сям'і. Ёсць песні, дзе калядоўшчыкі ў роўнай ступені звярталіся да гаспадара і гаспадыні, да абаіх адразу. Асобныя калядкі прысвячаліся спецыяльна гаспадыні, шматлікія, паводле народнай тэрміналогіі, «ахвяраваліся» незамужняй дачцы і сыну гаспадара. Такім чынам, класіфікацыя калядак і шчадровак простая, заснаваная на функцыянальным прынцыпе. Падзяляюцца песні паводле таго, каму прызначаліся, для каго выконваліся. Найбольшай грунтоўнасці ў паэтычнай трансфармацыі працоўнага быту земляроба, адлюстраванні ўкладу сям'і, стварэнні вобраза чалавека дасягаюць калядкі і шчадроўкі, адрасаваныя гаспадару, скарочана — гаспадарскія. Кампазіцыя калядак, як правіла, трохчасткавая, уключае ўступ, сюжэтную канву і канцоўку. Ва ўступе пасля кароткай інфармацыі пра калядоўшчыкаў («Хадзілі, гулялі калядоўшчыкі, сачылі, пыталі бага-

тага двара») даецца малюнак гаспадарскага падвор'я, гасподы. Гаспадарскі двор малюецца ў ідэалізаваных вобразах, у якіх праглядаюць архаічныя формы мыслення. Багаты двор, якім яго прадстаўляюць калядкі,— гэта двор, абнесены жалезным тынам, з медзянымі або цісовымі (цясовымі) варотамі, падваротніца — з рыб'яй костачкі. Прычым названыя атрыбуты знешняга выгляду гаспадарскага падвор'я ў розных песнях вар'іруюцца. Напрыклад, замест медзяных варот упамінаюцца залатыя, сярэбраныя, дубовыя: усё паводле адной устаноўкі — ідэалізаваць. Аднак асобныя дэталі малюнка двара паўтараюцца паслядоўна — жалезны тын і падваротніца — рыб'я костачка [11]. Ды і вароты (брама) найчасцей медзяныя. Некаторыя даследчыкі ранніх форм мыслення не без падстаў бачаць у такога роду вобразах не толькі сімільную магію, але і атрапеістычныя, ахоўныя ўяўленні. Менавіта *жалезнаму* тыну, ***медзяным*** варотам, падваротні з *рыб'яй косці* старажытным чалавекам надавалася значэнне чарадзейнай ахоўнай моцы [12]. Такім чынам, апаэтызаваны ў калядках гаспадарскі двор выступаў не толькі ўвасабленнем багацця, хараства, але і недаступным розным варожым чалавеку сілам, гэткай цвярдыняй сям'і земляроба.

Услед за абмалёўкай знешняга выгляду падвор'я вобраз гаспадарскага двара дапаўняўся малюнкам чатырох-пяці церамоў або святліцы з чатырма-пяццю вокнамі, у якіх адпаведна памяшчаліся (або заглядвалі ў вокны, калі гэта была святліца) нябесныя свяцілы: сонца, месяц, зара, зёзды і прыродныя стыхіі — вецер або хмара. Касмічныя целы, увасабленні прыродных стыхій у песні прама асацыіруюцца з членамі сям'і земляроба і гаспадаром, гаспадыняй, іх дзецьмі і нявесткамі [13]. У старажытнасці, трэба думаць, абразком церамоў, у якіх заключаны свяцілы, прыродныя стыхіі, параўнаннем з імі членаў сям'і гаспадара-земляроба і вычэрпваўся сюжэт песні. У такім выглядзе яго і захоўваюць паасобныя шчадроўкі. Прытым матыў «хмара — жыта» развіваецца ў іх крыху шырэй, на жыце, натуральна, робіцца акцэнт як на важнейшым для селяніна прадмеце клопату. З параўнання, якое ў сваёй генетычнай аснове мае таксама міфалагічныя ўяўленні (дажджавая шчодрасць хмары праецыравалася на будучы плён жыта), песня пераходзіла да характэрнай формы заклінальнага зместу:

---

[11] Зімовыя песні. С. 154—168.

[12] Чичеров В. И. Зимний период русского земледельческого календаря XVI—XIX вв. С. 63.

[13] Зімовыя песні. С. 156.

За сяньмі, сяньмі там за новымі,
Шчодры вечар, добры вечар!
Стаіць святліца нова зрублёна.
У той святліцы чатыры акенцы:
У першым акенцы — да яснае сонца,
У другім акенцы — да ясны месяц,
У трэцім акенцы — да дробныя звёзды,
У чацвёртым акенцы — да цёмная хмарка.
Яснае сонца — то жонка яго,
Ясны месяц — то сам гаспадар,
Што дробныя звёзды — то дзеткі яго,
Што цёмная хмарка — то жыта яго,
А з карэньчыка — каранiстае,
А з саломінкі — сцяблістае,
А з каласочка — каласістае.
А дай жа, божа, пану гаспадару,
Ой, жыці-быці, піва варыці,
Піва варыці — сыны жаніці,
Гарэлку гнаці — дочкі замуж даваці.[14]

Аднак у групе (нізцы) калядак, аб'яднаных агульным загалоўкам «Хадзілі, гулялі калядоўшчыкі» (ён па-рознаму мадыфікуецца), малюнак гаспадарскага двара з церамамі (святліцай) для касмічных цел — яшчэ не аснова сюжэта, а толькі экспазіцыя твора. У сюжэце ж шырока рэалізуецца ўстаноўка на ўсхваленне гаспадара, аддаецца належнае яго розуму, клопату аб родных. Разгорнуты сюжэт набыў такую схему. Гаспадара няма дома. Ён паехаў у «сталён горад суды судзіць, рады радзіць». Там на заробленыя, абавязкова вялікія грошы накуплівае дарагіх падарункаў усёй сям'і. Зварот дахаты пачцівага гаспадара адбываецца не без прыгод (едучы праз «сіня мора», ён губляе залаты персцень), якія, аднак, кемлівы чалавек здолеў ператварыць у прыбытак. У іншых варыянтах песні яе выканаўцы знаходзілі сюжэтнае звяно, якое давала магчымасць падвысіць годнасць гаспадыні. Тэкст вар'іраваўся такім чынам, што здагадлівая, разумная гаспадыня прыходзіла на выручку свайму мужу. Яна закідвае «шоўкаў невад» у мора і, хоць не вылавіла персня, злавіла затое трох залатапёрых акунёў, што прыносяць незвычайнае багацце ў дом [15].

Пры ўвасабленні ў гаспадарскіх калядках і шчадроўках найбольш характэрнай для іх тэмы — земляробства назіраецца высокая паэтызацыя працы. Паэтызуецца літаральна ўсё, што звязана з працай аратага: ворыўныя прылады, валы, вупраж іх, насенне, сам сейбіт. Паэтызуецца паводле міфалагічнага ўяўлення аб ідэальным, адным пажаданнем якога можна

[14] Русский филологический вестник. Варшава, 1885. Т. 13. С. 266. Зап. Я. Карскі ў с. Бярозавец Навагрудскага п.

[15] Зімовыя песні. С. 154—168.

выклікаць яго ў сапраўднасці. Пры паэтызацыі, якая генетычна ўзыходзіць да старажытных часоў, перыяду язычніцтва, у калядках вельмі рэалістычнае бачанне клопатаў земляроба, псіхалагічна дакладная выява кожнага жэста, кроку ў гаспадарчай рабоце, усіх абставін жыцця селяніна:

— Стань, пане,
Пане гаспадару.
Стань, не лянуйся,
Стань, абуйся.
Пайдзі да клеці,
Вазьмі амеці.
Там у куточку
Перагні бочку.
Вазьмі ў карабочку
Да кармі ж валы,
Сівы, палавы,
Залатыя валы,
Залатыя рогі.[16]

*Залатыя* валы, *залатыя* рогі, *залатая* саха — ідэалізацыя, якая трациць пад сабой рэальны грунт, пачуццё сапраўднасці. Аднак яна была апраўдана ў старажытнай песні не толькі функцыянальна: імкненнем выклікаць поспех у працы, урадлівасць нівы. Эпітэты, звязаныя з міфалагічнымі ўяўленнямі, тут мэтазгодныя і з пункту погляду эстэтычных законаў, апраўданы задачай стварыць цэласную мастацкую карціну, вобраз. Нарэшце, ужыванне іх тлумачыцца вітальна-віншавальным характарам прызначэння калядкі. Велічанне аб'ектыўна патрабавала высокай меры ацэнак. Зрокавая прадметнасць вобразаў калядкі, высокая мера паэтызацыі ўсяго, што звязана з будучым ворывам і сяўбой-засяваннем нівы, стваралі асобую, прыўзнятую эмацыянальную атмасферу, рабілі зрокава-адчувальнай перспектыву працы на веснавым полі. А радок «Да пагарэма горы, даліны» выклікае нейкі эпічны настрой:

...Яго сошанькі з шчырага золата,
Як едзе ў поле, бярэ ахвота.
— Судзі ж, божа, вясны даждаці,
Да паедзема ў поле гараці,
Да пагарэма горы, даліны...[17]

Жыта, ніва, яе плён як найважнейшы клопат земляроба, прадмет яго вялікай руплівасці знайшлі слоўна-вобразнае выражэнне ў большасці гаспадарскіх калядак і шчадровак. Думка аб ніве — лейтматыў і адначасова канва, па якой тчэцца паэтычны змест калядных песень. Выражаюць яны,

[16] АГТ, р. 20, клц. 21, л. 34—[redacted]
[17] Там жа.

аднак, іншыя аспекты працоўнага быту. У старажытнай шчадроўцы, адрасаванай гаспадару, у якога вадзіліся пчолы, выказваецца пажаданне плоднасці пчаліных сем'яў, багатага мядовага збору ад іх. Пажаданне гэта, як і ўсякае зычэнне ў абрадавай песні, набыло стройную сюжэтна-вобразную форму, высокі эстэтычны ўзровень выказвання:

Ці дома, дома сам пан гаспадар?
Добры вечар, сам пан гаспадар.
Ой, калі дома, выйдзі паслухай,
Добры вечар, выйдзі паслухай.
Выйдзі паслухай, што ў бары гудзе,
Добры вечар, што ў бары гудзе.
Што ў бары гудзе — пчолка-матка йдзе,
Добры вечар, пчолка-матка йдзе.
Пчолка-матка йдзе і райкі вядзе,
Добры вечар, і райкі вядзе.
Семяністыя і мядзістыя,
Добры вечар, і мядзістыя.[18]

Характэрна, што само абрадавае пажаданне ў песні знайшло вельмі ёмісты, сэнсава скандэнсаваны выраз якраз у эпітэтах, эпітэтах да слова «раі» — і «семяністыя» і «мядзістыя».

Старажытныя калядкі і шчадроўкі наогул у гранічна сціслай, лапідарнай форме ўмелі перадаць пажаданні ўсіх асноўных даброт жыцця, як разумеў іх колішні земляроб. Практычна ўвасаблялі погляд на падставы жыцця, свайго роду філасофію чалавека працы. Абрадавыя вестуны — калядоўшчыкі абвяшчаюць гаспадару, што яго чакаюць тры радасці:

...Першая радасць — у тваім доме,
Другая радасць — у тваёй аборы,
Трэцяя радасць — у чыстым полі.
У тваім доме — дробныя дзеткі,
У тваёй аборы — валы, каровы,
У чыстым полі — буйнае жыта,
Буйнае жыта каласіста, ядраніста... [19]

Думка аб дробных дзецях, аб вялікай сям'і вынікала з умоў натуральнай гаспадаркі і невыпадкова часта снуецца ў калядна-шчадроўскіх песнях. Як найвялікшы дар «сям'ю роўнюю, сям'ю роўнюю, усё маладую, усё маладую, усё пакорную» абяцаюць-вяшчуюць калядкоўшчыкі земляробу ў сваёй шчадроўскай песні [20]. Старадаўнія калядкі і шчадроўкі адлюстрава-

[18] Шырма Р. Беларускія народныя песні. Т. 3. С. 258.

[19] Шейн П. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 81—82. Зап. у в. Колкі Рэчыцкага п.

[20] Зімовыя песні. С. 221. Зап. Мажэйка ў 1967 г. у в. Тонеж Лельчыцкага р.

лі і саму ўрачыстасць зімовых свят у абрадавым іх аспекце, а заадно і тую іерархію, што існавала ў даўняй земляробчай сям'і. Імкненне да гармоніі ў сям'і вельмі адчувальна ў тым абразку святкавання куцці напярэдадні Новага года, які створаны ў шчадроўцы, запісанай у наш час на Старадарожчыне:

Добры вечар таму, хто ў етым даму,
Добры вечар добрым людзям!
А ў етым даму сам пан гаспадар,
Шчодры вечар добрым людзям!
Сам пан гаспадар да й на покуце,
Шчодры вечар добрым людзям!
Да й на покуце ўвесь у золаце,
Шчодры вечар добрым людзям!
Ой, каля яго да й жана яго,
Шчодры вечар добрым людзям!
Ой, каля яе дзетачкі яе,
Шчодры вечар добрым людзям! [21]

У калядках і шчадроўках старажытнага пласта выява чалавека і ўсяго, што яго акружае, а перад усім працы, паслядоўна носіць характар ідэалізацыі і паэтызацыі. Толькі невялікая колькасць калядна-шчадроўскіх песень, адрасаваных гаспадару, набліжаны да рэалістычнага адлюстравання жыцця, асвятляюць быт сялянскай сям'і сродкамі рэалістычнай паэтыкі. У іх адчуваецца імкненне прыўзняць быт, намаляваць праявы яго паводле законаў хараства. Але дасягаецца гэта ўжо не на міфалагічнай светапоглядной аснове, не спосабам паказу ідэальнага, а прасветленасцю агульнай думкі твора, гумарыстычным аспектам погляду на з'яву, адлюстраваную ў песні. Шчадроўка, апублікаваная П. Шэйнам, можа ў пэўнай меры быць таму сведчаннем. У ёй няма часавай умоўнасці, уласцівай некаторым каляндарным песням. Спосаб узнаўлення ў слове абставін працы селяніна і яго сям'і зімовай парой адпавядае заканамернасцям паслядоўна рэалістычнага адлюстравання. У творы ёсць добрая бытавая дэталізацыя, якая стала фактам паэзіі:

А ці дома, дома сам пан гаспадар?
Святы вечар!
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новым гумне жыцечка вее.
Ой, хадзем да яго, узвесялім яго:
Ці не дасць ён нам недавеечкаў,
Недавеечкаў на гарэлачку,
На гарэлачку, на кватэрачку.
Ой, ці дома, дома да яго жана?

---

[21] АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 94, сш. 2, с. 23. Зап. А. Ляшкевіч і І. Мурашка ў 1975 г. у в. Прусы Старадарожскага р.

Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новай свяцёнцы белы кужаль чэша.
Ой, хадзем да яе, узвесялім яе:
Ці ж не дасць жа нам недачосачкаў,
Недачосачкаў на гарэлачку,
На гарэлачку, на кватэрачку.
А ці дома, дома да яго дачка?
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новай клеці белы хусты качае.
Ой, хадзем да яе, узвесялім яе:
Ці не дасць яна нам па хусціначцы...[22]

У калядных песнях, адрасаваных гаспадыні, высокая ступень мастацкага абагульнення. Гаспадыня дому ўзвялічваецца перш за ўсё за светлы розум. Разумная, абачлівая жонка закупляе тры гарады: адзін — з мужыкамі, другі — з панічамі, трэці — з казакамі (калядка «У пана Лявона разумная жана»). І гэты ўчынак у песні асэнсоўваецца перш-наперш як спосаб сцвердзіць шырокі падыход жанчыны да жыцця, уменне бачыць свет далей за парогам дому. «А з мужыкамі — поле пахаці, а з панічамі — суды судзіці, а з казакамі — вайну чыніці»,— абагульняе, рэзюміруе калядка, сцвярджаючы жыццёвую дасведчанасць жанчыны-гаспадыні, яе нявузкі кругагляд. Калядна-шчадроўскія песні, звернутыя да гаспадыні, усхваляюць здольнасць жанчыны да працы неардынарнай, мастацкай. Імі тыпізуецца такі від жаночай працы, як шыццё і вышыванне. Як жывы — вось азначэнне мастацкай меры, пашыранае ў народзе, крытэрый сапраўднасці мастацкай выявы. Уласна, гэта адзін з прынцыпаў народнай эстэтыкі. Шчадроўка «А чалом, чалом пад акеначкам» дэманструе гэты прынцып, гэты крытэрый наглядна, у цэлым і дэталях. Уся яна — увасабленне мастацкай меры, пачуцця прыгожага, этычнага.

Калядна-шчадроўскія песні, звернутыя да гаспадаровай дачкі, паненкі, тыпізавалі ў асноўным тры рысы дзявочага характару, знешняга выгляду дзяўчыны. У песнях усхваляецца хараство і пачуццё годнасці, яе працавітасць. Услаўленне вызначаецца тактам, псіхалагічнай дакладнасцю, паэтычнай вытанчанасцю: гутарка ж ідзе пра паненку рэдкаснай красы, і калядна-шчадравальны гурт праяўляе рыцарскія адносіны да яе. Непасрэднасць адказу дзяўчыны на захапленне паноў толькі ўзмацняе псіхалагічны і мастацкі эфект уражання:

Ой, у лузе, ў лузе красна каліна,
Святы вечар! Красна каліна.
А красней таго Ганна ў таткі.

[22] Шейн П. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 58.

Маладая Ганначка па двару хадзіла,
Па двару хадзіла, увесь двор красіла.
У сенечкі ўвайшла — сені заззялі,
У хатачку ўвайшла — паны стаялі,
Паны стаялі, шапкі здымалі,
Шапкі здымалі, яе пыталі:
— Ці ты царэўна, ці каралеўна?
— Я не царэўна, не каралеўна,
Я Йванава дачка Ганначка.[23]

Разглядаючы сюжэты калядак і шчадровак, адрасаваных дзяўчыне, нельга не заўважыць, што яны, усе разам узятыя, складаюць нейкую цэласнасць. У іх павольна ад песні да песні развіваецца адна галоўная тэма — тэма будучага замужжа, будучага лёсу дзяўчыны. Яна ўзнікае не адразу. Спачатку проста паэтызуецца дзявочае хараство, як бы безадносна да галоўнага лейтматыву, скразной тэмы. Затым песня паказвае дзяўчыну за працай, у паэтычнай выяве якой ужо закладзена думка аб падрыхтоўцы яе да будучага замужжа:

Ля варот, варот высокі цяром,
Святы вечар добрым людзям!
А ў тым цераме дзевачка сядзіць,
Дзевачка сядзіць, кужалёк прадзець
Свайму татухну на сарочачку,
Сваёй матухне на намётачкі,
Сабе, маладзе, на падарачкі.[24]

Абрадавая песня, а ў дадзеным выпадку мы маем даволі архаічны ўзор яе, умее нязмушана падкрэсліць працавітасць чалавека, якога яна паэтызуе, і ў адначассі тонка адзначыць суладдзе сям'і: апошняе як абрадавая этычная ўстаноўка. Маладая пралля прадзе кужаль у першую чаргу бацьку на сарочку, маці на намётачкі (даўнейшы беларускі галаўны ўбор), а ўжо потым сабе — на вясельныя падарачкі.

Непасрэдна эмацыяльна падрыхтоўвае дзяўчыну да думкі аб скорым вяселлі вобразны змест калядкі «Там за садамі трава-мурава». Сюжэт яе мае міфалагічныя вытокі — павер'е аб чарадзейным дрэве. Калядоўшчыкі наказваюць паненцы словамі песні пазбіраць залатыя росы і купіць сабе тры надоб'і: «першае надоб'е — медзяны кубак, другое надоб'е — срэбна талерка, трэцяя надоб'е — залаты персцень». Кожны з названых прадметаў ужытку — атрыбуты вяселля: «медзяны кубак —

[23] Радченко З. Сборник малорусских и белорусских народных песен Гомельского уезда. СПб., 1881. Вып. 1. С. 15—16.

[24] ААН СССР, ф. 104, вып. 1, спр. 533, л. 7. Зап. Г. Пузанаў у 1890 г. у в. Шумарава Мглінскага п.

к запіваннейку, срэбна талерка — к дараваннечку, залаты персцень — то к вянчаннечку»[25].

Сюжэт калядкі «дзяўчына засыпае, пільнуючы вінаград, бацька будзіць яе і кажа пра трох сватоў, што наведаліся адразу ў іх хату», трэба думаць, даволі старадаўні. Пра гэта можна меркаваць і па ўмоўнасці некаторых частак сюжэта, і па разгортванні яго ў стылі чарадзейных казак, і, нарэшце, па аб'екце, ад якога пачынае развівацца дзеянне,— саду-вінаграду, пільнаванага дзяўчынай. Пэўныя міфалагічныя ўяўленні стаяць і за зыходным вобразам — гарой, якая журыцца. Нечаканая метафара тут — як бы прамая адзнака эпічнага мыслення. І ў гэтым старажытным сюжэце, дзе многія прадметы замкнуты ў вобразнай сімволіцы, па асаблівай манеры выказу пачуцця адразу адчуваецца, што думка твора скіравана да дзяўчыны. Менавіта як бы сам аб'ект паэтызацыі напаўняе, арганізуе паэтычную істоту верша дзявочай пяшчотнасцю, сардэчнасцю, душэўнай узвышанасцю:

Зажурылася крутая гара,
Святы вечар!
Што не ўрадзіла шоўкава трава,
Да зарадзіла зялёна віно.
А з таго віна сцежка топтана.
Хто яе таптаў? — Панна Надзюхна.
Яна таптала ды й прызаснула.
Прыйшоў да яе бацэнька яе:
— Устань, Надзюхна, устань, дочачка.
Прыйшло да цябе трое сватоў:
Адны сваты, што за рэкамі,
Другія сваты, што за вароцямі,
А трэція, што ў хаце сядзяць.
Што ў хаце сядзяць — то Надзюхну аддаць,
Што за рэкамі — то так адпраўляць,
А за вароцямі — падаркі аддаць.[26]

У адрозненне ад калядна-шчадроўскіх песень, адрасаваных дзяўчыне, якія дзеля таго, каб узвялічыць яе, паэтычна перасэнсавалі розныя з'явы бытавой сферы, калядкі і шчадроўкі хлапцоўскія маюць крыху іншыя жыццёвыя вытокі. Яны таксама ў асноўным абапіраюцца на працоўна-бытавую аснову, але ў многіх выпадках выходзяць за яе межы, бяруць матэрыялы з вайсковага быту. У іх гучыць гераічны пачатак. І гэта арганічна самой ідэі ўзвелічэння хлопца. Калядкі ўслаўлялі ў маладым хлопцу, дзецюку тыя рысы, якасці, якія вылучалі, павін-

[25] Шырма Р. Беларускія народныя песні. Т. 3. С. 267.

[26] Зімовыя песні. С. 246. Зап. М. Гваздзёў у 1961 г. у в. Тонеж Лельчыцкага р.

ны былі вылучаць такую ўзроставую катэгорыю чалавека сярод іншых. У хлопцу было натуральна бачыць удаласць, што перш за ўсё і паэтызуюць калядкі і шчадроўкі, адрасаваныя панічу. Спадарожнікам хлопца часта выступае конь. Якраз праз вобраз каня найчасцей і паэтызуецца нейкая рыса хлопца, узвелічаецца ён сам. Сюжэты «хлопец ловіць і сядлае нелавушчага каня», «конь «напамінае» гаспадару, як выручаў яго ў чужой старане», «конь абяцае малойцу хораша прыслужыцца ў час жаніцьбы», «хлопец шкадуе не ўсё затанутае стада, а аднаго каня, воранца» і іншыя займалі прыкметнае месца ў рэпертуары калядоўшчыкаў і шчадравальнікаў часу іх святочнага слаўлення моладзі. Хлопец паэтызаваўся праз нейкую адну дэталь вайсковага быту. Часам тым, што яго знешні выгляд, партрэт падаваўся на фоне вайсковага лагера, стана:

У полі пад шатром Стасюнька з канём,
На вараном кане, на залатом сядле...[27]

У іншай песні праз абразок вайны, зрокава метафарычны, ускосна сцвярджалася, паэтызавалася мужнасць, вытрымасць хлопца, гаспадара каня: «Як былі мы ў чужой зямлі, за намі стрэлы, як гром, грымелі, за намі кулі поле аралі»[28]. Праўда, у абрадавай паэзіі вобраз бойкі, вайны нярэдка меў алегарычны, пераносны сэнс: гутарка часцей ішла пра жаніцьбу, патрэбу заваяваць нявесту.

Побач са старажытнай алегорыяй «вайна — здабыванне нявесты», якая генетычна ўзыходзіць да родавага грамадства, калядкі і шчадроўкі карыстаюцца метафарычнай вобразнай формай «вяселле — паляванне». Разгортваюць яе ў шырокае эпічнае палатно паводле законаў эпічнага жанру. Стварэнне такой карціны ў свядомасці абрадавых спевакоў было спосабам узвысіць услаўленага, спрыяць у яго намеры на жаніцьбу, заснаванне ўласнай сям'і. Што да куны ў дзераве, на якую ладзяцца ловы, то яна сімвалічны вобраз добрай, жаданай дзяўчыны. Вобраз куны ў вясельнай паэзіі — адначасова адна з ніцей, што звязваюць каляндарна-гадавыя песні з сямейна-абрадавымі.

Ой, рана-парану да куры запелі,
Святы вечар! Да куры запелі.
Раней таго Васілька ўстаў,
Васілька ўстаў, тры свячы ссукаў,
Тры свячы ссукаў да ўсе папаліў.
Да адну спаліў абуваючыся,
А другую спаліў умываючыся,

---

[27] Moszyński K. Poliesie Wschodnie. Warszawa, 1928. S. 313.
[28] Шейн П. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 85.

Трэцюю спаліў — браткоў пабудзіў:
— Уставайце, браткі, да хадзем на аблаву,
Да хадзем на аблаву да ў зялёну дубраву.
Вам, браточкі, куна ў дзераве,
А мне ж, маладому, дзеўка ў цераме.[29]

Матыў палону нявесты развіваецца ў шчадроўцы «А збегла, збегла з поля старожа». Перададзеную малойцу звестку аб тым, што яго «паненку ў палон забралі туркі з татарамі, з баярамі», хлопец сустракае мужна, рашучым адказам:

А я тых баяр мечам парубаю,
А я тых турак канём патанчу,
Я сваю паненку за сябе вазьму.[30]

Нягледзячы на тое што ў песні ідзе раскрыццё гераічнага характару малойца праз асабістае, зноў праз тэму вяселля, гістарычныя рэмінісцэнцыі аб барацьбе славянскіх народаў супроць татарска-турэцкай экспансіі тут відавочныя.

Патрэба ўсхвалення, паэтызацыі хлопца-малойца прымушала стваральнікаў калядак і шчадровак выбіраць адпаведны жыццёвы матэрыял, які дазваляў бы маляваць вобразы нязвычныя, развіваць вострыя сюжэтныя сітуацыі. У адпаведнасці з задачай ствараць характар узвышаны, здольны на гераічнае, подзвіг калядна-шчадроўскія песні, адрасаваныя моладзі, хлопцу, і звяртаюцца перш за ўсё да вайсковага быту. У рэдкіх выпадках — каб падкрэсліць розум, здольнасці маладога чалавека да грамадскай працы. Зімовыя песні паэтычна пераасэнсоўваюць асобныя аспекты грамадскага быту. Пры гэтым грамадскага быту сярэдневякоўя, як, напрыклад, у шчадроўцы з Гомельшчыны:

Ой, бегла, бегла старожа з поля,
Святы вечар!
Да й ударыла пікай у вароты:
— Ці дома, дома малады Пятрок?
— Ой, няма дома, дзесць у караля
Суды судзіць, перасудкі бярэць
На тры гарады, як сам малады.[31]

Вельмі рэдка калядкі і шчадроўкі, адрасаваныя хлопцу, будуюцца на матэрыяле, які непасрэдна ўвасабляе клопат земляроба пра ніву. Аграрныя матывы застаюцца прывілеяй,

[29] АГТ, р. 20, воп. 1, клц. 8, л. 155. Зап. А. М. Шымаоўскі ў 90-х гадах XIX ст. на Міншчыне.
[30] Романов Е. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 113. Зап. у с. Хонава Быхаўскага п.
[31] Романов Е. Белорусский сборник. Киев, 1886. Вып. 1—2. С. 447.

атрыбутам гаспадарскіх калядных песень. А калі яны як выключэнне пашыраюцца на калядна-шчадроўскае ўзвелічэнне нежанатага хлопца, то ў творы прысутнічае і вобраз самога гаспадара, бацькі, які як бы перадае сыну разам з клопатам і свой вопыт працы на полі. Адна са шчадровак сучаснага запісу дае малюнак ворыва хлопцам папару, працы на лядзе, круглым полі, між лесу:

А ў ляску, ў ляску круглае поле,
Святы вечар!
Ой, там Васілька паранінку гарэ.
Прыйшоў да яго бацэнька яго:
— Ой, гары, сынку, усю паранінку,
Будзем сеяці жыта-пшаніцу,
Жыта-пшаніцу, усяку пашніцу.
Будзем жаці, жанцоў наймаці,
Будзем вязаці вялікі снапы,
Будзем стаўляці частыя копы. [32]

Такім чынам, калядкі і шчадроўкі маюць дуалістычную функцыянальную прыроду. З аднаго боку, выкананне іх у хаце земляроба мела на мэце спрыяць гаспадарцы, плёну на ніве, плоднасці статка, здароўю, шчасцю ў хаце, і гэта асабліва добра выявілася ў калядна-шчадроўскіх песнях, адрасаваных гаспадару і гаспадыні. З другога боку, творчасць гэта насіла вітальна-віншавальны характар і акрамя імкнення да ўсякага спрыяння чалавеку працы мела на мэце ўзвялічыць яго, апаэтызаваць працоўную і сямейную руплівасць земляроба, яго розум, пачцівы характар, хараство, душэўнасць, удаласць моладзі, дачок і сыноў.

Вобразы калядак і шчадровак, характар будовы іх сюжэта носяць на сабе адбітак старадаўніх міфалагічных уяўленняў, але адначасова маюць пад сабой рэальны грунт землеробчай практыкі і ў масе сваёй ідуць ад яе. Вобразы, бытавая абстаноўка, у якой яны дзейнічаюць, у высокай ступені ідэалізаваны і паэтызаваны. Для мастацкай прыроды калядных песень характэрны рысы архаічнай паэтыкі. У сістэме вобразаў зімовай паэзіі прыкметнае месца займаюць касмічныя вобразы, якія экстрапаліруюцца на вобраз чалавека. Пры выяве плёну на ніве, прыплоду статка выкарыстоўваецца гіпербала. Калядкі і шчадроўкі вылучаюць характэрныя ім прыпевы «Каляда» і «Шчодры вечар, святы вечар». Прыпеў арыентуе і ва ўнутрыжанравым падзеле: слова «Каляда» падкрэслівае прыналежнасць песні да калядак, каляднага свята. Словы «Шчодры вечар, святы вечар» арыентуюць на багатую куццю-Шчодру,

[32] Зімовыя песні. С. 353. Зап. З. Мажэйка ў 1968 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р.

пераднавагодні вечар, а ў жанравым плане сведчаць аб прыналежнасці да шчадровак. Наогул жа прыпеў не толькі жанравая адзнака песень, якая нясе стылёвую функцыю. Рэфрэн-прыпеў «Шчодры вечар добрым людзям» мае і сэнсавую нагрузку, сказаў бы, узмацняе агульную гуманістычную скіраванасць зімовай паэзіі, гістарычна закліканай спрыяць чалавеку ў яго працы, помыслах, штодзённым жыцці.

Багатую паэтычную творчасць пакінулі калядныя, так званыя «святыя», або «крывыя», паводле народнай тэрміналогіі, вечары. Гульні, танцы, ігрышчы, якімі яны суправаджаліся, мелі разнастайнае песеннае суправаджэнне. Вызначальнай жанравай рысай гэтай паэзіі быў гумар. Уключала яна абрадавыя задачы і элементы. Але яны як бы адыходзілі на задні план. Адчуваецца, што ў ёй усё саступала месца пачуццю радасці з прычыны надыходу свята, жаданню зрынуць з сябе будзённы клопат і акунуцца ў вір маладой весялосці, пражыць карагод дзён узнёслых, шчаслівых. Гэткае перажыванне з усёй непасрэднасцю пачуцця выражана ў калядных песнях «Ах, Калядачкі, нашы нежачкі», «А Калядачкі, вы барджэй, барджэй», «А Калядачкі, ■ хадзіце к нам», «Дай, божа, нам Каляд даждаць», «А калядныя бліны ладныя» і інш.

А Калядачкі, вы барджэй, барджэй,
Ой, рана, рана, вы барджэй, барджэй,
Нам Піліпаўка надакучыла,
Нам жамерачкі зубкі праелі,
Ой, рана, рана, зубкі праелі,
Мы ж вас, Калядкі, шанаваць будзем,
Ой, рана, рана, шанаваць будзем,
Па вячорачках святкаваць будзем,
Ой, рана, рана, святкаваць будзем:
То на йгрышчайка, то з ігрышчайка,
Ой, рана, рана, то з·ігрышчайка. [33]

У старажытнасці Каляда мела аграрна-магічны сэнс. Міфолагі былі схільны лічыць яе за язычніцкае боства [34]. З паэзіі Каляда ў народным уяўленні прадстае як увасабленне зімовага свята. Вобраз Каляды, якім ён паўстае з калядак і шчадровак, сінтэзаваны. У рысах яго праглядваюць касмічныя і прыродна-метэаралагічныя элементы. Але перш за ўсё гэта мастацкае абагульненне — паэтычны вобраз:

---

[33] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 15.

[34] Погляд П. Шафарыка на язычніцка-боскую сутнасць Каляды аспрэчваўся ўжо ў 60-я гады XIX ст. (гл.: Микуцкий С. Коляда // Вилен. вестн. 1860. № 37).

Прыехала Каляда на белым кані.
Яе конічак — ясен месячык,
Яе дужачка — ясна зорачка,
Яе пужачка — ясна звёздачка,
Яе вазочак — з тоўстага лядку,
Яе кажушок — з белага сняжку.[35]

Магчыма, не памыляліся дарэвалюцыйныя міфолагі і іх сучасныя паслядоўнікі ў адным, а менавіта ў тым, што з Калядамі ў народзе звязваліся пэўныя касмаганічныя ўяўленні. Спасылка ж іх на калядку, у якой гаворыцца аб наладжванні калінавых мастоў для прыходу гэтага жаданага свята, не падмацоўваецца іншымі песеннымі сюжэтамі. Не з занябесных сфер з'яўляецца Каляда і ў прыведзенай намі песні. Паэтычнае ўвасабленне Каляд тут асацыіруецца са звычайным зямным шляхам, дарогай, якой ездзілі збіральнікі калядны. Гэта персаніфікаваны вобраз Каляд, можа самой Зімы, аналагічны персаніфікаванаму вобразу Вясны ў каляндарна-абрадавых песнях веснавога цыкла. Акрамя таго што Каляда ў песнях выступае своеасаблівай вяшчунняй свята, яна ж і нейкая ўдзельніца яго. У песні паведамляецца пра тое, што Каляда «прыехала ўвечары, прывезла дудак рэшата, паставіла дудкі на стаўпе, а сама села на куце»[36]. Па тым, якое месца адводзіцца Калядзе — на куце, покуці, адчуваюцца паважныя абрадавыя адносіны да яе. Яна выступае апякункай, своеасаблівай распарадзіцельніцай каляднага гуляння моладзі: пад прывезеныя ёю дудкі (музыку) і пастаўленыя на стаўпе (месца віднае і шанаванае) ідзе гулянне хлопцаў і дзяўчат. Каляда адначасна і падавальніца святочных дароў. Яна прыносіць з сабою «рэшата бліноў, берасцень мёду»[37]: сакавітыя бытавыя дэталі з пункту погляду паэзіі. Каляда з народных песень выступае ў шэрагу вобразаў, якія выклікаюць радасныя асацыяцыі. Зварот да яе набыў розныя выяўленчыя формы. «Каляда, да ты Калядзіца» побач з пашыраным абрадавым прыпевам «Каляда» паўтараецца за кожным радком у паасобных песнях, дзе абрадавае прызначэнне, прынамсі, зараз не ўгадваецца. Да Каляды звяртаюцца з удзячнасцю за тое, што яна «гулянне дала», пры гэтым зноў падкрэсліваецца нейкае цэнтральнае, шанаванае месца, на якое ставіцца Каляда ў час святочных урачыстасцей:

Да я Каляду да на кут павяду,
Ой, рана, рана, да на кут павяду;

---

[35] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 13.
[36] Сербаў І. Аб беларускай народнай песні // Гоман. 1918. № 83.
[37] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 13.

Да мне Каляда да гулянне дала,
Ой, рана, рана, да гулянне дала;
Да я Калядзе кісялю навару,
Што мне Каляда да гулянне дала,
Ой, рана, рана да гулянне дала;
Да я Калядзе да куцці натаўку,
Што мне Каляда да гулянне дала... [38]

Каляда ў песнях «крывых» вечароў — вобраз цэнтральны. На яго аснове створана многа сюжэтаў не толькі з паважным, на абрадава-рытуальным узроўні, зместам, але і жартоўна-насмешлівым, у карагодна-карнавальнай форме. Яна ўзначальвае ўяўны карнавальны ці сапраўдны абход двароў, які здзяйсняецца ці імітуецца дзеля таго, каб пад выглядам паведамлення добрых навін часам падсмяяць таго або іншага гаспадара. Песні такога роду даюць вельмі яскравае паэтычнае ўяўленне пра агульную святочную атмасферу Каляд, той душэўны ўздым, што панаваў на свяце. На агульным малюнку свята, створаным у песні, вельмі рэльефна, у паэтычным асвятленні паўстаюць рэаліі быту, абраднасці:

Пайшла Каляда калядуючы,
Каляда, да ты Калядзіца, *
За ёю хлопцы жабруючы.
Зайшла Каляда да пана Якіма:
— Чым у пана Якіма вароты завешаны?
— То стужкамі, то паяскамі —
Званке звоняць, сватэ едуць,
Аддай дачку, хоць ядыначку!
Пайшла Каляда калядуючы,
А за ёю хлопцы жабруючы.
Зайшла Каляда да пана Уласа:
— Чым у пана Уласа вароты завешаны?
— Каўбас лыка, пірагоў у века.

Або:

— Лапцямі, лапцямі, усё анучамі.
Пайшла Каляда калядуючы,
За ёю хлопцы жабруючы.
Зайшла Каляда ў Янкавы вароты,
А ў пана Янкі ды куццю таўкуць,
Куццю таўкуць, кісель вараць,
Кісель вараць, дзеці плачуць... [39]

Калядныя вечары з усіх гадавых свят вылучаліся найбольшай тэатралізацыяй. На гэта звярталі ўвагу даследчыкі народ-

[38] ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 79. Зап. Я. і А. Логіны ў 1914 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

[39] ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 49.

ных вытокаў прафесійнага сцэнічнага мастацтва[40]. З усіх сцэнак, абразкоў, што дэманстраваліся на Каляды, з пункту погляду развіцця каляндарнай паэзіі найбольшую цікавасць мае звычай ваджэння «казы» ўвечары напярэдадні Новага года. Аднаго з хлапцоў апраналі ў вывернуты кажух, на твар надзявалі маску казы. Другі хлопец, апрануты дзедам, выконваў ролю важатага. У суправаджэнні музыкі — дудара або скрыпача — абходзілі двары. «Каза» па запатрабаванні павадыра спявала гаспадару і гаспадыні песню, якая мела магічна-аграрны сэнс. Гэты апошні з асаблівай выразнасцю праступаў у словах:

...Дзе казёл ходзіць,
Там жыта родзіць.
Й дзе казёл ляжыць,
Там жыта стаіць.
Дзе казёл хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе казёл нагой,
Там жыта капой,
Дзе казёл рогам,
Там жыта стогам.[41]

Паводле думкі вучоных, у песні «Го-го-го, каза» адбіліся старадаўнія міфалагічныя ўяўленні земляробчых народаў пра казла як духа нівы, падаўца ўрадлівасці. Акрамя яскравых перажыткаў старадаўняга працоўна-магічнага сузірання песня ў мностве варыянтаў дэманструе шырокую імправізацыйную аснову і высокі артыстызм народных выканаўцаў. Вось яе ўступ у запісе І. Сербава, зроблены на пачатку стагоддзя на Бабруйшчыне:

Мы табе, суседзе,
Казла прапяём.
Го-го-го, казёл,
Го-го, шэранькі.
Мікі-кі, казёл,
Мі-кі, шэранькі!
Стань, расхадзіся,
Развесяліся
Па ўсяму двару,
Па баярскаму,
Па баярскаму,
Гаспадарскаму,
Прыступ блізенька,
Уклонься ніzенька
Гаспадарочку,
Гаспадынечцы...[42]

---

[40] Каладзінскі М. Народны тэатр. Мн., 1983. С. 16.
[41] Сербаў І. Аб беларускай народнай песні // Гоман. 1918. № 85.
[42] Там жа.

Трэба думаць, што шырока разгорнуты сюжэт — плён далейшага развіцця песні, вынік яе жанравай абрадава-пастановачнай функцыі. Ядро ж складалі словы, радкі заклінальна-абрадавага зместу. Таму тыя імправізаваныя матывы, дзе гаворыцца аб нападзе на казу ваўкоў або стральцоў, што далі падставу да шырокіх трактовак міфолагаў, не ўяўляюцца нам важнейшымі [43]. Паэтычны аспект песні яшчэ лішні раз звяртае нашу ўвагу на тое, як дасканала ў ёй з пункту гледжання мастацтва слова, псіхалогіі жэста выражана традыцыйная просьба абрадавых спевакоў аб узнагародзе. Звяртаючыся да гаспадыні, калянднікі ў такт танца «казы» прыгаворвалі:

...Запаль скепачку,
Пайдзі ў клетачку,
Зірні-ка ў бачок,
Йдзе стаіць жачок.
Ой, вазьмі мачку
Поўну місачку...
Нашаму казлу
Нямножка трэба:
Сем печ перапеч,
Гладыш малака,
Што б былі яго
Поўныя бака.
Пуц, казёл, ляжы,
Па салу тужы...
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,
Кулідку хлеба —
Усё казлу трэба,
Мерачку жытца
Казлу для сыцця. [44]

Прадметна-вобразная лексіка з мясцовым моўным каларытам («*скепачка*», «*кулідка* хлеба»), актыўная мужчынская рыфмоўка («мачку — місачку», «жытца — сыцця»), жвавая танцавальная рытміка радка — усё сведчыць аб высокай меры мастацкасці старадаўняга каляднага твора. Вялікі імправізацыйны пачатак мела калядная гульня «Цярэшка», у якой праглядваў абрадава-сямейны сэнс. Кароценькія песні, што суправаджалі гульню, насычаны гумарам, вызначаліся дасціпнасцю. Адметная іх рыса — ушанаванне звароту «дзядуля», «бабулечка» ў адпаведнасці з ролямі ў гульні. З прычыны таго што гульня «Цярэшка» і песенны суправад яе «цярэшкі»

---

[43] Киркор А. Следы язычества в празднествах, обрядах и песнях // Живописная Россия. Т. 3. С. 252.

[44] Сербаў І. Аб беларускай народнай песні // Гоман. 1918. № 85.

разглядаліся тэатразнаўцамі ў кантэксце праблемы паходжання тэатра, абмяжуемся адным упамінаннем гэтай гульнівідовішча ў ліку іншых з'яў каляднага рэпертуару моладзі. Здаецца, больш апраўданым будзе спыніцца на іншых паэтычных імправізацыях калядных вечароў, якія яшчэ не атрымалі навуковага асвятлення, не былі прадметам увагі знаўцаў народнай паэзіі. Толькі фрагментарна друкавалася калядная песня выразна тэатралізаванага характару «У канцы сяла стаіць вярба». Выконвалася яна, відавочна, у карагодзе.

У канцы сяла да стаіць вярба,
Каляда, да ты Калядзіца!
Да на той вярбе да дзіка каза.
Прыйшоў да яе да сівы ваўчок:
— Да злезь, козка, да патанцуйма,
Да патанцуйма, да пажартуйма!
— Да не палезу, бо цябе баюся:
Калі ў цябе, воўча, вялікія вочы.
— Я ў караля быў, усю ноч сяціў,
Усю ноч сяціў, вочы павялічыў...[45]

Твор увесь пабудаваны ў форме дыялога паміж ваўком і дзікай казой. На сваё запрашэнне казе злезці з дрэва і патанцаваць з ім воўк атрымлівае паслядоўны адказ і ў дадатак пытанні, чаму ў яго вялікія вочы, вялікія лапы, вялікая галава, вялікі хвост. Адказы ваўка дазволілі творцам песні намаляваць вельмі каларытныя абразкі яго занятку: вялікія лапы, маўляў, ад таго, што «на вяселлі быў — каравай пляскаў, каравай пляскаў — лапы парасляскаў», вялікая галава ад таго, што «ў караля быў, усё суды судзіў, усё суды судзіў — галаву наклапаціў», а вялікі хвост ад таго, што зноў жа «ў караля быў, пакоі замятаў, пакоі замятаў, хвост размахаў». Такім чынам, усё зроблена, паводле законаў хараства, дасціпна, вобразна, зграбна ў кампазіцыйных адносінах.

Класічны ўзор зімовага карагода і апублікаваная Н. Гілевічам песня «Ляцеў каршунішча, Каляда». Яна, падобна валачобнай песні, адрасаванай сыну гаспадара, мае разгорнуты паралелізм: хлопец, які выбірае дзяўчыну ў карагодзе, псіхалагічна, у паэтычна-стылявым плане суадносіцца з каршуном, што ляціць над птаствам цераз папялішча [46].

Для рэпертуару калядных ігрышчаў характэрна і пашыраная ў іншых каляндарных перыядах, цыклах песенная пікіроўка двух гуртоў моладзі. У адрозненне ад юраўскіх і асабліва купальскіх песень такога роду твораў калядная паэзія ведае

---

[45] ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 49 адв.

[46] Гілевіч Н. Песні сямі вёсак. Мн., 1973. С. 31.

няшмат. Прыкладам і ў пэўным сэнсе ўзорам падобных калядак можа быць запісаная фалькларыстамі братамі Логінымі на Навагрудчыне песня «А дзе была, Каляда?» У ёй цераз вобраз Каляды супрацьпастаўляюцца дзяўчаты адной вёскі дзяўчатам другой: па тым, якіх адносін да сябе яны заслугоўваюць у госці — апякункі Каляд, Каляды [47]. Прыкладам персанальнага высмейвання каляднай песняй заган асобных прадстаўнікоў моладзі можа быць песня «Перагараджу да тынком рэчку», дзе адна пара моладзі цераз вобразны паралелізм супрацьпастаўляецца другой паводле паралелі са свету жывёл і птушак — барана, авечкі і лебедзя, лябёдкі. Паралелізм, яго сімволіка настолькі красамоўныя, што выключаюць нейкую дадатковую характарыстыку маладых людзей.

Каляды, зімовы цыкл песень заключалі творы, у якіх гучаў адкрыты жаль па хуткаплыннасці часу, шкадаванне прамільгнулых святочных дзён, просьба да Каляды вярнуцца: «Ой, Калядачкі, вярніцеся, на нас, дзевачак, азірніцеся. Мы ж вас, Калядкі, дажыдаць будзем, мы вас, Калядкі, шанаваць будзем. Каб вас, Калядак, нядзель дзесятак. А што ранейка — то сняданнейка, што вячэранька — пагуляннейка» [48].

Такім чынам, песні калядных вечароў і асобна ігрышчаў складалі прыкметную групу твораў у цыкле зімовай каляндарнай паэзіі. Эстэтычны ўзровень іх высокі. Рэгіёнам актыўнага бытавання калядак і шчадровак была паўднёвая Беларусь, землі колішніх дрыгавічоў. Вядомы запісы калядак і на поўначы, але тут яны, выключаючы Верхняе Падзвінне (Сенненшчыну, Веліжчыну), падлеглі моцнаму ўплыву дамінантнай у гэтым рэгіёне валачобнай традыцыі.

Наступным за Калядамі значным святам у народным земляробчым календары быў Маслены, або Сырны, тыдзень. Масленіца (Масленка) была калісь веснавой урачыстасцю, святам праводзін зімы [49]. Святкаванне яе суправаджалася земляробчымі абрадамі, гульнямі і песнямі. На Віцебшчыне вечары Масленічнага тыдня, як і калядныя, называліся святымі [50]. Яшчэ акадэмік Карскі зазначыў, што Масленіца ў Беларусі святкавалася больш сціпла, чым у Расіі, і лакалізавалася ўсходнімі раёнамі [51]. Думка яго падтрымлівалася нейкі час

---

[47] ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 49 адв.

[48] Там жа, ф. 23, воп. 1, спр. 472, л. 22.

[49] Грынблат М. Каляндарна-абрадавая паэзія // Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць. Мн., 1967. С. 70.

[50] Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Ч. 1. С. 60.

[51] Карский Е. Ф. Белорусы. М., 1916. Т. 3. Вып. 1. С. 138.

савецкімі беларускімі фалькларыстамі. Аднак, як сведчаць экспедыцыі апошніх гадоў, гэта не зусім так. Масленка святкавалася на ўсходзе і захадзе Беларусі і пакінула па сабе немалую песенную спадчыну. Значны лік запісаў масленічных песень даў цэнтральны беларускі рэгіён. На захадзе рэспублікі масленічныя песні вядомы як запусныя і зафіксаваны таксама ў сучасным бытаванні.

**Масленічныя** песні ўвабралі ў свой змест вобразную фактуру мастацкага пераўтварэння рэалій быту, масленічных абрадаў, старажытных уяўленняў, у іх выражаных. Яны даволі шырока адлюстравалі характар свята: звычай катацца на конях, ужываць абрадавыя стравы — бліны, масла, сыр. Масленічныя песні мажорныя па гучанні. У іх чуецца радасць, весялосць, гучаць жартоўныя матывы. Гэта абумоўлена функцыянальна. Масленіца святкавалася на адыходзе зімы, была ўрачыстымі яе праводзінамі і сустрэчай вясны. Невыпадкова ў масленічных песнях сустракаецца вобраз ластаўкі — сімвалічнай вяшчунні вясны:

У нас сягоння Масленіца,
Прыляцела к нам ластавіца...[52]

Старажытныя, аграрныя ў сваёй аснове ўяўленні пра змены ў прыродзе паэтычна пераасэнсаваны праз чалавека, чалавекам. Таму песні Масленіцы, як і іншыя каляндарныя песні, маюць суб'ектыўны пачатак. У іх вельмі непасрэдна чуваць перажыванні чалавека, звязаныя з пэўным каляндарным этапам у жыцці, жыццём наогул, сямейным і грамадскім. Перш за ўсё вельмі непасрэдна, сардэчна выражана радасць з прычыны надыходу свята, даецца ўяўленне аб яго характары:

Наша Масленіца гадавая,
Яна госцейка дарагая.
Яна пешаю к нам не ходзіць —
Усё на коніках раз'язджае.
Штоб конікі былі вараныя,
Штоб слугі былі маладыя.[53]

Нават у Масленіцы позняга запісу відаць усё тая ж абрадавая ідэалізацыя, генетычна звязаная з уяўленнем аб спрыянні поспеху цераз магію слова. Тут не так рэзка кідаецца ў вочы працоўна-магічны аспект, як у старажытных калядках, валачобных. Але відаць тая самая тэндэнцыя: калі коні, то толькі

---

[52] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 56.
[53] Шейн П. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 116.

вараңыя, калі слугі, тыя, хто імі кіруе, дык толькі маладыя. Вобраз самога свята, асабліва настрой удзельнікаў святкавання, дакладна ўзнаўляе ў паэтычным слове адна з найбольш тыповых масленак, аналаг якой вядомы і ў рускім фальклоры. Розныя варыянты яе далёка не адыходзяць адзін ад другога:

Мы на горушцы пабывалі, пабывалі,
Ай, люлі, пабывалі!
Масленку сустракалі, сустракалі,
Ай, люлі, сустракалі!
Сырам гару набівалі, набівалі,
Маслам гару палівалі, палівалі...[54]

На паўночнай Міншчыне быў звычай на Масленіцу гуртам жанок і дзяўчат наведвацца да маладухі, якая першы год была замужам. У масленічных песнях, звернутых да маладой замужніцы, развівалася тэма сямейнага жыцця. Вар'іраваўся матыў «муж не пускае жонку на (масленічнае) гулянне», у песнях выказвалася пажаданне маладусе «радзіць дачку паненку». Пашыраная ў фальклоры тэма адносін нявесткі і свекрыві пакінула ў масленічнай групе песень твор, адзначаны тонкаіранічным бачаннем праблемы ўнутрысямейнага жыцця, некаторых яго супярэчнасцей:

На гары бабы сядзелі,
Кулакамі зямлю прабілі,—
Аб нявестках судзілі.
Адна нявестка шэльма была:
Запаліла свечку, у клець пайшла.
А ў тэй клеці свет дабра:
Арэхава чашка масла была,
Камарова сцягно мяса было,
Саломена дудка мёду была,
Ды шост ануч вісела,
I усё гэта згарэла,
Каб нявестка згалела.[55]

У масленічных песнях, як і ў калядках, моладзь звяртаецца да Масленіцы, яе жывога ўвасаблення з просьбай не спяшацца адыходзіць, працягнуцца як мага далей, да наступнага радаснага свята вясны: «Масленая шчаслівая! Працягніся да Вялікадня»[56]. Запусныя песні, што бытавалі на захадзе беларускага этнічнага рэгіёна, таксама характарызаваліся гумарыс-

[54] Романов Е. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 140.

[55] АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 229а, сш. 1, л. 132. Зап. А. Ліс у 1981 г. у в. Нача Крупскага р.

[56] Шейн П. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 121. Зап. С. Рачынская ў Гомельскім п.

тычна-жартаўлівымі матывамі, але ў іх, здаецца, не было столькі гуллівай гарэзнасці, як ва ўласна масленічных песнях. Жанравых адзнак не выяўлялі яны ў паэтыцы, выключаючы хіба што толькі рытміку, дзе значыліся характэрным паўторам апошніх слоў ці цэлых выразаў — прыкметай твораў бяседнай жартоўнай тэматыкі, карагоднай формай выканання — з падтанцоўваннем, раскачваннем.

Запусныя песні, паводле сцвярджэння З. Я. Мажэйкі, якая даследавала музычную прыроду каляндарнага фальклору, у народзе часцей адносяцца да зімовых. Такім чынам, масленічна-запусныя песні стаяць на мяжы зімовага і веснавога цыклаў, як у змесце, так і форме выяўляюць гэта сваё ўзмежкавае становішча ў сістэме каляндарнай паэзіі.

Уласна **в е с н а в ы** цыкл пачыналі абрадавыя песні **«гукання вясны»**, або **вяснянкі**, паводле народнай тэрміналогіі. «Клікаць вясну» распачыналі, як паказваліся праталіны, з 1 сакавіка, паўсямесна — з Дабравешчання [57]. Гукалі вясну з узвышаных месцаў: пагоркаў, гуменных стрэх, стромых берагоў ракі ці возера. Пры гэтым на адкрытых месцах раскладалі агні, палілі розную старызну — ачышчалі зямлю. На Гомельшчыне існаваў звычай пускаць на плыце па рэчцы запаленае калясо. Песні, спяваныя на ўзвышаным месцы, над ракой, чутны вельмі далёка. Імі часам перагукваліся групы моладзі з розных месц. Для выканання вяснянак характэрна загукванне ў канцы радкоў, што, думаецца, было абумоўлена функцыянальнай абрадавай роллю гэтых песень. У вяснянках выразна дамінавалі аграрна-земляробчыя матывы, якія з'яўляліся вядучымі і ва ўсёй тэматыцы веснавога цыкла. Пачыналі «вясну клікаць» кароткімі заклінальна-абрадавага характару песенькамі, у якіх гучала просьба да старых людзей або бога дазволу, блаславення «на ўзгарачку сесці, вясну загукаці, лецечка адмыкаці, зіму замыкаці» [58]. У гэтых песнях рэльефна праступае абрадна-магічная аснова, або поклад, кажучы народным словам. Матыў замыкання зімы і адмыкання лета завяршаецца просьбай-заклёнам:

Благаславі, божа, зіму замыкаці,
Зіму замыкаці, вясну загукаці.
Дай, божа, на жытачка род,
Дай, божа, на жытачка род,
На статачак плод,
Людзям на здароўе. [59]

---

[57] Романов Е. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 142.

[58] Добровольский В. Смоленский этнографический сборник. М., 1903. Ч. 4. С. 99. Зап. у Магілёўскай губ.

[59] Шейн П. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 126. Зап. у в. Сады Горацкага п.

У варыянце гэтай песні пазнейшага запісу распрацоўваецца і іншая тэма, але шырока бытуе адзін толькі аграрны матыў, застаючыся ў рамках працоўна-магічнай формулы: «Благаславі, божа, вясну красну пецi на ціхае лета, на буйнае жыта: каб наша жыта ў трубы павілося, у трубы павілося, набок схілілося...»[60]

Паэтычнае ўяўленне народа звязвала адмыканне таемнасці зямлі, яе жыватворных сіл з залатымі ключамі, якія можа вынесці з-за мора ластаўка ці пчолачка ярая. Што да ластаўкі ці жаваранка, да якога звярталіся ў веснавых песнях, то тут нельга не бачыць прамога пераасэнсавання сувязі надыходу вясны з вяртаннем пералётных птушак з выраю. Народнае ўяўленне бачыла ў гэтых з'явах узаемазалежнасць і характар такой дэтэрмінацыі тлумачыла па-свойму, сродкамі паэтычнай выявы. Класічны ўзор беларускай вяснянкі запісаў чэшскі славіст, этнолаг Людвіг Куба:

Ты, пчолачка ярая,
Ды вылець за мора,
Ой, ляло, ляло,
Ты вылець за мора.

Ты вынесі ключыкі,
Ключыкі залатыя,
Адамкні лецечка,
Лета цёплае,
Замкні зіманьку,
Зіму сцюдзёную.[61]

У вяснянках часта паўтараецца зварот да вясны. У адных выпадках ён насіў абрадавы, заклінальны характар. «Прыйдзі, прыйдзі, вясна, прыйдзі, прыйдзі красна; прынясі нам збожжа»,— прасіла, заклінала песняю грамада. У іншых зварот — толькі спосаб выказацца, сродак арганізацыі паэтычнай думкі. Звяртаючыся да вясны, спявачкі пералічалі тыя даброты, якія яна несла, якіх ад яе чакалі людзі. Сярод прынесеных вясною дароў як самыя фундаментальныя называюцца «шоўкава трава на вясну, буйнае жыта на лета» або «тры карысці ў радасці» — бортнічкам, аратым, пастушкам. Пры пераліку веснавых выгад-даброт у песні ствараецца яскравы малюнак веснавой працы, занятасці ўсіх узроставых груп сялянства. Паводле слоў песні, вясна красна прыносіць «бел малойцам па коніку, маладым мужчынам па сошаньцы, старым бабам па прызбачцы, маладым малодкам па бердзечку, красным дзеўкам па вяночку, малым дзецям па яечку, старым дзядам па кіёчку». Такім

[60] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 68.
[61] Kuba L. Cesty za slovanskou pisni, 1885—1933. Praha, 1933. S. 245.

чынам, вобразна, паэтычна акрэсліваецца ўзроставае размеркаванне працы вясною: ворыва, тканне красён, вывад на начлег коней, забавы дзяцей і ўцеха старым — размова на прызбе пад ласкавым сонейкам. У пазнейшых варыянтах песні «Вясна красна, што прынясла?» матыў веснавых выгад-даброт пераасэнсоўваецца ў сацыяльным аспекце, гучыць як сумная іронія:

Вясна красна, што прынясла?
— Бясхлебіцу, бяссоліцу, адну свірэпіцу.[62]

Часам з той жа прадметнай вобразнасцю, але яшчэ больш малюнкава, сацыяльна пераканаўча: дзе рэалістычна паказаны стан сялянскай гаспадаркі ў веснавую пару, калі хлеба хапала да Каляд, бульбы да Вялікадня. Вітаючы вясну, спевакі веснавых песень выказвалі ёй адначасна і наракание за тое, што

З пунькі сянцо вынесла, вынесла,
З току салому вытрасла, вытрасла,
З клеці зярно вымела, вымела...[63]

Сярод вяснянак пашыраны матыў сустрэчы зімы з летам. Ён арганічна выліваецца ў дыялог дзвюх пор года, якія выступаюць антыподамі. Рэй вядзе ў дыялогу лета, яго ўвасабленне. Песня магла мець карагодную форму выканання: так выразна абазначаны ў ёй ролі, драматургічны элемент, адчуваецца спецыфічны рух у рытміцы.

— Ой, чалом, чалом, да цёплае лецейка!
— Ой, здарова была, да халодная зімачка!
— Што цябе, лецейка, узвелічаюць,
Мяне, зімачку, праклінаюць?
— Бо ты, зімачка, халодная,
Лугі, балоты памарозіла.
Ой, я, лецечка, да вясёлае,
Лугі, горы ізмачыла,
Лугі, горы ўзвесяліла.[64]

У песні відаць нейкі шырэйшы погляд на веснавую прыроду, уменне акінуць вокам адразу цэлую панараму роднай зямлі з яе балотамі, лугамі, гарамі, узвяселенымі дыханнем цяпла, прыходам цёплай пары года. Матыў сустрэчы зімы і лета дазваляе выявіць і нейкі чалавечы аспект дачынення да кругавароту часу якраз у якімсьці асабістым гуманістычным скіраванні.

---

[62] Веснавыя песні / Склад. Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей. Мн., 1979. С. 110.

[63] Чуркін М. Беларускія народныя песні і танцы. Мн., 1949. С. 96.

[64] Радченко З. Гомельские народные песни. СПб., 1888. С. 1

Зіма з летам сустракалася,
Пра здаровейка пыталася:
— Ой, здарова, здарова, ты, зімачка!
— Добрае здароўе, ты, лецечка!
Ты нашто ссушыў маю дзяціну?
— То не я ссушыў — вясна красна,
Ссушыла вясна да тонкія кросна.[65]

У адказе персаніфікаванай зімы лаканічна і тонка словамі песні перададзены сацыяльны аспект жыцця сялянскай дзяўчыны, якая ў мінулым была змушана бытам натуральнай гаспадаркі аддаваць зіму і вясну цяжкай ручной працы — прадзіву і тканню.

Трэба сказаць, што веснавыя песні ўдзяляюць нямала ўвагі выяве самога стану прыроды, бурнаму яе адраджэнню, звязанаму з вясной. Добра перадаюць, як адчувае вясну сам прыродны свет, як ён рэагуе на прыход яе. «Вол бушуе — вясну чуе, воран крача»,— жывы абразок прадвесня. Песні ўмеюць перадаць у скупых і дакладных вобразных формах бурны разліў веснавых рэк — паводку, паказаць, як «вясна-вясеначка развесяліла ўсе вулачкі-праталачкі». Выявіць вобраз прыродна-паравых змен у спакойна-сцішанай танальнасці: «Разліўся Дунайка, разліўся ціхенькі» і ў дынаміцы імклівага руху: «Рынулі рэкі, рынулі аж да Ганначкі пад сені». І гэтыя малюнкі, сцэнкі з жыцця веснавога абуджэння зямлі трапна перанесці на нейкія праявы жыцця чалавека, перакінуць масток ад іх да душэўнага стану дзяўчыны, кабеты-маці і дапамагчы перарасці ў прачулую размову між маткай і дачкой, у нязмушанае павучанне, у роздум пра жыццё:

Вясна красна, вясна красна наступае,
Вадой лугі, вадой лугі залівае,
Што не прайсці, што не прайсці, не праехаць,
Свайго роду, свайго роду не праведаць.
Ой, вясною, ой, вясною — за вадою,
А ў лецечку, а ў лецечку — за жнівамі,
А зімою, а зімою — за снягамі.
— Дзіця ж маё, дзіця ж маё маладое,
Ты вясною, ты вясною — на чаўночку,
Ты ў лецечку, ты ў лецечку — у нядзелечку,
А зімою, а зімою — ў палазочку
Такі ж роду, такі ж роду праведай.[66]

Тэматычны круг веснянак выявай аграрных і сямейных адносін не вычэрпваўся. Веснавая абнова зямлі, самой прыро-

---

[65] Радченко З. Гомельские народные песни. С. 1.

[66] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 70.

ды будзіла ў душы чалавека шырокую гаму перажыванняў, настройвала на інтымнае, лірычнае выказванне. Часта ў гэтым выказванні відаць непасрэдны ўзбуджальнік настрою — стан веснавой прыроды, яго інспірацыйны ўплыў на чалавека. У сваім душэўным прызнанні, паэтычным выказванні гераіня веснавой песні нярэдка вяртаецца да нечага важнага ў сялянскім жыцці. Яе радасныя, спароджаныя вясновымі даляглядамі жыцця перажыванні ўключаюць думку аб тым, каб расло «жыта каранiстае, каранiстае, лапушыстае»:

...Каб у трубы пакачалася,
Каб я, малада, нажалася
І снапочкаў нанасілася.[67]

Любоўныя матывы, што развіваліся ў межах веснавога цыкла, увабралі ў сваю выяўленчую форму мастацка пераўтвораныя прыкметы вясенняй прыроды. Дзеянне ў гэтых песнях адбываецца на «ўзвесялелых» далінах, над рэкамі, на вулачках-пражалачках, г. зн. толькі што вызваленых ад снегу. Любоўнае пачуццё, як правіла, выражана стрымана або ўскосна, часам у іншасказальнай форме (песні «Разліўся Дунаю», «Ой, вясна мая вясёлая», «Сярод Дунаю дзевачка сядзіць», «Зязюля кукуе, лецечка чуе»). Паколькі вясною, асабліва перад Сёмухай, адбываліся вяселлі (большасць іх прыпадала на восень), то вясельная, замужняя тэматыка невыпадкова сустракаецца ў песнях веснавога цыкла. Яна складае арганічны працяг веснавой лірыкі, твораў, у якіх адлюстраваліся веснавыя забавы, гульні моладзі на ўлонні адроджанай прыроды. Яны мала што дадаюць да спецыфікі веснавой абрадавай лірыкі ў змесце, паэтыцы. Хіба што нейкія дробныя штрыхі, якія падкрэсліваюць яе сувязь з веснавой прыродай і ў цэлым нейкую стабільнасць, гарманічнасць каляндарнай паэзіі, яе жыццёвых вытокаў. Веснавы цыкл каляндарна-абрадавай творчасці самы багаты ў жанравых адносінах, па ахопе жыццёвых з'яў, у цэлым па сацыяльна-этычным напаўненні.

Акрамя вяснянак у ім прадстаўлены такія стабільныя жанры, якія надаюць паэзіі беларускага земляробчага календара адметны характар, як валачобныя, юраўскія песні, песні веснавой талакі, нарэшце, сёмушныя, русальныя і куставыя. Багацце, жанравая разнастайнасць песень веснавога перыяду невыпадковыя. Яны абумоўлены шэрагам аб'ектыўных прычын.

---

[67] Чуркін М. Беларускія народныя песні і танцы. С. 95. Зап. у Дзісенскім п.

Перш-наперш тым, што вясна была асабліва важным этапам у жыцці прыроднага свету і ў жыцці чалавека, земляроба ў асаблівасці. Веснавыя работы ў полі з'яўляліся асновай, зарукай поспеху ўсяго гаспадарчага года. Веснавы сезон канцэнтраваў у сабе шмат гадавых свят і звязаных з імі абрадаў і звычаяў. Акрамя таго, меў месца і эмацыянальна-псіхалагічны фактар: адраджэнне прыроды, абнова зямлі давалі прастор і для душэўных сіл чалавека, грамады, стымулявалі да творчасці.

Найбольш паэтычны набытак веснавога цыкла — **валачобныя** песні. Яны выконваліся групамі спевакоў вечарам на першы дзень Вялікадня пад вокнамі хат. Мелі музычнае суправаджэнне: скрыпку, дуду, пазней гармонік. У той час як іх заспела навука (сярэдзіна XIX ст.), насілі вітальна-віншавальны характар. Валачобнымі песнямі віталі гаспадара, гаспадыню і іх дзяцей з вялікім святам вясны і ў паэтычнай форме, праз велічныя вобразы песень выказвалі сям'і пажаданні добрага здароўя, змірнасці, плёну на ніве, поспеху ў асабістым жыцці. Валачобнікаў сустракалі з павагай, як чаканых гасцей. Яны прыносілі сваімі песнямі радасць і добрыя спадзяванні на будучы ўраджай, на спрыяльнае гаспадарцы лета. Валачобнікі выступалі вестунамі пачатку палявых работ. Яны скіроўвалі думку земляроба да важнага і радаснага клопату аб ніве. У старажытнасці яны мелі практычна гаспадарчы сэнс. Сваімі зычэннямі-пажаданнямі, выказанымі ў імператыўнай форме, былі закліка்ны спрыяць ураджаю на ніве, плоднасці статка, здароўю, шчасцю роду. Працоўна-магічная, прадуцыравальная функцыя іх як зыходная, асноўная ў мінулым добра праглядае ў паэтыцы больш архаічных форм валачобнага фальклору. Паэтычныя формы ранняга пласта валачобных песень прасякнуты міфалагічным уяўленнем, верай у магічную моц слова, здольнасць праз яго выклікаць падобнае. Адначасова валачобная паэзія як творчасць, цесна звязаная з працоўнай дзейнасцю чалавека, мае стыхійна-матэрыялістычную аснову і як такая з'явілася носьбітам аграрнага вопыту земляроба. Класічныя валачобныя песні сюжэта «святы ў двары гаспадара», або народны гаспадарчы каляндар, як ён увасоблены ў песні,— узор таго, як праз паэтычную форму ад пакалення да пакалення перадавалася земляробчая практыка, своеасаблівая аграномія народа. На гэта, між іншым, звярнуў увагу адзін з першых даследчыкаў беларускай народнай культуры Яўстафій Тышкевіч, які пісаў: «Калі б жывучы здалёк ад нашага краю толькі гэту адзіную песню аб ім пачуў, ці не было б дастаткова для ўяўлення аб асаблівасцях нашага

клімату і разумовага складу народа, які ў такой кароткай песні ўвасобіў цэлую навуку земляробства?»[68]

Навука земляробства, праца земляроба нідзе так шырока не паказаны ў беларускім фальклоры, як у валачобных песнях. Ды і сам вобраз земляроба нідзе, мабыць, не паўстае ў такой велічы і спакоі, у такіх выяўленча-гарманічных рысах, як у валачобнай паэзіі. Гуманістычная скіраванасць фальклору таксама з асаблівай сілай выяўляецца ў песнях валачобнікаў, у іх зычэннях. Валачобныя песні — гэта паэзія зямлі, паэзія працы ў іх высокім эстэтычным праяўленні. Гэта сапраўды мастацкі помнік земляробу, тысячам і тысячам сейбітаў і ратаяў. Валачобныя песні атрымалі сваю назву ад выканаўцаў іх, валачобнікаў, як найбольш пашыранага наймення носьбітаў валачобнага фальклору. Рэгіянальныя назвы іх і адпаведна валачобных песень: «кукольнікі» (на Случчыне), «ралешнікі» (на Слонімшчыне), «валоўнікі» (на Смаргоншчыне, Ашмяншчыне), «ральцавальшчыкі» (на Пружаншчыне), «лалоўнікі» (на ўсходняй Віленшчыне). Назвы «валачобнікі», «валачобныя песні» распаўсюджаны ў паўночнай і цэнтральнай Беларусі, а таксама ў Пасожжы і Падняпроўі, пашыраны таксама на Браншчыну, Смаленшчыну. Этымалогію слова «валачобны» даследчыкі (П. Бяссонаў, П. Шэйн, І. Насовіч) звязваюць са словам «валачыцца», маючы на ўвазе звычай валачобнікаў абходзіць хаты з песнямі, атрымліваць за гэта ўзнагароду — валачобнае[69].

Як і калядкі, валачобныя песні падзяляюцца, паводле адрасата, прысвячэння іх, на песні гаспадару, гаспадыні, паненцы — незамужняй дачцы і панічу — нежанатаму сыну, а таксама бабцы.

Па ахопе паэтычна пераўтвораных у слове жыццёвых з'яў, паводле выяўлення жанравай прыроды, першае месца сярод валачобных песень займаюць песні гаспадарскія. Праз зварот да гаспадара, гаспадыні валачобнікі выказвалі асноўныя думкі, якія развіваліся ў валачобнай паэзіі, рэалізаваўся паэтычна-вобразны комплекс яе. Песні, адрасаваныя гаспадару, найпаўней увасабляюць і паэтычную структуру валачобнага жанру, яго архітэктоніку. Аналагічна калядкам тыповая валачобная песня мае трохчасткавую кампазіцыю. Для мікраструктуры яе характэрны прыпеў, рэфрэн, які паслядоўна паўтараецца за кожным радком і адлюстроўвае як унутраны характар

[68] Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847. S. 392.

[69] Бессонов П. Белорусские песни. С. 20; Шейн П. Белорусские народные песни. СПб., 1874. С. 75, 79, 80; Носович И. Словарь белорусского наречия. СПб., 1870. С. 65.

будовы страфы, так і манеру выканання, калі за пачынальнікам (салістам) кожны пункт падхопліваў хор. Уступная частка валачобных песень у параўнанні з уступам калядак больш складаная. Гэта даволі шырокая экспазіцыя, якая ўключае і выяву паходу валачобнікаў, і іх характарыстыку, і шырэйшае, чым у калядках, апісанне гаспадарскага двара. У валачобных песнях асобая ўвага аддадзена тапаграфіі гаспадарскага двара, выгоднаму месцу яго размяшчэння «на пагурачку», «на крутым беражку». Асабліва шырока малюецца выгляд двара, паказ таго «цуда», якое на ім адбываецца.

Тыповы сюжэт валачобнай гаспадарскай песні — праява «цуда» на двары, у гумне (клуні), грыдні гаспадара. Але ёсць больш ранні, больш архаічны тып валачобнага сюжэта. «Ядранае жыта гаспадара кліча» — сюжэт, пашыраны ў разлеглым рэгіёне, які акрамя Магілёўшчыны ўключае Сярэдняе Падняпроўе і Пасожжа, і вядомы ў публікацыях П. Бяссонава, П. Шэйна, А. Дамбавецкага, У. Дабравольскага, у архіўных запісах. «Размова» жыта з гаспадаром выражаецца ў раннеэпічных формах асваення свету:

...У нядзельку паранюсенька
Узышло сонца весялюсенька,
Узышло яно, абутрала,
Асвяціла лугі, бары,
Лугі, бары, чыстае поле,
Чыстае поле, жыта ядраное.
Во што ў полі рана пагукаіць?
Во ці лебедзі, во ці сокалы?
Во не лебедзі, во не сокалы —
Ядраное жыта гаспадара кліча.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, пан Аркадзі,
Пасеяў жыта, у полі не быў,
У полі не быў, не адведаваў.
Не адведаваў у корані,
Адведай хоць у коласе:
А ў корані каранісценька,
А ў коласе каласісценька.[70]

Адушаўлёны вобраз жыта, які намі ўспрымаецца як мастацкі прыём, выяўленчы сродак, на анімістычным узроўні светаўспрымання мысліўся арганічна, натуральна, прымаўся за нешта зусім рэальнае. Таму натуральна было яму перадаць турботу самога земляроба: што яшчэ магло быць для яго больш пераканаўчым, чым голас самой нівы. Паколькі абрадавая паэзія амаль заўсёды мела ўстаноўку на замацаванне нейкіх працоўных, маральна-этычных норм, перадачу вопыту, паву-

---

[70] Бессонов П. Белорусские песни. С. 5.

чанне, то зусім зразумелыя і радкі валачобнай песні, якія заклікалі земляроба адведаць жытняе поле «ва ўсыпанні» (у перадзім'і), «у красаванні, у палаванні» (пры даспяванні) [71]. Песня кіравалася земляробчай практыкай, паэтычна перадавала яе вопыт, грунтуючыся на міфалагічным сузіранні свету, паводле якога выказанае ў слове магічна магло, павінна было стаць рэальнасцю. У зыходным пункце — ідэалізацыя і паэтызацыя не дзеля хараства, усхвалення, а дзеля набліжэння жаданага да рэальнага ў жыцці, дзеля самога жыцця. А ў канчатковым выніку дзеля ўзвышэння чалавека, дзеля яго дабра. Вось яшчэ фрагмент з разгляданага сюжэта валачобнай песні. Жыта папракае гаспадара:

...Як засеяў пан ды не атвядаіць,
Не атвядаіць, не даведаіцца.
Не магу стаяць да й на корані,
Не магу дзяржаць буйна коласа.
А ў коласе, як у золаці,
А ў зярняткі, як у серабры.
Вецярок веіць, каласок віхнець,
Каласок віхнець — зярнятка ўпадзець,
Ета нашаму пану убыташна,
Убыташна, ніпажыташна.[72]

Характэрны валачобны сюжэт «гаспадар выпраўляецца на агледзіны нівы». У песні выкарыстоўваецца міфалагічны матыў сустрэчы з патронам земляробства Юр'ем, які раней за самога гаспадара агледзеў яго жыта. Асаблівая ўвага ўдзелена зборам і выправе земляроба. Выява збораў выканана ў эпічных выяўленчых формах, у аснове якіх ляжыць міфалагічнае мысленне. Асобныя варыянты сюжэта дэманструюць паслядоўную закончанасць эпічнасці малюнка: нават жыта ў іх схіляецца ў паклоне гаспадару. Валачобнікі застаюць гаспадара-земляроба ў зборах, ён

...У новай каморы прыбіраецца:
Надзяе парткі замшовыя,
Апранае сукні саятовыя,
Абувае боты казловыя,
Завязвае хустку шаўковую,
Надзяе шапку сабалёвую.
Яго служкі каня выводзяць,
Выводзяць каня варанога,
Кладуць сядло залатое.
Паехаў пан жыта глядзець,

---

[71] Шейн П. Белорусские народные песни. С. 100.

[72] ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 533, л. 4. Зап. Р. Пузанаў у 1890 г. у в., Шумарава Мглінскага п.

А спаткаўся з святым Юр'ем.
— Павярніся ж, пане гаспадару,
Я тваё жыта сам агледзеў.
Харошае жыта, каласістае,
К адной мяжы прыклянула,
К другой мяжы нахілілася,
Пану гаспадару пакланілася.[73]

Як і ў большасці гаспадарскіх валачобных песень, тут кладзецца акцэнт на ўрадлівасць, плоднасць нівы. Да гэтага быў скіраваны абрадавы сэнс валачобнай песні, яе выкананне ў доме гаспадара на Вялікдзень, у пярэдадзень вялікіх палявых работ. Поўны расклад іх, выпісаны скрупулёзна, мазаічна-вобразна, дае сюжэт валачобнай песні, у аснове якога — праява на гаспадарскім двары. Праява — гэта сцэна збору, «шахавання-рахавання» персаніфікаваных аграрных свят дзеля высвятлення, «катораму ўперад стаці» або, як яшчэ даходлівей гаворыцца ў песні, «куды каторы на работку». У вобразнай структуры песні выкарыстана хрысціянская міфалогія. Кожнае свята мела свайго патрона, і ў песні яны выступаюць як дзейныя асобы. Але святы з беларускай песні зусім не падобныя на сваіх біблейскіх прататыпаў. Усе юр'і, пётры, міколы, іллі, аўдакіі, ізборы, барысы, змітры — гэта ратаі, сейбіты, жнеі, якія на сялянскай ніве паводзяць сябе зусім так, як самі земляробы. Разглядаючы народны светапогляд на падставе валачобнай паэзіі, вядомы крытык і філосаф Уладзімір Самойла яшчэ ў 20-я гады пісаў: «...Звычаёвая рэлігія беларускага працавітага селяніна вольная не толькі ад лішняй містыкі і надмернага спірытуалізму, але і ад уласцівага рэлігійнаму светапогляду піетызму і страху божага»[74]. Міфалагічныя вобразы валачобных песень паэтычна пераўтвораны ў святле стыхійна-матэрыялістычнага светаўспрымання. Яны рэальныя сваім зямным хлебаробскім клопатам, сялянскай руплівасцю ў працы. Кожнае земляробчае свята ідзе сваёй чаргой, нясе свой клопат: «Святое Ражство наперад пайшло, а потым таго Новы й гадочак, Новы гадочак павёў радочак...»[75] Веснавыя святы, звязаныя з пэўнымі этапамі жыцця прыроды, самі — пэўныя вехі земляробчых работ, яны давалі шырэйшую магчымасць паэтызацыі, разгортвання абразкоў прыроды суадносна з працай, паказу працы селяніна:

---

[73] Tyszkiewicz K. Wilija i jei Brzegi. Drezno, 1871. S. 328. Зап. у Барысаўскім п.

[74] Sulima. Wiesenno-Wielkonocne obrzędy ludu białoruskiego // Kurjer Wileński. 1929. N 75.

[75] Валачобныя песні. Мн., 1980. С. 112.

...А патом таго святы Ізбор,
Святы Ізбор — пагнала снег з гор,
Снягі зганяіць, воды пускаіць,
А патом таго святы Аўдакей,
Святы Аўдакей сохі скіпаець,
А патом таго святы Аляксей
Лемяшы істрыць і сохі путрыць,
Благавешчанне заворываець
Вараным канём, залатой сахой...[76]

З Благавешчаннем у народнай свядомасці звязана ўяўленне аб абуджэнні зямных сіл. Валачобная песня выказвае гэту ісціну па-свойму, гледзячы праз прызму галоўнага клопату земляроба — пра жыта: «Благавешчанне *жыта рушыць*, зямлю сушыць». Практычны аграрна-гаспадарчы аспект свят ва ўсіх валачобных песнях сюжэта «праява ў двары гаспадара» выступае паслядоўна. Аднак у залежнасці ад творчай індывідуальнасці выканаўцаў і перад усім пачынальніка ён (гэты аспект) высвечваўся больш ці менш поўна, ёміста ў паэтычным плане. У адным з класічных узораў валачобнай песні Благавешчанне бачыцца як акрэсленая мяжа двух сезонаў. Паэтычнае азначэнне яго лаканічнае і дакладнае, з шырэйшым бачаннем, ахопам жыццёвых з'яў:

...Благавешчанне — араты на ніву,
Араты на ніву, сядун на прызбу.[77]

Кожнае свята і прысвятак — земляробу знак, напамін аб чарговай працы ў гаспадарцы. «Радаўніца — параднічка, *парадзіла* баранаваці, поле раўняці». У іншых варыянтах песні «Радаўніца сады садзіць». У Юр'я сталы занятак — адмыкаць зямлю, выпускаць расу «на ўсю вясну, і цёплую і мокрую». Пастаянны ў сваім хлебаробчым клопаце і святы Барыс з валачобных песень. Ён «ляды паліць, зямлю грэіць, ячмень сеець...» «Святы Мікола яр засяваець, белы гарох і пшаніцу, усю сяўбіцу». І яшчэ «па полі ходзіць, жыта глядзіць». «Дзе вымакла, там падсушыць, дзе высахла, там падмочыць». Святая Сёмка з валачобных песень — клапатарка аб апошняй, позняй сяўбе: «Позна сяўба — грэчку сеець, на вуліцы стучыць, гручыць, гнайкі возіць, папар арэць». Так у вобразе персаніфікаваных свят увасабляецца земляробская руплівасць селяніна, адначасова святы, паэтызаваныя ў песні, даюць яму ўзор гэтай руплівасці. З асаблівa пільнай увагай у песні прасочваюцца этапы развіцця асноўнай хлебнай культу-

---

[76] Валачобныя песні. С. 112.

[77] Шейн П. Белорусские народные песни. С. 86—92. Зап. У. Усакоўскі ў 1869 г. у в. Загор'е Дзісенскага п.

ры, якой было ў Беларусі жыта. Паводле народнай аграноміі, жыта высыпала (выплываў колас), красавалася, спела — усё па два тыдні [78]. Валачобная песня адзначае гэтыя этапы крыху па-свойму, паводле свят і прысвяткаў, адводзячы на кожны вегетатыўны перыяд дзесяцідзёнку:

Дзевятушка — памяжаначка
Па межах хадзіла, жытцо абзірала,
Жытцо абзірала да й раўнавала.
Дзесятуха красу давала,
А пяцінка красу здымала,
Красу здымала, пятку стаўляла.
Святы Іван коску правіць,
Лугі пратаць, ў сцірты кідаць.
Святы Пятро — саўсім ядро.[79]

Красаванне жыта, зараджэнне зярняці — пятка, затым ядро — у песні асоба пестуюцца гэтыя вехі росту жыта, апоры і надзеі земляроба ў яго працы, жыцці. Няма магчымасці ў рамках нарысавага артыкула агледзець увесь ход аграрных свят, як яны паказаны ў валачобнай песні. Пры ўсёй лаканічнасці іх выявы (ёсць, праўда, і выключэнні, дзе вобразы разгорнуты ў цэлыя абразкі) яны вызначаюцца жыццёвай дакладнасцю, адпаведнасцю аграрных рэалій і эмацыянальным ладам. Валачобная песня рэалістычна адлюстроўвае саму рэальнасць, працу земляроба, яе характар і адначасова паэтызуе яе, узвышае ў вачах самога селяніна. Гаспадарская валачобная песня — красамоўны ўзор таго, як арганічна спалучаў народ у сваёй творчасці практычныя веды, здабытыя за тысячагоддзі, і ўменне іх паэтычна, па-мастакоўску пераасэнсаваць, перадаць у эмацыянальна-вобразнай форме.

Валачобная гаспадарская песня, як правіла, заканчвалася канцоўкай, якая несла ў сабе паважную сэнсавую, абрадавую нагрузку. У ёй выказваліся пажаданні-зычэнні валачобнікаў земляробу і яго сям'і. Уласна, канцэнтравалася мэта, дзеля чаго і выконвалася абрадавая песня. Канцоўка складалася з дзвюх частак. Першай, галоўнай, якая практычна была абрадавай формулай, заклёнам на спор жыта — на плённасць. З гадамі яна склалася ў надзвычай сэнсава канцэнтраваную, вобразную формулу, дзе само слова дасягае незвычайнай семантычнай прадуктыўнасці:

---

[78] АІМЭФ, ф. 8, воп. 84, спр. 228а, л. 1. Зап. А. Ліс у в. Першамайск Салігорскага р.

[79] Шейн П. Белорусские народные песни. С. 86—92.

...Дай жа, божа, пану гаспадару
Жыці-быці, жыта вазіці,
Жыта вазіці, ў торпы зглажыці.
У торпах укладна, на таку ўмалотна,
На таку ўмалотна, у арудзе прысыпна;
У арудзе прысыпна, у печы прысушна,
У печы прысушна, у млыне прымольна;
У млыне прымольна, у дзяжы падходна,
У дзяжы падходна, у печы румяна;
У печы румяна, на стале сытна,
На стале сытна, у сям'і змірна.[80]

Такім чынам, зычэнне валачобнікаў, выражанае ў магічнай формуле, ахоплівала ўсе этапы вытворчасці хлеба, пачынаючы ад вывазу збажыны з нівы, абмалоту ў гумне, захавання ў свірне да памолу і выпечкі. На ўсіх этапах заклінаўся спор, памнажэнне хлеба і ў канчатковым выніку пры дастатку жадалася змірнасць — згода сям'і, што арганічна вянчала зычэнне спору ў хату.

Другую частку канцоўкі валачобнай гаспадарскай песні складала просьба ўзнагароды за песню. Гэта была самая імправізацыйная частка песні, часта прасякнутая гумарам, а то і нязлоснай іроніяй. У ёй, як і ва ўступе, чутна пачцівасць да гаспадароў, пашана да чалавека працы, якой у цэлым прасякнута валачобная паэзія. На заканчэнне валачобнікі пыталіся ў гаспадара, ці ўслых яму іх «песенька старасвецкая велікодная, валачобная». Напаміналі пра тое, што яны «госцікі недакучныя: не часта ходзім, нямнога просім — у гадочак адзін разочак». Нарэшце, з досціпам вылічалі тыя дары, якіх заслужылі песняй, хаджэннем па веснавой гразкай дарозе з адзінай мэтай — «дом звесяліць», пра здароўе гаспадароў спытацца ды пажадаць сям'і ўсяго памыснага праз праспяваную песню.

Валачобныя песні, адрасаваныя гаспадыні, услаўлялі жанчыну як разумную распарадзіцельку ў хаце, дарадчыцу мужа, як клапатлівую жонку і маці. Працоўную і чалавечую годнасць сталай жанчыны, гаспадыні ўзвышаюць, апаэтызоўваюць сюжэты «гаспадыня зачэрпвае з чароўных калодзезяў вядро золата і вядро серабра», «краўцы шыюць гаспадыні багатую шубу», «гаспадыня супакойвае гаспадара, каб не журыўся з-за разбуранага бураю двара», «гаспадыня — спараджальніца трох сыноў — бортнічка, конюха і пашнічка». У песнях усхваляецца прыродны практычны розум сялянскай жанчыны, яе разважлівасць, уменне не разгубіцца перад ударамі лёсу. Услаўляецца жанчына-маці, якая дае жыццё, мацярынскі па-

[80] Романов Е. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 175.

чатак як аснова ўсяго існага на зямлі. Такім чынам, вобраз гаспадыні ў валачобных песнях — вобраз мастацка самастойны, хоць у цэлым дапаўняе вобраз галавы сям'і, гаспадара.

Вобразы моладзі, незамужняй дачкі, сына, у валачобнай паэзіі маюць некалькі іншыя жыццёвыя і эстэтычныя асновы пры аднолькавым функцыянальным прызначэнні саміх песень. Ёсць падставы думаць, што яны ўзніклі пазней. У іх сюжэтах менш міфалагічных элементаў. Але асобныя з іх нясуць на сабе адзнакі архаічнасці. Перш за ўсё ў форме, сродках выявы. Трэба сказаць, што валачобная паэзія ў цэлым даволі вынаходлівая ў плане мастацкай арганізацыі жыццёвага матэрыялу, разнастайнасці сюжэтаў. Гэта асабліва датычыць песень, адрасаваных моладзі. Кожная з груп тут налічвае багата матываў, спорае кола сюжэтаў.

Пры стварэнні вобраза гаспадара-земляроба валачобная паэзія акцэнтавала ўвагу на ніве, гаспадарнасці, руплівасці, дбайнасці аб дастатку ў хаце як аснове жыцця ўсёй сям'і, яе здароўя, працаздольнасці. Валачобныя песні, адрасаваныя моладзі, у адпаведнасці з мэтавай устаноўкай узвялічыць дзяўчыну, хлопца, вылучыць іх асобу з масы засяроджваліся на іншых рысах. Песні, звернутыя да паненкі (дзяўчыны), услаўлялі яе знешнюю прывабнасць, душэўнае хараство, цэльнасць натуры, мілую дзявоцкасць. У тэматычным плане, і ў гэтым адчувалася функцыянальная прадвызначанасць, валачобныя песні дзяўчыне ў розных варыянтах і сюжэтных мадыфікацыях распрацоўвалі ідэю замужжа. І гэта было жыццёва арганічна: што яшчэ мацней хвалявала маладую дзяўчыну, чым яе будучы лёс. Віншуючы дзяўчыну, напамінаючы ёй аб перспектыве выхаду замуж (а ў мінулым з думкай выкананнем абрадавай песні наблізіць гэту перспектыву), валачобнікі ў сваіх творах выкарыстоўвалі розныя сюжэтныя хады. У вобразнай сістэме песень звярталіся да сімволікі. Найчасцей развівалі такія сюжэтныя сітуацыі. Дзяўчына збірае залатую расу, атрэсеную заморскімі пташкамі з чарадзейнага дрэва, адносіць да трох кавалёў (злотнічкаў) з просьбай зрабіць ёй тры надобкі: залаты кубак, залаты персцень і залаты вянец — сімвалы будучага яе вяселля. Слічная паненка, белячы бель на сінім Дунаі або мыючы на рацэ кубкі, раняе залаты персцень. Тром рыбалоўцам, якіх просіць вылавіць невадам персцень, абяцае быць у адгодзе: за першага сама пайсці, за другога сястру аддаць, за трэцяга таварышку або даць кожнаму адпаведны падарунак. Дзяўчына марыць пра каханага гожага і знатнага, незалежнага становішчам, каралевіча, суддзю, такога, што з самім каралём гаворыць. Паненка клапоціцца пра багатыя дары сватам і рытуальныя ўборы на вяселле.

Даволі многа сюжэтаў «валачобнікі паведамляюць дзяўчыне, што да яе з далёкіх краёў едзе і скора будзе жаніх, слічны паніч». Радзей сустракаецца сюжэт «паненка выбірае сабе мілага». Распаўсюджаны сюжэт «дзяўчына з годнасцю адказвае на загаданыя ёй загадкі». Ёсць і іншыя сюжэты, меней пашыраныя, менш цэласныя, незакончаныя мастацка.

Зместам, усімі сродкамі паэтычнага выяўлення валачобная песня арыентавала маладую дзяўчыну на важную падзею ў яе жыцці. Як усякі абрадавы твор, прапаноўвала мадэль маральна-этычных норм, паводзін. Рабіла акцэнт на пэўных узорных дзявочых рысах, узвышала, паэтызавала годнасць, розум, працавітасць. Выконвалася гэта з пачуццём такту, веданнем псіхалогіі таго, да каго песня была звернута. Стваральнікам валачобнага фальклору, як і ўсёй народна-паэтычнай творчасці, пры яе утылітарнасці не бракавала пачуцця мастацкай меры. І гэта не ў апошнюю чаргу па той прычыне, што стваралася яна намаганнем калектыву, выяўлялася на густ безлічы безыменных мастакоў слова.

Валачобныя песні, адрасаваныя хлопцу, за выток сюжэтаў бралі жыццёвыя сітуацыі, адпаведныя полу, узросту аб'екта свайго ўзвелічэння, паэтызацыі. Калі ў валачобных дзяўчыне абыгрываліся бытавыя працоўныя сцэнкі: дзяўчына пры мыцці белі, хусця, пры бранні лёну, жніве ярыны, то валачобныя, звернутыя да хлопца, будавалі сюжэт на матэрыяле з жыцця маладога чалавека ў сям'і земляроба, яго гаспадарчага занятку, схільнасцей. Сюжэтная схема высноўвалася і са сферы не хатне-бытавой, а вайсковай, з быту паляўнічага. Адзін з тыповых сюжэтаў валачобных песень, адрасаваных малойцу, «куна (арол, змяя) просяцца ў бел малойца не страляць іх і абяцаюць за гэта адслужыцца ў вялікай прыгодзе». У адных выпадках — у час жаніцьбы хлопца пасланць усю сям'ю ў памочнікі: за свата, за кухарку, за чашнікаў. У іншых варыянтах арол дакляруе перавезці вясельны поезд «бел малойца» цераз мора, раку, перапуцейка:

Будзеш ты жаніціся,
Будзеш ты браць за рэкамі,
За рэкамі, за крутымі гарамі,
За крутымі гарамі, за шырокімі марамі.
Вазьмі ты панну Ганну,
Панну Ганну, каралеўску доч.
Будзець табе перапуцейка,
Перапуцейка — быстрая рэчка,
Не будзець табе ні пераходу, ні пераезду,
А я ж там цябе перамышлю,
Перамышлю і перапраўлю.



4. Зак. 84

Самога цябе — на шыенцы,
А жану тваю — на спіненцы,
А дружыну тваю — на хвосціку.
Слічны паніч, пан Васілюхна!..[81]

У варыянтах песні «Авёс зелен позна сеян» куна за дараванне малойцам-паляўнічым ёй жыцця абяцае яму тры радасці, у якіх выказаны народны погляд на падставы жыцця, яго сэнс у кантэксце лёсу маладога чалавека. Тры радасці, як іх падае народная песня, гэта «першая — маткі слухаць, другая — ажаніцца, трэцяя — каралю служыць»[82]. Першыя дзве радасці маюць маральна-этычны і жыццёва-бытавы характар, што да трэцяй, то з ёй звязана ўяўленне аб грамадскім абавязку чалавека (няхай сабе дзяржаву, радзіму тут у пэўным сэнсе сімвалізуе кароль), мяркуецца патрэба здольнасцей да вайсковай службы, якая лічылася ганаровай для мужчыны, была нейкім атрыбутам яго годнасці.

Сюжэт «малойчык піша лісты ў тры зямлі» развівае тэму жаніцьбы хлопца, асноўную тэму валачобных песень, адрасаваных да нежанатага сына гаспадара. Рэалізуецца тэма ў лаканічнай форме. Землі, у якія накіроўваюцца лісты ад бел малойчыка,— гэта шведская, турэцкая і валынская. А зварот у далёкія землі апраўданы мэтай:

...У турэцкую — па коніка,
У шведскую — па золата,
У валынскую — па валыначку.
На коніку паязджаць будзе,
А золатам шахаваць будзе,
А з валыначкай векаваць будзе![83]

Валачобнікі песняю жадалі хлопцу мець дарагога каня, жыць у дастатку і ажаніцца з прыгожай валыняначкай. У творы праглядваюць некаторыя гістарычныя рэаліі, апора на рэчаіснасць: сапраўды, у свой час у славянскіх землях як ездавы верхавы славіўся конь турэцкай пароды. Што датычыць упамінання Швецыі як краіны, дзе шмат золата, то, мабыць, перад намі мастацкае пераасэнсаванне тых гістарычных часоў, калі ўсходнія славяне таргавалі з гоцкім берагам, а пазней беларусы-ліцвіны вялі гандаль са Скандынавіяй і Нямеччынай. Песні сюжэта «малойчык ловіць нелавушчага каня» зноў жа распрацоўваюць тэму будучай жаніцьбы хлопца. Хлопец імярэк ловіць і сядлае каня, які нікому не даецца, і выпраўляецца на ім

[81] Шейн П. Белорусские народные песни. С. 109.
[82] АГТ, р. 4, воп. 1, клц. 13, л. 6. Зап. у 1840—1850 гг. у Валожыне.
[83] Шырма Р. Беларускія народныя песні. Т. 3. С. 53.

у пошукі паненкі, нявесты. Конь, такім чынам, выступае памочнікам хлопцу ў пошуках, заваяванні будучай жонкі.

Сустраканы ў калядках і асабліва пашыраны сярод валачобных сюжэт «малойчык асаджае горад і здабывае сабе нявесту». У беларускіх валачобных гэта Ноўгарад, Альбоў (Львоў), Аршава (Варшава). Некаторыя фалькларысты схільны бачыць у дадзеным сюжэце адлюстраванне канкрэтных гістарычных падзей, у прыватнасці факта ўзяцця Царграда[84]. З прычыны таго, што сюжэт моцна распаўсюджаны ў шырокім славянскім рэгіёне, уключаючы Польшчу і Чэхаславакію, можна дапусціць, што з'ява гэта тыпалагічнага характару. У раннім сярэдневякоўі як выкуп непрыяцелю горад, крэпасць маглі прапанаваць і грошы і тавары. Ды, зрэшты, у песні сцэна аблогі горада мае алегарычную форму. Вяселле, заваяванне нявесты ў фальклоры здаўна паказваліся як вайна. Магло быць гэта рэмінісцэнцыяй яшчэ больш ранніх часоў, звычаяў, калі нявесту ўмыкалі. Беларускі валачобны варыянт сюжэта (дарэчы, ёсць да дзесяці яго запісаў, зробленых такімі вядомымі фалькларыстамі, як Дз. Булгакоўскі, М. Федароўскі, Ю. Крачкоўскі, Н. Гілевіч) — дасканалы мастацкі твор. Ён будуецца па прынцыпе ратардацыі, ступеньчатага звужэння вобраза. Малады паніч, які падступае да горада, настаўіўшы залатыя стрэлкі, з пагрозай разбіць яго, пачаргова адхіляе прапанаваныя яму дары: варанога каня, паўмісак золата («сто чырвонзлот»), і толькі пасля таго, як «выйшлі да яго з паноў панове, сенатарове і далі яму сенатараўну», «вялеў служкам скланіціся, вялеў служкам сталы заслаці, вялеў служкам кубкі стаўляці, віном-мёдам наліваці, усіх гасцей частаваці»[85].

Сфера гаспадарчай працы земляроба ў валачобных, адрасаваных хлопцу, сыну гаспадара, закранаецца рэдка, практычна ў лічаных творах, якія да таго ж не маюць варыянтаў. Ніву, клопат аб ёй валачобная паэзія амаль цалкам аддала аднаму гаспадару як цэнтральнай постаці ў земляробстве.

Паэтыка валачобных песень ва ўсіх сваіх кампанентах даволі паслядоўна выяўляе прыроду эпічнага жанру. Дзеянне, асабліва ў гаспадарскіх песнях, як правіла, развіваецца павольна. Адпаведна разгортваецца і сюжэт. У ім запаволеная экспазіцыя і не адразу наступае кульмінацыя: ці гэта сустрэча гаспадара з нівай, ці знаёмства яго з «праявай» у двары, або разгортванне сцэны жніва і нябачанага ўраджаю. Самому гаспадару ў валачобных песнях, усім яго паводзінам нададзена паважнасць, рысы характару эпічнага героя. Без мітусні апра-

[84] Азбелев С. Н. Историзм былин и специфика фольклора. М., 1982. С. 240.
[85] Federowski. Lud białoruski. T. 5. S. 291.

наецца ён у дарагія сукні, залатым сядлом сядлае варанога, «што найлепшага» каня і нетаропка выязджае на агледзіны нівы. Характар эпічнага героя мае і вобраз «бел малойца» з валачобных песень, асабліва ў кантэксце яго ваяўнічай аблогі горада, калі ён адхіляе згоду аж да таго часу, пакуль яму не акажуць сапраўдную пашану.

Валачобным песням характэрна і вельмі тыповая для эпічнага жанру паважная рытміка, грацыёзны строй радка, што дасягаецца паўторам падрадкоўя і паўтарэннем за кожным радком прыпеву, рэфрэна. Рэфрэн у валачобных песнях не толькі эмацыянальна ўзмацняе гучанне кожнага радка, але нясе сэнсавую нагрузку і ў пэўнай меры спрыяе мажорнай танальнасці твора. Ён — як выгук радасці: «Вясна красна на ўвесь свет!», «Вясна красна на дварэ!», «Вясна красна, дзень цёплы!», «Дзе зялён явар, кудравы!», «Да віно ж, віно зеляно!», «Да зялёны сад вішнёвы!», «Да лалым, лалым, гэй, лалым!» і інш. Невыпадкова некаторыя даследчыкі (Л. Салавей і інш.) лічаць, што ў свой час яны выконвалі ролю сігналаў надыходу вясны. Валачобнікі са сваімі песнямі пад вокнамі хат звесталі прыход вясны, цёплых дзён, адраджэнне прыроды ў вобразах самой вясны краснай, зялёнага явара, зялёнага вішнёвага саду і вінаграду (у сярэднія вякі зялёнае віно было тоесна паняццю «вінаград»)[86]. Ды і сама зеляніна, эпітэт *зялёны*, што выступаюць сталым кампанентам рэфрэна валачобных песень,— сімвал вясны, вясновай абновы зямлі.

Вельмі характэрны для валачобных песень вобраз жыта. Яно выступае адушаўлёным і прамаўляе да земляроба. Як і ў калядках, у валачобных ёсць гіпербалізаваныя вобразы ўраджаю, плёну на ніве. На гаспадарскім палетку жнуць жнейкі маладыя. Вобраз іх працы, яе вынік маюць генетычна магічную аснову. Разам з тым малюнак рэалістычны:

Што жнеечка — то жменечка,
Што жменечка — то снапочак,
Што снапочак — то копачка,
Што копачка — то й вазочак![87]

Ужываюцца ў валачобных і касмічна-гіпербалічныя параўнанні формульнага тыпу: «часты-густы зоры на небе, часцей-гусцей жнейкі ў полі», «шырок-высок месяц на небе, шырэй-вышэй стагі на гумне». Працоўна-магічныя вытокі маюць паэтычныя вобразы жыта: «у коласе, як у золаце, а ў карэнні, як у серабры». Аднак часцей вобраз ураджаю, жыта ствараецца сродкамі рэалістычнай паэтыкі. Ураджайнае жыта — гэта

[86] Слоўнік мовы Скарыны. Мн., 1977. С. 53.
[87] Сербов И. Белорусы-сакуны. Пг., 1915. С. 137—141.

жыта «ў карані каранiстае, у саломцы сцяблiстае (моцнае, трывалае сцябло), у коласе ядранiстае». Агульны ж выгляд нiвы, жытняга ўраджаю: «пры дарозе жыта ўдалося, а ў лагчыне ў трубы павiлося, а на ўзгорачках пахiлiлася». Даспелае жыта «к адной мяжы прыклянула, к другой мяжы нахiлiлася». Метафарычны вобраз жыта з валачобнай, адрасаванай гаспадару («на тваiм дварышчы сiнi туманiшча, сiнi туманiшча, зялёнае жыта»), таксама ад рэалiстычнага бачання, як бы з сучаснага паэтычнага мыслення.

Сярод песень веснавога каляндарнага перыяду прыкметнае месца займалi **юраўскiя** песнi. Яны былi звязаны з урачыстасцямi ў гонар Юр'я (Юрая), якi ў старажытных славян i iншых iндаеўрапейскiх народаў лiчыўся за апекуна земляробства, свойскай жывёлы i дзiкiх звяроў. Паводле функцыянальнага прызначэння i тэматыкi, сярод абрадавых юраўскiх песень вылучаюцца дзве асноўныя групы твораў. Адну з iх складалi песнi, скiраваныя на магiчнае забеспячэнне (заклiнанне) добрага ўраджаю на будучае лета. Iх выконвалi ў асноўным у час абрадавага абходу маладога жыта (рунi), у час гульняў моладзi пры жытнiм полi. У гэтых песнях часта чуўся зварот да Юр'я, просьба да яго ехаць у поле адамкнуць зямлю i выпусцiць расу. Матыў адмыкання зямлi i выпускання расы выразна дамiнуе ў юраўскiх песнях раннетрадыцыйнага пласта. У песнях створаны вобраз Юр'я, якiм ён быў у народным уяўленнi:

Юр'я, уставай рана,
Умыйся бела,
Абувай боты,
Надзявай сукнi
Да сядлай каня,
Да бяры ключы,
Да едзь у поле,
Адмыкай зямлю,
Выпускай расу
На лён, на пшанiцу,
На ўсяку пашнiцу.[88]

Побач з Юр'ем у юраўскiх песнях выступае i яго мацi. Гэта вобраз мiфалагiчнага характару. Юр'ева мацi таксама клапоцiцца пра адмыканне таемных сiл зямлi, каб «выпусцiцi расiцу да на ярую пшанiцу, да на цiхае лецечка, да на буйнае жыцечка». Працоўна-магiчны пачатак выразна выступае ў песнi на пярэднi план. Юр'ева мацi наказвае сыну ўзяць ключы «зямлю адамкнуцi, траву выпусцiцi, статак накармiць, людзям на здароўе, лiху — безгалоўе». Сам вершаваны памер, iнтанацыя песнi выяўляюць формулу заклёну. Гэта абрадавыя песнi

[88] АГТ, р. 4, воп. 1, клц. 13, л. 1. Зап. у 1840—1850 гг. у Валожыне.

ў іх першародным прыкладным сэнсе як па змесце, так і па форме. Мэтавая ўстаноўка іх простая, заключалася ў пабуджэнні жыватворных сіл зямлі, у ахове ад шкоды (порчы) статка: яны неслі магічна-прадуцыравальны функцыянальны змест, пазначаны глыбокапаэтычным успрыняццем прыроды, малявалі вобраз вясны з першым выганам «жывоціны» на пашу:

Юр'ева маці
Па гары хадзіла,
Ключыкі насіла,
Зямлю адмыкала,
Траву выпускала,
На травіцу — расіцу.
— Бароўскія жонкі,
Выганяйце кароўкі,
Каб былі малочны,
Цяляты няўрочны.[89]

Такім чынам, другая тэматычная група юраўскіх песень — творы, у якіх знайшло адлюстраванне народнае павер'е аб жыватворнай сіле юраўскай расы. У іх адбілася вера ў тое, што гэта раса нібыта здольна забяспечыць не толькі рост траў «дзеля каровак, конікаў, авечак», «ядраное, каласістае жыта на лета», але і здароўе статка, зберагчы яго ад урокаў, благога вока, дзікага звера. Прычым старадаўнія народныя ўяўленні аб юраўскай расе знайшлі выражэнне не адно ў песнях заклікальна-абрадавага характару, а і ў пазнейшых, паводле паходжання, лірычных юраўскіх матывах. Асабліва гэта добра відаць з пашыранай юраўскай песні «На Юр'я ў расу бычка напасу». У некаторых мясцовасцях на Гродзеншчыне (у рэгіёне Лідшчыны, Шчучыншчыны) быў звычай абрадавага абходу двароў з юраўскімі песнямі. Выконвала абрад грамада дзяўчат і жанок[90].

Даволі прыкметную групу юраўскіх складалі жартоўныя песні. Яны выконваліся моладдзю падчас гуляння, ладжанага ў гэта свята. У юраўскіх жартоўных пераасэнсоўваўся вобраз Юр'я, падаваўся ў зніжаным, бытавым плане («Ой, да бору, Юр'я, да бору»). Некаторыя жартоўныя юраўскія песні як паэтычнай формай, так і зместам пераклікаюцца з купальскімі жартоўнымі («Разгуляўся Юр'еў конь», «Загарэўся сыры бор», «Яловае карыта»). Асобныя юраўскія песні даюць паэтычны лірычна падсветлены вобраз самога юраўскага гуляння моладзі:

---

[89] Веснавыя песні. С. 164. Зап. І. Румоўская ў 1952 г. у в. Гарадзец Пліскага р.

[90] Głoger Z. Jurej (Swięty Jerzy), przyczynek do etnografii krajowej // Pamiętnik Fiziograficzny. 1883. T. 3. S. 491—499.

— Юрайка, Юрайка, ці зялёна мураўка?
— Траўка-мураўка зяляненька,
На вуліцы дзевачак паўненька.
Траўка-мураўка пабялела,
На вуліцы дзевачак пагалела.
Да йшоў дожджык дробненькі,
Памачыў рукавец тоненькі.[91]

Для паэтычнай сістэмы юраўскіх песень характэрны свае вобразы і сродкі паэтычнага выяўлення. Акрамя вобразаў Юр'я, Юр'евай маці, хлопцаў і дзяўчат (зборны вобраз), удзельнікаў юраўскага карагоду, як тыповы ў іх сустракаецца вобраз юр'евай расы.

Акрамя агульнага для песень веснавога цыкла прыпеву «Божа мой» у юраўскіх песнях ужываецца ў якасці рэфрэна паўтарэнне канцоўкі кожнага радка са словам «Юр'я». У асобных песнях — як рэфрэн слова «Юр'я» з прыдаткам «Юр'я-Юр'ева». Абрадава-заклінальны характар юраўскіх песень падкрэслівае дзе-нідзе сустраканы ў іх прыпеў «Ніваю, Юр'я, ніваю!»[92]

Рэгіёнам больш-менш актыўнага бытавання юраўскіх песень з'яўляюцца паўночна-заходнія раёны, паўночная Міншчына, Палессе.

**Траецкія,** або **сёмушныя**, песні звязаны з познавеснавым святам Сёмухі (Тройцы) і з тымі старажытнымі ўяўленнямі, што знайшлі выражэнне ў траецкіх абрадах і звычаях. Сёмуха святкавалася ў сем тыдняў па Вялікадні. Адсюль і яе назва. Тройца і Дух — хрысціянізаваныя найменні гэтай старадаўняй урачыстасці. Сам характар веснавой пары, стан гаспадарчых работ, занятасці селяніна адбіліся ў дадзенай разнавіднасці каляндарных песень. Перш за ўсё быў сезон, калі ўся раслiннасць расквітнела, набрала жыццядзейнай сілы, стала блізкая да апагея свайго развіцця. У плане гаспадарчым, земляробчым наступаў час пэўнага зацішку, перадышкі. Палявыя работы, сяўба, у тым ліку самая позняя, былі скончаны. Сенакос яшчэ не наступіў. Да гарачай пары жніва заставаўся яшчэ нейкі прамежак часу. Гэты кароткі перапынак у бясконцым гаспадарчым клопаце выкарыстоўвалі на тое, каб ажаніць сына, выдаць замуж дачку. Заставалася нейкая лішняя часіна і на гулянне моладзі на ўлонні расквітнелай прыроды.

У абрадах і звычаях Сёмухі вялікае месца займаў культ прыроды: убіранне бярозкамі хаты і падвор'я, пасыпанне хаты

---

[91] ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 325, л. 70. Зап. у XIX ст. у в. Бранаў Слуцкага п.

[92] Шырма Р. Беларускія народныя песні. Т. 3. С. 104.

аерам, пляценне вянкоў і ўскладанне іх на галовы. Прыкметны ў іх таксама і культ продкаў: на Сёмуху прыпадалі Стаўроўскія, або Сёмушныя, дзяды. Як культ расліннасці, так і культ продкаў знайшлі свой адбітак і ў песнях. Траецкія песні паэтызуюць прыроду. Найчасцей у іх гучыць зварот да бярозы, якая супрацьпастаўляецца іншым дрэвам. Гэта звязана з тым, што бяроза асабліва ўшаноўвалася на Сёмуху, ля яе адбываліся гульні дзяўчат і здзяйсняўся абрад «кумлення», найбольш пашыраны на ўсходзе Беларусі. Адна з самых тыповых траецкіх песень дае ўяўленне аб змесце, характары святкавання (упамінаюцца нават абрадавыя стравы) і аб настроі, некаторых перажываннях яго ўдзельнікаў — дзяўчат:

Не радуйся, клён да ясення,
Не к табе ідуць дзеўкі красныя,
Не табе нясуць яешні смашныя,
Гарэлку горкую, скрыпку звонкую.
Ой, люлі, ай, люлі!
Ай, люлі, люлі, люлі!
Ты радуйся, белая бяроза,
К табе ідуць дзеўкі красныя,
Табе нясуць яешні смашныя,
Гарэлку горкую, скрыпку звонкую.
. . . . . . . . . . . . . . .
Дух да Троіца — дзеўкам зборышча,
А святы Ілля — дзеўкам разбор! [93]

Завіванне вянкоў на Сёмуху ў старажытнасці мела працоўна-магічны сэнс: паводле думкі выканаўцаў абраду, павінна было садзейнічаць плоднасці поля, ураджайнасці збажыны і гародніны. Дзяўчаты выбіраліся ў «лугі-лужочкі завіваць вяночкі... на годы добрыя, на жыта густое, на ячмень каласісты, на авёс расісты, на грэчку чорную, на капусту белую» [94]. Завіванне вянкоў на Сёмуху-Тройцу насіла таксама магічна-ментальны характар: па вянках варажылі аб будучай долі, загадвалі пра свой чалавечы і дзявочы лёс. Песні, прысвечаныя завіванню вянкоў, вызначаюцца лірычнай пранікнёнасцю. Дзяўчына ў іх як найласкавей звяртаецца да сваіх сяброўак, называючы іх «кумачкі-галубачкі», «сястрыцы», з просьбай узяць яе з сабой дзеля завівання вянкоў і на варажбу. Вязанка твораў пра кумленне даволі прыкметная ў групе траецкіх песень. Матыў «дзяўчына (маладзіца) просіць сяброўак не забываць яе пры зборах на кумленне» пераважае сярод іх.

---

[93] Шейн П. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 186—187.

[94] Неверович В. А. О праздниках, поверьях и обычаях... // Памятная книжка Смоленской губернии на 1859 год. СПб., 1859. С. 153—154.

Тэматычны круг траецкіх песень уключае і тэму замужжа, вяселля, якая вырашаецца ў лірычным, неабрадавым плане («Выхвалялася бяроза», «Гэй, у-ля-лё! Саду мой, саду зялёны», «А наш Іванька панок быў»). Пры мастацкім увасабленні гэтай тэмы выкарыстоўваецца сітуацыя святочнай гульні моладзі, упамінаецца стаптаная, «сталочаная» ёю трава («Ты не плач, трава, не рыдай, шаўкова», «Траўка-мураўка, да чаму не зелена»). Святочнае гулянне, натуральна, давала повад да з'яўлення ў групе траецкіх песень і твораў гумарыстычных. Функцыянальна і сваёй паэтычнай структурай яны пераклікаліся з гумарыстычнымі юраўскімі і купальскімі: у іх дзяўчаты аднаго сяла супрацьпастаўляліся дзяўчатам другога, дзяўчаты, працавітыя, старанныя — хлопцам, няўмелым, нядатным («Ой, над ракою, над вадою», «Ляцелі гусі гукаючы», «Вярбовая кладка»). Песні, прысвечаныя абраду «развівання вянкоў», канстатавалі выкананне абраду — «мы вяночкі развілі» і факт частавання, які па гэтым адбываўся. У песні праводзін Сёмухі-Тройцы, як, зрэшты, і ў іншых творах, якія заключалі пэўную каляндарную групу песень, звязаную з гадавым святам, гучаць ноткі жалю, шкадавання таго, што святочная радасць скора мінулася:

Ці ты бывала, Тройца, ці бывала?
Ой, [redacted] й, маладая, не ўгадала,
Я й, малалая, не ўгадала,
Я й, малада, на вуліцы не бывала...[95]

Хоць траецкія песні складаюць не вельмі вялікую групу каляндарнай паэзіі, жанравая прырода іх даволі выразная. Гэтыя творы вылучаюць характэрныя для іх вобразы прыроды, вобразы дзяўчат, што спраўлялі абрад «кумлення», упамінанне звычаю завівання і развівання вянкоў. Рытуальны аспект абраду ў іх не акцэнтуецца, моцна гучыць лірычны пачатак. У песнях часта ўпамінаецца месца спраўлення абраду і гульняў моладзі на Сёмуху — лугі-лужочкі: там вілі вянкі, рвалі аер, нарыхтоўвалі «май». Траецкія песні запісаны на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Рэгіёнамі найбольш актыўнага іх бытавання з'яўляюцца Магілёўшчына і Палессе.

**Куставыя** песні складаюць рэгіянальную асаблівасць каляндарна-абрадавай паэзіі. Яны лакалізуюцца цэнтральным Палессем, Піншчынай і прылеглай да яе ўсходняй Брэстчынай, раёнамі Столінскім і Іванаўскім. Куставыя песні спяваліся на другі дзень Сёмухі дзяўчатамі і жанкамі, якія «вадзілі куста». Выкананне абраду «куста» мела прадуцыравальныя аграрныя і любоўна-шлюбныя мэты. Гэтым жа мэтам павінны

---

[95] Грынблат М. Песні беларускага народа. Мн., 1940. Т. 1. С. 17.

былі спрыяць і куставыя песні. Удзельнікі абраду спявалі іх персанальна гаспадару, гаспадыні, і ў песнях, натуральна, развіліся велічальныя матывы, хоць яны не набылі таго маштабу, што ў калядках і валачобных. Як і іншыя абрадавыя песні розных каляндарных цыклаў, куставыя даюць уяўленне аб самім абрадзе, «расказваюць» пра яго. Нават падаюць ход выканання абраду. Убраная з ног да галавы галінкамі клёну дзяўчына і ўвасабляла ў вачах выканаўцаў абраду і яго сведак, гледачоў, тую магічную сілу, якая здольна прынесці плоднасць ніве, спрыяць любоўна-шлюбным адносінам моладзі. У песні ідэалізаваўся двор гаспадара, які называўся абавязкова слаўным ці вясёлым, і сама гаспода, абавязкова новая:

Ох, мы ж былі ў харошаму й бору
І звілі куста ж з зялёнага клёну,
І звілі куста з зялёнага клёну
Ды прывялі куста ды й да слаўнага двору,
Проша пана выйсці із новага ж пакою...[96]

Просьба ўзнагароды за песню, як правіла, матывуецца тым, што трэба «кусту», у якога «ножкі невялічкі», залаты на чаравічкі. Акрамя таго, «трэба для куста ўсякая выгода і крынічная вода». «Дзявоцкае войска», як азначалі свой гурт удзельніцы куставога абраду, імкнулася добра ахарактарызаваць і сябе — «акала куста ўсё дзевачкі красны», «прывялі куста харошыя дзеўкі», «прывялі куста маладыя дзеўкі».

Старэйшыя, паводле паходжання, аграрна-заклінальныя матывы куставых песень. Сам лад верша гэтых песень нагадвае заклён, форму замовы, заклінання ўраджаю: «Тройца, Тройца, свята Багародзіца, пасею жыта да няхай народзіць. Пасею жыта, пасею пшаніцу, зарадзі, божа, усяку пашніцу» [97]. У куставых песнях любоўна-шлюбныя матывы звязваюцца з аграрнымі. Магчыма, у іх трансфармаванай форме захаваліся старадаўнія ўяўленні аб дэтэрмінаванасці ўраджайнасці зямлі шлюбна-эратычным фактарам. Напрыклад, у такіх радках куставой песні: «Кало куста сачывічанька густа... ■ хто тую сачывічаньку порве, та той сабе красну панну озьме» [98]. Натуральна, што ў сучасных запісах гэтага сюжэта дамінуе лірычны тон гучання, нягледзячы на тое што ў песні сустакаюцца вобразы працоўна-магічныя паводле сваіх генетычных вытокаў — залаты серп, густая (урадлівая) сачавічанька:

---

[96] Веснавыя песні. С. 209. Зап. М. Грынблат у 1946 г. у в. Сушыцк Пінскага р.

[97] Булгаковский Д. Пинчуки. СПб., 1890. С. 54. Зап. у 1888 г. у Пінскім п.

[98] Довнар-Запольский В. Песни пинчуков. С. 49—50. Зап. у с. Чухна Дабраслаўскай вол. Пінскага п.

Ой, мы былі й у харошаму бору й,
Звілі куста із зялёнага клёну.
Ой, і звілі куста, звілі куста.
А да ў нас сучыванька густа.
Ой, да хто ж гэту сучываньку скосіць,
Ой, да той мяне ў татанька выпросіць.
Адазваўся казачэнька маладзенькі:
— Ой е ў мяне сэрпічок залаценькі,
А я ж гэту сучываньку скошу,
А я ж цябе ў татанькі выпрошу! [99]

Паэтычную адметнасць куставым песням акрамя іх функцыянальнай ролі, выяўленай у элементах велічання, звароту да пана-гаспадара, надаюць вобразы зялёнага куста, дзявоцкага войска, якое ніхто «не б'е, не ваюе», вобраз сачавічанькі. У куставых песнях часта ўпамінаецца зялёны клён, з якога ўдзельнікі абраду «куста» рыхтавалі ўбранне для рытуальнага шэсця праз селішча, традыцыйнага абходу двароў.

Завяршалі веснавы цыкл гадавога круга песень песні **русальныя**. «...Ужо вясну не гукаем да налецця»,— заканчвала свой расказ пра выкананне песень у русальным танку інфарматарка Я. Раманава [100]. Узнікненне русальных песень звязана з міфалагічнымі павер'ямі пра русалак. Народнае ўяўленне насяляла імі рэкі, азёры, паляны, жытняе поле. Лічылася, што русалкі — жаночападобныя істоты, якія паходзяць з памерлых немаўлят жаночага полу, а таксама з тапельніц. Русальныя песні спяваліся на так званым Граным тыдні, што наступаў па Сёмусе. Выконвалі іх найчасцей як суправаджэнне абраду. Рабілі «русалку» з куля саломы, убраўшы яе як дзяўчыну, і з ёю ішлі гуртам (карагодам) у сяло, затым з песнямі адводзілі «русалку» ў бор ці ў жыта [101]. На Гомельшчыне для абраду «праводзін русалкі» выбіралі «маторную», жвавую дзяўчыну, убіралі яе кветкамі, вянкамі з ног да галавы. Удзельніцы абраду распускалі косы, ускладалі на галовы вянкі з васількоў і з песнямі вялі яе ў жыта. Пры гэтым барабанілі ў дошкі, засланкі, палілі агні. Прыйшоўшы да жытніх загонаў, штурхалі «русалку» ў жытное, а самі ўцякалі ад яе [102]. Вераванні захавалі розныя засцярогі ад русалак. Лічылася, што русалкі могуць зманьваць людзей, асабліва маладых хлапцоў, і зашчакатваць іх да смерці, шкодзіць гаспадарцы і інш. [103] Буянства русалак, паводле вераванняў,

---

[99] Веснавыя песні. С. 213. № 273. Зап. М. Грынблат у 1946 г. у в. Сушыцк Пінскага р.

[100] Романов Е. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 206.

[101] Там жа. С. 205.

[102] Там жа. С. 204.

[103] Шейн П. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 197—198.

прыпадала якраз на Русальны тыдзень. П. В. Шэйн выказваў думку, што спяваннем русальных песень дзяўчаты імкнуліся засцерагчыся ад подступаў русалак [104]. Ва ўсякім разе песня сведчыць аб тым, што абрадам «праводзін русалак», магічна-варажбіцкім дзеяннем заламвання асінкі стараліся абясшкодзіць падкопы гэтага міфалагічнага стварэння:

Правяду русалку, правяду
Да й асінкаю заламлю,
Каб тая русалка па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла. [105]

Аднак большасць русальных песень выяўляюць іншыя ўнутраныя пабуджэнні іх стваральнікаў. У песнях выразна чуецца спачуванне русалкам з-за іх адлучанасці ад людскога жыцця. Вобраз русалак, як ён малюецца ў песнях, мае гуманістычную афарбоўку. У песні «На Граной нядзелі» русалкі просяць дзяўчат падаць ім вадзіцы з халоднай крыніцы, якае верне ім жыццё, верне да людскіх клопатаў, занятку. Наогул русалкі прагнуць усяго людскога і ласкава просяць у дзяўчат і маладзіц іх убораў. Гэтым самым песні выяўляюць спагадны, гуманістычны погляд народа на русалак:

На Граной нядзелі русалкі сядзелі,
Рана-рана, русалкі сядзелі!
Прасілі русалкі ў дзевак сарочак,
Рана-рана, у дзевак сарочак!
У дзевак сарочак, ў маладзіц намётак,
Рана-рана, ў маладзіц намётак:
— Дзевачкі-сястрычкі, дайце нам сарочкі,
Рана-рана, дайце нам сарочкі,
Хоць яны пласконны, штоб былі дадонны,
Рана-рана, штоб былі дадонны.
Хоць яны таўсценькі, штоб былі бяленькі,
Рана-рана, штоб былі бяленькі! [106]

Хоць павер'і і прымхі, звязаныя з русалкамі, распаўсюджаны ў розных рэгіёнах Беларусі, русальныя песні, як іх заспелі збіральнікі, вядомы толькі на Гомельшчыне, у сённяшніх Чачэрскім, Брагінскім, Хойніцкім, Гомельскім і Буда-Кашалёўскім раёнах. Той факт, што ў купальскіх песнях сустракаецца падвойны вобраз «Купалачка-русалачка» або «русалачка-купалачка», можна растлумачыць збліжэннем Русальнага

---

[104] Шейн П. Материалы... Т. I. Ч. I. С. 198.
[105] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 128.
[106] Романов Е. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 207.

тыдня і Купалля ў часе, а таксама сувязямі двух традыцый на міфалагічным узроўні.

**Летнія песні.** Летні сезон у жыцці і працы земляроба быў не менш адказны, напружаны, чым веснавы. Ён пачынаўся з касьбы. За касьбой адразу надыходзіла гарачая пара — жытняе жніво, з якім звязаны найбольшыя трывогі і надзеі колішняга беларускага селяніна. Калі веснавыя каляндарныя песні ў мінулым скіроўваліся на спрыянне будучаму ўраджаю, ахову збажыны ад звышнатуральных сіл у перыяд развіцця, росту раслін, таго ж жыта, то роля летніх песень на ўзроўні міфалагічнага мыслення зводзілася да іншага. Яны павінны былі садзейнічаць плёну ў час даспявання жыта, зберагаць ураджай ад шкоды, «сурокаў», што маглі прычыніць яму розныя цёмныя сілы, якія народная фантазія ўвасабляла ў дэманічных вобразах. Летні каляндарна-песенны цыкл уключае некалькі песенных разнавіднасцей: касецкія песні, купальскія і пятроўскія і жніўныя. Уласна летнімі ў народзе называюцца песні жніўныя. Да іх адносяцца і касецкія, якія часам і спяваюцца на мелодыю жніўных песень. Што да купальскіх, то яны, асабліва ў некаторых мясцовасцях, маюць цягу да песень познавеснавых, па сваёй музычнай прыродзе стаяць на мяжы веснавога і летняга каляндарных цыклаў. З прычыны часавай прымеркаванасці і ў адпаведнасці з жыццёвым напаўненнем купальскіх песень фалькларыстыка адносіць іх да твораў летняга перыяду, лічыць паснямі летнімі.

**Касецкія,** або **пакосныя** (ад слоў «пакос», «пакосы»), складаюць невялікую групу песень летняга цыкла. Спяваліся ў час касавіцы на сенажаці. Перадаюць атмасферу самой касьбы і ўборкі сена, клопат, руплівасць пра тое, каб у час управіцца з пільнай гэтай работай у гаспадарцы. Пры выяве, мастацкім адлюстраванні працы касцоў заўважаецца імкненне, з аднаго боку, рамантызаваць яе («Касцы косяць, вецер павявае, шаўкова трава на касу палягае» [107]), а з другога — чуецца скарга на пана-прыгонніка, цяжкую работу («Ой, да бокам хмарачка, бокам»). Найчасцей у касецкіх песнях развіваюцца бытавыя матывы, тэматычна звязаныя з касьбой: маладая ўдава журыцца па няскошанай сваёй сенажаці («Зажурылася маладая ўдовушка, што не скошана зялёна дубровушка»), касец бядуе аб сваёй долі, наракае на нячулую, неспагадную жонку, якая нават пры такой цяжкай рабоце не можа па-людску пакарміць мужа («На лузе касец косіць, кінуў касу ды галосіць»). У цэлым жа касецкія песні лірычныя па жанравай прыродзе. Тэматыка іх уключае і любоўныя матывы, і жартоўныя, спалу-

---

[107] Раговіч У. Беларускія абрадавыя песні. Мн., 1985. С. 28.

чаючы іх. Відаць, самі ўмовы касьбы, збору сена, яго сушэнне, зграбанне, складанне ў копы ці на воз, якое займала сабой многа людзей (часам на касьбу збіраліся талакой), спрыялі, асабліва ў моладзі, адпаведнаму настрою, які знаходзіў выхад у песнях. Абрадавага характару касецкія песні не маюць. Як творы, што суправаджалі пэўны від гаспадарчай працы, яны адлюстравалі ў сабе некаторыя моманты яе. Паэтычная форма касецкіх песень, вобразы прыроды, якія суправаджалі працу касцоў і сенавальніц, стваралі натуральны яе фон. Дуброва, луг, скошаная трава, сонца, лёгкі ветрык, хмара, аблачына — вобразы, што арганічна ўвайшлі ў паэтычную сістэму касецкіх песень, складаюць атрыбутыўны яе элемент. Касецкія песні, не саставіўшы адметнай групы каляндарных песень, абыдзены пільнейшай увагай фалькларыстаў. Вядомыя запісы іх лакалізуюцца поўднем Беларусі. Аднак пад назвай «пакосныя» вядомы яны і ў паўночна-заходнім яе рэгіёне[108]. Што датычыць шырока вядомай песні «На балоце касец косіць», то як жніўная, паводле мелодыі, яна фіксуецца на разлеглым этнічным абшары. Яе варыянты запісаны без мала ва ўсіх абласцях рэспублікі.

Класіку летняга цыкла каляндарна-абрадавай паэзіі складаюць **купальска-пятроўскія** і **жніўныя** песні. Матэрыял іх дае падставу для грунтоўнай размовы аб трансфармацыі ў гэтых жанрах многіх праяў жыцця і працы мінулых пакаленняў, абодва яны сапраўдны здабытак народнай культуры.

Купалле — старажытная ўрачыстасць у гонар летняга сонцастаяння, апагея росквіту зямных сіл — спарадзіла багатую песнятворчасць. Як у абрадах, так і песнях Купалля захавалася ці не найболей элементаў першабытнага светасузірання. Яны дапамагаюць выразней бачыць вытокі купальскай паэзіі, яе залежнасць ад канкрэтных жыццёвых рэалій, уяўленняў, памкненняў даўняга чалавека. Частка песень Купалля непасрэдна суправаджала абрад, была яго слоўна-паэтычным выказам. У іх праглядаюць, паэтызуюцца ўсе этапы святкавання гэтай старажытнай традыцыі: збор зёлак і траў перад выправай да купальскага кастра, заклік збірацца ісці на святкаванне, раскладанне рытуальнага агню, якое звычайна рабілася на лясной паляне, або ўзгорку, або на стромым беразе ракі, возера ці дзесьці пры жыце. Пры жыце можна было заадно галавешкай з купальскага вогнішча спалохаць розныя страхлівыя сілы, што, паводле павер'яў, ажывалі ў гэту ноч цудаў, каб нашкодзіць чалавеку, яго ніве, статку. Нідзе, як у купальскіх песнях, не гучыць так часта, настойліва, з усёй непасрэднасцю пачуцця зварот да сонца, месяца. Песенны гурт просіць сонейка зайграць, «каб

---

[108] ЦНБ АН БССР, АРКіР, ф. 3, воп. 1, спр. 56, л. 174.

шчырыя бары шумелі, сырая зямля стагнала ад дзявоцкага гуляння, ад жаноцкага спявання», іншымі словамі, спрыяць святкаванню, буйнаму разліву весялосці, гуляння.

У звароце да месяца (купальскія ўрачыстасці пачыналіся вечарам, з надыходам сутоння) можна бачыць не толькі эмацыянальную пабудку, імкненне ўдзельнікаў свята ўцягнуць у віхурнае кола весялосці, гульбішча навакольную прыроду, але і нейкія прыцьмелыя зводдалі часу ўяўленні аб дачыненні да зямных спраў, купальскіх урачыстасцей нябесных, касмічных сіл. Рэчытатыўная форма песень нагадвае рытуальны характар звароту, заклінанне:

Ой, месяц, месяц,
Узыдзі ранюсенька,
Узыдзі ранюсенька,
Ой, то-то,
Засвяці яснюсенька,
Завядзі купаленьку,
Ой, то-то,
Дзевачкам гуляць,
Месяца ўсхваляць,
Ой, то-то.[109]

Песні, звязаныя са зборам траў, зёлак, якому на Купалле прыдавалася асабліва вялікае значэнне (іх збіралі на варажбу, з лекавымі мэтамі, ахоўнымі, нарэшце, дзеля патрэб рытуальна-святочных), набывалі адценне баладнага гучання («А на Купалле, на Яна дзевачкі зелле збіралі») або чыста баладны характар. Апошняе адносіцца да купальскай балады аб інцэсце, аб якой ёсць ужо значная літаратура[110].

У рэпертуары Купалля XIX ст. міфалагічныя матывы даволі цесна перапляліся з рэалістычна-бытавымі. І вобраз Купалкі спалучае ў сабе рысы антрапаморфныя, штосьці ад рэальнага жаночага вобраза, з міфалагічнымі. Невыпадкова многія вучоныя былі схільны бачыць у вобразе Купалы (Купалкі) язычніцкае боства, з'яву таямнічую[111]. У розных іпастасях яна з'яўляецца ў самой купальскай паэзіі. Флёр таямнічасці, загадкавасці акружае Купалку ў розных песнях Купалля. То яна «сядзіць на плоце, уся яе галоўка ў злоце і просіць у бога пагоды» на ўсю купальскую ноч, то з'яўляецца перад моладдзю пасланцом з нейкага далёкага свету, то выступае апякункай маладых дзяўчат, як маці, дбае пра іх будучыню, выданне замуж («Сядзіць Купалка на плоце», «Да Купаленька, рана-рана», «Купа-

---

[109] Купальскія і пятроўскія песні / Уклад. А. С. Ліса, С. Т. Асташэвіч, Г. В. Таўлай. Мн., 1985. С. 81.

[110] Путилов Б. Н. Исторические корни и генезис славянских баллад об инцесте. М., 1964; Салавей Л. М. Беларуская народная балада. Мн., 1978.

[111] Падрабязней пра гэта гл.: Ліс А. Купальскія песні. Мн., 1974. С. 36—37.

лінка, цёмная ночка», «Дзе Купала начавала?»). Хоць першасны вобраз Купалы ў песнях зацемнены пазнейшымі ўяўленнямі аб свеце і не ў апошнюю чаргу тым, што вобраз персаніфікаваўся і яго ролю на сябе бралі рэальныя, зямныя дзяўчаты, удзельніцы купальскіх гульняў, самога купальскага святкавання, нельга не бачыць у ім міфалагічных вытокаў. Не выключана, што з Купалам было звязана ў старажытнасці ўяўленне аб урадлівасці зямлі, аб здольнасці Купалы засцерагчы жыта ад заломаў. Аб гэтым сведчаць многа песень, дзе прама гаворыцца, што Купалцы некалі ісці на ігрышча: «трэба жыта пільнаваць, трэба кароў вартаваць». На пытанне песеннага гурту, дзе Купала ноч начавала, яна найчасцей называе месца свайго начлегу «ярае жыцечка», «густое жыта», «чыстае поле» («Ішла Купала сялом, сялом», «Купала на Йвана», «Не йдзі, Купала, ты ў сяло, ў сяло»). Змяшэнне язычніцкай і хрысціянскай міфалогіі ў купальскай традыцыі (прымеркаванне царквой да дня Купалля свята Іаана Прадцечы, Яна ў католікаў) яшчэ болей зацьміла першасныя ўяўленні і спарадзіла ў песнях нямала сюжэтаў, дзе выступаюць два вобразы — Купала (Купалка) і Іван, яшчэ Мар'я («Купалка Йвана на вулку звала», «Мар'я Йвана ў жыта звала», «Купала Л'лю звала на йгру), ды прычынілася да двайной назвы самога свята Івана Купалы.

Калі абстрагавацца ад момантаў генезісу ці, дакладней, эвалюцыі вобразнасці купальскіх песень і глянуць на іх перш за ўсё з пункту погляду таго, якія праявы жыцця яны трансфармавалі ў сабе, то ўсю купальскую паэзію можна падзяліць на дзве вялікія тэматычныя групы. Адну з іх складаюць творы, у якіх дамінуюць аграрныя матывы, другую, яна большая,— песні любоўнай, сямейна-бытавой тэматыкі. У жанравым аспекце вылучаюцца творы абрадавага зместу і жартоўныя, якія ў купальскім рэпертуары займаюць асабліва вялікае месца.

Аграрныя матывы ў купалаўскай паэзіі маюць пераважна міфалагізаваную форму. Пры гэтым міфалагізацыя іх адбывалася на двух узроўнях — на дакласавым, язычніцкім, і хрысціянскім. Асабліва часта ў розных варыянтах гучыць у песнях матыў засцярогі, аховы пасеваў у ноч на Купалле. Найчасцей успамінаецца жыта, зерне якога к дню Купалля ўжо налілося і пачынала даспяваць. Сюжэты гэтай гронкі песень незамысловатыя, простыя: Купала просіць да сябе на ігрышча Івана або Іллю, а той адмаўляецца з-за клопату пра жыта: трэба, маўляў, пільнаваць яго ад змяі-чараўніцы. Мар'я (магчыма, хрысціянізаванае Купалле) кліча Івана ў поле «па межах хадзіць, жыта радзіць», каб была «жыцінка, як бабінка, саломінка, як трас-

ціначка». А то ў песні выказваўся пострах ведзьме: «Выйдзі, ведзьма, з нашага жыта, ідзі, ведзьма, у Альгоўскае, а то мы цябе агнём спяком, агнём спяком, ружжом праб'ём» [112]. Не вызначаюцца такога роду песні стройнасцю кампазіцыі, вобразнай вынаходлівасцю. Утылітарны, практычна аграрны сэнс тут засланяў эстэтычнае, падаўляў яго прымхлівым бачаннем свету, прыроды. Але агульнае пантэістычнае светасузіранне і ў такіх чыста прыкладных творах патрапляла выкрасаць іскру хараства, адпаведным настроем, нейкай лексічнай знаходкай падсвяціць усю канструкцыю верша, даць яму жывое дыханне. Як, напрыклад, у гэтай песні:

Не йдзі, Купала, ты ў сяло-сяло,
А йдзі, Купала, па заселейку.
Не начуй, Купала, ты ў сяле, ў сяле,
Начуй, Купала, ты ў жыце, ў жыце,
Каб туды змяя не залятала,
У жыцечку спору не выбірала. [113]

Нягледзячы на сучасны запіс песні, у яе ідэі, інтанацыі, у форме чуецца старадаўняя аснова, імператыў заклінання. Разам з тым пры ўсім знешне міфалагічным змесце клопат пра «жыцечка спор» ставіць яе ў рад абрадавых твораў, у якіх праз прывідна-фантастычны свет вобразаў глядзяцца рэальныя жыццёвыя інтарэсы земляроба. Клопат селяніна-аратага пра жыта купальская песня перадае і міфалагічным вобразам хрысціянізаваных апекуноў земляробства Яну, Пятру, Іллі. Яну і Пятру як постацям, звязаным са святамі, у пару якіх жыта паспявала: «Сонейка, сонейка, Ян з Пятром ходзяць, да па межах ходзяць, да жыта глядзяць». Дыялог двух апекуноў працы земляроба зводзіцца да ўсхвалення нівы асобнага, самага дбайнага гаспадара, усхвалення, якое мела і аграрна-магічны сэнс — памнажэння дабра, збажыны: «Усё жыта добрае, Юрасёва яшчэ лепшае, Габрусёва да найлепшае; Юрасёва ў трубы ўецца, Габрусёва ў сцірты кладзецца» [114]. Той факт, што ў даўнейшыя часы пад Яна рыхтавалі ляда на будучую сяўбу, знайшоў своеасаблівы паэтычны водгук у песнях Купалля. У Падзвінні, дзе купальская традыцыя асабліва развітая і дайшла ў жывым бытаванні да нашага часу, некалькімі фалькларыстамі запісаны сюжэт, у аснове якога размова на Купалле Яна (Йвана) з богам. Тут, як і ў валачобных песнях, свя-

---

[112] Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Ч. 1. С. 109.

[113] АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 74, сш. 6, л. 60. Зап. У. Кушнарэнка ў в. Аўсянка Горацкага р.

[114] Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny. T. 6. S. 4.

тыя дзейнічаюць, нібы звычайныя земляробы. Хрысціянізаваны патрон свята апагея летняй пары распрацоўвае ляда, рыхтуе зямлю пад пасеў, каб справіць свой просты бацькоўскі, гаспадарскі клопат: «сыноў жаніць, дачок даваць, пасаг дзяліць». Твор, пабудаваны ў форме кароткіх пытанняў і адказаў на іх, набыў кампазіцыйную кампактнасць, стройнасць і эстэтычную закончанасць:

— Святы Яне, на Купаллю!
— Моцны божа, няма часу!
— Святы Яне, дзе дасюль быў?
— Моцны божа, ляды араў!
— Святы Яне, нашто ляды?
— Моцны божа, ячмень сеяць!
— Святы Яне, нашто ячмень?
— Моцны божа, солад расціць!
— Святы Яне, нашто солад?
— Моцны божа, піва варыць!
— Святы Яне, нашто піва?
— Моцны божа, сына жаніць...[115]

Зусім верагодна, што матыў гэты развіўся на аснове ранейшых. Магчыма, яго вытак мае абрадавы момант сустрэчы Купалы (Купалінкі), да якога (якой) звярталіся грамадой. У свой час, трэба думаць, быў то рытуальны фрагмент Купалля. Ён арганічна ўпісваўся ў купальскі карагод, гульні наўкол вогнішча, якія не былі проста забавай, а насілі абрадавы характар.

Працоўная дзейнасць земляроба, сялянскай жанчыны настолькі многа значыла ў жыцці творцаў каляндарнай паэзіі, так шмат займала месца ў ім, што, натуральна, не магла не пацясніць іншыя матывы ў гэтай творчасці. І адносіцца да такой каляндарна-абрадавай урачыстасці, дзе, здавалася, надзённы клопат саступае месца нечаму іншаму, проста яднанню чалавека з прыродай, матухнай-зямлёй у росквіце яе сіл, як было на Купалле. Таму зусім натуральна, што ўслед за матывам «Купалінка (Купала) начавала ў густым жыце» з'явіліся і матывы не абрадавага магічна-ахоўнага сэнсу, а бытавога плана. Купалка як таямнічая госця, апякунка даспявалай збажыны ў купальскую ноч пераасэнсавалася ў клапатлівую маці:

— Да Купаленька, рана-рана,
Дзе дасюль была?
— За ракой была,
За быстрай была.
— Што ты рабіла?

---

[115] Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940. Ч. І. С. 27—28.

— Кужалі прала,
Кужалі прала,
Ткала, бяліла,
Замуж дачок выдавала. [116]

Ва ўсёй каляндарнай паэзіі, а ў купальскай, можа, найболей відавочна праступае спалучэнне, перапляценне матываў працоўна-аграрных, бытавых і любоўных, трансфармацыя адных тых самых паняццяў, уяўленняў у рознай сюжэтна-вобразнай форме. Суадносіны гэтых матываў, удзельная вага кожнага з іх у каляндарна-песенных цыклах, асобных групах песень неаднолькавыя. Тая ж працоўна-аграрная тэматыка ў купальскай паэзіі, хоць і дадае нейкія штрыхі да яе ідэйна-эстэтычнай своеасаблівасці, у цэлым адметнасці купальскага фальклору не вызначае. Ідэйна-мастацкую своеасаблівасць песень Купалля ў найбольшай меры акрэсліваюць любоўныя матывы, сямейна-бытавы іх варыянт. Менавіта яны выразна дамінуюць у купальскай паэзіі, надаюць ёй асаблівую прывабнасць, каларыт. Гэта абумоўлена перад усім адным фактарам: Купалле — пара росквіту зямных прыродных сіл у старажытных прама суадносілася і з росквітам чалавека, фізічным і духоўным яго развіццём. Невыпадкова некаторыя вучоныя былі схільны бачыць у Купаллі старажытнае свята кахання [117]. У ходзе святкавання Купалля, у шматлікіх карагодах ля раскладзенага вогнішча, танках, якія ў большасці мелі любоўна-рытуальны характар, гульнях, што насілі форму заляцання, выконвалася безліч песень любоўнага зместу. Любоўны падтэкст, інтымную скіраванасць мелі і многія жартоўныя песні Купалля. Але спачатку перад тым, як разгледзець любоўныя і сямейна-бытавыя матывы Купалля, спынімся на адным спецыфічным моманце купальскай паэзіі.

Сярод купальскіх песень больш, чым сярод іншых груп, цыклаў каляндарна-абрадавай паэзіі, твораў з мэтавай устаноўкай на пэўны стан паводзін. Асабліва многа песень, павучальны маральна-этычны сэнс якіх зводзіцца да засцярог дзяўчатам у купальскую ноч. Сваім зместам, ідэйным пафасам песні папярэджваюць дзяўчат: нельга давяраць хлопцам у купальскую ноч, ісці на інтымную блізкасць. А такі звычай у выглядзе перажыткаў эпохі першабытнага грамадства з яго палігамнай сям'ёй доўгі час заставаўся ў сістэме купальскіх вераванняў

---

[116] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. 4. С. 218. Зап. на Дзісеншчыне.

[117] Tyszkiewicz E. Opisanie Powiatu Borysowskiego. S. 373; Jaraszewicz J. Wiadomości o Kupalnicach na Podliaszszy // Ondyna Druskienickich źródeł. Druskieniki, 1846. Z. 1.

і ўяўленняў. Самі песні-засцярогі — яскравае сведчанне жывучасці яго: інакш не было б такой настойлівай патрэбы засцерагаць моладзь ад шкоднасці вольных палавых адносін, нібыта асвечаных на Купалле самім звычаем. Нават Купалка — цэнтральная постаць купальскіх рытуалаў — мае такі клопат, як дапытванне ў дачкі, дзе тая дзела вянок («А Купалначка дачку біла»). Выпраўляючы на купальскае ігрышча, маці павучае дачку не стаяць з Кузьмой поплеч («Купальнае ночы ў Кузьмы на дварочку»). Дарэчы, у гэтай даволі пашыранай песні, дзе ўпамінаецца спакуснік Кузьма, імя Кузьма, відаць, не столькі персанальнае найменне хлопца, колькі імя патрона вяселляў, паводле хрысціянскай міфалогіі, Казьмы.

Мабыць, найбольш шырока, пераканаўча рэалізуецца матыў засцярогі, адрасаваны дзяўчатам, у купальскіх баладах. Кароль пагражае дачцэ, якая вярнулася з купальскага гуляння ў змятых шатах, без вянка, страціць яе, г. зн. казніць («На вуліцы скрыпкі граюць»). У войтавым двары знатныя панове «радзяць рады тайныя, не так тайныя — дзіўныя: войтаўна сына ўрадзіла, на бацьку няславу пусціла» («У нашага войта на двары»). З асаблівай настойлівасцю ў купальскай баладзе засцерагаецца моладзь ад кровазмяшэння, інцэсты, што можна бачыць у зафіксаванай фалькларыстамі многіх народаў песні «А ў горадзе на рынку». Сюжэт песні, заснаваны на паданні аб паходжанні кветак браткі, або брат-сястра, дайшоў да нашага часу ў паэтычных рэаліях эпохі сярэднявечча. Народная этыка ў творы выяўляе вышэйшую меру такту. Хоць героі яго не дайшлі да кровазмяшэння («Хвала ж табе, бог, што з сястрою спаць не лёг»), брат тым не менш, узрушаны ўсім, прапануе перакінуцца ў краскі («Пойдзем, сястра, у поле, рассеемся травою»), быццам пасля жаху перажытай пагрозы нельга заставацца тымі, кім былі раней.

Матывы кахання ў купальскай паэзіі мелі сваю жанравую адметнасць. Яны неслі на сабе адбітак спецыфічных умоў, у якіх узніклі, адценне агульнай святочнай танальнасці Купалля. Любоўная тэма ў купальскіх песнях гучыць найчасцей у кантэксце будучага замужжа. І гэта зразумела: яны развіліся ў рамках абрадавай паэзіі, дзе дамінуе сацыяльная ўстаноўка на пэўны статус паводзін. Заўсёды маецца на ўвазе нейкая норма, узор адносін ці то ў сямейна-бытавой, ці то ў грамадскай сферы. Яны і «прапагандуюцца» ў слове. У абрадавай лірыцы рэдка асвятляецца тэма кахання сама па сабе, безадносна да тых маральна-этычных уяўленняў народа, якія, уласна, увасоблены і ў абрадзе. Лірычны погляд на дзяўчат і хлопцаў, удзельнікаў купальскага абраду, купальскага святкавання, можна заўважыць ужо ў песнях, што адлюстравалі знешнюю праяву

свята — гулянне моладзі. Паэтызацыя дасягаецца праз параўнанне з прыроднага свету:

На вуліцы рамон бялее.
— Да хто? — Дзевачкі.
— Да хто? — Дзевачкі, Купалле.
На вуліцы чыр чырванее.
— Да хто? — Хлопчыкі.
— Да хто? — Хлопчыкі, Купалле. [118]

З глыбокім замілаваннем ствараецца ў купальскай песні вобраз дзяўчыны. Малюецца ён звычайна ў бытавых, але не абыдзённых абставінах: дзяўчына падаецца падрыхтаванай да вялікай перамены ў сваім жыцці. Яна зычліва адказвае Купалначцы на пытанні, гатова гасцінна прыняць яе ў сваім доме. Учытваючыся ў тэкст такой купальскай песні без лішняга скептыцызму, згадваеш меркаванні тых прыхільнікаў міфалагічнай школы ў фальклоры, якія лічылі Купалку (І. Ярашэвіч) язычніцкай багіняй-апякункай дзяўчат.

Прыехала Купалначка ў сяло
Да пытаецца аб тых варацейках:
— Чаму то залатым замком замкнёны
Да кітайкаю завяшоны?
Адказала ёй Марыська красная:
— Я то для Купалначкі прыбрала.
Залаты замочак адчыню,
Дарагую кітайку адхілю
Да цябе, Купалначка, упушчу.
Зялёным віном да й прыму,
Пшанічным півам упаю,
А белым сырам накармлю. [119]

Без партрэтных рыс, як гэта найчасцей бывае ў абрадавай песні, ствараецца духоўны стан, духоўны воблік дзяўчыны, праглядваюць абрысы характару, змадэліраванага паводле народна-этычнага ўзору. У вобразе дзяўчыны тыпізуюцца не толькі дабрыня, зычлівасць, але і яшчэ якіясь вартасці — свет гарманічны, здольнасць на шчырае, адданае каханне.

Купальская песня, як і ўсякая абрадавая творчасць, рэалізавала нейкія маральна-этычныя ўяўленні народа, імкнучыся зрабіць іх здабыткам калектыву і кожнага чалавека паасобку. Акрамя таго, яна адлюстравала ў сваім змесце розныя ўяўленні аб прыродзе, святочны рытуал Купалля, нарэшце, проста святочныя гульні, забавы моладзі. Зразумела, не ў такім маштабе, як гэта было ў пазаабрадавай лірыцы,— толькі асобнымі тво-

[118] Купальскія і пятроўскія песні. С. 108.
[119] Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny. T. 5. S. 53.

рамі здолела купальская паэзія паглыбіцца і ў духоўны свет чалавека. І перш-наперш перадаць перажыванні дзяўчыны, роздум яе аб сваёй будучыні: «На святую Купалачку, ой, выйду на вулачку, да буду глядзець, што будзе ляцець. Ляціць, ляціць тры лебядзі.— Лебядзі мае шэранькія, да скіньце мне па перынцы, па перынцы, па русай касе. Русую касу я ў мамкі знашу, а перайка пад венчыкам»[120]. Не да няполатай рутачкі дзяўчыне, узялі яе «цяжкі смутачкі» з-за мілага («Каліна, чыя рута за вадаю?»). Душэўныя перажыванні перададзены гранічна сцісла, эканомна і эмацыянальна выразна. Вельмі часта пачуццё кахання ў купальскай песні дзяўчына выказвае праз такія прадметна-рэчыўныя вобразы, як пояс, ручнік, якія рыхтуе ў купальскую ноч, каб аддаць любаму. Пры гэтым менавіта праз прадметы ўжытку, праз тое, каму, як яны рыхтуюцца, аддаюцца дзяўчынай, вылучаецца аб'ект яе зацікаўлення, кахання. Вельмі арганічна выглядае ў песнях выказ душэўных пачуццяў сялянскай дзяўчыны праз імкненне зрабіць для каханага нешта прыемнае, карыснае, пашыць яму гафтаваную кашулю, каб быў вельмі паглядны — «каб на мілога глядзелі»: «Пятрова ночка маленька, не выспалася паненка, на новым ганку седзячы, мілому кашульку шыючы»[121]. Характэрна, што ў купальска-пятроўскіх песнях сюжэта «дзяўчына рыхтуе падаркі мілому» паэтыка дасягае часам асаблівай вытанчанасці, грунтуючыся на бытавым матэрыяле, напрыклад на абыгрыванні этапаў апрацоўкі лёну, нарыхтоўкі палатна:

На моры вутка купалася,
На беражочку сушылася.
Малада Купалінка стужылася,
Што яе дары не прадзены.
Хоць прадзены, ды не вітыя,
Хоць вітыя, не снаваныя,
Хоць снаваныя, ды не тканыя,
Хоць тканыя, ды не белены,
Хоць белены, ды не качаны,
Хоць качаны, ды не рэзаны,
Хоць рэзаны, ды не дзелены.
Сяму-таму па локціку,
А сужанку не мерачы.[122]

Зрэдку сярод песень Купалля сустракаюцца творы, у якіх любоўныя адносіны хлопца і дзяўчыны падаюцца ў спакойнааб'ектывізаваных вобразах, з адлюстраваннем самой сустрэчы

---

[120] АІМЭФ, ф. 2, воп. 14, ст. 27, № 2. Зап. Г. Таўлай у 1977 г. у в. Глебаўшчына Лагойскага р. ад Ганны Гулько.

[121] Купальскія і пятроўскія песні. С. 220.

[122] Шейн П. В. Белорусские народные песни. С. 155.

закаханых. Але ў сваёй кампазіцыі, усім паэтычным строі яны носяць адбітак купальскай функцыянальнасці, выканання ў танку:

Ой, то-то! Хто гэту гару капаў,
Чорныя сцежкі таптаў? Ой, то-то!
— Васілька гару капаў,
Чорныя сцежкі таптаў,
Да Волечкі ходзячы,
Гасцінчыкі носячы.
— Нясу я падарачкі,
Садовыя яблычкі.
Стук-стук у акеначка:
— Ці дома паненачка?
Арэшкі лушчоныя,
Мы з табой злучоныя,
Яблычкі садавыя,
Мы з табой маладыя. [123]

У купальскіх песнях сямейна-бытавой тэматыкі даволі выразна дамінуюць творы з прыкладной установкай, якой, напрыклад, павінна быць абранніца хлопца-жаніха, чаму лепш ажаніцца з дзяўчынай, чым з удавою, пайсці замуж за роўніцу, а не за старога ці занадта маладога. Народная этыка ў гэтых песнях, паводле выпрацаваных шматвяковай жыццёвай практыкай канонаў, рэалізуецца ў паэтычнай форме дасканалай, уласцівай абрадавай песні мастацкай логікай і сцісласцю вобразнага выказвання:

Цераз гару тры сцежачкі,
Ішлі туды тры дзевачкі:
Адна ішла ў золаце,
Другая — ў аксаміце,
А трэцяя — ў розуме.
Што ў золаце — то Васількава,
Што ў аксаміце — то Максімава,
Што ў розуме — то Янaчкава.
А золата хоць прыпазычу,
А коніка хоць прыкуплю,
А розуму ані ўцяць, ані ўзяць. [124]

Таксама, як і розум, крытэрыем годнасці чалавека ў народнай творчасці ўвогуле і ў купальскай паэзіі ў прыватнасці лічыцца працавітасць («Купалялё! А на сенажаці мядуначка», «Во лялё! Хмель на тычынку навіваецца», «Ой, іграе сонейка, грае» і інш.). Ветлівасць і зычлівасць купальскія песні сцвярджаюць, паэтызуюць як каштоўнасці, неад'емныя ад паняцця чалавека, чалавечнасці («За гарою, за даліною дзве дзевачкі лён палолі», «То-то-то! У нас сягоння Купальнічак, то-то-то»).

---

[123] Купальскія і пятроўскія песні. С. 147.
[124] Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. S. 372.

Практычны аспект, будучыню хлопца маюць на ўвазе купальскія песні на сюжэт «з удавой ці дзяўчынай жаніцца». Тут установка абрадавай песні недвухсэнсоўная. Паэтычныя вобразы маюць псіхалагічна дакладнае сэнсавае напаўненне. Кампазіцыя разгортваецца паводле схемы супрацьпастаўлення. Твор дасягае добрай мастацкай выразнасці:

Ай, то-то! Ды за гарою за камянною, ай, то-то!
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, прыбраныя,
Прыбраныя, сядланыя —
Як уссесці, паехаці
Да ўдованькі жаніціся.
Ды ўдованьку лёгка браці,
Лёгка браці, цяжка жыці:
Пасцель сцеліць — ўсё клянецца.
Спаць кладзецца — не хінецца.
За гарою камянною
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, прыбраныя,
Прыбраныя, сядланыя —
Як уссесці, паехаці
Да дзеванькі жаніціся.
Ды дзеваньку цяжка браці,
Цяжка браці, лёгка жыці:
Пасцель сцеліць — ўсё смяецца,
Спаць кладзецца — прыхінецца. [125]

Цікавы аспект купальскай паэзіі складае тэма этыкі радавых, сямейных, сваяцкіх адносін, як яе разумее і як выяўляе гэта разуменне ў паэтычным слове песня. Як і ў большасці фальклорных твораў, у тым ліку каляндарных песень, перавага аддаецца любаму, любай. Іншыя сямейныя сувязі адыходзяць на другі план. І гэта дзесьці ў глыбіні народнай свядомасці знаходзіць разуменне. Не папрокам сыну, а, здаецца, са змірэннем, як гэта ні цяжка, слухае маці яго прызнанне аб тым, за каго «палажыў галоўку на мячы»:

...Ні за ойчанька старога,
Ні за матачку родную,
Ні за брацейку мілога,
Ні за сястрыцу любую;
Палажыў я галоўку за дзевачку,
За яе ціхія паходы,
За яе нізкія паклоны... [126]

Меру гора, перажыванняў па страчаным на вайне сыне, мужу і брату добра тыпізуе ў паэтычных вобразах купальская

---

[125] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 192.

[126] Карский Е. Ф. Белорусские песни с. Березовец Новогрудского у. // Рус. филол. вестник. 1885. Т. 13. С. 272.

балада «Ой, ляжыць казак забіты ў мяжы, каліна». Тры птушкі (ластаўкі або зязюлі), што прылятаюць і падаюць на галоўку, на грудзі, да ног забітага воіна, сімвалізуюць яго родных: маці, жонку і сястру. Народная свядомасць у вобразах выплаканых імі слёз увасабляе, сцвярджае думку аб неаднолькавай меры гора гэтых жанчын пры страце роднага: «Маці плача век да веку, сястра плача год да году, а жана плача дзень да вечара... Мамачка плача — рэчачкі бягуць, сястра плача — ручайкі ідуць, мілая плача — замуж хоча» [127].

Для паўнейшага асвятлення праблемы адносін да маці, як яна вырашана сродкамі каляндарна-абрадавай паэзіі, згадаем, што, напрыклад, у каляднай песні «Ой, пелі пеўні ранараненька» сын на крыўду жонкі за ўвагу да маткі напамінае любай, што маці яго гадавала, «цёмныя ночкі не дасыпала, яснай свячы не згашала, ачопак з ножак не спускала» [128]. Апошні троп «ачопак з ножак не спускала», г. зн. калыхала ўсю ноч дзіця, вельмі ёмісты.

Маладая жанчына ў сям'і мужа звычайна трактуецца фальклорам, згодна з рэальным яе становішчам у вялікай патрыярхальнай сям'і, як падначаленая, крыўджаная, забітая. Купальская песня для паказу месца маладой замужніцы ў свёкравым доме, яе долі выбірае адпаведны момант, калі ўсе збіраюцца на святкаванне Купалля. Пры гэтым яскрава малюецца бытавая сітуацыя ў хаце маладзіцы, дзе «дзіця плача ў калысцы, а муж бурчыць у пасцельцы, а свякроўка супроць печы, свёкаройчанька на печы, а дзевер'я на пакоі». Маладзіца ў купальскай песні не паказана проста жанчынай, прыгнечанай бытам, хатнімі абставінамі. Працавітая, увішная, ветлівая, яна патрапляе з усім управіцца, з усімі належна абысціся:

...Ды я, млада, прыбяруся,
Ды ■ дзіця прыгалублю,
Ды я мужа перапрашу,
Ды я свёкру пакаруся,
Ды свякроўцы пакланюся,
А дзевер'ям — па платочку,
А залоўкам па вяночку. [129]

Можа, паколькі перад намі абрадавая песня, несла яна ў сабе пэўную маральна-этычную ўстаноўку сямейнага аспекту, зыходзіла з практыкі старой вялікай сям'і і сентэнцыя яе была

---

[127] Купальскія і пятроўскія песні. С. 287—288.

[128] Зімовыя песні. С. 316. Зап. у Пінскім п.

[129] Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Ч. 1. С. 25.

разумная, адпавядала ўмовам жыцця. Аднак і ў гэтай купальскай песні, дарэчы, вельмі пашыранай і ў пэўным сэнсе класічнай, як і ў большасці фальклорных твораў, народ імкнуўся да рэалістычнага адлюстравання жыцця. Мінорны матыў, якім яна заканчваецца («Пакуль, млада, прыбяруся, дзеўкі, жонкі ідуць з Купалля»), пераконвае ў тым, што народная песня даволі строга прытрымліваецца жыццёвай праўды.

Трэба сказаць, што народная этыка, як яна выяўлена ў паэтычна-вобразнай мове купальскіх песень, не прадстае аднязначна. Народ патрапляе featuring рознабакова бачыць з'яву, беручы тыпова і адначасна не забываючы на шматмернасць усякай праявы жыцця. Напрыклад, тая ж тэма сямейных адносін, асабліва ў плоскасці «нявестка — свякроў». Колькі да яе звяртаецца фальклор на ўзроўні розных сваіх структур. Не апошняе месца займае гэта тэма і ў каляндарнай паэзіі, у тым ліку купальскай. І вырашэнне яе не адназначнае. Падобна таму як і ў веснавых песнях, у купальскіх сустракаецца вобраз спагаднай, чулай свекрыві. Голасам нявесткі ў песні расказваецца пра яе:

Ту-ту!, Што ў мяне была за свякровачка, ля-лё,
Што ў яе была за натурачка —
Сама ўстане і ранюсенька,
Мяне накрые цяплюсенька:
— Спі, дзіця маё, спі, нявестачка,
Пакуль на небе сонца ўзыдзе,
Пакуль на зямлі раса абвее.[130]

Аднак такая, назавём яе аптымістычнай, трактоўка адносін сямейнага звяна «нявестка — свякроў» нельга сказаць, што тыповая. Хоць абрадавая песня, у прыватнасці купальская, шырока не ўдаецца ў гэту праблему, але некалькі твораў, што ёсць у цыкле, вырашаюць тэму адносін свекрыві да нявесткі ў жорсткім стылі. І адлюстроўваюць строга — але апошняе ўжо за рамкамі купальскай паэзіі — саму суровасць рэчаіснасці старога сямейнага быту. У купальскіх песнях адносіны да свекрыві, свёкра выказваюцца ў дзвюх формах: у выглядзе скаргі нявесткі на несправядлівасць стаўлення да яе і праз ацэначны вобраз. У абодвух выпадках думка падаецца ў сціслых і ёмістых метафарычных вобразах. Вось як гучыць, напрыклад, нараканне нявесткі на сваю долю ў свекрыной хаце, на саму свякроў:

Ой, то-то! Была ў мяне свякроў ліхая, то-то,
Загадала мне сем дзел рабіць:
Плацце памачыць, а ў нядзелю жлукціць,

[130] АІМЭФ, ф. 20, воп. 74, ст. 65, № 16. Зап. Г. Таўлай у 1974 г. у в. Дакудава Крупскага р. ад А. Моніч, 1906 г. н.

На моры бяліць, паверх лесу сушыць,
Па небу качаць, у борцях хаваць... [131]

Абсурднасць, нерэальнасць выканання загадаў свекрыві маюць на мэце падкрэсліць самадурства, жорсткасць яе характару, яе адносін да людзей, да чалавека, фактычна ёй блізкага. У песні вельмі артыстычна выказана матывацыя недарэчнасці свякроўчыных загадаў нявестцы. Зроблена гэта з паэтычнай вытанчанасцю: «...Ці я лябёдка на моры бяліць, ці я зорачка па небе качаць, ці я пчолачка па борцях хаваць?» [132]

Асобнай гаворкі заслугоўвае гумарыстычны раздзел купальскай паэзіі. У параўнанні з іншымі разнавіднасцямі абрадавых песень ён вызначаецца разнастайнасцю тэматыкі, сюжэтна-вобразнай вынаходлівасцю.

У жартоўных купальскіх песнях даволі выразна праглядвае іх функцыянальная прырода. Яны выконваліся гуртам супроць гурту, моладдзю, найчасцей дзяўчатамі аднаго сяла супроць гурту дзяўчат другога сяла. Гэта было своеасаблівае песенные спаборніцтва. Паводле ўспамінаў спявачкі з вёскі, што ў ваколіцах мястэчка Гарадок на Маладзечаншчыне, яшчэ пасля вайны ў іх святкавалі Купалле. На раскладзены купальскі агонь, а мясцовасць у наваколлі Гарадка ўзгоркавая і вогнішча далёка відаць, з'яўлялася моладзь суседняга сяла і з ходу імкнулася «зачапіць» купальнікаў насмешлівай песняй. «Як жахнім ім, каб не ўтрывалі, а потым яны ўжо ў адказ нам кінуць сваю песню, і так пайшлі адны на другіх песнямі» [133]. Купальскіх песень, у якіх дзяўчаты аднаго сяла супрацьпастаўляюцца дзяўчатам суседняга, асабліва шмат. Супрацьпастаўленне, як правіла, ідзе па такіх якасцях: руплівасць і гультайства, хараство і брыдкасць, зграбнасць і нязграбнасць, акуратнасць і неахайнасць, пышнасць і ўбогасць. Сітуацыі для таго, каб прынізіць, падсмяяць сваіх апанентаў, браліся розныя. У адных песнях высмейванне дасягалася праз зварот да Купалінкі. Яе адказы на пытанні хору, як прымалі купальскую госцю ў адным сяле і другім, тым, адкуль родам спевакі, выканаўцы песні, давалі магчымасць сцвердзіць нясветлівасць, скнарнасць адных і гасціннасць, людскую прыязнасць другіх («Дзе ж ты была, Купалачка?»). Праз зварот да ялушачкі-зелянушачкі або краскі характарызаваліся купальскім хорам дзяўчаты аднаго сяла як руплівыя, пачцівыя, хораша ўбраныя, супрацьпастаўляліся дзяўчатам іншага сяла як неахайным, няўважлівым,

[131] Бессонов П. Белорусские песни. С. 36.
[132] Там жа.
[133] Зап. аўтарам у 1977 г. у в. Шалыгі Маладзечанскага р.

здольным стаптаць ружу «лапцішчамі лазовымі», сцерці яе «спадніцамі пáтрапнымі» («Каліна, а ружачка мая чырвоная», «Ты ялушачка-зелянушачка», «Да елачка зялёная»). Дарэчы, у паўтараным звароце купальскага гурту да елкі, абяцанні палі- ваць яе «вадзіцаю крынічнаю», «абкідаць красачкамі, абвешаць вяночкамі» можна бачыць і пэўную ролю гэтага дрэва ў купальскім абрадзе ў старажытнасці. У купальскай песні «Прыйдуць к нам, прыйдуць да зарэцкія дзевачкі» баярскія і зарэцкія дзяўчаты супрацьпастаўляюцца па тым, як яны ўбраны, і прыраўнанне гэта набывае здзекліва-іранічнае гучанне.

У большасці сваёй, аднак, гумар купальскіх песень скіраваны супроць хлопцаў. Гама насмешлівасці ў дачыненні да хлапцоўскай грамады, да паасобных хлопцаў у песнях Купалля шырокая.

Купальскія песні актыўна выкарыстоўваюць розныя віды камічнага: камізм знешнасці, камізм становішча, камізм супастаўлення. Супастаўленне ідзе паводле адсутнасці і наяўнасці годнасці, праўды. У жартоўных песнях Купалля хлопцы абвінавачваюцца ў няшчырасці, няпраўдзівасці. Ім супрацьпастаўляюцца дзяўчаты з іх праўдай, што «як улетку сонейка» («Перад Пятром, пятым днём»). Народнае мудраслоўе «праўда — як у рэшаце вада» абыгрываецца ў песні «Ішла паненка цераз бор». Сцвярджэнне той або іншай сентэнцыі, высмейванне сваіх антыподаў у купальскай песні дасягаюцца праз арганічна знойдзены для ўвасаблення задумы сюжэт. У ім, як правіла, відаць дасціпная выдумка, скарыстоўваецца бытавая вобразнасць, разгорнутая ў малюнкавую зрокавую карціннасць. І ўсё гэта вельмі дасканала адпавядае духу купальскіх гульбішчаў, самой атмасферы купальскай ночы. Хлопцы прымушаны рэшатамі тушыць бор, які загарэўся ад пярэстай, у сем пол сукенкі дзяўчыны («Ішла паненка цераз бор»). Разгуляны Янаў конь разбівае па чарзе капытом камень і арэх. Як у камені няма ядра, так і ў хлопцаў няма праўды,— пасля вобразнага супастаўлення заключае песня. З астракізмам пададзена праз бытавыя абразкі самаадчуванне хлопцаў і дзяўчат пасля купальскай ночы:

Малая ночка Купалначка,
Нашы малойцы не выспаліся.
За валамі ідуць хліпаючы.
Хвастамі вочы праціраючы.
— Быцю, быцю, пазыч хваста,
Пратры вочы пасля ночы.

Вялікая ночка Купалначка,
Нашыя дзеванькі выспаліся,
За валамі ідуць спяваючы,
Шолкам хустанькі вышываючы.[134]

---

[134] Опдупа. 1846. № 1. С. 13. Зап. І. Ярашэвіч у Брэсцкім п.

Даволі паспяхова элементарна-камічнае рэалізуецца ў гумарыстычных купальскіх песнях «А на гары карыта», «Як у летку на Купалу», «Сягоння Купальнічак, заўтра Ян», «Чые хлопцы казадойцы?». Аб'ект асмяяння — хлопцы — у гэтых творах пастаўлены ў здзеклівае становішча: яны вымушаны пасвіць кошак, дзяўчаты збіраюцца «старэйшымі араць, а серадольшымі баранаваць» папар, ідучы мяжою, «мальцы» замест мёду «п'юць дзёгаць дзяжою» і да т. п. Камізм знешнасці патрабаваў ужо не асмяяння агулу, калектыву, а дыферэнцыраванага падыходу, пайменнага пералічэння, што наглядна можна бачыць у песнях «Не расці чабор каля дарогі», «Каліна, хадзіла вутка па сенажаці», «На вуліцы чабор гарыць». У гумары купальскіх песень, які часам насіў і з'едлівы, іранічны характар, у дачыненні аб'екта асмяяння ўсё ж заставалася месца спачуванню, гуманістычнаму стаўленню. Зразумела, у выпадках, калі чалавек аб'ектыўна заслугоўваў спагады. Так, купальская песня магла выказаць яе сталаму кавалеру, што не жаніўся ў пару («А хто ў нас нежанаты, барадаты?»), толькі злёгку пакпіўшы з таго, што «доля яго няшчасная, дзеўка яго някрасная», і тут жа пажадаць: «няхай доля пашчаснеіць, няхай дзеўка пакраснеіць». Гэта ж песня ў сваім іншым адменніку магла быць больш крытычнай да аб'екта гумару, але ніколі не была жорсткай у такім выпадку: брала пад увагу, што чалавек не заўсёды вінаваты ў сваім лёсе. Іранічная матывіроўка прычын, чаму хлопец «нежанаты ходзіць», у песні «А хто ў нас нежанаты?» разгортваецца ў цэлы рад зрокава-прадметных вобразаў, якія даюць сапраўдны эфект мяккага дасціпнага гумару ў яго характэрным нацыянальным праяўленні:

А хто ў нас нежанаты ходзіць?
— Сямёнка ў нас нежанаты ходзіць:
Ён браў хмялёк у святы дзянёк,
Саладзіў солад на пярэклеце,
Мыў катлы на сінім моры,
Сушыў бочкі на сонейку.
Доля яго няшчасная:
Козы, оўцы хмель паелі,
Куры, гусі солад паклявалі,
Мора катлы патапіла,
Сонца бочкі пашчапіла. [135]

Паэзія Купалля, радасная светаадчуваннем, святочная, зычлівая пафасам, дадала ў нацыянальную гумарыстыку сваю псіхалагічна-мастацкую ґаму, свае барвы да яе агульнага

[135] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 218. Зап. у в. Сініцы Віцебскага п.

каларыту. Зрабіла гэта ў істоце гуллівых, пазначаных тонкім досціпам матываў, што ўзніклі ў абставінах душэўнага ўздыму, весялосці, неаддзялімых ад уяўлення аб старажытным свяце ў гонар летняга росквіту зямных сіл, урачыстасці ў гонар самога сонца, жыцця.

Паэтыка купальскіх песень узяла асабліва многа сваіх барваў непасрэдна ад расквітнеўшай летняй прыроды, ад уяўленняў, звязаных з незвычайнасцю купальскага дня, вехай у жыцці прыроднага свету, а разам з тым і ў жыцці чалавека.

На вобразах купальскай паэзіі ляжыць выразны водсвет пантэістычнага светасузірання. Пры іх рэалістычным функцыяніраванні відаць міфалагічныя вытокі. Ні ў адным каляндарнапесенным цыкле, акрамя каляднага, не ўпамінаецца так часта само свята, як Купалле, у розных яго міфалагічна-фанетычных мадыфікацыях. Яно гучыць у запеве, у першых радках песень, вар'іруецца ў рэфрэнах, найбольш характэрныя з якіх «Ой, рана на Йвана», «Купалле», «Купалялё». Унікальны прыпеў-рэфрэн купальскіх песень, складзены з паўтораў слоў «сонейка», у чым не без падстаў можна бачыць адбітак колішняга старажытнага культу сонца. Своеасаблівы каларыт купальскім песням надае частае ўпамінанне ў іх цёмнай кароткай летняй ночы, зварот да Купалы, Купалінкі. Купальскія песні — адзін з найбагацейшых жанраў беларускага песеннага календара. Некалі яны бытавалі на ўсім этнічна-беларускім абшары. Арэал іх, як і жніўных, быў самы вялікі з усіх каляндарна-абрадавых песень. Але ўжо ў XIX ст. традыцыі Купалля ў розных рэгіёнах Беларусі праяўляліся не аднолькава інтэнсіўна, а ў некаторых пачалі занепадаць зусім. Але і сёння яны адны з найбольш жывучых каляндарных звычаяў. Хоць і ў збедненай форме, яны працягваюць бытаваць у паасобных кутках цэнтральнай Беларусі, паўней захаваліся у Падзвінні [136].

**Пятроўскія** песні, якія ўзялі сваё найменне ад старажытнага свята Пятра (адзначалася праз пяць дзён пасля Купалля), працягвалі развіваць тэматыку купальскіх песень, у некаторых выпадках мелі адны сюжэты з заменай эпітэта «купальская ноч» на «пятроўская». Практычна яны складалі адну жанравую групу, хіба толькі большае месца сярод песень, спяваных на Пятра, занялі творы сямейна-бытавой тэматыкі, сямейнага жыцця. У пятроўскіх песнях ноч называецца суборначкай, якая збірае дзевачак «у бор жыта жаць, у луг сенаваць». Само свята «Пятроў дзень» — разгон-днём, што «разагнаў дзевачак з вулачкі, падаваў сярпочкі ў ручкі» [137].

---

[136] Купальскія і пятроўскія песні. С. 377—487.
[137] Гілевіч Н. Песні народных свят і абрадаў. С. 196.

**Жніўныя** песні ў адрозненне ад іншых відаў каляндарна-абрадавай паэзіі асобныя фалькларысты (А. Шлюбскі, М. Піятуховіч) кваліфікавалі як песні працы. І ў такой трактоўцы была свая рацыя. Гэта былі песні самай гарачай пары ў гаспадарцы земляроба, паэзія жытняга жніва. Яны суправаджалі сабой работу ў полі, паэтычна ўвасаблялі перажыванні, звязаныя з ёй, а таксама перадавалі і радасць ад здабытага ў поце чала плёну. Пашыранасць жніўнай паэзіі, яе зместавае і эстэтычнае багацце ў значнай меры тлумачацца тым, што гэта была песнятворчасць, якая спадарожнічала асабліва адказнай пары ў жыцці земляроба — збору ўраджаю жыта — асноўнай хлебнай культуры ў Беларусі. Ад ураджаю яго залежалі дабрабыт сям'і, пэўная ўстойлівасць у жыцці і надзея на будучыню. Паводле функцыянальнай ролі на кожным этапе жніва, усе жніўныя песні падзяляліся на зажынкавыя, уласна жніво і дажынкавыя. Усе, разам узятыя, яны мелі народную назву «лета», што, трэба думаць, выражае дамінантную функцыянальную адзнаку іх як асноўнага жанру летняга перыяду гаспадарчага календара.

Зажынкавыя песні выконваліся ў першы дзень жніва, на зажынках — своеасаблівым абрадавым подступе да жытняга, або аржанога, жніва. Асноўную масу колькасна невялікай групы зажынкавых песень складаюць зажынкавыя застольныя. Яны суправаджалі абрадавую ўрачыстасць з нагоды пачатку жніва, што спраўлялася пасля зажону, вечарам. Гэтыя песні пашыралі тэматычнае кола зажынак, уключаючы ў іх велічальныя і бяседныя матывы. У іх праглядвае клопат аб спрыяльным для работы надвор'і («Дай, божа, пагоданьку»), пра тое, каму зажынаць жыта, каб лёгка і спорна жалася («Каму сёлета жыта зажынаці?»), часам высвятляюцца нейкія сацыяльныя ўмовы («Поле маё шырокае»). Жняя жаліцца на тое, што «...не з кім стаці, жыта ядраное пажынаці: браты мае па заслужжу, а сястрыцы па замужжу». Псіхалагічна настойліва гучыць матыў «досыць, досыць ядранному жыту ў полі стаяці». У песнях велічаецца гаспадар, выказваецца спадзяванне на пачастунак за шчырую працу на зажынках у полі («Сягоння ў нас зажыначкі», «У нас сёння зажыначкі», «Ой, цяпер у нас зажынкі» і інш.). Ужо ў застольных зажынкавых акрэсліваецца сацыяльны матыў, які потым шырока разаўецца ў працоўных жніўных песнях. Напачатку ён гучыць як недавер да пана («У нас сягоння зажон, зажон, да дасць нам пан ражон, ражон»), затым перарастае ў пачуццё крыўды ад усведамлення сацыяльнай несправядлівасці («А ўжо жыта палавее, наш паночак багацее, нас паночак гоніць жаці...»), каб пазней выбухнуць праклёнам.

У цэлым жніўная паэзія вызначаецца багаццем матываў. Тэ-

матычны дыяпазон яе шырокі. Дамінуюць, аднак, тэмы сямейных і сацыяльных адносін, якія мастацка рэалізуюцца на фоне і ў ходзе жніва, жніўнай працы. Асэнсоўваюцца яны, як правіла, у маральна-этычным аспекце. Танальнасць іх розная — ад элегічнай скаргі, наракання да пратэсту. Паэтычная форма выяўлення таксама разнастайная: аб'ектывізаваны расказ, дыялог, лірычная мініяцюра, калектыўны эпічны выказ, радзей абрадавае заклінанне. Найчасцей, асабліва сярод песень уласна жніўных, працоўных, сустракаецца маналагічная форма выказвання, лірычны маналог. Гэты апошні дазваляе паўней расказаць аб душэўных перажываннях жняі — асноўнай дзейнай асобы жніва, шырэй ахапіць, перадаць у паэтычным слове духоўны свет сялянскай жанчыны-рабачайкі.

У песнях самога жніва, або працоўна-жніўных, значнае месца займаюць прыродныя вобразы сонца, нівы, ветру. Гэта да іх звяртаецца жняя як да сведак сваёй нялёгкай працы, просіць спагады, успамогі. Зварот да сонца, стыхій дазваляе перадаць перажыванні жняі, маляўніча ўвасобіць самі ўмовы работы на ніве, атмасферу жніва ў яе бытавым плане, сацыяльнай апасродкаванасці. Жняя просіць вецер не ляжаць у разоры, устаць паціхеньку, развеяць «хмарачку цямненьку — маю тугу цяжаленьку». Ці проста паспрыяць у цяжкай працы пад спякотлівым сонцам — паддаць «халадочку — майму сэрцу, жываточку».

Праз зварот жняі-сіраціны да сонца ў жніўнай песні лаканічна-ёміста, з гуманістычным падтэкстам расказваецца аб жорсткасці паднявольнай працы, дакладна называецца віноўнік цяжкай долі нанятай, запрыгоненай дзяўчыны. Пры гэтым дыялог жняі з сонцам набывае вельмі пранікнёна-паэтычны змест. На скаргу жняі аб тым, што яно рана ўсходзіць і позна заходзіць, сонца адказвае-просіць вініць не яго, а пана, бо:

Я й раненька ўзыду —
Цябе ў полі знайду,
Я й позненька зайду —
Цябе ў полі пакіну![138]

Да сонца ў жніўных песнях жнеі звяртаюцца асабліва часта. Найчасцей з просьбаю, каб хутчэй заходзіла. Матыў гэтай просьбы просты: з захадам сонца наступаў адпачынак ад цяжкай, напружанай працы. Адсюль і асабліва ласкавы тон звароту:

---

[138] Шырма Р. Беларускія народныя песні. Т. 3. С. 179.

Сонейка-каласочак,
Каціся за лясочак:
Так жа нам прынадаела,
Сярэдзінка забалела,
Ручкі-ножкі панямелі. [139]

Аднак просьбы-звароты жней да сонца часам набываюць імператыўную форму. Пры гэтым у сціслых паэтычных абразках, вобразна і эканомна перадаецца характар і цяжар жніўнай працы:

Да заляж, сонца, заляж,
Наглядзелася на нас.
Сярпы жалі — нажаліся,
Ручкі бралі — набраліся,
Насвяціліся вочкі
Аж да цёмнае ночкі. [140]

Жніўная песня рэалістычна адлюстроўвала жніўную працу і праз яе ўнутрысямейныя, грамадскія адносіны. Але якім бы нялёгкім ні было жніво, якой бы вялікай затраты фізічных і душэўных сіл яно ні патрабавала ад сям'і земляроба, пры паэтычнай выяве яго ў жніўных песнях не сустрэнеш панылага натуралізму, бяскрыласці думкі. Тая ж стома, скарга жнеі ў іх асветлены магіяй паэтычнага сузірання, паэтычнага асэнсавання чалавечай душы, акаляючага свету. Жніўныя песні, як правіла, — рэалістычны злепак з жыцця, падсвечаны святлом сардэчнасці, спагады, клопату за чалавека:

Ой, час-пара дадоманьку,
Упала раса на ножаньку,
Старым бабам ручкі крэпнуць,
Малоданькам дзеткі плачуць,
А дзевачкам вянкі вянуць. [141]

Сіла рэалістычнага малюнка, які аб'ектыўна адбівае ў сабе жыццё, у нейкіх адной-дзвюх паэтычных дэталях, што імгненна высвятляюць увесь яго аб'ём, уздымаюць, дакладней, няўзнак пераносяць у нейкае іншае, чым сама рэчаіснасць, вымярэнне.

Вобраз жнеі, цэнтральнай постаці жніўнай паэзіі, раскрываецца, ствараецца ў ходзе паказу, выявы жніўнай працы, усёй атмасферы жніва. Абагульнены, тыпізаваны, ён паўстае з асобных штрыхоў. У некалькіх песнях ёсць накід нават знешняга выгляду жнеі, выгляду, абумоўленага абставінамі сялянскага

---

[139] Жніўныя песні. С. 174.
[140] ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 44.
[141] Federowski M. Lud białoruski. T. 5. S. 741.

быту, жніўнай працы: «За спіною калысачка, а на руках дзіцятачка», «Я, малада, з прыгону йшла, пад поясам сярпок нясла, на ручачках дзіцятачка», «Ой, я з поля цяку, бягу, да сярпочак за поясам...» Уласна, гэта ўжо не партрэт, а цэлы абразок. Ен адлюстраваў у сабе той бытавы факт, што сялянская жанчына вымушана была браць з сабою на ніву малое дзіця. Асабліва часта бралі грудных дзяцей, не маючы магчымасці прыйсці з поля некалькі разоў на дзень, каб пакарміць іх. Здараліся выпадкі, калі ў лясістай мясцовасці, а раней яна была характэрнай для Беларусі, на дзіця, пакінутае жняёй пры снапах, ля мяжы, нападалі ваўкі ці мядзведзі. Жніўная песня асэнсоўвае гэту жыццёвую сітуацыю часцей не ў трагічным плане. Хутчэй як папярэджанне, засцярогу. Кампазіцыйную аснову песні складае маналог жняі з мядзведзем. Звычайна перапалоханая жанчына прапануе лясному жыхару ўзамен дзіцяці ўзяць яе пасажную карову («А малодачка жыта жала», «Я пад борам жыта жала»). Мядзведзь жа часцей выступае ў песні своеасаблівым спагаднікам. Ен толькі напамінае жанчыне, што завінулася з сярпом на пастаці, аб яе пакінутым, заплаканым дзіцяці і выказвае сваю бязраднасць дапамагчы ёй. «Ой, рад бы я панасіці, ды баюся — не ўкусіці», «Ой, рад бы [redacted] калыхаці, ды баюся, каб не ўдраці»,— намякаюць, засцерагаюць ад імя звера творцы песні. Такія жыццёвыя рэаліі, як немаўля, узятае жняёй з сабой на пожню, дазваляюць песням апаэтызаваць мацярынства, хараша раскрыць душэўны свет жанчыны — пяшчотнасць, задушэўнасць (песні «Жала [redacted] да жыцечка», «Павей, павей, вецярочак»). У гэтых творах думка жняі, скіраваная да дзіцяці, што спіць у калысцы, зацененае прыдарожнай бярозай, складае асноўны змест іх, нясе ў сабе глыбокі гуманістычны пачатак.

Вобраз жняі паўстае з мазаікі абразкоў, сцэнак, імгненняў, паэтычна ўвасобленых песнямі. Асобныя з гэтых абразкоў перадаюць дынаміку самой жніўнай працы, вынікаюць з яе. З некаторых з іх можна «ўхапіць», адзначыць рысы характару натуры актыўнай, руплівай у працы: «Відзіць, відзіць маё вочка: беражочак недалёчка. Бачыць і другое, што шчэ гоней двое»; «Добра жаць — шырокая ніўка, вялікая пастаць»; «Ой, дайце мне загон-разгон...»; «У мяжу, жнейкі, ў мяжу...».

Натуральна, што шырэй, паўней духоўны свет свой раскрывае жняя ў песнях-маналогах, лірычных выказваннях, прысвечаных бытавым перажываннем. Паняцці «крыўда», «справядлівасць», у тым ліку сацыяльная, асэнсоўваюцца на шырокай гуманістычнай аснове, з глыбокім адчуваннем красы слова, мастацкай гармоніі.

Характэрны, скажам наперад, такі факт. Калі ў жніўных

сямейнай тэматыкі жняя прадстае абяздоленай, прыгнечанай, часцей наракае на неспагадных свякроў, свёкра, то ў творах, дзе абазначаны сацыяльны канфлікт, адзнака прыгнечанасці ў абліччы цэнтральнага вобраза жніўнай паэзіі знікае. Гэта не значыць, што ў песнях, дзе на сцэну выступае сутыкненне інтарэсаў пана, яго слуг, з аднаго боку, і працаўніцы-жнявы, з другога, зусім не чутно скаргаў, жалю на пана-крыўдзіцеля. Але ў гэтай групе твораў не яны дамінуюць. Дамінуе іншае. Жняя (жнеі) не толькі адмаўляе ганебнае права памешчыкаў бязлітасна эксплуатаваць залежных ад іх людзей, але і дзейна пратэстуе супроць крыўды, несправядлівасці, прыгнёту. Менавіта жніўныя песні ў беларускім фальклоры вылучаюцца вострай антыпанскай, антрыпрыгоннай ідэйнай скіраванасцю. Менавіта яны нясуць у сабе актыўны сацыяльны пратэст супроць прыгнёту чалавека чалавекам. І гэты пратэст выражаецца не толькі ў форме праклёну, які гучыць як абрадавае закліканне (песня «Бадай пану ў двары страшна»). Ён набывае форму іроніі, тыпова народнага спосабу высмейвання аб'екта асуджэння, калі слухача запрашаюць у сведкі паразважаць самога, што перад ім за з'ява, за здарэнне. Такі спосаб асуджэння, калі факт падаецца, падсвечваецца без націску:

А ў нашага пана дзіва,
Што па месцу жніва.
Зоры ўсходзяць — снапы зносяць,
Куры пяюць — копы кладуць,
Світаначкам да дому йдуць. [142]

Гэта толькі вобразная канстатацыя з'явы, без акрэсленага выказу адносін да яе. Годна ўвагі, што ў песнях, дзе такія адносіны выказваюцца безаглядна, робіцца гэта з пачуццём мастацкай меры, лапідарна дакладна. Хоць, здавалася б, дзе ўжо там пошук эстэтычных субстанцый, калі баліць ад крыўды і першае гнеўнае слова просіцца ў радок:

У добрага пана
Пры месячку жыта жала.
Бадай яму кроўна,
Што пускаў дадому цёмна,
Бадай яму горка,
Што пускаў дадому зоркай. [143]

Іронія жніўных песень бывае, аднак, вельмі адметная сваімі намёкамі. Жніўная песня, напрыклад, у спакойнай эпічнай манеры можа расказваць:

---

[142] Булгаковский Д. Г. Пинчуки. С. 59.
[143] Жніўныя песні. С. 81.

Зайшло сонца, узышоў месяц,
А нашага пана вядуць вешаць.
Вядуць яго на паветра,
Няхай жа ён праветрае,
Мо назаўтра палепшае.[144]

Натурай дзейнай, рашучай, здольнай пастаяць за сваё чалавечае права, паўстае жняя з некаторых жніўных песень. Яна пасміхаецца над сваім крыўдзіцелем, войтам, што «п'яны ў карчме ляжыць» («Калі ж тая серада прайшла»), а з абрыдлым прыганятым абяцае сама ўчыніць суд скоры і правы:

Да ўжо сонейка за лес коціцца,
Мне, малодзенькай, дамоў хочацца:
Да ўжо ручанькі нарабіліся,
Да ўжо ножанькі нахадзіліся,
Да ўжо вочанькі наглядзеліся,
Ужо приставанька настаялася.
Я приставаньку да ражном прайму,
Сама, малада, дамоў пайду.[145]

Песні жніва, у якіх выкарыстоўваецца яго атмасфера, рэаліі для асвятлення сямейных узаемаадносін, вылучаюцца нейкім шырокім паэтычным падыходам да тэмы, гуманістычным вырашэннем яе. У іх узнаўляюцца малюнкі прыгоннай рачаіснасці, асуджаюцца праявы патрыярхальнага быту. Яны маюць элегічна-мінорны тон. У песнях выкарыстоўваюцца самыя розныя з'явы побыту, якія высвятляюць адносіны да жняі-маладзіцы з боку мужавых бацькоў. Акцэнтуецца ўвага на іх чорстваcці, неспагаднасці, што асабліва рэльефна праступаюць у час звароту стомленай цяжкай працай нявесткі з нівы:

Да пара дамоў, пара,
Мне, маладой, пары няма:
У мяне дома не свой бацька,
У мяне дома ліхі свёкар,
Пераймае ў вароцейках
З цісовымі насільцамі,
З залатымі вядзёрцамі,
Шле мяне па вадзіцу,
У шчыры бор, у крыніцу.[146]

Вельмі натуральным, псіхалагічна апраўданым выглядае ў песнях разважанне-ўспамін маладой жняі аб родным бацьк-

[144] Жніўныя песні. С. 89.

[145] Карский Е. Ф. Белорусские песни села Новоселок-Затрокских...// Рус. филол. вестник. Т. 21. С. 255.

[146] Жніўныя песні. С. 168.

кавым доме і мара-просьба пра тое, каб «селязенька, крылейка быстрэнька» перанёс «таткаву негу к свёкру на падвор'е». Маладая жанчына міжволі супрацьстаўляе спагаднае, чулае стаўленне да яе дома, калі яна, стомленая, вярталася са жніва. і абыякавую або прыдзірлівую сустрэчу ў мужавай хаце, у свекрыві. Гэта арганічна жыццёвае параўнанне, супрацьстаўленне знайшло выраз і ў паэтычна-вобразным вырашэнні тэмы, перш-наперш у кампазіцыі твораў. Думка ў песнях развіваецца па лініі антытэзы, падзяляючы кампазіцыю твора на дзве роўныя часткі:

Ой, жыта жну, пажынаю,
На дарожку пазіраю,
Да ці скора маці ісціме,
Мне абедаць нясціме?
Нясе хлеба булачку
І мядочку ў кубачку.
Я жыта жну, пажынаю,
На дарожку пазіраю,
Да ці скора свякроў ісціме?
Нясе хлеба скарыначку
І вадзіцы ў чарапочку.[147]

Параўнанні-супастаўленні маці і свекрыві ў жніўных песнях набываюць глыбокае зместавае напаўненне, маюць псіхалагічна дакладны малюнак і вельмі стройную кампазіцыю. У дадатак асобныя з іх вылучаюцца своеасаблівай, уласцівай толькі жніўнай песні рытмаарганізацыяй страфы.

Добры вечар!
Халодная хатка, няродная матка.
Добры вечар!
Не пытаіць,
Да ці баляць ручкі, да ці баляць плечкі,
Не пытаіць.
А пытаіць,
Да ці многа зжала, ці многа нажала,
Да пытаіць.
Добры вечар!
Да цёплая хатка, да родная матка.
Добры вечар!
Не пытаіць,
Да ці многа зжала, ці многа нажала,
Не пытаіць.
А пытаіць,
Да ці баляць ручкі, да ці баляць плечкі,
Да пытаіць.[148]

---

[147] Жніўныя песні. С. 121.
[148] Там жа. С. 187.

Родны свет жняі, пакінуты ёю ў бацькоўскім доме, многаразова ўзнаўляецца, паэтычна інтэрпрэтуецца ў працоўных жніўных песнях, асабліва тых, што спяваліся пад канец рабочага дня на ніве. Ракурсы і спосабы паэтычнай выявы яго разнастайныя. Кантраст не абавязкова разгорнуты. Яго магло не быць зусім. Супастаўленне можа рэалізавацца ў падтэксце. Лірычная гераіня гэтых жніўных песень прамаўляе не ад свайго імя. Яна патрапляе раскрываць уласныя перажыванні праз вобразы блізкіх, родных. Уяўленне вяртае яе да роднага дому. Здаецца маладой жняі — і гэта не разрыў мары з рэчаіснасцю, не неадпаведнасць паэтычнага вымыслу жыццёвай праўдзе — што не журлівая свякроў, а маці чакае стомленую яе на вячэру; клапоціцца пра тое, чаму доўга няма дачкі з поля, бацька:

Як на двары змяркаецца,
За мной татка пытаецца:
— А дзе ж мая прыгонніца,
Прыгонніца-нявольніца? [149]

Той жа спогад, той жа клопат у маці: «Мяне мамунька ждала, вароцечкі адчыняла: ідзе мая прыгонніца, прыгонніца-нявольніца, не дзень была — нядзелечку...» Думкаю жняя (лірычная гераіня) імкне ў добры, спагадны, чалавечы свет, створаны ў песні.

Сярод працоўных жніўных песень ёсць невялікая група твораў, паэтычны змест якіх складае роздум над доляю ўдавы, сірочым лёсам. Вызначаюцца яны глыбокім псіхалагізмам і мастацкай завершанасцю. Наяўнасць гэтых твораў у песенна-жніўным рэпертуары абумоўлена жыццёвымі акалічнасцямі. Жніво як вялікі гаспадарчы клопат, з якім прасцей было справіцца сям'ёю, абвастрала пачуццё бязраднасці адзінокай жанчыны, удавы з дробнымі дзецьмі.

Глыбока чалавечны погляд народа на сіроцтва, удовіну долю пераканаўча выяўляюць жніўныя песні «Гула пчолка, гула» або «Зазвінела пчолачка», «На ўдоўчыным полі», «Лятала да шэрая перапёлка».

Уласна жніўная песня адлюстроўвала ў сабе адзін, можа, найважнейшы этап жніва — чыста працоўны. Другі, звязаны з завяршэннем гэтай найвялікшай работы ў гаспадарцы колішняга земляроба — дажынкамі, спарадзіў яшчэ большае, багацейшае песеннае суправаджэнне. Калі працоўныя жніўныя песні далі рэалістычныя малюнкі самога жніва, дазволілі паўней

---

[149] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 256.

расказаць пра духоўны свет чалавека, заглыбіліся ў перажыванні сялянскай жанчыны, абумоўленыя яе сямейным становішчам, сацыяльна-грамадскімі абставінамі, то дажынкавыя песні выявілі іншы аспект жніўна-песеннай творчасці. І ў першую чаргу — старажытныя вытокі жанру. У адрозненне ад песень працоўных, песень самога жніва ў дажынкавых пераважаюць велічныя абрадавыя матывы, у паэтыцы выразна адбілася міфалагічнае светасузіранне. У песнях дажынак даволі паслядоўна праглядае сувязь з абрадамі, якія канцэнтруюць у сабе не столькі элементы стыхійна-матэрыялістычных, колькі міфалагічных поглядаў на акаляючы свет, прыроду.

Дажынкавыя песні, паводле сваёй функцыянальнай ролі, набліжаюцца да калядных і валачобных. У іх пераважаюць велічальныя матывы. Гэта радасная, святочная паэзія. Радасць і ўзнёсласць яе ідзе ад усведамлення таго, што скончана вялікая цяжкая праца, а здабыты ў ходзе яе плён прынясе роду, сям'і дастатак, забяспечыць асноўным — хлебам. Яшчэ акадэмік Карскі заўважаў, што ад дажынкавых песень «вее здаволенасцю, цяплом летняга вечара і водарам толькі што зжатай нівы»[150].

Пачыналі співаць «дажынкі», дажынаючы апошні загон. Ад абраду, урачыстаці, прысвечанай заканчэнню жніва, і паходзіць іх назва. Пад спяванне «дажынак» жнеі дажыналі апошні абрадавы сноп, сплыталі вянок з жытніх каласоў і палявых кветак. З імі ішлі дахаты, у двор таго гаспадара, чыю ніву талакой дажалі. Гучалі дажынкавыя песні на падвор'і перад ганкам гаспадара і ў застоллі. Нягледзячы на тое што выкананне дажынкавых песень было абмежавана ў часе, прынамсі, у параўнанні з уласна жніўнымі яны складаюць вялікі раздзел жніўнай паэзіі. Гэта абумоўлена тым, што дажынкавыя песні «забяспечвалі» ўрачыстую частку жніва. Тую частку, той этап, калі чалавек расслабляўся ад скончанай напружанай працы, перажываў здавальненне ад здабытага плёну і мусіў падумаць аб тым, каб «жыта спор», плён захаваўся і на будучыню — «на другое лета».

Асноўны дажынкавы абрад, які здзяйснялі жнеі, дажынаючы апошнюю паласу, у цэнтральнай і ўсходняй Беларусі зваўся «завіванне барады». Дажаўшы да краю нівы, жнеі пакідалі лапінку нязжатага калосся — каліў трыццаць. Чыста выполвалі паміж сцяблін траву, клалі на белай палатніне акраец хлеба, затым звязвалі саломінай або чырвонай ніткай (жычкай) верх каласоў, і адна са жней узмахам сярпа зразала гэты пучок

---

[150] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3. С. 205.

калосся — «бараду»». Перад тым як зжаць «бараду», жняя тройчы качалася па ржышчы, прыгаварваючы:

Ніўка, ніўка, аддай маю сілку
На другую ніўку!
На коніка лой, на ніўку гной,
А мне на здароўе!
Судзі, божа, на лета жаці
І ядранейшае і гусцейшае! [151]

Гэта не што іншае, як магічнае закліканне пладавітасці нівы на прышлае лета, а таксама магічны спосаб забяспечыць сілу, здароўе жняі на будучыню. Міфалагічныя ўяўленні хаваюцца і за вобразамі казла, мядзведзя, якія ўпамінаюцца ў песнях, спяваных пры «завіванні барады». Услед за Мангардтам, Патабнёй, Карскім Д. І. Зяленін падзяліў думку аб тым, што ў гэтым дажынкавым абрадзе адлюстраваны ўяўленні старажытнага чалавека аб духах нівы, увасобленых у казлападобных істотах. Адначасова этнограф бачыў у абрадзе «завівання барады» імітацыю, магічнае сеянне хлеба на будучы год [152].

Меў абрадавае прызначэнне і дажынкавы вянок. Яго стараліся плесці з падвойных каласоў — спарышоў. Прынос жнеямі спарыша ў хату ў выглядзе снапка або вянка быў магічным актам заклінання спору. Анімістычнае мысленне надавала спарышу вобраз жывой зоаморфнай істоты. У песнях да Спарыша звярталіся як да хлебароднага боства, падавальніка ўраджаю:

...Сядзь, Спарыш, на покуці,
На покуці да на золаце,
Пі, Спарыш, зеляно віно.
Спары, божа, у маім гумне,
У маім гумне, у маім дварэ:
На таку ўмалот, а ў дзяжы падход,
А ў печы рост, на стале сыццё. [153]

Вобраз вянка з дажынкавых песень не мае ў сабе ніякіх міфалагічных рыс. Выява яго грунтуецца на звычайным паэтычным тропе-метафары. Вянок «коціцца» ў двор, «просіцца» да пакоя; сваю просьбу матывуе тым, што ўжо даволі настаяўся ў полі: «мяне дожджык нахвастаўся, мяне вецер намахаўся». Дажынкавы вянок у песнях — паэтычны сімвал плёну, самога ўраджаю («Каціўся вяночак з поля», «Каціўся вяночак

[151] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 262.

[152] Зеленин Д. Спасова борода: Східнеслов'янські хліборобські обряд жнівярскі // Етнографічний вістник. Київ, 1929. Вип. 3. С. 119.

[153] Шейн П. Белорусские народные песни. С. 209—210.

з гары ды ў далочак», «Ой, коціцца вянок з поля»). Дажынкавая песня дае абагульнены вобраз жніва як вайны:

У нас сягоння вайна была,
У нас сягоння вайна была —
Усё поле зваявалі,
Усё поле зваявалі,
Усё жыта пажалі,
Усё жыта пажалі,
Сабе славы даказалі.[154]

У аснове вобразнага абагульнення песні ляжыць прыраўноўванне вялікай і цяжкай жніўнай працы да ратнага змагання. Не выключана, што якраз ад вобраза-паралелі «жніво — вайна» адштурхоўваўся аўтар «Слова аб палку Ігаравым» у сцэне бойкі на Нямізе, калі маляваў яе як малацьбу, дзе «малоцяць цапамі жалезнымі, веюць душу ад цела»[155]. У дажынкавых велічаннях ёсць сапраўдная паважнасць звароту да гаспадара (гаспадыні), так бы мовіць, рытуальная цырымоннасць, добра відаць дэталізацыя паэтычнай выявы, уласцівая эпічным творам. Пры гэтым высокая паэтызацыя ўсіх бытавых абставін дасягаецца і за кошт элементаў міфалагічнай паэтыкі, і шляхам рэалістычнага адлюстравання быту больш заможных станаў грамадства. Так, напрыклад, у песні «Разгарыся, вячэрняя зорка» ў адным з яе варыянтаў упамінаюцца «высокія церамы» і «тонкія галанцкія абрусы», якімі гаспадыня павінна заслаць стол для частавання жней, што зжалі яе ніву. Для пацвярджэння сказанага мы бяром блізкі варыянт гэтай песні, дзе перш за ўсё з асобай сілай выяўлена падвышэнне чалавека і ўзаемная зычлівасць гаспадыні і жняі-пастацянкі, радасць з выпадку здзяйснення найважнейшай у гаспадарчым годзе падзеі — збору хлеба:

Разгарыся, вячэрняя зорка,
Перад ранняй,
Расхадзіся, наша гаспадынька,
Перад жнейкамі:
Кажы выносіць цісовыя сталы
На чыстыя двары,
Бяры залатыя ключы
З-пад пояса,
Адмыкай жа залатымі ключамі
Зялёную скрыню,
Выбірай у зялёнай скрыні
Бялёвыя абрусы,

---

[154] Шырма Р. Р. Беларускія народныя песні. Т. 3. С. 164.

[155] Слова аб палку Ігаравым. Мн., 1985.

Засцілай, наша гаспадыня,
Цісовыя сталы,
Налівай жа, наша гаспадыня,
Залатыя кубкі,
А частуй жа старшую жнейку —
Пастацяначку:
— Будзь здарова, старшая жнейка,—
Пастацяначка!
— На здароўе, мая гаспадынечка,—
Сенатарачка! [156]

Дажынкавая песня даволі часта прама ці ўскосна звернута да гаспадыні. Здаецца, часцей, чым гэта бывае ў валачобнай паэзіі. І гэта псіхалагічна апраўдана. Гаспадыня як жанчына бліжэй была да жніва. Як правіла, яна сама жала. Але дажынкавая песня, натуральна, яе вылучала. Ставіла побач з гаспадаром, які сустракаў жней на ганку свайго дома, прымаў ад іх дажынкавы вянок, даваў за яго сімвалічную плату.

Дажынкавыя песні, звернутыя да гаспадыні, вылучаюцца асабліва тонкім псіхалагізмам, заснаваным на глыбокім разуменні жаночага пачатку, адрозніваюцца хараством, паэтычнасцю. Вершаваны радок, страфа іх дасканала арганізаваны рытмічна. Архітэктоніка лёгкая, зграбная, грацыёзная. Выяўленчыя сродкі ўжываюцца з бездакорным пачуццём меры. Іх арганічнасць і яскравасць забяспечаны высокім эстэтычным густам і тым, што вобразная фактура непасрэдна ўзята са сферы працоўнай дзейнасці складальнікаў гэтых твораў, на зрэзе іхніх дзейсных адносін з прыродай. Песні «Рада, рада шэра перапёлка», «Ці не выйшла цёмная хмара», «Разгарыся, вячэрняя зорка» — узоры жніўнай паэзіі. Аднак нельга сказаць — тыповыя. Якраз віншавальна-велічальная функцыя дажынкавых песень абумовіла сапраўдную раскошу вобразаў, параўнанняў многіх з іх. У тым ліку ўжыванне не такога характэрнага для жніўнай паэзіі сродку выразнасці, як разгорнуты паралелізм. Ён даволі актыўна скарыстоўваецца толькі ў дажынкавых гаспадарскіх, звернутых і да гаспадара, і да гаспадыні. Але мае рознае сэнсавае напаўненне, зыходзіць з неаднолькавых бытавых і псіхалагічных перадумоў. Гаспадар у дажынкавых песнях, як і ў валачобных, услаўляецца за розум, багацце, перш за ўсё хлебнае. Яго ацэньваюць па тым, як яго гумно «дабром наложана». Наладаванае збажынай гумно, паводле народнага погляду, адлюстраванага ў песнях, і ёсць сведчанне гаспадарскай умеласці, руплівасці, дбання. Яно — натуральны эквівалент заможнасці, багацця земляроба. Дажынкавая песня падымае напоўненае збажынай гумно да сімвала

[156] Шейн П. Белорусские народные песни. С. 213.

дабрабыту. Паэтычную выяву багацця гаспадара яна стварае з дапамогай паралелізму ў пачатку твора і ёмістага адмоўнага параўнання ў канцы яго. Пры гэтым песня часам пачыналася ў форме рытарычных пытанняў. Напрыклад:

— А ці поўна арэхава чара
Ядром налівана?
— Поўна-поўненька арэхава чара
Ядром налівана.
— А ці поўна Іванькава гумно
Дабра накладзена?
— Поўна-поўненька Іванькава гумно
Дабра накладзена:
А некуды конна праехаць,
Ні пехатой прайсці,
Толькі ёсць куды,
Толькі ёсць куды
Салаўю лятаці, дабро аглядаці. [157]

Шмат якія дажынкавыя песні (аб гэтым красамоўна сведчыць іх змест) выконваліся на дажынках у панскім двары. Буйныя землеўласнікі здаўна выкарыстоўвалі народны звычай талакі працаваць-памагаць грамадой у вялікай рабоце не за плату, а за адно толькі частаванне. Гэта стала перадумовай узнікнення даволі багатага пласта дажынкавых песень, звернутых да пана. У адрозненне ад уласна жніўных, працоўных песень, дзе сацыяльны антаганізм пры мастацкай выяве вобраза пана гучыць адкрыта, востра, у дажынкавых ён прытушаны, і гэта натуральна пры віншавальна-велічальнай функцыянальнасці твораў. Узвелічэнне тут ідзе даволі высокай меркай. Пана ўслаўляюць за тое, што «ён дажаў ніваньку ў добры час», у той час як «чужыя паны лянівы, у іх стаіць ніванька да зімы». Яшчэ часцей пры ўзвелічэнні пана дажынкавая песня скарыстоўвае такія рэаліі, як багатыя свірны на панскім двары, той факт, што ягамосць будуе ў розных месцах некалькі двароў і падвор'е яго незвычайнае: там «куна йграе» («У нашага пана харашэнька на дварэ», «Да зялён наш явар, зялён», «А ў нашага пана да на дварэ куна йграла» і інш.). Даволі пашыраны матыў «трох чарадзейных ручаёў», якія нібыта цякуць у панскім двары — з салодкім мёдам, зялёным вінам і пшанічным півам (гарэліцай) («Ды высок наш бор, высок», «Ой, багат наш пан, багат» і інш.).

У цэлым жа міфалагічныя матывы ў дажынкавых велічаннях займаюць не так шмат месца. У іх пануюць рэалістычнае бачанне свету, аб'екта велічання і адпаведныя ім сродкі мастац-

---

[157] Жніўныя песні. С. 515.

кага ўзнаўлення жыцця ў слове. Творцы іх свабаднейшыя ад канона ў параўнанні, напрыклад, з валачобнікамі, якія пры шырокай імправізацыйнасці асноўны змест і стыль велічання вытрымліваюць у строгай манеры. Іронію ж, гумар дазвалялі сабе звычайна ў канцоўках, рацэях.

Есць, вядома, частка і дажынкавых велічанняў, вытрыманых у строгай манеры. Узоры асобных з іх намі былі прыведзены. Большасць жа дажынкавых песень у сам матыў усхвалення ўключалі элементы гумару. А ў сувязі з тым што аб'ектам велічання нярэдка быў пан, жнеі-віншавальніцы патраплялі выказаць у песні нейкія сацыяльна-ацэначныя моманты. Напрыклад, падкрэсліць факт адчужэння пані ад працы: «Наша пані жыта дажала — сярпочка ў руках не дзяржала»[158]. Жнеі-талачанкі маглі дазволіць сабе (гэта ўжо відаць у дажынкавым застоллі) прывітаць пані такім насмешлівым куплетам, як:

Наша пані дабрадзейка
Да злавіла верабейку,
На тры кухні гатавала,
На сем сталоў выдавала,
Яшчэ [redacted] пану пакідала.[159]

Жнеі часта «падахвочвалі» пана на пачастунак за іх цяжкую працу віншавальнай песняй, у якой услаўленне пераходзіла ў намёк, захоўваючы форму і змест велічання:

Вялік наш бор, вялік
Над усімі барамі,
Багат наш пан, багат
Над усімі панамі.
Няма пана дома,
Паехаў у Шклова
Чарачак пакупаці —
Жнеечак частаваці.[160]

Заканчваўся дажынкавы круг песень падзякай богу «за яго выгоду: да за ціхае лета, да за буйнае жыта». Заключныя дажынкавыя песні стварылі старажытны, паводле паходжання, вобраз залатой мяцёлачкі, якая ўвасобіла ў сабе ўсе высілкі працоўнага чалавека па зборы ўраджаю хлеба. Ізноў, як у час зажынак і дажынання апошняга загона, на ніве гучалі заклінальныя матывы, пажаданні ў здароўі і радасці спажываць здабыты ў поце хлеб і за год дачакаць новага збору, новых дажынак:

---

[158] Шырма Р. Р. Беларускія народныя песні. Т. 3. С. 195.
[159] Жніўныя песні. С. 505.
[160] Янчук Н. А. По Минской губернии // Изв. ОЛЕАЭ. М., 1889. Т. 61. Кн. 9. Вып. 1. С. 74.

Залатая мяцёлачка
Памяла й папратала
Да ў гуменцы паскладала.
Судзі, божа, спажываці
Да за рок прычакаці
У радасці, ў весялосці,
У добрым здароўі.[161]

Жніўныя песні характарызуюцца сваёй адметнай сістэмай вобразаў. Перш за ўсё гэта міфалагічны вобраз Спарыша, уласцівы толькі жніўнай паэзіі. Міфалагічны сваімі генетычнымі вытокамі і вобраз Райка, які семантычна ідэнтычны вобразу Спарыша. Вельмі характэрны для жніўнай паэзіі і адметны ў маштабе ўсёй абрадавай творчасці вобраз жняі-пастацянкі. Яго адметнасць у сацыяльнай і псіхалагічнай значымасці, выяўленчай выразнасці.

Жніўная песня дала сацыяльна акрэслены да ўзроўню тыпа вобраз пана-прыгонніка і яго чэлядзі: войта, урадніка-прыганятага. Вобразную спецыфіку жніўнай паэзіі надаюць дажынкавы вянок, вобраз даспелай нівы, постаці (занятай жняёю паласы), прыродныя вобразы і сярод іх — перапёлкі, асэнсаваны з гуманістычных народных пазіцый. Сонца і вецер у жніўных песнях выступаюць не толькі сведкамі, але і непасрэднымі ўдзельнікамі працы жняі на ніве. У жніўнай паэзіі яны не міфалагізаваныя і маюць рэалістычную мастацкую трактоўку.

Збіральны вобраз жыта, збажыны прысутнічае ва ўсёй каляндарна-абрадавай паэзіі. Гэта, можна сказаць, скразны яе вобраз. У жніўных песнях ён выяўляе і супольныя, у нечым тыповыя для ўсёй песеннасці земляробчага календара рысы, і адметныя, уласцівыя толькі жніўнай паэзіі. Але калі ў валачобнай песнятворчасці жыта, ніва выступаюць як аб'ект паэтызацыі адушаўлёнымі вобразамі, то ў жніўнай паэзіі яны — рэалістычны аб'ект дзеяння. Жыта, ніва часта называюцца проста як месца працы, месца дзеяння чалавека. Толькі сярод дажынкавых можна сустрэць адзін-два сюжэты, дзе да жыта звяртаюцца як да адушаўлёнага («Жытца, жытца, ідзі дадому», «Гаварыла ядраное жыта»).

Як і ў іншых цыклах каляндарна-абрадавых песень, у стварэнні паэтычнага каларыту жніўнай паэзіі значную ролю адыгрывае яе выяўленчая палітра. Ніва ў жніўных песнях выступае найчасцей з эпітэтам «шырокая», жыта — «ядраное». Толькі жніўныя песні даюць азначэнне поля «звонкае», г. зн. спеўнае, ад мноства галасоў пявулляў-жней. Уласна жніўна-песенны эпітэт «жоўтае» ў дачыненні да поля. Эпітэт, такім чынам, даў

[161] Карский Е. Ф. Материалы для изучения белорусских говоров. М., 1907. Вып. 4. С. 474.

вобраз даспелай збажыны, зажаўцелай нівы. У жніўных песнях, здаецца, упершыню ў дачыненні да слова «дуброва» ўжыты эпітэт «сіняя»: вобраз узнік ад абагульнення такой рэаліі, як смуга — стан паветра, характэрны для гарачай пары, жніва, спёкі («Пахінуўся зялёны дубочак у сіню дуброву»). Часцей, аднак, можна сустрэць эпітэты «зялёны», «зялёная» ў пары са словамі «бор», «дуброва» («Зялён бор, зялён», «Зялёная дубровачка, чаго рана зашумела?»). Сонца ў жніўнай паэзіі найчасцей сустракаецца з эпітэтамі «жаркае», «яркае» («Ой, закаціся, да жаркае сонца», «Да не запякай ты, жаркае сонца», «Ой, не захадзі ты, яркае сонца», «Ой, закаці, закаціся, жаркае сонейка», «Закацілася ды яркае сонца»). Эпітэт тут адлюстроўваў стан сонца ў гарачую пару і суб'ектыўна-ацэначны момант жней, якім было цяжка жаць пад спякотлівым (жаркім) сонцам.

Вобраз «жыта-золата» таксама спецыфічна жніўна-песенны («Золата, золата на таку малочана, да святліцы прынесена»). Жніўныя, менавіта дажынкавыя песні стварылі метафарычны вобраз самога жніва, жніўнай песні — голасу-спеву, які ідзе па дуброве («Сама пайду дарогаю, голас пушчу дубровою»). Такім чынам, самы беглы погляд на паэтыку жніўных песень пераконвае перш-наперш у тым, што ў ёй трансфармаваны спецыфіка працы земляроба ў час уборкі хлеба, яго ўспрыняцце прыроды на гэтым этапе, а таксама сямейныя і сацыяльныя адносіны, як яны выяўляліся ў працэсе жніва.

**Восеньскія песні.** Самастойны цыкл у паэзіі беларускага земляробчага календара складаюць восеньскія песні. Яны прыдаюць беларускаму песеннаму календару нацыянальную адметнасць, мінорны каларыт. Гэты апошні, відаць, абумоўлены самой парой года, надыходам заміранння прыроды і заканчэннем актыўнай працоўнай дзейнасці земляроба.

Восеньскі каляндарна-песенны цыкл функцыянальна неаднародны. Яго складаюць песні **ярынныя**, або **ярныя**. Яны суправаджалі асенняе, або аўсянае, жніво — збор ярыны. Група песень у народзе традыцыйна завецца «восень». Іх выконвалі пры розных работах, асабліва ў час збору асенніх ягад і грыбоў. Да восеньскага кола песень адносяцца і **ільняныя**, або **ільнавыя** (дыялектная назва), песні — творы, што суправаджалі ўборку і апрацоўку льну і канапель. Да асенніх песень некаторыя збіральнікі фальклору (А. Шлюбскі, П. Шэйн) адносяць і песні **пастухоўскія.** У прынцыпе ёсць пастухоўскія песні розных пор года. Пытанне лакалізацыі пастухоўскіх песень у паэзіі земляробчага календара не даследавана, і слова тут у першую чаргу за музыказнаўцамі: мелодыя ж, асабліва там, дзе адсутнічае абрад, можа быць вызначальным крытэрыем жанру, цыкла.

Спецыфіка восеньскага песеннага календара заключаецца яшчэ і ў тым, што сваю жанравую сутнасць ён праяўляе не на ўсім беларускім этнічным абшары. Класічныя восеньскія песні, узоры жанру, сканцэнтраваны ў паўночна-заходняй Беларусі.

Восеньская песня лірычная па сваёй прыродзе. Лірызм яе мае элегічную афарбоўку. Элегічнасць восеньскіх песень абумоўлена ў першую чаргу душэўным станам чалавека ў асеннюю пару, перажываннямі лірычнай гераіні іх перад вялікай пераменай у яе асабістым лёсе. Справа ў тым, што восень — так складаліся ўмовы жыцця і працы селяніна — стала традыцыйнай парой вяселляў. Час, калі заканчваліся палявыя работы, што забіралі ўсю ўвагу і сілы працоўнай сям'і, самы адпаведны і спрыяльны для вырашэння ўнутрысямейных задач. Восенню, пры гаспадарчым дастатку, вальнейшай часінай ад працы земляробу было найзручней уладкаваць свой сямейны быт: выдаць замуж дарослую дачку, ажаніць сына. Толькі фактам, што восень спрадвеку з'яўлялася парой вяселляў, можна растлумачыць прычыну абсалютнай перавагі ў восеньскіх песнях вясельнай або, дакладней, перадвясельнай тэматыкі. Любоўныя перажыванні ў восеньскіх песнях, асабліва ярынных, займаюць пэўнае месца. Аднак яны ўжо пазначаны драматызмам. Асаблівага драматычнага напружання дасягае лірызм асенняй песні ў яе класічных узорах. Звычайна ў іх малюецца ўяўная, пададзеная ў будучым часе карціна развітання дзяўчыны з родным бацькоўскім домам. Дамінантная тэма восеньскіх песень — тэма будучага замужжа — мае паступовае развіццё. Спачатку развітанне з родным домам малюецца як далейшая перспектыва. Аднак для лірычнай гераіні ўсё ўжо паволі напаўняецца прадчуваннем гэтага развітання. Асенняя прырода, якая звычайна «прысутнічае» ў песні, узмацняе яго:

А ў цёмным лесе,
Люлі, рана, мядзведзь рыкаіць,
Мядзведзь рыкаіць,
Люлі, рана, дзевак пужаіць.
Рыкай, не рыкай,
Люлі, рана,— я не баюся.
Толькі ж баюся,
Люлі, рана, асенняй ночкі:
Асення ночка,
Люлі, рана, цёмна, вяліка.
Яна разлучыць,
Люлі, рана, з айцом і мамкай,
Яна прылучыць,
Люлі, рана, к чуж-чужаніну,
К чуж-чужаніну,
Люлі, рана, к свёкру, свякроўцы.[162]

---

[162] Восеньскія і талочныя песні. Мн., 1981. С. 59.

Прадчуванне гэта набывае ў асобных песнях вельмі канкрэтнае паэтычна-вобразнае выяўленне. Праз паралель з прыродай, бытавое параўнанне. Два абразкі бачна ўяўляюцца лірычнай гераіні песні «Пушчу я паву па Дунаёчку» ў супастаўленні адзін другому. Бацькавы сені, з якімі яна ў думках ужо развітваецца, і свёкравы сені, дзе ёй «цісовы сталы засцілаці, залатыя кубкі наліваці, нялюбых гасцей прыглядаці». Пры паэтычнай рэалізацыі тэмы будучага замужжа дзяўчыны восеньская песня вельмі актыўна і паслядоўна выкарыстоўвае суаднясенне стану асенняй прыроды і перажыванняў чалавека. Паралель «прырода — чалавек» набывае форму разгорнутага псіхалагічнага паралелізму. Яна надае асобным творам вельмі выразную двухчасткавую структуру, зграбную, закончаную архітэктанічна:

— Чаго, лосю, чаго, сівенькі,
Ты к сялу прылягаеш?
Ці ты, лосю, ці ты, сівенькі,
Цяжкую зіму чуеш?
— Хоць цяжкую, хоць няцяжкую,
Не будзе, як лецейка.
Я ўлетку хаджу, травіцу грызу,
Зімою не буду.
— Чаго, дзевачка маладзенькая,
Ты к сталу прылягаеш?
Ці ты, дзевачка маладзенькая,
Ліхую свякроў чуеш?
— Хоць ліхую, хоць не ліхую,
Не будзе, як мамачка... [163]

Зварот да жывой і нежывой прыроды пры раскрыцці тэмы добра выяўляе непасрэднасць пачуцця, выражанага ў песні, узмацняе маляўніча-вобразны лад яе («Кляновая лісцiначка, куды цябе вецер коціць?», «Да што ж ты, лосю, што ж ты, нябожа?», «Ты, баравая цяцера», «Ты, ярынка, ярыся ў полі», «Ай, восень, восень, ты сцюдзёная» і інш.). Яшчэ часцей, чым да прыроды, гучыць у восеньскіх песнях зварот лірычнай гераіні да маці, бацькі. І ён вельмі арганічны і мастацка-прадуктыўны, гэты зварот, у творах, дзе дамінуе перадвясельная тэматыка. Размова-развітанне дзяўчыны з бацькамі перад пакуль няхай яшчэ ўяўнай дарогай у чужую сям'ю нясе ў сабе многа адценкаў пачуцця. Найчасцей гучаць жальба, дакор, выказаныя не без долі артыстызму. Лірычная гераіня папракае бацьку за тое, што не слухаўся яе з вясны і сеяў лён, які не будзе каму ўбіраць,— намёк на скоры выхад замуж («Ой, я табе, татулька, з вясны гаварыла»). Пры перадачы пачуцця трывогі дзяўчыны,

[163] Восеньскія і талочныя песні. С. 191.

яе крыўды на родных асенняя песня выяўляе здзіўляючую вернасць псіхалогіі перажывання і ўменне ўвасобіць яго ў дакладныя зрокавыя, пластычныя вобразы:

Пайшла дзевачка за вароцейкі,
Расплятаючы коскі,
За ёй мамачка, за ёй родная,
Разліваючы слёзкі:
— Пастой, дзевачка, пастой, дзіцятка,
Мы з табой пагаворым.
— Не буду стаяць, не чакаць,
Не буду гаварыці:
Сама знаю, мне людзі кажуць,
Што ў мамачкі не быці.
— Дзіцятка маё, роднае маё,
Не слухай людской моўкі,
Ідзі ў садочак, саві вяночак,
Стань сабе ля дзевачак.
— Мамачка мая, родная мая,
Уся твая няпраўдачка:
Дзевачкі стаяць, па вянку дзяржаць,
А мяне не прымаюць,
Бабачкі стаяць, па сынку дзяржаць
І мяне паджыдаюць.
Дзевачкаў лаўка, дзевачкаў лаўка
Ад кветак сіня-сіненька,
Бабачкаў лаўка, бабачкаў лаўка
Ад слёзачак макрусенька.[164]

Паэтыка восеньскіх песень мае ў сабе ўсе адзнакі рэалістычнага бачання свету творцамі іх. Але пры паэтызацыі чалавека і яна іншы раз не цураецца элементаў паэтыкі міфалагічнай. Напрыклад, у песні, дзе лірычная гераіня выгаворвае маці сваю крыўду за тое, што яна быццам бы лёгка з ёй расстаецца, выкарыстоўваецца прыём наіўнай ідэалізацыі абстаноўкі — эпітэты «новы» і «залаты» ў дачыненні прадметаў быту. Ужываюцца яны з мэтай падвысіць годнасць дзяўчыны, надаць сцэне, сітуацыі адценне неардынарнасці:

У садочку, у халадочку
Салавейка шчабеча.
У новым ганачку,
У залатым крэсле
Дзевачка коску чэша.
Ой, чэша, чэша, перабірае
І з мамачкай размаўляе...[165]

Песні ільняныя, што спяваліся пры ўборцы льну, канапель, як і ўся асенняя паэзія,— творы ярка выражанага лірычнага

[164] Восеньскія і талочныя песні. С. 189.
[165] Там жа. С. 149.

характару. Жанравая адметнасць іх выяўляецца ў шырокім скарыстанні сітуацый, звязаных з уборкай гэтых культур, трансфармацыі бытавых, уборачных калізій у элементы сюжэта, нарэшце, ва ўжытку вобразаў льну, «канапелек зялёненькіх». Тыповая песня гэтай групы «На гары лён», выкарыстоўваючы прыём рэтардацыі, перадае пачуццё кахання, сцвярджае думку, што толькі з любым мілая і радасная праца:

А мне з мілым лён ірванне,
Лён ірванне і гуканне.[166]

Прыродныя вобразы льну і канапель у гэтай групе песень адыгрываюць ролю паралелі з жыццём чалавека. Яны адушаўляюцца, разгортваюцца ў шырэйшае параўнанне, набываюць форму псіхалагічнага паралелізму. Найчасцей пры паэтычнай распрацоўцы каронная тэмы восеньскіх песень — тэмы выхаду замуж маладой дзяўчыны:

Ой, гаварыла канапелечка,
Стоячы ў гародзе:
— Каб не тыя ціхія ветры,
Стаяла б, зімавала б.
Як сталі веяць, сталі павяваць —
Мусілі абламалі.
Ай, гаварыла маладая дзевачка:
— Каб не тыя добрыя людзі,
Жыла б я ў мамачкі.
Як сталі хадзіць, мамачку прасіць —
Мусілі з сабой узяці.[167]

Аналагічна ў кампазіцыйным плане арганізаваны матэрыял і ў песні «Бедаваў зялёны лён». З той толькі розніцай, што зыходная прыродная паралель у творы шырэй разгорнута, вобразна дэталізавана: «Бедаваў зялёны лён, пры дарозе стоячы, галоўкамі звонячы: «ой, бяда ж мая, бяда, што сцюдзёная вясна не дала мне вырасці, майму семю выспеці...»[168] Асобныя ільняныя песні перадаюць любоўныя перажыванні, заляцанні хлопца да дзяўчыны, элегічны роздум маладзіцы над няўдалым замужжам («Як пад гаем зяляненькім», «Сеяў бы лён над борам», «Ты канаплінка, ты зялёная»). Часам нейкі асенні прыродны матыў, як і ў большасці восеньскіх песень, з'яўляецца своеасаблівым эмацыянальным камертонам для раскрыцця лірычнага зместу твора, душэўнага стану лірычнай гераіні («Восень мая да й халодная, апазнілася я канапель браці»).

---

[166] Восеньскія і талочныя песні. С. 306.
[167] Там жа. С. 309.
[168] Там жа. С. 310—311.

На фоне раннетрадыцыйнай каляндарнай лірыкі творы восеньскага цыкла выглядаюць пазнейшымі паводле паходжання. У іх практычна няма элементаў абраднасці, іх шырокі лірызм не абмежаваны рамкамі.

Магчыма, самая позняя ў асеннім песенным пласце невялікая група песень, звязаных з адыходам у салдаты. Гэта не рэкруцкія песні і не салдацкія ў тым разуменні, як мы іх класіфікуем, вылучаем у асобны раздзел пазаабрадавай, сацыяльна-бытавой лірыкі. Тэма адыходу хлопца ў войска ў восеньскай паэзіі, што называецца, наскрозь лірызавана. Яна рэалізуецца праз успрыняцце дзяўчыны, мілага якой забіраюць у салдаты. Пры гэтым песня можа пачынацца з пейзажнага восеньскага матыву («Ой, лістам, лістам дарожка запала»). Нават пры аб'ектывізаванай форме перадачы зместу сэнс паэтычнай выявы адыходу хлопцаў у войска, напрыклад, у песні «У сінім моры чаўны плывуць» раскрываецца праз успрыняцце гэтага факта дзяўчатамі, праз іх перажыванне.

Па-свойму завяршала восеньскі цыкл, падагульняла яго песня з персаніфікаваным вобразам Восені, з праецыраваннем абразка прыроды на чалавечы лёс, духоўны свет дзяўчыны. Фактычна песенная думка ўздымаецца да нейкага шырэйшага жыццёвага абагульнення — аб наканаванасці нечага важнага, векавечнага ў чалавечым лёсе і мудрасці пакласціся на гэта прадвызначанае самой прыродай.

— Ай, восень, восень сцюдзёная,
Чаго рана настала?
— А я й не рана, а ■ й не позна —
Калі мая пара прыйшла.
Лісточак падзець,
Травіцу кладзець —
Ужо й мая пара прыйшла.
Рэчачкі сталі,
Пазамярзалі —
То й мая другая пара.
— Чаго, Ганулька маладзенькая,
Чаго так рана замуж ідзеш?
— А я не рана, а ■ не позна —
Як мая пара прыйшла:
Татулька аддаець, сужанька бярэць —
Вось мая й пара прыйшла. [169]

Каларыт восеньская паэзія ў сваіх складных частках, элементах, вобразах узяла ад асенняй пары як асаблівага этапу ў кругавароце прыроды. Пара замірання прыроднага свету прадвызначыла эмацыянальны змест, танальнасць твораў асен-

[169] АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 164, л. 90.

няга каляндарнага цыкла і ўсю паэтычна-выяўленчую палітру іх. Чуецца ў небе развітальны жураўліны крык, рыкае мядзведзь на ўзлеску ў прадчуванні блізкай зімы, туліцца бліжэй да вёскі, людзей лось, шэпчацца бяроза з ападаючым лісцем, шугае пад асеннім ветрам полымем каліна — усё гэта паэтычна пераасэнсаваны фон чалавечых перажыванняў, думак дзяўчыны пра будучы лёс. Мядзведзь, лось, цецярук, журавы, каліна чырвоная, ярынка, канапліна, залатая макаўка, лён, што стаіць пры дарозе, галоўкамі звонячы, клянoвы лісточак, які вецер коціць, авясец, цёмная асенняя ночанька — тыповыя прыродныя вобразы восеньскіх песень. Яны тонка суадносяцца з жыццём, перажываннямі галоўнай гераіні асенняй каляндарнай паэзіі — лірычнай гераіні, дзяўчыны. У кампазіцыйнай будове тыповай восеньскай песні прыкметную ролю адыгрывае разгорнуты псіхалагічны пералелізм. Ён надае творам заключнага каляндарнага цыкла строгую прапарцыянальнасць архітэктанічных частак, завершанасць і структурную адметнасць. Спецыфічнай рысай восеньскай паэзіі і яе мастацкай формы з'яўляецца своеасаблівы універсальны лірызм, што дало падставу некаторым даследчыкам (Л. Мухарынская) убачыць у асеннім цыкле выток пазаабрадавай лірычнай песні.

**Талочныя песні**. Талочныя песні суправаджалі старажытны грамадскі звычай працоўнай узаемадапамогі — талаку. Талокі склікаліся пры патрэбе калектыўна, грамадой выканаць цяжэйшыя работы ў гаспадарцы. Найбольш вядомы тры віды талок, адпаведных працоўна-вытворчым сезонам: веснавыя, летнія і асеннія. Веснавыя талокі практыкаваліся пры вывазцы гною на поле — рабоце, асабліва працаёмкай. Летнія — у час жніва, калі трэба было хутчэй зжаць жыта. Асеннія талокі збіралі для таго, каб паставіць зруб хаты, апрацаваць лён, радзей — на малацьбу, сяўбу азіміны. Талочныя работы, як правіла, выконваліся без аплаты, здаралася, за адзін пачастунак. Калі ж талака збіралася на ўспамогу беднай аўдавелай жанчыне, памагатыя талачане адмаўляліся і ад частавання. Такім чынам, талака была не толькі ўвасабленнем працоўнага калектывізму, але і высакароднасці адвечнай народнай традыцыі.

Талочныя песні ў сістэме паэзіі беларускага земляробчага календара займаюць асобнае, самастойнае месца. У фальклоры ўсходніх славян яны не маюць сабе аналагаў. Самую большую групу талочных песень, якая і надае ім у цэлым жанравую адметнасць, складаюць творы веснавой талакі.

Характэрнай рысай талочных песень з'яўляецца іх ярка выражаная гумарыстычная афарбаванасць, абумоўленая функцыянальна. Калектыўнае выкананне работы, сам характар яе, адначасовы ўдзел мужчын і жанок настройвалі на вясёлы лад,

жартаўлівасць, абмен досціпамі. Да таго ж талочныя песні ў адрозненне ад дажынкавых, напрыклад, якія спяваліся на полі, па дарозе дахаты і ў двары, выконваліся пераважна ў застоллі. Адсюль у іх і даволі выразны бяседны тон. У параўнанні з творамі асенняга цыкла талочныя песні адлюстравалі ў сабе досыць акрэслена, ярка сам характар талочных работ. У змесце і паэтыцы яны даюць дакладны агульны вобраз веснавой талакі з акцэнтам на тым, што зробленая талачанамі работа цяжкая:

Талака, талака талачылася,
Увесь дзень на полі валачылася.
Мы ўвесь гнаёчак павыносілі,
На падводачках павывозілі
Да ўвесь гнаёчак раскалацілі,
На ручках гнаёчак перадзяржалі,
Ножкамі зямельку перамералі. [170]

Зварот да гаспадара, які даволі часта гучыць у талочных песнях, не развіваецца ў велічальныя матывы. У іх толькі паэтызуюцца і падкрэслена дэманструюцца вынікі работы, выкананай талачанамі, вобразна раскрываецца яе змест. Робіцца гэта як бы дзеля напамінку гаспадару аб узнагародзе талацэ. Натуральна, што гэта мастацкі ход, гульня, умоўнасць, неабходная для развіцця, паэтычнага выказу думкі.

А і добра мы табе, татулька, зрабілі:
Мы твае хлявочкі папаражнілі,
Мы твае нівачкі пазалацілі.
Заплаці ж возьнічкам хоць па грыўнічку,
А сваім капачам — па рубельчыку. [171]

Старажытнасць паходжання талакі і яе паэзіі лішні раз могуць пацвердзіць заклінальныя матывы талочных песень. Закліканне на ўраджай — арганічны матыў талочных песень. Тут ён бачна пераклікаецца з аналагічнымі матывамі ў каляндарна-абрадавай паэзіі іншых цыклаў і перш-наперш зажынкавых песень:

А мы сваймy пану учынілі славу,
Славу учынілі, гнаёк павазілі,
Ніўку украсілі.
Радзі ж, божа, жыта на навозе,
Дай жа, божа, такое й на аблозе,
Жыта ядраное, калоссе буйное! [172]

---

[170] Гілевіч Н. С. Песні народных свят і абрадаў. С. 302.
[171] Там жа.
[172] Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Ч. 1. С. 166.

Пры звароце талачан да гаспадара даволі часта гучыць матыў дакарання. У песнях гаспадара папракаюць за няўвагу да работнікаў, што прыйшлі да яго на талаку. Прычым дакор талачан — артыстычная гульня, спосаб стварыць адпаведны малюнак, настрой даверу, прыязні. А ў канечным выніку за ім відаць імкненне выканаўцаў песні заахвоціць гаспадара да шчодрага частавання. Часам дакор аб гаспадаровай уяўнай няўвазе да талачан гучыць адкрытым тэкстам: «Няслава, няслава, Іванька, твая, не п'яна, не п'яна талака твая». У іншых песнях папрок гаспадару саступае месца артыстычнаму таргаванню з ім за пачастунак. Пры гэтым адна палова талачан, жаночая, магла падсмяяць, папракнуць у гультайстве другую, мужчынскую, тых, хто нагружаў вазы гноем:

Таргуйся, таргуйся, Кірылку, з намі,
Мы твае поленька золатам слалі,
Золатам, золатам да ўсё серабром.
Дай жа нам, Кірылка, хоць па талеру,
Важцяйкам, важцяйкам — хоць па рубельчыку,
Капачам, капачам — хоць па бізунчыку,
Што яны табе наругаліся,
На стайні конікі настаяліся,
У полі жоначкі напяяліся.[173]

Ініцыятыва ў талочных песнях належала дзяўчатам і жанчынам, трасенніцам, паводле функцыянальнай іх ролі ў веснавой, гнаёвай, талацэ. Ад іх найчасцей і зыходзіць гумар, досціп, уменне пасмяяцца і з гаспадара, і з гаспадыні, а больш за ўсё з тых, з кім рабілі адну работу,— з мужчын-капачоў, або кідачоў, якія накідалі гной на вазы, і з важтайкаў, звычайна падлеткаў, што вывозілі яго на поле, дзе трасенніцы разбівалі, растрасалі ўжо па загонах. Ідзе супрацьстаўленне трасенніц і капачоў аналагічна таму, як супрацьстаўляюцца хлопцы дзяўчатам у жартоўных купальскіх песнях. Тут толькі ў адпаведнасці са сваімі ўмовамі, рабочай спецыфікай веснавой талакі. Найчасцей талочныя песні прадстаўляюць мужчын-капачоў як «п'янюсенькіх», што яны «покатам ляжаць», у той час як «на ніве жоначкі, як званкі, звіняць». Або яшчэ нагляднеи, вобразней, з пэўнай асацыяцыяй:

А ў хляве мужчынкі, як жучкі, гудзяць,
На полі жоначкі, як пчолкі, звіняць.[174]

Многія талочныя песні, як і жніўныя ды іншыя абрадавыя, спяваюцца ад імя грамады, калектыву. Але нямала сярод іх

---

[173] Шейн П. В. Материалы... Т. 1. Ч. 1. С. 205.

[174] Шейн П. В. Белорусские народные песни. С. 130.

з ярка выражаным індывідуальным пачаткам. Індывідуалізаваны паэтычны выказ у талочных песнях насіў розны характар, меў розны змест. Талочнае застолле, вясёлы бяседны настрой схілялі да выказвання гумарыстычнага. Псіхалагічна быў зразумелы тут і выклік, тон задзірысты:

Талачу, талачу, гарэлкі хачу,
Не дасцё гарэлкі, не буду пяяць. [175]

Нельга не зразумець і прылюднае апраўданне, выказанае ў талочнай песні: псіхалагічная атмасфера бяседы змушала да адкрытасці, можа, спавядальнага тону, апраўдання:

На мяне казалі — пасялушачка,
А я ў свайго таткі весялушачка.
На мяне казалі — па сялу хаджу,
А я ў свайго таткі работку раблю. [176]

Лірычная гераіня апелюе да калектыву, як бы заклікаючы людзей у сведкі, што, маўляў, нагавор на яе несправядлівы: яна работніца і на талацэ і ў бацькі. Апраўданне лірычнай гераіні можа пераходзіць у выклік, сцвярджаючы натуру незалежную, характар насмешлівы:

Талака, талака талачылася,
Таўкучы, мелючы, і змарылася,
Сеяла мучыцу — апылілася.
Выйшла на вуліцу — скаланулася
Ды сваім суседкам наругнулася.
Работка мая ўся пыльная,
Маім суседзям да й завідная. [177]

Характэрна, што рытміка талочна-песенных індывідуальных выказванняў энергічная, імпульсіўная, нагадвае сабою рытміку песень да танцаў.

Аднак ёсць сярод талочных песень група твораў, у якіх вясёлы, скочны тон змяняецца на роздум, спакойную плынь слова ў радку. Гэта ў асноўным песні аб долі, аб сямейным жыцці: пры рознай нагодзе жыццё з яго карэннымі праблемамі заяўляла пра сябе ў песенным слове («Нядоля, нядоля, няшчасце маё», «Ішла я, малада, быстраю ракою», «Дунай з морам пасціраліся», «Лятала паванька ў саду, па саду», «Шырока валока — мяжы не відаць», «Бяроза, бяроза караністая» і інш.).

---

[175] Восеньскія і талочныя песні. С. 363.
[176] Гілевіч Н. С. Песні народных свят і абрадаў. С. 306—307.
[177] Там жа. С. 304.

Жніўная песенная талака натуральна і арганічна злілася з дажынкамі, дажынкавымі песнямі. Талочныя песні дажынак часцей, чым іншыя талочныя, малююць вобраз самой талакі:

Ішла талака з чыстага поля,
З круглае ніўкі.
— Гаспадынька, запалі свечку,
Выйдзі на сустрэчку. [178]

Вобраз талакі ствараецца ў форме тропа дзякуючы пытальнай эпічнай інтанацыі:

А што ў полі шуміць, гудзе,
Шуміць, гудзе?
Там талака дамоў ідзе,
Дамоў ідзе. [179]

У песнях летняй, дажынкавай, талакі яшчэ часцей, чым у творах веснавой, чуецца зварот да гаспадароў. Пры гэтым годнасць гаспадыні часта падвышаецца («Ай, жарка, то жарка ў лозе калінцы», «Ці не пчолка зазвінела звонка?», «Прыўкрасна каліна пры дарозе стаяла»). Часам жа, аднак, дапускаецца і зніжэнне яе вобраза. Жнеі-талачанкі могуць «дапытваць» гаспадыню строга («Гаспадыня-цяцера, ці гатова вячэра?», «Гаспадыня-рара пайшла дамоў рана»). Далікатна намякаецца на ўстурбаванасць гаспадыні перад прыймом талакі («Гаспадыня тужыла, што вялікая дружына»). І ў гэтым плане гаспадыня крыху супрацьпастаўляецца гаспадару, які, паводле слоў песні, не бянтэжыцца, «што вяліка дружына», сардэчна запрашае, «таму рад: садзіцеся ўсе ў рад». У песнях дажынкавай талакі даволі часта чуцен голас саміх гаспадыні і гаспадара («Ах вы, столікі мае, вы цясовенькія», «Ах вы, мілы мае бабачкі», «Чые гэта жонкі?»). Ініцыятыва, натуральна, застаецца ў жней. Талачанкі падбадзёрваюць гаспадара патрэсці кудзеркамі — прынесці гарэлкі («А хто ў нас кудраваты», «А ў нашага гаспадара», «Дажалі мы жыта да самай граніцы», «Талачанкі не пяюць, ім гарэлкі не даюць»). Жнеі-пяюллі дазваляюць сабе гуллівы тон у дачыненні да гаспадара, асабліва гаспадара-пана («А ў нашага пана як стаіць дык стаіць»).

У цэлым тон талочных дажынкавых песень лагодны: заканчэнне працы, застольная бяседа схілялі да дабрадушнага настрою, зычлівасці, здаволенасці. Тонкі гумар, дасціпнасць

---

[178] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 1 і 2. С. 275.
[179] Гілевіч Н. С. Песні народных свят і абрадаў. С. 302—303.

самі сабой спадарожнічалі ўмовам, атмасферы дажынкавай урачыстасці:

Ай, на масту да пад мастом
Да ўсё жоўтыя краскі,
Да ўсё жоўтыя краскі,
Ай, ці маем, ці не маем
Іванавай ласкі, Іванавай ласкі?
Ай, хоць маем, хоць не маем,
Яшчэ пагуляем, яшчэ пагуляем,
Гарэлачкі салодкае
Яшчэ папіваем, яшчэ папіваем. [180]

Асенняя талака вельмі слаба запісана нашымі фалькларыстамі. Нават буйнейшыя сярод іх прайшлі міма яе. Тым часам узоры восеньскіх талочных песень сведчаць аб высокай іх паэтычнасці. Асенне-талочныя песні закранаюць тэму ўдовінай долі («Пайду я, малада, дзе ветры веюць», «А на ўдоўчынай гарэ»). У іх распрацоўваецца ўласцівая ўсяму восеньскаму цыклу тэма скорага выхаду замуж дзяўчыны:

Час дамоў, час дамоў, час дамованькі,
А ў нашым дамочку раёчкі ўюцца:
Ўсё раі, ўсё раі, ўсё не пустыя,
Ўсё мяды, ўсё мяды, ўсё салодкія.
Хто етыя мядочкі будзець падразаць,
Хто ж етыя раёчкі будзець аграбаць?
Падрэжэць мядочкі мой родны татка,
Аграбець мядочкі мой родны братка,
А вып'ець мядочкі мая родная мамка. [181]

Акрамя ідэйна-сэнсаваай асаблівасці талочныя песні, асабліва веснавой талакі, маюць свой рад паэтычных вобразаў. У першую чаргу тыя, што атрымалі сваю назву і змест ад функцыі чалавека на талацэ, характару выконваемай ім работы. Гэта вобразы трасенніц, капачоў, або кідачоў, важтайкаў. Адметныя ў талочных песнях, прычым гэта аднолькава адносіцца як да паэзіі веснавой, так і жніўнай талакі, вобразы гаспадара і гаспадыні. І гэта адметнасць абумоўлена спецыфічнай іх роллю на талацэ, пры талочным застоллі. Яны выступаюць гасціннымі і ўдзячнымі людзьмі ў дачыненні да талочных работнікаў. У песнях летняй талакі яны больш падсвечаны гумарам, больш markrазнабакова выяўлена ў слове іх натура. Выкарыстоўваюцца ў талочных песнях элементы старой, міфалагічнай паэтыкі: вобразы золата, серабра ў іх уласцівым для міфалагізаванага

[180] Рубцов Ф. Ольшанские песни. Л.; М., 1971. С. 19.
[181] Восеньскія і талочныя песні. С. 434.

мыслення напаўненні. Аднак, натуральна, дамінуюць вобразы рэалістычнай паэтыкі. Побач з агульным вобразам талакі ўжываецца толькі ёй характэрны эпітэт «талачыстая» ў сэнсе вясёлая, жвавая, дзейсная. Вядома, узятыя асобныя штрыхі паэтыкі талочных песень могуць даць толькі агульнае ўяўленне аб мастацкай прыродзе гэтай паэзіі. Тут, як і пры разглядзе ўсіх іншых разнавіднасцей каляндарна-абрадавай творчасці, давялася абмяжоўвацца мінімумам. Хацелася б спадзявацца, што пры пэўнай нарысавасці разгляду песень гадавога круга, зробленага намі, рэальныя рысы аднаго з найбагацейшых раздзелаў паэтычнай народнай культуры беларусаў усё ж раскрыты, праступаюць акрэслена. Урэшце, сама паэзія беларускага земляробчага календара, прадстаўленая ў гэтай анталогіі, можа найлепей засведчыць пра актыўнае духоўнае жыццё народа ў мінулым, клопат аб захаванні этнасу, яго творчай патэнцыі. Думаецца, што такія духоўныя здабыткі беларусаў даюць права гаварыць аб іх рэальным укладзе ў сусветную культурную скарбніцу. Анталогія беларускай каляндарна-абрадавай паэзіі падрыхтавана з улікам усёй папярэдняй працы айчынных фалькларыстаў. У рабоце над ёй у першую чаргу скарыстаны вопыт выдання акадэмічнага збору беларускай народнай творчасці: у прыватнасці, тамоў каляндарных песень, над якімі працавалі Г. А. Барташэвіч, А. І. Гурскі, Л. М. Салавей, А. С. Ліс і музыказнаўцы В. І. Ялатаў, З. Я. Мажэйка, Г. В. Таўлай.

*АРСЕНЬ ЛІС*



## КАЛЯДКІ І ШЧАДРОЎКІ
## ПЕСНІ КАЛЯДНЫХ ІГРЫШЧАЎ

1. А Калядачкі, а хадзіце к нам,
Ой, рана, рана, а хадзіце к нам.
А хадзіце к нам, а мы рады вам,
Ой, рана, рана, а мы рады вам.
Нашы праснічкі паламаліся,
Ой, рана, рана, паламаліся.
Верацёначкі пагубляліся,
Ой, рана, рана, пагубляліся.
Нашы пальчыкі паспрадаліся,
Ой, рана, рана, паспрадаліся.
І пярсцёначкі пасціраліся,
Ой, рана, рана, пасціраліся.
Каб вас, Калядак, нядзель дзесятак,
Ой, рана, рана, нядзель дзесятак.
Мы бы, дзевачкі, нагуляліся,
Ой, рана, рана, нагуляліся.
І Калядак наўспаміналіся,
Ой, рана, рана, наўспаміналіся.

2. Прыехала Каляда на белым кані,
Яе konічак — ясен месячык,
Яе дружачка — ясна зорачка,
Яе пужачка — ясна звёздачка,
Яе вазочак — з тоўстага лядку,
Яе кажушок — з белага сняжку.

3. Прыехала Каляда ў вазочку
Да на сівенькім канёчку.
Прыехала Каляда ўвечары,
Прывезла дудак рэшата.
Паставіла дудкі на стаўпе,
А сама села на куце.
Зайграйце, дудкі, тоненька,
Скачыце, дзяўчаткі, хорашанька.
А вы, хлопчыкі, пазірайце,
Сабе дзевачак выбірайце.

4. Прыехала Каляда ўвечара
Да прынесла дудак рэшата.
Паставіла дудкі на стаўпе,
А сама да й села на куце.
Скінуліся дудкі з стоўпа далоў,
Круціцеся, хлопцы, к чорту дамоў.
А вы, дзевачкі, ґуляйце,
Залаты персцень пускайце.
Як найдзеце — аддасцё.
— Будзе мяне маці біць, караць
Да на вуліцу не пушчаць.

5. Прыйшлі Калядкі ўвечары, ўвечары,
Прынеслі кілбаскі ў рэшаце, ў рэшаце.
Паставілі рэшата на стаўпе, на стаўпе,
Самі селі за сталом на куце, на куце.
А вы, музыкі, іграйце, іграйце,
А вы, дзеванькі, гуляйце, гуляйце.
А вы, кілбаскі, з стоўпа далоў,
з стоўпа далоў.
А вы, дзеванькі, к чорту дамоў,
к чорту дамоў.
А ты, красуня, астанься, астанься
І са мною звянчайся, звянчайся.

6. Ехала Каляда з Полацка
У маляваненькім вазочку,
На вараненькім канёчку,
Заехала к Васілю на двор.
— Васіль, падары Каляду!
— Ці пшаніцай? — Не хачу,
Хачу вечнага падарка — дзевачкі!

7. Як пайшла Каляда
Упярод Ражаства,
Каляда, Каляда!*
Прынесла ж Каляда
Рэшата бліноў,
Рэшата бліноў,
Берасцень мёду.

*Паўтараецца пасля кожнага двухрадкоўя.

Дзеткі блінамі
У мёд макалі,
У мёд макалі,
Каляду ўспаміналі.

8. А Калядачкі,
Бліны-ладачкі!
А Калядачкі,
Нашы нежачкі,
Паўбівалі вы
Чорны сцежачкі.
Адна сцежачка
Пайшла ў гарод,
А другая —
У чыстае поле,
А трэцяя —
К быстрай рэчцы.
Што ў гарод пайшла —
То наесціся,
У чыстае поле —
Нагуляціся,
К быстрай рэчцы —
То напіціся.

9. За сяньмі, сяньмі там за новымі,
Шчодры вечар, добры вечар!*
Стаіць святліца нова зрублёна.
У той святліцы чатыры акенцы:
У першым акенцы — да яснае сонца,
У другім акенцы — да ясны месяц,
У трэцім акенцы — да дробныя звёзды,
У чацвёртым акенцы — да цёмная хмарка.
Яснае сонца — то жонка яго,
Ясны месяц — то сам гаспадар,
Што дробныя звёзды — то дзеткі яго,
Што цёмная хмарка — то жыта яго,
А з карэньчыка — каранiстае,
А з саломінкі — сцяблістае,
А з каласочка — каласістае.
А дай жа, божа, пану гаспадару,
Ой, жыці-быці, піва варыці,
Піва варыці — сыны жаніці,
Гарэлку гнаці — дочкі замуж даваці.
Шчодры вечар, добры вечар!

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

10. Добры вечар таму, хто ў етым даму,
Добры вечар добрым людзям!
А ў етым даму сам пан гаспадар,
Шчодры вечар добрым людзям!
Сам пан гаспадар да й на покуце,
Шчодры вечар добрым людзям!
Да й на покуце ўвесь у золаце,
Шчодры вечар добрым людзям!
Ой, каля яго да й жана яго,
Шчодры вечар добрым людзям!
Ой, каля яе дзетачкі яе,
Шчодры вечар добрым людзям!

11. Ой, у ляску, у ляску
На жоўтым пяску.
Святы вечар, святое Васілле!*

Пчолкі гудуць,
Цэркаў будуюць.

Да збудавалі
З трыма вярхамі,

З трыма вярхамі,
З трыма акнамі.

У першым акенцы —
Ясен месячык,

У другім акенцы —
Ясна сонейка,

У трэцім акенцы —
Ясныя зорачкі.

Ясен месячык —
То гаспадарчык,

Ясна сонейка —
То гаспадынька,

Ясныя зорачкі —
То іх дзетачкі.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

12. Ці дома, дома
Сам пан гаспадар?
Добры вечар,
Сам пан гаспадар.

Ой, калі дома,
Выйдзі паслухай.
Добры вечар,
Выйдзі паслухай.

Выйдзі паслухай,
Што ў бары гудзе.
Добры вечар,
Што ў бары гудзе.

Што ў бары гудзе —
Пчолка-матка йдзе.
Добры вечар,
Пчолка-матка йдзе.

Пчолка-матка йдзе
І райкі вядзе.
Добры вечар,
І райкі вядзе.

Семяністыя
І мядзістыя.
Добры вечар,
І мядзістыя.

13. Чы дома ж, дома ж сам пан гаспадар?
Ой, калі не дома, адзенеш шубку,
Адзенеш шубку і выйдзі на вулку,
Паслухай таго, што ж у хмары гудзе,
У хмары гудзе — сам гаспод ідзе,
Гаспод ідзе і роенкі вядзе,
Роенкі вядзе, рэдка саджае.
— Сядзіце ж, пчолкі, усе ж у навічэнькі,
А я, старая, у старычэнькі,
Насіце ж, пчолкі, салодкі мядок,
А я ж, старая,— жоўты ашчэчак —
Сыту сыціці, сынкі жаніці,
Свечкі ж сукаці, дочкі даваці.

14. Хадзілі-блудзілі
Семсот малайцоў.
Святы вечар! *

Семсот малайцоў
Да й каляднічкаў.

Прыблудзіліся
К новаму двару,

К новаму двару,
К пану Івану.

— Ой, пазволь, пане,
Поле змераці.

Поле змераці,
Стада згоняці.

Поле змераці —
На шыр шырокі.

Стада згоняці —
На глыб глыбокі.

Мы ж твайго двара
Не мінаема.

З святым Раждзяством
Велічаема.

У тваёй хаце
Усе сталы стаяць.

Усе сталы стаяць
Пазасціланы.

А кубкі стаяць
Паналіваны.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

15. Ці дома, дома сам пан гаспадар?
Святы вечар, святы Васілеў!
Ой, калі ж ты спіш — гасподзь з табою,
А калі не спіш — гавары са мною,
А не са мною — з сваей жаною,
А не з жаною — з сваімі дзеткамі,
А не з дзеткамі — то з суседкамі,
Не з суседкамі — з добрымі людзьмі,
З добрымі людзьмі, што к табе прыйшлі,
Што к табе прыйшлі, радасць прыняслі,
Да трое гасцей, трое радасцей:
Ой, первы госцік — яснае сонца,
А другі госцік — свецел месячык,
А трэці госцік — дробненькі дожджык.
Усхвалялася яснае сонца:
— Ой, як я ўзыду у нядзельку рана,
То ўзрадуецца ўвесь мір хрышчоны,
Увесь мір хрышчоны да й нараджоны.
— Ой, усхваляўся свецел месячык:
— Ой, як я ўзыду ўночы-паўночы,
То зрадуецца шчука у моры,
Шчука у моры, а звер у полі,
А звер у полі, купец у дарозе.
Ой, усхваляўся дробненькі дожджык:
— Ой, як я пайду тройкай у маю,
То зрадуецца жыта-пшаніца,
Жыта-пшаніца, ўсяка пашніца.

16. Пане гаспадару, ці спіш, ці ляжыш,
Ці спіш, ці ляжыш, ці нас чуеш?
Адчыні акно, паглядзі ў гумно,
Што ў тваім гумне сам бог ходзіць,
Сцірты лічыць і цябе клічыць,
Цябе клічыць, дар табе даць:
Табе самому — сто коп жыта,
А жане тваей — шубу да долу,
Сыночкам тваім — да па коніку,
Да па коніку, да па вараненькім,
Дачушкам тваім — да па вяночку,
Да па вяночку па руцьвяненькім.
Пане гаспадару, не кажы таміць,
Не кажы таміць, проша нас дарыць!
Проша нас дарыць, наш дар невялік:
Коўш гароху, рэшата бобу,

Асьміну аўса, наверх каўбаса,
Калі другую, то падзінькую.
Пане гаспадару!
Аддаўшы нам дар, сам жыві здароў
З дзеткамі, з жаной і з усёй сям'ёй.

17. У нашага пана,
Пана гаспадара,
Пасярод двора
Стаіць абора
Нова зрублена,
Не дарублена.
А ў той аборы
Да стаяць волы
Сівы, паловы.

— Стань, пане,
Пане гаспадару,
Стань, не лянуйся,
Стань, абуйся.
Пайдзі да клеці,
Вазьмі амеці,
Там у куточку
Перагні бочку.
Вазьмі ў карабочку
Да кармі ж волы
Сівы, паловы,
Залатыя волы,
Залатыя рогі.
Яго рагатык
Да ялованькі.
Яго плашанькі
Да берастовыя.
Яго сошнечкі
Да шталёвыя.
Яго палічкі
Да яловыя.
Яго падпалічкі
Да грушовыя.
Яго падвоікі
Да шаўковыя.
Яго кручочкі
Да штабовыя.
Яго ярэмчык

Буковенькі.
Яго кульбачкі
Да дубовыя.
Яго занозікі
Да лазовыя.
Яго ражочкі
Да месанзовыя.
Яго павадочкі
Да шаўковыя.
Яго асценчык
Да чарамховы.
Яго сошанькі
З шчырага золата.
Як едзе ў поле,
Бярэ яхота.
— Судзі ж, божа,
Вясны даждаці,
Да паедземо
У поле гараці.
Да пагарэма
Горы, даліны,
Да павалачэньма
Варанымі коньмі.
Да пасеялі
Гарным насеннем
Жыта, ярыны
І ўсякай пшаніны.
Дай жа ж, божа,
Шчоб горы гараў
Да грошы набраў.
Што на гарэ —
То на вяселлі,
А што ў даліны —
То на радзіны.
Сцялі, божа, валы,
Шчоб хлеба далі.

Паздароў, божа,
Гаспадара і гаспадыню,
Шчоб валы даглядалі
І гаравалі.

18. Ластаванька чарненькая
К акенечку прыпадае,
Гаспадара пабуджае.

Шчодры вечар, добры вечар!
Дай жа, божа,
Усім людзям на здароўе!*

— Устань, пане гаспадару,
Вазьмі сабе ліхтараньку,
Пайдзі сабе ў стаеньку.

У стаеньцы параданька,
Усе кабылкі пажарабіліся,
Усе конічкі парадзіліся.

Ластаванька чарненькая
К акенечку прыпадае,
Гаспадара пабуджае.

— Устань, пане гаспадару,
Вазьмі сабе ліхтараньку,
Пайдзі сабе ў абораньку.

У абораньцы да параданька,
Усе кароўкі пацяліліся,
Усе бычочкі парадзіліся.

Ластаванька чарненькая
К акенечку прыпадае,
Гаспадыньку пабуджае.

— Устань, пані гаспадынька,
Вазьмі сабе ліхтараньку,
Пайдзі сабе ў аўчараньку.

У аўчараньцы да параданька,
Усе авечкі пакаціліся,
Усё баранчыкі радзіліся.

Гаспадынька, годзі спаці,
Ідзі куціцы накладаці.
Гаспадынька скрута хадзіла
Да й ключы пагубіла.
Ой, там ключы на скрыні,
Там для нас ляжаць штыры сыры.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

19. — Ой, чые ж то пастушкі
Раненька волы пасвілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Раненька волы пасвілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то волы
Раненька ў полі буялі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Раненька волы буялі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце ў полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то пастушкі
Гусі папасалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Гусі папасалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то пастушкі
Свінні папасалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Свінні папасалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то пастушкі
Авечкі папасалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Авечкі папасалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то наймічкі
Лэшкі асыпалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Лэшкі асыпалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то касарыкі
Рана сена касілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана сена касілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то грабільнічкі
Рана сена грабілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана сена грабілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то насільнічкі
Рана копіцы насілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана копіцы насілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то стажэльнічкі
Рана сена стажылі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана сена стажылі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то жэнчыкі
Рана жыта жалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана жыта жалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то вязальнічкі
Росна жыта вязалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана жыта вязалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то кладзільнічкі
Жыта ў копы клалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Жыта ў копы клалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

Ой, чые ж то савачэнькі
Раненька жыта сеялі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Раненька жыта сеялі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то вазільнічкі
Рана жыта вазілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана жыта вазілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то малацільнічкі
Рана ў клуні жыта малацілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана ў клуні малацілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

А за тым словам
Да бувай здароў.
Дай, божа, шчоб гаспадар
Пражыў доўга на свеце
Да замышляў сваімі
Вернымі слугамі.

20. Ходзіць, паходзіць
Месяц па небу.
Сляты вечар! *

Кліча, пакліча
Зоры з сабою.

— Ох вы, зорачкі,
Сястрыцы мае.

А хадзем жа мы
Пана шукаці.

Пана шукаці,
Пана Восіпа.

Сядзіць пан Восіп
За сваім сталом.

За сваім сталом,
У новых будынках.

За сталом сядзіць,
Тры кубкі дзяржыць.

У першым кубку —
Зеляно віно.

У другім кубку —
Кудрава піва.

У трэцім кубку —
Саладок мядок.

Зеляно віно —
Ля самога яго.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Кудрава піва —
То дзеткам яго.

Саладок мядок —
То жане яго.

21. Пане гаспадар, бог цябе заве,
Святы вечар! *

Бог цябе заве, дар табе дае,
Дар табе дае, валы паруе,
Паруе валы усё палавыя,
Усё палавыя, усё вараныя.

Пане гаспадар, бог цябе заве,
Бог цябе заве, дар табе дае,
Дар табе дае, коні стайлуе,
Стайлуе коні на тры стайненькі,
А вараныя ды й на чатыры.

Пане гаспадар, бог цябе заве,
Бог цябе заве, дар табе дае,
Дар табе дае, стажкі шаруе,
Шаруе стажкі у тры шарачкі,
А пшанічныя да й у чатыры.

Пане гаспадар, бог цябе заве,
Бог цябе заве, дар табе дае,
Дар табе дае, сям'ю роўнюю,
Сям'ю роўнюю, ўсё маладую,
Ўсё маладую, ўсё пакорную.

22. У нашага пана двор гараджоны,
[Двор гараджоны], явар саджоны.

На тым явары сіў сокал сядзіць,
На мора глядзіць, ён дзіва бачыць.

Ён дзіва бачыць: караблі плывуць,
На тых караблях па сто малайцоў.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Тыя ж малайцы дорага плацяць,
Дорага плацяць, па сто чырванцоў.

[Па сто чырванцоў], па яснай ветцы,
Па яснай ветцы, па краснай дзеўцы.

— Купім жа, братцы, залаты чоўнік,
Залаты чоўнік, срэбна весельца.

Спусцімся, братцы, да таго пана Івана,
Дай яму, божа, шчасця, здароўя ў яго даму.

23. Ой, па-над морам, па-над глыбокім,
Святы вечар! *
Там стаяў явар тонкі, высокі.
На тым явары саколік сядзіць,
Саколік сядзіць, у мора глядзіць,
У мора глядзіць, з рыбай гаворыць:
— Ой, рыба, рыба, як ты глыбока,
Як ты глыбока, а я высока.
Табою, рыбай, гасцей вітаці,
А маім пяром лісты пісаці.

24. А ці дома, дома сам пан гаспадар?
Святы вечар! *
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новым гумне жыцечка вее.
Ой, хадзем да яго, узвесялім яго:
Ці не дасць ён нам недавеечкаў,
Недавеечкаў на гарэлачку,
На гарэлачку, на кватэрачку?
Да ці дома, дома да яго жана?
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новай свяцёлцы белы кужаль чэша.
Ой, хадзем да яе, узвесялім яе:
Ці не дасць жа нам недачосачкаў,
Недачосачкаў на гарэлачку,
На гарэлачку, на кватэрачку?
Да ці дома, дома да яго дачка?
Ой, нам казалі, што няма дома,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў новай клеці белы хусты качае.
Ой, хадзем да яе, узвесялім яе:
Ці не дасць яна нам па хусцінячцы,
Па хусцінячцы па бялесенькай,
Па бялесенькай, па танесенькай?
Да ці дома, дома да яго сынок?
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новай стайні каня сядлае,
Каня сядлае, з канём гаворыць:
— Ой, коню, коню! Прадам я цябе,
Прадам [redacted] цябе за сто чырвонцаў,
За сто чырвонцаў, за чатыры грошы,
За чатыры грошы, што ты не харошы.
— Ой пане, пане, уздумай прыгоду:
Калісь мы былі ў турэцкай зямлі,
За намі стрэлы, як дым, ляцелі,
За намі кулі зямлю пабілі.

25. Ды хадзілі, гулялі калядоўшчыкі,
Каляда, Каляда! *
Ды сачылі, пыталі багатага двара.
Багаты двор — Пятра дом.
Каля яго двара ўсё шаўковая трава,
Усё шаўковая трава, усё жалезны тын,
Стаўбы тачоныя, пазалачоныя, вароцікі сярэбраныя,
Падваротніцы — рыб'і костачкі, зашчэпачкі медзяныя.
На яго двары да чатыры церамы стаяць:
У першым цераму — ясен месяц,
Другі церам — ясна зара,
Трэці церам — дробны звёздачкі,
Чацвёрты церам — буён вецер.
Ясен месяц — сам гаспадар,
Ясна зара — яго жана,
Дробны звёздачкі — яго дачушкі,
Буён вецер — яго сыны.
Самаго гаспадара дома няма,
Паехаў ён у Сібір-горад.
Паехаў ён суды судзіць і рады радзіць.
Накупляў ён гасцінчыкаў:
Жане купіў кунню шубу, баброў каўнер,
Каля вората ўсё золата, падолля ўсё саболля.
Дачушкам купіў па вяночку па пярловаму,
Па платочку шаўковаму.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Сынам купіў па коніку па вараненькаму,
Па ўзды купіў па залатой.
Сабе купіў залот персцень
На праву ручку, на мізены палец.
Самаго гаспадара дома няма,
Паехаў у Тын-горад рыбку лавіць краснакрылышку.
Трахнуў-махнуў правай рукой,
Зраніў, зраніў залот персцень
З правай рукі, з мізенага пальца.
Яго жана дасужа была:
Закінула тры невады, тры шаўковых.
Не ўлавіла ж яна залот персцень,
Улавіла яна трох акунёў златапёранькіх,
Златапёранькіх, златакрыленькіх.
Павязла ж яна іх на торг таргаваці,
Торг таргаваці, акунёў прадаваці:
За адзін акунь — па сто рублёў,
За другі акунь — па тысячы,
Трэцяму акуню — цаны няма.
Яго цана ў гаспадара на масце,
У гаспадара на масце, у Пятра на стале,
На століку на дубовенькім,
На скацерці на шаўковенькай,
На талерачцы на фарфоравенькай.
Ён пакачываець, паварачываець,
Залатой казной ён пабразгіваець.
— Ты, Пётрачка, сам гаспадар.
Жана твая — гаспадыня,
Дарыце гасцей, не байце басцей.
Гэты госці не частыя, у гадочак толькі разочак.

*Калі гаспадар не выходзіць, яму пяюць:*

Не хочаш дарыць, пойдзем з намі
Снягі таптаць, сабак дражніць, людзей смяшыць.

26. А ў нядзелю ранюсенька
Ішлі хлопцы, удалыя малойцы,
Ішлі ж яны гукаючы,
Багатага двору пытаючы,
Багатага двору да чэснага пана.
А ў нашага пана зялезны тын,
Зялезны тын, мядзяныя вароты,
Падваротнічкі — з рыб'яй костачкі.
— Пане гаспадару, адчыні аконца,
Адчыні аконца, глянь у роўна польца.

Панскае поле зрана туманіста,
Зрана туманіста, жыта каласіста.
Запрагайце коні да ўсё вараныя,
Пасаджайце жнейкі да ўсё маладыя.
Да паедзем у поле жыта зажынаці,
Як раз разнём — капу нажнём,
Другі разнём — сто коп нажнём.
А ў нашага пана сталы засціланы,
Сталы засціланы, кубкі наліваны.
У адным кубку — то віно зеляно,
У другім кубку — яравое піва,
У трэцім кубку — то мядок саладок.
Зеляное віно — для самога пана,
Яравое піва — для жаны яго,
То мядок саладок — для дзетак яго.
Ці ў слых табе, пане гаспадару?
Калі ў слых, даруй гасцей,
Не баў, бардзей!
Чырвень злоты — нам на боты,
Саракоўку — на падкоўку,
Гарнец водкі — для паходкі.

Ото ж табе, пане гаспадару,
Песня спета напроць лета.
Той рок правадзіці,
Другога дачакаці
У радасці, весялосці,
Каб багаты быў
Да нас не забыў.

27. Ой, ішла Каляда калядуючы праз сяло,
Зайшла ж яна да пана Сцяпана пад акно:
— Ой, пане Сцяпане, харошыя дочкі ў цябе,
А што ж твае харошыя дочкі рабілі?
— А што ж мае харошыя дочкі рабілі?
А ў стадоле ды ўсё пшанічаньку мералі.
Намералі трыццаць шынкоў і чатыры,
А тыя чатыры вам, калядні́чкам, Каляда!

28. Ой, пад вярбою, пад зеляною,
Святы вечар! *
Ой, там стаяла мужаў грамада,
Мужаў грамада, вяліка рада.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Станьма мы, братцы, у вяліку раду,
Пастройма мы, братцы, залаты човен,
Леньма-паленьма да сваго пана.
А наш бо пан — слаўны багатыр,
Слаўны багатыр, дарага плаціў,
На месяц плаціў па сто чырвоных,
Па сто чырвоных, па вараным кані.
На тым кані залатое сядло,
А на тым кані залата грыва.
Залата грыва персцень укрыла.
На тым сядле пышнае дзіця,
Пышнае дзіця — малады Іванка.

29. А ў пана, пана, пана Васіля
Двор гараджоны,
Бог яму даў вумную жану Арынку. *
Двор гараджоны, садам саджоны.
Закупіла яна да тры гарады:
А першы горад — ўсё з мужыкамі,
А другі горад — ўсё з панамі,
А трэці горад — ўсё з казакамі.
А з мужыкамі — поле пахаці,
А з панамі — суды судзіці,
А з казакамі — вайну чыніці.

30. Добры вечар, Шчодры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар!

А ці дома пані твая?
А я бачу — яна дома.

Добры вечар, Шчодры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар!

Яна дома, не гуляе,
Піражочкі расчыняе.

Добры вечар, Шчодры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар!

А ці дома пан гаспадар?
А я бачу, што ён дома.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Добры вечар, Шчодры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар!

Што ён дома, не гуляе,
Чаляданьку даглядае.

Добры вечар, Шчодры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар!

На ім шуба шубалёва,
Прычаплёна калітачка.

Добры вечар, Шчодры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар!

А ў калітцы, у той новай,
Усім гасцям па златому.

Добры вечар, Шчодры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар!

31. А чалом, чалом пад акенечкам,
Святы вечар пад акенечкам! *
— А ці дома, дома, пані гаспадыня?
— А няма ў доме, сядзіць у каморы,
Сядзіць у каморы, шые, вышывае.
А на рукаўцы — сівы галубцы,
А на палічкі — дробныя пташачкі.
Сівы галубцы як не паляцяць,
Дробныя пташачкі як не шчабечуць,
Малыя дзеткі як не гавораць.

32. Ой, рана, рана каваліха ўстала,
Святы вечар добрым людзям!
Каваліха ўстала, кавалёў будзіла:
— Уставайце, кавалі, куйце тапары,
А йдзіце ў лясы, ішчыце дуб'ё,
Цяшыце бруссе, масціце масты.
Чыраз тыя масты ішлі тры празнічкі:
Первы празнічак — святое Ражство,
Другі празнічак — святое Васілля,

* Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Трэці празнічак — святое Хрышчэнне.
Святое Ражство каўбас прынясло,
Святы Васілля сватоў узнасіла,
Святое Хрышчэнне — саўсім вяселле.

33. Ой, у лузе, ў лузе красна каліна,
Святы вечар! *
А красней таго Ганна ў таткі.
Маладая Ганначка па двару хадзіла,
Па двару хадзіла, увесь двор красіла.
У сенечкі ўвайшла — сені заззялі,
У хатачку ўвайшла — паны стаялі,
Паны стаялі, шапкі здымалі,
Шапкі здымалі, яе пыталі:
— Ці ты царэўна, ці каралеўна?
— Я не царэўна, не каралеўна,
Я Йванава дачка Ганначка.

34. Ля варот, варот высокі цяром,
Святы вечар добрым людзям! *
А ў тым цераме дзевачка сядзіць,
Дзевачка сядзіць, кужалёк прадзець
Свайму татухну на сарочачку,
Сваёй матухні на намётачкі,
Сабе, маладзе, на падарачкі.
Яе брахненька з войска прыехаў,
Прывёз жа ён ёй тры падарачкі:
Первы падарак — пярловы вянец,
Другі падарак — залаты персцінь,
Трэці падарак — зялёны саян.
Пярловы вянец галоўку клоніць,
Залаты персцінь ручку цісніць,
Зялёны саян след замятаіць.
Яна прыбраўшысь у цэркаўку пайшла,
На ўсходцы ўзышла — сходцы абламіла,
У цэркаўку ўвайшла — цэркаўку свяціла.
Князі, баяры дзіваваліся:
— Ці царэўна йдзець, ці каралеўна?
— Я ні царэўна, ні каралеўна,
Бацькіна дачка, злічная панначка.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

35. ...У нашага пана двор гароджаны,
Добры вечар, шчодры Васілей!
Двор гароджаны, садам саджаны,
Добры вечар, шчодры Васілей!
А ў тым садзе хадзіла зверка,
Добры вечар, шчодры Васілей!
Гэта не зверка, маладая дзеўка,
Добры вечар, шчодры Васілей!
Шыла-пашыла шоўкам кашулю,
Добры вечар, шчодры Васілей!
Шчэй на падоле — бурыя арлы,
Добры вечар, шчодры Васілей!
А на рукавах — ясны сакалы,
Добры вечар, шчодры Васілей!
Бурыя арлы хочуць сядаці,
Добры вечар, шчодры Васілей!
Ясны сакалы хочуць ляцеці,
Добры вечар, шчодры Васілей!

36. Там за садамі трава-мурава,
Шчодры вячор, багаты вячор! *
На той мураве — бела бяроза,
На той бярозе — залаты росы.
Як узняліся буйныя ветры,
Абцерусілі залаты росы.
— Ідзі, Ганначка, пазбірай росы
І купі сабе трое надоб'е:
Перша надоб'е — медзяны кубак,
Друга надоб'е — срэбна талерка,
Трэце надоб'е — залаты персцень.
Медзяны кубак — к запіваннечку,
Срэбна талерка — к дараваннечку,
Залаты персцень — то к вянчаннечку.

37. Ой, рана, рана куры запелі,
Каляда, куры запелі. **
Ой, яшчэ раней Ганначка ўстала,
Ганначка ўстала, коску часала,
Коску ўчасаўшы, госцікаў ждала.
Ой, прыехала трое госцікаў,

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

** Прыпеў «Каляда» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Трое госцікаў — ўсе тры жанішкі.
Адныя сталі там за садамі,
Другія сталі за варатамі,
Трэція сталі з коньмі пад сеньмі.
Што за садамі — тым адказалі,
За варатамі — ручнічка далі,
З коньмі пад сеньмі — Ганначку ўзялі.
Ганначку ўзялі, падзенькавалі:
— Дзякуй, баценьку, за тваю дочку,
Што тонка прала і звонка ткала,
Бела бяліла, чыста хадзіла.

38. А ў полі, полі ды жыта не зжата,
Святы вечар! *
А хто тое жыта ды будзе жаці?
А жала, жала маладая Валечка,
А жала, жала, ў снапы вязала.
Прыехала к ёй семсот казакоў,
Семсот казакоў, семсот малайцоў.
— Не бярыце мяне з чыстага поля,
У майго таткі тры старожачкі:
Першая старожа — сам татка на куце,
Другая старожа — братка ў парозе,
Трэцяя старожа — мамка ў каморы.
Татка ў куце кубачкі поўне,
Братка ў парозе гасцей выглядае,
Мамка ў каморы хусты качае,
Хусты качае, ў скрыні складае.

39. Ой, па мосціку, па залатому, Каляда, Каляда! **
Ой, стучаць, бяжаць калядоўнічкі,
Ой, пытаюцца да новага двору:
— А ў каго, у каго ты, двор новенькі,
Двор ты новенькі, сад вішнёвенькі?
А ў тым садзе тры сталы стаяць,
На тых сталах кружасты абрусы,
А на тых абрусах зялёна віно,
Зялёна віно, пшанічны хлябы.
За тымі сталамі красна панна

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
** Прыпеў «Каляда!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Чэша русу касу, просіць у бога долі,
Каб у зялёным віне выкупалася,
Салодкім мядком abлівалася,
З красным панічком павіталася.

40. Ой, рана, рана куры запелі,
Каляда, куры запелі. *
Ой, яшчэ раней Ганначка ўстала,
Ганначка ўстала, коску ўчасала,
Коску ўчасаўшы, павы пагнала.
Павы жанучы, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў хвартушок клала,
З хвартушка брала, вяночак віла,
Вяночак віла, на Дунай пусціла.
— Хто вяночак пойме, той мяне возьме.
Ой, адазваўся малады Васілька:
— Я вяночак пайму, я цябе вазьму.
Як ступіў нагою — па пояс вадою,
Як ступіў другою — на дно галавою.

41. Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Выйшаў да яе
Бацюхна яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, пагадзі,
Мой жа бацюхна,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

* Прыпеў «Каляда» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Выйшла ж да яе
Матанька яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мая матанька,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Выйшаў да яе
Дзядзюхна яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мой дзядзюхна,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Выйшла ж да яе
Цёцюхна яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі, паждзі,
Мая цёцюхна,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Выйшаў да яе
Братэйка яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мой братэйка,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Выйшла ж да яе
Сястрычка яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мая сястрыца,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Выйшаў да яе
Дзедухна яе:
— Хадзі, унучка,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мой дзедухна,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Выйшла ж да яе
Бабачка яе:
— Хадзі, унучка,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мая бабачка,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Яе суконка
Зямліцу мяце,
Яе чаравічкі
Травіцу шчыплюць.
Гдзе ж узяўся
Да буйны вятрэц,
Вятрэц павінуў —
Венчык скінуў.
Шла ж яна маладэнька,
Як ягадэнька,
Краем, Дунаем,
Па беражэньку.
Стрэла ж яна
Тры рыбалоўцы.
— Тры рыбачэнькі,
Да закіньце мне
Да шаўковы невад,
Да паймайце ж мне
Да пярловы венчык.
Аднаму ж будзе
Пярловы венчык.
Другому будзе
Пазлот пярсценчык,

Трэцяму ж буду
Сама малода,
Як ягода.
Каляда спета
На доўгі лета.
А за тым словам
Да святкуй здарова,
Красная пані,
Пані Ганулька,
Не сама сабою...

42. Да мостам, мостам да вярбованькім,
Шчодры вечар, добры вечар! *
Ішла тудэма слічна паненка,
Несла мёд-віно ў туравым розе.
За ёю, за ёю панскі сыночак:
— Пажджы, пажджы, слічна паненка,
Дай мне мёд-віна пакаштаваці,
Віна пакаштаваці і цябе паймаці.
— Не тваё дзела, панскі сыночак,
Віно каштаваці і мяне паймаці.
Ты ж не бачыў сошкі-баронкі,
Хай табе за гэта — варона жонка.
Да мостам, мостам да вярбованькім
Ішла тудэма слічна паненка,
Несла мёд-віно ў туравым розе.
За ёю, за ёю пахарскі сыночак:
— Пажджы, пажджы, слічна паненка,
Дай мне мёд-віна пакаштаваці,
Віна пакаштаваці, цябе паймаці.
— То ж тваё дзела, пахарскі сыночак,
Віно каштаваці і мяне паймаці.
Ты і з коніка да не ссядаеш,
Буйна жыта да вырашчаеш.

43. Там на рэчаньцы, там на быстранькай,
Святы вечар людзям добрым! *
Стаіць перавоз слічнай паненкі,
Слічнай паненкі, панны Ганны.
Прыйшлі да яе тры браткі яе:
— Перавязі нас, слічная паненка.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Не маю часу да перавозу.
Ужо ж мой татулька з дарогі прыехаў,
Прывёз жа ён мне тры гасцінчыкі,
Тры гасцінчыкі да тры венчыкі:
Першы гасцінчык — пярловы венчык,
Другі гасцінчык — чэрзлосны персцень,
Трэці гасцінчык — зялёна сукенка.
Пярловы венчык — на вянчаннейка,
Чэрзлосны персцень — на заручаннейка,
Зялёна сукенка — на пагуляннейка.
Пярловы венчык галоўку клоніць,
Чэрзлосны персцень ручаньку цянець,
Зялёна сукенка — то краса яе.

44. Шыла Сонечка,
Шыла шаронку, Сонечка.

Сонечка-пані,
Гавары з намі сціхенька. *

Ой, у падолі
Ясныя зоры, Сонечка.

Шыла-ўшывала,
Зоры ўкладала, Сонечка.

Ой, у падолі
Ясныя зоры, Сонечка.

А на рукаўцах —
Ясен месячка, Сонечка.

45. А ў лесе, ў лесе
Стаяла святланка арэхавая,
Святы вечар! *
А ў той святланцы — дзеўка Алёнка,
Дзеўка Алёнка шыла шырынку.
Першую сшыла красненькім шоўкам,
Другую сшыла беленькім шоўкам,
А трэцюю сшыла чорненькім шоўкам.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Што белым шыла — татку аддала,
А красным шыла — мацеры дала,
А чорным — то брату дала,
Золатам рубіла — то другу дала.

46. Красна дзевачка, расці скоранька,
Святы вечар, расці скоранька!
Расці скоранька, будзь разумненька.
Прыйдзе к табе кароль у сваты,
Прывязе сукно нямеранае.
Прывязе грошы няшчытаныя,
Прывязе злота няважанае.
Красна дзевачка разумна была:
Узяла сукно перамерала,
Узяла грошы перашчытала,
Узяла злота перавiжыла,
Каралевіча не ўзняважыла.

47. Узышло, узышло тры месяцы,
Гэй, Каляда, Каляда! *
Тры месяцы, ўсе тры ясны.
Было ў маткі тры сыночкі.
Паўставалі, паўмываліся,
Паехалі аж на места.
А на месце тры таночкі,
Тры таночкі, ўсе дзявочкі.
Адзін любіць берасцянку,
Другі любіць кабрынянку,
Трэці любіць каманьчанку.

48. Ці дома, дома сам пан гаспадар?
Святы вечар! *
Няма дома, у новай стайні,
У новай стайні з канём размаўляе:
— Коню, коню, прадам я цябе
За трыста злотых, за тры чырвоных.
— Пане, пане, не прадавай мяне
За трыста злотых, за тры чырвоных.
Як былі мы ў чужой зямлі,
За намі стрэлы, як гром, грымелі,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

За намі кулі поле аралі.
Як я скочыў — мора пераскочыў,
Не замачыў я капытка,
Ні хваста свайго шаўковага,
Ні свайго пана маладзенькага,
Ні сядзелечка залаценькага.
Узялі мы ясную стрэлку —
Ясную стрэлку, красную дзеўку.

49. Ой, пад лесам да пад высокім,
Ой, там ходзіць стада коней,
Добры вечар, Шчодры вечар! *
А ў том стадзе конь гаворыць:
— Ніхто мяне не паймае, не асядлае.
Адазваўся малады малойчык:
— Я й таго каня паймаю, я й асядлаю.
Ой, паеду ў чыста поле,
Выпалюю дзевяць лісаў,
Дзевяць лісаў, дзесятую кунку
Да сваёй мамачцы на шубку.
Як пачула гэта, загневалася,
Ой, да яго міленькая.
— Ох, не гневайся, мая міла,
Ці ты ж гадавала?
Гадавала мяне родна матанька,
Цёмнай ночы не даспаўшы,
Яснай свечы не тушыўшы,
Ачэпак з ножак не спушчаўшы.

50. Ой, рана-парану да куры запелі,
Святы вечар, да куры запелі.
Раней таго Васілька ўстаў,
Святы вечар, Васілька ўстаў,
Да рана ўстаў, тры свячы ссукаў,
Святы вечар, тры свячы ссукаў,
Да ўсё папаліў, да ўсё папаліў,
Святы вечар, да ўсё папаліў:
Да адну спаліў, абуваючыся,
Святы вечар, абуваючыся.
А другую спаліў, умываючыся,
Святы вечар, умываючыся.
А трэцюю спаліў, браткаў пабуджаючы,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Святы вечар, браткаў пабуджаючы:
— Уставайце, браткі, да хадзем на аблаву,
Святы вечар да хадзем на аблаву,
Да хадзем на аблаву да ў зялёну дубраву,
Святы вечар, да ў зялёну дубраву.
Вам, браточкі, куна ў дзераве,
Святы вечар, куна ў дзераве,
А мне ж, маладому, дзеўка ў цераме,
Святы вечар, дзеўка ў цераме.

51. Ой, як жа па мору да па Дунаю,
Саколе, саколе ясен, малодчык красен Мікола. *
Ен стружа стрэлачкі да ўсё з каліначкі,
Ен стружа, стружа, на Дунай пускае.
— Плывіце, стрэлачкі, да маёй дзевачкі,
Няхай мая дзеўка дары гатуе:
Мамцы — танок-сарпанок,
А татку — каня варанога,
Майму брату — шалковы платок,
Маёй сястрыцы — золат персцянёк,
А мне, маладому, дзеўка-паненка.

52. Ой, за варацьмі
Крутая гара,
Святы вечар! *

Ой, на той гарэ —
Шаўкова трава.

А на той гарэ —
Стада каней ходзіць.

А між тых коней —
Адзін вараны,

Адзін вараны,
Да й не сядланы.

Хлопцы лавілі,
Да й не злавілі.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Адкуль узяўся
Малады Пецечка.

Як к каню прыпаў,
Так коніка ўзяў.

Як сеў паехаў
К новаму двару,

К новаму двару,
К цесцейку свайму.

Цесцейка кажа:
— Вон ясен сокал.

А дзевачка кажа:
— То не ясен сокал,

То не ясен сокал,
То Пецечка мой.

Вазьміце коніка
Да із стаенькі,

Маладога Пеценьку —
Да й да святланкі.

Дайце коніку
Сена аброку,

Маладому Пеценьку —
Мёду і віна,

Мёду і віна,
Сітняга хлеба.

За естым словам
Жывіце з богам.

Святое Ражаство
Радасць прынясло.

Святое Васілле
Развесяліла.

За естым словам
Жывіце з богам.

53. У полі пад шатром Стасюнька з канём,
На вараном кане, на залатом сядле
У гусленькі іграе, злічна спявае.
Прыйшла ж да яго маменька яго:
— Ой, сынку ж, сынку, малады Стасюньку,
Хто ж цябе наўчыў у гусленькі граці,
У гусленькі граці, злічна спяваці?
— Да была ж у караля да адна дачка,
Да тая ж наўчыла ў гусленькі граці,
У гусленькі граці, злічна спяваці.

Мы ж цябе, Стасюньку, не зневажаем,
Да святым Ражаством паздраўляем...

54. На рэчцы, на рэчцы,
Святы вечар! *
Там кладачка ляжыць,
На той кладачцы конічак стаіць,
На тым конічку Іванечка сядзіць,
Хваліцца канём перад каралём:
— Такога каня няма ў караля.
Хваліцца чабатамі перад каралямі:
— Такіх чабатоў няма ў каралёў.
Хваліцца стрэлкамі перад дзеўкамі:
— Такіх стрэлачак няма ў дзевачак,
А ў мяне, маладога, усё дарагое.
Святы вечар! Добры вечар!

55. Там на Тураве, там на мураве,
Святы вечар! *
Стаіць цэркаўка недарублена,
Недарублена, недавершана.
На той цэркаўцы крыжычак стаіць,
А на крыжычку галубок сядзіць.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Як выйшаў, выбег молад Іванька
Да намерыўся на яго страляці.
— Не страляй мяне, молад Іванька,
Я не так сяджу — пшаніцы гляджу.
А што на гарэ—то на вяселле,
А што ў даліне — то на радзіны.

56. А ў лузе, у лузе красна каліна,
Святы вечар! *
Пад тою калінаю калодзезь цячэ,
Молад Іванька коніка поіць.
Коніка поіць, з канём гаворыць:
— Ой, коню, коню, запрадам цябе,
Запрадам цябе за дзвесце рублёў.
— Малады Іванька, не прадавай мяне,
[Не прадавай мяне], дзяржы ля сябе.
Як будзеш ты да жаніціся — памашчу масты,
Памашчу масты ўсё калінавыя,
Пастаўлю стаўбы да ўсё залатыя,
Павешу хусты ўсё шаўковыя.
Як будзеш ты дзевачку вязці,
Забражджаць масты ўсё калінавыя,
Заззяюць стаўбы ўсё залатыя,
Замашуць хусты ўсё шаўковыя.

57. А ў полі, у полі зялёная ёлачка,
Святы вечар, зялёная ёлачка.**
Пад тою ёлачкаю зялёная далінка.
А на той далінцы вараны конь ходзіць,
А на тым кані залатое сядзельца,
А на тым сядзельцы залатое страменца,
А на тым страменцы малады панічык,
А на тым панічыку вішнёвая шапачка,
А на той шапачцы чырвоная кветачка,
А на той кветачцы яравая пчолачка.
То ж не кветачка — яго дзевачка,
То ж не пчолачка — яго жоначка.
Мне з кветкаю толькі дзень быці,
А з жоначкаю трэба век жыці.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

** Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

58. Хадзіла-блудзіла семсот малайцоў,
Святы вечар! *
Семсот малайцоў да й каляднічкаў.
Прыблізіліся к новаму двару,
К новаму двару, к пану Івану.
— Ох, пазволь, пане, поле змераці,
Поле змераці, стада зганіці,
Стада зганіці на калінаў мост.
А калінаў мост да й уламіўся,
Вараное стада да й затанула.
Ох, не жаль жа мне вараного стада,
Толькі жаль жа мне сіўца-варанца,
Сіўца-варанца, белага капытца.
Ён капыцечкам зямліцу сячэ,
Ён хвасцічачкам слядкі замяце,
А грывенькаю ўсё поле ўкрые,
А вушыцамі ўсю роду шчуе,
А вочыцамі ўсё войска згляне.
Ўсё войска згляне, свайго пана знае,
Свайго пана знае, з войска выбаўляе.

59. Гэй, Каляда!
Ой, пелі, пеўні
Рана-percentенька,
Гэй, Каляда! *

Да пабуджалі
Слаўнага пана,

Слаўнага пана,
Пана Васіля:

— Ой, устань, не спі,
Слаўны пане,

Слаўны пане,
Пане Васіль.

Запалі сабе
Да летараньку,

Да пайдзі сабе
Да ў стаеньку,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Выберы коніка,
Што нанайлепшага,

Што нанайлепшага,
Што найнадварнейшага

Спадабаўся яму
Сівы конічак,

Сівы конічак,
Мал, невялічак.

Вялеў служанькам
Яго паймаці,

Хораша ўбраці
Да й асядлаці.

— Вазьмі хортыкі
Да на рацязі,

А саболікі
На белы ручыкі.

Да паедзь сабе
На паляванне,

На паляванне
Да на пагулянне.

Пусці хортыкі
У шчырыя бары,

А саболікі
У чыстае поле.

Хортыкі бяжаць,
Лісіка імчаць,

Саболі лянуць,
Утачку імчаць.

Лісіча шкурка —
Маці на шубку,

Уцяцце мясца —
Маці на юшку,

А пер'ечка —
На падушку.

Яго мілая
Даведалася,

Даведалася
Да й угневалася.

— Ой, хоць гневайся,
Хоць не гневайся,

Хоць гневайся,
Мая мілая.

Да не ты ж мяне
Гадавала,

Цёмнай ночкі
Недасыпала.

Гадавала ж мяне
Мая матанька,

І лілеяла
Мая родная,

Цёмнай ночкі
Недасыпала,

Яснай свечы
Не згашала,

Ачапок з ножак
Не спускала.

А за тым словам
Да святкуй здароў,
Слаўны пане,
Пане Васіль.
Не сам з сабою,
А з сваім айцом

І панею маткай,
Да і з братамі,
Да і з сёстрамі,
Да і з дзядамі, і з цёткамі,
І з дзядамі, і з бабамі,
І з суседамі акалічнымі,
І з добрымі людзьмі
Прыталічнымі.
А шчыпальнічку —
Да чырвон злоты,
А пявальнічкам —
Да і двух мала,
А механошу —
Чатыры грошы
І пірог харошы.

60. Добры вечар таму,
Хто ў етым даму,
Святы вечар, хто ў етым даму. *

Да й няма ж яго дома,
Паехаў на лова,

Паехаў на лова
Куначкі лавіць,

Куначкі лавіць,
Шчодрыкаў дарыць.

— Ой, дарыце, дарыце,
Да й нас не пазніце,

Бо кароткі світкі
Да памерзлі лыткі.

61. У канцы сяла стаяла гара,
Святы вечар! **
А на той гарэ — шаўкова трава,
А ў той траве галубы гудуць,
Галубы гудуць — цэркаў будуюць
З трыма вярхамі, з чатырма вокнамі.

---

* Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Першае ваконца — яснае сонца,
Другое ваконца — ясны месячык,
А трэцяе ваконца — ясна зорка.
У чацвёрта ваконца салавей уляцеў,
Салавей уляцеў, на прастоле сеў,
На прастоле сеў, слёзку ўраніў.
На стале слёзкі пацяклі ракой,
А на той рацэ чаўначок плаваў,
А ў том чаўначку Марцінка сядзіць,
Марцінка сядзіць, стружачкі стружа,
Стружачкі стружа і яшчэ малюе,
Яшчэ малюе і ў пучочкі вяжа,
У пучочкі вяжа, на Дунай пускае:
— Плывіце, стрэлачкі, да мае дзевачкі.

62. Малады Іваначка рожу ссякае,
Ой, дай яму, божа, шчасця,
здароўя ў яго двары! *
У хатачку ўносіць, у мамачкі просіць:
— Парадзь жа мне, мамачка, усе парадачкі,
Каму шырына, каму хусціна.
Маёй мамачцы — тонак серпанок,
Маім братачкам — па шырыначцы,
Маім сястрыцам — па кітаячцы,
Майму татачку — варанога каня,
Мне, маладому,— дзеўка паненка.

63. Зажурылася крутая гара,
Што не парасла шаўкова трава.
Святы вечар добрым людзям! **

Не парасла шаўкова трава,
Да парос, парос зялён вінаград.

Што парос зялён вінаград,
Да хто ж яго будзе сцерагчы?

Малады Яська сцярог ночаньку,
Малады Яська сцярог другую.

Ох, да ён сцярог другую,
А на трэцюю сон яго змарыў.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

** Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

А на трэцюю сон яго змарыў,
Да сільненька ён заснуў.

Прыйшла да яго матачка яго:
— Да ўстань, устань, сыночак мой,

Да ўстань, устань, сыночак мой,
Да ўжо твая стрэлачка да пылам запала,

Твая стрэлачка пылам запала,
Твая дзеванька між дзевачак стала.

— Я сваю стрэлачку з пылу падыму,
Я сваю дзеваньку між дзевачак вазьму.

64. А збегла, збегла з поля старожа,
Святы вечар, з поля старожа. *
Ды прыбегла к Іваньку на двор:
— Ці спіш, ці ляжыш, малады Іванічка?
— Не сплю, не ляжу, лісточкі пішу,
Лісточкі пішу да к паненцы шлю.
— Хоць шлі, хоць не шлі — не твая будзець,
Тваю паненку ў палон забралі,
У палон забралі туркі з татарамі,
Туркі з татарамі, баяр з баярамі.
— А я тых баяр мечам парублю,
А я тых турак канём патапчу,
Я сваю паненку за сябе вазьму.

65. Як задумаў Іван да жаніціся,
Саколе! Саколе ясен, малойчык красен, Іване! **
Да паехаў Іван к каралю ў сваты.
Кароль дочкі не дае, варанога каня выводзіць.
Ён коніка не ўзяў, шапачкі не зняў, не скланіўся.
Выносяць яму паўмісы грошай.
Ён грошы не ўзяў, шапачкі не зняў, не скланіўся.
Вывелі яму маладую Вольгачку.
Ён Вольгачку ўзяў, шапачку зняў да й скланіўся.

* Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

66. Калядка йдзе, сто коні вядзе,
Каляду!
Ой, выйшаў, выбег млоды Ясенька:
Каляду!
— Пазыч, Калядка, свайго коніка,
Каляду!
Паеду сабе дзеўкі шукаці.
Каляду!
Яшчэ Ясенька дзеўкі не знайшоў,
Каляду,
А ўжо Калядка па каня прыйшла.
Каляду!

67. А ў ляску, у ляску круглае поле,
Святы вечар! *
Ой, там Васілька паранінку гарэ.
Прыйшоў да яго баценька яго:
— Ой, гары, сынку, усю паранінку,
Будзем сеяці жыта-пшаніцу,
Жыта-пшаніцу, усяку пашніцу.
Будзема жаці — жанцоў наймаці,
Будзем вязаці вялікі снапы,
Будзем стаўляці частыя копы.
Ходзіш, Трахімка, паміж копкамі,
Як той месячык паміж зоркамі.

68. Ой, бегла, бегла старожа з поля,
Святы вечар! *
Да й ударыла пікай у вароты:
— Ці дома, дома малады Пятрок?
— Ой, няма, няма — дзесь у караля
Суды судзіць, перасудкі бярэць
На тры гарады, як сам малады.

69. Вароты скрыпяць, марозы чуваць,
Ой, рана-рана, марозы чуваць.
А ў цябе, Марцінко, кажушка нету.
— У мяне Марылька цяплей ка́жушка,
Цяплей кажушка, мякчэй падушкі.
На той кажушок з розных цялушок
Рукавец падсцеле, другім апране.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

70. Ой, у мястэчку,
У Берастэчку,
Свят вечар, свят!*

Там стара бабка
Хлеб расчыняла,

Сваго ўнучка
Да калыхала.

Калыбелька
Да пазлачона,

Яе чэпачкі
Да шаўковыя,

Яе ключыкі
Да месянзовыя,

Півіваўчык
Да шаўковенькі,

Яе пялешучкі
Злацені.

Да й калыхала:
— Да люлі, люлі ж,

Да люлі, люлі ж,
Маё ўнучатка.

Судзі ж, божа,
Пагадаваці,
Вяселля даждаці.

71. Ну, ну-ну, казёл,
Ну, ну-ну, нябожа,
Не адбрыквайся,
Паварачвайся —
То на сёй бачок,
То на той бачок!
Да расхадзіся,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Развесяліся
Па ўсяму дому
Па гаспадарскаму!
Дзе казёл ходзіць —
Там жыта родзіць,
Дзе казёл туп-туп —
Там жыта сем коп.
А што ў даліне
Шуміць да гудзе?
Старая каза
Казлянят вядзе.
Ой, вядзе, вядзе
Да навучае,
Сваіх дзетачак
Да затуляе.
А на гары воўк
З ваўчанятамі,
У даліне каза
З казлянятамі.
Як прыйшоў ваўчок —
За казу чок-чок,
А ваўчаняты —
За казляняты.
Як прыбег заяц,
Стаў казу лаяць:
— Ох ты, казінка,
Не гаспадынька:
Узяла б сярпок,
Нажала б снапок
І сваіх дзетачак
Да накарміла,
У ніцу лозачку
Спаць палажыла.

72. Паварачывайся, казёл,
На капыцікі,
На срэбраныя,
На ўсе крутыя.
Дзе казёл ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе прабягае,
Там вылягае.
Дзе казёл рогам,
Там жыта стогам,

Дзе казёл хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе казёл нагою,
Там жыта капою.
Да пайшоў казёл
Па ўсіх старонах,
Да знайшоў казёл
Караля ў зямлі
З каваліхаю,
З гаспадынькаю.
Да ты, гаспадынька,
Не будзь такая,
Як тая была барабаніха,
Барабаніла нашага казла,
Нашага казла не ўдарыла,
Толькі смех учыніла.
Скамароху —
Бочку гароху,
А скамарыцы —
Бочку пшаніцы.
За гэту свечачку
Пайдзі ў клетачку
Да зірні ў бачок,
Дзе стаіць мачок,
Да зірні ў другі,
Дзе стаяць крупы,
Да зірні ў трэці,
Дзе вісяць лейцы.

73. На нова лета
Хай родзіцца жыта.
Шчодры вечар, багаты вечар!
Жыта, пшаніца,
Усякая пашніца!
Жадаем табе,
Слаўны гаспадару,
Піва варыці,
Сынкоў жаніці,
Пасаг збіраці,
Дочак выдаваці.
Залезь на баляску,
Дастань каўбаску,
Стань на драбункі,

Дастань саланінку,
Кошычак маку
Да таго прысмаку.
Шчодры вечар, багаты вечар!

74. Каляда-Калядзіца,
Дайце мачку і крупіцы.
А не дасце, адкажыце,
Маіх ножак не таміце.
На расіцы, на травіцы,
Шчасці, божа, жываціну,
Старое — на пажытак,
Маладое — на прыплодак.

75. Выйдзі, зорачка,
Выйдзі раненька,
Пастой позненька,
Пакуль волікі напасуцца,
Пакуль іванькі засяюцца.

76. А ў заінькі тры думанькі,
Коляда!*
Перша дума — лесам бегчы,
Друга дума — морам плысці,
Трэця дума — полем бегчы.
Лесам бегчы — ваўкі з'ядуць,
Морам плысці — заліешся,
Полем бегчы — стральцы заб'юць.

77. А ў нас сягоння сход Каляд,
Сабірайцеся, дзеўкі, у рад.

Адну зіму песні пяяць,
Будзем іх у рэшаты складаць.

А паставім іх пад дубам,
Нам к налеццю спадобяцца:

Не будзем жыта сеяць,
А будзем песні пяяць!

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

78. Пайшла Каляда калядуючы,
Да за ёю хлопчыкі жабруючы. Каляда!

Пайшла Каляда па ляду,
Рассыпала каляду. Каляда!

А вы, дзевачкі, не гуляйце,
Да йдзіце каляду пабірайце. Каляда!

79. Ой, Каляды-Калядачкі, бліны-ладачкі,
Бліны ржаныя — хлопцы дурныя.
Бліны ячныя — дзеўкі красныя.
Бліны пшанічныя — дзеўкі пышныя.
Бліны аўсяныя — хлопцы п'яныя.
Бліны грэцкія — хлопцы нямецкія.

80. Ішла Каляда калядуючы.
Гэй, Каляда-Калядзіца.*
Каля двору йшла ды бядуючы,
За ёй хлопчыкі ўсё жабруючы.
Прыйшла Каляда к Ляксею на двор:
— Пане Ляксею, просім не трымаць,
Кароткі світкі — сцюдзёна стаяць.
Ці ты спіш-ляжыш, ці нас не чуеш?
Пане Ляксею, дары каляду!
Калі не дасі бочкі пшаніцы,
Бочкі пшаніцы, другой — ярыцы,
Дык ты аддасі младу Марыльку!

81. Да я Каляду да на кут павяду,
Ой, рана, рана, да на кут павяду;
Да мне Каляда да гулянне дала,
Ой, рана, рана, да гулянне дала;
Да я Калядзе кісялю навару,
Што мне Каляда да гулянне дала,
Ой, рана, рана, да гулянне дала;
Да я Калядзе да куцці натаўку,
Што мне Каляда да гулянне дала,
Ой, рана, рана, да гулянне дала;
Да я Калядзе пірагоў напяку,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Што мне Каляда да гулянне дала,
Ой, рана, рана, да гулянне дала;
Да я Калядзе каўбасу спяку,
Што мне Каляда да гулянне дала,
Ой, рана, рана, да гулянне дала;
Да я Каляду да з кута павяду,
Што мне Каляда да гулянне ўняла,
Ой, рана, рана, да гулянне ўняла.

82. Пайшла Каляда калядуючы,
Каляда, да ты Калядзіца *,
За ёю хлопцы жабруючы.
Зайшла Каляда да пана Якіма:
— Чым у пана Якіма вароты завешаны?
— То стужкамі, то паяскамі —
Званке звоняць, сватэ едуць,
Аддай дачку, хоць ядыначку!

Пайшла Каляда калядуючы,
А за ёю хлопцы жабруючы.
Зайшла Каляда да пана Уласа:
— Чым у пана Уласа вароты завешаны?
— Каўбас лыка, пірагоў у века.

Або:

— Лапцямі, лапцямі, ўсё анучамі.
Пайшла Каляда калядуючы,
За ёю хлопцы жабруючы,
Зайшла Каляда ў Янкавы вароты,
А ў пана Янкі ды куццю таўкуць,
Куццю таўкуць, кісель варацю,
Кісель варацю, дзеці плачуць,
Дзеці плачуць, кіі скачуць.

83. Пайшла Каляда калядуючы,
Эй, Каляда! *
А за ёю дзеўкі шчадруючы.
Пайшла Каляда ў адну хату,
А ў гэтай хаце куццю таўкуць,
Пайшла Каляда ў другую хату,
А ў гэтай хаце серабро звініць.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Пайшла Каляда ў трэцюю хату,
А ў трэцяй хаце сала шыпіць.
Пайшла Каляда ў чацверту хату,
А ў гэтай хаце сала шыпіць.
Пайшла Каляда ў пятую хату,
А ў пятай хаце золата блішчыць.
Пайшла Каляда ў шостую хату,
А ў шостай хаце каўбасу пякуць,
Каўбасу пякуць да і нам дадуць
Хоць па маленечкаму кусочку,
Каб любілі хлопцы вашу дочку.

84. — Валадару, валадару!
— Вой, хто там кліча?
— Княжыя людзі.
— Аб чым клічаце?
— Аб княжом дзіцяці.
— А што даруеце?
— Ярыя пчолкі.
— А 'шчэ таго мала?
— Каня пры сядле.
— А 'шчэ таго мала,
— Руцвяны вянок.

— Тут будзьце, тут едзьце.
— Тут будам, тут едам...

85. У канцы сяла да стаіць вярба,
Каляда, да ты Калядзіца!
Да на той вярбе да дзіка каза.
Прыйшоў да яе да сівы ваўчок:
— Да злезь, козка, да патанцуйма,
Да патанцуйма, да пажартуйма!
— Да не палезу, бо цябе баюся:
Калі ў цябе, воўча, вялікія вочы.
— Я ў караля быў, усю ноч свяціў,
Усю ноч свяціў, вочы павялічыў.
А ў канцы сяла да стаіць вярба,
Да на той вярбе да дзіка каза.
Прыйшоў да яе да сівы ваўчок:
— Да злезь, козка, да патанцуйма,
Да патанцуйма, да пажартуйма!
— Да не палезу, бо цябе баюся:
Калі ў цябе, воўча, вялікія лапы.

— На вяселлі быў, каравай пляскаў,
Каравай пляскаў, лапы парасляскаваў.
У канцы сяла да стаіць вярба,
На той вярбе да дзіка каза.
Прыйшоў да яе да сівываўчок:
— Да злезь, каза, да патанцуйма,
Да патанцуйма, да пажартуйма!
— Да не палезу, бо цябе баюся:
Калі ў цябе, воўча, галава вяліка.
— Я ў караля быў, усё судэ судзіў,
Усё судэ судзіў, галаву паклапаціў.
У канцы сяла да стаіць вярба,
Да на той вярбе да дзіка каза.
Прыйшоў да яе да сівы ваўчок:
— Да злезь, козка, да патанцуйма,
Да патанцуйма, да пажартуйма!
— Да не палезу, бо цябе баюся:
Калі ў цябе, воўча, хвост вялікі.
— Я ў караля быў, пакоі замятаў,
Пакоі замятаў, хвост размахаў,
Каляда, да ты Калядзіца!

86. Ляцеў каршунішча, Каляда,
Цераз папялішча, Каляда,
А ён жа лятаіць, Каляда,
Курак выбіраіць, Каляда.
— А каб жа я ведаў, Каляда,
Якая мне будзець, Каляда.
Што белае скрылле, Каляда,
Лятучая курка, Каляда.
Што жоўтыя ножкі, Каляда,
Нясушчая курка, Каляда.
А што у чубочку, Каляда,
Тая каршуночку, Каляда.
А каб жа я ведаў, Каляда,
А што мая будзіць, Каляда,
Я б ножкамі браў бы, Каляда,
На скрылейку нёс бы, Каляда.
А нёс бы я, нёс бы, Каляда,
Аж у роўнае поле, Каляда,
У сваё гняздзечка, Каляда.
А у новых сенях, Каляда,
Там карагод дзевак, Каляда.
А ў тым карагодзе, Каляда,

Там Валодзька ходзіць, Каляда,
Дзевак выбіраіць, Каляда.
— А каб жа я ведаў, Каляда,
Якая мне будзіць, Каляда.
Што сінія вочкі, Каляда,
Драмлівая дзеўка, Каляда,
Што белыя ручкі, Каляда,
Лянівая дзеўка, Каляда.
Што чорныя броўцы, Каляда,
Рабочая дзеўка, Каляда.
А каб жа я ведаў, Каляда,
Што маею будзіць, Каляда,
У сваё падвор'е, Каляда,
На коніку вёз бы, Каляда.
А вёз бы я, вёз бы, Каляда,
Аж у роўна поле, Каляда,
Аж у роўна поле, Каляда.

87. Да на гары новы двор,
Іграй, гуляй, коню мой!
Да ў том двары вяселле,
Да брат сястру выдае,
І выдае, пытае:
— Што табе, сястра, наймільша?
— Мне наймільшы мой войчанька.
— О то ж, сястра, няпраўда.
Да на гары новы двор,
Іграй, гуляй, коню мой!
Да ў том двары вяселле,
Да брат сястру выдае,
І выдае, пытае:
— Што табе, сястра, наймільша?
— Мне наймільшы мой брацейка.
— О то ж, сястра, няпраўда.
Да на гары новы двор,
Іграй, гуляй, коню мой!
Да ў том двары вяселле,
Да брат сястру выдае,
І выдае, пытае:
— Што табе, сястра, наймільша?
— Мне наймільша сястрыца.
— О то ж, сястра, няпраўда.
Да на гары новы двор,
Іграй, гуляй, коню мой!

Да ў том двары вяселле,
Да брат сястру выдае,
І выдае, пытае:
— Што табе, сястра, наймільша?
— Мне наймільшы мой міленькі.
— О то ж, сястра, да й праўда.
Іграй, гуляй, коню мой!

88. Скакаў гарабей да на сметнічку,
Каліна й маліна!*
Прасіў дзевачак на гуляннейка,
Прасіў дзевачак ўсё й малодачак.
А ў малодачкі тры намётачкі:
Адзін намётак да на прыпечку,
Другі намётак да ў калысачцы,
Трэці намётак да й на ложачку.
Што ў калысачцы — таму цыцкі даць,
Што на прыпечку — таму кашкі даць,
Што ў ложачку — таму кіем даць,
Таму кіем даць да ісці гуляці.

89. А йшоў-перайшоў,
Каляда!*
Месяц па небу.
А браў-перабраў
Усе звёздачкі.
А выбраў сабе
Ясней за сябе.
Рана ўсходзіць,
Позна заходзіць.
А йшоў-перайшоў
Млоды Мішачка.
А браў-перабраў
Усіх дзевачак.
А выбраў сабе
Павышай сябе.
Позна лажыцца,
Кожан дзівіцца.
Рана ўстаець,
Пятух не пяець.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

90. — Чаго ты, рожа, адна ў гародзе?
Рожа мая чырвоная.*
— Я тут не адна, няпраўда твая.
Што ёсць красачак, то ўсе са мной,
Аднаго нету — баравога цвету.
І дзе ж ён будзе, ка мне прыбудзе,
Ка мне прыбудзе, са мной цвісці будзе.

— Чаго ты, Мар'ечка, адна ў карагодзе?
— Я ж тут не адна, няпраўда твая.
Што ёсць дзевачак, то ўсе са мной,
То ўсе са мной, перада мной,
Аднаго нету — маладога Іванечкі.
І дзе ён будзе, ка мне прыбудзе,
Ка мне прыбудзе, са мной жыць будзе.

91. Там за садамі, за зялёнымі,
Каляда, за зялёнымі.**
Ой, там Андрэйка коніка пасе,
Коніка пасе, павадцом трасе.
— Ой, еш, коніку, шоўкаву траву,
Ой, пі, коніку, крынічну ваду,
Бо паедзем мы да цесценькі,
І да цесценькі, і да цёшчанькі,
І да цёшчанькі, і да Ганначкі.
Цесценька кажа: калакол звініць,
Цёшчанька кажа, што сакол ляціць,
Ганначка кажа: Андрэйка едзе,
Андрэйка едзе, падаркі вязе,
Падаруначкі — мне чаравічкі.

92. — А дзе была, Каляда,
Ой, рана-рана, Каляда?
— У Ярузе была, Каляда.
— Да што рабіла, Каляда?
— Дзеўкі часала, Каляда.
— Да чым часала, Каляда?
— Конскім капытом, Каляда.
— Чым заплятала, Каляда?
— Лазовымі лычкамі, Каляда.
— Да дзе была, Каляда?
— У Моладаве, Каляда.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
** Прыпеў «Каляда» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

— Што рабіла, Каляда?
— Дзеўкі часала, Каляда.
— Да й чым часала, Каляда?
— Грэбеньчыкам, Каляда.
— Чым заплятала, Каляда?
— Стужачкамі, Каляда,
Ой, рана-рана, Каляда!

93. А пад нашым сялом, пад Слабадою
Стаялі, свяцілі месячкі чатыры:
Першы месячка — малады Васілька,
Другі месячка — малады Паўлючок,
Трэці месячка — малады Захарка,
Чацвёрты месячка — малады Іванька.
Стаялі, свяцілі зорачкі чатыры:
Першая зорка — маладая Таццянка,
Другая зорка — маладая Дар'ечка,
Трэцяя зорка — маладая Мар'юшка,
Чацвёртая зорка — маладая Хоўрачка.
Таццянка зорка — Васільку жонка,
Дар'ечка зорка — Паўлючку жонка,
Мар'юшка зорка — Захару жонка,
Хоўрачка зорка — Іваньку жонка.

94. Перагараджу да тынком рэчку,
Каляда, да ты Калядзіца!
Да ўсаджу барана, авечку.
Што баранко — то той Іванко,
Што авечка — яго Ганначка.
Перагараджу да тынком рэчку
Да ўсаджу лебедзя, лябёдку.
Што лебедзь — то той Мікалайка,
Што лябёдка — то яго Марылька.

95. Прала Ганначка на лёду хусткі,
На лёду, на лёду-лёду, на ледаўніцы,
у крыніцы.*
Ой, яна прала да й пагубляла.
Пайшоў татачка хустак шукаці,
Татачка прыйшоў, хустак не знайшоў.
Прыйшла мамачка хустак шукаці,
Мамачка прыйшла, хустак не знайшла.
Пайшоў міленькі хустак шукаці,
Міленькі прыйшоў, хустачкі знайшоў.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

96. Ой, Калядачкі, вярніцеся,
На нас, дзевак, азірніцеся.
Мы ж вас, Калядкі,
Дажыдаць будзем,
Мы ж вас, Калядкі,
Шанаваць будзем.
Каб вас, Калядак,
Нядзель дзесятак:
А што ранейка —
То сняданнейка,
Што вячэранька —
Пагуляннейка.

97. А Калядачкі, а вярніцеся,
Ой, люлі-люлі, а вярніцеся,*
У майго татулькі найміцеся.
У майго татулькі трое варот,
Трое варот, усе на гарод.
У першых варотах — ясен месячык,
У другіх варотах — ярка соўнейка,
У трэціх варотах — дробныя зорачкі.
Ясен месячык — то татулька мой,
Ярка соўнейка — то мамулька мая,
Дробныя зорачкі — браты, сёстрачкі.

98. Ад куту да куту ды ўсё жанішкі,
Добры вечар добрым людзям! **
Сядзяць на куце ў белым кажусе.
Да прыйшла Дунячка, кажа: тут жа і мой,
Сядзіць на заслонцы, лічыць чырвонцы.
Прыйшла Аксінка, кажа: тут жа і мой,
Сядзіць на прыпечку, грае ў скрыпачку.

**ЦЯРЭШКІ**

99. Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка й баліць,
Аж мае ручачкі лянуць,
Не магу на дзеда глянуць.

— Дайся, дзядулька, дайся,
На чужых не спадзявайся.

---

* Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Як у лузе асінка горка,
Так табе чужая жонка.

100. Ай, божа мой, якая бяда —
Далі мне старога дзяда.

Ў лапці абуўшыся,
Ў кручочак сагнуўшыся.

Ані з ім у пір пайці,
Ані з ім дома быці.

Дома быці — сварыціся,
У пір паехаць — пабіціся.

101. Божа мой, вяліка бяда —
Далі мне старога дзяда:
Ні мне яго спавіваці,
Ні мне яго калыхаці.
Як стану спавіваці —
Ён мяне абнімаці.
Як стану калыхаці —
Ён мяне цалаваці.

102. Мой мілы камкуць, камкуць,
Не ўмеіць ножанькай тапнуць,
Не ўмеіць ціханька хадзіць,
Не ўмеіць хороша любіць.

103. Пайду я у тын глядзець,
Дзе мая мілая прадзець,
Прадзець і мігціць, мігціць,
Выводзіць нітачку і спіць.
Тонкую-таненькую,
З пальчыкам раўненькую.

104. Цярэшка-Цярэшанька,
Цераз бор дарэжачка,
Бітая, таптаная,
Я ў мужа каханая.

105. Паіў я каня ў ярку,
Відзеў я дзеўку ў вянку.
Хоць жа [redacted] ў ваду ўпаду,
У суседа дзеўку ўкраду.
Хоць я коніка прадам,
Суседу дзяўчыну не дам.

## МАСЛЕНІЧНЫЯ

106. Наша Масленіца гадавая,
Яна госцейка дарагая.
Яна пешаю к нам не ходзіць —
Усё на коніках раз'язджае
Штоб конікі былі вараныя,
Штоб слугі былі маладыя.

107. Мы на горушцы пабывалі, пабывалі,
Ай, люлі, пабывалі!
Масленку сустракалі, сустракалі,
Ай, люлі, сустракалі!
Сырам гару набівалі, набівалі,
Маслам гару палівалі, палівалі.
Наша горушка катліва, ай, катліва,
Свякровушка варкатліва, варкатліва:
Яна на нас варчала, ай, варчала,
На горушку не пушчала, не пушчала!
А нам дамоў не хаціцца, не хаціцца,
А хаціцца пракаціцца, пракаціцца!
Мы думалі — Масленкі сем нядзелек,
сем нядзелек,
Ажно Масленкі сем дзянёчкаў, сем дзянёчкаў!
Нас Масленка абманіла, абманіла:
На сем нядзель паста пасадзіла, пасадзіла:
На белу капусту, капусту,
На горкую рэдзьку, на рэдзьку,
Ай, люлі, на рэдзьку.

108. У нас сягоння Масленіца,
Прыляцела ластавіца,
Села-пала на жэрдачку,
Шчабятала вестачку.
Ластавіца песню спела,
Назад у поле паляцела.
Садзіцеся, хлопцы, вы на коні,

Даганяйце ў чыстым полі!
Пытайце ў ластавіцы,
Што дзеецца ў Прудзішчы.
А ў Прудзішчы дзеецца,
Дзевяць хлопцаў жэняцца,
Адна дзеўка замуж ідзець,
У карагодзе дзевак вядзець.

109. Наша Масленка катліва,
Штось катліва,
Люлі, катліва!

А мы Масленку пракацілі,
Пракацілі,
Люлі, пракацілі!

Сырам гору набівалі,
Набівалі,
Люлі, набівалі!

Паверх маслам палівалі,
Палівалі,
Люлі, палівалі!

Нашы дзеванькі гуллівы,
Штось гуллівы,
Люлі, гуллівы!

Нашы хлопцы гарэзлівы,
Гарэзлівы,
Люлі, гарэзлівы!

Нашы маткі штось бурчлівы,
Штось бурчлівы,
Люлі, бурчлівы!

Нас да хаты з горкі клічуць,
Дамоў клічуць,
Люлі, клічуць!

110. У нас Маслены дзень...
На гары бабы сядзелі,
Кулакамі зямлю прабілі,—
Аб нявестках судзілі.
Адна нявестка шэльма была:

Клець запаліла, ўпроч пайшла.
А як там багацця згарэла:
Жалудова бочка віна было,
Арэхава міса масла было.

111. Чок, чок, салавей, вы, пташкі, маўчыце:
Нядаўна Андрэйка з вайны прыехаў,
Яго конічак на стаенцы стаіць,
А яго паненачка ў каморы сядзіць.
Конічак на стайні — то паязды яго,
Боцікі на ножках — то паходы яго,
Сукенькі на плечках — то ўборы яго,
Хустачка ў руках — то размахі яго,
Шабелька пры боку — абарона яго,
Дзевачка ў каморы — размова яго.

112. На вуліцы бабы сядзелі,
Аб нявестак судзілі.
Адна нявестка шэльма была:
Запаліла свечку, у клець пайшла.
У той клеці свет дабра:
Саломена дудка мёду было,
Арэхава чашка круп была,
Камарова лытка мяса было,
І ўсё ж тое згарэла,
Каб нявестка згалела.

113. Ой, гора, гора старому
Да з маладою жонкаю:
Маладая жонка ўпроч пайшла,
Старога лапці знясла,
Да занесла лапці-аборы
Да ўсе старога прыборы,
Да занесла лапці-анучы,
Да нечага старому абуці.
Да ў чаравічак плацця наклала,
Да мяне, старога, абкрала:
У цэвачку мукі набіла,
Яна мяне, старога, згубіла.



## ГУКАННЕ ВЯСНЫ

### ВЯСНЯНКІ

114. Благаславі, божа,
На ўзгорачку сесці
Вясну загукаці,
Лецечка адмыкаці,
Зіму замыкаці:
Лецечка цяпленька,
Зіма сцюдзёная,
Лецечка ў каточку,
Зіма ў палазочку.

115. Благаславі, божа, зіму замыкаці,
Зіму замыкаці, вясну загукаці.
Дай, божа, на жытачка род,
Дай, божа, на жытачка род,
На статачак плод,
Людзям на здароўе.

116. Благаславі, божа мілы, зіму замыкаці,
Зіму замыкаці, вясну аклікаці.
Зімою ў вазочку, вясною ў чаўночку,
У цёплым леце ў карэце.
Благаславі, божа, зіму замыкаці,
Зіму замыкаці, вясну загукаці.

Дай, божа, на жытачка род,
На статачак плод,
Людзям на здароўе.

117. Благаславіце, старыя дзеды,
Ой, вясну красну пагукаці,
Пагукаці,
Цёплага лета даждаці,
Даждаці.

Цёплае лета на вуліцы,
На вуліцы,
Халодная зіма ў каморачцы,
Ў каморачцы.
А зірну-гляну на вуліцу,
На вуліцу:
Ці ўсе вулачкі падмецены,
Падмецены,
Ці ўсе дзевачкі павенчаны,
Павенчаны?
Адна й вулачка не мецена,
Не мецена,
Адна дзевачка не венчана,
Не венчана.

118. Ці пазволіце, старыя людзі,
Нам вясну красну выгукаці,
Сцюдзёную зіму ў каморачку,
А цёплае лета на вулачку.

119. Благаславі, божа,
Вясну красну пеці
На ціхае лета,
На буйнае жыта.
Каб наша жыта
У трубы павілося,
У трубы павілося,
Набок схілілося.
На полі снапамі,
А ў гумне тарпамі,
У арудзе прысыпна,
А ў млыне прымолна,
А ў дзяжы падходна,
А ў пячы пячыста,
А на стале краіста.
Сям'і на здароўе,
Панам — безгалоўя!

120. Зіма з летам сустракаецца,
Пра здаровейка пытаецца:
— Ой, чалом, чалом, да цёплае лецейка!
— Ой, здарова была, да халодная зімачка!

— Што цябе, лецейка, узвелічаюць,
Мяне, зімачку, праклінаюць?
— Бо ты, зімачка, халодная,
Лугі, балоты намарозіла.
Ой, я, лецечка, да вясёлае,
Лугі, горы ізмачыла,
Лугі, горы ўзвесяліла.
Ой, там хлопчыкі сабіраюцца
Да на мёд, віно складаюцца:
— Ой ты, Іваначка, кладзі больш за ўсіх,
Твая Ганначка лепш за ўсіх.

121. Зіма з летам сустракалася,
Пра здаровейка пыталася:
— Ой, здарова, здарова, ты, зімачка!
— Добрае здароўе, ты, лецечка!
Ты нашто ссушыў маю дзяціну?
— То не [redacted] ссушыў — вясна красна,
Ссушыла вясна да тонкія кросна.

122. Вол бушуе, вясну чуе,
Дзеўка плача, замуж хоча.
Не бушуй, воле, наарэшся,
Не плач, дзеўка, нажывешся.
Воран грача, сыра хоча,
Дзеўка плача, сына хоча.
Воран грача, сыра з'еўшы,
Дзеўка плача, сына меўшы.
Воран грача — сыр бяленькі,
Дзеўка плача — сын маленькі.
Воран грача паляцець,
Дзеўка плача — недзе дзець.

123. Ты, пчолачка ярая,
Ды вылець за мора,
Ой, ляло, ляло,
Ты вылець за мора.

Ты вынесі ключыкі,
Ключыкі залатыя,
Ой, ляло, ляло,
Ключыкі залатыя.

Адамкні лецечка,
Лета цёплае,
Ой, ляло, ляло,
Лета цёплае.

Замкні зіманьку,
Зіму сцюдзёную,
Ой, ляло, ляло,
Зіму сцюдзёную.

124. Благаславі, божа, 2
Вясну заклікаці, 2
Зіму забываці.
Вясна на прыклетку,
Зіма на паветку,
А ўсе птушачкі, 2
Божа мілы, прыляцелі.
Адна засталася 2
Шэрая зязюлечка,
І тая не хочыць 2
Рана кукаваці,
Рана кукаваці, 2
Вясну заклікаці,
Вясну заклікаці,
Зіму забываці.
А ўсе дзевачкі 2
Замуж выйшлі.
Адна засталася, 2
Божа мілы, бедная,
І тая не хочыць 2
Рана ўставаці,
Рана ўставаці, 2
Вясну заклікаці,
Вясну заклікаці, 2
Зіму забываці.

125. Прыйдзі, прыйдзі, вясна,
Прыйдзі, прыйдзі, красна,
К нам у таночак,
Прынясі нам збожжа,
Прынясі нам красак,
Каб нам звіць вяночак.

Едзіць вясна, едзіць
На залатым кані,

У зялёным саяні,
На сасе седзячы,
Сыру зямлю аручы,
Правай рукой сеючы,
А смыком скародзячы.

Вязець, вязець вясна,
Вязець, вязець красна
Ясныя дзянёчкі,
Частыя дажджочкі,
Зялёныя травы,
Красныя цвяточкі
Нам на вяночкі.

126. — Ой ты, жаваранку, ранняя пташка,
Чаго так рана з выраю вылецеў?
— Мяне пташкі белыя з выраю ганілі:
Ляці, жаваранку, у сваю старонку,
Там табе вадзіцы па самыя крыльцы,
Там табе гарошку па самы дзюбочак,
Там табе травіцы па самы каленцы.

127. — Жаваранак, рання птушэчка,
Чаго так рана з выр'ю вылятаеш?
А там пры даліне — там ляжаць крыгі,
А там пры дарозе — снягі і марозы.
— А я тыя крыгі крыламі разаб'ю,
А я тыя марозы нагамі растапчу.

128. Дабравешчаннiко святое,
Пашлі сонейка залатое,
Каб зямелька адышла,
Да вясна да нас прыйшла,
Каб распусціліся ветачкі,
Каб раскраснеліся кветачкі,
Каб лугі зазеляненіся,
Нашы нівачкі адзеліся.

129. — Сё ж вясна, то вясна,
Да што ты нам прынясла?

— Шаўковую траву на вясну,
Буйнае жыта на лета.
Малым дзеткам па яечку,
Старым дзедам па кіёчку,
Маладым малодкам па бёрдзечку.
Дзе малыя дзеткі гуляюць,
Там яечкі качаюць,
Дзе старыя дзеды стаялі,
Там кіямі зямлю скарпалі.

130. — Вясна, вясна, што ты нам прынясла?
— Я, вясна красна, вам прынясла
Бохан хлеба, ступу солі.
Старым бабкам на прызбачцы,
Малым дзеткам на вуліцы,
А хлопчыкам па кіёчку,
А дзеўчаткам па вяночку,
Малодачкам па красёнцах.

131. — Ой, вясна, вясна, што ты прынясла,
што ты й прынясла?
— А [redacted] прынясла цёпла лецечка,
ды й цёпла лецечка.
Старым бабачкам пасядзеці,
ды й пасядзеці,
А маладзічкам кросенцы ткаці,
ды й кросенцы ткаці,
А дзевачкам цэўкі сукаці,
ды й цэўкі сукаці.

132. — Ой, вясна ды й весенка, ды я весенка,
Што ж ты нам прынесла прынеселька?
— Маладым малодкам — па бердзечку,
па бердзечку,
А дзевачкам па пранічку, па пранічку,
А малым дзеткам па яечку, па яечку,
А старым дзядкам па кіёчку, па кіёчку,
Маладым мужчынкам па плужочку, па плужочку,
А хлопчыкам па пужачцы, па пужачцы.
Маладым малодкам красёнцы ткаць,
А дзевачкам ды й палотна бяліць,
Старым дзядкам на мураўцы сядзець,

Маладым мужчынкам поле араць,
А хлопчыкам на пастку гнаць.

133. — Да вясна красна,
Дзе ты была?
Да што ты нам прынясла?
— Прынясла хлопцам па лясачцы,
А малым дзецям па кружочку,
Малоданькам па чэпчыку,
А дзевачкам па кветачцы.
Каб хлопчыкі ў войска пайшлі,
А малыя дзеткі хутка раслі,
Малоданькі ўбраны былі,
Красны дзеўкі замуж пайшлі.

134. — Вясна красна,
Што ж ты нам прынясла?
— З пунькі сянцо
Вынесла, вынесла,
З току саломку
Вытрасла, вытрасла,
З клеці зярно
Вымела, вымела...

135. Вясна красна к нам у госці прыйшла,*
У гумне сена ўсё й павынесла,
У клеці жыта ўсё й павыпарала,
Красных дзевак замуж выдала,
Малойчыкаў усіх пажаніла.

136. — Ой, вясна красна!
Да што ж ты нам прынясла?
— Ой, прынясла, прынясла,
Тры карысці ў радасці:
Першая карысць бортнічкам,
А другая й аратаму, 2
А трэцяя пастушкам.
Дзе бортнічкі барцілі,
Там трэсачкі ляжалі,
А дзе аратаі аралі,

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Там сошачкі ляжалі,
А дзе пастушкі паслі,
Там пужачкі ляжалі.
Як стукне бортнічак у бару:
«Да садзі ж, божа, пчолачкі
Да новага лецечка!»
Як ксохне ратай у полі:
«Зарадзі, божа, жыцечка
Да на новае лецечка!»
Як гукне пастушок у бору:
«Спасі, божа, худобку
Да на новае лецечка!»

137. — Ты, вясна, ты, красна,
Да што ж ты нам вынесла?
— Прынесла тры карысці-радасці:
Першая карысць — бортнічак,
Другая карысць — пастушок,
Трэцяя карысць — ратайка.
Бортнічак стукне: «Садзі, божа!»
Пастушок гукне: «Пась, божа!»
Ратай сокне: «Радзі, божа!»
Кароўка йдзе, рыкае,
Пастушок ідзе, гукае:
«Сюды, кароўка, кароўка,
Тут зялёная муроўка».

138. На вясну пакрасло,
А зіму панясло,
Гэй, да зіму панясло!
Да гарэшкі цвітуць,
Салавейкі пяюць.
Ой, пайду я, малада,
Да гарэшкі шчыпаць,
Салавейку слухаць.
Да гарэшкі ў карабец,
Лушпавінкі ў рукавец.
Да гарэшкі войчаньку,
Лушпавінкі свякратку.
Войчанька есць будзе —
Спамінаць будзе,
А свякратка есці будзе —
Праклінаці будзе:

— Каб табе, нявехно,
Тры смерці было:
Адна смерць нажавая,
А другая вадзяная,
А трэцяя каменная.

139. Рынулі рэкі, рынулі
Аж да Ганначкі пад сені.
Там збіраліся малойцы,
Складалі грошы на танцы.
Адзін маладзец найбольш клаў,
Сабе дзяўчыну намаўляў:
— Ідзі, дзеванька, за мяне,
Будзеш маёю жаною,
Будзеш маёю жаною,
Маёй мацанькі слугою,
Будзеш мацанькі служачка,
Мне, маладому, жоначка.

140. Ай, вясна-вясна, вясна севярыстая,
Баюся цябе: ссеверыш мяне.
Ой, лета-лета, лета жаркае,
Баюся цябе: дапячэш мяне.
Ой, зіма-зіма, зіма лютая,
Баюся цябе: змарозіш мяне.

141. Вясна красна, вясна красна наступае,
Вадой лугі, вадой лугі залівае,
Што не прайсці, што не прайсці, не праехаць,
Свайго роду, свайго роду не праведаць.
Ой, вясною, ой, вясною — за вадою,
А ў лецечку, а ў лецечку — за жнівамі,
А зімою, а зімою — за снягамі.
— Дзіця ж маё, дзіця ж маё маладое,
Ты вясною, ты вясною — на чаўночку,
Ты ў лецечку, ты ў лецечку — у нядзелечку,
А зімою, а зімою — ў палазочку
Такі ж роду, такі ж роду пераведай.

142. Была ў маткі,
Была ў маткі адна дачка.
Адсюль, адтуль,
Адсюль, адтуль сваты слалі.
Матка дачкі,

Матка дачкі не давала.
Сабе служку,
Сабе служку гадавала.
Прыйшла й вясна,
Прыйшла й вясна — дачку ўзяла.
Гарэлачкі,
Гарэлачкі не насіла.
Дачкі ў маткі,
Дачкі ў маткі не прасіла.
— Дзіця ж маё маладое,
Дзе мне дары,
Дзе мне дары падзяваці?
Ці мне дубы,
Ці мне дубы абвязаці?
Што й дубочак,
Што й дубочак — то й сваточак.
Што й бярозка,
Што й бярозка — то й сватачка.
Што грушачка,
Што грушачка — той й дружачка.

143. А вясна, вясна, вясеначка,
Вясеначка,
Развесяліла ўсе вулачкі,
Усе вулачкі.
Да ўсе вулачкі-праталачкі,
Праталачкі.
Да дзе хлопчыкі збіраліся,
Збіраліся,
На мёд-гарэлку складаліся,
Складаліся.
— Кладзі, дзяцінка, болей за ўсіх,
Болей за ўсіх,
Твая дзевачка луччы за ўсіх,
Луччы за ўсіх:
Яна беленька, румяненька,
Румяненька,
На работачку слухмяненька,
Слухмяненька.
Яна свёкарку паслухае,
Паслухае,
Возьме вядзерца пастукае.

144. Ой, вясна мая вясёлая,
Развесяліла ўсе горачкі,
Усе горачкі, усе горачкі-даліначкі,
Даліначкі, дзе парабачкі збіраліся,
Збіраліся, на мёд-гарэлачку складаліся,
Складаліся, аб помсце пану змаўляліся.

145. — Вясна ж мая, вясеначка,
Дзе твая дачка-паненачка?
— Мая й дачка ў садочку
Шые сарочку іллянувую
Свайму міламу, каханаму,
Шые сарочку пласконную
Свайму мілому бяздольнаму.

146. — Ой, вясна, вясна, вясеначка,
Дзе твая дачка-паненачка?
Паненачка.
— Пагнала бычкоў у ліпачкі,
У ліпачкі,
За ёю хлопцы ў скрыпачкі,
У скрыпачкі,
А Васілёчкі ў галасочкі,
Ў галасочкі,
А Іванчыкі ў барабанчыкі.

147. Дзякуй богу,
Што вясна прыйшла.

Я, малада,
Каля жыта пайшла.

— Расці, жыта,
Караністае,

Караністае,
Пушыстае,

Каб у трубы
Пакачалася,

Каб я, малада,
Нажалася

І снапочкаў
Нанасілася.

148. Ой, прыйшла вясна красна,
Чужыя малодкі ткуць кросна.
А я, маладзенькая, не прала,
Пад лёд кудзелькі пускала.
— Плывіце, кудзелькі, валакном,
Ка мне, маладзенькай, палатном!
Да ўсе дзевачкі смяюцца,
Як тыя кудзелькі прадуцца.
Да ўсе людзечкі дзівяцца,
Чые то кудзелькі беляцца.
Да гэта ж тае гультайкі,
Да што стаяла ля пелькі.

149. Стаптана трава зеляная,
Хто ж тую траву стаптаў?
Стаптаў траву дзяцінačка,
Стаптаў траву маладзенькі.
Й ён да дзевачкі хадзіў,
Перапёлачак лавіў,
Не ўлавіў карасьцелькі,
А ўлавіў дзяўчоначку
Да й за правую ручачку,
За залаты персцянёчак,
За шаўковы паясочак.

150. Зязуля куе, лецечка чуе,
Ой, рана-рана, лецечка чуе.
Марыся плача, замуж не хоча,
Ой, рана-рана, замуж не хоча.
Яе матанька цешыць, не ўцешыць:
— Не плач, дзіцятка, маё радненька,
Ой, рана-рана, маё радненька,
Не аддам я цябе далёка ад сябе.
Ой, рана-рана, далёка ад сябе.
Аддам блізенька, праз поле вузенька,
Ой, рана-рана, праз поле вузенька,
Будзеш хадзіці што дзянёк да мяне,

Ой, рана-рана, што дзянёк да мяне.
Будзеш часаці русу косу ў мяне,
Ой, рана-рана, русу косу ў мяне.

151. Сярод Дуная дзевачка сядзіць,
Дзевачка сядзіць, красачкі рве,
Красачкі рве, вяночкі ўе.
Адзін савіла — на бярозу ўшчапіла,
Другі савіла — на галовачку,
Трэці савіла — у Дунай пусціла.
А там жа ехаў удалы маладзец,
Удалы маладзец жаніцца.
Прывязаў каня к белай бярозе,
К белай бярозе, к бітай дарозе.
— Удалы маладзец, падай мне на вянец.
Удалы маладзец палез па вянец.
Ступіў жа раз — па пояс увяз,
А другі ступіў — і сам паплыў.
— Бяжы ж ты, кося, бітай дарогай,
К таму сялу, к татульку майму.
Выйдзе з хаты родная маці,
Цябе рассядлае і спытае:
«Скажы, канёк, што мой сынок?»
Не кажы, кося, што я ўтапіўся,
А кажы, кося, што я жаніўся:
Мае дружкі — круты беражкі,
Мая сваціца — рыба-плаціца.
Мая жонка — глыбока вада —
Маёй матульцы да веку бяда.

152. — Ой, бору мой, бору мой,*
Чаму, бору, не вясёл?
— Як я маю вясёл быць,
Калі ў мяне пташак нет.
Адна й была зязюля,
Тую арлы задралі.
Арлам яна й на мяса,
А й сокалу на пер'я.
— Ай, двору мой, двору мой,
Чаму, двору, не мяцён?
— Як я маю мяцён быць,

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Калі ў мяне дзевак нет.
Адна была Танечка,
Тую сваты забралі.
Сватам яна на гульню,
А Мішачку на ўвесь век.

153. Маладзіца маладая*
Ў поле гусей праганяла,
Яна к гусям прамаўляла:
— Гусі мае вы шэрыя,
Прывыкайце к майму полю,
К майму полю шырокаму,
К майму полю далёкаму,
К майму ніўю шырокаму,
Як я, млода, прывыкала
І к свёкарку, і к свякроўцы,
І к дзеверу, і к залоўцы.

### ВАЛАЧОБНЫЯ

154. На першы дзень да на Вялікдзень
А збіраліся удалыя малойцы,
Сабраўшыся, рахаваліся,
Сабраўшыся, зрахаваўшыся,
Пайшлі ж яны ўсё дарожкаю,
Усё дарожкаю, усё шырокаю,
Усё мураўкаю, усё зялёнаю.
Сустрэлі яны госпада бога
З усімі святымі і з Прачыстаю.
Госпаду богу пакарыліся,
Пакарыліся й пакланіліся,
Слаўнага сяла да пыталіся,
Слаўнага сяла Пятроўскага,
Слаўнейшага Паўлоўскага,
А ў тым сяле слаўнага мужа,
Слаўнага мужа пана Сцяпана.
А чым жа ён уславіўся:
Ці сваім гумном, ці сваім дабром,
Ці сваёй жаной, ці сваімі дзецьмі?
Ні сваім гумном, ні сваім дабром,
Ні сваёй жаной, ні сваімі дзецьмі.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Ой, тым жа ён уславіўся,
Што ў яго на дварэ агні гараць,
Агні гараць усё ціхонькія,
А дымяць дымы ўсё сіненькія,
А вісяць катлы ўсё медзяныя,
А вараць піва ўсё пшанічнае,
А гоняць гарэлку акавітачку,
А к сяму, к таму, к святому Вялічку.
Ён к сабе гасцей спадзяваецца.
А якіх гасцей? Валачобнікаў,
Валачобнікаў з госпадам богам,
Госпада бога з усімі святымі,
З усімі святымі і з Прачыстаю.
Ці ўсе святцы пазбіраліся?
Аднаго нету — святога Іллі.
Каго абабраць па Іллю паслаць?
Пятра абабраць па Іллю паслаць.
Толькі ж Пётра да на коніка,
Да на коніка за вароцечкі —
Аж святы Ілля і сам ідзе,
Урасіўшыся, умачыўшыся.
— Дзе ж ты, Ілля, прызабавіўся?
— Па межах хадзіў, жыта радзіў,
Па бару хадзіў, пчолкі садзіў.
Радзі, божа, жыта, жыта і пшаніцу,
Жыта і пшаніцу, усякую пашніцу,
Коласам каласіста, ядром ядраніста,
Сноп ад снапа на дзве стапы,
Капа ад капы на чатыры стапы,
З аднаго коласа бочка жыта,
А з другога другая, а з трэцяга трэцяя:
Адной бочкай засяваці,
А другая — шахаваці, а трэцяя — дзеткі гадаваці.
Садзі, божа, пчолкі ў вуллі, у сасёнкі,
І расістыя, і мядзістыя.
Ото ж табе, пане гаспадару, песня спета,
Песня спета проці нова лета,
Проці новага лета і вясёлага,
Як салавейка на каліначцы!
Калі любіш гасцей, то заві ў хату,
А не любіш гасцей, кажы дар даці.
А нашы дары невялікія,
У дзверы не лезуць, у вакно як шыюць:
Пачынальнічку — чырвон злоты,
А маім пяўцам — па пяцідзесятнічку,
А музычына горкая доля —

Кварта гарэлкі дзеля пасядзелкі,
Сыр на талерку дзеля закускі,
Жытні пірог дзеля коласу,
Пшонны пірог дзеля голасу.
А нуця, братцы, не ляніцеся
Госпаду богу пакарыціся,
Пану гаспадару пакланіціся
За яго сталы ўсё цісовыя,
Сталы ўсё цісовыя, абрусы шаўковыя,
За яго хлябы пытляваныя,
За яго лыжкі пасрыбраныя,
За яго талеркі фарфуровыя,
За яго кілішкі крышталёвыя.

155. Добры вечар, чэсны й пане,
Чэсны й пане, пан Аркадзі!
Ці пазволіш песню спеці?
У нядзельку паранюсенька
Ўзышло сонца весялюсенька,
Ўзышло яно, абутрала,
Асвяціла лугі, бары,
Лугі, бары, чыстае поле,
Чыстае поле, жыта ядраное.
Во што ў полі рана пагукаіць?
Во ці лебедзі, во ці сокалы?
Во не лебедзі, во не сокалы —
Ядраное жыта гаспадара кліча.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, пан Аркадзі,
Пасеяў жыта, у полі не быў,
У полі не быў, не адведаваў.
Не адведаваў у корані,
Адведай хоць у коласе:
А ў корані каранісценька,
А ў коласе каласісценька.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, пан Аркадзі,
А пайшоў жа ён у чыстае поле,
Поле палюваці, жыта аглядаці,
Пяшком пайшоў — ён не абышоў,
На кані паехаў — ён не аб'ехаў,
Сокалам ляцеў — жыта аглядзеў:
— Хвала божа, харашо жыта!
Каласок гнецца, аб зямлю б'ецца,

Ядраное жыта высыпаецца,
Колас к коласу галаву клоніць.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, пан Аркадзі,
Ой, едзь жа ты да доманьку,
Да доманьку, да новага,
Да новага, да айцоўскага,
Да айцоўскага, да бацькоўскага,
Да краватачкі да цісовае,
Да сваёй жаны да вернае.
— Ты жана мая, ты душа мая,
Ой, быў жа ў чыстым полі
Поле паляваці, жыта аглядаці,
Хвала богу, хароша жыта!
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, пан Аркадзі,
Выйдзі жа ты да стаенкі,
Да новае, да айцоўскае.
Вазьмі каня варанейшага,
Варанейшага, што найлепшага,
Паязджай да ты да горада,
Да горада да Магілёва.
А стань жа ты на рыначку,
На рыначку, пры крамачку,
Пакупляй сярпы ўсе сталістыя,
Падзяржаначкі пазлацістыя.
Прыехаў жа ды із горада,
Із горада із Магілёва.
Чэсная пані дагадліва:
Сабрала жняёк да павён дварок,
Сорак сярпоў жыта жаці,
Сорак хлопцаў сноп'я насіці,
Сорак мужчын копы класці.
— Ты, жана мая, ты, душа мая,
Заві жняёк у хатачку.
Запалі свечы трайчастыя,
Саджай жняёк за столічак,
За столічак за цясовенькі,
За цясовенькі, за кляновенькі,
За скацеркі бірчастыя,
За талерачкі двайчастыя,
За ложачкі серабрыстыя,
За хлебцы за сітовыя,
За стравіцу за сахарную,
Пабій жа ты іх хлебам, соллю.

— Цяпер вы, жнейкі, не пышыцеся,
Госпаду богу памаліцеся,
Слаўнаму пану пакланіцеся.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, пан Аркадзі,
Адпраўляй жняёк у чыстае поле,
Чэсную жану ва пераду
З белым сырам, з малым сынам.
Што раз разнець — то сноп нажнець,
На ступень пражнець — капу кладзець.
Часты-густы ў небе звёзды,
Часцей-гусцей ў полі копы
Слаўнага пана, пана Аркадзя.
Вялік-шырок у небе месяц,
Шырэй-вышэй у гумне стагі
Слаўнага пана, пана Аркадзя.
Церанясі, божа, во гэту пашэнку,
Во гэту пашэнку цераз асетку.
Во дай, божа, умалоціста,
А ў арудзе во насыпіста,
А з аруда невыбарыста,
А у мельніцы намеліста,
А у дзежцы падыходзіста,
А у печы набуханіста,
А у столічку укроіста,
У сямейцы — міравая сыць.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, пан Аркадзі,
Да ўжо ж госці даўно пяюць,
Слаўнаму пану весці даюць.
А мы госці недакучныя,
Год у год раз пабываем,
Вашага здароўя спытаем,
Во ў той жа дзень, у Вялікдзень.
Ой, чым жа нас дарыць будзеш:
Ці золатам, ці серабром,
Ці краснымі яечкамі,
Ці харошымі славечкамі?
Нашы дары не вялікія,
Не вялікія і не малыя:
Пачынальнічку — чырвон злоты,
Падхватнічку — паўзалатога,
Асвістаму хоць нямнога,
Хоць нямнога — каня варанога,
Каня варанога гулі вазіць.

Нашай скрыпца — мерка жытца,
Наш механош — кашэль насіць,
Кашэль насіць, сала прасіць,
Паўсланіны з самай серадзіны.
А на нашу браццю — па капе яец.
Па капе яец негдзе ўзяці,
Па дзесятачку можна даці.
А музыкава горкая доля,
Горкая доля — кварта гарэлкі,
Кварта гарэлкі, сыр на талеркі,
Пірог мяккі на закуску.
Кварта гарэлкі для смеласці,
Пірог мяккі для крэпасці,
Сыр бяленькі для голасу.
А што не вып'ець — мы дапаможам,
Як уп'ецца — спацькі паложым,
Як праспіцца, працверазіцца,
Пойдзець з намі, развесяліцца.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, пан Аркадзі,
Да ўжо ж вам песня спета,
Песня спета проціў лета,
Проціў лета, лета краснага,
Ў добрай ласцы, ў добрай згодзе,
Ў добрай згодзе, нам пець годзе.

156. Пане гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Ці ёсць у дому у свянцоным?
Ці спіш, ляжыш, ці спачываеш?
Ці з жаною маладою,
Ці з дзеткамі з малалеткамі?
Да калі спіш — бог з табою,
Калі не спіш — моў са мною.
Пане гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Устань рана-ранюсенька,
Мыйся бела-бялюсенька,
Трыся суха-сухусенька
Да ўчашыся слізюсенька.
Правай ручкай адчыні ваконца,
Адчыні ваконца на ўсход сонца
Да й паглядзі на свой дварок,
Што ў тваім дварэ да й дзеецца,

Да й дзеецца, лялеецца.
Твой дварочак, як вяночак,
Тынам тынен дубовенькім,
Дубовенькім, цісовенькім,
Твой дварочак мастом мошчан,
Вароценькі маляваныя,
Зашчэпачкі пазлацаныя.
Сярод двору шацёр стаіць
Навюсенькі, яснюсенькі,
Злотым крыты, срэбрам літы,
Прыбрамачкі срэбраныя,
Зашчэпачкі залаценькія.
Да ў тым шатры крэсла стаіць,
Крэсла стаіць залатое,
Да ў тым крэсле сам бог сядзіць,
Сам бог сядзіць, кніжку дзяржыць.
Каля яго пчолкі лятали, мяды збіралі.
Тыя пчолкі — усе святачкі,
Перад богам збіраліся,
Збіраліся, рахаваліся,
Катораму святцу ўперад стаці.
А Збор мовіць гаспадару:
— Слаўны мужу над мужамі!
Тваё дзела — на торг ехаць,
Зялеза купляць, нарогі каваць.
Аўдакею дровы сячэць,
А Сaракі клады кладзець,
Аляксею — сані на плот,
Сані на плот, рыба аб лёд,
Лёд вадою, рыба лускою.
Благавешчанне — араты на ніву,
Араты на ніву, сядун на прызбу.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Вазьмі ж, ваша, нову сошку
Да й коніка варанога,
Варанога, маладога,
Едзь жа, ваша, у чыста поле,
У чыста поле заарываць
З соллю, з хлебам, з белым яйцом,
З белым яйцом, з боскім слаўцом.
Вярба свята — нова лета,
Вярба пасвіць у поле гнала.
Дай жа, божа, гэта святца праважаці,
Свята Вялічка дажыдаці!

Да й у радасці, весялосці
Тры дні святца чырвоным яечкам,
Чырвоным яечкам разгаўляецца,
Малым дзеткам на вуліцу,
На вуліцу, на прагулянне.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Маеш сабе чаляданьку.
Загадай, ваша, свайму чалядку:
Няхай возьмець златы ключы,
Златы ключы ад стаенькі,
Няхай ідзець у стаеньку,
Няхай закладаець да й коніка,
Варанога, маладога,
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Вазьмі, ваша, солі, хлеба,
Солі, хлеба, чаго трэба.
Ідзі ж, ваша, да касцёлу,
Да касцёлу пасвянцаці,
Да прывёзшы, спажываці.
Сядзь жа, ваша, на скам'іцу
І з жаною з маладою,
І з дзеткамі маленькімі,
Шасні, бразні па скам'іцы.
Вазьмі, ваша, залаты кубак
Да й пі віно зеляное.
Віно зеляное — на сваю жану,
Жана твая — на дзетачак,
Дзеткі твае — на сямейку,
А сямейка — на чалядку,
Чаляданька — сама на сябе.
Радаўнічка — яна ў бога
Парадвічка, парадзіла
Баранаваці, поле раўняці.
Стары Юрый, боскі ключнік,
Да йдзі ў поле да ў чыстае,
Адамкні зямлю, пусці расу,
Пусці расу на гэту вясну,
Да й мокрую, да й цёплую,
На гэты свет, на ўсякі цвет,
На люд вясёлы, на ўраджай.
Святы Барыс ляды паліць,
Зямлю грэець, ячмень сеець
З поўнай сявенькі, з правай жменькі.

Кінеш рэдка — дасць бог густа.
Дай жа, божа, зарадзі, божа,
Каласіста, ядраніста.
Сваты Мікола, старая асоба,
Гарох сеець, па полі ходзіць,
Па полі ходзіць, жытца глядзіць.
Дзе вымакла, там падсушыць,
Дзе высахла, там падмочыць.
Сваты Шоснік — аўсы шастаць.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Закладай, ваша, да й коніка,
Варанога, маладога,
Вязі, ваша, ў чыста поле,
Ў чыста поле авёс сеяць.
У адной кашулі, без шапачкі,
З поўнай сявенькі, з правай жменькі.
Кінеш рэдка — дасць бог густа.
Дай жа, божа, зарадзі ж, божа,
Да й вяцвісты, ядраністы.
Святая Сёмка — позна сяўба,
Позна сяўба — грэчку сеець,
На вуліцы стучыць, гручыць,
Гнайкі возіць, папар арэць.
Дзевятушка-памяжаначка
Па межах хадзіла, жытцо абзірала,
Жытцо абзірала да й раўнавала.
Дзесятуха красу давала,
А Пяцінка красу здымала,
Красу здымала, пятку стаўляла.
Сваты Іван коску правіць,
Лугі пратаць, у сцірты кідаць.
Сваты Пятро — саўсім ядро,
Папар барануець, поле раўнуець,
Поле раўнуець, грунт гатуець.
Шыпілінка ў кузню ідзець,
У кузню ідзець, сярпы зубіць.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Збірай, ваша, стары сярпы
Да йдзі ў кузню напраўляці.
Кузнец-маладзец, зубі сярпец!
Табе платы — чырвон злоты,
Чырвон злоты табе на боты.
Гаспадару, слаўну мужу,

Слаўны мужу над мужамі!
Да йдзі ж дамоў да аддай жане
Да маладзе новы сярпок.
Няхай ідзець твая жана
Ў чыста поле жытцо жаці
З ячным блінам, з белым сырам,
З белым сырам, з трэцім сынам.
Свята Ілля — старая жняя,
Яна жала, не ўважала,
Што раз зажнець, то сноп звяжэць.
Святыя Ганны да помачы сталі,
Вязь вязалі, копы клалі.
Святы Барысе, за мешань бярыся!
Святы Спас па полі ходзіць,
Копы лічыць, раскладаець:
Гэта на семя, гэта на емя!
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Сядлай, ваша, да й коніка,
Варанога, маладога,
Едзь жа, ваша, ў чыста поле,
Ў чыста поле копы лічыць.
Як на небе звёзды густы,
Гусцей таго ў полі копак.
Прачыстая да большая
Жытцо пасвянцала, засявала.
Да й меншая, дык лепшая,
Дык лепшая паненачка
Перад богам кланялася:
— Я ж, божа, не гуляла,
Жытцо пахала, у грань паганяла,
У грань паганяла, яр збірала.
А Ян-сценцель руней сцеліць.
Узвіжанне — унясі ж, божа,
Узнімі, божа, з ільном, з аўсом,
З усім дабром у гуменца.
Святы Пакроў пакрыў зямлю
Жоўтым лістом, маладым сняжком,
Ваду лёдам, пчалу мёдам.
Святы Зміцер — на ўсё хіцер:
Салады салодзіць, піва робіць,
Сыноў жэніць, дачок выдаець.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Ці ўслых табе наша песенька,

Наша песенька старасвецкая,
Што мы ходзім, бога просім:
— Дай жа, божа, зарадзі ж, божа,
У пуні кладам, на таку ўмалотам,
У дзяжы падходам, у печы ростам,
У печы ростам, на стале насытам.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Дары гасцей, не баў, бардзей.
Нашы дары невялікія,
Невялікія — у дзверы не лезуць,
Праз аконца як шыць шыюць.
Дай мерачку за фатыгачку,
Чырвон злоты мне на боты,
Пачынальнічку — капу яек,
Братцам-памагальнікам —
па дзесятачку.
Да й на двара ветрык вееццъ,
Валачобнічкам ножкі млеюць;
Да й на двара дождж дыліць,
Валачобнічкам жывот ныіць.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Прасі к сабе гасцей у хатку,
Сыр на талерку, кварту гарэлкі,
Кварту гарэлкі, пшонны пірог,
К таму пірагу місу тварагу.

Дай жа, божа, каб васьмёркай пахалі,
Васьмёркай пахалі, дзевятым ганялі,
А дзесяты падбрыківаў,
А на адзінаццатым у дружкі ездзіць.

157. Да на першы дзень святых Вялікадней,
Да віно ж, віно зеляно!
Сабіраліся красны малойцы,
Красны малойцы валачобнічкі.
А ішлі ж яны да гуляючы,
Слаўнага сяла да пытаючы,
А ў тым сяле слаўнага пана,
Слаўнага пана, пана Івана.
Дапытаўшыся, прыйшлі пад ваконца.
— Ой ці ж дома ты, слаўны пане,
Ці спіш, ці ляжыш, ці адпачываеш?
Калі спіш, ляжыш — дык бог з табою,

А не спіш, не ляжыш — дык гукай са мною.
Хоць і ўдома — не абзываецца —
У новай каморы прыбіраецца:
Надзяе боты слуцкай работы,
Надзяе футру сабалёвую,
Надзяе шапку бабровую.
Паджыдае ён святых святачкаў,
Святых святачкаў — велікодначкаў.
Першае свята — свято Вялічка,
Другое свята — свято Юр'я,
Трэцяе свята — святога Міколу.
Усе святыя пазбіраліся,
Аднаго святка ды нямашыка.
А якога святка? Святога Міколы.
— Святы Юры, божы ключнік,
Сядлай каня, едзь па Міколу.
Толькі Юрай на каня садзіцца —
Святы Мікола ідзе у вароты.
— Святы Мікола, дзе ты бываў?
Дзе ты бываў, што ты чуваў?
— Па барах хадзіў, пчолы садзіў,
Пчолкі садзіў раістыя,
Раістыя, медзяністыя;
Па межах хадзіў, жытцо радзіў,
Жытцо радзіў ядраністае,
Зярно к зярну, каласок у зямлю,
Каласок гнецца, жняі спадзяецца.
А хто ж тое жыта зажынаць будзе?
Зажынаць будзе пані гаспадыня,
Што раз разне, дык сноп нажне,
На ступень пражне, дык капу нажне.
Як на небе зоры часты-густы,
Так у полі копы часты-густы.
Ой, мы пелі, шчабяталі,
Як салавейкі ў ціхім лузе,
У ціхім лузе на каліне.
Чырвона каліна, не ўгібайся,
Слаўны пане, вазвелічайся,
Адзавіся, слаўны пане,
Ці ўслых табе наша песня,
Наша песня старасвецкая?
Калі ўслых табе — не тамі ж ты нас,
Не тамі ж ты нас — падары ж ты нас.
Выйдзі, выйдзі ды на ганачак,
Вынесь, вынесь ды падарачак,

Срэбра-злота ды не важучы,
Ды не важучы, ды не лічачы.
Срэбра-злота самі злічым,
Слаўнага пана ўзвялічым.
Слаўнаму пану песня спета,
Песня спета проці нова лета,
Проці новага і вясёлага.
Ой, жыві здароў і будзь багат
І з жаною маладою,
І з дзеткамі наймілейшымі,
І з брацелямі найкраўнейшымі,
І з суседзямі найбліжэйшымі.
Будзь здароў, як крынічна вада,
Будзь вясёл, як хароша вясна,
Будзь багаты, як сырая зямля.

158. Да на Вялікдзень, да на першы дзень
Ішлі, пайшлі валачобнічкі,
Іграючы і співаючы,
Слаўнага пана да пытаючы,
Слаўнага пана, пана гаспадара,
Пана гаспадара, пана Яна:
— Ці дома, дома слаўны пан?
Ох, хоць жа дома да не кажыцца,
Да не кажыцца, прыбіраецца:
Абувае боты казловыя,
Надзяець сукна атласовыя,
Надзяець шапку баброваю.
Як прыбраўся, так сеў сабе,
Так сеў сабе за столікам,
.За столікам за цісовенькім.
Перад ім стаяць да тры кубачкі,
Усе тры кубачкі, усе тры залатыя,
Усе тры залатыя, усе тры поўныя.
У адным кубачку зеляно віно,
У другім кубачку саладок мядок,
У трэцім кубачку пшанічнае піва.
Зеляно віно для пана самога,
Саладок мядок для жаны яго,
Пшанічнае піва для дзетак яго.
Потым таго да бывай здароў,
Бывай здароў і будзь багат
І з жаною маладою,
І з суседамі штонайбліжэйшымі,

З прыяцелямі штонаймілейшымі.
А мы ж пану не дакучнікі —
У гадочку — перву ночку
Просім пана паслухаці,
Што мы будзем вымаўляці.
Не баў гасцей, да дары барздзей,
Наш падарунак невялічкі:
Пачынальніку — чырвон злот,
А нашым рабятам — паўкапы яец,
Паўкапы яец, каб ахвотна пець;
А музыкава горкая доля,
Горкая доля — кварта гарэлкі,
Кварта гарэлкі і сыр на талерке,
Ой, сыр белы і пірог цэлы.

159. Цераз поле шырокае, цераз межы залаценькія
Ішлі тудою валачобнікі іграючы, прыпяваючы,
Іграючы, прыпяваючы, яснага пана пытаючы.
Якога ж пана? Пана гаспадара.
— Добры дзень пану гаспадару,
Калі дома, акажыся, к святому дню прыбярыся,
К святому дню, к Вялікадню.
Халоднай вадзіцай умывайся,
Чыстым ручніком уцірайся,
У боты-лапці абувайся,
У белу світку адзявайся;
Замятай двары да павім пяром,
Усё павім пяром, залатым крылом,
Расстаўляй сталы ўсё цісовыя,
Ўсё цісовыя, папісаныя,
Засцілай сталы ўсё кітайкаю,
Ўсё кітайкаю да зялёнаю,
Стаўляй кубкі срабляныя,
Налівай кубкі зялёным віном,
Зялёным віном, чорным півам,
Чорным півам, салодкім мядком.
Зеляно віно пану гаспадару,
Чорнае піва для яго жаны,
Саладок мядок для яго дзетак.
Да чым жа пан уславіўся,
Чым пан падарыўся?
Пасаджаў святкоў па застоллейку,

Сталі святкі ўсе лічыціся.
Яны ўсё лічацца да лічацца,
Аднаго святка не далічацца,
Таго святка, святога Юр'я,
Трэба слаці Юр'я шукаці.
— Святы Ілля, сядай на каня,
Сядай на каня да топай у поле,
Да топай у поле, да шукай там Юр'я.
Не паспеў Ілля сесць на каня,
Як Юрай на двор да кулём за стол.
Не далі Юр'ю разабраціся,
Сталі ў Юр'я пытаціся,
Дзе бываў, што ён чуваў.
Святы Юрай па палях хадзіў,
Па палях хадзіў да жыта радзіў,
Дзе гара — там жыта капа,
Дзе лужок — там сена стажок,
Дзе лагчынка — там жыта сцірдзінка.
Як на небе звёзды часты, так на полі копы густы,
З каласочка жыта бочка,
Жыта бочка, рэшата мякіны.
На гумне ўмалотам, у дзяжы падходам,
А ў бохане кроем.
У хлявушках каравушкі,
А на стайні вараныя коні,
У аўчарнях авечачкі,
Па катушках усё свіначкі.
Конікі ўсё вараненькія,
Каровушкі рагастыя,
Свіначкі віхрастыя,
Авечачкі касмастыя,
Курачкі чубастыя,
Гусачкі храшчастыя.
Гаспадар ты наш з гаспадыняю,
Не тамі нас доўга, падары нас борзда,
Не вялікім скарбам, чырвоным яйцом.
Са двара пойдзем прыпяваючы,
Пана гаспадара велічаючы.
Вот і песня спета праціў лета,
Штоб гаспадару па полю хадзіці,
Жыта жаці і нас памінаці.

160. Гаспадар, добры пану,
Хрыстос, сын божы, васкрэс!
Няхай так будзіць!
А ці спіш, ляжыш, спачываеш,
Ці з жаною маладою,
Ці з дзеткамі маленькімі?
Устань рана, мыйся бела,
Мыйся бела, як папера,
Глянь у ваконца на ўсход сонца,
Што дзеецца, лялеецца:
У тваім дварку, як у вянку,
Сады цвіцяць, пчолкі звіняць.
А ў полі стаіць явар,
Явар шырок, лістамі зелен.
Пад яварам прыстол стаіць,
За прыстолам крэсла стаіць,
На тым крэсле сам бог сядзіць,
Каля яго служкі яго
Лісты пішуць, рассылаюць,
Катораму ўпярод стаці.
Перша свята — божа лета,
Святы Ізбор — вадзіцу з гор,
А Казімір дровы сячэць,
Дровы сячэць, клады кладзець.
Благавешчань зямлю сушыць,
Зямлю сушыць, жыта рушыць.
Чысты чацвер сошку правіць,
Сошку правіць, каня гладзіць.
Каня гладзіць, заворываіць,
Свята Пасха яйкі красіць,
Яйкі красіць, разгаўляіць.
— Святы Юры — боскі ключнік,
Вазьмі ключы залатыя,
Пусці расу на ўсю вясну.
Радаўніца барануіць,
А Мікола — стары сявец
Ячмень сеіць, засяваіць.
Святы Іван — божы каваль
Косы пруціць, сярпы зубіць.
Святы Ілля — стара жняя
Выйшаў у поле ў чыстае
З малым сынам, з белым сырам.
Шахнець, махнець — снапок сажнець.
Святы Спасік — пільны часік
Жытцо возіць, бога просіць:

— Перанясі, божа, маё жытцо
Праз гумянцо,
Праз гумянцо да ў ваду.
Прачыстая жытцо сеіць,
А меншая ў помач стала,
Жытцо скора запахала.
Святы Звіжэнь дамоў дзвіжэць,
Святы Пакроў — саўсім дамоў
І з скацінкай і з хлябінкай.
Святы Змітры за ўсіх хітры,
Піва варыць, сыноў жэніць,
Сыноў жэніць, пасагі дзеліць:
Сыночку па канёчку,
А дачушцы па кароўцы.
Пакрывае пчалу мёдам,
Пчалу мёдам, ваду лёдам,
Дзеўку вянцом, а бабу чапцом.

Гаспадару, добры пану,
Масці кладку, заві ў хатку,
Не баў гасцей, заві барджэй.
Гэты госці не частыя, а гадавыя,
Рэдка ходзяць, мала просяць:
Калі ласка — канец сыра,
Калі змога — поўпірога,
Калі ласка — водкі пляшку,
А індычку на затычку.

161. На первы дзень, на Вялікдзень,
Зялён явар, зялёны.*
Валачобнікі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся:
— А куды пойдзем, а куды зайдзем?
— Пойдзем, пойдзем ўсё дарогаю,
Усё дарогаю, ўсё шырокаю.
Зайдзем, зайдзем к пану Івану.
— А ці дома, дома пане Іване?
— Хоць жа ён дома — не акажыцца:
У новай каморы прыбіраецца,
Адзяе майтачкі гарнатовыя,
Адзяе боцікі ўсё казловыя,
Адзяе шубачку сабалёвую,
Адзяе шапачку ўсё бабровую,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Выводзіць каня вараненькага,
А кладзе сядло залаценькае.
Садзіцца, едзе ў роўнае поле,
У роўнае поле ды к свайму жыту.
А яго жыта ядранiстае,
Ядранiстае, каласiстае,
К адной мяжы нахiлiлася,
Свайму гаспадару пакланiлася.
Песенька спета напроцi лета,
А будзь жа весел, як вясна красна,
А будзь жа цiхi, як цiха лета,
А будзь жа багаты, як багата восень.
А ты, гаспадынька, усё дагадайся:
Скавародку — ў печ, па яечкі — ў клець,
Кусок сала пакрышыцi,
А калбаскаю абгарадзiцi,
Кварту гарэлкi i сыр на талерцы,
Зялён явар, зялёны.

162. Добры вечар, пане гаспадару!
Вясна красна на ўвесь свет.*
Прыйшлi мы да пана як да багача,
Хочам пана да й павiтаць,
Яго панскае здароўе спытаць:
Цi здароў пан, цi вясёл пан?
Цi здарова панская жонка?
Цi здаровы панскiя дзеткi?
Панская жонка будзе падвышона,
Панскiя дзеткi, як у садзе кветкi,
А панскi двор, як у вянку.
На панскiм ганку крэслы стаяць,
На тых крэслах сам бог сядзiць.
— Увайдзi, божа, у панскiя пакоi.
— Я не пайду ў панскiя пакоi,
Але пайду ў роўнае поле,
У роўнае поле па мяжах хадзiцi,
Па мяжах хадзiцi — жыта радзiцi.
А ўсiх жыта харашусенька —
Нашага пана ўсё найлепшае,
Найлепшае, ядрынейшае.
Яно сцяблом сцяблынiстае,
А коранем каранiстае
I коласам каласiстае,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Яно пад гару пахіліўшыся.
Як пан араў — валы бушавалі,
Як пан баранаваў — конікі іржалі.
Жнуць яго жнейкі маладзенькія,
Іх сярпочкі залаценькія.
Яны самі, як ластаўкі,
Іх галоўкі, як макаўкі.
Як яны жалі — сярпы зажалі,
Як яны селі — сярпы зазвінелі,
Як яны сталі — сярпы заззялі.
Часты, густы зоры на небе —
Часцей, гусцей снапы ў полі.
Як на небе высок месяц —
Так за імі вышэй копы.
Як пан звозіў ды сваё жытцо
У цёмныя гумны да з светлага поля,
Яно ў тарпе прылежыста,
А на таку прымалоціста,
А ў арудзе прысыпіста,
А ў млыне прымеліста,
А ў дзяжы падыходзіста,
А ў печы румяніста,
А на стале, як сыр белы.
Сыр бяленькі — для коласа,
Кварту гарэлкі — для голаса.
Мы свае боты патапталі,
Пакуль пана апыталі.

163. Да й на Вялікдзень, да й на першы дзень,
Да й віно ж, віно зеляно!
Да ўсе святкі да гуляць пайшлі,
Да ўсе святкі да гуляць пайшлі.
Да й віно ж, віно зеляно!
Адно адзін Юры да гуляць не йшоў,
Адно адзін Юры да гуляць не йшоў.
Да віно ж, віно зеляно!
Да й на яго матка зажурылася,
Да й на яго матка зажурылася.
Да віно ж, віно зеляно!
Не журыся, матка, не сварыся, родна,
Не журыся, матка, не сварыся, родна.
Да віно ж, віно зеляно!
Я па мяжы хадзіў да жыцечка радзіў,
Я па мяжы хадзіў да жыцечка радзіў.

Да й віно ж, віно зеляно!
— Чыё, сынку, жыта да й найлепшае,
Чыё, сынку, жыта да й найлепшае?
Да й віно ж, віно зеляно!
— Пана Лукаяна да й найлепшае жыта,
Пана Лукаяна да й найлепшае жыта.
Да й віно ж, віно зеляно!
Найлепша дзяўчына жыта зажынала,
Жыта зажынала, ў тры радочкі клала.
Да й віно ж, віно зеляно!
Першы радочак дзеля засявання,
Першы радочак дзеля засявання.
Да й віно ж, віно зеляно!
А другі радочак дзеля спажывання,
А другі радочак дзеля спажывання.
Да й віно ж, віно зеляно!
А трэці радочак гарэліцу гнаці,
Гарэліцу гнаці і сына жаніці.
Да й віно ж, віно зеляно!
Дай жа, божа, пане гаспадару,
Каб ваша дачка ўзрасла, ўскрасла
І да зялёных свят замуж пайшла.

164. А на вуліцы на шырокай
Зялёны сад вішнёвы.*
На мураве на зялёнай
Ляжыць брусся брусвянае.
На тым бруссі мужыкі сядзяць,
Мужыкі сядзяць, раду радзяць,
Раду радзяць, раду добрую,
Раду добрую, валачобную:
Каму ехаць папярод сеяць,
Чыя ручка шчаслівая,
Таго ніўка ўрадлівая,
Таму ехаць папярод сеяць...
Іванава ручка шчаслівая,
Яго ніўка ўрадлівая,
Яму ехаць папярод сеяць,
Зялёны сад вішнёвы.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

165. А з-за лесу, лесу цёмнага
Выхадзіла туча грозная.
Што ў тэй тучы гаварыла?
Гаварыла пчаліная матка:
— Ох вы, пчолы, пчолы ярыя,
А куды ж мы йдзём, куды пайдзём?
— Пайдзём жа мы ў тую вотчыну,
У тую вотчыну швайкоўскую,
У тэі сады зялёныя, у тэі сады Іванавы!
Пане Іван, ці ёсць у цябе,
Ці ёсць у цябе улій сколькі?
А ўлійкаў да не дастала.
— Пчолы мае, пчолы ярыя,
Садзіцеся па кошыкам!..
А кошыкаў да не дастала.
— Пчолы мае, пчолы ярыя,
Садзіцеся да па бордзікам!..
А бордзікаў толькі дастала.
— Пчолы мае, пчолы ярыя,
Садзіцеся па старых местах!

166. Дзень добры таму, хто ў гэтым даму,*
Вясна красна зялёна!
А ў гэтым даму гаспадарочак,
Гаспадарочак, слічны паночак.
Ці спіш, ці ляжыш, ці спачываеш?
А калі ты спіш — бог жа з табою,
А калі не спіш — гукай са мною.
А ўстань раненька, умыйся беленька,
Умыйся беленька да й прыбярыся:
Надзень боцікі ўсё й казловыя,
Надзень шубачку да й бабровую,
Надзень шапачку — сібіраначку.
Вазьмі ліхтарок, схадзі ў хлявок,
Што ў тваім хляўку добра дзеіцца,
Добра дзеіцца, багадзеіцца:
Трыста каровак ацялілася,
А ўсе кароўкі, ўсе драмулачкі,
А ўрадзіліся ўсе цялушачкі,
Сто кабылачак ажарабілася,
Жарабілі яны па жарабочку,
Па жарабочку, па вараненькім.

* За кожным радком прыпеў: «Вясна красна зялёна».

Ах, вы, сыночкі, вы, сакалочкі,
А вазьміце ж вы па ’бротачцы,
Забрытайце ж вы па кабылачцы,
А вядзіце ж вы да коні ў поле,
А коні ў поле на Юру расу,
На Юру расу, на красну вясну.
А вы, дачушкі, да вы, шчабятушкі,
А вазьміце ж вы па даёначцы,
Падаіце ж вы па каровачцы.

А мы ж госці небывалыя.
Небывалыя, нехаджаныя,
Часта не ходзім, многа не просім.

167. А ў Сымона да на дварэ тры свіроначкі:
А ў першым свіронку жыта і пшаніца,
У другім свіронку дарагія сукні,
У трэцім свіронку золата і срэбра.
Жыта і пшаніцу спажываць будзе,
Дарагія сукні насіць будзе,
Срэбрам-золатам шафаваць будзе
І з сваёй жаной панаваць будзе,
Сваімі дзеткамі пасылаць будзе.
А ў яго на дварэ а стаіць сасна.*
— Яравыя пчолкі, што вы думаеце?
— А мы думаем паляцеці
У шчыры бары на жоўтыя цвяты,
А прынясём сто пудоў мёду
Нашаму гаспадару на ўспамогу.
— Яравыя пчолкі, што вы думаеце?
— А мы думаем паляцеці,
Паляцім мы ў шчырыя бары,
А прынясём сто пудоў воску
Нашаму Сымонку на ўспамогу.
У яго на дварэ а зялёны явор,
На том яворы ясен сакол.
— Ясен сакол, што ты думаеш?
— А я думаю паляцеці,
А я палячу ў шведскую зямлю,
А прыганю я стада быдла

* Бортнае дрэва.

Нашаму гаспадару на ўспамогу.
— А ясен сокал, што ты думаеш?
— А я думаю паляцеці,
А палячу [redacted] ў турэцкую зямлю,
А прыганю я табун коней
Нашаму Сымонку на ўспамогу.

168. Да выйдзі, выйдзі, пане гаспадару,
На сваё падвор'е вясёлае,
На сваю ніўку да шырокую!
Што на тваёй ніўцы да дзеецца,
Што дзеецца да бялеецца,
Да бялеецца да сінеецца,
Да сінеецца да рыжэецца?
Да рыжэецца буйнае жыта,
Да бялеюцца маладыя жанцы,
Да сінеюцца сталяныя сярпы.
Жанцы жалі, ў копы клалі,
У копы клалі да не рахавалі:
Дзе горачка — там копачка,
Дзе далінка — там сцірдзінка,
Дзе завірочак — там снапочак.
Ад снапочка жыта бочка,
Во з каласочка жыта мярочка,
А з капочкі жыта бочка.
Дай, пане-божа, з поля возу,
З поля возу, у старане накладу.
Ў старане накладам, на таку ўмалотам,
На таку ўмалотам, у засеку спору,
У засеку спору, у млыне намолу,
У млыне намолу, у дзяжы падходу,
У дзяжы падходу, у печы напёку,
У печы напёку, ў бохане прыбытку,
Ў бохане прыбытку, Рыгору на пажытку.
Проці лета песня спета,
После зімы на здароўе.
Дай жа, божа, на век доўгі,
На век доўгі, на быт добры!
Каб багаты былі да нас не забылі,
Начынальнічку рубля ў ручку,
Да маім брацціям па тры злоты,
Па тры злоты нам на боты,
А мы ночкі не даспалі,
Мы боцікі патапталі,

Пана гаспадара звелічалі.
Вынесь, вынесь, пане гаспадару,
Да маіх брацця́ў нагрaдзіці
Сорак яек да на паўмісак,
Каўбасою акружыці,
Белым сырам завяршыці.

169. А на вуліцы да на шырокай,
А на мураве да на зялёнай
Ляжыць бруссе да цясовае,
А на тым бруссі да мужы сядзяць,
Да мужы сядзяць, мужы чэсныя,
Да радзюць раду, раду добрую,
Раду добрую, валачобную:
— Да каго ж будзем абіраць войтам?
— Абяром войтам слаўнага пана,
Слаўнага пана, пана Васіля:
Ён жа ўмеіць да суды судзіць,
А суды судзіць, судавое браць —
Самому ж пану — каня варанога,
А жане яго — жоўтыя лісы,
На дзяцей яго — чорныя бобры,
Чорныя бобры, каб раслі добры.
Патом таго, слаўны пане,
Да ўжо ж вам песня спета.
А дзякуем слаўнаму пану,
Слаўнаму пану, пану Васілю,
За яго хлябы за сітовыя,
За яго страўкі за сахарныя,
За яго слоўцы за пакорныя,
А патом таго да й жане ж яго,
А патом таго да й дзецям яго,
А патом таго да й і ўсёй сям'і.
Да жыві здароў да і будзь багат,
Да не сам з сабой, да з сваім дварам,
Да з сваімі з любадзеткамі,
Да з суседзьмі і са бліжнімі,
І са бліжнімі і са дальнімі,
З пакрэўнымі да прыяцелямі.

170. Чый то домік на прыгорачку?
Да віно ж віно зялёнае!
Залаты тыночак, зыбкія варотцы,
Каля тыну пчолкі гудзяць,

14. Зак. 84

Каля застрэшку галубкі шумяць,
А ў каморы краўцы сядзяць,
Краўцы сядзяць, шубу шыюць,
Шубу й шыюць самой пані,
Самой пані, пані гаспадыні.
Сукна многа — шуба доўга.
Наша гаспадынька расхадзілася,
Па бруку ходзе, брук падмятае,
Сваіх дзетак рана пабуджае:
— Устаньце, дзеткі, ранюсенька,
Умыйцеся бялюсенька,
Пойдзем жа мы ў новую абору.
У новай аборы яў з'явілася:
Сорак каровак ацялілася,
А йшчэ столькі пазначылася.
Як на небе зорка пакацілася,
Наша гаспадынька расхадзілася,
Шуба на апашак, у кішэні пляшак:
Сыра на талерку — запіваць гарэлку,
Скварку ў печ, па яйкі ў клець.

171. Гаспадынечка-журавіначка,
Устань раненька, мыйся беленька,
Мыйся беленька, утрыся чысценька,
Запалі свечку найяснейшую,
Збудзі служку найвярнейшую,
Няхай бярэць ліхтарок і ідзе у хлявок.
У вашым хляўку праява стала,
Праява стала, праявілася,
Дзесяць кабылак ажарабілася:
Пяць жаробачак, пяць жаробчыкаў.
Тыя жаробачкі на прыплодачкі,
А жарабочкі на паяздочкі.
Гаспадынечка-журавіначка,
Устань раненька, мыйся беленька,
Мыйся беленька, утрыся чысценька,
Запалі свечку найяснейшую,
Збудзі служку найвярнейшую,
Няхай бярэць ліхтарочак
І ідзець у хлявочак.
У вашым хляўку праява стала,
Праява стала, праявілася,
Капа каровак ацялілася:
Трыццаць бычкоў, трыццаць цялушак.
Тыя бычкі на пажытачкі,
А цялушачкі на прыплодачкі.

172. Да ў нашага пана гаспадара,
Да зялён явар, дуброва!
Сад-вінаград пазасаджаны,
Райскія птушкі папрынаджваны,
Цясовыя сталы да пазасціланы,
Зялёныя кубкі да паналіваны.
Усхадзілася шура да бура,
Сад-вінаград да паламала,
Райскія птушкі да паразганяла,
Цясовыя сталы да парассцілала,
Зялёныя кубкі да паразлівала.
Засмуціўся сам пан гаспадар,
А ў яго жонка разважліва,
Па двару ходзіць, пана разважае:
— Не смуціся, пан гаспадар,
Да калі будзем жыці да быці,
Сад-вінаград пазасаджваем,
Райскія птушкі папрынаджваем,
Цясовыя сталы да пазасцілаем,
Зялёныя кубкі да паналіваем
І з дзеткамі, і з суседкамі,
І з блізкімі да прыяцелямі.
Кварту гарэлкі паставіці,
А сыр белы да палажыці.
Кварта гарэлкі да дзеля смялосці,
А сыр белы да дзеля былосці.

173. Ляцела пава ды на дварэ ўпала,
Зялёны явар кудравы.
Звіла гняздзечка, знесла яечка,
Знесла другое, знесла трэцяе.
Вывела яна тры сыночкі,
Усе — Васілёчкі.
Адзін сказаў: [redacted] отчыкам * буду,
Мёду нагляджу к святому дню
Благавешчанню.
Другі сказаў: рыбаловам буду,
Рыбы налаўлю к святому дню,
Чыстаму чацвяргу.
Трэці сказаў: я пахарам буду,
Хлеба напашу к святому дню, к Вялікадню.
Первы крыкнуў у шчырым бару,
Вуллі мёду падглядаючы,

* Пчаляр (мясцовае, старажытнае).

Бога на помач прызываючы.
Другі крыкнуў на быстрай рэчцы,
Сець за рыбай закідаючы,
Бога на помач прызываючы.
Трэці крыкнуў у чыстым полі,
Каня ў сошку запрагаючы,
Бога на помач прызываючы.

174. Стаяла верба вілаватая,
Слаўная пані чараватая.
Слаўная пані, пані Дар'я,
Зачарылася на трох сыноў,
На трох сыноў, як сакалоў.
Первы сынок — той пашнічак,
А другі сынок — той канюшок,
Трэці сынок — малады земчык.
Пашнічак бога просіць:
— Зарадзі ж, божа, да маё жыта,
Да маё жыта ў чыстым полі.
Канюшок бога просіць:
— Пасі ж, божа, маіх коні,
Маіх коні ў чыстым полі,
У чыстым полі, у Юр'евых росах,
У Юр'евых росах, у Мікольскіх травах.
Земчык у садзе бога просіць:
— А раі ж, божа, мае пчолкі,
Да мае пчолкі ў вішнёвым садзе.
Патом таго, слаўная пані,
Слаўная пані, пані Дар'я,
Да ўжо ж вам песня спета,
Песня спета проціў лета,
Проціў лета, лета краснага,
У добрай ласцы, у добрай згодзе,
У добрай згодзе нам пець годзе.

175. Ой, у агародчыку да ў малюсенькім
Стаяла рожа чырванюсенька.
Вышла-выбегла красна паненка,
Красна паненка, тонка, бяленька,
Яна тую рожу сашчыпала,
К свайму ліцу раўнавала:
— Што б маё ліцо такое было
І румяна, і чырвона,

Не пайшла б я ні за кога —
Ні за двараніна, ні за мешчаніна,
Да пайшла б я за такога пана,
Што ў судзе сядзіць, перасуд бярэць,
Перасуд бярэць, сваёй панне шлець,
Сваёй панне шлець кунню шубу,
Кунню шубу, пярлоў венчык,
Пярлоў венчык, залаты сігнэт:
Кунню шубу — к вяселлейку,
Перлаў венчык — на залоўку,
Залаты сігнэт — вянчаціся.
Ой, за наша ўспяванне
Просім капу яек для пазнання,
Капу яек для гонару,
Па кілішку на дарожку.
Мы паненку віншуемы,
Шчасця долі зычыемы,
Бывай здарова і гуляй вясёла,
Як салавейка ў ціхім лузе,
У ціхім лузе да на калінцы.
Тонка калінка, стой не гібніся,
Красна паненка, гуляй, весяліся.

176. Да ў гародзе на пагодзе,
Хрыстос васкрэс, сын божы! *
Садзік-кусток — ружовы лісток.
Выйшла-выбегла красна паненка,
Тую ружу сашчыпала,
К свайму ліцу меркавала:
— Каб маё ліцо такое было,
Да, як ружа, чырвонае,
Не пайшла б я ні за двараніна,
Ні за двараніна, ні за мешчаніна,
Пайшла б я за такога пана,
Што з коніка не ссядаіць,
З стрэмя ножак не вымаіць,
У адным стале з каралём сядзіць,
Сеўшы за столікам, кубак налівае.
Была б я за столікам,
Налівала б тры кубачкі:
Адзін кубак — зялёнага віна,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Другі кубак — пшанічнага піва,
Трэці кубак — салодкага мёду.
Зялёна віно — пану майму,
Пшанічнае піва — дзеткам маім,
Мёд салодкі сама вып'ю.

177. А ў гародзе ды на пераходзе
Стаіць ружа чырвоная,
Віно ж маё, віно зеляно! *
Выйшла-выбегла красна паненка,
Красна паненка, на імя Аленка,
Вышчыкнула з ружы кветку
Ды меркавала к свайму лічыку.
— А дай, божа, такое лічка,
Як і з ружы гэта кветка,
То пайшла б я за садавода,
Бо садавод сады садзіць.
Першы садок — ды вішнёвы,
Другі садок — ды чарашнёвы,
Трэці садок — краснае паненкі,
Краснае паненкі, маладой Аленкі.
Гэта песня табе спета,
Песня спета проці лета,
А што, панна, за дар дасі?
Сорак яек на паўміску,
Каўбасою абкружыўшы,
Белым сырам завяршыўшы,
Віно ж маё, віно зеляно!

178. Ой, на азярыне на сіненькай,
Вясна красна на ўвесь свет!
На кладачцы ды на гібенькай,
Зялёны явар, зялёны! **
Там дзяўчына бель бяліла,
Бель бяліла, ручкі мыла,
Ручкі мыла, персцень ураніла.
Дзе бралася шчука-рыба,
З хваль нырнула, персцень праглынула.
А к той азярыне ды па лугавіне
Ішлі-брылі тры малойчыкі,

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

** Прыпевы «Вясна красна на ўвесь свет!» і «Зялёны явар, зялёны!» паўтараюцца па чарзе праз адзін радок.

Тры малойчыкі-рыбалоўчыкі
Ішлі на нерат, неслі невад.
— Ой, мілыя мае тры малойчыкі,
Тры малойчыкі-рыбалоўчыкі,
Вы злавіце шчуку-рыбачку,
Адбярыце залаты персцень.
Я ж вам буду ў вялікай адгодзе:
Аднаму буду суседкаю,
Другому буду швагеркаю,
Трэцяму, згадаем, сама маладая.
Я да суседа агню пайду,
Я да швагра ў госці паеду,
А з каханым век жыць буду.
— Дзяўчыначка-журавіначка,
Загадаем табе сем загадак,
Адгадаеш — персцень атрымаеш,
Не адгадаеш — нас не дачакаеш.
А што шэпча без говара?
А што бяжыць без повада?
А што расце без кораня?
А што чорна не чэрнячы?
А што бела не белячы?
А што стогне без немачы?
А што ўецца паверх дрэва?
— Вецер шэпча без говара,
Вада бяжыць без повада,
Камень расце без кораня,
Снягі белы не белячы,
Воран чорны не чэрнячы,
Свіння стогне без немачы,
Хмель віецца паверх дрэва.

179. Ой, на моры, моры ды на сіненькім,
На камені ды на беленькім
Там паненка бель бяліла,
Бель бяліла, ручкі мыла,
Ручкі мыла, персня забыла.
Да прасіла свайго войчанька:
— Мой войчанька, мой родненькі,
Да паедзь, паедзь па мой персцень,
Да па мой персцень, да па залаценькі.
— Калі ж мой конь да не кованы,
Да не кованы, да не поены,
Да на белы камень да не наступе,

Залатога персня ды не дастану.
Войчанька едзе, персня не вязе,
Персня не вязе, праўды не кажа.
А на моры, моры да на сіненькім,
Да на камені да на беленькім
Там паненка бель бяліла,
Бель бяліла, ручкі мыла,
Ручкі мыла, персня забыла.
Да прасіла свайго брацетка:
— Мой брацетка, мой родненькі,
Да паедзь, паедзь па мой персцень,
Да па мой персцень, да па залаценькі.
— Калі ж мой конь да не кованы,
Да не кованы, да не поены,
Да на белы камень да не наступе,
Залатога персня да не дастану.
Брацетка едзе, персня не вязе,
Персня не вязе, праўды не кажа.
А на моры, моры ды на сіненькім
Там паненка бель бяліла,
Бель бяліла, ручкі мыла,
Ручкі мыла, персня забыла.
Да прасіла свайго мілага...
— Да мае коні падкаваны,
Падкаваны да напоены,
Да на белы камень да наступяць,
Да залаты персцень да дастану.
Міленькі едзе, персцень вязе,
Персцень вязе, усю праўданьку кажа.

180. Ляцела пава залацістая,
Спявайце, братцы, спявайце.
Пусціла пер'е закасістае.
Выйшла, ой, выйшла красна дзеўчына,
Тое перайка пасабірала,
Пасабірала, у рукаў запхала,
Панесла ж яна на высок церам,
На высок церам да к тром кавалям.
— Вы, кавальчыкі, вы, работнічкі,
Ой, скуйце, збіце мне тры вяночкі:
Адзін вяночак да з руты з мяты,
Другі вяночак з пад'яленчыку,
Трэці вяночак з чырвонай рожы;
Ой, з руты, з мяты вянок багаты,

З пад'яленчыку — то к вяселлейку,
З чырвонай рожы я сама знашу,
Я сама знашу, два двары акрашу:
Адзін дварочак — там, дзе я расла,
Другі дварочак — да дзе я пайшла.

181. А ў матулькі адна дочка,
Сад зялёны, вішнёвы! *
Як вішанька ў садочку.
Пайшла ж яна ў садочак,
У садочак пагуляці,
Сабе грушку выбіраці.
Ды выбрала сабе грушку,
Ды такую высокую.
На ёй сучча срэбранае,
На ёй лісце залатое.
Як напалі сільны ветры —
Сучча й лісце абарвалі.
Паненачка рана ўстала,
Умылася бялюсенька,
Зачасалася слізюсенька.
Пайшла ж яна у садочак,
Гэту шкоду забачыла,
Шоўкаў платок разаслала,
Сучча, лісце пазбірала,
У пучочкі павязала.
Пайшла яна да злотнічкаў:
— Вы, злотнічкі-работнічкі,
Ды зрабіце мне тры выгоды:
Перша выгода — злоты кубак,
Друга выгода — злоты персцень,
Трэцяя выгода — злоты венец.
Злоты кубак — віно піці,
Злоты персцень — на мянянне,
Злоты венец — на вянчанне.
— Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда будзь пакорна,
На малойцаў агляніся,
Нам, малойцам, аддарыся:
Ці серабром неважоным,
Ці золатам незлічоным,
Добрым часам, перад кірмашам!

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Серабро сваё мы зважым —
Мы паненку не зняважым,
А золата самі злічым —
Мы паненку падвялічым.
Чырван злоты — нам на боты,
Бо мы боты патапталі,
Пакуль панну дапыталі.
Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда, будзь пакорна,
Татку з мамкай пакланіся,
Нам, малойцам, адгадзіся.
Як не хочаш аддарыцца —
Пойдзеш з намі валачыцца.
Нашы сцежкі далёкія,
Нашы росы халодныя,
Нашы рэкі глыбокія:
Заросішся, замочышся,
Тады нам аддарышся,
Нейдзе ж нанач папросішся.
Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда, будзь пакорна,
На малойцаў агляніся,
Нам, малойцам, аддарыся:
Сыр на талерку, водкі бутэльку,
Пірог на стол і нас за стол.
Сад зялёны, вішнёвы!

182. А ў караля пасярод двара,
Віно да віно, гэй, віно зеляно!
Стаіць вярба каранiстая,
На ёй голле пазлацістае.
Наляцелі марскія пташкі,
Тыя голля зачапілі,
Тое злота абтрусілі.
Выйшла-выбегла красна паненка,
Шоўкаў платочак разаслала,
Тое злота падабрала,
Да злотнічкаў адаслала.
— Ах вы, злотнічкі, вы, работнічкі,
Вы зрабіце тры надобінкі:
Першу надобінку — злоты персцень,
Другую надобінку — руцвян вянец,
Трэцюю надобінку — залаты кубак;
Злоты персцень — на мяненнейка,
Руцвян вянец — на вянчаннейка.
Залаты кубак — на вітаннейка.

183. Чэраз Дунай гібка кладка,
А зялён явар кудравы!
Маляваная, габляваная.
Па тэй кладцы ходзіць паненка,
Ходзіць паненка, малада Агапка.
Нясець яна ў правай руцэ залаты кубак,
А ў левай руцэ шалкову хусту.
За ёй ходзіць купецкі сын,
Просіць у яе залатога кубка,
Залатога кубка умывацися,
Шаўковай хустай уціраціся.
— Купецкі сын, не хадзі за мной,
Не хадзі за мной, ты не равен мне,
Не дам табе залатога кубка умывацися,
Не дам табе шаўковай хустай уціраціся.
Чэраз Дунай гібка кладка,
Маляваная, габляваная.
Па тэй кладцы ходзіць паненка,
Ходзіць паненка, малада Агапка.
За ёй ходзіць каралеўскі сын,
Просіць у яе залатога кубка умывацися,
Просіць у яе шаўковай хустай уціраціся.
— Каралеўскі сын, не хадзі за мной!
Не дам табе залатога кубка умывацися,
Не дам табе шаўковай хустай уціраціся.
Чэраз Дунай гібка кладка,
Маляваная, габляваная.
Па тэй кладцы ходзіць паненка,
Ходзіць паненка, малада Агапка.
За ёй ходзіць малады сужанька,
Просіць у яе залатога кубка умывацися,
Просіць у яе шаўковай хустай уціраціся.
— Малады сужаньку, хадзі за мной!
Дам я табе залатога кубка умывацися,
Дам я табе шаўковай хустай уціраціся.

184. Добры вечар, ды паненачка!
Зялён явар, зялёны! *
Просім адамкнуць нам акеначка,
Просім пабачыць свайго каханага.
Твой жа каханы на коніку едзе,
На коніку едзе, бліжай пад'язджае,
Бліжай пад'язджае, тры падаркі мае:

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Першы падарак — руцвяны вянок,
Другі падарак — залаты персцень,
Трэці падарак — срэбраны кубак.
Руцвяным вянком павянчаціся,
Срэбраным кубкам мёд, віно піці,
Мёд, віно піці — не упіваціся,
Залатым персцем абмяняціся.
Просім выйсці к нам на ганачак,
Просім вынесці нам ды падарачак:
Сыр на тарэлку — закусіць гарэлку,
Парасё з хвастом валачы на стол,
Слаўная паненка, бывай здарова,
Бывай здарова, жыві багата!
Зялён явар, зялёны!

185. Вечар добры, паненачка,
Да віно ж, віно зеляно! *
Чаму не адэмкніш акенечка,
Чаму не ўложыш сукеначкі,
Чаму не паглёндаш, ** каго жондаш. ***
Кавалер едзе, ён тут будзе,
Пекны, слічны, палітычны,
Не тутэйшы, загранічны.
Як ён ехаў праз Кракава,
Кракавянкі аж памлелі:
«Мы такога не відзелі».
Сам бялявы, вус чарнявы,
На ім мундзір дарагенькі,
Пад ім конік вараненькі,
Пад ім сядло залатое,
А страменца дыямэнтова.
Мы, маладзенькі, атапталіся,
Пакуль да паненкі датапталіся.
Мы, маладзенькі, абнасіліся,
Пакуль да паненкі даблудзіліся.
Даруй гасцей, не баў, бардзей,
Гэтыя госці недакучныя,
Каля акон ходзяць, дзвярэй не адчыняюць.
Не часта ходзяць, не многа просяць:
Чырвон злоты нам на боты,
Саракоўкі нам на падкоўкі,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Паглядзіш (польск.).
*** Хочаш, жадаеш (польск.).

Кварту гарэлкі для смялосці,
Гарнец мёду, то для голасу,
Сорак яек на паўмісак
Кілбасою акружыці,
Белым сырам налажыці,
Срэбным рублём завяршыці.

186. Ой, на моры на сіненькім,
Да віно ж, віно зеляно! *
Красна паненка, малада Марыя,
Бела бяліла, ручкі мыла,
Ручкі мыла, сыгнэт ураніла.
Ой, ішлі ж, прыйшлі тры лалоўнічкі,
Тры лалоўнічкі-рыбалоўнічкі.
— Рыбалоўнічкі, вы лалоўнічкі,
Закіньце ж вы шоўкаў невад,
Дастаньце мне злоты сыгнэт.
— Што ж нам, паненка, за дар дасі?
— Для аднаго — шоўкаў невад,
Для другога — злоты сыгнэт,
За трэцяга сама пайду;
Шоўкаў невад — рыбу лавіць,
Злоты сыгнэт — красавацца,
Са мной, маладой, будзем век жыць.

187. На гародзе да на пераходзе
Там цвіла рожа чырвоненька,
Там хадзіла злічна паненка,
Злічна паненка, малада Аленка.
Яна тую рожу да сашчыпала,
Сашчыпала і вянок звіла,
Звіўшы вяночак, пайшла ў танок.
Як усхадзіліся буйныя ветры,
Буйныя ветры, дробныя дожджыкі.
Яны той вянок да й замачылі,
Да й замачылі, да й загубілі.
Пайшла яна рыдаючы,
Свайго вяночка шукаючы,
Сустрэла тры кукольнічкі,
Тры кукольнічкі, сваевольнічкі.
— Мілыя мае тры кукольнічкі,
Кукольнічкі, мае галубочкі,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ці не чулі, ці не бачылі майго вяночка?
Адзін кажа: «Я й чуць не чуў»,
А другі кажа: «Я й не бачыў»,
А трэці кажа: «Я й сам там быў,
Я й сам там быў, на ручках трымаў,
На ручках трымаў, на галоўку клаў».

188. Да ляцелі да два галубочкі,
Да віно ж, віно зеляно!
Да зранілі да два жалудочкі,
З тых жалудочкаў сталі два дубочкі,
А на тых дубочках свечы гарэлі,
Свечы гарэлі, іскры сыпацелі,
А з тых іскраў сіня мора стала.
На азёры да на сіненькім,
Да на камені да на беленькім
Там дзяўчына ручкі мыла,
Ручкі мыла, персцень ураніла.
Тудэю ішлі тры малойцы,
Тры малойцы, рыбалоўцы.
Яна ж у іх прасілася:
— Вы, малойчыкі-рыбалоўчыкі,
Да закіньце вы шоўкаў невад,
Да злавіце мой золат персцень.
— Да красная паненка, што нам з таго будзе?
— Да першаму — мой золат персцень,
А другому — руцвян вянец,
А трэцяму — сама, маладая,
Сама, маладая, касіца русая.

189. Тонка, тонка канапелька, гэй, лолам!
Танчэйшая красна панна, лолам!
Танчэйшая красна панна, гэй, лолам!
Красна панна і Маруся, лолам!
На Дунаю хусты прала, гэй, лолам!
На Дунаю хусты прала, лолам!
Хусты прала, бель бяліла, гэй, лолам!
Хусты прала, бель бяліла, лолам!
Злоты персцень згубіла, гэй, лолам!
Злоты персцень згубіла, лолам!
Ішлі й беглі рыбалоўцы, гэй, лолам!
Ішлі й беглі рыбалоўцы, лолам!

— А мае вы рыбалоўцы, гэй, лолам!
А мае вы рыбалоўцы, лолам!
Закідайце шоўкаў невад, гэй, лолам!
Закідайце шоўкаў невад, лолам!
І злавіце ж шчуку-рыбу, гэй, лолам!
І злавіце ж шчуку-рыбу, лолам!
І злавіце й расплатайце, гэй, лолам!
І злавіце й расплатайце, лолам!
Пярсцёначка пашукайце, гэй, лолам!
Пярсцёначка пашукайце, лолам!
З шчукі-рыбы абед будзе, гэй, лолам!
З шчукі-рыбы абед будзе, лолам!
Злоты персцень узамен пойдзе, гэй, лолам!
Злоты персцень узамен пойдзе, лолам!
Песня спета проці лета, гэй, лолам!
Песня спета проці лета, лолам!
Лета не ждзі, замуж ідзі, гэй, лолам!
Лета не ждзі, замуж ідзі, лолам!
Каб мы болей не спявалі, гэй, лолам!
Каб мы болей не спявалі, лолам!
Як салаўі ў садочку, гэй, лолам!
Як салаўі ў садочку, лолам!
Так мы ў панны ў акеначку, гэй, лолам!
Так мы ў панны ў акеначку, лолам!
Не спі доўга, даўгюсенька, гэй, лолам!
Не спі доўга, даўгюсенька, лолам!
Уставай рана, ранюсенька, гэй, лолам!
Уставай рана, ранюсенька, лолам!
Сей льну многа, мнагусенька, гэй, лолам!
Сей льну многа, мнагусенька, лолам!
Палі чыста, чысцюсенька, гэй, лолам!
Палі чыста, чысцюсенька, лолам!
І рві хутка, хуцюсенька, гэй, лолам!
І рві хутка, хуцюсенька, лолам!
Й сцялі роўна, раўнюсенька, гэй, лолам!
Й сцялі роўна, раўнюсенька, лолам!
І тры чыста, чысцюсенька, гэй, лолам!
І тры чыста, чысцюсенька, лолам!
Прадзі ценька, цянюсенька, гэй, лолам!
Прадзі ценька, цянюсенька, лолам!
І снуй многа, мнагусенька, гэй, лолам!
І снуй многа, мнагусенька, лолам!
І тчы гладка, гладзюсенька, гэй, лолам!
І тчы гладка, гладзюсенька, лолам!
Й бялі бела, бялюсенька, гэй, лолам!

Й бялі бела, бялюсенька, лолам!
Рэж падаркі даўгусенька, гэй, лолам!
Рэж падаркі даўгусенька, лолам!
Прымай сваты гжэчнюсенька, гэй, лолам!
Прымай сваты гжэчнюсенька, лолам!
Што ж нам, панна, за дар дасі, гэй, лолам!
Што ж нам, панна, за дар дасі, лолам!
Сорак яек на паўмісак, гэй, лолам!
Сорак яек на паўмісак, лолам!
Кілбасою акружыці, гэй, лолам!
Кілбасою акружыці, лолам!
Белым сырам завяршыці, гэй, лолам!
Белым сырам завяршыці, лолам!

190. У чыстым полі стадоланька,
А зялёны сад вішнёвы!
У стадольцы карчоманька,
У карчомцы краватанька,
На краваці слічна паненка,
Слічна паненка, панна Ганна.
Ля яе стаяць тры малойцы,
Тры малойцы, усе тры маладыя:
Першы малойчык — пан Сымонка,
Другі малойчык — пан Халімонка,
Трэці малойчык — пан Мільянка.
Сымонка стаіць проці ручак,
Халімонка стаіць проці галоўкі,
Мільянка стаіць проці ножак.
Сымонка стаіць з зялёным вінам,
Халімонка стаіць з пшанічным пірагом,
Мільянка стаіць з горкай гарэлкай.
Сымонка кажэць: «Ганулька,
Пакаштуй майго зялёна віна».
Халімонка кажэць: «З'еш
Майго пшоннага пірага».
Мільянка кажэць: «Пакаштуй
Маёй горкай гарэлкі».
Яна кажэць: «Ада ўсіх піці —
П'янай быці.
Усіх любіці — нежывой быці;
Піць не піць зялёна віна,
Любіць не любіць маладога Сымонкі!»

191. Вечар добры, паненачка,
Віном, віном зялёным! *
На сенажаці да на поплаві
Там хадзіла курапат стада,
Між тых курапат — мядуначка.
Скуль браўся селязень сізы —
Ен усе курапаты паразганяў,
А чырачынку за чубок узяў.
Яна стала прасіціся,
Яна стала прасіціся,
Прасіціся-маліціся:
— Пусці ж мяне да пташачак,
Да пташачак, да грумадачак!
— А хоць пушчу, дак пазначу:
Твае пер'я пакасмачу!
У вялікім доме да на ганачку
Там стаяла дзевак многа.
Скуль браўся кавалер слічны —
Усім дзеўкам добры дзень даў,
А маладу Мар'янку за ручку ўзяў.
Яна стала прасіціся,
Прасіціся-маліціся:
— Пусці ж мяне да дзевачак,
Да дзевачак, да паненачак!
— Хоць пушчу, дык пазначу:
Тваю коску раскасмачу,
Маладу Мар'янку для сябе зазначу!
Да дзевачак не пристанеш —
З малодкамі паровін станеш.
Песня спета проці лета,
Проці лета, проці цёплага.

192. Да ў кольнічку, ў агароднічку
Тудэю ішло да дзевачак танок,
Да ўсе ж яны весялюсенькі,
Адна паненка хмурнюсенька.
Красна паненка на імя Ганначка
Загневалася на айца, на матку,
Што сукенку шылі, пакарацілі,
Ядвабным шнурам да не аблажылі,
— Дзіце ж наша да міленькае,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Не гневайся, маладзенькае,
Мусіма краўцоў папрасіці
Да сукенку надтачыці,
Ядвабным шнурам аблажыці.

193. А з-пад лесу, лесу зялёнага,
Вясна красна, дзень цёплы!
Выступала туча грозная.
Людзі той тучы папужаліся,
Папужаліся, паўлякаліся.
Абазваўся ацецкі сын:
— Не пужайцесь, не ўлякайцесь
гэтай тучы,
Ета туча ні дажджавая, ні снегавая.
Яна морам ішла — пчолак садзіла,
Яна полем ішла — жыта радзіла,
Яна сялом ішла — статак пладзіла.

194. Ранні авёс — позні авёс, гэй, лолам!
Ранні авёс — позні авёс,
Найпазнейшы — зелянейшы, гэй, лолам!
Найпазнейшы — зелянейшы.
А ў тым аўсе камень ляжыць, гэй, лолам!
А ў тым аўсе камень ляжыць,
На камені змяя сядзіць, гэй, лолам!
На камені змяя сядзіць.
Туды ехаў бел малойчык, гэй, лолам!
Туды ехаў бел малойчык
На коніку вараненькім, гэй, лолам!
На коніку вараненькім,
На сядэлку залаценькім, гэй, лолам!
На сядэлку залаценькім.
Хацеў цяці голаў зняці, гэй, лолам!
Хацеў цяці голаў зняці.
Стала змяя прасіціся, гэй, лолам!
Стала змяя прасіціся:
— Не тні мяне, бел малойчык, гэй, лолам!
Не тні мяне, бел малойчык,
Стану я табе ў прыгодзе, гэй, лолам!
Стану я табе ў прыгодзе.
Пушчу сынкі ў чашнічкі, гэй, лолам!
Пушчу сынкі ў чашнічкі.
А дачушкі ў сванечкі, гэй, лолам!

А дачушкі ў сванечкі,
А старога за старосту,
Сама стара за кухарку, гэй, лолам!
Сама стара за кухарку.
Убяру сынкі ў бела злота, гэй, лолам!
Убяру сынкі ў бела золата,
А дачушкі ў аксаміты, гэй, лолам!
А дачушкі ў аксаміты,
А старога ў кажушышча, гэй, лолам!
А старога ў кажушышча,
Сама стара у раднішча, гэй, лолам!
Сама стара у раднішча.
Перавязу цераз мора, гэй, лолам!
Перавязу цераз мора,
Каб конікаў не ўтапілі, гэй, лолам!
Каб конікаў не ўтапілі,
Каб сукенак не ўмачылі, гэй, лолам!
Каб сукенак не ўмачылі.

195. Авёс зелен, позна сеян,
А ў тым аўсе да мяжа ляжыць,
Да той мяжой да куна бяжыць,
Куна бяжыць з куняняткамі.
Выйшаў, выцек красны панічак,
Стрэліць, меціць да куну забіць.
Стала куна прасіціся:
— Не бі, не рубі мяне.
Скажу табе тры радасці:
Першая радасць — маткі слухаць,
Другая радасць — ажаніціся,
Трэцяя радасць — каралю служыці.
Маткі слухаць, то збавен будзеш,
Ажаніціся, то багат будзеш,
Каралю служыць, то славен будзеш.

196. Ой, на моры, на сінім Дунаі,
Віно ж маё зеляно! *
Ляжыць кладка брусаваная,
А масточкі ўсе каваныя.
Тудой ішло семсот коней,
Усе кладачкі пазгібаліся,

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А масточкі паламаліся,
Семсот коней утапілася.
Скуль узяўся красны панічык,
Красны панічык, малады Андрэйка,
Ляціць-бяжыць, гукаючы,
Свайго каня шукаючы:
— Вот не жаль жа мне семсот коней,
Вот жаль жа мне аднаго каня:
З яго рота цякло злота,
Ён капыцікам камень разбівае,
Ён хвосцікам вулку падмятае,
Ён вушкамі неба падпірае,
Ён вочкамі зорачкі шчытае,
Ён Андрэйку паненку шукае.

197. А ў нядзелю да параненька
Ходзіць паніч да па ганачку,
Ходзіць, ходзіць ды пахаджвае,
Сваю чаляданьку ды выклікае:
— Да ўстань, да ўстань, новая чаляданька,
Да мы пойдзем да новае стаенькі,
Да мы возьмем каня варанога,
Каня варанога, сядло залатое,
Да я паеду на руннае поле
Да свае ніўкі аглядаці.
Як выехаў за вароцечка,
Сустрачае Юр'я самога.
— Ды куды едзеш, слічны панічу?
— Да еду на руннае поле
Свае ніўкі аглядаці.
— Да вярніся, слічны панічу,
Да твая ніва сей урадліва:
Да на карэнне каранiстая,
З сярэдзінкі да сцяблістая,
Да з каласочка каласістая...

198. Ішла хмара да хмарыстая,
Ехала войска украінскае,
Наперад яго царыч-паніч
На вараным кані увіхаецца,
Залатым мячом укладаецца.
Едзе поле, едзе і другое,
На трэцяе ўз'язджае,

Зазывае турэцкага цара:
— Выйдзі, выйдзі, турэцкі цар,
Выйдзі ка мне ў поле ваяваці.
— Як я маю з князем ваяваці,
Лепей жа князю згоду даці:
Даці князю каня варанога,
Каня варанога, сто чырвон злот.
— Я гэта прымаю і табе не дзякую.
Пайшла хмара да хмарыстая,
Ехала войска украінскае,
Наперад яго царыч-паніч,
Царыч-паніч, малады Пятрусь,
На вараным кані увіхаецца,
Залатым мячом укладаецца.
Едзе поле і другое,
На трэцяе ўз'язджае,
Вызывае турэцкага цара:
— Выйдзі, выйдзі, да турэцкі цар,
Выйдзі ка мне ў поле ваяваці.
— Як я маю з князем ваяваці,
Лепей жа князю згоду даці:
Даці князю каня варанога,
Каня варанога, сто чырвон злот,
Сто чырвон злот і крулеўначку.
— Я гэта прымаю і табе дзякую,—
Каня варанога — паязджаці,
Чырвон злоты — купчаваці,
А крулеўначку за сябе ўзяці.

А мы паніча віншуемы,
Шчасця, долі жычыемы,
Патом таго да бывай здароў,
Бывай здароў да будзь багат,
Будзь багат да будзь весел,
Як салавейка ў ціхім лузе,
У ціхім лузе да на калінцы.
Тонка калінка, стой, не гібліся,
Красны панічык, гуляй, весяліся.

199. Добры вечар, слічны панічок!
Вясна красна на ўвесь свет! *
Хоць і дома — не акажацца,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

У каморы прыбіраецца.
Ён сеў сабе за столікам,
Піша пісьмы ў тры зямлі,
Піша пісьмы, размячае,
У тры зямлі раскладае:
У першую — па коніка,
У другую — па золата,
У трэцюю — да паненкі.
Па коніка пасла пашлю,
Па золата — таварыша,
Па паненку сам паеду.
На коніку пад'язджаць буду,
А золатам шахаваць буду,
А з паненкай векаваць буду.
Табе, панічок, песня спета,
Песня спета проці лета,
Лета цёплага і вясёлага,
Дай жа, божа, за рок дачакаці,
Гэтага паніча панам назваці.
Вясна красна на ўвесь свет!

200. А ў лесе, лесе да на верасе
Там хадзіла стада коней,
Між тых коней вараны конік,
Ніхто таго каня не спаймае,
Не спаймае, ані асядлае.
Ababраўся слічны паніч,
Слічны паніч, малады Міколка.
Ён таго каня і спаймае,
І спаймае, і асядлае.
Асядлаўшы да й паедзе,
І ён паедзе з гары пад гару
Напроціў турка ваяваці.
А вывеў турак варанога каня:
І ён на таго каня ані ўзгляне,
Ані ўзгляне і вачэй не падыме:
— Не хачу з туркам да гадзіціся,
А кажу з туркам ваявацiся.
А вынес турак паўмісак злота:
І ён на тыя злоты ані ўзгляне,
Ані ўзгляне і вачэй не падыме:
— Не хачу з туркам пагадзіціся,
А кажу з туркам ваявацiся.

А вывеў турак слічную панну:
І ён на тую панну, як сокал, глядзіць,
Як сокал, глядзіць і за ручку дзяржыць:
— Не кажу з туркам ваявацися,
А кажу з туркам пагадзіціся.

201. У цёмным лесе стучыць, гручыць,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Мы ж думалі, што гром грыміць,
Аж моладзец борць дзяўбаіць,
Борць дзяўбаіць, пчолак садзіць,
Пчолак садзіць, бога просіць,
Каб пчолкі зляталіся.
Зляталіся, звіваліся,
Ды й малойцу асталіся —
Ды й за працу мядок насіць.
Вясна красна на ўвесь свет!

202. Да ў паніча на падвор'і,
Ой, стаяла ложа засланая,
Засланая і ўбраная.
На той ложы паніч гожы,
Паніч гожы, паніч Кастусь.
Перад ім стаяць тры паслугачы,
Ой, просяцца яны ў тры зямлі:
У адну зямлю — крулявецкую,
А ў другую — у турэцкую,
А ў трэцюю — у падольскую.
У крулявецкай зямлі — вараны коні,
А ў турэцкай — чырвон злот,
А ў падольскай — падаляначкі;
Вараны коні — паязджаці,
Чырвон злот — купчаваці,
А падаляначкі — за сябе ўзяці.

203. Да на выгане там на кургане,
Там хадзіла стада вараное,
У тым стадзе конь гаворыць:
— Да хто мяне да спаймае,
Да спаймае, да асядлае?

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Абазваўся злічны панічык,
Злічны панічык, малады Іванька:
— Да я цябе, коню, сам спаймаю,
Сам спаймаю, асядлаю,
На тым коню ў тры землі з'езджу:
Першую землю, дзе я ўрадзіўся,
А другую, дзе [redacted] ахрысціўся,
А трэцюю, дзе мне жыці-быці,
Дзе княжыці — быці і бога хваліці.

204. Ой, у полі, у полі пад ігрушкаю,
Там стаяла ложа і з падушкаю,
А на той ложы паніч-каралевіч.
Выскакае-выбягае каралеўна яго:
— Устань, паніч, устань, каралевіч,
Да ўжо твае войска туркі абнялі!..
— Няхай абнімаюць, як самі знаюць:
Баляць мае ножкі, туды ходзячы,
Баляць мае ручкі, тое робячы,
Баляць мае вочанькі, тое бачачы.

205. А ў лесе, лесе ды, ой, на верасе
Хрыстос васкрос, сын божы! *
А там Іванька ды конікаў пасець,
Яму й Манечка ды абед нясець,
Селі абедаць ды разгукаліся:
— Ці ў памяць табе, ды й мой Іванька,
Як у Пятровы дзень, ой, Дунай замёрз.
— Каму ж не ў памяць, да мая й Манечка,
А я ж там і быў ды коніка паіў,
Коніка паіў ды й Дунай прабіў.
А ў лесе, лесе ды, ой, на верасе,
А там Манечка ды каровак пасець,
А ёй Іванька ды абедаць нясець,
Селі абедаць ды разгукаліся.
— Ці ў памяць табе, ды мая Манечка,
У калядны святкі ды расцвялі цвяткі.
— Чаму ж не ў памяць, ды а мой Іванька,
А я ж там была ды й цвяткі шчыпала,
Цвяткі шчыпала ды вяночак звіла.
Песеньцы канец ды дзве пары яец.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

206. Ясны месяц да высока свеціць,
Да віно ж, віно зялёнае! *
Малады ды малойчык на коніку едзе.
За ім ідзе яго ойчанька,
Яго славамі разважае:
— Паволі, паволі, да маё дзіцятка,
Штоб твой конік не спаткнуўся,
Штоб ты, маладзенькі, не ўлякнуўся.
— Мой конь-воран, срэбрам падкован,
А я, маладзенькі, у золата адзеты. 2

Вот жа табе, красны панічык,
Песня спета проціў лета ўрадлівага,
Проціў году шчаслівага,
Штоб ты, маладзенькі, скора рос,
скора ажаніўся.

207. А ў полі пад вярбінкаю
Молад Барыска красак пільнуець,
Зялёны сад вішнёвы! *
Пільнаваў ён ноч, пільнаваў другую,
На трэцюю ноч паймаў дзевачку.
— Сам я не знаю, не зразумею,
Што з дзевачкай учыніці:
Зняў бы венчык — ды не ўмею,
Садраў бы персцень — дык не пасмею,
Хадзі, дзевачка, ты да восені,
Калі бог судзіць, то мая будзеш.

208. А ў лузе, ў лузе коні хадзілі,
Коні хадзілі да гаварылі,
Зелена елка, зелена! *
Якому пану мы застанёмся,
А ці худому, а ці добраму?
Мы застанёмся пану Барыску.
Будзем жа стаяць мы на стаенцы,
Будзем жа есці траву-мураву,
Будзем жа піці крынічну ваду,
Будзець шэрстанька ўся зачэсана,
Будзець грыванька ўся заплецена,
Будуць вушанькі на стразі стаяць,
Будуць вочанькі сокалам глядзець,
Будзець хвасточак калясом хадзіць,
Будуць ножанькі дарожку біць.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

209. А на першы дзень, на Вялікадня,
Вясна красна, дзень цёплы! *
Валачобнікі валачыліся,
Па калені памачыліся,
Зайшлі к бабцы, пасушыліся.
Дала бабка усім па яечку,
А свайму ўнучку — два яечкі ў ручку.
Адной сіраце да не выйшлася,
Да не выйшлася, да не высталася.
Пайшла сірата за новыя варата,
Не падзякаваўшы да заплакаўшы.
Вярніся, сірата, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча, табе долю дае,
Каня варанога, князя маладога.

210. Ай, жыла ўдава пасярод сяла,
Хрыстос васкрос, сын божы!*
Ай, тая ўдава цяром строіла,
Цяром строіла да й выпісавала,
Да й выпісавала, да й вычырчавала,
На каня села да й аб'ехала,
Аб'ехаўшы дом, заплакала,
Заплакаўшы, да й прагаварыла:
— Нашто мне цяром без мілага друга,
Без мілага друга, без хазяіна.

211. Дзень вялік, дзень вялік,
А лустачка мала:
Не свая мамка
Лустачку давала.
У каго свая мамка,
Дык дала краюшку,
Дык дала краюшку:
«Напасі цялушку!
Калі не з'ясі —
Пастушкам дасі,
А калі мала —
Дамоў пабяжы».
А мне мачыха
Дык дала скарынку,
Дык дала скарынку:
«Напасі скацінку!

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Калі не з'ясі —
Дык дамоў нясі,
А калі мала —
Дык каб парвала».

## ЮРАЎСКІЯ

212. Юр'я, устань рана,
Юр'я, умыйся бела,
Юр'я, прычашыся,
Юр'я, прыбярыся,
Юр'я, вазьмі ключы,
Юр'я, ідзі ў поле,
Юр'я, адамкні зямлю,
Юр'я, выпусці расу.
Раса на кароўкі,
Трава на конікі,
Гігель на свіначкі,
Мурог на авечачкі,
А жвірок на вутачкі
І на гусачкі.

213. Юр'я! Вечар добры, Юр'я!
Юр'я! Падай ключы, Юр'я!
Юр'я! Нашто ключы? Юр'я!
Юр'я! Зямлю адмыкаць. Юр'я!
Юр'я! Нашто адмыкаць? Юр'я!
Юр'я! Расу пушчаць. Юр'я!
Юр'я! Нашто раса? Юр'я!
Юр'я! Для каровак. Юр'я!

214. Юр'ева матка ў свет пайшла,
Гэй, Юр'ю, Юр'ю, святы Юр'ю!
З сабой ключы панясла.
— Юр'ева маці вярніся:
Адамкні зямліцу, выпусці расіцу.
Радзі, божа, жыта на новае лета.
У зямлі ядраніста, увярху каласіста,
Жменечкі гусценькі, снапочкі часценькі,
У старане прыкладна, на таку ўмалотна,
У печы прысушна, у жорнах прымольна,
У дзяжы падходна, у печы прыпечна,
Чаляданцы сытна і панам слаўна.

215. Юр'ева маці
Па гары хадзіла,
Ключыкі насіла,
Зямлю адмыкала,
Траву выпускала,
На травіцу — расіцу.
— Бароўскія жонкі,
Выганяйце кароўкі,
Каб былі малочны,
Цяляты няўрочны.

216. А Юр'ева матка каля рэчкі хадзіла,
Каля рэчкі хадзіла, ключыкі-замочкі насіла,
Ключыкі-замочкі насіла, зямельку адмыкала,
Зямельку адмыкала ды травіцу выпускала.
— Ах вы, жонкі-бухонкі, вы ўставайце раненька,
Вы ўставайце раненька, вы ганіце каровак.
Вы ганіце каровак да на Юр'еву расу,
Да на Юр'еву расу, да на божую красу.

217. А Юр'ева маці, божа мілы! *
Па небе хадзіла,
З Юр'ем гаварыла:
— А Юр'ю мой, Юр'ю,
Падай Пятру ключы
Зямлю адамкнуці,
Траву выпусціці,
Статак накарміці,
Людзям на здароўе,
Ліху безгалоўя,
А нашаму пану
На добрае слова.

218. Й матка Юр'я клікала, гэй.
— Да падай, сынку, ключыкі,
Да падай, сынку, ключыкі, гэй,
Да адамкнуці зямліцу,
Да адамкнуці зямліцу, гэй,
Да выпусціці расіцу,
Да выпусціці расіцу, гэй,
Да на ярую пшаніцу,

* Прыпеў «Божа мілы!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Да на ярую пшаніцу, гэй,
На ціхое лецечко,
Да на ціхое лецечко, гэй,
Да на буйнаё жыцечко.

219. Юр'я, Юр'я,
Божа мой! *
Падай ключы
Зямлю адмыкаць,
Бычка напасаць!
На Юр'е ў расу
Бычка напасу.
— Бычок-трацячок,
Ці повен бачок?
— Яшчэ не повен,
З левым не ровен.

220. Ой, выйду я на вулачку, бычкі бушуюць,
Юр'я, Юр'я, бычкі бушуюць.
Бычкі бушуюць, бо вясну чуюць,
Юр'я, Юр'я, бо вясну чуюць.
Зашумелі рэчкі, ляды паплылі,
Юр'я, Юр'я, ляды паплылі.
Зачарнела зямліца, бо пааралі,
Юр'я, Юр'я, бо пааралі.
Зазелянела бяроза, бо папукалася,
Юр'я, Юр'я, бо папукалася.
Завесялела дубрава, пташкі спяваюць,
Юр'я, Юр'я, пташкі спяваюць.
Зазелянела даліна, кяяткі зацвілі,
Юр'я, Юр'я, кветкі зацвілі.
Ой, выйду я, выйду кветкі збіраці,
Юр'я, Юр'я, кветкі збіраці,
Кветкі збіраці, вяночкі віці,
Юр'я, Юр'я, вяночкі віці,
Вяночкі віці, Юр'я спяваці,
Юр'я, Юр'я, Юр'я спяваці!

221. Юр'я, Юр'я па полі ходзіць,
Юр'я, Юр'я да бога просіць:

* Прыпеў «Божа мой!» паўтараецца пасля кожнага радка.

— Урадзі, ўрадзі жыта-пшаніцу,
Пабі, пабі кукаль-мятліцу.

Падай, падай ключы і замкі
Адамкнуці неба і зямлю.

Выпусціці цёплую росу
І на жыта, і на пшаніцу.

Будзе ў корні каранісцаю,
Ўсерадзіне ды сцяблістаю.

А на полі выжаністаю,
А із поля вывазістаю.

А ў гумне выкладзёнаю,
А ў млыне вымялёнаю.

А ў дзяжы падыходнаю,
А ў печы выпячонаю.

А на стале сытна спорнаю,
Нашым людзям на здароўечка.

222. Зарадзі, божа, жыта
На прышлаё лета.
Наша дзевачка мала,
Каб стоячы жала,
З служкамі замышляла,
Служкамі вярненькімі,
Дзетачкамі маленькімі.

223. Ішлі дзяўке кучкаю,
Зустрэлі Юр'я ў вуліцы.
— Святое Юр'е, дзе ж ты бываў?
— Па межам хадзіў, жыта радзіў.
Чыё жыта добрае,
Судзі, божа, яму лепшае:
Па край зямлі карчыста,
Пасярэдзіне сцябліста,
Пад верх калосся каласіста.
У вадну косаньку сплялося,
У вадну сторанку зляглося.

З снапочка — жыта бочка,
З каласочка — жыта гарчык.
Дай жа, божа, абмалаціць,
Срэбра, злота палічыць,
Срэбра, злота — каралю,
А здароўе — гаспадару.

224. — Дзе ты, Юр'е, ўрасіўся?
Дзе ты, Юр'е, ўмачыўся?
— Па далах, па росах ходзячы,
Людзям жыта родзячы.
Дабро жыта да дабро,
Радзі, божа, налета,
Радзі, божа, налета
Да лепшае за гэта:
У корані каранiстае,
У саломцы сцяблістае,
У саломцы сцяблістае,
А у коласе каласістае.
У роўным полі капамі,
У цёмным гумне тарпамі.
У цёмным гумне тарпамі,
А у сверне засякамі.
А у сверне засякамі,
А на стале баханамі.

225. — А ты, Юр'я, Мікола,
Абыдзі жыта наўкола.
Юр'я кажа: «Абыду».
Мікола кажа: «Пагляджу».
Юр'я кажа: «Ў пучочкі».
Мікола кажа: «Ў каласочкі».
— Дзе ты, Юр'я, ўрасіўся?
Дзе ты, Мікола, ўмачыўся?
— Горы, межы ходзячы,
Жыта, пшаніцу родзячы.
Жыта, пшаніцу — то дабро.
Да дай, божа, налета,
Да дай, божа, налета
Лепшую ўроду за гэта.

226. Юр'е, Мікола,
Абыдзі жыта наўкола,
І адамкні зямліцу,
І выпусці расіцу,
І выпусці расіцу
На маладую маладзіцу.
Яна раненька ўставала,
Расіцу абцірала.

227. — Юрайка, Юрайка, ці зелена мураўка?
— Траўка-мураўка зеляненька,
На вуліцы дзевачак поўненька,
Траўка-мураўка пабялела,
На вуліцах дзевак пагалела:
Да ішоў дождждык дробненькі,
Памачыў рукавец тоненькі.

228. Павядзём Юр'е да бору
Да пасадзім Юр'е на хвою.
Няхай наша Юр'е пасядзіць
Да болей свету паглядзіць.
Дзе наша Юр'е хадзіла,
Там наша жыта ўрадзіла,
А дзе наша Юр'е юравала,
Там наша жыта красавала.

229. Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў камень капытом.
Як у камені зерне ёсць,
Так у хлопцаў праўда ёсць.

Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў гарэх капытом.
Як у гарэху зерне ёсць,
Так у дзяўчынак праўда ёсць.

А вы, хлопчыкі, бяжыце,
Вашы конікі ў жыце.
А ты, мілы, не бяжы,
Бо твой конік на мяжы.

230. Разыграўся Юр'еў конь,
Разбіў камень капытом.
А ў том камню агню нет,
Ў чужой мамкі праўды нет!
Разыграўся Юр'еў конь,
Разбіў арэх капытом.
У том арэху ядро ёсць,
У роднай мамкі праўда ёсць!

Загараўся шэры бор.
— Вы хадзіце, мальцы, тушыці,
Рэшатам воду насіці!
А ў рашаце вады нет,
У нашых мальцах праўды нет!
Загараўся шэры бор.
— Вы хадзіце, дзеўкі, тушыці,
Кубкам воду насіці!
А ў тым кубку вада ёсць,
У нашых дзеўках праўда ёсць!

231. — Юр'я, сыры бор гарыць!
— А што ў тым бару стаіць?
— Стаіць новая клетка.
— А што ў той клетцы ляжыць?
— Лапці і аборы — дзяцюцкія ўборы.
— Юр'я, сыры бор гарыць!
— А што ў тым бару стаіць?
— Стаіць новая скрыня.
— А што ў той скрыні ляжыць?
— Сукні і суборы — дзявоцкія ўборы.

232. Пагнала бычка на канюшыну,
Урасілася па паясіну,
Урасілася, бо раса была,
Хлопцы любілі — хараша была,
Хлопцы любілі, сукню пашылі:
— Насі, дзяўчына, штонядзелечку,
Успамінай мяне штогадзіначку.
А як насіла, дык успамінала,
А як знасіла, дык праклінала:
— Бадай той крэўчык з ліца змяніўся,
Як у сукенцы падол падбіўся.

233. Да што там у стайні стучэла?
Звінела кола, звінела.
Малады Янка каня сядлае,
Яго татачка пытае:
— Куды ты, сынку, паедзеш:
Ці ў вёску, ці ў мястэчка?
Не едзь, сынку, у мястэчка,
Бо там дзевачкі лянівы:
Высока ржышчы зжынаюць,
А рэдка копы стаўляюць.
Да што там у стайні стучэла?
Звінела кола, звінела.
Малады Янка каня сядлае,
Яго татачка пытае:
— Куды, сынку, паедзеш:
Ці ў вёску, ці ў мястэчка?
Да едзь, сынку, у вёску,
Там дзевачкі рабочы:
Нізка ржышчы зжынаюць,
Густа копы стаўляюць.

234. А што ў лесе *
Стучыць, гручыць? —

Святы Юры
Церам цешыць.

Што ў цераме
Крычыць, плачыць? —

Юр'ева маці
Доньку біла.

— А дзе, донька,
Венчык дзела?

Венчык дзела
Пярловенькі?

— Ехаў, маці,
Князь Васілі,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

А зняў венчык
Пярловенькі,

Павёз дзеўкам
Курманаўскім.

Іх спаднічкі
Пяньковыя,

Іх хвартучкі
Пасконныя.

А што ў лесе
Стучыць, гручыць? —

Святы Юры
Церам цешыць.

Што ў цераме
Крычыць, плачыць? —

Юр'ева маці
Доньку біла.

— А дзе, донька,
Венчык дзела?

Венчык дзела
Пярловенькі?

— Ехаў, маці,
Князь Васілі,

А зняў венчык
Пярловенькі,

Павёз дзеўкам
Багацькаўскім.

Іх сарочкі
Паркалёвыя,

Іх спаднічкі
Шаўковыя!

235. Як пайшоў Мікола
У чыстае поле,
У чыстае поле
Жыта аглядаці.
Радзі, божа, жыта,
Радзі, божа, жыта
Густа, каласіста,
Густа, каласіста,
Ядром ядраніста.
А ехалі госці
З чужое валосці,
У бару начавалі,
У бару начавалі,
Пад сасной агонь клалі.
Каб гэта сасёнка
Да на нашу старонку,
Да на нашу старонку.
А з гэтае сосны
Было б тры угоды,
Было б тры угоды.
У коране сосны
Ды густое жыта,
Ды густое жыта.
У сярэдзіне сосны
Ды ярыя пчолы,
Ды ярыя пчолы.
А ў вярхушцы сосны
Ды звонкія гуслі,
Ды звонкія гуслі.
А мы б з таго жыта
Піва наварылі,
Піва наварылі.
У сярэдзіне сосны
Ярых пчол лавілі,
Ярых пчол лавілі.
Мяды выбіралі
Ды воскі тапілі,
Ды воскі тапілі.
Мы б жыта выжалі,
У гуселькі гралі,
У гуселькі гралі.

236. Ды хадзіў карагод
Каля нашых варот.
Ой, люлі, ой, люлі,
Каля нашых варот. *

Я чула, бачыла,
Не паспела сказаць,

Карагодам назваць
Ды у хату пазваць,

Ды у хату пазваць
І віном частаваць.

237. Лука мая,
Лука мая зялёная,
Эй, трава мая шаўковая!

Трава мая,
Трава мая шаўковая,
А хто ж цябе таптаць будзе?

А хто ж цябе,
А хто ж цябе таптаць будзе?
Эй, дзевачкі цябе топчуць.

Топчуць,
Дзевачкі цябе топчуць,
Эй, казловымі чаравічкамі.

Чаравічкамі,
Казловымі чаравічкамі,
Эй, хлопчыкі цябе стопчуць.

Стопчуць,
Хлопчыкі цябе стопчуць
Лутовымі лапцішчамі.

---

* Прыпеў «Ой, люлі, ой, люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

238. Завілася пчолка над варатамі.
Гэй, люлі, гэй, люлі. *
Красна сонца заіграла над людзьмі.
— Што ж ты, вясна наша красна, прынясла?
— Прынясла цёпла летца дзеля вас,
Малым дзеткам па яечку,
Старым бабкам па кіёчку,
Красным дзеўкам па вяночку,
Маладушкам па сярпочку.
Стары бабкі чапцы шыці,
Красны дзеўкі вянкі віці,
Маладушкі жыта жаці.
Красны дзеўкі на вулачку,
Маладушкі за люлечку,
Красны дзеўкі гулі ды гулі,
Маладушкі люлі ды люлі.

239. Васіль, васіль, васіль, васіль-васілёчак,
Ты, мой баравы цвяточак,
Калі ты рос, калі вырас?
Первым часам, первым часам я цябе садзіла,
Другім часам палівала,
Трэцім часам сарывала.
Сарву цвяток, саўю вянок да й пайду ў танок,
А ў тым танку мой нялюбы, мой нялюбы ў кобзу грае.
Яго кобза лубяная, яго струны мачоныя,
Яго смычок — свінны лычок.
Ён на мяне мой нялюбы паглядае —
На мне вянок павядае.
Сарву цвяток, саўю вянок да й пайду ў танок,
А ў тым танку да мой мілы, мой мілы ў кобзу грае.
Яго кобза залатая, яго струны сярэбраны,
Яго смычок — шоўкаў лычок.
Ён на мяне паглядае —
Ва мне сэрца заіграе.

240. Пажары гараць, журавы крычаць,
Ох і я леле, журавы крычаць.
Канюхі свішчуць, трох каней ішчуць,
Ох і я леле, каней ішчуць.
— Ох вы, дзевачкі-сястрычкі, ці не бачылі конікаў?
Ох і я леле, конікаў.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Нашы конікі варанистыя, знакамістыя,
Ох і я леле, знакамістыя.
У Васількова коніка калясом грыва,
Ох і я леле, калясом грыва.
У Іванькава коніка і ва лбе звязда,
Ох і я леле, і ва лбе звязда.
У Міхалкова коніка залаты капыт,
Ох і я леле, залаты капыт.
Іванька едзе — царэўну вязе,
Васілька едзе — папоўну вязе,
Міхалка едзе — старчыху вязе.
Царэўна плача — жупаноў хоча,
Папоўна плача — праскуркі хоча,
Старчыха плача — сухароў хоча.
Іванька кажа: «Каня прадам, жупаноў куплю».
Васілька кажа: «Каня прадам, праскурку куплю».
Міхалка кажа: «Сто рублёў за каня вазьму —
сухароў куплю».

241. Як пушчу стралу
Па ўсяму сялу, *

Ды ідзі, страла,
Да уздоўж сяла,

Да зайдзі, страла,
К добру молайцу,

Да убі, страла,
Добра молайца.

Да й што па молайцу
Некаму плакаці:

Матка старая,
Сястра малая,

---

* Кожная страфа паўтараецца.

А жана молада
Жыве каля горада.

Ой, дзе конік бяжыць,
Там зямля дрыжыць,

Дзе сястра жыве,
Ручаі плывуць,

А дзе жонка жыве,
Пажары гараць.

242. Ой, ляці, страла,
Пасярод сяла,

Ой лі, ой, люлі,
Пасярод сяла. *

Ой, убі жа, страла,
Вутку селязня,

Вутку селязня,
Чорнага ворана,

Чорнага ворана
Да добрага молайца.

Што й па том па ворану
Да некаму кракаці,

Да па добру молайцу
Да некаму плакаці.

243. А ў бару сасна калыхалася,
Ай, люлі-лялё, калыхалася. **
Дачка к мамушцы сабіралася,
Тромі мыламі умывалася.

---

* Прыпеў «Ой лі, ой, люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.
** Прыпеў «Ай, люлі-лялё» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Каторая мамушка лепей жалеець:
Ой, ці родная да ці хросная,
Ой, ці тая ж то да й багданая?
Родная паб'ець да й пажалееці,
Свякрова паб'ець да й з двара сашлець:
— Ты ідзі, шэльма, са майго двара!
Ты майму двару не работніца
Да й дзіцям маім не прыгледчыца,
Ты й гасцям маім не прыветчыца.

244. Як на першы дзень, на Вялікадня,
Вой лі, вой, люлі, на Вялікадня. *
Як прыйшоў ка мне да мой міленькі,
А мой міленькі, чарнабрывенькі.
Як прынёс ён мне а тры радасці ж:
Первая радасць — ліцо белае ж,
Другая радасць — бровы чорныя ж,
Трэцяя радасць — слёзы горкія ж.
Слёзы горкія з вачэй коцяцца ж,
А мне, моладзе, гуляць хочацца ж.
А я 'дпрадуся, нагуляюся ж:
Цераз вулачку серай вутачкай,
Цераз праселца перапёлачкай,
К свайму міламу краснай дзевачкай.

245. Каля майго двара, каля шырокага,
Ой, сіняе ж возера разліваецца. **

Шчука з карасём трапяталіся,
Госці баяр'я паз'язджаліся,

Госці баяр'я паз'язджаліся,
Нашаму дзівачку дзіваваліся.

Нашаму дзіву да й дзіўненькаму,
Нашаму Іванку маладзенькаму.

Да й у садзе вішанья, чорнае насенне,
Гэта табе, Ганначка, на русую косачку.

Ціха было хадзіці, а не горда расці,
Ждаць было Іванка із чужое воласці.

---

* Прыпеў «Вой лі, вой, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

** Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

246. — А мы ляда капалі, капалі,
Зеляна наша дуброва, дуброва!

— А мы проса сеялі, сеялі,
Зеляна наша рутачка, жоўты цвет!

— А мы коней іспусцім, іспусцім,
Зеляна наша дуброва, дуброва!

— А мы коней пабярэм, пабярэм,
Зеляна наша рутачка, жоўты цвет!

— А за коней сто рублей, сто рублей,
Зеляна наша дуброва, дуброва!

— Мы не хочам сто рублей, сто рублей,
Зеляна наша рутачка, жоўты цвет!

— Ой, дайце нам дзеўчыну-паненку,
Зеляна наша дуброва, дуброва!

— За паненку слова нет, слова нет!
Зеляна наша рутачка, жоўты цвет!

247. Да на высокай сосанцэ,
Сосанцэ, сосанцэ,

Там пчолачка роіцца,
Роіцца, роіцца,

Там дзевачка строіцца,
Строіцца, строіцца.

Да ўзышоў месяц над варата,
Варата, варата,

Да прыехаў бацька з Ноўгарада,
Ноўгарада, Ноўгарада.

Я ж, малада, не чула,
Не чула, не чула

І да ў святліцы заснула,
Заснула, заснула.

Каб я, малада, учула,
Учула, учула,

Я бы коніка выпрагла,
Выпрагла, выпрагла.

Да завяла б каня ў стайніцу,
Стайніцу, стайніцу,

Свайго бацюхну ў святліцу,
Святліцу, святліцу.

Да дала б каню аброку,
Аброку, аброку,

Свайму бацюхну збан мёду,
Збан мёду, збан мёду.

248. І да раілася пчолачка,
Пчолачка, пчолачка

Да у вяршэчку сосанкі,
Сосанкі, сосанкі.

Да вылятала ластаўка,
Ластаўка, ластаўка

Сы-пад сіняга возера,
Возера, возера.

Сы-пад белага каменя,
Каменя, каменя.

— Пытайцеся, дзеўкі, ў ластаўкі,
Ў ластаўкі, ў ластаўкі,

Што ў Заполлі дзеецца,
Дзеецца, дзеецца.

— Семсот гарадоў селіцца,
Селіцца, селіцца,

Семсот малайцоў жэняцца,
Жэняцца, жэняцца.

— І пытайцеся, дзеўкі, ў ластаўкі,
Ў ластаўкі, ў ластаўкі,

Што у Васілінках дзеецца,
Дзеецца, дзеецца.

— Семсот гарадоў згарэла,
Згарэла, згарэла.

Семсот малайцоў заўдавела,
Заўдавела, заўдавела.

249. Каб і ў вуліцы, а ў ваколіцы,
Ай, лёлі-лёлі, а ў ваколіцы *
Б'юцца, дзяруцца ды два голубы
За галубачку ды й за сізую.
— Вы й не біцеся, разляціцеся,
Аднаму каму я й застануся:
Калі голубу — дык галубачка,
Калі сокалу — дык саколачка.
Каб у Шымані ды й на рыначку
Б'юцца, дзяруцца ды й два малойцы
За дзевачку, за красную.
— Вы й не біцеся, разыйдзіцеся,
Аднаму каму я й застануся:
Калі мескаму — дык мяшчаначка,
Калі сельскаму — дык сяляначка.

250. Ох вы, купчыкі, пераедзьце к нам,
Ох і я, ляле, пераедзьце к нам. **
У нас хлопчыкі дзяшовы тавар:
Што за Сямёнку — да мех паловы,
А за Якаўку — да куль саломы,
А за Паўлічка — чарапок дзёгцю.
Ох вы, купчыкі, пераедзьце к нам,
У нас дзевачкі дарагі тавар:
Што за Мар'ечку — да тры тысячы,
А за Ганначку — да й таго болей,
А за Парасачку — да й таго няма.

---

* Прыпеў «Ай, лёлі-лёлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў «Ох і я, ляле» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

251. Ў майго татачкі
Двор над гарою,
Вох і, вой і, ой і да люлі,
Двор над гарою. *

Двор над гарою,
Сад над вадою.

— Пусці, татачка,
Ў сад пагуляці,

Я й не буду тваіх
Вішанек ламаць.

Хоць і выламлю
Вінаградачку,

Свайму татачку
На парадачку.

252. Ды рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.
Там тры конюхі да коней паілі.
Ды рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.
Там тры дзевачкі да ваду бралі.
Да рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.
Іваначка кажа: «Я Ганначку люблю,
Я Ганначку люблю і за сябе вазьму».
Да рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.
Васілька кажа: «Я Кулінку люблю,
Я Кулінку люблю і за сябе вазьму».
Да рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.
Міхалачка кажа: «Я Алёну люблю,
Я Алёну люблю і за сябе вазьму».
Да рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.

* Прыпеў «Вох і, вой і, ой і да люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

253. — Устань рана, перапёлачка,
Устань рана, маладзенькая.
— Я ж устала, мае дзевачкі,
Я ж устала, мае сястрыцы.
— Умыйся бела, перапёлачка,
Умыйся бела, маладзенькая.
— Я ўмылася, мае дзевачкі,
Я ўмылася, мае сястрыцы.
— Учашыся слізка, перапёлачка,
Учашыся слізка, маладзенькая.
— Я ўчасалася, мае дзевачкі,
Я ўчасалася, мае сястрыцы.
— Надзень сукенку, перапёлачка,
Надзень сукенку, маладзенькая.
— Я ж надзела, мае дзевачкі,
Я ж надзела, мае сястрыцы.
— Прывяжы каралькі, перапёлачка,
Прывяжы каралькі, маладзенькая.
— Я ж прывязала, мае дзевачкі,
Я ж прывязала, мае сястрыцы.
— Надзень панчошкі, перапёлачка,
Надзень панчошкі, маладзенькая.
— Я ж надзела, мае дзевачкі,
Я ж надзела, мае сястрыцы.
— Абуй чаравічкі, перапёлачка,
Абуй чаравічкі, маладзенькая.
— Я ж абула, мае дзевачкі,
Я ж абула, мае сястрыцы.
— Прытанцуй нам, перапёлачка,
Прытанцуй нам, маладзенькая.

254. Што ж ты, канапелька, ў полі зеляненька,
Ай, люлі-люлі, у полі зеляненька. *
Не даў ёй вецер болей пастаяць,
Зялёным веццікам памахаць,
Рассыпаў канапельку па сырой зямлі,
Раздуў перыйка па чыстым полі.
Што ж ты, Рыпінка, да ты, маладзенька,
Не даў ёй Архіп болей пагуляць,
Русыя косы з дзеўкамі паплятаць,
Расплёў касачку да па белых плячах,
Разліў слёзачкі па румянаму ліцу.

* Прыпеў «Ай, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

255. — Чом вы, канапелькі, не зелены стаіце?
Ой, люлі-люлі, не зелены стаіце. *
— Як жа нам, канапелькам, зялёным стаяці:
Зверху канапелькі клююць вераб'і,
З ісподу канапелькі вада падмыла,
А ўсярэдзіне канапелькі хваля зламіла.
— Чом ты, дзевачка, не вясёлая ў танку?
— Як жа мне вясёлаю ў танку стаяці:
Бацюшка кажа — за князя аддаць,
Мамачка кажа — ў чорныя чарнушкі.
Ой, стукаў, пагрукаў ва цясовыя варота.
Мне бачыцца, мой бацька з князьмі, з баярамі,
Аж то мая мамка з чорнымі чарнушкамі:
«Скідай, мая дзетка, цвятное плацце,
Надзявай, дзіця маё, чорную расу,
Пакідай, дзіця маё, дзявоцкую красу».

256. Вір, вір, калодзеж,
Ды вады нетуці,
Ай, лёлі-лёлі,
Ды вады нетуці. **

Пан, пан Іванька,
Ды жаны нетуці.

Я паеду ў Маскву
Ды маскоўку вазьму;

Я паеду ў Вільню
Ды вілянку вазьму;

Я паеду на места
Ды мяшчанку вазьму;

Я паеду ў сяло
Ды сялянку вазьму.

Ды маскоўка-шэльма,
Ды гатуй вячэру;

---

* Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў «Ай, лёлі-лёлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Ды вілянка-шэльма,
Ды вячэру паднасі;

Ды мяшчанка-шэльма,
Ды сцялі пасцелю;

Ды сялянка-душка,
Ды кладзісь са мною.

257. Пойдзем мы, пойдзем мы, дзевачкі,
А за мора ў красачкі,
А за мора, а за мора ў красачкі,
У сінія васілёчкі,
У сінія, у сінія васілёчкі,
Баравыя цвяточкі.
Аглянемся, аглянемся, дзевачкі,
Хто за намі гоніцца.
Гоніцца, гоніцца за намі
А стары да нядужы.
Возьмем мы, возьмем мы, дзевачкі,
Старога за рэбры,
Кінем мы, кінем мы, дзевачкі,
Старога ў крапіўку.
Калодаю, калодаю закоцім,
Мятлою замяцем.
Мятлою, мятлою замяцем,
Самі ў красачкі пойдзем.
Пойдзем мы, пойдзем мы, дзевачкі,
А за мора ў красачкі,
А за мора, за мора ў красачкі,
У сінія васілёчкі,
У сінія, сінія васілёчкі,
Баравыя цвяточкі.
Аглянемся, аглянемся, дзевачкі,
Хто за намі гоніцца.
Гоніцца, гоніцца за намі
Малады ды прыгожы.
Возьмем мы, возьмем мы, дзевачкі,
Маладога пад ручкі,
Маладога, маладога пад ручкі,
Кінем яго ў падушкі.
Пярсцёнкам, пярсцёнкам закоцім,
Хусцінкай замяцем,
Хусцінкай, хусцінкай замяцем,
Самі ў красачкі пойдзем.

258. Стаялі, свяцілі месячкі чатыры,
Ай, лёлі-лёлі, месячкі чатыры, *
Над нашым сялцом, ўсё над Слаўнавым:
Первы месячык — малады Іванька,
Другі месячык — малады Стахванька,
Трэці месячык — малады Максімка,
Чацвёрты месячык — малады Касцюшка.
Стаялі, свяцілі зорачкі чатыры
Над нашым сялцом, ўсё над Слаўнавым:
Первая зорка — маладая Марутка,
Другая зорка — маладая Ляксутка,
Трэцяя зорка — маладая Вуллянка,
Чацвёртая зорка — маладая Настулька.
Марутка-зорка — Іванькава жонка.
Іванька едзіць ды Марутку вязець
У малінавым вазочку, ў пярловым вяночку.
Вяночак ззяіць, Марутка плачыць.
Ляксутка-зорка — Стахванькава жонка.
Стахванька едзіць ды Ляксутку вязець
У малінавым вазочку, ў пярловым вяночку.
Вяночак ззяіць, Ляксутка плачыць.
Вуллянка-зорка — Максімкава жонка.
Максімка едзіць ды Вуллянку вязець
У малінавым вазочку, ў пярловым вяночку.
Вяночак ззяіць, Вуллянка плачыць.
Настулька-зорка — Касцюшку жонка.
Касцюшка едзіць ды Настульку вязець
У малінавым вазочку, ў пярловым вяночку.
Вяночак трасецца, Настулька смяецца.

259. Ля калодзезя, ля сцюдзёнага,
Лёлі-лёлёшкі, ў полі дым-дымненька! **
Чатыры панічы конікаў паілі,
Чатыры паненкі ваду бралі.
Первы панічок — малады Міхайла,
Другі панічок — малады Уладзімір,
Трэці панічок — малады Канстанцін,
Чацвёрты панічок — малады Мікалай.
Першая паненка — маладая Танечка,
Другая паненка — маладая Машачка,
Трэцяя паненка — маладая Дунечка,
Чацвёртая паненка — маладая Наташачка.

* Прыпеў «Ай, лёлі-лёлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

260. Не лятай ты, павухна, рана на зары,
Ой, лёлюшкі-люлюшкі, рана на зары. *
Не ездзі ты, бацюшка, часта й а ў піры,
Не прапі ты, бацюшка, мяне, малады.
Прапі, прапі, бацюшка, варанога каня,
Й а варанога коніка за год выкупіць,
Мяне, маладзенькую, ў век не выручыць.
За варанога коніка ды трыста рублей,
За мяне, маладзенькую, й шчоту няма.

261. Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць,
Ай, люлі-люлі, ды сабакі брэшуць. **
Сабакі брэшуць, купчыкі едуць,
Купчыкі едуць да румяна вязуць,
Румяна вязуць мікулінскім дзевачкам.
Нашто ім румяна, яны й так красненькі.
Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць,
Сабакі брэшуць, купчыкі едуць,
Купчыкі едуць ды бяліла вязуць,
Бяліла вязуць мікулінскім дзевачкам.
Нашто ім бяліла, яны й так беленькі.
Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць,
Сабакі брэшуць, купчыкі едуць,
Купчыкі едуць, чарніла вязуць,
Чарніла вязуць мікулінскім мальчыкам.
Нашто ж ім чарніла, яны й так чорненькі.
Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць,
Сабакі брэшуць, купчыкі едуць,
Купчыкі едуць ды красіла вязуць,
Красіла вязуць мікулінскім мальчыкам.
Нашто ж ім красіла, яны й так красненькі.

262. Пастаўлю й свечу проціў месяца,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

Да не будзе свёкарка, як мой бацюхна,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

---

* Прыпеў «Ой, лёлюшкі-люлюшкі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

** Прыпеў «Ай, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Да не будзе свёкраўка, як мая маманька,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

Да не будзе залвіца, як мая сястрыца,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

Да не будзе дзеверка, як мой браціхна,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

263. Што няма красы, замуж выйшаўшы,
Ой, люлі-люлі, замуж выйшаўшы.
Толькі е краса, як у дзевачак,
Ой, люлі-люлі, у малодзенькіх.
Я прыйду к татку і ў гадок разок,
Ой, люлі-люлі, на вялікі дзень,
На вялікі дзень, на Вялікадне,
Ой, люлі-люлі, на Вялікадне.
Прынясу к татку да тры радасці,
Ой, люлі-люлі, тры вясёлыя:
Першая радасць — мой свёкар ліхі,
Ой, люлі-люлі, мой свёкар ліхі.
Другая радасць — мой муж-п'яніца,
Ой, люлі-люлі, мой муж п'яніца.
Трэцяя радасць — свякруха ліхая,
Ой, люлі-люлі, свякруха ліхая.

264. Як па мору, мору сіняму,
Лялеіць і мора, лялеіць, *
А плывець, плывець да вуцей стада,
А паперадзе ды малая чырка.
Адкуль узяўся сізы селязенька.
А узяў вутачку за правае крыльцо,
За правае крыльцо, за сізае пярцо.
Па ёй вутачкі ўсе закракалі.
— Не кракайце, вутачкі, не кракайце, серыя,
Калі бог судзіць, і вам гэта будзець.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Як і ў вуліцы, а ў ваколіцы,
Чырвоная рожа ў гародзе, *
А ішло, прайшло да дзявок танок,
А паперадзе малая Марута.
Адкуль узяўся малады Грышута.
А узяў Мар'ечку за правую ручку,
За правую ручку, за мезіны пальчык,
За мезіны пальчык, за залаты персцень.
Па ёй дзевачкі ўсе заплакалі.
— Не плачце вы, дзеўкі, не плачце вы, красны,
Калі бог судзіць, усім гэта будзець.

265. Там рачулачка бяжала,
Люлі-люлі!
Там дашчулачка ляжала,
Люлі-люлі!

Да ніхто там не хадзіў,
Люлі-люлі!
І нікога не вадзіў,
Люлі-люлі!

Толькі хлопец перайшоў,
Люлі-люлі!
І дзяўчыну паравёў,
Люлі-люлі!

А ў дзяўчыны слёзы льюцца,
Люлі-люлі!
А ён яе усцішае,
Люлі-люлі!

А ён яе усцішае,
Люлі-люлі!
Хусткай вочкі выцірае,
Люлі-люлі!

— Ціха, не плач, мая міла,
Люлі-люлі!
Як я з службы адслужуся,
Люлі-люлі!

Як я з службы адслужуся,
Люлі-люлі!
Дык з табою ажанюся,
Люлі-люлі!

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

266. Царэўна-каралеўна
Па-за гародам хадзіла,
Вароты адпірала,
Жаніхоў выбірала.
Адчыніцеся, вароты,
Адчыніцеся, шырокі.
Выйдзі, выйдзі ў карагод,
Стань тут — падапрыся,
Каго любіш — пакланіся,
Харошанька прытанцуй,
Каго любіш — пацалуй.

267. — Царэўна, добры вечар.
— Баяры, на здароўе.
— Царэўна, пусці ў горад.
— Баяры, чаго ў горад?
— Царэўна, дзевак сватаць.
— Баяры, дзеўкі малы.
— Царэўна, перараслі.
— Баяры, рушнічкоў не ткалі.
— Царэўна, ўжо ў трубачках.
— Баяры, каторую?
— Сярэдняя не ўмывалася,
Крайняя падабалася.

268. Пасеялі дзеўкі лён, *
Дзеўкі лён, дзеўкі лён,
Пасеялі дзеўкі лён.

Пасеяўшы, палолі,
Палолі, палолі,
Пасеяўшы, палолі.

Белы ручкі калолі,
Калолі, калолі,
Белы ручкі калолі.

Унадзіўся сівы конь,
Сівы конь, сівы конь,
Унадзіўся сівы конь.

Пацёр, памяў дзеўкін лён,
Дзеўкін лён, дзеўкін лён,
Пацёр, памяў дзеўкін лён.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

269. — Мядуніца, мядуніца лугавая,
Ай, лугавая,
Чом не пахнеш, чом не пахнеш на ўсём лугу,
Ой, на лужочку?
— Як мне пахнуць, як мне пахнуць на ўсём лугу,
Ой, на лужочку?
Стары бабы, стары бабы прысядзелі,
Прысядзелі,
Маладухі, маладухі прыстаялі,
Прыстаялі,
Красны дзеўкі, красны дзеўкі прыскакалі,
Прыскакалі.

270. — Аўсяміраўскае сяло, ой, чаму не весяло?
Ой, гаю, гаю, чаму не весяло?

— Ой, як жа мне вясёламу быць?
Ой, гаю, гаю, вясёламу быць?

Што былі пташачкі, усе ў вырай паляцелі,
Ой, гаю, гаю, у вырай паляцелі.

А адна пташачка ды й прызустала,
Ой, гаю, гаю, ды й прызустала.

Да й тую хочуць арлове ўзяць,
Ой, гаю, гаю, арлове ўзяць.

Арлове ўзяць, сакалам аддаць,
Ой, гаю, гаю, сакалам аддаць.

Арлам на рукі, сакалам навекі,
Ой, гаю, гаю, сакалам навекі.

Ой, адна дзяўчына ды й прызустала,
Ой, гаю, гаю, ды й прызустала.

Да й тую хочуць сватове ўзяць,
Ой, гаю, гаю, сватове ўзяць.

Сватове ўзяць, жаніхам аддаць,
Ой, гаю, гаю, жаніхам аддаць.

Сватам на рукі, жаніхам навекі,
Ой, гаю, гаю, жаніхам навекі.

271. Возера, возера,
Шырокае возера. *

Плавалі, плавалі
Шэры гусі стадамі.

Наляцеў, наляцеў
Шызы арол над вадой.

Выхваціў, выхваціў
Гусачку за крылушка.

Ўдарылі, ўдарылі
Шэры гусі ў крылушкі:

— Хто ж у нас, хто ж у нас
Папярод вадзіць будзе,

Хто ж у нас, хто ж у нас
Крычаць-пачынаць будзе?

Вуліца, вуліца,
Шырокая вуліца.

Хадзілі, гулялі
Дзеўкі карагодамі.

Наехаў, наехаў
Панічак на коніку.

Выхваціў, выхваціў
Дзевачку за ручачку.

Ўдарылі, ўдарылі
Дзевачкі ў ладонечкі:

— Хто ж у нас, хто ж у нас
Папярод хадзіць будзе,

Хто ж у нас, хто ж у нас
Песні пачынаць будзе?

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

272. Што й па вуліцы ды й па шырокай,
Па мураўцы ды й па зялёнай,
Ой, там дзевачкі карагод водзяць,
Маладзенькія карагод водзяць,
Свет Раманаўна папярод ходзіць,
Маладзенькая папярод ходзіць.
Ой, адкуль узяўся свет Васільевіч,
Адкуль узяўся маладзенечкі.
Ён усім дзевачкам нізка кланяўся,
Усім маладзенькім нізка кланяўся,
Ой, Раманаўну ды й за ручку ўзяў,
Маладзенькую ды й за ручку ўзяў.
Ён павёў яе к роднай матухне,
Павёў яе к родну батухне,
Каб пазволілі павянчацца з ёй,
Назваць яе маладой жаной.

273. Зялён гай падмяцён
Зялёнаю мяткаю,
Дробненькаю руткаю
Высыплён.

Хто ж яго падмятаў?
Падмятала дзеванька,
Падмятала малада
Сама адна.

Хто ж да яе прыхадзіў?
Прыхадзіў малойчычак,
Прыхадзіў маладзенькі
Сам ён адзін.

Што ж ён прынасіў?
Прынасіў чаравічкі,
Прынасіў невялічкі
Сам ён адзін.

Як жа ён ёй дараваў?
Ой, знімаў ён шапачку
Ды да ножак кланяўся —
Так дараваў.

274. Як пайду я да да любіна
Да палюблю я сабе дзевачку.
Э-ей! Маладзец! Ціхі перабор, сем баёр! *

Вот гэта будзе мая дзевачка,
Вот гэта будзе да мой цесцюхна,

А гэта будзе мая цешчухна,
А гэта будзе да мой шур'янка,

А гэта будзе мая свацюхна,
А гэта будзе мая дудачка.

Вот ты, дзеўка, да хадзем да мяне,
А ты, цесцюхна, па гарэлку ідзі,

А ты, цешчухна, да пячы бліны,
А ты, шур'янка, коніка сядлай.

275. Ды на гары мак, мак
Салавейка топча,
Ой, люлі, палюлі,
Салавейка топча. **

Салавейка топча,
Паляцеці хоча.

Паляцеў салавей
На сіняе мора

Да сеў і слухае,
Як паненкі плачуць,

За старога ідучы,
Белу ложку сцелючы:

— Бадай гэта ложа
У агні згарэла!

Як мне із старэнькім
Ночачка дадзела.

---

* Прыпеў «Э-ей! Маладзец! Ціхі перабор, сем баёр!» паўтараецца пасля кожнай страфы.

** Прыпеў «Ой, люлі, палюлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Распасцёр ён бараду
Па маёй падушцы,

Па маёй падушцы,
Ды не к маей душцы.

276. Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Насця, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Сядзіць на ўслонцы да ліча чырвонцы —
От то ён.
Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Праня, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Ой, сядзіць на куце, як рожа, цвіце —
От то ён.
Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Пракседа, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Ой, сядзіць на куце да лапці пляце —
От то ён.
Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Васіліна, скажы, дзеўка,
А дзе твой?
— Ой, лезе з-пад лаўкі, вочы-булаўкі —
От то ён.
Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Домна, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Ой, лезе із грушы, ў гразі па вушы —
От то ён.

277. Як вазьму я казла да за рожачкі,
Да павяду казла за вароцечкі,
Да прывяжу казла к дубоваму тыну,
Да накажу казлу — сукінаму сыну:
— Скажы, скажы, козлю, як дзеўкі скачуць?
— Ой так, так дзеўкі скачуць,
От так, памалесеньку,
От так, так, паціхесеньку.

Да вазьму я казла да за рожачкі,
Да павяду казла за вароцечкі,
Да прывяжу казла к дубоваму тыну,
Да накажу казлу — сукінаму сыну:
— Скажы, скажы, козлю, як бабы скачуць?
— От так, так бабы скачуць,
От так, памалесеньку,
От так, так, паціхесеньку.

Як вазьму казла біці, ругаці,
Да стану я у казла праўды пытаці:
— Скажы, скажы, козлю, як хлопцы скачуць?
— От, так, так хлопцы скачуць,
От так, памалесеньку,
От так, так, паціхесеньку.

Да вазьму ■ казла біці, ругаці,
Да стану я у казла пытаці:
— Скажы, скажы, козлю, як дзяды скачуць?
— От так, памалесеньку,
От так, так, паціхесеньку.

278. Пойдзем, дзевачкі, на вулку,
На вулку, дзевачкі, на вулку.
Запяём песенку навую,
Навую, дзевачкі ж, навую.
Перву песенку на расход,
На расход, дзевачкі, на расход.
Другу песенку ж на субор,
На субор, дзевачкі, на субор.
Сабяром субор ў рашато,
Да ў рашато, дзевачкі, ў рашато.
Паставім рашато ж на вербу,
На вербу, дзевачкі, на вербу.
Адкуль узяўся ж верабей,
Верабей, дзевачкі, верабей.
Скінуў рашато дадолу,
Дадолу, дзевачкі, дадолу.
Пойдзем, дзевачкі ж, дадому,
Дадому, дзевачкі, дадому.
А ты, Ганулька, астанься ж,
Астанься, дзевачкі, астанься,
Прыйдзе Іванька, звянчайся,
Звянчайся, дзевачкі, звянчайся.

279. Дуброва мая зялёная,
Я ж па табе пахадзіла,
Я ж у табе заблудзіла.
Клікаў татка — не пачула,
Па галасочку не пазнала,
Родным татанькам не назвала.
Дуброва мая зялёная,
Я ж па табе пахадзіла,
Я ж у табе заблудзіла.
Клікала мамка — я й не пачула,
Роднай мамкаю не назвала.
Дуброва мая зялёная,
Я ж па табе пахадзіла,
Я ж у табе заблудзіла.
Клікаў брацетка — я не пачула,
Па галасочку не пазнала,
Родным брацеткам не назвала.
Дуброва мая залёная,
Я ж па табе пахадзіла,
Я ж у табе заблудзіла.
Клікаў мілы — я й пачула,
Па галасочку яго пазнала,
Мілым дружком яго назвала.

280. — Лясы мае, лясы,
Зялёныя мае,

А хто вас зеляніў,
А хто вас весяліў?

— Зеляніў нас дробны дождж ык,
Весяліў нас салавей.

Дробны дождж ык крапляючы,
Салавейка спяваючы.

281. Ой, дуб дуброве даўно кажа:*
— Не спадзявайся, дубровачка,
З мяне лісту шырокага
І карэннейка глыбокага.
Дзяцінка кажа свайму татку:

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Не спадзявайся, мой татачка,
З чужога сяла нявехначку.
Есць каля боку суседачка,
Яна будзе твая нявехначка,
Яна ж будзе табе пасцель слаці,
Яна будзе цябе таткам зваці,
Пасцельку бялюсеньку,
А будзе таткам зваць ціхусенька.

282. А нуце, нуце, каровачкі,
Каровачкі,
Пара вам будзе дамовачкі,
Дамовачкі.
А напіліся, наеліся,
Наеліся,
А наеліся муражочку,
Муражочку,
А напаіліся у лужочку,
У лужочку.
Ідуць дамоўкі мукаючы,
Мукаючы,
Гаспадынечак гукаючы,
Гукаючы.
А гаспадынькі-паненачкі,
Паненачкі,
А бярыце ж вы даёначкі,
Даёначкі,
Ідзіце даіць каровачак.

283. Веснавы вецер павявае,
У каморы дзверы адчыняе,
Свёкар нявехну прабуджае:
— Устань, нявехна маладая!
Ужо каровы у дуброве,
Вараное стада ў чыстым полі,
А палеечкі ў гародзе.
Ідуць каровы рыкаючы,
Вараное стада брыкаючы,
А палеечкі спяваючы,
А ты, маладая, спіш
У каморы рыгаючы.

284. Ты дуброва, ты дуброва,
Ты зялёная была. Ой-ой!
Ты зялёная была.
Па табе ж я хадзіла,
Заблудзіла была. Ой-ой!
Заблудзіла была.
Я думала, ты дуброва,
Што лясок невысок. Ой-ой!
Што лясок невысок.
Не даходзіць, не даносіць
Да татулькі галасок. Ой-ой!
Да татулькі галасок.

285. Лятала пава па сенажаці,
То ж была пава харашуха,
Збірала пава траякае зелле,
То ж была пава харашуха,
Звіла пава да тры гняздзечкі,
То ж была пава харашуха,
Знесла пава да й тры яечкі,
То ж была пава харашуха,
Выседзела пава да й тры сакалочкі,
То ж была пава харашуха.
Першы сакалочак — малады Іванка,
То ж была пава харашуха.
Другі сакалочак — малады Васілька,
То ж была пава харашуха.
Трэці сакалочак — малады Сымонка,
То ж была пава харашуха.
Жаніўся Іванка з маладой Гэлечкай,
То ж была пава харашуха.
Жаніўся Васілька з Янечкай,
То ж была пава харашуха.
Жаніўся Сымонка з Волечкай,
То ж была пава харашуха.

286. У майго татулькі
Сад над ракою,
Сад над ракою,
Двор на даліне.
Пусці, татулька,
У сад пагуляці,
Не буду тваіх

Вішань шчыпаці,
Толькі вышчыпну
Вінаградзінку,
Занясу матульцы
На парадзінку.
— Парай, матулька,
Што мне рабіць:
Ці замуж ісці,
Ці дома быць?
Замуж зайшоўшы —
Вялікае гора,
Дзеўкай старэці —
Людская размова.

287. Цераз шчырыя бары шэры гусі ляцелі,
Шэры гусі ляцелі, летучы гаварылі:
— Няма лепшай ягадкі,
Як у бары брушнічанька,
Няма лепшай вадзіцы,
Як у новай крыніцы,
Няма лепшай гасціцы,
Як дачушка ў мамачкі.
У раскошы вырасла,
За Дунай замуж пайшла,
За Дунай замуж пайшла,
Ні у чым волі не мела.
Толькі адну волечку —
Сцюдзёну вадзіцу
З крыніцы насіці.

288. Бяжыць рэчка ад мельнічка, ой, рана!*
А другая ад Дуная, ой, рана!
На той рэчцы човен плыве, ой, рана!
Бел маладзец красны Стасенька, ой, рана!
Стружа стрэлкі з каліналькі, ой, рана!
Што прасцейшы, ў човен кладзе, ой, рана!
Што крывейшы, на Дунай мяце, ой, рана!
Плыньце, стрэлкі, да мае дзеўкі, ой, рана!
Мая дзеўка крывічанка, ой, рана!
Мая дзеўка Касюленька, ой, рана!
Няхай прадзе на падаркі, ой, рана!
Няхай прадзе ценюсенька, ой, рана!
Няхай беліць белюсенька, ой, рана!

---

*Кожны радок паўтараецца двойчы.

289. Ды што ў садзе лялеіцца,
Ці не бель там бялеіцца?

Ой, не бель то бялеіцца,
Не макоўка чырванеіцца.

Дачка ў мамкі красуецца,
Па зялёным садзе ходзючы.

Па зялёным садзе ходзючы,
Чысту росу збіраючы.

Той расою умывалася,
Каб мілому падабалася.

Ой, не бель то бялеіцца,
Не макоўка чырванеіцца.

290. Рад салавейка: даждаў вясны, рана.
Прыляцела зязюленька, рана,
Добра будзе палятаці, рана.
Яна сама маленькая, рана,
Яе пер'е шарэнькае, рана.
Добра будзе палятаці, рана,
І зязюльцы кукаваці, рана.
Рад Міколка: даждаў цешчы, рана,
Не так цешчы, як Манечкі, рана.
Добра будзе мілаваці, рана.
Яна сама міленькая, рана,
Яе лічка бяленькае, рана.
Добра будзе мілаваці, рана.

291. Борка, борка, пры борку
Рабіў малойчык каморку
І з нізенькімі акнамі,
І з маленькімі вуглямі.
Ішла дзевачка тудою.
— Божа да помач, малойчык.
Божа да помач, малойчык,
Каморку рабіць з акнамі,
Каморку рабіць з акнамі,
Каб салаўі прыляталі,
Каб салаўі прыляталі,
Нас, маладых, пабуджалі.

Нас матулечка не пабудзе,
Выйдзе на вулку — абсудзе:
«Лянiва нявестка, лянiва:
Кудзелечку прала — драмала,
Кудзелечку прала — драмала,
Красёнцы ткала — заснула,
Красёнцы ткала — заснула,
Прыехаў мiленькi — не чула».

292. — Ой ты, зязюлька баравая,
Ой, не куй рана на дуброве,
Ой, не будзi мяне, младую,
У мяне, маладое, не свой бацька,
Не свой бацька, чужа мацi,
Кладуць мяне позна спацi.
Ой, кладуць мяне пазнесенька,
А будзяць ранесенька:
— Уставай, нявехна, чужо дзiця,
Бо ужо таварац паўганялi,
Ужо таварац паўганялi,
А касарыкi на дуброве,
А ратаiкi ў чыстым полi,
А мая нявехна спiць у каморы.
— Шчэ й таварац не ўганялi,
Ратаiкi не аралi,
А касарыкi не касiлi,
А маю свякруху чэрцi насiлi.

293. Чэраз тое сельца
Вязёна дзярэўца.*

Я з таго дзярэўца
Свяцёлку збудую,

Свяцёлку збудую,
Наўкола ўмалюю.

Ой, вымалювала
Тры месяцы ясных,

Тры месяцы ясных,
Тры малойцы красных.

---

* Другi радок кожнай страфы паўтараецца.

18. Зак. 84

Ой, вымалювала
Тры зораньки ясных,

Тры зораньки ясных,
Тры дзеваньki красных.

294. Шлі пажары па дуброве,
Ой, па дуброве.
Салаўёва гняздзечка,
Ой, абсмаляла.
Як паляцеў салавейка,
Ой, да сінічкі.
— Ой, сінічка-сястрычка,
Ой, падай раду.
— Ці я табе не казала,
Ой, мой браточак.
Ды не ві ж ты гняздзечка,
Ой, пры дарозе,
А саві ж ты гняздзечка,
Ой, ў цёмным лузе,
Дзе канюшкі-пастушкі,
Ой, не ганяюць,
Салаўёва гняздзечка,
Ой, не шукаюць.

295. Не стой, вербачка, над вадою,
Над вадою,
Горка вадзіца пад табою,
Пад табою.
Штодзень вадзіца прыбывае,
Прыбывае,
Тваё карэнне размывае,
Размывае.
Свёкар нявехну разбуджае,
Разбуджае:
— Уставай, нявехна маладая,
Маладая.
Ужо каровы ў дуброве,
Ў дуброве,
А ўжо авечкі каля грэчкі,
Каля грэчкі,
А серы гусі на сінім моры,
Сінім моры.
А малада нявехна спіць у каморы,
У каморы.

296. Як я, млада, маладзенька, *
Ў поле гусей праганяла,
Праганяла й гаварыла:
— Эй вы, шэрыя гусі,
Прывыкайце к вадзіцы,
Да к сцюдзёнай расіцы,
Да к зялёнай травіцы.
Як я й, млада, маладзенька,
Я і к свёкру прывыкала,
Я і к свёкру, к свякроўцы,
Я і к дзеверу, к залоўкам.

297. Вылятала галачка, вылятала,
Выбівала аконца, выбівала,
Каб матулька дачушку пабуджала:
— Устань, дачушка, бела ўмыйся,
Вазьмі грабянёчак учашыся,
Ідзі ў камору прыбярыся.
А выйдзі на вулачку агляніся!
Правадзіла мамка дачку, правадзіла
Праз высокія горы — з капачамі,
А праз цёмныя бары — з агнямі,
Праз вялікія сёлы — з скрыпкамі.
Дзе матуля із дачушкай сядзела,
Там вырасла мята-рута, лілея,
Дзе матуля із дачушкай стаяла,
Там вырасла яблынька чудавая,
Дзе матуля із дачушкай рассталася,
Слязлівая рэчка разлілася.

298. Ясна сонца за лес коціцца,
Ка мне ў хатку не заходзіцца.
Уся дружыначка расходзіцца,
Мая мамка дамоў строіцца.
А я, млода, прапускаць пайду
Трыма гарамі гарыстымі,
Трыма сцежкамі камяністымі,
Трыма рэчкамі быстрымі,
Трыма кладачкамі гібкімі.
Зайшла мамка да на кладачкі,
Сярод кладачкі спатыкнулася,
Назад мамка аглянулася.

---

*Кожны радок паўтараецца.

— Чаго, дзіцяці, засталася,
Ці ў травіцу заплуталася,
Ці ў расіцу замачылася?
— Не ў травіцу я заплуталася,
Не ў расіцу замачылася.
Заплутала чужа старана,
Замачылі дробны слёзачкі.

299. Не гарох я сею,
Не гарох я сею
Да па шчырым бару,

Да па шчырым бару,
Да па шчырым бару,
Да па жоўтым пяску.

Паехаў каролька,
Паехаў каролька
З Юрычком на вайну,

З Юрычком на вайну,
З Юрычком на вайну,
На чужую зямлю.

А за ім матулька,
А за ім родная
Так жалосна плачыць:

— Доля ж мая, доля,
Доля нешчаслiва,
Доля нешчаслiва.

— Ты не плач, матулька,
Ты не плач, родная,—
Я табе прывязу,

Я табе прывязу
Я табе служачку,
А сабе жоначку.

300. Ой, у нядзельку й парану
Убіраецца кроль на войну,
Кроль на войну.
— Ой, кролю, кролю, не йдзі на войну,
Не йдзі на войну,

Бо твая міла дочку родзіць,
Дочку родзіць.
— Ой, калі дочку, то не вярнуся,
Не вярнуся...
Дачка ўзрасце, замуж пойдзе,
Замуж пойдзе —
Мая й магіла забыта будзе.
Ой, у нядзельку параненьку
Убіраецца кроль на войну,
Кроль на войну.
— Ой, кролю, кролю, не йдзі на войну,
Не йдзі на войну,
Бо твая міла сына родзіць,
Сына родзіць.
— Ой, калі сына, то вярнуся,
То вярнуся...
Ой, сын вырасце, ў войска пойдзе,
Ў войска пойдзе —
Мая магіла чытана будзе.

301. Ой, тонка, тонка сасонка,
А затым тонка, што ў бары,

А затым тонка, што ў бары.
Служыў Юрачка каралю,

Служыў службу тры гады,
Выслужыў сабе коніка,

А пры коніку сядзельца,
А пры сядзельцы востры меч,

Пры вострым мячы — тры свячы.
Ехаў да цёшчы з поўначы,

Ехаў да цёшчы з поўначы,
Найшоў паненку не спячы,

Найшоў паненку не спячы,
На новым ганку седзячы,

На новым ганку седзячы,
З шоўку кашульку шыючы.

302. Пры лужку бела бярозка зашумела,
Пра людску нядолечку песні пела.
А пад вечар яна ціханька стаяла,
У захад сонца мілага госцечка ждала.
К ёй прыязджаў бел малойчык начаваці,
Яму ж была бярозка, як родная маці.
Няма мамкі ў яго роднай, ні куточка,
Толькі белая бярозка ля лужочка.
І з радасцю малойчыка прынімала,
Між карэння на лісточку пасцель слала.
Рання зорка ўжо на небе патухала,
Ўжо бярозка малойчыка будзіць стала:
— Уставай жа, мой саколік, досыць спаці,
Пара коні вараныя з лугу браці,
Бо твой татка не родненькі раскрычыцца,
Твая мамка не родная зажурыцца!
Пакланіўся бел малойчык на зямельку,
Падзякаваў бярозачцы за пасцельку:
— Я паслаўся ў бярозачкі на карэнні,
Як у роднай матулечкі на калені,
Я выспаўся ў бярозачкі на лісточку,
Як у роднай матулечкі ў прыпалочку.

## ПОЗНАВЕСНАВЫЯ ПЕСНІ
## (ТРАЕЦКІЯ, КУСТАВЫЯ, РУСАЛЬНЫЯ)

303. Пойдзем, дзевачкі,
Ва лугі, лужочкі
Завіваць вяночкі.
Мы заўём вяночкі
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грэчку чорную,
На капусту белую.

304. Пойдзем, дзевачкі,
Мы ў гай гуляць,
Ай, люлі, люлі,
У гай гуляць.
У гай гуляць,
Вянкі завіваць.

Як заўём вянкі
Ды на ўсе сяткі,
Ай, люлі, люлі,
Ды на ўсе святкі.
На духоўскія
І на пятроўскія.
Ой, Дух-Тройца,
Ты субор дзеўкам,
Ай, люлі, люлі,
Субор дзеўкам,
А святы Ілля —
То разгон дзеўкам,
Ай, люлі, люлі,
То разгон дзеўкам.
Разагнаў дзевак
Па чыстым полі,
Ай, люлі, люлі,
Па чыстым полі,
Па ельнічку,
Па бярэзнічку,
Ай, люлі, люлі,
Па бярэзнічку.

305. Пойдзем мы, дзеванькі, на луг гуляці,
Люлі, люлі, на луг гуляці.
Мы саўём вяночкі, мы саўём зялёныя,
Люлі, люлі, саўём зялёныя.
Пусцім мы вяночкі на чыстыя воды,
Люлі, люлі, на чыстыя воды.
Вяночкі, плывіце, пра долю кажыце,
Люлі, люлі, пра долю кажыце.
Ці будзем мы жывы да цёплага лета,
Люлі, люлі, да цёплага лета?
Ці спалюбяць нас хлопцы удалы,
Люлі, люлі, хлопцы удалы?
Ці павядуць нас у свае дамы,
Люлі, люлі, у свае дамы?

306. Не радуйся, клён да ясення,
Не к табе ідуць дзеўкі красныя,
Не табе нясуць яешні смашныя,
Гарэлку горкую, скрыпку звонкую.
Ай, люлі, ай, люлі!

Ай, люлі, люлі, люлі!
Ты радуйся, белая бяроза,
К табе ідуць дзеўкі красныя,
Табе нясуць яешні смашныя,
Гарэлку горкую, скрыпку звонкую.
Ай, люлі, ай, люлі!
Ай, люлі, люлі, люлі!
Дух да Троіца — дзеўкам зборышча,
А святы Ілля — дзеўкам разбор!
Ай, люлі, ай, люлі!
Ай, люлі, люлі, люлі!

307. Ну, не радуйся ты, дубняк, кленнік,
Што дубняк, кленнік, ель кудравая,
Ель кудравая, зелена сасна.
Толькі радуйся, бела бяроза,
Што ты белая да кудравая,
Ну, кудравая, малажавая,
Што к табе ідуць красны дзевіцы,
Ну нясуць табе ўсе гасцінічкі —
Ўсё шырыначкі да платошачкі.
А за імі ідуць стары бабушкі,
Ну нясуць табе ўсё гасцінічкі —
Усё яечніцы з драчонаю.
А за імі ідуць стары старыкі,
Табе кланяюцца, бела бяроза
Што ты белая да кудравая,
Ну кудравая, малажавая.

308. Выхвалялася бяроза,
Што ў яе лісточак зеляненек,
Што ў яе вецейкі дадолу.
Як зачуў, пачуў шэры дуб:
«Не хваліся,— кажыць,— бяроза,
Не сама бяроза развілася,
Расціў бярозу гасподзь бог,
Зеляніў лісточкі дожджычак».
Выхвалялася дзевачка,
Што ў яе спадніца дадолу.
Як учуў, зачуў дзяцінка:
— Не сама, дзевачка, спраўляла,
Спраўляла табе мамачка.
— А ў мяне касіца да пояса.
— Не сама касіцу расціла,
Расціла касіцу мамачка.

309. Ці ты бывала, Тройца, ці бывала?
Ой, я й, маладая, не ўгадала,
Я і, маладая, не ўгадала...
Я і, маладая, на вуліцы не бывала.
Да й на вуліцы я й не бывала,
Эх, мяне мая мамачка не пушчала.
Мяне мая мамачка не пушчала,
Ой, да й у каморку, ой, запірала,
Да й у каморку, эх, запірала.
А ў каморачцы акенечка,
А ў каморачцы ды акенечка,
А там мне, маладой, ой, бядненечка,
А там мне, маладой, бядненечка.
А на вуліцы дымок, ох, да ідзе,
А на вуліцы дымок ідзе,
А там мой міленькі танок вядзе,
А там мой міленькі танок вядзе,
А ў левай руцэ ён вянок нясе.

310. Ой, выйду ж я за вароты —
Трава-мурава. *

Сюды-туды гляну —
Чужа старана.

Ой, да выйду ж [redacted] за другія —
Там сад-вінаград.

А ў тым садзе-вінаградзе
Падружкі мае.

Вы дзевачкі-паненачкі,
Падружкі мае,

Як пойдзеце ў чыста поле,
Завіце мяне.

Як будзеце кветкі рваць,
Нарвіце і мне,

Як будзеце вянкі віць,
Савіце і мне,

* Кожная страфа паўтараецца.

Як будзеце вадой пускаць,
Пусціце і мой.

Усе вянкі вадой пайшлі,
А мой вот і не,

Усе дружкі з вайны прыйшлі,
А мой вот і не.

Усе дружкі на коніках,
А мой пехатой,

Усе дружкі ў боціках,
А мой басатой.

311. Вы, кумачкі-галубачкі, сястрыцы мае,
Вы, кумачкі-галубачкі, сястрыцы мае,
Як пойдзеце ў зялёны сад, гукніце й мяне,
Як пойдзеце ў зялёны сад, гукніце й мяне.
Як будзеце вы краскі рваць, нарвіце і мне,
Як будзеце вы краскі рваць, нарвіце і мне.
Як будзеце вянкі звіваць, савіце і мне,
Як будзеце вянкі звіваць, савіце і мне.
Як будзеце на галоўкі класць, ўскладзіце і мне,
Як будзеце на галоўкі класць, ўскладзіце і мне.
Як будзеце на Дунай пускаць, пусціце і мой,
Як будзеце на Дунай пускаць, пусціце і мой.
А ўсе вянкі паверх плывуць, ■ мой патануў,
А ўсе вянкі паверх плывуць, а мой патануў.
А ўсе дружкі з Масквы ідуць, а майго няма,
А ўсе дружкі з Масквы ідуць, а майго няма.

312. За рэчкаю, за быстраю,
Слабодка стаіць.*

Небальшая слабодачка —
Чатыры двары.

Ой, а ў той жа слабодачке
Чатыры кумы.

Вы кумушкі-галубушкі,
Падружкі мае,

* Кожная страфа паўтараецца.

Куміцеся, любіцеся,
Любіце й мяне.

Як будзеце ў зялён сад ісці,
Гукайце й мяне,

Як будзеце красачкі рваць,
Нарвіце і мне,

Як будзеце вяночкі віць,
Савіце і мне,

Як будзеце на галоўкі класць,
Кладзіце і мне,

Як будзеце на Дунай пускаць,
Пусціце і мой.

А ўсе вянкі паверх пайшлі,
А мой на дно паў,

А ўсе дружкі з вайны прыйшлі,
А мой запрапаў.

313. Валялём! Да на вуліцы ярловіца, валялём!
Валялём! Ой, цяжка хлопцам Пятровіца, валялём!
Валялём! Да судзі ж, божа, Пятра даждаць, валялём!
Валялём! Да Пятра даждаць, хлеба нажаць, валялём!
Валялём! Да тады пойдам у Жыцін у дзеўкі,
валялём!

Валялём! У Жыціне дзеўкі харошыя, валялём!
Валялём! Ой, да ўсе ж яны багатыя, валялём!
Валялём! Даюць падаркі памятныя, валялём!
Валялём! А ў Крамку дзеўкі худобанькі, валялём!
Валялём! Даюць падаркі крапіўныя, валялём!

314. Гэй, у-ля-лё! Саду мой, саду, саду зялёны, гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Саду зялёны, чаму не вясёл? Гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Раба зязюля сад весяліла, гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Сад весяліла, ў бор паляцела. Гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Двору мой, двору, двору шырокі, гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Двору шырокі, чаму не мяцён? Гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Млода Марылька двор падмятала, гэй,
у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Двор падмятала і замуж пайшла, гэй, у-ля-лё!

315. Ты, малодка, малодка маладая,
О-ох, ле-ле-лё, маладая!
Да чаго ты, малодачка, стара стала?
О-ох, ле-ле-лё, стара стала.
Ох ты, траўка-мураўка зялёная,
О-ох, ле-ле-лё, зялёная,
Да чаго ты, муравачка, пачарнела?
О-ох, ле-ле-лё, пачарнела.
Ці не гусі цябе сашчыпалі?
О-ох, ле-ле-лё, сашчыпалі.
Ці не маленькія гусяняткі?
О-ох, ле-ле-лё, гусяняткі.
Ці не дзеўкі цябе прытапталі?
О-ох, ле-ле-лё, прытапталі.
Да ўсё тымі чабатамі чырванымі?
О-ох, ле-ле-лё, чырванымі.
Да ўсё тымі падкоўкамі сталянымі?
О-ох, ле-ле-лё, сталянымі.

316. Ляцелі гусі гукаючы,
Слаўнага сяла шукаючы.
Слаўна сяло Намастырскае:
У ім юлачкі шырокія,
У іх дзевачкі харошыя,
У іх галоўкі, як маркоўкі,
Яны шчабечуць, як ластаўкі.
Ляцелі гусі гукаючы,
Брыдкага сяла шукаючы.
Брыдка сяло Восаўска:
У ім вулачкі вузенькія,
У іх дзевачкі брыдзенькія,
У іх галовішчы, як памялішчы,
Яны дзяруцца, як дзяркачышчы.

317. Ай, не радуйся, зялёны дуб,
Ай, не радуйся, зялёны,
Не к табе ідзём вянкі развіваць,
Не к табе ідзём вянкі развіваць.
Ай, узрадуйся, бяроза,
Ай, узрадуйся, белая,
Мы к табе ідзём вянкі развіваць,
Мы к табе ідзём вянкі развіваць.
Разаўём вянкі на святкі,

Разаўём вянкі на святкі,
На гадавыя празнічкі,
На гадавыя празнічкі.
А мы вяночкі развілі,
А мы вяночкі развілі,
Мы гарэлачку папілі,
Мы гарэлачку папілі,
Мы яешаньку паелі,
Мы яешаньку паелі.

318. Тройца, Тройца, свята Багародзіца,
Пасею жыта, да няхай зародзіць.
Пасею жыта, пасею пшаніцу,
Зарадзі, божа, усяку пашніцу.
Што зародзіцца, то для майго бацюхна,
Што не зародзіцца, то для майго свёкарка.
Саладок мядок — то для маёй матанькі,
А горка гарэлка — то для маёй свякоркі.

319. Тройца, Тройца, святая Багародзіца,
Пасею лёна, няхай зародзіцца.
Што харошы лён, то для матанькі маёй,
А што найхарошшы, для мяне, маладой,
А што з чарыўкаю, то для свякроўкі ліхой,
Бо свякроўка не родная маці,
Будзе хадзіці да чарыўку вырываці.

320. Ой ты, Тройца, прасвятая Багародзіца,
Да пасеем жыта, да няхай зародзіцца.
Пайду я таго жыта глядзеці,
Аж вывела перапёланька дзеці.
Ой, пайду я другі раз глядзеці,
Да забралі перапёлчыны дзеці.
Да бадай таму тры гады хварэці,
Хто забраў перапёлчыны дзеці.

321. Да чэраз сяло Багданоўскае
Шло войска ўсё ж дзявоцкае.
Да каманьчане не здзіваліся,
Што ў Багданаўцы парадзіліся.
Бог вам даў, багданавачкі,

Што ў вас кусты ўсе кляновыя,
А вяночкі ўсе ж пярловыя.
А ў нас кусты ўсе лазовыя,
А вяночкі ўсе ж беразовыя.

322. Выйдзі, выйдзі, слаўны пане, з пакою
І звялі, дзе кустові стаці пад вішэнкою.
Вячэраці даці піражкі ў масле,
А окала куста ўсё дзевачкі красны.
Уквецілі куста з самаго клёну,
Выкінь, пане, хоць па залатому.
Уквецілі куста з самаго бэзу,
Выкінь, пане, кустові хоць на адзежу.

323. Ох, мы ж былі у харошаму й бору
І звілі куста ж із зялёнага клёну.

І звілі куста із зялёнага клёну
Да прывялі куста ды й да слаўнага двору.

Да прывялі куста ды й да слаўнага двору,
Проша пана выйці із новага ж пакою.

Проша нам вынесці тры барылкі гарылкі,
Мы прывялі куста да харошых тры дзеўкі.

Ой, у нашага куста ножанькі невялічкі,
Ой, проша вынесці да хоч на чаравічкі.

324. Ой, дзень добры, да наш пане, да хаты,
Ой, ці ж вяліш нашаму кусту стаці,
Бочку мядочку прыпявалначкам даці,
Нам, маладзенькім, на ганачку пагуляці.

325. Да зелен куст, да зеляненькі,
Трэба кусту піты-істы даты,
Трэба з кустом пайты пагуляты;
Трэба для куста усякая выгода
І крынічная вода.

326. Убралі куста із зялёнага гаю,
Выйдзі, пані, з новага пакою
Да дай кусту хоць па залатому.
У нашага куста ножкі невялічкі,
Трэба нашаму кусту казловыя чаравічкі.

327. Кало куста сачывичанька густа,
А кало дуба да зелена диброва.
А хто ту диброўку пакосіць,
Та той сабе да суконькі паносіць.
Адазваўся слаўны панічу:
— Я ж тую диброўку пакашу,
Я ж тыя суконькі да панашу.
А хто ж тую сачывичаньку парве,
То той сабе красну панну озьме.
Красна панна паперэдочку ходыць,
Свайго кавалера за белу ручку водзіць:
— Хадзі, кавалеру, да й патанцуйма,
Сваё падвор'е ізвалацуема.

328. Ой, пайду я, дзе мне весяленька,
Што лета, зіма, дзерава зеляненька,
Майго бацюхна падворца весяленька.
Пайду я, дзе мне невясёла,
Што лета, зіма, дзерава незялёна,
Майго свёкратка падворца невясёла.

329. Прывялі куста, зеляненькага клёна.
Дай нам, пане, хоць па залатому,
Дай нам, пане, тры барыла гарэлкі,
Прывялі куста да харошай дзеўкі.
Да не тут кусту да стоем стаяці,
Трэба кусту піці-есці даці,
Трэба кусту да добрая выгода,
Трэба кусту крынічная вода.

330. — На двору да халодная роса,
Не хадзі, мая мілая, боса.
— Калі ж табе, мой міленькі, жаль,
Купі чаравічкі чырвоны, як жар.
— Куплю ж табе, мілая, і трое,

Будзем хадзіць па вадзіцу абое,
Куплю табе чаравічкі, панчошкі
Да на твае белыя ножкі.
Адна пара — па вадзіцу хадзіці,
Другая пара — ў хаце дзела рабіці,
Трэця пара — да касцёла хадзіці.

331. Пойдзем, дзевачкі, у шчыры бор
Да зрубаема высокі клён,
Да выкалемо тры дошчачкі,
Да зробімо тры бочачкі:
У адной бочачцы — салодак мядок,
У другой бочачцы — зялёна віно,
У трэцяй бочачцы — горкае піва.
Саладок мядок — то для дзевачак,
Зялёна віно — то для малодачак,
А горкае піва — для малойчыкаў.

332. На гары да на новай крамяніцы
Танцавалі дзеўкі, маладзіцы.
Там ягомасць да на пэрэдачку ходзіць,
Сваю імасць да за белу ручку водзіць.
— Ты, імасць, гардуеш ты мною,
Шчо быці сто год із табою.

333. Да кала куста сачавічанька густа,
А кала дуба дуброва зялёна.
Да па той дуброве да Агапка хадзіла.
На ёй сукня ў дробненькія хваўды,
Да любілі ж яе не нарокам, папраўды.
На ёй сукня ў дарагія пасаманы,
Да любілі яе да багатыя паны.

334. Ой, мы былі й у харошаму бору й,
Звілі куста із зялёнага клёну.

Ой, і звілі ж куста, звілі куста,
А да у нас жа сучывэнька густа.

Ой, да хто ж гэту сучывэньку скосіць,
Ой, да той мяне у татонька выпросіць.

Адазваўся казачэнька маладзенькі:
— Ой, е у мяне сэрпічок залаценькі.

Я ж гэту сучывэньку скошу,
Я ж цябе у татонькі выпрошу.

335. На Граной нядзелі
Русалкі сядзелі,
Рана-ранюсенька,
Русалкі сядзелі.

Русалкі сядзелі,
На дзевак глядзелі,
Ой, рана-рана,
На дзевак глядзелі.

— Дзевачкі-сястрыцы,
Падайце вадзіцы,
Ой, рана-рана,
Падайце вадзіцы.

Падайце вадзіцы
З халоднай крыніцы,
Ой, рана-рана,
З халоднай крыніцы.

З халоднай крыніцы
Ды з-пад той вярбіцы,
Ой, рана-рана,
Ды з-пад той вярбіцы.

Падайце вадзіцы
Душу прычасціці,
Ой, рана-рана,
Душу прычасціці.

Душа прычасціцца —
Жыццё вараціцца,
Ой, рана-рана,
Жыццё вараціцца.

Тады будзем з вамі
Краскі сабіраці,
Ой, рана-рана,
Краскі сабіраці.

Краскі сабіраці,
Песенькі пяяці,
Ой, рана-рана,
Песенькі пяяці.

336. На Граной нядзелі русалкі сядзелі,
Рана-рана, русалкі сядзелі!
Прасілі русалкі ў дзевак сарочак,
Рана-рана, у дзевак сарочак!
У дзевак сарочак, ў маладзіц намётак,
Рана-рана, ў маладзіц намётак:
— Дзевачкі-сястрычкі, дайце нам сарочкі,
Рана-рана, дайце нам сарочкі!
Хоць яны пласконны, штоб былі дадонны.
Рана-рана, штоб былі дадонны!
Хоць яны таўсценькі, штоб былі бяленькі,
Рана-рана, штоб былі бяленькі!

337. На Граной нядзелі
Русалкі сядзелі,
Рана-рана,
Русалкі сядзелі.

Правяду русалак
Із бору да бору,
Рана-рана,
Із бору да бору.

Із бору да бору,
У зелену дуброву,
Рана-рана,
У зелену дуброву.

Штоб не ласкаталі,
У зіму не лякалі,
Рана-рана,
У зіму не лякалі.

У зіму не лякалі,
Улетку не пужалі,
Рана-рана,
Улетку не пужалі.

338. Ходзіць русалка па вуліцы,
Заве Пятрышчу к сабе на гулі:
— Хадзі, Пятрышча, ка мне на гулі.
— А не пайду я, русалачка,
Я не пайду: цёмна ночка.
А буду жыцейка пільнаваці,
Каб русалачцы не ламаці.

339. Правяду русалку
Із бору да бору,
Рана-рана,
Із бору да бору.

Із бору да бору,
У зялёну дуброву,
Рана-рана,
У зялёну дуброву.

У зялёну дуброву,
Да й вярнусь дадому,
Рана-рана,
Да й вярнусь дадому.

Я назад вярнуся,
Слязьмі абаллюся,
Рана-рана,
Слязьмі абаллюся!

340. Правяду русалку, правяду
Да й асінкаю заламлю,
Каб тая русалка па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла.
Маё жыцейка дробнае
Да ў каласку буйнае.
Правяду русалку, правяду
Да й асінкаю заламлю.

341. Правяду русалку
Із бору да бору,
Рана-рана,
Із бору да бору.

Із бору да бору,
У зялёну дуброву,
Рана-рана,
У зялёну дуброву.

У зялёну дуброву,
У ядраное жыта,
Рана-рана,
У ядраное жыта.

У ядраным жыце
Там русалцы жыці,
Рана-рана,
Там русалцы жыці!



## КУПАЛЬСКІЯ І ПЯТРОЎСКІЯ

342. Ішла Купала сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі пяром, пяром.
На Йвана Купала, на Йвана Купала!*
Закрыўшы вочкі пяром, пяром,
Вітала хлопцаў чалом, чалом.
Вітала хлопцаў чалом, чалом,
Свяціла ночкі агнём, агнём.
Свяціла ночкі агнём, агнём,
Пляла вяночкі шаўком, шаўком.
Пляла вяночкі шаўком, шаўком,
Слыла Купалка цяплом, дабром.
Слыла Купалка цяплом, дабром,
Славу Купалу пяём, пяём.

343. Хто, хто на Купалле ідзе,
Да хто, хто саладуху нясе?
Да хто, хто да не вынесе,
З караваці не вылезе,
Ляжа яна да калодаю,
Ляжа яна да дубоваю.

344. Ляцеў чыжык цераз рынак
Ды клікаў дзевак на Купалле:
— Дзеўкі, бабы, на Купаллю!
Красным дзеўкам свая воля,
А маладзіцам няма волі:
Дзіця плача ў калысцы,
А муж бурчыць у пасцельцы,
А свякроўка супроць печы,
Свёкар-бацюшка на печы,
А дзявер'я на пакоі,
А залоўкі на Купаллі.
Ды я, млада, прыбяруся,
Ды я дзіцё прыгалублю,
Ды я мужа перапрашу,

*Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Ды я свёкру пакаруся,
Ды [redacted] свякроўцы пакланюся,
А дзявер'ям — па платочку,
А залоўкам — па вяночку.
Пакуль, млада, прыбяруся,
Дзеўкі, жонкі ідуць з Купалля,
А я, млада, на Купалле.
— Дзеўкі, бабы, на Купаллю!
Рана, рана, на Купаллю.

345. Сягоння й Купала, заўтра Ян,
Да играй, сонейка, играй нам,
Каб зялёны лугі шумелі,
Каб сырая зямля стагнала.
Каб сырая зямля стагнала
Да й ад дзявоцкага гуляння,
Да й ад дзявоцкага гуляння,
Да й ад жаноцкага спявання.

346. Сядзіць Купалля на плоце,
Яго галоўка у злоце,
Яго галоўка у злоце.
Просе ў бога пагоды,
Просе ў бога пагоды:
— Да дай жа, божа, пагоду
На гэту ночку вясёлу,
Да каб музыкіігралі,
Да каб дзевачкі спявалі,
Да каб малойцы гулялі.

347. Сягоння Купалле, а заўтра Ян,
Пойдзем, дзевачкі, ў зялёны гай.
У зялёным гаі начаваць будзем,
Зялёныя вяночкі віць будзем.

348. А на Купалле, на Яна
Дзевачкі зелле капалі.
Яны капалі, не зналі,
Да караля паслалі.
Кароль зелля не пазнаў,
Да каралевы адаслаў.
Каралева зелле пазнала

І да дзевачак адаслала.
— Гэта, дзевачкі, не зелле,
Гэта ваша вяселле.
Вы збірайце, збірайце
Да ў вяночкі звівайце.

349. Месяц яснюсенькі,
Ўзыдзі ранюсенька,
Асвяці віднюсенька.
Андрэйка малодзенькі,
Устань жа ранюсенька,
Ўмыйся бялюсенька,
Надзень жа ты боцікі казловыя,
Надзень жа ты шубачку бабровую,
Выйдзі ж ты на вуліцу,
Развядзі купальнійка,
Дзевачкам гуляннійка.
Дзевачкі гуляць будуць,
Жоначкі пяяць будуць,
Андрэйку хваліць будуць:
«На Андрэйку кашуля
Сто рублёў каштуіць.
Хто ж гэту кашулю праў?
Прала яе матулька,
Ткала яе сястрыца,
А Мар'ічка вышывала
І Андрэйку даравала,
На Купальнійка даравала».

350. — Ўзыдзі, ўзыдзі, месячык,
Ўзыдзі, ўзыдзі раненька,
Разлажы купаллейка:
Дзевачкам спяваннейка,
Малайцам гуляннейка.
— А мне, ўзышоўшы, многа трэба:
Я з вечара неба абайду,
А з поўначы зоркі палічу,
Тады я к вам, дзевачкі, прыйду,
Тады на Купалле к вам прыйду,
Тады вам купалле разлажу.

351. То-то-то! Купала Яна на вулку звала, то-то.*
— Хадзі, Яначка, хадзі на вулку,
Скрыпачкі граюць, дзевачкі пяюць,
Дзевачкі пяюць, Яначку ждуць.

352. — Каманіца зеляная, маладзіца маладая,
Чаму не йдзеш на вуліцу на шыроку?
— Як жа мне йці на вуліцу на шыроку.
Свёкар кажыць: «Мядзведзіца»,
Свякрова кажыць: «Пахмурніца»,
Дзевер кажыць: «Шчыкатуха»,
Залоўкі кажуць: «Зелянуха»,
Мужык кажыць: «Жана мая, душа мая,
Не ўмела ты адказаці:
Мядзведзіца — ў цёмным лесе,
Пахмурніца — цёмная ночка,
Шчыкатуха — сарока ў лазе,
Зелянуха — трава ў лугах».

353. Дзеўкі, бабы — на Купальню,
Ладу-ладу, на Купальню!
Ой, хто не выйдзець на Купальню,
Ладу-ладу, на Купальню,
Ой, той будзець пень-калода,
Ладу-ладу, пень-калода.
А хто пойдзець на Купальню,
Ладу-ладу, на Купальню,
А той будзець бел бяроза,
Ладу-ладу, бел бяроза.

354. Як пойдзем мы, дзеўкі,
На вулкі шырокі,**
Як зайдзем мы, дзеўкі,
К Іваньку на дворкі.
Ай, дась нам Іванька
Нам сваёй кулагі.
— А ў тваёй кулагі
Пчоланькі бруялі.
Іванька не чуіць,
Ў пярыні начуіць.

---

* «То-то-то!» паўтараецца ў пачатку, «то-то» — у канцы кожнага радка.
** Кожны цотны радок паўтараецца.

— Спасіба, Іванька,
За тваю кулагу.
А ў тваёй кулагі
Пчоланькі бруялі,
Пчоланькі бруялі,
А ў палёт ляталі,
А ў палёт ляталі,
Мяды сабіралі,
Мяды сабіралі,
Кулагу сладзілі.

355. Сягоння ў нас Купала,
То-то-то-то. *
Сам бог агонь расклаў,
Усіх святых к сабе сазваў,
Толькі нету Іллі з Пятром.
Пайшоў Ілля каля жыта.
Чыё жыта добрае, харошае?
Сцяпана найлепшае.
Сцяпан будзе піва варыць,
Сына жаніць, гарэлку гнаць,
Дачку замуж даваць.

356. Святое Пятро ў поле ходзіць,
Святы Купала агонь кладзе.
Хадзем, дзяўчаткі, на Купалу,
Хадзем, сястронкі, агонь класці.
Хадзем, сястронкі, на мяжыцы
Пільнаваці жыта й пшаніцы.
Пільнаваці жыта й пшаніцы
Ад тое ведзьмы-чараўніцы,
Каб яна па межах не хадзіла,
Раннія расы не абівала.
Раннія расы не абівала,
З жыта спору не збірала.

357. Мар'я Івана ў поле звала:
— Пойдзем, Іван, па межах хадзіць,
Па межах хадзіць, жыта радзіць.
Радзі, божа, жыта густа,
Жыта густа, ядраніста,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Ядраніста, каласіста.
Ядро — з вядро, колас — з бярно,
А жыцінка, як бабінка,
Саломінка, як трасцічынка.

358. Ой, мы Купалу на вулку звалі:
— Хадзі, Купалка, гуляць на вулку!
Купалка кажа: «Не маю часу —
Трэба хадзіці мне каля жыта!
Ой, чыё жыта харошае?
А Сцяпанкава найлепшае.
Будзе Сцяпанка піва варыць,
Піва варыць, сыноў жаніць,
Ой, да будзе ён гарэлку гнаць,
Гарэлку гнаць, дачок аддаваць».

359. Купалка Івана на вулку звала,
То-то-то. *
— Іван-Іванішча, хадзі на йгрышча.
— Купалка-сястра, мне часу няма:
Пільную сяла, новага двара,
Каб ведзьмішча не хадзіла,
Чужых кароў не даіла.

360. Ой, рана на Йвана,**
Проці Йвана ночка мала,
Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана.
— Дзе, Купала, начавала?
Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана.
— Начавала ў чыстым полі,
Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана.
Ў чыстым полі сярод жыта,
Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана.
— Чым, Купала, вячэрала?
Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

** Словы «Ой, рана на Йвана» паўтараюцца двойчы.

— Варэнічкі вячэрала,
Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана.
— Чым, Купала, запівала?
Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана.
— Гарэлачкай запівала,
Ой, рана на Йвана.

361. — Святы Яне, на Купаллю!
— Моцны божа, німа часу!
— Святы Яне, дзе дасюль быў?
— Моцны божа, ляды араў!
— Святы Яне, нашто ляды?
— Моцны божа, ячмень сеяць!
— Святы Яне, нашто ячмень?
— Моцны божа, солад расціць!
— Святы Яне, нашто солад?
— Моцны божа, піва варыць!
— Святы Яне, нашто піва?
— Моцны божа, сына жаніць!
— Святы Яне, каторага?
— Моцны божа, Іваньку!
— Святы Яне, каго бярэць?
— Моцны божа, Марыльку!

362. Не йдзі, Купала, ты ў сяло-сяло, *
А йдзі, Купала, па заселейку.
Не начуй, Купала, ты ў сяле, ў сяле,
Начуй, Купала, ты ў жыце, ў жыце,
Каб туды змяя не залятала,
Ў жыцечку спору не выбірала.

363. Пойдзем, дзеўкі, **
Каля жыта,
Ці не ўбачым
Каго ў жыце:
Ці коніка
Варанога,

* Кожны радок паўтараецца, акрамя трэцяга і чацвёртага.
** Кожны радок паўтараецца.

Ці хлопчыка
Маладога.
К'лі коніка —
Лавіць будзем,
К'лі хлопчыка —
Жаніць будзем.

364. На вуліцы рамон бялее.
— Да хто?
— Дзевачкі.
— Да хто?
— Дзевачкі, Купалле.
На вуліцы чыр чырванее.
— Да хто?
— Хлопчыкі.
— Да хто?
— Хлопчыкі, Купалле.

365. Божа мой! Да ў нашым сяле тры вуліцы,
божа мой. *
Ў першай вуліцы ружа лялее,
Ў другой вуліцы рамон бялее,
Ў трэцяй вуліцы крапіва млее.
Ружа лялее — то дзевачкі,
Рамон бялее — то малойчыкі,
Крапіва млее — то малодачкі.

366. Прасілася Гарыслаўка ў ойчанькі на Купаллейка,
На дзявоцкае пагуляннейка:
— Ой, мой ойчанька родненькі,
Пусці ж мяне пагуляць
Да й дзецюкам купальнічка заспяваць.
Яны ж з нас смяюцца цэлы год,
А мы жа ж ім заспяваем усю ноч.
Заспяваем купальнічка такога,
Каб яны не дачакалі году другога,
Калі яны жаніціся не хочуць,
Да нас, маладзенькіх, любіць не будуць.
Ой, гуляла Гарыслаўка ўсю ноч,
Няма жа яе ў ойчанькі на абед.
Нізка сонца, нізка пад палудзень,
Гарыслаўка з Купальнічка ідзе,

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

А ойчанька яе сустрачае
У вароцейках, праўданькі пытае:
— Донька маяродненькая, скажы мне,
Каго любіш верна ў сяле,
Таму пашлю залаты пояс у дары,
Штоб ён пазнаў Гарыслаўку, малады.
— Не пасылай, мой ойчанька, паяса,
Ой, прывядзе мне малайца мая краса.

367. Ой, рана-рана на Яна
Сонца гуляла з Купала,
А лясы звінелі, як пелі,
А сяло дрыжала, музыка йграла.
Прасілася нявехначка ў свякроўкі
Ад маленькага дзіцятка:
— Пусці мяне, свякроўка, на вулку
Пагуляці з дзяўчаткамі мінутку.
— Ідзі, мая нявехна, не баўся,
Да белага свету не шляйся.
Першыя куры пяюць — паслы шлюць,
А нявехна гуляе, не дбае.
Другія куры пяюць — паслы шлюць,
А нявехна гуляе, не дбае.
Трэція куры пяюць — паслы шлюць,
А нявехна гуляе, не дбае.
Першы пасланец — свякроўка,
А другі пасланец — дзевяратка,
А трэці пасланец — востры меч.
— Зніму нявехне галаву з плеч!
— Ой, скачу ж я, маладая, ў вішнёвы сад
І стану я думаць-гадаці,
Як мне свайго свякратка назваці.
Назаву яго: «Свякратка мой родненькі,
Залатая твая галоўка,
Шоўкава твая бародка,
Пярловыя твае зубачкі».
— Гуляй, мая нявехна, як гуляла,
Абы мяне харашэнька называла.

368. А на Купалу
Рана сонца йграла,
Рана сонца йграла
На добрыя годы,
На добрыя годы,

На цёплыя росы,
На цёплыя росы,
На хлебы-ўраджаі,
На хлебы-ўраджаі.

369. Сонейка, сонейка, Ян з Пятром ходзяць,
Сонейка, сонейка, да па межах ходзяць,
Сонейка, сонейка, да жыта глядзяць.
Сонейка, сонейка, да ідучы гаварылі:
Сонейка, сонейка, усё жыта добрае,
Сонейка, сонейка, Юрасёва яшчэ лепшае,
Сонейка, сонейка, Габрусёва найлепшае,
Сонейка, сонейка, Юрасёва ў трубу ўецца,
Сонейка, сонейка, Габрусёва ў сцірты кладзецца.

370. — Ты, Купалінька,
Рана, рана. *
Да і дзе ты была,
Да што ты рабіла?
— Да ў бару была,
Я краскі збірала.
— Нашто красачкі?
— Я й вянкі віці.
— А нашто вяночкі?
— Дзевачцы на галоўку.

371. — Купалачка, дзе твая дачка?
— А ў гародзе на пагодзе красачкі рвець,
Вяночкі ўець.
Звіўшы вяночак, пайшла ў таночак,
А ў танок ідучы, пахваляецца:
— Ніхто ў мяне вяночка не зніме.
А дзе ўзяліся буйны ветры,
Знялі з галоўкі вяночак,
Пакацілі на сіняе мора.
Пайшла дзявіца шукаючы, пытаючы.
Спатыкаіць трох рыбаловаў:
— Ах, рыбаловы, братцы мае,
Чы не відзелі вяночка майго?
— Ой, дзевіца, не шукай, не пытай:
Твой вяночак на сінім моры.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Будзем сеці закідаць, вянка шукаць.
— Вы рыбаловы, братцы мае,
Аднаму дам залаты персцень,
Другому дам шаўкову хустачку,
А за трэцяга я сама пайду.
Што персцень дала — меншы брацец,
Што хустку дала — сярэдні брацец,
А за старшага сама пайшла.

372. Прыехала Купалначка ў сяло
Да пытаецца аб тых вароцейках:
— Чаму то залатым замком замкнёны
Да кітайкаю завешаны?
Адказала ёй Марыська красная:
— Я то для Купалначкі прыбрала.
Залаты замочак адчыню,
Дарагую кітайку адхілю,
Да цябе, Купалначка, упушчу,
Зялёным віном і прыйму,
Пшанічным півам упаю,
А белым сырам накармлю.

373. Ай, нету-нету Купаліша,
Да як над нашага Яначка:
Пяшком на вулку не выходзіць,
Ён на коніку выязджаець,
Сабе дзеваньку выглядаець.
Сам жа ён едзець на коніку,
Дзеваньку вязець на возіку.
Сам жа ён едзець ў атласе,
А дзеваньку вязець ў пакрасе.
Сам жа ён едзець, як жар гарыць,
Дзеваньку вязець, як цвет цвіціць.

374. Ой, нету-нету Купаліша,
Ой, над Іваньку ўсё нашага:
Пяшком на вулку не выходзе,
Ён на коніку выязджае.
Ой, яго конік быструсенькі
Хвосцікам вулку падмятае,
Грыўкаю слончык пакрывае,
Вушкамі войска выслухае,
Вочкамі дзевак выглядае
Да Купалішу выбірае.

375. Ішла Купалка сялом, сялом,
Давала дзеўкам чалом, чалом.
Дзеўкі Купалку не пазналі,
Нанач Купалку не пазвалі.
Стала Купалка бедаваці:
— Дзе ж мне ночку начаваці?
Начаваць ночку мне ў Іванькі,
Прасіць вячэрку — у Аксіньکі.
У іх бочка піва наварона
І купа гарэлкі наганёна,
Іхняя Марылька заручона.
Яе купчык будзе купчуваці,
А Марылька будзе памагаці.
Яе купчык будзе грошы лічыць,
А Марылька будзе сукны насіць.

376. Ішла Купаленька па вуліцы,
Краскамі вочы завесіўшы.
Сталі людзі дзівіціся,
І стала Купаленька сварыціся:
— Што вы, людзі, за дзіўныя!
Ці вы на вулку не хадзілі,
Ці вы Купаленькі не відзелі,
Ці вы вяночкаў не вівалі?
Я не такое дзіва відала:
Шчука-рыба кросна ткала,
А рак-небарак цэўкі сучыў,
Сучыў жа цэўкі чырвоныя,
Яна ткала кітайкі зялёныя
І слала да маткі радзёнае:
— Вот табе, маці, кітаечка
Ад тваёй дочкі-каханачкі.
Вот табе, маці, зялёная
Ад тваёй дочкі радзёнае.
Вот табе, маці, урубачкі
Ад тваёй дочкі-галубачкі.
Вот табе, маці, цясомачка
Ад тваёй дочкі-паненачкі.

377. Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі чубром, чубром,
Давала хлопцам чалом, чалом.
Сталі людзі дзівіціся,

Стала Купалка сварыціся:
— Ах вы, людзі, вы дзіўныя!
Чы вы на вулку не хадзілі,
Чы вы Купалкі не відзелі,
Чы вы цвяточкаў не збіралі,
Чы вы вяночка не звівалі,
Чы вы ў таночак не хадзілі,
Чы вы дзевак не звадзілі?

378. — Да Купаленка,
Рана-рана, *
Гдзе дасюль была?
— За ракой была,
За быстрай была.
— Што ты рабіла?
— Кужалі прала,
Кужалі прала,
Ткала, бяліла,
Замуж дачок выдавала.

379. — Дзе ж ты была, Купалачка?
Купала на Йвана! *
— Ў сяле была, Іванічка.
— Дзе ж ты сядзела, Купалачка?
— А ў запечку, на прыпечку.
— Што ж ты ела, Купалачка?
— Ела траву памётную.
— Што ж ты піла, Купалачка?
— Піла ваду балотную.
— Дзе ж ты была, Купалачка?
— Ў сяле была, Іванічка.
— Дзе ж ты сядзела, Купалачка?
— На покуце, на золаце.
— Што ж ты ела, Купалачка?
— Ела кашу рыжовую.
— Што ж ты піла, Купалачка?
— Піла мёд-віно зялёнае.

380. І пайдзём, сястрыцы,
І па ясну зарыцу,
Цёмна ночка Іванаўская. **

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Набяром, сястрыцы,
Жоўтага пясочку
І пасеем, сястрыцы,
Пад таткаву клетку.
А знаці, пазнаці,
Пясочак не ўзыдзець —
Нам у таткі не быці,
Вянкоў не насіці.
І вянкоў не насіці,
Двароў не красіці.
Пайдзём мы, сястрыцы,
Пад ясну зарыцу,
Набяром, сястрыцы,
Белага гарошку
І пасеем, сястрыцы,
Пад цесцеву клетку.
А знаці, пазнаці,
Гарошак узыдзе,
Гарошак узыдзе —
Нам у свёкаркі быці,
У свёкаркі быці,
Чэпчыкі насіці,
Чэпчыкі насіці,
Дварочкі красіці.

381. Купала на Йвана,
А на Йвана сонца йграла,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана,
Над Горкамі калясом стала,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана,
А ў Горках дзеўкі красны,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана,
Дзеўкі красны, хлопцы страшны,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана,
А на Йвана сонца йграла,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана,
Сонца йграла, калясом стала,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана,
А ў Лядах дзеўкі белы,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана,
Дзеўкі белы, хлопцы мілы,
Купала на Йвана!

382. — А дзе была, Купалачка?
— У Крыўцы была, Іванечка.
— Што рабіла, Купалачка?
— Боб палола, Іванечка.
— Чым паілі, Купалачка?
— Цэт цадзілі, Іванечка.
— Чым кармілі, Купалачка?
— Пірагамі, Іванечка.

383. А Купалначка дачку біла,
Каліна. *
— Дзе ж ты, шэльма, вянок дзела?
— Ішла, мамачка, дарогаю,
Тудой ішоў бялявы хлопец,
Ўзяў, мамачка, мой вяночак,
Панёс, мамачка, бялявым дзеўкам.
Купалначка дачку біла:
— Дзе ж ты, шэльма, вянок дзела?
— Ішла, мамачка, дарогаю,
Туды ішоў красен моладзец,
Ўзяў, мамачка, мой вяночак,
Аддаў, мамачка, красным дзевачкам.

384. — Ой, то-то! Хто гэту гару капаў,
Чорныя сцежкі таптаў? Ой, то-то. **
— Васілька гару капаў,
Чорныя сцежкі таптаў,
Да Волечкі ходзючы,
Гасцінчыкі носючы.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Ой, то-то» паўтараецца ў пачатку першага і ў канцы другога радка.

— Нясу я падарачкі:
Садовыя яблычкі.
Стук-грук у акеначка:
— Ці дома паненачка?
Арэшкі лушчоныя,
Мы з табой злучоныя,
Яблыкі садовыя,
Мы з табой маладыя.

385. Цераз горачку тры сцежачкі,
Божа наш! *
Ішлі туды тры дзевачкі:
Адна ішла ў золаце,
Другая — у аксаміце,
Трэцяя — у розуме.
Што у золаце — то Васількава,
Што ў аксаміце — то Максімава,
Што у розуме — то Яначкава.
А золата хоць прыпазычу,
Аксаміту хоць прыкуплю,
А розуму ані ўцяць, ані ўзяць.

386. Цераз гару чорна сцежка,
Да там ішла красна дзеўка,
За ёй ззаду бел малойчык.
— Пастой, пастой, красна дзеўка,
Скажу табе шчыру праўду:
Каля Ражства рожа цвіла.
— Праўда, праўда, бел малойчык,
Я й там была, вянкі пляла.
Цераз гару чорна сцежка
Да там ішоў бел малойчык.
— Пастой, пастой, бел малойчык,
Скажу табе шчыру праўду:
Каля Пятра рэкі сталі.
— Праўда, праўда, красна дзеўка,
Я там быў, лёд прабіў, каня паіў.

387. Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала мальцам: «Чалом, чалом»,
А мужчынам наругалася:
«Нашто з Купалкі дзівіліся,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

А што ў Купалкі сыноў многа.
А што за многа — тры сыночкі:
Першы сыночак — Васілёк,
Другі сыночак — Іванька,
Трэці сыночак — Дзям'янка».
Ішла Купалка сялом, сялом,
Казала дзеўкам: «Чалом, чалом»,
А бабачкам наругалася:
«Нашто з Купалкі дзівіліся,
А што ў Купалкі дачок многа.
А што за многа — тры дачушкі:
Першая дачушка — Аксіннечка,
Другая дачушка — Наталачка,
Трэцяя дачушка — Валечка».

388. На гары купала гарэла,
Ды на ім хлопцаў згалела.
Ды гарэла купала ясненька,
На купале дзяўчат паўненька.
Ды гарэла купала, гарэла,
Ды на тым купале хлопцаў згалела.

389. Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Янаў конь,
Ой, то-то. *
Разгуляўся Янаў конь,
Разбіў камень капытом.
А ў камені ядра нет,
А ў мальцоў праўды нет.
Перад Пятром, пятым днём,
Разгуляўся Янаў конь.
Разгуляўся Янаў конь,
Разбіў арэх капытом.
А ў арэху ядро ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.

390. Ішла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна диброва шумеці,
Стала наша купала гарэці.

---

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Ішлі малодкі тушыці,
Неслі ў чэпчыку вадзіцы.
Колькі ў чэпчыку вады ёсць,
Столькі ў малодкаў праўды ёсць.
Ішла паненка цераз бор,
Ў яе сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна диброва звінеці,
Стала наша купала гарэці.
Ішлі малайцы тушыці,
Неслі ў рэшаце вадзіцы.
Колькі ў рэшаце вады ёсць,
Столькі ў малайца праўды ёсць.
Ішла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Стала наша купала гарэці.
Ішлі дзевачкі тушыці,
Неслі ў кубках вадзіцы.
Колькі ў кубку вады ёсць,
Столькі ў дзевачак праўды ёсць.

391. Малая ночка Купалночка,
Нашы малойцы не выспаліся,
За валамі ідуць хліпаючы,
Хвастамі вочы праціраючы.
— Быцю, быцю, пазыч хваста,
Пратры вочы пасля ночы.
Вяліка ночка Купалночка,
Нашыя дзеванькі выспаліся,
За валамі ідуць спяваючы,
Шолкам хустанькі вышываючы.

392. Як улетку на Купалу
Ішлі дзеўкі табуном,
Пілі мядок стаўбуном.
Ішлі мальцы мяжою,
Пілі дзёгаць дзяжою.

393. **А ў масце, масце**
**Сон-трава расце,**
**Ой, люлі-люлі.** *

* Паўтараецца пасля кожных двух радкоў разам з другім радком.

Сон-трава расце,
Сон-трава расце.
Жоўты красачкі,
Жоўты красачкі
Аднагодачкі.
Нашы дзевачкі
Самаволачкі:
Дзе піва чуюць,
Там заначуюць.
А дзе салодкі мёд —
Там і круглы год,
А дзе гарэлка —
Там нядзелька.

394. — Купала на Івана! Што Іван робіць?
— Косы клепець! Купала на Івана! *
— Нашто яму косы? — Сена касіць.
— Нашто яму сена? — Кароў карміць.
— Нашто яму каровы? — Малокі збіраць.
— Нашто яму малокі? — Дзетак карміць.
— Нашто яму дзеці? — Краскі ірваць.
— Нашто яму краскі? — Свіней карміць.
— Нашто яму свінні? — Горы рыць.
— Што ў тых гарах? — Жалезная ступа.
— Што ў той ступцы? — Палівана міска.
— Што ў той місцы? — Макава зерне.
— Дзе тое зерне? — А пятух склюваў.
— Дзе той пятух? — На мора паляцеў.
— Дзе тое мора? — Краскамі зарасло.
— А дзе тыя краскі? — Дзеўкі парвалі.
— А дзе тыя дзеўкі? — Замуж пайшлі.
— Дзе іх мужыкі? — На вайну пайшлі.

395. І, ой, на гарэ карыта
Поўна вады наліта.
Там дзевачкі хадзілі,
Рукі-ногі памылі,
А мальчыкі хадзілі,
Тую ваду выпілі.
Ой, на гарэ карыта
Поўна вады наліта.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Там пчолачкі лятали
І крылачкі макалі,
А дзевачкі хадзілі,
Тую ваду выпілі.

396. Каліна, а ружачка мая чырвоная, каліна.
Каліна, не садзіся блізка сяла Скупліна, каліна.
Каліна, у Скупліне дзеўкі недаростачкі, каліна.
Каліна, не ўмеюць ружу шанаваць, каліна.
Каліна, рана і вечар паліваць, каліна.
Каліна, стопчуць ружу лапцішчамі, каліна.
Каліна, лапцішчамі лазовымі, каліна.
Каліна, сатруць ружу спадніцамі, каліна.
Каліна, спадніцамі патрэпнымі, каліна.
Каліна, а ружачка мая чырвоная, каліна.
Каліна, сядзь каля сяла Палянскага, каліна.
Каліна, палянскія дзеўкі харошыя, каліна.
Каліна, умеюць ружу шанаваць, каліна.
Каліна, рана і вечар паліваць, каліна.
Каліна, не стопчуць ружу чаравічкамі, каліна.
Каліна, чаравічкамі шаўровымі, каліна.
Каліна, не сатруць ружу спаднічкамі, каліна.
Каліна, спаднічкамі шаўковымі, каліна.

397. Прыйдуць к нам, прыйдуць
Да зарэцкія дзевачкі.
Зашумяць, зашумяць
Да мачальныя істужкі,
Заскрыпяць, заскрыпяць
Да вазовыя лапцішчы,
Зазвіняць, зазвіняць
Да алавяныя пярсцёнкі,
Да заззяюць, заззяюць
Да саламяныя вяночкі.
Прыйдуць к нам, прыйдуць
Да баярскія дзевачкі.
Зашумяць, зашумяць
Шаўковыя істужкі,
Заскрыпяць, заскрыпяць
Казловыя чаравічкі,
Зазвоняць, зазвоняць
Залатыя пярсцёнкі,
Засіяюць, засіяюць
Сярэбраныя вяночкі.

Прыйшлі к нам, прыйшлі
Да зарэцкія дзецюкі.
Стрэлілі, стрэлілі
Да забілі да дзевяць,
Дзевяць свярчкоў
Да з-пад гаршкоў, з-пад гаршкоў,
Дзесятую курку,
Дзесятую курку, дзесятую курку
На вадзе.

398. Каліна, не расці чабор каля дорожкі, каліна.
Каліна, а ў Колечкі — сінія вочкі, каліна.
Каліна, у Валодзі — крывая нага, каліна.
Каліна, у Івана — сівая барада, каліна.
Каліна, крывой нагой — жар заграбаць, каліна.
Каліна, сівой барадой — печ замятаць, каліна.
Каліна, сінія вочкі — пісаць, чытаць, каліна.
Каліна, белыя ручкі — дзевак вітаць, каліна.

399. Каліна, а па ельнічку, па бярэзнічку, каліна.
Каліна, канюшкі свішчуць, конікаў ішчуць, каліна.
Каліна, а згубіліся тры конікі, каліна.
Каліна, адзін конік — сівы-буланы, каліна.
Каліна, другі конік — звёздачка ў ілбе, каліна.
Каліна, трэці конік — залата грыўка, каліна.
Каліна, сівы-буланы — Юрачкаў, каліна.
Каліна, звёздачка ў ілбе — Іванкаў, каліна.
Каліна, залата грыўка — Сцяпанаў, каліна.
Каліна, сівы-буланы — да Галечкі, каліна.
Каліна, звёздачка ў ілбе — да Манечкі, каліна.
Каліна, залата грыўка — да Валечкі, каліна.

400. Да у ляску на вераску, божа наш, *
Стаяла брусce цясовае,
Цясовае, бялёвае.
На тым брусейку Міколка ходзе,
Міколка ходзе, Хвядорку просе:
— Хвядорка-душа, хадзі ка мне,
Хадзі ка мне, скажу табе,
Скажу табе навіначку,
Навіначку, ўсю праўдачку:
Да што на таргу, да што на часну
Да ўжо дзевачкі падзешавелі,
Ужо за Хвядорку тысячы не дадуць.

* «Божа наш» паўтараецца пасля кожнага радка.

401. Божа наш! Сягоння ў нас Купальнічак, заўтра Ян! *
А мы пагонім сваіх хлопчыкаў на папар:
А большымі папар араць,
Серадольшымі баранаваць,
А з меншымі самім гуляць.

402. Да сягоння Купала, заўтра Ян,
Кідаў чорт хлопцаў цераз паркан,
А хлопчыкі дзевачак прасілі:
— Да дзевачкі-сястрыцы, ратуйце,
Хаця адну жэрдачку адкіньце.
А дзевачкі хлопчыкаў ратавалі —
Яшчэ болей жэрдачак наклалі.

403. Сягоння Купалле, а заўтра Ян,
Будзе, хлопчыкі, ліха вам.
Ой, ліха, ліха ліхое —
Пагонеце котак у поле.
Котанькі ў полі не ходзяць,
Ўсё па балоцетках бродзяць,
Ўсё па балоцетках бродзяць,
Дзеванькі ў доме гуляюць.
Ідзіце, котанькі, дадому,
Пусціце хлопцаў на волю!

404. Да зялёна балота, зеляно.
— Чаго так рана палягло?
— Як жа мне, балоту, зялёнаму быць?
Стапталі мяне хлопчыкі,
Стапталі мяне хлопчыкі,
Рана ў карчомку ідучы,
Рана ў карчомку ідучы,
Мёд-гарэлку несучы.

405. То-то-то, Пятрова ночка невялічка, то-то-то!
То-то-то, я ж, маладзенька, не выспалася, то-то-то!
То-то-то, на таргу была, таргу слухала, то-то-то!
То-то-то, а што на таргу падзешавела, то-то-то!
То-то-то, падзешавелі нашы хлопцы, то-то-то!

---

* «Божа наш!» паўтараецца ў пачатку, а з трэцяга радка — і ў канцы кожнага радка.

То-то-то, а за Лявоньку шэлег даюць, то-то-то!
То-то-то, а за Міколку — паўшэлега, то-то-то!
То-то-то, а Мішатачку дарма аддаюць, то-то-то!
То-то-то, дарма аддаюць — і то не бяруць, то-то-то!

406. — А ты, зязюля баравая,
Блізка ля торгу кукавала.
А ці была ты на рыначку,
А ці чула навіначку?
— Ай, была, была на рыначку,
Ай, чула, чула навіначку —
Падзешавелі нашы хлопчыкі:
А за Парфенку шэлег даюць,
А за Ахрэмку — паўшэлега,
А за Адамку — ні шэлега.
— А ты, зязюля баравая,
Блізка ля торгу кукавала.
А ці была ты на рыначку,
А ці чула навіначку?
— Ай, была, была на рыначку,
Ай, чула, чула навіначку —
Падаражэлі нашы дзевачкі:
А за Зоську тысячу даюць,
А за Ганначку — тры тысячы,
А за Марылечку — і не лічачы.

407. Каліна! А у полі тры гароды, каліна. *
Тры гароды выгараджаны:
Ў адным гародзе — то рутачка,
Ў другім гародзе — то мятачка,
Ў трэцім гародзе — чырвоная рожа.
А хто гожы — пільнаваць рожы,
А хто круты — пільнаваць руты,
А хто багаты — пільнаваць мяты.
Віцечка круты — пільнуе руты,
Васіль багаты — пільнуе мяты,
Генечка гожы — пільнуе рожы.

408. То лаўцы, то лаўцы,
Моладаўскія хлопцы-малайцы.
Да па рыначку хадзілі,
Панну за ручку вадзілі,
Персні на персні мянялі,
Панне на ручку клалі.

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

То лаўцы, то лаўцы,
Рудніцкія малайцы.
Да па рыначку хадзілі,
Сучку на лычку вадзілі,
Лычка на лычка мянялі,
Сучцы на лапкі паклалі.

409. А хто ж у нас да дзевачак лас?
Каліна. *
Мішачка у нас да дзевачак лас.
Узяў лясачку папіраціся,
Пайшоў дзевачкі даведаціся.
Лясачка яго паламалася,
Дзевачка яго адцуралася.

410. А ў каго ж ба аганёк гарыць?
Купала на Йвана! *
А ў каго ж ба жывоцік баліць?
А ў Іванькі аганёк гарыць,
У Іванькі жывоцік баліць.
А няхай гарыць-прыпагарываіць,
А няхай баліць-прыбаліваіць,
Было дзевачак не абманываць.

411. Чырвоная рожа, не стой пры дарозе,**
Не стой пры дарозе, не стой пры шырокай,
Не клонься за мною, не клонься за мною,
За мной, сіратою, за мной, сіратою.
Ў мяне чужы татка, ў мяне чужы татка,
Няродная матка, няродная матка.
Позна спаткі кладуць, позна спаткі кладуць,
Рана пабуджаюць, рана пабуджаюць:
— Устань, чужа дзіця, устань, чужа дзіця,
Устань, прабудзіся, устань, прабудзіся.
Устань, прабудзіся, устань, прабудзіся,
Слёзкамі умыйся, слёзкамі умыйся.
Слёзкамі умыйся, рукаўком утрыся
Да йдзі ў каморaньку, мялі сыра жыта.
Мялі сыра жыта, сырую пшаніцу,
Сырую пшаніцу на мелку мучыцу.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

** Кожны радок паўтараецца.

Чырвоная рожа, чырвона, прыгожа,
Да стой пры дарозе, да стой пры шырокай,
Да клоньея за мною, за мной, маладою.
Ў мяне родны татка і родная мамка.
Рана спацькі кладуць, рана спацькі кладуць,
Позна пабуджаюць, позна пабуджаюць:
— Устань, родна дзіця, устань, прабудзіся,
Устань, прабудзіся, беленька умыйся,
Беленька умыйся, рушнічком утрыся
Да йдзі ў камораньку, харашо ўбярыся
Ды йдзі на вулічку, дзе музыкі йграюць,
Дзе музыкі йграюць, дзевачкі гуляюць.

412. Пад тынам рутанька, пад тынам зялёненька
У тры рады саджана, у чатыры палівана.
Там Гануська бывала, з руты росу збірала.
З руты росу збірала, расою ўмывалася.
Расою ўмывалася, красою ўціралася,
Красою ўціралася, Ясенька пыталася:
— Ой, Ясенька-душанька, ці беленька лічанька,
Ці беленька лічанька, ці верненька слованька?
— Ой, Гануська-душанька, беленька лічанька,
Беленька лічанька, верненька слованька.

413. Купальнае ночы, купальнае ночы
У Кузьмы пры дварочку ўсё дзеўкі ў радочку.
Адной толькі нету Рожынай дочкі.
Чэшыць яе маці, чэша, навучаіць:
— Не стой з Кузьмой поплеч, не стой у радочку,
Кузьма цябе зманіць, Кузьма цябе зманіць.
Кузьма дагадаўся, пайшоў і прыбраўся
У дзявоцкае адзенне, ў дзявоцкае аблічча
І стаў у радочку із Рожынай дочкай.
Варыць Кузьма піва на дзіўнае дзіва,
Завець Кузьма дочку, завець у камору.
Пішыць Кузьма пісьмы да Рожынай маці:
— Не жджы, маці, дочку, не жджы у вяночку,
А жджы, маці, дочку ў беленькім платочку.
Не жджы з белым сырам, а жджы з малым сынам.
Не жджы у Пятроўку, а жджы у Ражтоўку.

414. Ў нашага войта на дварэ
Стаіць явар зялёны,
Пад яварам — сталове,
За сталамі — панове
Радзяць рады тайныя,

Не так тайныя — дзіўныя:
Войтаўна сына ўрадзіла,
На бацьку няславу пусціла.
Не вінавацяць віноўнага,
Вінавацяць бацьку яе,
Што доўга замуж не выдаваў,
Вялікага пасагу шкадаваў,
Часта да сверна пасылаў
Ды з залатымі ключамі,
Ды з залатымі ключамі,
А з маладымі панічамі
Па мёд, па віно, па гарэлку
Такую дарослую дзеўку.

415. На вуліцы скрыпкі граюць,
Божа мой! *
Кароль дачкі не пускае.
Стала яна прасіціся:
— Мой татачка, мой родненькі,
Пусці мяне на вулачку,
Ды [redacted] прыйду ранюсенька.
Ужо на дварэ свет белы, зара,
Каралёвай дачкі з гульбы няма.
Ужо ў вёсцы абедаюць,
Каралёва дачка з гульбы йдзець,
На ёй шаты сцёрты, змяты,
Руцвяны хепчык з галоўкі зняты.
— Мая дачушка, я цябе страчу.
— Не траць мяне у пятнічку,
А траць мяне у суботку,
Пахавай мяне пад цэркаўкай,
Пасадзі на мне чырвону рожу.
Будуць дзевачкі у цэркаўку йсці,
Будзіць ружачка, будзіць цвісці,
Будуць дзевачкі ружачкі рваць,
Будуць мяне успамінаць.

416. А ў горадзе на рынку
П'ець худоба гарэлку,
А багаты дзівіцца,
Чым худоба жывіцца.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Шынкарачка малада,
Падай піва і віна!
— Ах ты, добры моладзец,
На сколькі табе?
— А на сто рублёў піва,
А на тысячу віна!
— Ах ты, добры моладзец,
Не сап'еш ты ўсяго.
— Хоць ■ сам не сап'ю,
Таварышаў напаю.
— Калі ты такі пан,
Я за цябе дзеўку аддам:
Харошую паненку —
Яўрэйскую наймічку.
Іх у касцёле вянчалі,
У каморы спаць клалі.
— Скажы, скажы, дзявіца,
Якога ты роду?
— Па бацюшку Карпаўна,
Па матушкі Войтаўна.
Скажы, скажы, моладзец,
Якога ты роду?
— Па бацюшку Карповіч,
Па матушкі Вайтовіч.
А хвала ж табе, бог,
Што з сястрою спаць не лёг.
Пойдзем, сястра, у поле
Рассеімся травою,—
А на брату — сіні цвет,
На сястрыцы — жоўценькі.
Будуць дзеўкі краскі рваць,
У вяночкі ўвіваць,
У вяночкі ўвіваць,
Нас з табою памінаць...

А на Йвана Купала
Дзеўкі краскі ірвалі,
Дзеўкі краскі ірвалі,
У вяночак ўвівалі,
У вяночак ўвівалі,
Брата, сястру паміналі:
А брахцінька — сіні цвет,
А сястрыца — жоўценькі.

21. Зак. 84

417. Божа наш! Каля саду тры сцежачкі, божа наш. *

Тудымі ішлі тры дзевачкі,
Тры дзевачкі-паненачкі:
Адна паненка — тонка, высока,
Другая паненка — бела, румяна,
Трэцяя паненка — чорна, маленька.
Тонка, высока пайшла далёка,
Бела, румяна пайшла за пана,
Чорна, маленька — за караля.
Сталі каралі збірацiся,
Сталі з караля смяяцiся:
— Кароль, кароль, вялікі пан,
Чаму ты не браў такой, як сам?
Чаму ты не браў тонкай, высокай,
Чаму ты не браў белай, румянай,
Нашто ж ты ўзяў чорну, маленьку?
— Тонкае дрэва гіблівае,
Белая рэдзька чарвівая,
Чорная зямля ўрадлівая,
Мая жонка шчаслівая.

418. Сягоння Купала, заўтра Ян,
Палюбіў дзевачку харошы пан.
Ой, не пан, не пан, да панішча
Купіў дзевачцы жупанішча.
— Накладай, дзеванька, штонядзеленьку,
Успамінай мяне, штогадзінаньку.
Як накладала — успамінала,
Як скідала — праклінала:
— Я ў том жупане не хадзіла,
Я й таго пана не любіла.

419. Ой, у саду, саду каліна,
Да пад калінаю маліна,
Да пад малінаю дзяўчына.
Яна на крэсялку сядзела
Да русую косу часала,
Да белае ліцо ўмывала.
Да ехаў тудою старэнькі,
Ўзялі яго мыслі да паненкі.
— Ой, не мыслі, не мыслі, старэнькі,—
Не з твайго саду каліна,

* «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Не з твайго саду каліна,
Не да твайго стану дзяўчына.
Не з твайго саду садовага,
Не да твайго стану старога.
Да ехаў тудою маладзенькі,
Ўзялі яго мыслі да паненкі.
— Ой, мыслі, мыслі, маладзенькі,—
Гэта з твайго саду каліна,
Гэта з твайго саду каліна
Да твайго стану дзяўчына.

420. Іванькіна мамка ўсю ночку не спала,
Ўсю ночку не спала: у Пётры ключы крала,
Землю размыкала, расу выпускала.
Раса медавая лугі прыўтапіла,
Трава шаўкавая лугі прыўкрасіла.

421. Каліна! На святую Купалачку, каліна. *
Ой, выйду на вулачку
Да буду глядзець, што будзе ляцець.
Ляцяць-ляцяць тры лебедзі.
— Лебедзі мае шарэнькія,
Да скіньце мне па перынцы,
Па перынцы, па русай касе.
Русую касу я ў мамкі знашу,
А перайка — пад венчыкам,
Русу косачку — пад чэпчыкам.

422. Каліна, чыя рута за вадою, каліна.
Каліна, зарасла яна лебядою, каліна.
Каліна, чаму, Ніначка, руты не полеш, каліна.
Каліна, руты не полеш, дзевачак не просіш, каліна.
Каліна, дзевачкі мае, не да руты мне, каліна.
Каліна, не да руты мне, не да рутачкі, каліна.
Каліна, узялі мяне цяжкі смутачкі, каліна.
Каліна, паехаў мілы на паляванне, каліна.
Каліна, пакінуў мяне на гараванне, каліна.
Каліна, пакуль конік наскачацца, каліна.
Каліна, дык я, малада, наплачуся, каліна.
Каліна, пакуль мілы напалюецца, каліна.
Каліна, дык я, малада, нагаруюся, каліна.

---

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

423. О то-то, Пятрова ночка невялічка, о то-то!
О то-то, я, малада, не выспалася, о то-то!
О то-то, сучыла шнуры шаўковыя, о то-то!
О то-то, не таму-сяму прадавала, о то-то!
О то-то, свайму міламу так даравала, о то-то!
О то-то, насі, міленькі, штодзянёчак, о то-то!
О то-то, памінай мяне штогадочак, о то-то!
О то-то, насі, міленькі, штонядзельку, о то-то!
О то-то, ўспамінай мяне штогадзінку, о то-то!

424. Ой, то-то, Пятрова ночка невялічка, ой, то-то.
То-то, чаму ж яна невялічка, то-то.
То-то, нашы дзевачкі не выспаліся, то-то.
То-то, ўсю ноч не спалі, шнуры сукалі, то-то.
То-то, шнуры сукалі шаўковыя, то-то.
То-то, кашулькі шылі бялёвыя, то-то.
То-то, выйшлі на вулку прадаваці, то-то.
То-то, сяму-таму — за грошыкі, то-то.
То-то, а свайму міламу — за слоўчыкі, то-то.
То-то, за слоўчыкі вярненькія, то-то.
То-то, за прыходы часценькія, то-то.
То-то, за падарункі дарагія, то-то.
То-то, ён даець — не жалаваець, то-то.
То-то, а яна бярэць — не дзякаваець, ой, то-то.

425. Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Не выспалася паненка,
На новым ганку седзячы,
На новым ганку седзячы,
Міламу кашульку шыючы.
— Ой, шыю, шыю, штапую
Свайму міламу кашулю,
З белай паперкі — каўнеркі,
З белай паперкі — каўнеркі,
З чорнай кітайкі — рукаўкі,
З белай паперы — каўнерык,
Каб на мілага глядзелі.

426. Да ў чым гэта ляночку
Залатая макаўка, а сярэбраная лісцінка?
Брацетка мой родненькі,
Пойдзем бор церабіць,
Будзем лён гарадзіць,

Каб па ім дзеўкі не хадзілі,
Майго ляночку не таптал і,
Макаўкі не шчыпалі,
Вяночкаў не вязалі,
На галоўкі свае не клалі,
На вуліцы не выходзілі,
Малойчыкаў не зводзілі.

427. А што ў нас сягоння за вечар быў?
Звінелі страмёны каля коней.
— А едзьце, малойцы, ў славен горад,
А ў слаўным горадзе дзяльбу дзеляць:
Кожнаму малойцу па коніку,
Нашаму Данілку штонайлепшага.
А што ў нас сягоння за вечар быў?
Звінелі страмёны каля коней.
— Сядайце, ўсе малойцы, на коней,
А едзьце, малойцы, ў славен горад,
А ў слаўным горадзе дзяльбу дзеляць:
Кожнаму малойцу па дзевачцы,
Нашаму Данілку штонайлепшая.

428. Купальна ночка невялічка,
Да не выспалася дзевачка,
Да ягадкі рвала — драмала,
Перабірала — заснула,
Прыехаў дзяцінка — не чула,
Махнуў хустачкаю — не дамахнуў,
Пакаціў персцянём — не дакаціў,
Злез з коніка — сам пабудзіў:
— Устань, мая дзевачка, годзе спаць,
Да ўжо твае сватове на дварэ стаяць,
Пара табе падаркі падаваць.
— Да няхай жа стаяць здаровы —
Ужо ж мае падарачкі гатовы:
Да сорак саракоў палацён,
Да трыццаць паставоў ручнікоў,
Да апарць дробні і драбніцы,
Што дараць дзеверы і залвіцы.
Да дзяцінка дзевачку падабаў —
Ей на пярсцёначак дараваў,
Дзевачка дзяцінка падабала —
Яна яму хустачку даравала.

429. На моры вутка купалася,
На беражочку сушылася.
Млада Кулінка стужылася,
Што яе дары не прадзены.
Хоць прадзены, дык не вітыя,
Хоць вітыя, дык не снованы,
Хоць снованы, дык не тканыя,
Хоць тканыя, дык не белены,
Хоць белены, дык не качаны,
Хоць качаны, дык не рэзаны,
Хоць рэзаны, дык не дзелены.
Таму-сяму — па локцiку,
А сужаньку — не мерачы.
Ад таго-сяго — па сто рублёў,
Ад сужанькі — ні шэлежкі.

430. Дзе ж ты, Купала, купалася,
Па беражочку хавалася,
Па ляшчыначцы сушылася?
Дзеванька ў бацькі прасілася:
— Дай мне, баценька, сваю волю,
Дай мне, родненькі, сваю волю,
Да расчашу [redacted] сваю косу.
Ой, расці, каса, да пояса,
Белае лічыка, як яблычка,
Сама малада, як ягадка.

431. — А хто ж у нас нежанаты, барадаты?
— Аляксандра нежанаты, барадаты.
Доля яго няшчасная —
Дзеўка яго не красная.
Няхай доля пашчаснеіць,
Няхай дзеўка пакраснеіць.

432. — А хто ж у нас нежанаты ходзіць?
— Сямёнка ў нас нежанаты ходзіць:
Ён браў хмялёк у святы дзянёк,
Саладзіў солад на пярэклеце,
Мыў катлы на сінім моры,
Сушыў бочкі на сонейку.
Доля яго няшчасная:
Козы, оўцы хмель паелі,
Куры, гусі солад паклявалі,
Мора катлы патапіла,
Сонцам бочкі пашчапіла.

433. Ой, то-то! Ляцелі гусі рад по раду, ой, то-то. *
Крыкнулі гусі раз-поразу:
— Чаму, Іванька, не жэнішся?
— А як я маю жаніціся?
Хмель на тычынцы не павіўся,
А ячмень на ніўцы не наліўся,
Дачка ў мамкі не нагулялася,
А мне, маладому, не спадабалася.
Цяпер буду жаніціся:
Хмель на тычынку ўжо павіўся,
Ячмень на ніўцы ўжо наліўся,
Дачушка ў мамкі нагулялася,
А мне, маладому, спадабалася.

434. Купалялё! А на сенажаці мядуначка,
Купалялё.**
А там кукавала зязюлечка,
Яна кукавала — праўду казала.
Каціўся крышталь па сенажаці,
Маніўся Ванечка Галечку браці.
— Не буду браці — не ўмеіць жаці,
Выйдзіць на ніўку толькі ляжаці,
Падкініць сярпок вышэй сябе:
— Не жала ў таткі — не буду ў цябе.

435. Божа мой! На сенажаці мядуначка, божа мой.***
Там кукавала зязюлечка,
Яна кукавала — праўду казала,
Што ў Рабуні ўсё добра чуць:
Дзевяць дзевачак замуж ідуць,
Дзесятую запіваюць.
На сенажаці мядуначка,
Там кукавала зязюлечка,
Яна кукавала — праўду казала,
Што ў Слабадзе нядобрае чуць:
Дзевяць хлопчыкаў на вайну бяруць,
Дзесятага расстраляюць.

---

* «Ой, то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Купалялё» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
*** «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

436. Ой, тынок высок, Дунаёк шырок,
Божа ж мой!
Хто ж гэты тынок пераскочыць,
Хто ж гэты Дунай пераплыве,
Каралеўначку за сябе возьме?
Колечка тынок пераскочыць,
Колечка Дунай пераплыве,
Каралеўначку за сябе возьме.
А як жа скочыў — не праскочыў,
А як жа паплыў — не пераплыў,
Каралеўначкі за сябе не ўзяў.

437. Кукуй, зязюленька, не ўпікай,
Ой, люлі, не ўпікай.
Нямнога будзеш кукаваць,
Ой, люлі, кукаваць.
На Юр'я рана пачынаць,
Ой, люлі, пачынаць.
На Пятро позна пакідаць,
Ой, люлі, пакідаць.
Заплач, Анэтка, жалосна,
Ой, люлі, жалосна.
Нямножка будзеш плакаці,
Ой, люлі, плакаці.
У нядзельку рана пачынаць,
Ой, люлі, пачынаць.
У аўторак позна пакідаць,
Ой, люлі, пакідаць.

438. А ў бару, бару, на баравіне,
Ай, рана, рана, на баравіне.
Там Аленка ягадкі брала,
Ай, рана, рана, ягадкі брала.
Ягадкі брала, цяжка ўздыхала:
Ай, рана, рана, цяжка ўздыхала:
— Бярозкі мае невядомыя,
Ай, рана, рана, невядомыя.
Дарожкі мае незнакомыя,
Ай, рана, рана, незнакомыя,
А з некім сесці лустачку з'есці,
Ай, рана, рана, лустачку з'есці.
А з некім стаці, слоўца згукаці,
Ай, рана, рана, слоўца згукаці.

Прыйшоў да яе міленькі яе,
Ай, рана, рана, міленькі яе.
— Чаго, Аленка, цяжка ўздыхаеш,
Ай, рана, рана, цяжка ўздыхаеш?
Мы з табой сядзем, лустачку з'ядзім,
Ай, рана, рана, лустачку з'ядзім.
Мы з табой станем, слоўца згукаем,
Ай, рана, рана, слоўца згукаем.

439. Каліна на лузе стаяла,
А з луга пайшла — зайграла.
Мостам ішла — грымела,
А полем ішла — лялела,
А к сялу прыйшла — зайграла,
У сяло ўвайшла — гуляла,
К варотам прыйшла — грукнула,
Пад вакенца прыйшла — гукнула:
— Адчыні, Тацянка, новы двор.
А Тацянка ёй адказала:
— Некалі, калінка, некалі:
У садзе вінаград пераспеў,
Трэба яго пашчыпаць,
Да свайго мілога паслы слаць.
Я б паслала пасол — не смею,
Напісала б лісток — не ўмею,
І пайшла б я сама — баюся,
Доўгая дарога — стамлюся.
Дык прабачай, калінка, прабачай.

440. Ой, у лесе, у лесе, пры барку,
Да рабіў дзяцінка каморку.
Да к яму дзевачка прыбяжала,
Яна яго, маладога, навучала:
— Да рабі, дзяцінка, з акенцам,
Каб і к нам салавейка прылятаў,
Каб нас маладзенькіх пабуджаў.
Бо чужая матка, не свая,
Да не будзе рана будзіці,
Пойдзе да суседа судзіці:
— Сонейка зайдзе, пастаіць,
Да мая нявехна яшчэ спіць,
Сонейка зыйдзе, паграе,
Спіць мая нявехна, не дбае.

441. — А рутанька-мятанька,
Чырвоная рожанька,
А дзе цябе пасадзіці:
Ці ў гародзе на ляхе,
Ці ў капусце ў баразне?
— Дзе хочаце, садзіце,
Толькі мяне паліце
Ўсё ранняю расою,
Вячэрняю зарою.
— Ты, дзяўчынка маладая,
А дзе цябе пасадзіці:
Ці ў татухны за сталом,
Ці ў свёкаркі на куце?
— Дзе хочаце, садзіце,
Толькі мяне дарыце
Тонкім белым палатном,
Кужальнымі ручнічкамі.

442. Сярод бору зялёнага, з лесу цёмнага
Выбегла тры конікі:
Уперад бяжыць вараненькі,
Пасярэдзіне — сівенькі,
А назадзе — кульгавенькі.
Што вараненькі — Клімулька,
Што сівенькі — Грыгорка,
Кульгавенькі — Сцяпанка.
З саду, з саду, з-пад вішанькі
Там выбегла тры дзеванькі:
Адна — ў шчэрым злоце,
Друга — ў аксаміце,
Трэцяя — ў вяночку нагенька.
Што ў злоце — то Клімулькава,
Што ў аксаміце — то Грыгоркава,
А што нага ў вяночку — то Сцяпанкава.
Пахваліўся Клімулька, што «сваю
На сена павяду і сто фур награбу».
Пахваліўся Грыгорка:
— Я на жніво павяду і сто коп нажну.
Пахваліўся Сцяпанка:
— Я сваю на шынок павяду і сто гарцаў вып'ю.
І пайшлі напіліся,
Прыйшлі ўдому, пабіліся.
Дзесь маё гора крапіву поле,
Рукі напякло і дадому ўцякло.

443. На вуліцы Купалле,
А для Купалля гулянне.
Там дзевачка гуляла.
Яна гуляла, не дбала.
Прыйшла па яе мамачка:
— Ідзі, дзіцятка, дадому,
Прыехалі госці здалёку.
Яны нікога не знаюць,
Цябе, маладзеньку, пытаюць.
— Не мае, мамачка, не мае.
Як будуць мае ехаці,
Дык будзе дубрава шумеці,
Кованыя колы бразджаці,
Вараныя коні іржаці,
Да будуць музыкі іграці,
Будуць дзевачкі гуляці,
Маладыя малодкі спяваці,
Старыя бабы сядзеці
Да на гэта дзіва глядзеці.

444. — Ой, баравая зязюля,
Чаму ў бары не кукуеш?
Чаму ў бары не кукуеш,
Чаго ў наш сад прылятаеш?
— Як жа мне ў бары кукаваць —
За сасонкамі не відаць,
За сасонкамі не відаць,
За салаўямі не чуваць.
— Ой, маладая Аленка,
Чаму ў мамы не плакала?
Чаму ў мамы не плакала,
Чаго да нас прыехала?
Як жа мне ў мамы плакаці —
За брацяткамі не відаць,
За брацяткамі не відаць,
За сястрыцамі не чуваць.

445. А ў нашым жыце перапяліца,
Яна не свішчыць — праўду гаворыць:
— Ай, трудна жыці той маладзіцы,
А ў каторае заловак многа,
А дзіярочка ніводнага.
Куды ні пойдуць — нявестку ганюць:

«Наша нявестка не работніца,
К нашаму двору непрыходніца,
Нашаму скоту непрыглядніца,
Нашым гасцём непрыветніца».
А ў нашым лесе зязюлечка,
Яна не кукуіць — праўду гаворыць:
— Ой, добра жыці той маладзіцы,
А ў каторае дзівяроў многа,
А заловачкі ніводнае.
Куды ні пойдуць — нявестку хвалюць:
«Наша нявестка работніца,
Нашаму двору прыходніца,
Нашаму скоту прыглядніца,
Нашым гасцём прыветніца».

446. Ай, то-то! Ды за гарою за камянною,
ай, то-то. *

Стаяць коні вараныя,
Вараныя, прыбраныя,
Прыбраныя, сядланыя —
Як уссесці, паехаці
Да ўдованькі жаніціся.
Ды ўдованьку лёгка браці,
Лёгка браці, цяжка жыці:
Пасцель сцеліць — ўсё клянецца,
Спаць кладзецца — не хінецца.
За гарою камянною
Стаяць коні вараныя,
Вараныя, прыбраныя,
Прыбраныя, сядланыя —
Як уссесці, паехаці
Да дзеванькі жаніціся.
Ды дзеваньку цяжка браці,
Цяжка браці, лёгка жыці:
Пасцельку сцеліць — ўсё смяецца,
Спаць кладзецца — прыхінецца.

447. Во, ля-лё! Хмелю на тычынку навіваецца,
во, ля-лё.**

Якаўка дачкой набіваецца:
— Ой, зяцю мой, зяцю мой,

* «Ай, то-то» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
** «Во, ля-лё» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Вазьмі дачку да за белую ручку.
Да мая дачка да работніца:
Да кароўкі жане і кудзельку прадзе,
А з пасты жане — пачыначкі ўе,
На нары ступае — лапці варсае,
Сені-хату мяце — абуваецца.

448. Вой, рана-рана на Яна
І да дзяціна конічка сядлая.
Да дзяціна коніка сядлая,
Да яго бацюхна пытая:
— Да й куды, дзяціна, сядлаеш,
Да й куды, дзяціна, паедзеш?
— Ой, паеду, бацюхна, на места
Да прывязу, родненькі, нявесту.
Ой, табе, бацюхна, нявеста,
А мне, родненькі, мілая.
Ой, табе, бацюхна, жыта й жаці,
А мне, родненькі, пасцель слаці.
Ой, табе, бацюхна, работнік,
А мне, родненькі, заботнік.

449. Купалялё! Да пайду я ў двор із мяцёлачкай,
Купалялё. *

От мяту, мяту, прыслухаюся,
Што мая мамка ціха гаворыць:
Хочыць аддаць замуж дачку за няроўніцу.
Ой, цяжка, цяжка камень каціці,
А яшчэ цяжэй з нялюбым жыці.

450. Пятрова ночка невялічка,
Я, маладзенька, недаспала —
Кашулечку вышывала.
Каб я знала, што старому,
Я б вышывала крапіўкаю,
Выстрачыла б жыгучкаю.
А старэнькі павярнуўся б,
Павярнуўся б — абстрыкнуўся.
Пятрова ночка невялічка,
Я, маладзенька, недаспала —
Кашулечку вышывала.

---

* «Купалялё» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Каб знала, што маладому,
Я б вышыла чорным шоўкам,
Выстрачыла б бялюсенькім,
Маладзенькі павярнуўся б,
Павярнуўся б — усміхнуўся.

451. А ў гародзе канапелька зелянеНЬКа,
А у гародзе, ў карагодзе
Гуляіць Паўлінка маладзенька,
Ў карагодзе.
А Мікітка ходзіць, выглядае,
Ці добра гуляіць.
— А Паўлінка, ўжо на дварэ роса,
Ты гуляеш боса.
— А Мікітка, калі твая ласка,
Пашый чаравічкі.
— А Паўлінка, я не ўмею шыці,
Не ўмею шыці.
— А Мікітка, ты не ўмееш шыці,
Я ўмею насіці.

452. А я дзеўка добрая,
Бацькі багатага.
Мой бацька — ясны месяц,
Мая маці — краснае сонейка,
Мае браты — ў саду салавейкі,
Мае сёстры — ў жыце перапёлкі.
Ясны месяц ўсю ноч свеціць,
Краснае сонейка ўвесь дзень грэіць,
Ў саду салавейка ўсей дзень спяваіць,
Ў жыце перапёлкі жыта падбіраюць.

453. Божа мой! Чыя рутачка там за ракою, божа мой.*
Зарасла ж яна ўсякай травою?
— Мая сястрыца, памажы палоць.
— Мая сястрыца, шырока рака,
Шырока рака, я не перайду.
— Мая сястрыца, я падам руку.
— Мая сястрыца, шырока рака,
Шырока рака, не сойдзець рука.

* «Божа мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

454. Каліна! У полі, полі пад ялінаю, каліна. *
Там дзевачкі лянок палолі,
Сіротачка з багатырачкай.
А ехалі два варанцы,
А яны сталі, дзень добры далі.
Сіротка стала, ім адказала,
Багатырачка бедаваць стала:
— Ручнічкі мае дымковыя,
А што ж я з вамі рабіць буду:
А ці не дарожкі высцілаць буду?
Падушкі мае пуховыя,
А што ж я з вамі рабіць буду:
А ці не горачкі выкладаць буду?
Паяскі мае шаўковыя,
Што ж я з вамі рабіць буду:
Ці не конікі ляйцаць буду?

455. Да заказалі на вайну
Нашаму сялу усяму,
Нашаму сялу усяму,
Нашаму войту самаму.
Нашага войта сыноў нет,
Адна дачушка на раду,
Адна дачушка на раду,
Тая паедзіць на вайну.
Яе татачка да тому
Купіў сукенку дадолу,
А пры сукенцы сядзельца,
А пры сядзельцы коніка.
Першы разок як махнула —
Палавіна войска ўлякнула,
Другі разок як махнула —
Дык усё войска ўлякнула.
А дзе там браўся крулёвец:
— А каб я ведаў, чый то сын,
Аддаў бы дочку крулёву.
— Нашто мне дочка крулёва,
Нашто мне дочка крулёва,
Я сама пані Цітова.

456. Цёмна, цёмна за дваром,
Да ехалі казакі ўсё радом,
Везлі Міхала на кані.
Да яго галоўка на мечы,

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Да за ім матачка плачучы:
— Ой, сыне, сыне, Міхале,
Да за каго ты галоўку палажыў?
Ці за ойчанька старога,
Ці за матачку родную,
Ці за брацейка мілога,
Ці за сёстраньку любую?
— Я ні за ойчанька старога,
Я ні за матачку родную,
Я ні за брацейку мілога,
Я ні за сястрыцу любую.
Палажыў я галоўку за дзевачку,
За яе ціхія паходы,
За яе нізкія паклоны,
Да што яна ціхенька хадзіла,
Нізенька галоўку насіла.

457. Каліна! А ў лазе, ў лазе ляжыць маладзец, каліна. *
Ен сечан-рубан, харашо прыбран.
Прыляцелі тры зязюлечкі:
Адна ўпала на галовачку,
Другая ўпала на ножачкі,
Трэцяя — на сэрданька.
Што на галоўцы — мамачка яго,
Што на ножачках — сястрыца яго,
Што на сэрданьку — мілая яго.
Мамачка плача — рэчачкі бягуць,
Сястрыца плача — ручайкі ідуць,
Мілая плача — замуж хоча.

458. Ту-ру, ту-ру, па дуброўкі
Ды там едзіць пан вялікі,
Пан вялікі, брыль шырокі.
— Ты вярніся, ты вярніся,
Пан вялікі, брыль шырокі,
Твая жана доч мела.
— Я для дочы не вярнуся:
Я для дочы падарую
Плат шаўковы, вянок пярловы.
Ту-ру, ту-ру, па дуброўкі

* «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Ды там едзіць пан вялікі,
Пан вялікі, брыль шырокі.
— Ты вярніся, ты вярніся,
Пан вялікі, брыль шырокі,
Твая жана сына мела.
— Я для сына вярнуся:
Куплю сыну каня воранога,
Каня варанога, узду залатую
І для сына падарую.

459. Бумажанька Мархушынька,
Белы сырок Ляксандрачка.
Выхадзіла на вуліцу,
Выглядала сабе выглядка:
— Выглядак мой, Ляксандрачка,
Выгледжан ты на вуліцы,
На вуліцы на шырокай,
Міжа мальцаў міжа большых.
Міжа мужчын — мужыцкі сын,
Міжа паноў — ён панскі сын,
Міжа купцоў — купецкі сын,
Выглядак мой, Ляксандрачка.

460. Стучыць-гручыць па вуліцы,
Едуць купцы купцуючы:
— А вы, жонкі, вы, лябёдачкі,
Купляйце ў нас чорна чарніла!
— Мы і так чорны без чарніла
Ў чужых бацек і чужых матак.
Стучыць-гручыць па вуліцы,
Едуць купцы купцуючы:
— А вы, дзевачкі, вы, паненачкі,
Купляйце ў нас бела бяліла!
— Мы і так белы без бяліла
Ў сваіх бацек і сваіх матак.

461. Купала. Янава ночка невялічка,
Купала.
Нашы дзевачкі ўсю ноч не спалі,
Купала.
Ім зязюленькі ўсё шчабяталі,
Купала.

— Дзевачкі, з ружы вянкоў не віце,
Купала.
Дзевачкі, рана замуж не йдзіце,
Купала.
Віце вяночкі ды із чабору,
Купала.
Ідзіце замуж ды ўпору,
Купала.

462. Купалялё, на сенажаці
мядуначка, купалялё.
Купалялё, там кукавала зязюлечка,
купалялё.
Купалялё, там кукавала, праўду казала,
купалялё.
Купалялё, не будзіць свёкарка
родны татулька, купалялё.
Купалялё, не будзіць свякроўка
родная мамка, купалялё.
Купалялё, не будзіць залвіца
родная сястрыца, купалялё.
Купалялё, не будзіць дзевярка
родны брацятка, купалялё.

463. Бела-бела бярозка,
Чаго на моры палягла,
Чаго на моры палягла,
Дзяўчаткам дарожку залягла?
Куды дзевачка хадзіла
І шчырае срэбра насіла
Да рассыпала па моры,
Клікала мамачку з каморы:
— Памажы срэбра сабраці,
Шчырае золата знізаці.
— Не выйду, дзіцятка, не магу:
Я з жалю ручак не ўздыму,
Што цябе, маладу, аддаю
Ды на чужую старану,
Ды да чужога дзіцяткі
Чорныя сцежачкі таптаці,
Чорныя сцежачкі таптаці,
Белыя ручкі ламаці.

464. Лугам-берагам коні хадзілі,
Коні хадзілі, ўсё гаварылі:
— Жылі мы былі ў дрэннага пана:
Ён нас позненька на луг выводзіў,
Ён нас раненька з луга прыводзіў,
Забрытваў аброткай вяроўчатай,
Путаў пяньковымі путамі.
Лугам-берагам коні хадзілі,
Коні хадзілі, ўсё гаварылі:
— Жылі мы былі ў добрага пана:
Ён нас раненька на луг выводзіў,
Ён нас позненька з луга прыводзіў,
Забрытваў аброткай раменнаю,
Путаў шаўковымі путамі.

465. Іванька Купалька на гарэ купаўся, *
На гарэ купаўся, бераг калыхаўся.
Іванькава мамка па беражку ходзіць,
Па беражку ходзіць, кашуленьку носіць.
Кашуленьку носіць, Іванюшку просіць:
— Іванька, сынулька, перайми кашульку,
Я й тоненька прала і чысценька ткала,
Я й бела бяліла, хораша пашыла,
Хораша пашыла, шоўкам вышывала,
Шоўкам вышывала, Ваню даравала.

466. Ой, рана на Йвана, **
Кругом, кругом сонца ходзе —
Недзе сонцу станавіцца.
Станавілась сонца ў Рогаве,
А ў Рогаве дзеўкі гладкі,
Дзеўкі гладкі — глядзець гадка.
Кругом, кругом сонца ходзе.
Станавілась сонца ў Шчарбінішчах,
Ў Шчарбінішчах дзеўкі худы,
Дзеўкі худы — глядзець люба.

467. А ў бару, бару ель гарэла,
Божа мой! ***
Не так гарэла, як зелянела.
А там дзевачкі краскі збіралі,

* Кожны радок паўтараецца.

** Паўтараецца перад і пасля кожнага радка.

*** Паўтараецца пасля кожнага радка.

Краскі збіралі, вяночкі вілі,
Вяночкі вілі, ў Дунай кідалі.
Палез Ванечка вянкі даставаць.
Ён разок ступіў — па калена ўвяз,
Другі раз ступіў — па пояс увяз,
Трэці раз ступіў — і сам паплыў.
— Вузкі беражкі — вы мае дружкі,
Рыба-плаціца — мая сваціца,
Светла вадзіца — мая дзявіца.

468. Дзеўкі на Тройцу вянкі вілі, *
А на Купала развівалі,
На сваю долю загадалі:
— Ой, калі наша добрая доля —
Цвіці, вяночак, як гаёчак,
Ой, калі й наша бяздоллейка —
Ссохні, вяночак, на сухарочак.

469. А як я ў зёлачкі пайшла, **
Шэру зязюлечку найшла,
Зязюля кукавала,
На мяне вешчавала:
На сем год замуж не йці.
Я й да хатачкі прыйшла,
Я й парадачак найшла:
Татулька піва варыць
Да к майму вяселлейку,
Матулька хлябы пякець
Да к майму вяселлейку,
Брацетка каня строіць
Да к майму вяселлейку,
Сястрыца дары кроіць
Да к майму вяселлейку.

470. Зялёненькі вінаград урадзіўся на пагляд.
— Зялёненькі вінаград, да дзе цябе садзіці?
— Дзе хочаце, садзіце, толькі мяне паліце.
Не палівайце вадою, да палівайце сытою:
Ад вадзіцы зелянею, ад сыціцы крамянею.
— Маладая Зіначка, да дзе цябе садзіці:

* Кожны радок паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца двойчы.

Ці ў татухны на стале, ці ў свёкаркі на куце?
— Дзе хочаце, садзіце, толькі мяне дарыце:
Ці золатам, ці серабром, ці беленькім палатном,
Ці беленькім палатном, ці Колечкам маладым.

471. Мяне замуж давалі, божа мой, *
Чатыры скрыпачкі гралі,
Пятая жалеечка,
Я ж была паненачка,
Шостая фіялачка,
Я ж была шляхцяначка,
Сёмыя цымбалы білі,
Мяне замуж падманілі,
Конікаў залажылі,
На павозку усадзілі,
Прывязлі к свёкру на двор,
Ссадзілі з павозкі далоў,
Міленькі пад пашку вядзець,
Свякроўка гарэлку даець,
Хатачку адчыняець:
— Ідзі, мая нявехначка,
Ідзі, маё дзіцятка,
Вяселле адгулялі,
Работку загадалі.
Лепш дзевачкай хадзіць,
Чым работку рабіць.

472. Братавая золвы на ноч просіць, ту-ту-ту. **
— Мая залвіца, мая сястрыца,
Прыйдзі ка мне ноч начаваці,
Да цябе ў мяне ніхто не ўкрадзе:
Да ў мяне клетка з пераклятками,
Ў мяне завесы шаўковыя,
Ў мяне падушкі пуховыя,
Ў мяне пасцелька мякка, бяленька.
Сяей ночы апоўначы
Ды прыязджаюць тры двараніны,
Тры двараніны нежанатыя:
Адзін дваранін клетку адчыніў,
Другі завесы падняў,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
** «Ту-ту-ту» паўтараецца пасля кожнага радка.

Трэці дваранін мяне, маладу, ўзяў.
Ніхто таго не чуў, не бачыў,
Толькі чула неба да зямля,
Толькі бачыла чужа старана.
Не ёсць мая братавая,
Да ёсць мая здрадніца:
Здрадзіла мяне, маладзенькую,
З руцьвянога вянца,
З дзявоцкага стаўца.

473. А сягоння ў нас Купаллейка,
Каліна. *
Ой, купаліся тры сястрыцы.
Пакупаўшыся, на бераг выйшлі,
На бераг выйшлі, гаварылі:
— А мы жылі, як лябёдачкі,
Раскаціліся, як ягодачкі.
Кароўкі нашы развядзёныя,
Куфэркі нашы развязёныя,
А мы, сястрыцы, разабраныя.
А сягоння ў нас Купаллейка,
Ой, купаліся тры ятровачкі.
Пакупаўшыся, на бераг выйшлі,
На бераг выйшлі, гаварылі:
— А мы жылі, як ягодачкі,
А сышліся, як лябёдачкі.
Кароўкі нашы ўсе звядзёныя,
Куфэркі нашы ўсе звязёныя,
Мы, ятровачкі, ўсе сабраныя.

474. Божа наш! А ель мая зялёная, божа наш,**
Свякроўка мая шалёная
Загадала работку рабіць,
Работу рабіць, адзежку мачыць,
У суботку мачыць, у нядзельку жлукціць,
У нядзельку жлукціць, сярод мора праць,
Сярод мора праць, верх лесу сушыць,
Верх лесу сушыць, па небу каціць,
Па небу каціць, у арэшак злажыць.
— Свякроўка-матка, я не татарка,
Я не татарка ў суботку мачыць,

* «Каліна» паўтараецца пасля кожнага радка.
** Прыпеў «Божа наш» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Я не жыдоўка ў нядзельку жлукціць,
Я не вутачка сярод мора праць,
Я не птушачка верх лесу сушыць,
Я не зорачка па небу каціць,
Я не шчурачка ў арэшак злажыць.

475. Ту-ту! Што ў мяне была за свякровачка, ля-лё. *
Што ў яе была за натурачка —
Сама ўстане а ранюсенька,
Мяне накрые цяплюсенька:
— Спі, дзіця маё, спі, нявестачка,
Пакуль на небе сонца ўзыдзе,
Пакуль на небе сонца ўзыдзе,
Пакуль на зямлі раса абвее.

476. — Купала, Купала, дзе ж ты прабывала? **
— На рынку бывала, таргі таргавала.
Таргі таргавала — свякроўку прадавала.
Свякроўку прадавала, мамку пакупала.
Таргі не сышліся — свякроў не прадала.
Свякроў не прадала, мамку не купіла.
Нету такіх лавак, каб куплялі мамак.

477. Паару я поле ўсё чорнымі валамі,
Пасею [redacted] поле ўсё рыжымі камянямі,
Памашчу я масты ўсё бітымі талерамі,
Засцялю я лугі тонкімі кужалямі.
Не ззяй, не ззяй, маё поле, ўсё рыжым золатам,
Не звініце, масты, бітымі талерамі,
Не бялейце, мае лугі, ўсё тонкімі кужалямі.
Каб я знала, каб я ведала,
Што мае дзверы сюдою іцімуць,
Памасціла бы масты густою жасцярынаю
І заслала бы лугі жыжкаю крапіваю.

478. Пятрова ночка невялічка,
Я ж, маладзенька, не ведала.
Было летка ці не было.
Мамка на вулку не пускала,
Нову святліцу замыкала.

* «Ту-ту!» паўтараецца ў пачатку, «ля-лё» — у канцы кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.

Як адчыню ж я ваконачка,
Кіну-гляну на вуліцу:
Ці ўсе вулачкі памяцёны?
Усе вулачкі памяцёны,
А пад яворам не мецена.
А там мой мілы з торгам стаіць,
Таму-сяму таргуючы,
А мне, маладзе, даруючы.

479. А ўжо Купала мінуецца, мінуецца, *
Не гуляць дзеўкам на вуліцы,
А гуляць дзеўкам з сярпочкамі,
Са ржанымі й снапочкамі.

480. Кукуй, зязюлька, да Яна,
Ужо па Яне не будзеш.
Цяпер ночка малая,
А як ночка прыбудзе,
Кукаваць зязюлька не будзе:
Паляціць зязюлька ў лясок,
Сядзе зязюлька на сучок,
Выплыве ячны каласок,
Займе зязюльцы галасок.

481. Ой, кудраў, кудраў ляночак
Ад Вялікадня да Пятра.
Прыйдзе да цябе Пятроў дзень —
Палавіна цвету ападзе,
Палавіна цвету ападзе,
Больш галовачак прыбудзе.
Ой, красна панна Настачка,
Бо яна ў свайго баценька.
Як пойдзе яна к чужому —
Палавіна красы адбудзе,
Палавіна красы адбудзе,
Болей розуму прыбудзе.

**482. Ой, Пятро Іллю кліча: ****
**— Ой, Ілліца-сястрыца,**
**Да хадзі ж пагуляем.**

---

* Другая частка кожнага радка паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца.

— Да гуляй, Пятро, гуляй,
Як табе гуляецца,
Ў мяне ўсе жэнчыкі у полі,
Усе касары на балоце,
Усе людзі на рабоце.

483. Да не будзе лецечка
Да ніводнага дзянёчка,
Да не будзе ягадак
Ніводнае ягадкі,
Да не будзе дзевачак
Да ніводнае дзеванькі:
Ягадкі з расы падуць,
Дзевачкі замуж пайдуць.

484. Ой, рана-рана, на Яна Купала
На вулачку сонейка дзевачак збірала,
Ў ручкі сярпочкі давала:
— Да годзе, дзевачкі, гуляці,
Да йдзіце ў поле жыта жаці.
Роўнае поле, роўнае,
Зародзіць бог жыта буйнае,
А ярую пшаніцу да на ніве,
Да збірайся, родзе, ўвесь ка мне.

485. Сонейка, Пятрова ночка суборначка, сонейка.
Сонейка, сабрала дзевак да на вулачку, сонейка.
Сонейка, пасадзіла да на тыночку, сонейка.
Сонейка, выправіла ў бор жыта жаць, сонейка.
Сонейка, на бару ўсё жыта пажата, сонейка.
Сонейка, на лузе сена пасянована, сонейка.

## СЕНАКОСНЫЯ, АБО КАСЕЦКІЯ

486. Ветрычак вее, сонейка грэе,
Люлі, люлі, сонейка грэе.

А мой міленькі касіць не ўмее,
Люлі, люлі, касіць не ўмее.

Узяў касіцу, пайшоў касіці,
Люлі, люлі, пайшоў касіці.

А мне, маладзе, абед варыці,
Люлі, люлі, абед варыці.

Абед гатую, бяду бядую,
Люлі, люлі, бяду бядую.

Каб мой абедзік хаця зварыўся,
Люлі, люлі, хаця зварыўся.

Каб мой міленькі не знаравіўся,
Люлі, люлі, не знаравіўся.

Ой, як згатую, панясу есці,
Люлі, люлі, панясу есці.

Скасіў міленькі, што недзе сесці,
Люлі, люлі, што недзе сесці.

487. Зажурылася малада ўдованька,
Што не кошана зялёна дубрpremier ованька.
— Не журыся, малада ўдовачка,
Будзе скошана зялёна дубровачка.
Будзем наймаці касары маладыя,
Будзем плаціці па чатыры златыя.
— Касары косяць — ветрык павявае,
Маё сенца ад сонца пасыхае.

488. А ў лузе касец косіць,
А ў лузе касец косіць
Ды, прылёгшы, галосіць.
— А чаго, касец, плачаш,
А чаго, касец, плачаш,
А ці твая каса тупа?
Ці твая каса тупа,
Ці твая каса тупа,
Ці твая жана скупа?
— А мая каса востра,
А мая каса востра,
А мая жана жостра.
Прынясла палуднаваць,
Прынясла палуднаваць
У маленькім адлівачку,
І хлеба скарыначку,
Цыбулькі быліначку,
Цыбулькі быліначку
І солі драбіначку.

489. На лугу касцы косяць,
Косяць, косяць ды мыляюцца,
На мяне ўглядаюцца,
Што я тонка, высока,
Што я бела, румяна,
Хараша ўбрана,
На лугі я паслана.

## ЖНІЎНЫЯ

490. Зарадзі, божа, жыта
Да на прышлае лета
Каласом каласіста,
Каранём караніста,
Каб у трубы павілося,
А нам жаць не далося.

491. Каму сёлета жыта зажынаці?
Зажынаці жыта Іванісе:
Яе ніўка радлівая,
Яе ручка шчаслівая!

492. — Добры дзень госпаду богу,
Жыту ядраному,
Хадзяіну палявому!
— Здароў, здароў, жнеі маладыя,
Сярпы залатыя!

493. Ай, дабранач!
Шырокае поле,
Жыта ядраное,
Ай, дабранач!
На здароўе,
Жнейкі маладыя,
На здароўе!
Прыхадзіце
Заўтра раненька,
Як сонейка ўзойдзіць,
Прыхадзіце!
Прынасіце
Адзін гаршчок кашы,

А другой саракваша,
Прынасіце!
Вы сажніце
Шырокае поле,
Жыта ядраное,
Да сажніце!
Пастаўляйце
У полі капамі,
А ў лузе стагамі,
Пастаўляйце!
А мы зжалі
І поле пажалі,
І пастаўлялі
У полі копамі,
У полі копамі,
А ў гумне стогамі
Пастаўлялі.

494. У полі жыта палавее,
У багатага душа млее,
Што ў засеку жыта тлее.
А ў беднага радуецца,
А ў беднага радуецца,
Што новы хлеб гатуецца,
Што з багатым зраўнуецца.

495. Ой, не ляжы, ветру, ў полі,
Паміж горачак ў разоры,
Да ўстань, ветру, пamaленьку,
Павей, ветрык, паціхеньку,
Развей хмарачку цямненьку —
Маю тугу цяжаленьку.
Каб я, малада, жыта жала
І сярэдзіну сваю не зажала.
Панічыку, а панонiку,
Пусці мяне дадоміку,
У мяне дома дзетак многа:
Што куточак — то сыночак,
На покуці дзевяць дочак.

496. Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.

— Хоць гудзіце, не гудзіце,
Палуднаваць не будзеце:
Шчэ постаці не пражалі,
Капы снапоў не звязалі.

497. Ой, гудкі гудуць да гудуць,
А ўсе людкі палуднуюць.
— Вы гудзеце не гудзеце,
Мы палуднаць не будзема,
Бо наш пан жа ж вельмі злосны,
Наш палудзень будзе позны.

498. Маладзіца маладая
У шчырым бару жыта жала,
Мала дзіця калыхала.
А прыйшло к ёй да тры ваўкі,
Да тры шэрыя.
Адзін кажыць: «Пазыбаю».
Другі кажыць: «Пазабаўлю».
Трэці кажыць: «Пацалую».
Цалавалі, мілавалі —
І мала дзіця разарвалі.
Стала яна тужыць, плакаць,
Белы рукі ламаючы,
Дробныя слёзы раняючы.

499. Ой, я ў бары жыта жала,
А мне дома бяда стала:
Узлезла свякроўка на тын глядзець,
Ці скора нявестка жнець.
Павей, ветрык, каля тыну,
Скінь свякроўку у крапіву.
Звалілася свякроў з тыну,
Стоць галавой у крапіву!
Сабе шыі не зламала,
Мне крапіўку патаптала.
Не жаль жа мне свякровачкі,
Ды жаль жа мне крапівачкі:
Крапівачка — яда мая,
Свякровачка — журба мая.

500. Ой, у полі бярэзінка,
Баліць мая сярэдзінка,
Ды некаму спагадаці,
Сярэдзінку патаптаці.
А дай жа, божа, кугакала,
Каб пад снапком заплакала,
А я б пашла скалыхнула,
Сярэдзінка б аддыхнула.

501. Ужо сонейка — не раненька,
Іду дамойкі радзенька —
На цёплую вячэру,
На мяккую пасцелю.
Маё жыта рэдзенька,
Баліць мая сярэдзінка.
Мая матка дагадліва —
Выцепліла лазеньку.
Ды выцепліўшы лазеньку,
Наламала бярэзнічку,
Наламаўшы бярэзнічку,
Папарыла сярэдзінку.
Сярэдзінка памягчэла,
Маё жыцейка пагусцела.

502. Нанясі, божа, аблачынку!
На тры дні адпачынку:
Адзін дзень — малоць, талоч,
А другі дзень — ваду насіць,
А трэці дзень — дзяжу мясіць!

503. Пералсані, божа, хмаркі,
А-эй, перажані, божа, хмаркі
На чужую староначку,
Дзе пажалі, пакасілі
Да снапочкі павазілі.
У нас не жата, не пажана,
А-эй, у нас не жата, не пажана
Да ў гуменца не звожана.

504. Ой, жніце, небажата,
Ужо постаці небагата,

Ды дажнёмся да дуба,
Да палуднаваць будзем,
Да дажнёмся да хвоі,
Наядзімся даволі,
А дажнёмся да крыніцы,
Дык нап'ёмся вадзіцы.

505. Жну я, пажынаю,
На сонейка пазіраю:
Ці высока сонейка,
Ці далёка ойчанька.
Ой, высока сонейка!
Ой, далёка ойчанька!

506. Ой, жыта жну, пажынаю,
На дарожаньку пазіраю,
Да ці скора маці ісціме,
Мне абедаць нясціме?
Нясе хлеба булачку
І мядочку ў кубачку.
Я жыта жну, пажынаю,
На дарожаньку пазіраю,
Да ці скора свякроў ісціме?
Нясе хлеба скарыначку
І вадзіцы ў чарапочку.

507. Глядзіць, глядзіць маё вочка —
Беражочак недалёчка,
А на гэтым беражочку
Стаіць прыганяты,
Здаровы, чубаты.
Судзі, божа, мне дажаць,
Бо ён скуру можа зняць.

508. — Сонейка, сонейка,
Ці бывала ты ў найме?
Ці бывала ты ў найме,
Ці спагадаеш ты мне?
Каб ты ў найме пабывала,
Ты ж бы мне спагадала:
Позненька ўзыходзіла,
Раненька заходзіла!

— Малада малоданька,
Не дзіві ты на сонейка,
Не дзіві ты на сонейка,
Ды дзіві ты на пана:
Я й раненька ўзыйду —
Цябе ў полі знайду,
Я й позненька зайду —
Цябе ў полі пакіну!

509. Нуце жаць, не ляжаць!
Ай, мелася гаспадыня
Нам вячэраць даць:
Наварыла гаршчок кашы
І нам не дала . . .
Паставіла на прыпечку —
Муха разліла.
Багдай цябе, мая мушачка,
Пераламіла!
Як ты маіх маладых жнеек
А ўгаладзіла.

510. Баліць мая сярэдзінка,
Што жыта маё рэдзенька.
Сярэдзінка не гнецца,
Постаць мая валачэцца.
Няма маёй маці
Мне постаці падагнаці,
Няма маёй сястрыцы,
Маёй большай памочніцы.
Сястрыца б постаць падагнала,
А я трохі пастаяла
Да й варон пастраляла.

511. Няхай вечар бардзей будзе,
Майму сэрцу лягчэй будзе.
Мой міленькі з таргу едзе,
Мне, маладой, гасцінец вязе —
Пярсцёначак залаценькі.
А вяночак руцвяненькі.
У пярсцёначку жыта жаці,
А ў вяночку красаваці.

512. Ой, жала я, не ляжала,
Тры снапочкі нажала,
А хто за мною снапка звяжа,
Той са мною спацькі ляжа.
Снапка звяжа цяснюсенька,
Ляжа спаці шчылюсенька,
Снапка звяжа да й падыме,
Спаці ляжа да й абдыме,
Снапка звяжа, памацуе,
Ляжа спаці, пацалуе.

513. Надаела жаркота-пякота,
Цяжкая работа,
Дзень да вечара ў полі стаяла,
Калоссем махала,
Пад дом паглядала.
Надаела жаркота-пякота.

514. За бор сонца, за бор,
Да за гай зялёненькі,
Да за сад вішнёвенькі.
Няхай сонца ніжэй будзе,
Няхай вечар бліжэй будзе,
Майму сэрцу лягчэй будзе.

515. Ужо вечар вечарэе,
Наш пан весялее,
На коніку паязджае,
Сваіх жнеек паганяе:
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
Самі сябе не пазніце,
Майго каня не марыце,
Майго каня воранога,
Мяне, пана маладога.
Пара каню да стаінькі,
Мне, панічу, да паненкі,
Пара каню авёс есці,
Мне, панічу, ў крэсла сесці.

516. Наш пан маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі,
Па полю паязджае,
Сваіх жнеек прыганяе:

— Жніце, жніце, мае жнейкі,
Прынясу вам гарэлкі,
Буду ў рад усіх садзіці,
Гарэлачкай паіці.
— Мы б гарэлкі не хацелі,
Лепей дамоў паляцелі.
У нас дамы далёкія:
Сем міль борам ісці,
А дзевятую Дунаем плысці.
А я Дунай пераплыву
Белаю лябёдкаю,
А я бор пералячу
Сіваю зязюлькаю,
У свёкра на дварэ
Стану малодкаю.

517. Наш гаспадар маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі.
Ён усё поле аб'язджаіць,
Сваіх жнеек аглядаіць:
Ці ўсе яго ў полі жнеі,
Ці ўсе звязаны іх жмені?
Ці ўся яго талочанька,
Ці зжата ўся валочанька?

518. Да ўжо вечар вечарэе,
Мая маці вячэрае,
Яна вячэру падавае,
Дзіця сваё ўспамінае:
— Дзіця маё маладое,
Ды й горкая твая доля,
Маладое заручона,
На рабоце замучона.
Ідзе ў поле — світаецца.
Ідзе дамоў — змяркаецца.

519. Панічыку-кароліку!
Пусці мяне да доміку:
У мяне дома сын маленькі,
У мяне дома муж маладзенькі.
Трэба сына накарміці,
Трэба мужа прысыпіці.

520. Ой, дзевачкі-лябёдачкі,
Пойдзем разам дамовачкі
З гэтай нівы-няволечкі,
З гэтай нівы-няволечкі,
Нам няволя надаела,
Сярэдзінка набалела,
Нам няволя здакучыла,
Сярэдзінку намучыла,
Нам няволя горка стала,
А сярэдзінка калом стала.

521. А жоначкі-лябёдачкі!
Ай, пойдзем мы дамовачкі.
А нас дамоў не пускаюць,
За постаці заганяюць.
Нашы дамы далёкія,
А постаці шырокія,
А сем міль барамі йсці,
А восьмую дарогай,
Дзевятую дубравай,
А дзесятую — татульку
На вячэру.

522. Ой, не рана,
Пане камісару,
Пусці нас дадому,
Ой, не рана.
Да ўжо нашы ручкі
Досі намахаліся,
Да ўжо нашы прыставы
Досі набрахаліся,
Ой, не рана.

523. Бадай пану ў двары страшна,
Як нам ў полі сонца зашла.
Сонца зашло — мы шчэ жнемы,
Пры месяцы снапы носімо,
Пры зораньках копы кладземо,
Апоўначы дадому ідземы,
На світанні вечэраемо,
У дзень белы знову ідземы.
Бадай пана не схавалі,

Каб сабакі разарвалі,
Пахавалі пры даліне,
Каб па яму ваўкі вылі.
Бадай пана громы ўбілі,
Як мы ручкі патамілі.

524. Ой, час-пара дадоманьку,
Упала раса на пожненьку,
Старым бабам ручкі крэпнуць,
Малоданькам дзеткі плачуць,
А дзевачкам вянкі вянуць.

525. Пара дамоў, пара,
Халодная раса пала,
Халодная раса пала,
Нам дамоў пара стала.
— Ой, чуйце, дома, чуйце,
Нам вячэрку гатуйце.
На вячэрку рыбку з перцам,
Легчы спаць пад акенцам,
Легчы спаць пад акенцам,
Эй, з маладым кавалерцам,
Эй, з маладым кавалерцам,
Эй, да на белай пасцельцы.

526. Да раўнуйце постаці,
Бо ўжо пара дадому йсці,
На постаці раса пала,
На коласе і другая,
На постаці лядовая,
На коласе мядовая,
На постаці валы з'ядуць,
На коласе паны сап'юць,
Валы з'ядуць рагатыя,
Паны сап'юць багатыя,
Валы з'ядуць — араць будуць,
Паны сап'юць — гуляць будуць.

527. Да ўжо слонійка за лес коціцца,
Мне, малодзенькай, дамоў хочацца:
Да ўжо ручанькі нарабіліся,

Да ўжо ножанькі нахадзіліся,
Да ўжо вочанькі наглядзеліся,
Ужо приставанька настаялася.
Я приставаньку да ражжом прайму,
Сама, малада, дамоў пайду.

528. Ой, пара дамоў, пара.
Ужо й пара мінаецца,
Ужо й пара мінаецца,
Ды наш пан валяецца:
То за пень, то за елку,
То за бабу , то за дзеўку.

529. Ой, час, пара дадоманьку,
Па постаці раса ўпала.
Па постаці лядовая,
Па коласі мядовая,
Лядовую валы з'ядуць.
Мядовую дзеўкі сап'юць.
Валы з'ядуць — гараць будуць,
Дзеўкі сап'юць — гуляць будуць.

530. А на дварэ не раненька,*
Пала раса сцюдзёная.

Пала раса сцюдзёная,
А другая — мядовая.

Я сцюдзёнай расой пайду —
Мае ножанькі зябнуць,
А мядовай расой пайду —
Мае вуснанькі ліпнуць.

531. Да пара дамоў, пара,
Пагубіла ключы зара.
Сонца ўзышло, ключы знайшло.
— Сонейка маё яснае,
Трэба неба адамкнуць,
Поле расой апусціці,
Жнейкі дамоў адпусціці,

---

*Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Бо іх хаткі халодны,
Бо іх дзеткі галодны.
Трэба ў печы падпаліці,
Трэба кашы наварыці,
Трэба дзеткі накарміці.

532. Ой, пара й, пара да двара.*
Цёмная ночанька абняла,
Цёмная ночанька й не відна,
Шырока дарожка й грудліва.
Вараны конічак спадбіўся,
Малады Іванька спазніўся.

533. Закаціся, сонейко,
Да за бор борздзенько,
Да за бор зеляненькі,
Да за сад вішнёвенькі,
За высокае небо,
За зялёнае дрэва.
Будзем дрэва сеч-рубаці,
Будзем царкву будаваці.

534. Ой, пара нам дамоў, пара,
Сцюдзёная раса пала,
Цёмная ночка настала.
А ў нас няма парадчічка,
Ні пана, ні ўраднічка.
Некаму рады радзіці,
Нас дамоў адпусціці.
Дадзім пану паўбарана,
Можа, пусце дамоў рана.
Бадай яго з нашым панам:
З'еў нашага паўбарана,
З'еў нашага паўбарана,
Бадай пана разарвала,
Бадай пана разарвала,
Не пусціў нас дамоў рана.
Вяліць прыйсці світаючы,
А пушчае змяркаючы.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

535. Ой, чыя то ніва грае,
Маладзенькіх да жанцоў мае?
Ой, жэнчыкі маладзенькія,
У іх серпікі залаценькія.
Ой, жнеце, жанцы, не лянуйцеса,
На сонейка не дзівуйцеса,
Бо соўнейка не рана, не рана,
А ў нас жаці не мала, не мала.
А ўжо сонца над дубком, дубком,
Добра жаць халадком, халадком,
А ўжо сонца над далінкаю,
Добра жаць вечарынкаю.
А ўжо соўнейка да завальваецца,
Нам дадому да заманьваецца.

536. А чыя ж то валока*
Доўга і шырока?

На ёй жэнчыкі жалі,
Серпікі паламалі.

Серпікі сталёвыя,
Жэнчыкі маладыя.

Паджынайся, нябожа,
Табе бог дапаможа.

Паперадзі віно п'юць,
А ззаду мядзведзі.

Паперадзі лебедзі,
А пазадзі кіём б'юць.

537. А пара дамоў, пара,
А пара спарылася,
А пара спарылася,
Вячэрка зварылася.
На вячэрку — цяцерку,
На пасцельку — Мацейку.

* Кожны першы радок страфы паўтараецца двойчы.

538. А пара, жонкі, дамоў ісці,
Пагубляла зара ключы,
Каля постаці ідучы,
А з соўнішкам гукаючы,
А з месяцам жартуючы.
А хто тыя ключы знойдзець,
За караля замуж зойдзець!
Мар'ічка ключы знайшла,
За караля замуж зайшла.
Кароль будзець круляваці,
А Мар'ічка панаваці!

539. Эй, сярод балоцейка
Ўсярэдзіне палянaчка,
І эй, ўсярэдзіне палянaчка,
Там гуляла паненачка,
І эй, згубіла ключы,
Ідучы, з панічамі жартуючы:
— І эй, панічыкі й маладыя,
Дайце ключы залатыя,
І эй, трэба шафы адмыкаці,
Сваіх жнейкаў частаваці.
І эй, жнейкі мае маладыя,
Ў іх сярпочкі залатыя.

540. Сонейка зайшло за бор,
Жэнчыкі дамоў, дамоў!
— Панічыку-кароліку!
Пусці нас дадоміку.
— Калі б да мая воля,
Вы б былі даўно дома,
А то мая няволенька,
Цяжка ваша работанька.

541. Закаціся, сонейка,
Ды за лес, за дуброўку,
За высокую горку.
Мне, маладзе, дамоў іці
Цераз шчырыя бары,
Цераз цёмныя лясы.
У мяне дома не мамухна,
А ліхая свякрованька,

Пасылаіць па вадзіцу
Ў шчыры бор у крыніцу.
Прынясу я вады ночвы:
Залі сабе, свякроў, вочы.

542. А на дварэ вечарэіць,
Клічыць мамка вячэраці.
— Вячэрай, мая мамка,
А я ўжо павячэрала.
Ў цёмным лесе на верасе,
На сінім моры на беразе
Я ела хлеб з вадою,
Горкай калінай праганяла,
Сваю ліхую долю праклінала.
Затонь, мая горкая доля,
У сіняе мора.

543. А на дварэ вечарэіць, 2
Дома ўжо вячэраюць, 3
Мая лыжка гуляіць, 3
Мамачка спамінаіць: 2
— Дзе мая дачушачка? 2
Яна ж не вячэрала. 2
— Вячэрай, мая мамачка,
Я ўжо павячэрала: 2
Сухама хлеб ела,
Слёзкамі праганяла,
Сваю долю праклінала:
Бадай ты, мая доля,
Да на сіняе мора,
Да на ціхі Дунайчык.
Каб ты, доля, згарэла,
Я бы ручкі пагрэла.

544. Заплакала малодачка:
— Пара дамоў, пара!
А мне дамоў не хочацца:
У мяне дома чужыначка —
Чужая маці, чужы бацька.
Пашлюць мяне па вадзіцу
У студзёную крыніцу,
Не вады жадаючы,

Ды мяне збываючы.
Свякроўка-матулька,
Ці ж ты мяне датуль не знала?
Нашто мяне, матулька, за сына брала?

545. Сонейка-каласочак,
Кацїся за лясочак:
Так жа нам прынадаела,
Сярэдзінка забалела,
Ручкі-ножкі панямелі.

546. Ой, закаціся, ярка сонейка,
Ды й за лес цёмны, ды й за горачку,
Ды й за лес цёмны, ды й за горачку,
А мне пара ісці дадомачку,
А ў мяне дома ды й ліхі свёкар,
Ды й ліхі свёкар ды й свякрухна.
Ой, стрэнуць мяне на вароцечках,
Ой, пашлюць мяне па вадзіцу.
Ой, пашлюць мяне па вадзіцу,
Ой, у шчыры бор, у крыніцу.
Я ж, маладзенька, шчэ й не снедала,
Шчэ й не снедала й не абедала,
Шчэ й не снедала й не абедала,
А мая родная мамка ды й не ведала.

547. Не пайду дамоў,
Ў полі заначую,
Журбы не пачую,
Не пайду дамоў.
Як я лягу спаць
Ды каля маліны,
Ды каля каліны,
Як я лягу спаць.
Буду праклінаць
Свёкра, свякроўку,
Дзевера, залоўку,
Буду праклінаць:
— Ой, забі, божа,
Свёкра на печы
Качаргой у плечы,
Ой, забі, божа!

Ой, забі, божа,
Свякроў на палаці
Памялом у хаце,
Ой, забі, божа!
У клеці залоўку,
Дурную вятроўку,
Ой, спалі, божа!
Утапі, божа,
Дзевера ў дарозе.

548. Паслаў мяне свёкар
Да ў бор жыта жаці,
Заказаў мне свёкар
Да сто коп нажаці,
Сорак кароў падаіці,
Трыццаць вепраў накарміці,
Дзяжу хлеба замясіці.
Я, малада, спазнілася
Да дзіцяці забылася.
Прыляцела два лебедзі,
І абодва беленькія,
Браткі мае родненькія.
Узялі яны дзіця маё.
Адзін кажа: «Панясем мы,
Гэта ж нашай сястрыцы,
Што на чужой старанiцы,
Кожны яе наб'ецца,
Яе слёзкаў нап'ецца».

549. Не шалохне да буён вецярочак
Па багатаму полю.
Не сохне няродная маці
Па чужому дзіцяці.
Не пытае, ці вяліка дарожка,
Ці баляць ручкі, ножкі,
Ці баліць сярэдзінка,
А яна пытае,
Ці багата нажала,
Колькі коп наклала.
Вее вецярочак па чыстаму полю,
Журыцца родная маці
Па свайму дзіцяці.
Яна не пытае,

Ці багата нажала,
Колькі коп наклала,
А яна пытае,
Ці вяліка дарожка,
Ці баляць ручкі, ножкі,
Ці баліць сярэдзінка.

550. Да пайду я лужком-беражком,
Калінавым мостам,
Да пайду я,
Да найду я новы дамок,
Няродную матку,
Да найду я.
Нядобрая да новая хатка,
Няродная матка
Нядобрая:
Не пытаіць, да ці баляць ножкі,
Да ці баляць ручкі,
Не пытаіць.
Да пытаіць, ці многа сажала,
Ці многа нажала,
Да пытаіць.
Да пайду ■ лужком-лужком,
Калінавым мастом,
Да пайду я.
Да найду ■ да старую хатку
Да родную матку,
Да найду я.
Да добрая старая хатка
І родная матка
Да добрая:
Не пытаіць, ці многа сажала,
Ці многа нажала,
Не пытаіць.
Да пытаіць, да ці баляць ножкі,
Да ці баляць ручкі,
Да пытаіць.

551. Добра жаць — шырокая ніўка,
Вялікая постаць.
Добры вечар, сцюдзёная хатка,
Няродная матка!
Не пытаецца, ці змарылася,

Што спазнілася,
Ды пытаецца, ці доўга пражала,
Ці многа нажала.
Добра гнаць — шырокая ніўка,
Вялікая постаць.
Добры вечар, цёплая хатка,
Родная матка!
Не пытаецца, ці злянілася,
Ці многа нажала,
Ды пытаецца, ці змарылася,
Што спазнілася.

552. Мяне маці з прыгону жджэ,
Ой, мяне маці з прыгону жджэ,
Вароцечкі прачыняе,
Сваё дзіця дажыдае:
— Недзе маё дзіця ў полі
Пры шырокім загоне,
Пры вялікім прыгоне.
Ой, ідзі ты, дзіця, вячэраці,
Бо [redacted] ўжо наварыла.
— Ой, вячэрай, мая мамка,
Бо я ўжо вячэрала,
Да не сухі кусок ела,
Я слёзкаю палівала,
Сваю долю праклінала:
Бадай, доля, ты згарэла,
Каб [redacted] свету паглядзела.

553. Як на дворы змяркаецца, *
За мной татка пытаецца:

— А дзе ж мая прыгонніца,
Прыгонніца-нявольніца?

— У прыгоні, у няволі,
Прыганяюць, ды не знаюць,
Рана дамоў не пускаюць.

Нашы дамы далёкія,
Пераходы вялікія,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Пераходы вялікія,
Ручаёчкі глыбокія!

Як пайду я па памёці,
Голас пушчу па балоці,

Няхай голас галасуіць,
А мой татка няхай чуіць,

У бяседзі седзючы,
У шкляніцу гледзючы:

— Ідзець мая работніца,
Ідзець мая прыгонніца!

А ў прыгоні прыганяюць,
Рана дамоў не пускаюць.

554. Мяне мамунька ждала,
Вароцечкі адчыняла:
— Ідзе мая прыгонніца,
Прыгонніца-нявольніца!
Не дзень была — нядзелечку,
Не мёд піла — гарэлачку,
Не 'тдыхала ні гадзінкі,
Баліць яе серадзінка.

555. Закацілась жарка сонца
За дуброўку.
Баліць мая галованька,
Хачу дворку.
Я не спала, маладзенька,
Не драмала,
Выпусціла сакалочка з рукавочка.
Выпусціла сакалочка,
Не ўлавіла,
Толькі свайго міленькага
Разгнявіла.
Разгнявіўшы міленькага,
Не ўпрасіла:
Ты не пі-ка, мой міленькі,
Гарэлачку,
Не любі, мой міленькі,
Чужых жонак.

Гарэлачка, мой міленькі,—
Без здароўя,
Чужы жонкі, мой міленькі,—
Безгалоўе.

556. Пайду я дарогаю,
Пайду я шырокаю,
Пушчу голас дубровую.
Хто мой голас пачуе,
Той мяне пашкадуе.
Пачула мая мамачка,
У каморцы седзячы,
Праз аконца гледзячы:
— Калі гэта маё дзіця,
Хай яно пагуляе,
Калі гэта нявестачка,
Хай яна прывыкае
Да шырокай постаці,
Да вялікай воласці.
Мая постаць шырокая —
Сівым канём не аб'едзеш,
Мая воласць вялікая —
Белым сырам не адзеліш.
Сівы конь скапыціцца,
Белы сыр пакрышыцца.

557. Добры вечар, нашай маці, *
Ці гатова вячэраці?
Ідзець тваё дзіцятачка,
Утаміўшыся, умарыўшыся,
Ядраное жыта жнучы.

558. Не ўлякайся, мой татачка,
Не ўлякайся,
Што я рана із поля іду,
Што я рана,
На ручачках дзіця нясу,
На ручачках,
За плечыкамі — калыбельку,
За плечыкамі.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Чыё, донька, дзіця нясеш?
Чыё, донька?
— Суседняе, мой татачка,
Суседняе.
— Чаго, дочка, тваё лічка?
Чаго, дочка?
— Пры мне, татка, раджалася,
Пры мне, татка,
Маё лічыка ўдавалася,
Маё лічыка.

559. Дзевачка з поля ішла,
За поясам сярпок нясла,
За поясам сярпок нясла,
За плячыма — калысачку,
А на руках — дзіцятачка.
Калысачка — цыргі-цыргі,
Дзіцятачка — кугі-кугі.

560. Поле маё, поле маё вялікае і вясёлае, *
Вялікае і вясёлае, й прыгожае й прывольнае.
Па полю іду, па полю іду — весялюся,
Па полю іду, па полю іду — красуюся,
Дамоў прыйду, дамоў прыйду — не шчуюся.

561. Да месяцу яснюсенькі,
Асвяці нам дарожаньку,
Кудою йсці дадоманьку.
Каля саду-вінаграду
Да к войчаньку на параду,
Каля саду вішнёвага
Да войчанька радзонага.
Парадзь, парадзь мне, войчанька:
Як мне зіму зімаваці?
Як мне лета летаваці?

562. Перапёлка! Трысцяно гняздзечка,
Залато яечка. Перапёлка!
Перапёлка! Не вій ты гняздзечка
Блізка пры дарожцы. Перапёлка!

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Перапёлка! Пастушкі пагонюць,
Гняздзечка распоруць. Перапёлка!
Перапёлка! Гняздзечка распоруць,
Яечкі пабяруць. Перапёлка!
Перапёлка! А завій ты гняздзечка
На зялёным дубе. Перапёлка!
Перапёлка! Вецярок павеіць,
Дзетак пакалышыць. Перапёлка!
Ой, дзеванька! Не вій ты вяночка,
Восень недалёчка. Ой, дзеванька!
Ой, дзеванька! Сваточкі прыедуць,
Цябе з сабою возьмуць. Перапёлка!

563. Цераз гай зялёненькі
Бяжыць конь вароненькі,
А за ім ў пагоню гоніць
Іванька маладзенькі.
А дзевачка ваду брала,
На коніка паглядала.
— А дзевачка-ягадачка!
Перайм́і майго каня варанога,
Мяне, князя маладога.
— Іванічка, душа мая!
А ці я ў бору расла?
А ці я ў мяжы цвіла?
Да я расла ў татулечкі,
Кахалася ў мамулечкі.
Я ў мамулечкі кахалася,
А табе, Іванічка, дасталася.

564. Да чые то коні ў чысценькім полі
Шоўкам да папутаны, золатам пагнузданы?
Да Іванавы коні да ў чысценькім полі,
Шоўкам папутаны, золатам да пагнузданы.
— А ты, дзевачка-пані, перайм́і маіх коней,
Пераняўшы, распутай, распутаўшы, разгнуздай,
Шоўк табе да ў косачку, золата на галоўку.
— А ты, Іваначка-пан, пан, перайм́і каня сам, сам,
Пераняўшы, распутай, распутаўшы, разгнуздай,
Шоўк табе да на паясочак, золата на брылёчак.

565. Закацілась жарка сонца за дуброву,
Люлі, люлі, люлюшанькі, за дуброву,
Баліць мая галовачка — хоча двору.
Я не спала, маладзёшанька, не драмала,

Я ўпусціла сакалочка з рукавочка,
Люлі, люлі, люлюшанькі, з рукавочка.
Я, ўпусціўшы сакалочка, не ўлавіла,
Люлі, люлі, люлюшанькі, не ўлавіла,
А я свайго міла дружка разгнявіла,
Люлі, люлі, люлюшанькі, разгнявіла.
Разгнявіўшы міла дружка, не ўпрасіла,
Люлі, люлі, люлюшанькі, не ўпрасіла.

566. Мая мамка, мая кветка,
Не аддавай мяне ўлетку,
Да аддавай мяне ўзімку,
Штоб сабрала сабе сілку
На свёкраву дзесяцінку,
Бо у свёкра поле далёкае,
А загоны шырокія,
Азяроды высокія,
А падпоры жалезныя,
А жнеечкі маладыя.
Я з імі не сажнуся
Да з загонам астануся.

567. Пара, маці, да ячменю жаці —
Каласочак наліўся.
Пара, маці, дачку замуж даці —
Галасочак змяніўся.
— А няхай жа мой ды ячмень зрэе,
Каласочак ядранее.
А няхай жа мая ды дачулечка
А жывець, разумнее.

568. — Ой, красуйся, жыцейка,
Калі цёпла лецечка.
— Як жа мне красавацца?
Буен вецер павяваець,
Буен вецер павяваець,
Красу маю абіваець,
Не даець красавацца.
— Ой, красуйся ж, дзевачка,
У роднага татачкі.
— Як жа мне красавацца?
Кожны дзень сваты едуць,

Кожны дзень сваты едуць,
Не даюць красавацца,
Не даюць красавацца,
У белае прыбірацца.

569. А гуляла сонейка
Да па ясненькім небе.
А гуляла, гуляла,
У хмарачку хавалася:
Месяца баялася.
— Хавайся, не хавайся,
Я цябе хоць дзе найду,
Я цябе к сабе вазьму!
А гуляла дзяўчынка
Да па новенькім ганку.
А гуляла, гуляла,
У дзевачак хавалася:
Малайца баялася.
— Хавайся, не хавайся,
Я цябе хоць дзе найду,
Я цябе к сабе вазьму!

570. Ой, дымна поле, дымна,
Нічога не відна:
Ці рой вылятаіць,
Ці мак зацвітаіць.
Ой, не рой вылятаіць,
Не мачок расцвітаіць.
Там Яначка ваюіць,
Па ім мамка бядуіць:
— Памажы яму, божа,
Цясцёў двор зваяваці,
Сабе Ганульку ўзяці.

571. — Селязенька, ці высока лятаеш?
Быстры крыллі маеш?
Ці пераляціш шырокае поле,
Глыбокае мора?
Ці перанясеш таткаву негу
К свёкру на падвор'е?
— Не пералячу шырокага поля,
Глыбокага мора,
Не перанясу таткавы незі
К свёкру на падвор'е.

572. Лета ж маё, лецейка,
Ужо я твая не жнеечка!
Матка ж мая ды матуленька,
Ужо [redacted] твая не служачка!
Таго ж я служачка,
З кім на каберцы стаяла.

573. І маменька, мая кветка,
А-а-эй, і маменька, мая кветка,
Не аддавай замуж улетку,
Да аддавай жа мяне ўзімку,
А-а-эй, да аддавай мяне ўзімку.
Я за зімку збяру сілку,
Я за зімку збяру сілку,
А-а-эй, я за зімку збяру сілку
На свякраткіну ніўку,
Бо свякраткіна ніўка,
А-а-эй, бо свякраткіна ніўка
Вяліка, ўрадліва.
А я, жнучы, патамлюся,
А-а-эй, а я, жнучы, патамлюся,
Прыйду дамоў — наплачуся.
А майго таткі ніва,
А-а-эй, а майго таткі ніва,
Хоць вяліка, неўрадліва.
А я, жнучы, не ўтамлюся,
А-а-эй, а я, жнучы, не ўтамлюся,
Прыйду дамоў — напяюся.

574. Як пайду я дуброваю,*
Паламлю я каліначку,
Пакідаю на дарозе,
Сама сяду пры бярозе.
Ці не йсціме мой татачко?
А каго ж ён пашкадуе:
Ці каліны зеляное,
Ці мяне маладое?
Не жаль жа мне каліначкі,
А жаль жа свае дочкі.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

575. Пахвалялася чырвона каліна,
У лузе стоячы:
— Ніхто мяне не ссячэць
Без сечы, без меча.
Як зачуў, пачуў
Ціхі, дробны дожджык:
— Не выхваляйся, чырвона каліна,
Я цябе ссяку без сечы, без мечы.
Выхвалялася маладая Мар'ічка
Ў свайго роднага таткі:
— Ніхто мяне не возьмецъ
Без піва, без мёду,
Без вялікага роду.
Як зачуў, пачуў
Маладзенькі Іван:
— Не выхваляйся, маладая Мар'ічка,
Ў свайго роднага таткі!
Я цябе вазьму без піва, без мёду,
Без вялікага роду.

576. Заламлёна ў лузе каліна
Яшчэ недазрэла,
Заламлёна.
Хто ж яе смеў так зялёну заламіць,
Яшчэ недазрэлу,
Хто ж яе смеў?
Заламіў яе ціхі, дробны дожджык
І буйненькі ветрык,
Заламіў яе.
Заручона малада дзяўчына
Яшчэ недаросла,
Заручона.
Хто яе смеў так маладу заручыць,
Яшчэ недарослу,
Хто яе смеў?
Заручыў яе малады Андрэйка
Яшчэ недарослу,
Заручыў.
Ды вязёна лугом-берагом,
Калінавым мостам,
Ды вязёна.
Прывязёна к цісовай краваці
Белу ложу слаці,
Прывязёна.

Ні так яна белу ложу сцеліць,
Як сільненька плачаць,
Ні так яна.
— Ды не ўчыла мая маці
Белу ложу слаці,
Ды не ўчыла.
Толькі ўчыла мая маці
Цянюсенька прасці,
Толькі ўчыла.
Толькі ўчыла цянюсенька прасці
Ды гусценька ткаці,
Толькі ўчыла.
Толькі ўчыла беленька бяліці,
Хораша пашыці,
Міламу надзеці,
Людзям паглядзеці.

577. Кругла, мала,
Кругла, мала
Балоцітка.
А хоць яно,
А хоць яно
Кругла, мала,
Але яно,
Але яно
Урадліва.
Наляцела,
Наляцела
Гусей многа,
Ні адны гусі,
Ні адны гусі,
Есць і лебедзі.
Нізка, мала,
Нізка, мала
Яніначка,
А хоць яна,
А хоць яна
Нізка, мала,
Але яна,
Але яна
Шчаслівая:
Наехала,
Наехала
Сватоў многа,

Ні адны сваты,
Ні адны сваты,
Есць і сваціцы.

578. Чорная смародзіна
На тын налягаіць,
Тыночкі паламаець.
Да й к чыму ж гэта двару
Сватоўя наязджаюць?
К Васількаваму двару
Сватоўя наязджаюць.
Вой, чуюць яны Тэклячку маладую,
Тэклячку маладую, пасагу вялікую:
Два кані вараныя,
Два валы палавыя.

579. — Сіняе азёрачка,
Чаго затанула?
— Як жа мне не тануці?
Наляцелі шэры гусі
Й беражкі абтапілі,
Наляцелі шэры гусі,
Беражкі абтапілі
І вадзіцу замуцілі.
— Маладая Манечка,
Чаго ж ты зажурылася?
— Як жа мне не журыцца?
Наехалі чужаземцы, майго татку ўпаілі,
Наехалі чужаземцы, майго татку ўпаілі,
Маю мамку абманілі
І мяне заручылі.

580. Пад арэхавым кустом
Начавалі начлежнічкі,
Начуючы, агонь клалі
Да й хлопчыка пагуквалі:
— Да хлопчычак-брацейка,
Тут твайго каня няма,
Да пабег твой конічак
Па залаты пярсцёначак
І па белу пярыначку,
Па маладу княгінечку.

581. На тыне, на тыне,
На новым частаколе
Сядзела галубачка
Па каленцы ў золаце.
Маладзенькі малойчык
Улавіў галубачку,
Улавіў галубачку,
Прынёс дахатачкі,
Пасадзіў на лавачцы,
Пахваліў мамачцы:
— Паглядзі, матулечка,
Ці міла галубачка?
— Ці міла, ці няміла,
Яна мая слуга будзе,
А твая жана будзе.
Яна мне на час слуга,
А табе навек жана.

582. Учора была субота,
А сягоння нядзелечка,
Пайшла маці жыта жаці,
Стала сярпы раскладаці
І жэнчыкаў расстаўляці.
Божа мой міласцівы,
Няма сярпа залатога
І жэнчыка маладога.

583. Выйшла маці жыта жаці,
Стала сярпы перакладаці.
Няма сярпа залатога —
Жанца маладога.
Выйшла свякроў жыта жаці,
Стала сярпы раскладаці.
Прыбыў сярпок залаценькі —
Жанец маладзенькі.

584. Закурыўся ціхі, дробны дожджык
Да па чыстаму полю,
Зажурыўся мой татачка родны
Па маёй горкай долі.
Не курыся, ціхі, дробны дожджык,
Да па чыстаму полю.

Не журыся, мой татачка родны,
Па маёй горкай долі.
Ні сама я долечку шукала —
Мужа выбірала.
Пан багаты з залатой палаты
Даў мне мужа ката.
Закурыўся ціхі, дробны дождждык
Да па чыстаму полю,
Зажурыўся мой татачка родны
Па маёй горкай долі.

585. Сакатала сонейка,
Ды за лес заходзячы,
Плакала нявестачка,
Пад сяло падходзячы:
— Журыць, дурыць свёкарка,
Што рана дамоў прыйшла,
Што рана дамоў прыйшла,
Не вячэраўшы, найшла
Лыжачкі нямытыя,
Пасцелькі нясланыя.
Не сварыся, татулька,
Другі раз пазней прыйду,
Павячэраўшы, найду
Лыжачкі памытыя,
Пасцелькі пасланыя.

586. Да павень, ветру, з лугу,
Разнясі маю тугу,
Каб я болей не тужыла,
Пакуль буду жыва,
Па бацькавай незе,
Па матчыным гадаванні,
Па дзявочым красаванні.

587. Шуміць, гудзе дубровачка,
Шуміць, гудзе, ой, дубровачка, дубровачка,
Што чужая ж староначка, і староначка.
Няма к каму ж, эй, прыхінуцца, і прыхінуцца.
А прыхінуся ж я к бярозе, я к бярозе,
А бярозачка, эй, не мамачка,
Бярозачка ж не мамачка,

Шуміць, гудзе, эй, галлё ж ломіць, галлё ломіць,
Ка мне слоўца не прамовіць.
Прыхінуся, эй, я к дубочку, і я к дубочку,
Дубок жа, эй, ні татачка,
Дубок жа ж ні татачка,
Зяляненькі, эй, не родненькі,
не родненькі,
Шуміць, гудзе, эй, галлё ж ломіць, галлё ж ломіць,
Ка мне слоўца ж, эй, не прамовіць.

588. Павілося бела павучынне
Па чысценькім полі,
Павілося.
Не ўдалося мне, маладзенькай,
На чужой старонцы,
Не ўдалося.
Я не ўмею ні таўчы, малоці,
Я не ўмею.
Толькі ўмею шыці й вышываці,
Беленька хадзіці,
Толькі ўмею.
Беленька хадзіці, з мілым гаварыці,
Толькі ўмею.
З мілым гаварыці
І яго любіці,
Толькі ўмею.

589. Чырвоная да каліначка,
Не хіліся над вадою,
Не хіліся над вадою,
Не хваліся ягадою,
Не хваліся тонкім станам,
Не хваліся дробным лісцем.
Як я была ў свайго таткі,
Як я была ў свайго таткі,
Красней была тваіх ягад
Да здаравей твайго стану.
А цяпер я стала ды ў старога
У свёкарка да ў ліхога,
У свёкарка да ў ліхога,
Тонка стала, як былінка,
Да бяленька, як ліпінка.

590. Сварылася свякровачка,
Што рана дамоў прыйшла.
— Не сварыся, свякровачка,
Заўтра я пазней прыйду:
Сонца зайдзець, я жаць буду,
Па месяцу насіць буду,
Па звёздачках лічыць буду,
Што звёздачка, то копачка,
Не сварыся, свякровачка.

591. Пайду я па калоддзю,
Збіраючы па ягодзі.
Спеленькія ў кузачку,
А зялёныя ў лубачку.
Спеленькія — то мамачцы,
Зялёныя — свякровачцы.
А мамачка пажалее,
За ягады падзякуе:
— Дзякуй за ягадкі
За спелыя й за салодкія.
Беручы ўмарылася,
А несучы ўтамілася.

592. Я жну і валы пасу,
Каробачку малін нясу.
Каробачка маленькая
Для свайго міленькага.

593. Як пайду я, пайду,
Я ціха падумаю,
Як ліст на Дунаю,
А як падайду
К татку пад акно:
— Дзень добры, тата,
Мой татуленька родны,
На беленька ложа.
— На здароўе ты, мая дачушка
І чужая пасялушка.
Чаго, дачушка,
Гэтак рана ходзіш,
Расіцу абіваеш?
— Гэта ж, татулька,

Свекраткава нега
І таткава няволя.
Як жа я была
У роднага татанькі
І роднай матулькі,
Дык я ж не знала,
Адкуль сонца ўсходзіць
І куды заходзіць,
Дык я не знала,
Калі кароў дояць,
Калі ў поле гоняць.
А як досталася
Журліваму свёкру,
Дык стала знаці,
Адкуль сонца ўсходзіць
І куды заходзіць,
Дык я стала знаці,
Калі кароў дояць
І ў поле гоняць.

594. Лятала серая перапёлка
Да па жоўтаму полю,
Шукала серая перапёлка
Свайго гняздзечка,
І дзе ляжала яе яечка,
І дзе дзеткі сядзелі
І ў палёт паляцелі.
Хадзіла бедная сірацінка
Па багатаму полю,
Шукала бедная сірацінка
Свайго роднага бацькі,
А знайшла студзёную вадзіцу
Ў рубленым калодцу.
— Ўскалыхніся, вада,
У рубленым калодцу,
Адгукніся, мой бацюшка,
На чужой старонцы.
Не скалыхнулася вада
У рубленым калодцы,
Не адгукнуўся бацюшка
На чужой старонцы.

595. Да гула пчолка, гула,
Па бару лятаючы
Да мядок збіраючы:
— Горкі мой мядочку
Да без цябе, мой бортнічку.
Да плакала ўдовачка,
Да па двару ходзячы,
Да дроўцы збіраючы,
Да абед гатуючы:
— Горкі мой абедзе
Да без цябе, мой міленькі.
Сама сяду на покуці,
А дзеткамі абсажуся,
Слёзкамі абальюся.
Дзеткі ж мае маленькія,
Слёзкі мае драбненькія.
Дзеткі мае пабольшалі,
Слёзкі мае пагоршалі.

596. Гула пчолка, гула пчолка,
Да па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы:
— Ой, горкі мой мядок, горкі
Да без мае грамаданькі,
Ўсяняк свой мёд патраціла,
Сама ў борцю не трапіла.
Ох, заплакала удованька,
Да па садочку ходзячы,
Вячэраньку гатуючы:
— Горка ж мая вячэранька
Да без майго міленькага.
Сама сяду проці стала,
Дзеткі ж мае па застоллю,
На покуці нікога нет —
Такая вячэра, такі і абед.
Дзеткам даю хлеб веяны,
Сама ем ячну зацірку.
Дзеткі ядуць, а я плачу:
З мілым піла мёд і гарэлку.

597. У добрага пана
Пры месячку жыта жала.
Бадай яму кроўна,
Што пускаў дадому цёмна.
Бадай яму горка,
Што пускаў дадому зоркай.

598. У слаўнага пана
На зары жыта жала,
Па месяцу копы клала,
Дадому пайшла па ночы,
Вячэрала пры свечы,
У белым свеце спаць лягла,
Лажылася, гаварыла:
— Божа мой, калі я запачыну!
Ужо ж свет за гадзіну.

599. Да ў нашага пана
Да нядобрая слава:
Па месяцу жыта жалі,
Па зоры копы клалі.
Цёмна ў полі, цёмна,
Бадай таму цямней было,
Хто дахаты не пушчае
Да на полі нас трымае.
Да мы позна з поля ідзём,
Да прыганятага клянём.

600. Калі ж тая серада прайшла,
Як я не еўшы на прыгон пайшла,
Увесь дзень жала, не лянілася,
Злому войту пакланілася.
А цяпер не аб чым тужыць:
Войт п'яны ў карчме ляжыць.

601. Ніўка, ніўка, аддай маю сілку
На другую ніўку!
На коніка лой, на ніўку гной,
А мне здароўя!

Судзі, божа, налета жаці
І ядранейшае і гусцейшае.

602. Чыя ж гэта барада
Мёдам-віном уліта,
Чорным шоўкам ушыта?
Рана, рана!
Сцяпанава барада

Мёдам-віном уліта,
Чорным шоўкам ушыта,
Рана, рана!
Ты, Анютка, не гуляй,
Шоўк з барады выбірай,
Рана, рана!

*Скупому гаспадару пяюць:*

Чыя ж гэта барада
Смалой, дзёгцем уліта,
Дратваю ушыта?
Рана, рана!
Міхалкава барада
Смалой, дзёгцем уліта,
А дратваю ушыта,
Рана, рана!
Ты, Катрынка, не гуляй,
Смалу з барады выбірай,
Рана, рана!

603. А чыё поле дрэмле?
Тадоркава дрэмле поле:
Там жнейкі ўсе старыя,
Сярпочкі лубяныя.
А чыё поле іграе?
Пацічэльскае поле іграе:
Там жнейкі маладыя,
Іх сярпочкі залатыя.

604. Чыё гэта поле зазвінела скора,
Зазвінела скора?
Жнеі маладыя, сярпы залатыя,
Сярпы залатыя.
Да абеда жалі, сярпы пазлачалі,
Сярпы пазлачалі.
Чыё гэта поле задрамала стоя,
Задрамала стоя?
Жнеі старыя, сярпы лубяныя,
Сярпы лубяныя.
Да вечара жалі, сярпы паламалі,
Сярпы паламалі.

605. Хадзі, выйдзі, пане гаспадару,
Да выглянь, выглянь да на сваю ніўку:
Што на тваёй ніўцы да рыжэецца,
Да рыжэецца да бялееца,
Да бялеецца да лілеецца?
Да рыжэецца буйнае жыта,
Да бялеюцца маладыя жнеі,
Да лялеюцца сталёвыя сярпы.
Жанцы жалі, ў копы клалі,
У копы клалі, сцірты мяталі,
Дзе горачка — там копачка,
Дзе даліначка — там сцірдачка...

606. Ляцеў саколік па полю,
Збіраў пташачкі да бору:
— Да бору, пташачкі, да бору,
Ужо наляталіся па полю!
— Нямнога ж мы лятаді,
Чырвоны ягадкі збіралі!
Ездзіў гаспадар па полю,
Збіраў жанцы дадому:
— Дадому, жэначкі, дадому,
Ужо нагуляліся па полю!
— Нямнога то мы гулялі,
Усё густа жыта жалі,
Тоўстыя снапкі вязалі,
Частыя копкі складалі.
Колькі на небе зорачак,
Столькі на полі копачак.

607. Павейце, ветры,
Рана, рана, *
Па чыстым полю.
Нясіце весці
Нашаму пану,
Што яго жнейкі
Жыта пажалі,
У копы паклалі.
Ой, часта, густа
На небе звёзды,
Ой, часцей, гусцей
На полі копы.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Ой, шырок, высок
На небе месяц,
Ой, шыры, вышы
Ля гумна скірта!

608. З-пад цёмнай хмары *
Ці не сокал вылятае,
Гаспадарык выязджае,
Сваіх жнеек выглядае:
— Ці ідуць мае жнейкі,
Ці нясуць мне дажынкі
З далёкага поля,
З густога жыта.
З залатога куста
Будзе мне хлеба луста.

609. — Ды чые там жнейкі йдуць,
Як пчоланькі, гудуць,
Залатыя сярпы нясуць?
— Андрэйкавы жнейкі йдуць,
Залатыя сярпы нясуць.

610. Адчыняйце шчытовы вароты,
Ідуць жнеі з работы,
Ні так жа з работы,
Як з жаркай пякоты.
Вечар вечарэе, душа весялее,
Заранка зарае, душа занывае,
Што трэба ісці на работу,
На жарку пякоту.

611. Віншую паноў вянком,
Паны мяне мядком.
Перанёс бог цераз сярпок,
Перанясі, божа, цераз душок,
Цераз осетку матку,
Цераз лёгкі дух.
Судзіў жа, божа, пажаць,
Судзі жа, божа, спажыць
У карысці, ў радасці.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Дай жа, божа, панам з гэтага дабра
Піва варыць, панічоў жаніць,
Гарэлку гнаць, паненак замуж выдаваць.
Дай жа панам з дробнымі дзеткамі
На жыццё, на багацце,
На доўгі век і добры савет.

612. Сягоння ў нас вайна была:
Да мы поле зваявалі,
Да мы поле зваявалі —
Усё жыта пажалі.
Наш пан ходзіць у злоце,
Наша пані — ў аксаміце,
Ахмістрыня — у кармазыне,
Чалядзіна — ў сярмяжыне.
Сягоння ў нас дажыначкі,
Дасць нам пан гарэлачкі.

613. У нас сягоння вайна была:
Усё поле зваявалі,
Да пану жыта пажалі,
Пане ж, не улякайся,
Да ў пакой не хавайся,
Бо мы ёсць не жаўнеркі,
А панскія жнейкі.
Да выходзь, пане, выходзь,
А віна бочку выкоць
І белы сыр на талеркі,
Частуй свае жнейкі.
Да ўмеў жа нас прыганяць,
Умей цяпер частаваць.

614. У нас сягоння вайна была:
Мы усё поле зваявалі,
У снапочкі павязалі,
У копачкі паскладалі,
Свае ручкі патамілі,
Галовачкі засмуцілі.
Не сабе ж мы гэта жалі,
Толькі пана ўзбагацілі.

615. Не ўлякайся, гаспадару,
Не татары на двор едуць —
Гэта твае жнейкі йдуць,
Харошыя ж песні пяюць,
Ай, добрыя мыслі мысляць.

616. Каціўся вяночак па полю,
Прасіў жэнчыкаў дадому:
— Ідзеце, жэнчыкі, дадому,
Занясеце мяне ў стадолу.
Палажэце мяне ў старону,
Ой, то я пайду на ніву,
Ой я, мне на ніву гадзіна,
Ой я, мне ў старане гасціна!
— Адчыняй нам, пане, вароты,
Нясемо вяночак з золата,
Ой, не з золата, з крапівы,
Бо шчэ мы гарэлкі не пілі.

617. Дажынкі, пане, дажынкі,
Не жалей, пане, гарылкі,
Не жалей, пане, жарабца,
Пайшлі да Бярэсця па грайца —
То будуць музыкі іграці,
То будуць жэнчыкі гуляці.

618. Паночак, паночак, рахуйся з намі,
Плаці ж, плаці ж хоць талярамі!
Да мы ж тваю ніўку зжыналі.
Да мы сваю сілу спацыралі.
Слава да і слава, паночак, твая!
Да й п'яна, да й п'яна талака твая.
Да ўчыніў, учыніў паночак славу:
Папаіў, папаіў талаку сваю.
Сакатала сарока, на тычынцы седзючы,
На тычынцы седзючы, на хмялінку гледзючы.
Пахваліўся паночак, з панею седзючы:
— Папаю жнеечак з дубовай бочачкі,
З дубовай бочачкі, з залатой чарачкі.

619. Да зелен явар, зелен
Над усімі яварамі,

Славен, славен наш гаспадар
Над усімі мужамі —
Да выкаціў бочку мёду,
А другую гарэлкі,
Да напаіў ён свае жнейкі.
— Піце, мае жнейкі, до дна,
Каб на лета было [жыта] родна.

620. Да славен бобра 2
За кунамі, сабалямі.
Да славен наш пан 2
З слаўнымі жнейкамі.
Да зарання, да зарання
Мы жыта жалі, 2
Да ўсіх паноў, да ўсіх паноў
Мы ашукалі. 2
Да выкаць нам, пан, бочку мёду
І станоўку гарэлкі,
Да папаіць свае жнейкі.

621. Гаспадынька па двару пахаджае,
Сваіх жнеек паглядае:
— Ды чы ідуць мае жнейкі?
Чы нясуць мне дажынкі?
— А мы жнейкі маладыя,
Нашы сярпочкі залатыя,
А мы жнейкі не жаўнеркі,
Не п'ем простай гарэлкі,
Мы жнейкі-шляхцянкі —
Нам гарэлкі шафранкі,
Мы жнейкі-аксаміткі,
Нам гарэлкі акавіткі.

622. Гаспадыня дамовая,
Чы вячэра гатовая?
Мы жончыкі маладыя,
Ў нас серпікі залатыя,
Мы густое жыта жалі
І серпікі паламалі.

623. Разгарыся, вячэрняя зорка,
Перад ранняй,
Расхадзіся, наша гаспадынька,
Перад жнейкамі,
Кажы выносіць цясовыя сталы
На чыстыя двары,
Бяры залатыя ключы
З-пад пояса,
Адмыкай жа залатымі ключамі
Зялёную скрыню,
Выбірай ў зялёнай скрыні
Бялёвыя абрусы,
Засцілай, наша гаспадыня,
Цясовыя сталы,
Налівай жа, наша гаспадыня.
Залатыя кубкі,
А частуй жа старшую жнейку,
Пастацяначку:
— Будзь здарова, старшая жнейка,
Пастацяначка!
На здароўе, мая гаспадыначка,
Сенатарачка!

624. Выхадзіла цёмная туча
З-за цёмнага лесу,
Выхадзіла,
Да не выйшла цёмная туча
З-за цёмнага лесу,
Ды не выйшла.
Толькі ціхім прыгнала ветрам
Дробненькага дажджу,
Толькі ціхім.
Ах, павейце, ціхія ветры,
Па шырокім полі! . .
Ах, павейце, ціхія ветры,
Па ядраным жыце,
Ах, павейце! . .
Выхадзіла к нам гаспадынька
Раненька на ніўку,
Ды не выйшла.
Толькі слала сыноў-сакалоў,
Дачок-перапёлак,
Толькі слала.
Толькі слала дачок-перапёлак,
Нявестак-лябёдак,

Толькі слала.
Пажынайце, нявесткі-лябёдкі,
Дочкі-перапёлкі,
Пажынайце!
Паспрыяйце шыроканькай ніўцы,
Ядранаму жыту,
Паспрыяйце!

625. Ой, хадзіў Раю,
Ой, хадзіў Раю, Раю, мой Раю,
Да па вуліцы.
І ніхто Раю, Раю, мой Раю,
У хату не клічыць.
Ой, абазваўся,
Ой, абазваўся,
Раю, мой Раю,
Молад Іванка:
— А хадзі, Раю,
А хадзі, Раю, Раю, мой Раю,
Ка мне ў хатку.
У маёй хатцы,
У маёй хатцы, Раю, мой Раю,
Як у святліцы.
Стаяць столікі,
Стаяць столікі, Раю, мой Раю,
Пазасціланы.
Кубачкі мёдам,
Кубачкі мёдам, Раю, мой Раю,
Паналіваны.
Жнеечкі мае,
Жнеечкі мае, Раю, мой Раю,
Пазазываны.
Усе ў радочак,
Усе ў радочак, Раю, мой Раю,
Папасаджаны.

626. Хадзіў Спарыш па вуліцы,
Па вуліцы па шырокай,
Па мураўцы па зялёнай.
А ніхто Спарыша ў двор не завець,
Выйшла, выехала Хвядорыха:
— Хадзі, Спарыш, ка мне на двор,
Ка мне на двор, за цясовы стол:

У мяне сталы пазасціланы,
Віном кубкі паналіваны,
У мяне пірагоў панапечана,
У мяне мёду панасычана,
У мяне кашы наварана.
Сядзь, Спарыш, на покуці,
На покуці да на золаце.
Пі, Спарыш, зялёна віно.
Спарыш, божа, у маім гумне,
У маім гумне, у маім дварэ:
На таку ўмалот, а ў дзяжы падход,
А ў печы рост, а на стале сыццё.

627. Сам бог жыта зажаў,
Ілля снапы вязаў,
А святы Барыс у копы клаў.
Да йшлі яны дарогаю,
Дарогаю шырокаю, дуброваю зялёнаю.
Дзяніска ля варот стаіць
Да шапачку ў руцэ дзяржыць:
— Ка мне, божа, ка мне,
Да не ка мне, к майму айцу.
Да ў майго бацюхна гумно вялікае,
Застаронкі шырокія, вароцеткі двайчастыя
Да копы частыя,
Малацьбіты маладыя,
Да ў іх цапы залатыя,
Веелачкі букавыя,
А мяцёлачкі шаўковыя.

628. А чы поўна арэхавая чаша
Ядром налітая?
А так поўна — ні калыхнецца
І ні пральецца.
А чы поўна гаспадара гумно
Дабром навязёна?
А так поўна — ні з канём уехаць,
Ні пехотаю ўйці.
Толькі можна сокалу ўзляцець,
Дабро паглядзець.

629. Жала я жыта да не ляжала,
Ой, я жала яго па шчырай праўдзе,
Да не давайце да па чарачцы,

Да давайце па цэлай кварце.
Й ад чарачкі я не ўп'юся,
Й ад квартачкі ж да не павалюся,
Ой, я ж табе, мой бацюхна,
Йшчэ ж дзянёк да пажынаю.
Да лугамі ж йду, песні ж пяю,
Й аж лужочкі разлягаюцца.
Да сялом іду, сільна плачу,
Варожачкі ж пацяшаюцца.
— Да пацяшайцеся, да варожачке,
Да й на сваё ж да бяздоллейка,
Ах, я ж пецьму ж да й гуляцьму,
Калі ж маё да й здароўечка.

630. Вячэрняя зара ясна,
Ранняя яснейша,
Двараніна жана красна,
У селяніна краснейша.
Дваранінава жана ўлетку халадуе,
Зімой галадуе.
Селянінава жана ўлетку пажынае,
Зімой пажывае.
— Селянін, змяняй жану,
Дам каня варанога, вала палавога.
— Я прыдатку не хачу,
Сваёй жонкі не мяняю.
— А хоць я ў бяду ўпаду,
Але ў селяніна жану ўкраду.

631. А я жала, зажалася
І з хвасточкам асталася.
Я думала — скрыпкі граюць,
А то ж мяне ў хвасце лаюць:
— Ці ты спала, маладая,
Ці з хлапцамі прагуляла?

632. Ой, я ў бары жыта жала,
Ой, я жала, не ляжала,
Ой, я жала, не ляжала,
За дзень тры снапкі нажала.
— Паедзь, мілы, па жыцечка
Ды не бяры рубля з дому

А вырубай бярэзіну
Ды на маю сярэдзіну.

633. Хто не ўмее араці,
Таму хлеба не даці.
Запрагаю пару валоў,
Выязджаю на папару.
Мае валы-жабракі
Пахінулісь на бакі.
Як з дому ўбачылі,
Сто бізуноў адлічылі:
То ў рала, то ў цела,
Аж кашуля запацела.
Хто не ўмеіць араці,
Таму хлеба не даці,
А ні хлеба, ні бацвіння,
Няхай пасець, дурань, свінні.
Яму свінні здакучылі,
Араць яго навучылі.

634. А каб нам жа чатыром
Па коніку вараном,
Мы ж бы сабе паязджалі.
А каб жа нам чатыром
Гарэліцу з каўбуром,
Мы ж бы сабе папівалі.
А каб жа нам чатыром
Па вячэраньцы смашнай,
Мы ж бы сабе паядалі.
А каб жа нам чатыром
Па скрыпачцы з дударом,
Мы ж бы сабе пагулялі.
А каб жа нам чатыром
Па молайцу маладом,
Мы ж бы сабе жартавалі.
А каб жа нам чатыром
Пасцеленька мякка,
Мы ж бы сабе паспалі.

635. Дубочак зеляненькі,
Наш пан маладзенькі.
Ляшчына зеляне́йша,

Наша пані маладзейша.
Шчасце, долю маюць,
Рана з поля збіраюць.

636. Да засею я поле
Да ясненькім золатам,
Да засцялю я лугі
Чырвоным кармазынам.
А замашчу я масты
Залатым мастоўнікам.
Будзе ехаць Валынечка,
Наша пана дачка.
Пад ёю конькі, як галкі, лятаюць,
Каля яе служачкі, як мак, расцвітаюць.
Да ўцешыўся ягамосць, у пакоі седзячы,
Праз акенца гледзячы:
— Да хвала ж мая, хвала,
Што едзе мая паня.

637. Да зялён наш бор, зялён
Над усімі барамі,
Да славен жа наш пан, славен,
Над усімі панамі.
У нашага пана
На дварэ куна йграе,
На дварэ куна йграе,
Сабаля вызывае:
— Да саболю, саболю,
Пагуляем з табою,
Пагуляем з табою,
Развесялім свайго пана.
Наш пан вяліку думу мае,
Тры двары будуючы:
Адзін двор у Вальшанах,
А другі у Львове,
А трэці ў сваім доме.
Да Альшан дачку дае,
А у Львове сына жэніць,
У сваім доме сам жывець.

638. А зелен наш бор, зелен
Над усімі барамі.
— А чым жа ён зелен?

— Поўна красачак у ём.
А славен жа наш Барыска, славен
Над усімі панамі.
— А чым жа ён славен?
— Поўна гумно жыцечка навёз,
Калі бог спаможыць —
І ярыной даложыць.

639. Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала,
Рада, рада.
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта пажала.
Рада, рада.
Што жыта пажала,
У снапы павязала,
Рада, рада.
Снапы павязала,
Бабкі пастаўляла,
Рада, рада.
Рада, рада, у бабкі пастаўляла,
Копы палічыла,
Рада, рада.
Копы палічыла, у сцірты паскладала,
Рада, рада.

640. Да чые ж жнейкі, чые
Па месяцу жыта жалі,
Сярпочкі пагублялі,
Шукаючы ўрасіліся?
Да Сымонкавы жнейкі
Па месяцу жыта жалі,
Сярпочкі пагублялі,
Да хадзіўшы умачыліся,
Да дадому спазніліся.

641. Чый жа гэта двор —
Да тры калы ўбіты?
Чый жа гэта двор, двор?
Янкаў жа двор —
Да тры калы ўбіты
Й карыной накрыты.
Чый жа гэта сын, сын

Ды па двару ходзіць,
Атопкі носіць?
Янкаў жа сын, сын
Ды па двару ходзіць,
Атопкі валочыць.
Чый жа гэта двор, двор,
Залаты тын, тын,
Сярэбраны вароты?
Чый жа гэта сын, сын
Па двару ходзіць, ключыкі носіць?
Ахрэмаў сын ключыкі носіць.
Я ж не магу па двару хадзіці,
Ключыкі насіці,
Толькі магу ля столу стаяці,
Гасцей частаваці,
Толькі магу.

642. Іванавы пчолкі па полі лyталі,
Чэсць яму, хвала яму, па полі лyталі.
Па полі лyталі, мядок сабіралі,
Чэсць яму, хвала яму, мядок сабіралі.
Мядок сабіралі, ў кубкі налівалі,
Чэсць яму, хвала яму, ў кубкі налівалі.
Ў кубкі налівалі, жнеек частавалі,
Чэсць яму, хвала яму, жнеек частавалі.

643. Павалам, жнейка, павалам
За нашым панам нядбалым,
Каб жа наш пан а то дбаў,
Даўно жытанька ў гумне мяў.
Ходзе наш пан па полю:
— Дадому, жытка, дадому,
Настаялася на полю,
Нагулялася ды ў волю.
Да дадому, жытка, ў гасціны,
Пойдзеш на поле на зіму.
— Лепей мне ў полі зімаваці,
Анеж у гумне ваяваці.

644. У нашага пана
Харашэнька на дварэ:
Пабудаваны свірнэ
Да й гонтамі пакрываны,

Сабалямі пабіваны.
Да й гонцікі беленькія,
Саболікі чорненькія.
Да цераз двор Дунай плыве
Трыма ручаямі:
Да ў першым ручаю —
Гарэліца горка,
А ў другім ручайцу —
Вінцо зеляненька,
А ў трэцім ручайцу —
Мядок саладзенькі.
Вінцо зеляненька
Самому пану піці,
Гарэліцу горку
Яго жнейкам даці,
Мёдзік саладзенькі
Яго слугам даці.

645. — Ой, саболю, саболю,*
Пагуляем з табою.

— Як я маю гуляці,
Вяліць пан застраляці.

Жане шубу пашыці,
Сабалём аблажыці,

А з лапачак шапачку,
Жане на галовачку.

646. У нашага гаспадара курчавая галава,
Курчавая галава, шаўковая барада,
А ён кудзеркамі патрасець —
Нам гарэлкі прынясець,
Ён бародкай патрасець —
Нам салодкай прынясець.

647. Да золата, золата
На таку малочана,
На таку малочана,
А на стале насыпана.
А хто золата пералічыць,
Той на вайну не паедзе.
Абазваўся Сымонка:

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Я золата пералічу,
А на вайну не паеду.
Вышлю сына маладога
І коніка варанога:
Конік будзе гарцаваці,
Сынок будзе ваяваці,
Я сам, молад, панаваці.

648. Да на новым ганачку
Да тры панічы рахаваліся,
Катораму панічу да што дастанецца.
Старшому панічу стаўлен горад,
А селядоршаму — вараны конік,
А малодшаму — красная панна.
Стаўлен горад да і прыстаіцца,
Вараны конік да прыедзіцца,
З краснай паннай цэлы век жыць буду.

649. А з чыйго ж то поля дабро,
З гор віно цякло,
На даліны салодкі мёд?
Нашага пана поле дабро,
Там жа яго віно цякло,
Там жа з гор віно цякло.
Там жа віно вядром бралі,
Там жа жнеек частавалі.

650. Пахіліўся зялёны дубочак
з гары ды ў далочак,
пахіліўся.
Пакланіўся малады малойчык
ды роднай матулі,
пакланіўся.
Паехаў ён долам-даліною,
чужой дальняй стараною,
паехаў ён.
Ды й вышукаць багатага цесця,
ласкавай паненкі,
пашукаць ён.
Праездзіў ён жалезныя колы,
вараныя коні,
праездзіў ён.
Не знайшоў ён багатага цесця,
ласкавай паненкі,
не знайшоў ён.

651. Гаварыла поле шырокае,
Жыта ядронае:
— Не магу я на полі стаяці,
Каласочкам махаці,
Толькі магу на полі капамі,
У гумне стагамі.
Гаварыла сужанькава маці:
— Не магу я па двару хадзіці,
Ключыкі насіці,
Толькі магу за сталом сядзеці,
Чарачкі наліваці,
Гасцей частаваці
Віном зеляненькім,
Мядком саладзенькім.

652. Сакатала бочачка,
У піўніцы стоячы:
— Калі мяне не віп'еце,
Я сама разліюся
Па дварэ расіцаю,
За варота крыніцаю.
Гаварыла дочачка
Сваёй роднай мамачцы:
— Калі мяне не аддасцё,
Я ад вас сама пайду
Па двары мяцёлкаю,
Да мілога пчолкаю,
Па дварэ расіцаю,
Да мілога сініцаю.

653. Залатая мяцёлачка
Памяла, папратала,
Памяла, папратала,
У застаронкі паскладала.
Судзіў нам бог пажынаць,
Судзі нам, бог, і спажываць
З панамі, каралямі,
З людзьмі нашымі здаровымі.

654. Залатая мяцёлачка
Усё поле падмятала,
Пазамятала, пасушыла,

У гуменцы павазіла.
Дай, бог, за год прыждаці,
Зноў вясёлым жыта жаці,
Свае лета праслаўляці.

655. Да падзякуйма богу
Да за яго выгоду:
Да за ціхае лета,
Да за буйнае жыта.
Да мы ўсё лета жалі
Да не ляжалі.
Да не ляжалі,
Усё каласкі збіралі.
Да мы поле рачком сышлі,
Да пад мяжой вянок найшлі
Да прынеслі на галоўцы,
Палажылі на талерцы.

656. Да слава табе, божа,
Што мы жыта пажалі,
Што мы жыта пажалі,
У снапочкі павязалі,
У снапочкі павязалі,
У бабачкі пастаўлялі.
Ой, раўняйцеся, копы,
У роўным полі стоячы,
У роўным полі стоячы,
На гуменца гледзючы.

657. Да на гарэ вецер вее,
Гаспадар жыта сее,
Да сеючы бога просіць:
— Зарадзі, божа, жыта,
На прышлае лета,
Да на корань караніста,
Да на колас каласіста,
Да на ядро ядраніста,
Да на таку умалотам,
А ў млыне прымалотам,
А ў дзяжы падыходам,
А ў печы румяна,
Да на стале кахана,
Да на стале, як сонейка,
Гаспадарам на здаровейка.

## ЯРЫННЫЯ

658. А ў цёмным лесе, *
Люлі, рана, мядзведзь рыкаіць.

Мядзведзь рыкаіць,
Люлі, рана, дзевак пужаіць.

Рыкай не рыкай,
Люлі, рана,— я не баюся.

Толькі ж баюся,
Люлі, рана, асенняй ночкі:

Асенняя ночка,
Люлі, рана, цёмна, вяліка.

Яна разлучыць,
Люлі, рана, з айцом і мамкай.

Яна прылучыць,
Люлі, рана, к чуж-чужаніну,

К чуж-чужаніну,
Люлі, рана к свёкру, свякроўцы.

659. Ай, у бару цецярук балбочыць,
А ён з бору ляцеці не хочыць:
Ай, у бару ягодкі салодкі,
У крыніцы вадзіца сцюдзёна.
Гапулька ад маткі ісці не хочыць:
У матулькі позняе ўставанне,
У матулькі ранняе ўкладанне,
А ў матулькі гладкае часанне,
У матулькі бела ўмыванне,
У матулькі ранняе сняданне.
У свякраткі такога не будзіць:

* Кожны радок паўтараецца.

У свякраткі позняе ўкладанне,
У свякраткі ранняе ўставанне,
У свякраткі не бела ўмыванне,
У свякраткі не гладка часанне,
У свякраткі позняе сняданне.

660. Там пад борам-лесам
Там мядзведзь рыкае,
Цёмна, позна,
Там мядзведзь рыкае.

У маладой малодкі
Свякроўка ліхая,
Цёмна, позна,
Свякроўка ліхая.

Я таму мядзвёдку
Саладзін падкіну,
Цёмна, позна,
Саладзін падкіну.

Я сваю свякроўку
Пярынай прыкрыю,
Цёмна, позна,
Пярынай прыкрыю.

Няхай той мядзвёдка
Саладзіны смокча,
Цёмна, позна,
Саладзіны смокча.
Хай мая свякроўка
Пад пярынай квокча,
Цёмна, позна,
Пад пярынай квокча.

661. Вядзьмедзька кару дзярэць,
Вядзьмедзька кару дзярэць.
Дзяўчына ваду бярэць,
Дзяўчына ваду бярэць.
— Вядзьмедзька, нашто кара,
Вядзьмедзька, нашто кара?
Дзяўчынка, нашто вада,
Дзяўчынка, нашто вада?

— Карою хатку крыці,
Карою хатку крыці,
Вадою лаўкі мыці,
Вадою лаўкі мыці.
Хатку крыці — зімаваці,
Хатку крыці — зімаваці.
Лаўкі мыці — сватоў ждаці.

662. А на гарэ дзеўка пшонку жне.
— Сцеражыся, дзеўка, тучка йдзе.
— А я гэтай тучкі не баюся:
Гэта тучка — свякроў мая,
А добры дождждык — дзевер мой,
А буйны вецер — свёкар мой.

663. — Да ўзыдзі, ўзыдзі,
Ясен месячка,
Як млыновае кола.
Выйдзі, дзяўчына, выйдзі маліна,
Да прамоў ка мне слова.
— Рада я выйсці, пагаварыці —
Мне таваё слаўцо міла,
Усе людзі судзяць, усе гавораць,
Каб цябе не любіла.
Да няхай судзяць, да няхай гавораць,
Хоць па ўсім белым свеце,
А я, малада, ў сваёй мамачкі,
Я у ружовым цвеце.

664. Хадзіла дзеванька
Каля рэчанькі,
Крыкнула, гукнула
Перавозлічку.
Адклікнуўся, адгукнуўся
Яе міленькі:
— Я ж к табе, мілая,
Чаўнаком плыву.
— На тваім чаўночку
Я не плавала.
— Я ж табе, мілая,
Масты машчу.
— Па тваім масточкам

Я не хадзіла.
— Я ж табе, мілая,
Конікаў пашлю.
— На тваіх коніках
Я не ездзіла.
— Я ж табе, мілая,
Баяроў пашлю.
— З тваімі баярамі
Я не знаюся.
— Я ж к табе, мілая,
Сокалам ляту.
— Я ж к табе, мілы мой,—
Перапёлачкай.

665. Гой, у полю, у полю
Дубочак стаяў,
Гой, а пад тым дубочкам
Ячмень малоцяць.
Гой, а паверху дубочка
Саломка ляціць,
Гой, па той бок дубочка
Рэчанька бяжыць.
А на той рэчаньцы
Лодачка плывець,
А ў той лодачцы
Малодчык сядзіць,
А чэша ён кудры
Чыстым грабянцом,
Кідае прачосы
На быстру воду.
— Плывіце, прачосы,
Да майго роду.
Там мая мілая
Хусціны мые,
Ужо мае прачосы
Здаўні пазнае.
Вы, мае прачосы,
Накажыце мне,
Ці тужа, ці плача
Мілая па мне.
— Няхай па табе тужа
Човен да вясло,
Штоб майго мілога
Далей занясло.

Няхай па табе тужа
Човен да вада,
Не я буду плакаць
Па табе, малада.

666. Ой, заржы, заржы, вараны коню,
Рана з падвор'я йдучы,
Ці не пачуе млода дзяўчына,
Ў саду вяночка ўючы.

Конічак іржаў, аж явар дрыжаў,
Дзяўчынанька пачула.
Яна пачула, цяжка ўздыхнула,
Жаласна заплакала:

— Чаму не прыйшоў ці не прыехаў,
Як я табе казала?
Ці каня не меў, ці дома не быў,
Ці маці не пускала?

— А я дома быў і коніка меў,
Мяне маці пускала,
Меншая сястра, бадай не ўзрасла,
Сядзёлачка схавала:

«Не едзь, Ясенька, не едзь, брацейка,
Да тае дзяўчынанькі —
Не ўмее жаці, ні вышываці,
Толькі косу часаці».

— Расці ты, каса, хоць да пояса,
Буду цябе часаці,
Ці не пакіне а мой Ясенька
Мяне верна кахаці!

667. Ой, там на гарэ,
На белай крамяніцы,
Там танцавалі
Дзеванькі, маладзіцы.

А паміж імі
Малады Яся ходзіць,
Сваю Касеньку
За белу ручку водзіць.

— Мая Касенька,
Не ганьбуй жа ты мною,
Мы жыць будзема,
Як галубочкаў двое!

— Рада б я была
Табою не ганьбіці,
Але будзе мяне
Мая матанька біці!

— Я твае маткі
Не вельмі-то баюся,
Кіну шапку да ног
Да вазьму пакланюся!

Мая шапачка —
Яна не дарагая,
За сто таляроў,
Дзеванька маладая!

668. — Ой ты, сіненькі галубочак,
Дзе бываў, лётаў далёка,
Дзе бываў, лётаў далёка?
Да ці быў жа ж ты на моры?
Ой, ці быў жа ты на моры,
На сінюсенькім азёры?
Да ці быў жа ж ты на азёры,
Да ці відзеў жа ж ты галубку?
— За малым, малым не відзеў,
За малюсенькім не бачыў.
Як я на моры ўзляцеў,
Дык яна ў трысцё пала.
А яна ў трысцё ўпала,
А за ёй вада шугала.
— Маладзенькі малойчык,
Дзе бываў, ездзіў далёка,
Дзе бываў, ездзіў далёка?
Да ці быў жа ж ты ў цешчы?
Ой, ці быў жа ж ты ў цешчы,
Ці відзеў жа ж ты паненку?
Да ці відзеў ты паненку,
Маладзенькую Паўлінку?
— За малым, малым не відзеў,
За малюсенькім не бачыў.

Як я на падвор'е ўз'ехаў,
Дык яна ў камору пайшла.
А на ёй жа сукні шалясцелі,
А па ёй хлопцы аж млелі.
А на ёй ленты-лілеі,
Бо яе хлопцы жалелі.

669. А пшанічка — ярыца, ярыца,
А Юзэтка — п'яніца, п'яніца,
А Агатка міленька, міленька,
Прытулілася блізенька, блізенька.
Як мы будзем туліцца, туліцца,
А людзі скажуць: любіцца, любіцца.
А пад мастом рыба з хвастом,
Вадзіца лілее, лілее,
А Агатка прасці не ўмее, не ўмее,
Шыць, мыць — не наўчыць, не наўчыць,
А жаць не прыгнецца, не прыгнецца,
Як увідзіць Юзэтку,
Так і прыхінецца, прыхінецца.

670. А каля лугу, лугу *
Там старэнечкі ходзіць,
Сухое дуб'ё ломіць,
Пра сваю старасць мовіць:
— А старасць мая, старасць,
Запрадаў бы я цябе —
Ніхто не купляець.
А каля лугу, лугу
Маладзюсенькі ходзіць,
Сырое дуб'ё ломіць,
Пра сваю маладосць мовіць:
— Маладосць мая, буйнасць,
Прыкупіў бы я цябе —
Ніхто не прадаець.

671. Журавы лятуць,
Палудзень нясуць —
Будзем мы палуднаваць.
Журавы селі,
Палудзень з'елі —

---

* Кожны радок паўтараецца.

Нечага палуднаваць.
Мамачка ідзе,
Палудзень нясе —
Будзем мы палуднаваць.

672. Ападае лісточак
На жоўты пясочак,
Дзевачцы да на вяночак.

673. — Авясец, мамухна,
Авясец!
А калі ж чорт сватоў
Прынясець?
— Пачакай, дачушка,
Пажнёмся,
Тады мы сватоў
Даждомся.
Мы ім вячэрку
Згатуем
Да сваіх сваточкаў
Участуем.
Купленая гарэлка
На куце,
Грыбіны пірог
На стале,
Пражоная яешня
У вагню.

674. Па старанах дажджы ідуць,
А ў нас не, *
К чужым дзеўкам сваты едуць,
А к нашым не.
Прайдзець восень, прыедзець восем
І к нам.

675. А ўжо восені прыходзіць,
Жодзін па сабе знаходзіць:
Жоднаму дразду па гнязду,
Жоднай перапёлке па яйцу,
Жоднаму мальчыку па дзеўке.

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Нашаму аднаму Івану дзеўкі нет.
Пасодзім яму удаву —
Завязаную галаву.
Паложым мы аўсяны сноп,
Няхай ён есць, як белка,
Няхай плачыць, як дзеўка.

676. Восень, восень!
Сватоў па восем,
Ка мне ніводнага,
Ка мне ніводнага,
Нет нікога роднага.

677. Ай, восень, восень, макрота, *
Дзецюкам жаніцца ахота,
Дзевачкам ісці няволя.
Заняволіла субота —
Усё й татулькава работа.

678. Не ранься на дварэ, не ранься, *
Не голься, Лявонька, не голься
Усё й на русыя валасы,
Усё й на громкія галасы,
Усё й на белае лічанька.
Русыя валасы счэшуцца,
Громкія галасы зменюцца,
А белае лічанька змыецца.
Тады табе, маладому, жаль будзець,
Што ў Евы красы не будзець.

679. Дробна пташачка, невялічкая
Па ляшчыначцы скача,
Малада дзяўчына, неразумная
Па малойчыку плача.
— А ні я плачу, а ні я тужу —
Самі слёзы ліюцца,
Што ад мілага лісточкаў няма,
Ад нямілага шлюцца.
Хоць вы шліціся, хоць не шліціся,

* Кожны радок паўтараецца.

Я ўжо ваша не буду,
Каму падала ручку белую,
Таго век не забуду.

680. — Да ўсё хмарачкі да па парачцы,
Адна хмарачка — розна,
Да не сварыся, мая мамачка,
Што я гуляю позна.
А хоць сварыся ці не сварыся,
Ты мяне не навучыш,
Да каго люблю, за таго пайду,
Ты ж мяне не разлучыш.
Да пі, мамачка, да тую вадзіцу,
Да што ■ нанасіла,
Хоць нялюбы зяць, хоць нялюбы зяць,
Ну ж я яго палюбіла.
— Не буду піці, не буду піці,
Не буду разліваці,
Хоць нямілы зяць, хоць нямілы зяць,
Не буду разлучаці.

681. За гарою калінка буяіць,
За другою — дзяўчынка гуляіць.
— Гуляй, дзеўка, цябе маці кліча.
— Няхай кліча, я знаю нашто:
Хоча маці за старога аддаці.
Я старога здаўна не любіла,
У тыдні тры дні ўсё дымам паіла,
За вароты сабакамі правадзіла,
У яго след камень пакаціла.
За гарою калінка буяіць,
За другою — дзяўчынка гуляіць.
— Гуляй, дзеўка, цябе маці кліча.
— Няхай кліча, я знаю нашто:
Хоча маці за роўніцу аддаці.
А я роўніцу здаўна любіла,
У тыдні тры дні ўсё вінам паіла,
За вароты з скрыпкамі правадзіла,
У яго следзік персцень пакаціла.

682. Ой, зара мая несхадзімая,
Ой, ля-лё, рана, несхадзімая,
За што я ў таткі нешчаслівая,

Ой, ля-лё, рана, нешчаслівая.
З церама йдучы, ўцярала ключы,
Ой, ля-лё, рана, ўцярала ключы.
А прызнайцеся: хто за мной ішоў,
Ой, ля-лё, рана, хто за мной ішоў?
Хто за мной ішоў, ключыкі знайшоў,
Ой, ля-лё, рана, ключыкі знайшоў?
Калі маленькі — братцам назаву,
Ой, ля-лё, рана, братцам назаву.
Калі старэнькі — таткам назаву,
Ой, ля-лё, рана, таткам назаву.
Калі роўніца — то замуж пайду,
Ой, ля-лё, рана, і з ім жыць буду.

683. — Досіць, каліна чырвоненькая,
Табе ў лузе стаяці,
Цябе, каліну чырвоненькую,
Пташачкі абклявалі.
Не так пташачкі, не так пташачкі,
Як малыя пташаняткі,
Прылятуць — клююць, палятуць — клянуць:
Ягадкі не салодкі.
Цябе, дзевачка маладзенькая,
Усе суседкі абсмяялі.
Не так суседкі, не так суседкі,
Як суседнія дзеткі,
Прыйдуць — пабудуць, пойдуць — абмовяць:
Дзевачка нехароша.
— Да няхай судзяць, няхай гавораць,
Да я іх не баюся.
Восень прыжду, я замуж пайду
Да я з іх пасмяюся.

684. Ластаўка-белакрылка,
Не лятай па гародзе: 2
На цябе сакол глядзіць
Да з высокага дубу, 2
Да з зялёнага лугу.
Ён цябе ўхапіць хоча,
Ухапіць хоча, паляцеці 2
У сваё гняздзечка.
Малада дзяўчыначка, 2
Не хадзі па рыначку:

На цябе хлапец глядзіць 2
Да з высокага ганку.
Ён цябе узяць хоча,
Узяці, паехаці 2
У сваю дзярэўнечку, 2
У сваю сямеечку.

685. Да й там на рэчцы, на зыбкай кладцы,
Рана, рана, на зыбкай кладцы,
Да й там Ганулька кубачкі мыла,
Рана, рана, кубачкі мыла.
Кубачкі мыла, ў Дунай пушчала,
Рана, рана, ў Дунай пушчала:
— Плывіце, кубачкі, к таму беражку,
Рана, рана, к таму беражку,
К таму беражку, к свёкарку майму,
Рана, рана, к свёкарку майму.
У нядзельку рана сама там буду,
Рана, рана, сама там буду.
Сама там буду, наліваць вас буду,
Рана, рана, наліваць вас буду.
Сваіх госцікаў частаваць з вас буду,
Рана, рана, частаваць з вас буду.
Мае кубачкі да паўнюсенькі,
Рана, рана, да паўнюсенькі,
Мае гасцінцы да сыцюсенькі,
Рана, рана, да сыцюсенькі.

686. Пушчу [redacted] паву,
Рана-рана, па Дунаёчку,
А сама пайду,
Рана-рана, па беражочку.
А ці не ўвіджу,
Рана-рана, таткавы сені,
Таткавы сені,
Рана-рана, новыя дзверы?
Па гэтых сенях,
Рана-рана, мне не хадзіці.
Пушчу я паву,
Рана-рана, па Дунаёчку,
А сама пайду,
Рана-рана, па беражочку.
А ці не ўвіджу,
Рана-рана, свёкравы сенцы,
Свёкравы сенцы,

Рана-рана, старыя дзверцы?
Па гэтых сенцах,
Рана-рана, па іх хадзіці,
Па іх хадзіці,
Рана-рана, у свёкра жыці.

687. — Ах ты, вутачка-пераплывачка,
Ты цяпер на Дунаю,
Як пераплывеш сіне мора,
Там цябе невад злове.
Ах ты, дзевачка маладзенькая,
Ты цяпер у матулькі,
А як пойдзеш да свякрованькі,
Там цябе гора пойме:
Ані шчэпачкі, ні лучынкі,
Нечага заламіці,
Ані брацейкі, ані сястрыцы,
Няма з кім гаварыці.
— Замочкі мае путраныя
Са мной гаварыць будуць,
А пярсцёнкі мае залаценькія
Дарожку свяціць будуць.

688. Да гуляй, шчука-рыбачка, у сінім моры,
Як жа ты пойдзеш на лугі, рэкі, не будзеш гуляць:
Уловяць цябе маладыя рыбаловы
Да знімуць з цябе залатую лускавіцу,
Пакроюць рыбачку на стальніцы,
Вынесуць рыбачку у святліцы.
Згатуюць рыбачку маладыя кухары
Да з'ядуць цябе панове-сенатарове.
Да гуляй, гуляй, Агатка, у роднага таткі,
Пойдзеш к чужому,
Да не радному,
Не будзеш гуляць.
У свайго татачкі крутыя горы,
Да гуляла па волі,
А ў чужога ўсё поле роўна,
Да гуляць не вольна.
У свайго таткі штодзень
Галоўка ў вяночку,
А штонядзелю ў таночку,
А ў чужога татачкі
Будні дзень у рабоце,
А святы ў балоце.

689. Гуляй, гуляй, шчука, плаціца,
Пакуль цёпла вадзіца!
Маразы ударaць, возеры стануць — гуляць не будзеш.
Гуляй, гуляй, малада дзеванька,
Пакуль у роднай маманькі!
Як у людзі пойдзеш, работку зададуць —
Гуляць не будзеш.
Цябе, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць абедаць.
Горы — высокі, воды — далёкі, на абед не паспееш.
Прынясеш вады для сваёй бяды,
Кожнаму трэба даць піць:
Дасі старому, дасі малому і мужаньку маладому.
Дадуць кусочак, пайдзеш у куточак —
Тут твой абед будзе.

690. Ходзіць вутачка па сенажаці,
Крыльцамі размахае,
А за ёй, за ёй сель-селязенчык
На крыльцо наступае:
— Пастой, вутачка, пастой, шэрая,
Мы з табой пагаворым.
Да робяць сеткі на твае дзеткі
І на цябе самую.
— Ды няхай робяць, няхай не робяць —
Яны ж нас не паловяць:
Я ў сець увайду і сець прайду,
А сама ўплаў пайду,
Свае дзетачкі, свае дробныя
У асаку пахаваю.

691. Не лятай ты, ластаўка,
Рана па зары,
Не спявай ты, ластаўка,
Раннія расы!
Не ездзі ты, татухна,
Часта на таргі,
Не прапі ты, татухна,
Мяне, малады.
А прапі ты, татухна,
Варанога каня.
Варанога коніка
За год забудзеш,
Мяне, маладзенькі,
Век не забудзеш.

692. Высокае ў лесе дрэва яліна была,
Яліна была,
Усяму лугу зялёнаму загуду дала,
Загуду дала.
Харошая дзяўчына ў таткі была...
— Распрадай жа, мой татачка,
Свой зялёны сад
Да спраў жа, мой родненькі,
Дзявоцкі нарад.
Як пасею чарнабрыўца
Цэлую граду,
Вы расціце, чарнабрыўцы,
Да не буяйце,
Як выйду ўвосень замуж,
Дак вы і завяньце.

693. Ой, пры Дунаю пры ціхусенькім,
Ой, позна, позна, пры ціхусенькім

Млода Варуська кубачкі мыла,
Ой, позна, позна, кубачкі мыла,

Кубачкі мыла, вянка забыла,
Ой, позна, позна, вянка забыла.

— Да хто паедзе па мой вяночак,
Ой, позна, позна, па мой вяночак?

Татулька кажыць: «Я не паеду,
Ой, позна, позна, я не паеду,

Я не паеду, каня не маю,
Ой, позна, позна, каня не маю,

Каня не маю, вянка не знаю,
Ой, позна, позна, вянка не знаю».

Франучок кажыць: «Я сам паеду,
Ой, позна, позна, я сам паеду.

Коніка маю, вяночак знаю,
Ой, позна, позна, вяночак знаю».

694. Затужылася Евачка, *
Што рана восень настала,
Рутая мятачка завяла,
Не з чага маладзе вянкі звіць,
На галовачку ўзлажыць.
Зачуў тое Лявонька:
— Не клапаціся, Евачка,
Я ўчора на таргу пабываў,
Я ж табе вяночак старгаваў,
А з руты, з мяты зялёны,
З чырвоненькае каліны.

695. Ой, лесам, лесам сонейка йграець,
Рана, рана, сонейка йграець.
Іванка спяшаець, каня сядлаіць,
Рана, рана, каня сядлаіць.
Яго матулька яго пытаіць,
Рана, рана, яго пытаіць:
— Куды ж ты, Іванка, куды паедзеш,
Рана, рана, куды паедзеш?
— Да я паеду, матулька, жаніцца,
Рана, рана, матулька, жаніцца.
— Не выбірай, дзіцятка, дзеўкі на йскрыпцы,
Рана, рана, дзеўкі на йскрыпцы:
На йскрыпцы, дзіцятка, дзеўкі хваслівы,
Рана, рана, дзеўкі хваслівы,
Выбірай, дзіцятка, выбірай на ніўцы,
Рана, рана, выбірай на ніўцы,
На ніўцы, дзіцятка, дзеўкі руплівы.

696. Ты, ярынка, ярыся ў полі,
Ай, люлі, рана, ў полі. **
Ты, Пётранька, жаніся ў доме!
Не выбірай дзевачак на рынку,
Да выбірай дзевачак на ніўкі:
Да на рынку дзевачкі хваслівы,
А на ніўкі дзевачкі праўдзівы.
У каторай постацька шырэй,
У каторай снапочкаў часцей,
У каторай галоўка гладзей,
У каторай кашулька бялей.

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

У Надзенькі постацька шырэй,
У Надзенькі снапочкаў часцей,
У Надзенькі галоўка гладзей,
У Надзенькі кашулька бялей.

697. Ой, я табе, татулька, з вясны гаварыла:
«Не дзяры барку, не сей лянку —
Да некаму палоць будзе».
Ой, я табе, свёкратку, з вясны гаварыла:
«Надзяры барку, насей лянку —
Я к табе прасці прыйду».

698. У садочку ў халадочку
Салавейка шчабеча,
У новым ганачку,
Ў залатым крэсле
Дзевачка коску чэша.
Ой, чэша, чэша, перабірае
І з мамачкай размаўляе:
— Мамачка мая, родная мая,
Чым я стала няміла?
Ці [redacted] ў цябе, мая мамачка,
Верненька не рабіла:
Тонка не прала,
Звонка не ткала
І беленька не бяліла?
Ці табе мілей, мая мамачка,
Зятняя гарэлачка?
Зятняя гарэлачка
Выпіта будзе,
Няма дзевачкі, няма дзіцяці —
І некага пасылаці.

699. — Макавінка зеляная, *
Дзе ты будзеш даспяваці?
— Не даспею на градочцы,
Да даспею ў квяточцы.
— Маладая ты дзевачка,
Дзе ты будзеш дарастаці?
— Не дарасту ў баценька,
То дарасту ў свёкарка,
У свёкарка ў каморанькі
Да й на ціхай размованьцы.

* Кожны радок паўтараецца.

700. Бяроза з лістам, белая з лістам
Усю восень шумела:
— Лісточак мой, зяляненькі мой,
Ты ж мяне пакідаеш?
— Не бойся, бяроза, не бойся, белая!
Я ж цябе не пакіну:
Увосень паду, вясной прыйду,
З табой шумець буду.
Дзевачка з мамкай, маладая з мамкай
Ночачку гаварылі:
— Дачушка мая, мілая мая,
Ты ж мяне пакідаеш?
— Не плач, мамачка, не плач, родная,
Я ж цябе не пакіну:
У нядзелю паеду, у другую прыеду,
З табой гаварыць буду.

701. А віхор каліну паламаў, *
А на ціхі Дунай кладку гнаў.
Там ішоў Ванька з абою,
Вёў сваю дзевачку з сабою.
— Хадзі, мая дзевачка, са мною.
— Баюся з табою, баюся:
Гібкая кладачка — увалюся,
Глыбокая рэчка — утаплюся.

702. Халодная восень наступае,
Не йдзі, дзеўка, замуж маладая.
З бел бярозкі лісток ападае,
Будзе твая долечка благая:
Будзе ў цябе свякроўка ліхая,
Будзе ў цябе дзевярочкаў многа,
А роднага не будзе нікога.

703. Ішла цяцера з лугоў, з балотаў,
Рана, рана. **
За ёй суполе ясны саколік:
— Пастой, цяцера, пастой, рабая,
Знімаю табе рабае пер'е,
Жадаю табе саколлі крылля!

* Кожны радок паўтараецца двойчы.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Я не кідаю рабае пер'е,
Я не жадаю саколлі крылля!
Ішла Франуська з хаты на рынак,
А за ёй суполе малады Стасік.
— Пастой, Франусенька, пастой, малада,
Знімаю табе румяны венчык,
Складаю табе шаўковы чэпчык!
— Я не скідаю румяны венчык,
Я не жадаю шаўковы чэпчык!

704. — Ой, не вылятай, сіва зязюлька,
З куточка сенажаці:
Ляцяць сакалы, на цябе глядзяць,
Хочуць цябе узяці.

— Ой, няхай ляцяць, ой, няхай глядзяць,
То я іх не баюся,
У вішнёвым саду, у кляновым лісту,
То я там схаваюся.

— Ой, не выглядай, малада дзеўка,
З баценькавага двора,
Бо едуць сваты, музыкі йграюць,
Хочуць цябе ўзяці.

— Ой, няхай едуць, ой, няхай граюць,
То я іх не баюся,
А ў майго бацькі нова камора,
То я там схаваюся.

Нова камора, нова камора,
Замочкі нутраныя,
У майго мілага ўюцца кудзеркі,
Пярсцёнкі залатыя.

705. Лятала каза па бярэзнічку,
Летучы, блекатала:
— Каб не той ваўчок — шэранькі бачок,
Я бы тут зімавала:
Ўчора прыляцеў, дзетачак паеў,
А сягоння самую.
Ходзе Манечка ды па рыначку,
Ходзячы, бедавала:

— Каб не Васілька, каб не малады,
Я б у мамкі век векавала:
Ўчора прыехаў, пярынкі забраў,
А сягоння самую.

706. На Дунаёчку, рана, рана,
На беражочку
Купаліся, рана, рана,
Два галубочкі.
Скупаўшыся, рана, рана,
Да й паляцелі,
Да летучы, рана, рана,
Да й гаварылі:
— Да дзе мы будзем, рана, рана,
Ноч начаваці?
— Да заначуем, рана, рана,
Хоць у садочку,
Спалюбілі сабе, рана, рана,
Шэру зязюлю.
— Шэра зязюля, рана, рана,
Ляці з намі,
Ляці з намі, рана, рана,
Да з галубамі.
— Рада б я ляцеці, рана, рана,
Жаль саду кінуці:
Да мне ў садочку, рана, рана,
Да ягад даволі —
Есць і каліна, рана, рана,
Есць і маліна.
Да ў Полацку, рана, рана,
На рыначку
П'юць, гуляюць, рана, рана,
Да два малойцы.
Піўшы, гуляўшы, рана, рана,
Да й паехалі.
Да едучы, рана, рана,
Да й гаварылі:
— Да дзе мы будзем, рана, рана,
Ноч начаваці?
— Да заначуем, рана, рана,
Хоць у Марылькі.
Спадманілі сабе, рана, рана,
Маладу Марыльку.
— Малада Марылька, едзь з намі, рана, рана,
З малайцамі.

— Рада б я ехаць, рана, рана,
Жаль таткі кінуці.
Дома ў матульки, рана, рана,
Негі даволі.
Да мне ў татульки, рана, рана,
Да хлеб сітовы.

707. — Зялёная дубравачка, *
Чаго рана зашумела,
Лісце тваё пажаўцела?
— А як жа мне не шумеці,
Лісцю майму не жаўцеці?
Наехалі злыя людзі,
Злыя людзі татарыны,
Вязлі з сабою татарачку,
Маладую шанкарачку —
Руса каса да паяса,
Чорным шоўкам уплецена,
А золатам пазлочана.
Яны пада мной начавалі,
Вялікі агонь раскладалі.
Таго й рана зашумела,
Лісце маё пажаўцела.

708. На моры вутачка купалася,
Яна свайго пер'ечка дзівавалася.
— Пер'ейка ты маё сізенькае!
Ці будзеш сізае на чыстым полі,
Як цяпер сізае на сінім моры?
У каморы дзевачка ўмывалася,
Сваіх белых ручак дзівавалася.
— Ручанькі мае бяленькія!
Ці будзеце белыя ў свякроўкі,
Як цяпер у матулькі?

709. Ой, цёмная, а нявідная ночачка,
Ай, умная, разумная дзевачка.
Пакаціла вінную чару па сталу,
Выпрабавала свайго сужанькі норавы:
Ай, ці настыр, ці п'яніца сужанька,

* Кожны радок паўтараецца.

Ці ўхопіцца ён за вінную чарачку,
Ці схопіцца ён за красную дзевачку?
Умней яе, разумней яе сужанька,
Не схапіўся ён за вінную чарачку,
А схапіўся ён за красную дзевачку.

710. Ой, за гарою да круцяною
Малойчык з радзінкаю
Пісямцо пісаў, да дзевачкі слаў,
Ці скора прыехаці.
— Мой ты малойчык, мой рыбачка,
Пачакай гадзіначку,
Пакуль сазаву, пакуль сабяру
Усю сваю радзіначку.
Ночка маленька, радзіна буйненька —
Не магу сабраці,
Не магу сабраці ды ў рад пасаджаці
Усю сваю радзіначку.
Трэба абабраць самога салавейку
Ды паслаць па радзінку,
А зязюлечку шэраньку —
Па родную мамачку.
Салавейка ляціць — радзінка ідзе,
Да хвала табе, божа.
Зязюлька ляціць — мамачкі няма,
Ой, мой моцненькі божа.

711. Разгарэлася каліна,
Перад зарою стоячы,
Дробныя іскры ронячы.
А гасіў вецер, не ўгасіў,
Па полі іскры разнасіў.
Расплакалася Алечка,
Перад мамулькай стоячы,
А дробныя слёзкі ронячы.
Унімала мамка — не ўняла
Ды горай жалю задала.
А ўніміць яе дружына —
Уся Колечкі радзіна.

712. — Ой, бор-перабор, месячык,
Ці ўсе зорачкі перабраў?

— Адну зорачку спадабаў,
Што яна рана ўсходзе,
Позна заходзе,
Рана ўсходзе — світае,
Позна заходзе — змяркае.
— Ой, бор-перабор, Міколка,
Ці ўсіх дзевачак перабраў?
— Адну Ганначку спадабаў,
Што яна рана ўстае,
Што яна позна кладзецца,
Рана ўстае — чытае,
Позна кладзецца — вышывае,
Ой, мые, шые,васкуе,
Свайму міламу гатуе.

713. Драмліва поле, драмліва,
Да на ягадкі ўрадліва.
Пайшла Ніначка ў ягадкі,
Ой, брала, брала — заснула,
Ехаў Сымонка — не чула,
Махнуў хустачкай — не дастаў,
Кінуў яблычак — не папаў,
Да злез з коніка — пабудзіў:
— Уставай, Ніначка, досіць спаць,
Пара радзінку сабіраць.

714. Ды звонкае дзераўца калінка,
Да й люлі, рана, калінка:
Звысоку ляцела — звінела,
На зямельку падучы, шумела.
Разумнае дзіцятка Ганулька:
Не відзеўшы свёкратку, спазнала,
Чыраз столік ручачку давала,
Свёкратку вітала
І ў свёкраткі здароўя пытала:
— Чы здаровы, свёкратка, усе ўдому?

715. Непраўдзівая каліна казала:
— Цвесць не буду,
Белага цвету не пушчу,
Чырвоных ягадак не ўраджу.
Як вясна прыйшла — зацвіла.

На ёй цвяточык бяленькі,
На ёй ягад паўненька.
Няпраўдзівая дзевіца казала:
— Замуж не пайду.
Як восень прыйшла — дак пайшла,
Яна жаніха ўзлюбіла.
Ці ў слядок яго ступала,
Ці хлеба яго скушала,
Што яна яго, маладога, спадабала?

716. Ай, чый конік пад борам, *
Увесь золатам укован?
Лявонькаў конік пад борам,
Увесь золатам укован.
Хто ж яму золата надаваў,
Хто ж яму коніка ўкаваў?
Надавалі золата каралі,
Укавалі коніка кавалі
На ўсе чатыры ножанькі,
Каб не баяўся слізгаты
На ўсе чатыры ночанькі.

717. Каханка дзеванька, каханка,
А ёй косынка кованка,
Не было каваля — раскаваць,
Не было грабянцоў — расчасаць.
Былі кавалі ў дарозе,
А былі грабянцы ў возе.
Прыехалі кавалі
З чужой стараны,
Дзевіцы косынкі раскавалі,
А сужанькі коніка падкавалі.
Былі ў дзяўчыны істужкі —
То яго коніка падпружкі.
Былі ў яе маладыя пярсцёнкі —
То яго коніка падкоўкі.

718. Віліся пчолачкі
Каля ніцай лозачкі:
— Віціся, не віціся —
Паціханьку садзіціся,
Сучайка не абагніце,

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Лісцейка не абатрыце.
А віліся сваточкі
У дзеваньці за столікам:
— Віціся, не віціся —
Паціханьку садзіціся,
Серабра не абагніце,
Золата не абатрыце.

719. Сінія мае два галубочкі,
Голасна забрукуйце,
Падайце тугу зялёнаму лугу,
Майму татку жалю:
Ен мяне дае і не ведае,
Якая доля будзе.
— Дачушка мая, мілае дзіця,
Я табе тое даю,
Я табе тое даю,
Што ў хазяйстве маю,
Пра долю не ўгадаю.
Сінія мае два галубочкі,
Жаласна забрукуйце,
Падайце тугу зялёнаму лугу
І маёй мамцы жалю:
Яна ж мяне дае
І не ведае, якая доля будзе.
— Дачушка мая, мілае дзіця,
Я ж табе гэта даю,
Я ж табе даю,
Што ў скрыні маю,
А пра долю не ўгадаю.

720. Румяна поле, румяна,
Рана, рана, румяна,
Поўны двор каней нагнана,
Рана, рана, нагнана.
Ніхто тых коней не пазнаў,
Рана, рана, не пазнаў
Да ніхто ў стаенькі не загнаў,
Рана, рана, не загнаў.
Выйшла Алёнка, пазнала
І да стаенькі загнала,
Рана, рана, загнала.
Прыйшла ў хатку, сказала,

Ой, рана, рана, сказала:
— Пойдзе татачка да току,
Ой, рана, рана, да току,
Дай конічку аброку,
Ой, рана, рана, аброку.
Сівому каню болей дай,
Рана, рана, болей дай,
А я пайду ў чужы край
Да за чужое дзіцятка,
Будзе свякроўка — не матка.

721. Пайшла дзевачка за вароцейкі,
Расплятаючы коскі,
За ёй мамачка, за ёй родная,
Разліваючы слёзкі:
— Пастой, дзевачка, пастой, дзіцятка.
Мы з табой пагаворым.
— Не буду стаяць, не буду чакаць,
Не буду гаварыці:
Сама знаю, мне людзі кажуць,
Што ў мамачкі не быці.
— Дзіцятка маё, роднае маё,
Не слухай людской моўкі.
Ідзі ў садочак, саві вяночак,
Стань сабе ля дзевачак.
— Мамачка мая, родная мая,
Уся твая няпраўдачка:
Дзевачкі стаяць, па вянку дзяржаць,
А мяне не прымаюць,
Бабачкі стаяць, па сынку дзяржаць,
А мяне паджыдаюць.
Дзевачкаў лаўка, дзевачкаў лаўка
Ад кветачак сіне-сіненька,
Бабачкаў лаўка, бабачкаў лаўка
Ад слёзачак макрусенька.

722. Ужо не раненька, йшчэ не позненька —
Сонейка на заходзе.
Была ў мамачкі адна дачушка
І тая на выходзе.
Пайшла ў каморку і чэша галоўку,
Беленька умылася.
Выйшла з каморкі, выйшла з новенькай,

Мамачцы скланілася.
— Дзякуй, мамачка, дзякуй, родненька,
За тваё гадаванне.
Што гадавала, што шкадавала,
Што нямножка пасылала,
А хто не гадаваў, а хто не шкадаваў,
Той пасылаці будзе.

723. — Чаго, лосю, чаго, сівенькі,
Ты к сялу прылятаеш?
Ці ты, лосю, ці ты, сівенькі,
Цяжкую зіму чуеш?
— Хоць цяжкую, хоць не цяжкую,
Над лецечка не будзе:
Я ўлетку пайду,
Лазінку згрызу,
А зімою нічога.
— Чаго, дзевачка маладзенькая,
Ты к сталу прылягаеш?
Ці ты, дзевачка маладзенькая,
Ліхую свякроў чуеш?
— Хоць ліхую, хоць не ліхую,
Над мамачку не будзе:
Я ў мамы жыла,
Як роза цвіла,
А ў свякроўкі не буду.

724. Закракатала шэра вутанька на рацэ,
Заплакала родна матулька па дачцэ.
— Не плач, родна матулька, па мне.
Мамка, пойдзеш у чыста поле авёс жаць,
А я пайду на сіне мора хусты праць.
Ранняю, вячэрняю зарою
Да й сайдуцца нашы галаскі з табою.

725. Хадзіў-пахадзіў
Ясен месяц па небу,
Лічыў-палічыў
Зараначкі на небе.
Не далічыўся
Адной зораньку вячэрняй.
А бог знаіць, бог ведаіць,

Дзе яна?
Каму яна, каму яна
Гэту ночаньку свяціла?
Да ці яна, да ці яна
Ў поўнач з месяцам хадзіла?
Хадзіў-пахадзіў
Андрэйка па хаце,
Лічыў-палічыў
Сямеечку ды сваю.
Не далічыўся, не далічыўся
Адной Гапулькі сваёй.
Ах, бог знаіць, бог ведаіць,
Каму яна, каму яна
Гэту ночаньку служыла?
Да ці яна, да ці яна
Ў поўнач з міленькім хадзіла?

726. — Перапёлка, ластаўка,
Дзе лета летавала?
Дзе лета летавала,
Дзе будзеш зімаваці?
— Летавала ў пшаніцы,
Зімаваць буду ў крыніцы,
Зімаваць буду ў крыніцы,
У сцюдзёнай вадзіцы.
— Ты, дзяўчына маладая,
Дзе гады гадавала?
Дзе гады гадавала,
Дзе будзеш векаваці?
— Гадавала ў мамачкі,
Векаваць — у свякроўкі,
Векаваць — у свякроўкі,
У чужой у сямейцы.

727. — Маё шырокае падвор'е,
Чаму вадою заплыло?
Ці табе ветру не стала,
Ці табе сонца замала?
— Свяціла сонца ў ваконца,
Павяваў ветрык з пагор'я
На маё нізкае падвор'е.
— Маладая дзевачка, чаго ты замуж хацела,
Ці бацькава раскоша дадзела,

Ці ад людзей павагі не мела?
— Была мне роскаш у татачкі,
Будзе павага ў свякроўкі,
Будзе павага ў свякроўкі,
Будзе знявага ў мілога.

728. — Ой, баравая цяцера,
Чаго ты з бору ляцела,
Ці ў бару жыру не мела?
— А ў бару жыру даволі,
Болей не будзіць ніколі.
А ў бару вадзіца-крыніца,
У бару ягодкі салодкі.
— Ой, маладая дзевачка,
Чаго замуж ляцела,
Ці ў таткі хлеба не мела?
— А ў таткі хлеба даволі,
Болей не будзіць ніколі.
У таткі вадзіцы не было,
А было салодкае віно.
Яно ж ў нас рэчачкай цякло,
Не ляніся раненька ўставаць,
Вінцо ў бутылачкі пераймаць.

729. Асіна балота красіла,
Мар'ічка Івана прасіла:
— Вязі мяне, Іван, дзе ўзяў,
Каб мой вяночак тут не звяў.
— Не бойся, Мар'ічка, не звяніць,
Калі мая мамачка загляніць,
На галоўцы вянок заззяіць,
Студзёнай вадой абаллець.

730. Лугавая зязюлечка, лугам ляціш,—
Чаму не кукуеш?
Ужо тваё мінулася вясенняе кукаваннейка,
Настала асенняе жыраваннейка.
Ой ты, дзеўка-дзяўчыначка, ад бацькі йдзеш,—
Чаму не заплачаш?
А ўжо тваё мінулася, дзевачка, каханнейка,
Машына гуляннейка.

731. — Кляновы лісточак,
Ды куды ты пакоцішся?
Ці ўгару, ці ў даліну,
Ці ў бор на кляніну?

— Ды я й сам не ведаю,
Куды вецер пакоціць,
Ці ўгару, ці ў даліну,
Ці назад на кляніну.

— Маладая дзяўчыначка,
Ды куды ты ідзеш?
— Я й сама не ведаю,
Куды маці аддае,
Ці ў сяло, ці ў прысёлле,
Ці ў дзявочае бяздолле.

732. — Залатая макаўка,
Ці многа маку маеш?
— Ці многа, ці нямнога —
Усё поле засеяла,
А на луг не хапіла.
Мачыну ад насення —
Дзяўчыне на вяселле.
— Маладая дзевачка,
Ці многа дароў маеш?
— Ці многа, ці нямнога —
Усіх сватоў адарыла,
На свякроўку забыла.
Ой, свякроўка-мамачка,
Я цябе не забуду,
Кожны дзень дарыць буду
Доўгімі станінамі,
Белымі кужалямі.

733. Ляцела куна з бору ў дуброву
К сакалу на размову.
— Мне ў бару добра,
Мне ў бару добра,
У дуброўцы лепей будзе.
У бары шышкі паколюць ножкі,
У дуброўцы мякчэй будзе.
Ішла дзевачка з сяней у камору

Да мамачкі на размову.
— Мне ў мамкі добра,
Мне ў мамкі добра,
У свякроўкі лепей будзе.
У мамкі хлеб палыном пахне,
А ў свякроўкі чарнушкаю,
Я ў мамкі бяру выдаваная,
А ў мілога сама вазьму.
У мамкі ключы пад пясочкам,
А ў міленькага на прабоі.

734. Ай, упала ластаўка, упала
У тое дзядоўе колкае,
Ай, у тую макрыцу-травіцу.
Ай, па ёй жа пташкі тужылі.
— Не тужыце, пташкі, вы па мне!
Я тое дзядоўе паламаю,
Я тую макрыцу-травіцу пакашу.
Ай, упала Ганулька, упала,
Ай, у тое дзявер'е ліхое,
Ай, у тыя залоўкі-чачоткі.
А па ёй жа дзеўкі тужылі.
— Не тужыце ж, дзевачкі, вы па мне!
Я тое дзявер'е пажаню,
А заловак-чачотак пааддаю,
А ліхія дзявер'я — ў суседзі,
А залоўкі-чачоткі — ў гасціны.

735. — Ой, восень, восень,
Ты мяне ачарыла:
Прыйдзеш дадому —
Вячэранька няміла.

Ачарыла мяне
Рознымі чаранькамі,
Ажаніла мяне
З сінімі вочанькамі.

— Каб ты не ведаў,
Як коніка сядлаці,
Як я не знала,
Чым цябе чараваці!

28. Зак. 84

Ой, каб ты не знаў,
Як на коніка сесці,
Як я не знала,
З чым табе даці есці!

Каб я, малада,
Свае волікі мела,
То [redacted] на цябе,
Гультая, не глядзела б!

Каб мела валы
Ды яшчэ палавыя,
Любілі б мяне
Хлопчыкі маладыя.

Лецечка было,
Розна зеллечка цвіло,
Восень настала,
Розна зеллечка звяла.

Ой, пайду, пайду,
Дзе я летам хадзіла,
Ці [redacted] не знайду,
Каго верна любіла.

736. Да ў гародзе да на пагодзе
Канапелька стаяла,
На канапельцы на зялёненькай
Зязюля кукавала.
Чыя-та матка, чыя-та матка
Зязюлю праклінала:
— Багдай, зязюля, багдай, рабая,
Тут болей не лятала:
Адкукавала, адшчабятала
Ад мяне работніцу.
Чыя-та мамка, чыя-та мамка
Зязюлю выхваляла:
— Багдай, зязюля, багдай, рабая,
Кожны год прылятала:
Прыкукавала, прышчабятала
Да мяне работніцу.

737. Пайду я да Дунаю
Да стану я, падумаю.
А ў Дунаю да дно відно,
Мне ў бацюхна добра было:
На вулічцы перад мілым
На музыках заначую.
А цяпер пайду я да Дунаю
Да стану я, падумаю.
А ў Дунаю дна няма,
А ў свёкра дабра няма:
Пры постаці пераднюю,
А пад жорнамі заначую.

738. У майго татачкі горы да горы —
Мне гуляці даволі.
На вуліцу йду — не пытаюся,
З вуліцы — не хватаюся.

У свёкаркі падвор'е роўнае —
Мне гуляці не вольна.
На вуліцу йду — пытаюся,
З вуліцы — хватаюся.

739. Лужком, беражком рэчачка цякла,
Па прыгор'ейку Ніначка ішла,
З лугавой вадой гаварыла:
— Як я ў матульki ў роднай жыла,
Бела сваё лічанька ўмывала,
Каб мае лічанька белым было,
Каб я суджанаму міла была.
Як стала я жыць у свякровачкі,
Бела было лічанька — пабялела,
Міла была суджанаму — памілела.

740. Што гула, гула галубачка
Ды на луг паляцела, *
У-у-у!

Ой, не аддаў мяне мой татачка,
За каго я й хацела,
У-у-у!

* Кожны другі радок паўтараецца з загукваннем.

Ой, аддаў мяне мой родненькі,
За каго нягожа,
У-у-у!

Ой, па калена смецця ў хаце,
На стале рагожа,
У-у-у!

А мне, младзе, младзёшаньке,
Глядзець непрыгожа,
У-у-у!

Як вазьму я мяцёлачку
Да вымету хату,
У-у-у!

Як вазьму я рагожачку,
Пад лаўку падкіну,
У-у-у!

Як вазьму я скацерць бялёву,
На стале пасцялю,
У-у-у!

741. Ой, белая бярозачка,
Бялей майго цела,
Не аддаў мяне татачка,
За каго я хацела.
Жыву гадок, жыву другі,
На трэці ступаю,
Ніхто ў мяне, бяздольніцы,
У гасцях не бывае.
Ці сцежачкі не ведае,
Дарожкі не знае?
Сцежачка ў вароцецы,
Дарожка ў аконца,
Прыйдзі, прыедзь, мой татачка,
Як яснае сонца.
А я табе, татулечка,
Вячэру згатую,
Пад цясовым аконцам
Пасцельку пасцялю.

Чаму, чаму, мой татачка,
Усю ноч не засыпаеш,
Праз цясовае аконейка
На двор паглядаеш?
— Ой, цяжанька мне, трудненька
Тут ноч начаваці.
— А як жа мне, мой татачка,
Тут век векаваці?

742. Ой, заржы, заржы, вараны коню,
Дарогаю бегучы,
Чы не ўчуе мая дзеванька,
Вяночкі да ўючы.
Ой, як учула, так і пазнала:
— Ой, едзе ужо, едзе!
Едзе Ясенька, едзе сэрданька,
Вязе з руты вяночка,
Ох, вязе, вязе з руты вяночка,
Пярсцёнка залатога.
Яся малады, конік вараны,
Сядзелка залатое.

743. Да зарзаў, зарзаў малады конічак,
Да па полі гарцуючы,
А як пачула мілая мая,
Вячэрку гатуючы,
Сільненька заплакала:
— Дзе ж мой міленькі, чарнабрывенькі?
Ён каня сядлае,
Каня сядлае, сам выязджае.
З кім мяне пакідае?
— Выязджаю я, мілая мая,
Не магу адказацца,
Загадалі мне сядлаці каня,
На вайну сабірацца.
— Няма шчэпачкі, ні лучыначкі
Сцежачкі асвяціці,
Няма брацейка, ані сястрыцы,
З кім слоўца гаварыці.
— Ключыкі ж мае залаценькія
Сцежку табе свяціць будуць,
Замочкі мае нутраненькія
З табой гаварыць будуць.

744. На гары, горцы чатыры жонцы
Ячмень жнуць,
А ў даліне дзве дзяўчыны
Лён бяруць.
На бярозе два салавейкі
Шчабечуць.
— Не шчабячыце, два салавейкі,
Седзячы,
Не збудзіце мае свякрухі,
Лежачы,
Бо як яна ўстане, будзе работанькі
Пытаці,
То я, маладзенька, не ведацьму,
Што сказаці.

745. А ў чыстым полі тры садочкі, *
А ў тыя садочкі тры слядочкі.
А ў першым садзе салавейкі,
А ў другім садзе зязюлечка,
А ў трэцім садзе мамка з сынам.
Дзе салавейкі — там шчабечуць,
Дзе зязюлечкі — там кукуюць,
Дзе мамка з сынам — там гавораць.
А мамулька ў сына запытала:
— Хто ж табе, мой сынку, наймілейшы?
Ці цёшча, ці мамка, ці жонка?
— Мне цёшча міла для прывету,
Мне жонка міла для савету,
Ты ж, мая мамулька, мілей свету:
Ты ж мяне насіла — галасіла,
Ты ж мяне раджала — умірала,
А сорак ночак не ўсыпала,
Пакуль мяне, маладога, узгадавала.
Як цёшча памрэ — гарэлкі нап'юся,
Як жонка памрэ — ажанюся,
Як мамка памрэ — слязамі абальюся.

746. — Дзе ты, хмелю, быў,
Дзе ты, хмелю, рос,
Чаму ты не павіўся?
Дзе, малойчык, быў,
Дзе, малойчык, жыў,

* Кожны радок паўтараецца.

Чаму ты не жаніўся?
—.Я ў садзе рос,
Прыўдарыў мароз,
Затое не павіўся.
Я ў пана быў,
Я пану служыў,
Затое не жаніўся.

747. Паляцела зязюля па лужочку:
Заганяла пташак да барочку:
— Ай, да бору, пташачкі, да бору,
Не рабіце шкоды вы нікому,
А не клюйце пшаніцы у полі,
А не піце вадзіцы з крыніцы,
А клюйце вы ягадкі ў барочку,
А піце вадзіцы вы з лісточку.
Пахадзіла Аўгінька па пірочку.
Прасіла Барыску дадомачку:
— Ай, дадому, Барыска, дадому,
Не рабі ж шкоды ты нікому,
Не любі чужых жонак у пірочку,
А любі мяне, маладу, ў дамочку,
Лажыся спатанькі ў палажочку.

748. Як пайду, пайду на Дунай па ваду,
Ці не ўвіджу каго роднага свайго?
Аж там вутачка па рацэ плывець,
То ж не вутачка, а мая мамачка.
— Пастой, мамачка, пагаворым з табой,
Пастой, родная, пагаворым з табой.
— Вада сільна б'ець, гаварыць не даець.
Як пайду, пайду на Дунай па ваду,
Ці не ўвіджу каго роднага свайго?
Аж там селязень па рацэ плывець,
То ж не селязенька, а мой татулька.
— Пастой, татулька, пагаворым з табой,
Пастой, родненькі, пагаворым з табой.
— Вада сільна б'ець, гаварыць не даець.

749. Пад белаю, пад белаю, рана, рана, бярозаю,
Пала раса, пала раса, рана, рана, сцюдзёная,
А другая, а другая, рана, рана, мядовая,
А трэцяя, а трэцяя, рана, рана, залатая.

Сцюдзёную, сцюдзёную, рана, рана, таптаць буду,
Мядовую, мядовую, рана, рана; збіраць буду,
Залатую, залатую, рана, рана, шанаваць буду.

750. Дзе радзілася, не была,
Там мяне цёмна ноч абняла,
Недзе маладзе начаваць.
Ці мне, маладзе, на вадзе,
Ці ў новенькай каморы,
Ці ў зялёненькай дуброве?
На вадзе рыбачка з вакунём,
У дуброве белачка з сабалём,
У каморы дзевачка з малайцом.
На вадзе рыбачка валну б'ець,
У дуброве белачка гняздо ўець,
У каморы дзевачка слёзкі льець.

751. А што ўжо там за зеллейка,
Што чорнае насеннейка?
Я яго шчыплю-ламлю,
То яно адрастае.
Я яго ў вяночак ўю,
То яно расцвітае.
Я яго на галоўку кладу,
То яно размаўляе.
А што ўжо за ойчанька,
Што далёка дзіця аддае,
Што далёка дзіця аддае,
Што і сам не ведае
Да праз людзі пытае:
— Ці жыве дзіця маё?
Ці жыве, ці гаруе,
Ці з панамі пануе?
— Жыве, жыве, не гаруе
І з панамі не пануе,
З панамі не пануе,
Дробны дзеткі гадуе.

752. — Медуніца, медуніца лугавая,
Чаго не цвіцеш па ўсім лузе па зялёным?
— Як жа я буду цвісці па ўсім лузе?
Мошкі цвецікі аб'ядаюць,

Воды корні падмываюць.
— Маладзіца, маладзіца маладая,
Што не ходзіш на вуліцу на шырокую?
— Як жа мне на вуліцу хадзіць?
Што свякруха кажа: сакатуха, растанчыца,
А залоўка кажа: лядачая пахмурніца,
Свёкар кажа: мядзведзіца лесавая,
Мілы кажа: маладзіца маладая.
Сарока-сакатуха — па-над коллю,
Растанчыца — дачка ў бацькі,
Пахмурніца — цёмна ночка, цямнюсенька,
Мядзведзіца — у цёмным лесе цямнюсенькім.

753. Тады была добрая гадзіна,
Як мяне матанька радзіла.
А радзіла мяне у даліны,
А купала мяне у каліны,
Спавівала мяне у шырыны,
Спаць клала у пярыны,
Скалыхнула мяне высока,
Абяцала мяне далёка,
Чэраз тры пушчы дрымушчы,
Чэраз тыя ручайкі цякушчы.
Калі к матцы ў госці захачу,
Я тыя барочкі парублю,
Цёмныя лясочкі выпалю,
Сінія азёры намашчу,
А ў сваёй матанькі пагашчу.

754. За цёмным лесам трава павяла,
За благім мужам жана прапала,
На ніўку пойдзець — ніўку праклінаець:
— Каб гэта ніўка пакарацела,
Каб гэта пастацька павузела,
Каб я, старэнька, яшчэ пастарэла!
За цёмным лесам трава зялёна,
За добрым мужам жана вясёла,
На ніўку пойдзець і бога просіць:
— Каб гэта ніўка падаўжэла,
Каб гэта пастацька пашырэла,
Каб я, маладзенька, памаладзела!

755. Выйду я на горачку,
Пакачу іголачку.
Кацiся, іголачка,
К свёкру пад аконачка,
Свякроўцы пад другое.
Паслухай, іголачка,
Што свёкарка гаворыць:
Ці аб цябе, іголачка,
Ці аб мяне, нявестачку?
Ці аб цябе, залатую,
Ці аб мяне, маладую?

756. Паздароў, божа, майго мілага
Сівою барадою,
Што [redacted] гуляла, раскашавала
За яго галавою.

Паздароў, божа, майго мілага
І мяне каля яго.
Сам рана ўстане, мяне не будзіць
Да кужалю белага.

Сам рана ўстае, сам рана ўстае,
Йшчэ мяне напранае:
«Ой, спі, мілая, чарнабрывая,
То будзеш маладая!»

757. Ходзіць Ванька да па беражочку,
Весялочкам апіраецца,
Слёзачкамі абліваецца.
— Што ж ты, Ванька, тут робіш?
Ці ты, Ванька, рыбку ловіш,
Ці ты, Ванька, перавоз возіш?
— Эй, горкі мае да перавозы,
Абліваюць жа да мяне слёзы.
Эй, была ў мяне жана Ульяна,
На Дунаю да ваду брала,
На камені ножкі мыла,
У Дунай-рэчке затанула.
Двое дзетак мне пакінула,
А трэцяе ў спавіточку,
Эй, а трэцяе ў спавіточку,
Дурыць маю галовачку...

758. Былі ў татулькі да тры дачушкі,
То яму бог даў. *
Усіх трох ён замуж павыдаваў:
Першую аддаў да за пашнічка,
Другую аддаў да за бортнічка,
Трэцюю аддаў да за дудара.
Што за пашнічкам, едзіць у госці,
Вязець гасцінец — бохан хлеба,
А малым дзеткам па піражочку;
Што за бортнічкам, едзіць у госці,
Вязець гасцінец — гаршчок мёду,
А малым дзеткам па гарнушачку;
Што за дударом, едзіць у госці,
Вязець гасцінец — дуду-рагаўню,
Малым рабяткам па жалеечцы.

759. А на двары дожджык, **
Як у сіцечка сіціць,

А брат сястру
І ў вакошачка клічыць:

— А хадзі, сястра,
У карчомку гуляці.

— А гуляй, брацец,
Калі табе ўдалося,

А я буду гараваць,
А мне гора нашлося.

А ў цябе, брацец,
Жытца зарадзіла,

А ў цябе, брацец,
Уся радзінка нашлася.

А ў мяне, брацец,
Пшонка не ўрадзіла,

А на мяне, брацец,
Уся радзінка забыла.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

** Кожная страфа паўтараецца.

760. — Дубровачка зялёная,
Чаго рана зашумела? *

— Не сама я зашумела,
Буйны ветры скалыхнулі.

— Удованька маладая,
Чаго рана заўдавела?

—Не сама я заўдавела,
Злыя людзі разлучылі.

Свякроў мая багатая,
Яна мяне неўзлюбіла,

А як выйшла на вуліцу,
Яна мяне абсудзіла.

Парай, парай, матуленька,
Як свякроўцы ўгадзіці?

— Цярпі, мая дачушка,
Доля твая нешчаслівая.

761. Да за сцяною за камянною
Удоўка сільна плача.
— Не плач, удава — бедна галава,
Татачка ў госці едзе.
— Да няхай едзе,
Не заязджаецца,
Не будзе начаваці:
Не маю стайні
А ні новенькай
Конікаў пастаўляці,
Не маю сыра
А ні белага
Татачкі частаваці,
Не маю слаўца
А ні вернага
З татачкам гаварыці,
Не маю саду я вішнёвага
З татачкам пахадзіці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Да за сцяною за камянною
Удоўка сільна плача.
— Не плач, удава — бедна галава,
Міленькі ў госці едзе.
— Да няхай едзе, заязджаецца,
Будзе тут начаваці:
Маю я стайні,
Маю новыя
Конікі пастаўляці,
Маю [redacted] ложа і падушачкі
Міламу пасцель слаці,
Маю [redacted] сыр, маю белы
Мілага частаваці,
Маю я слаўца, маю верна
З міленькім гаварыці,
Маю я садзік, ўсё вішнёвенькі,
З міленькім пахадзіці.

762. Маладая ўдоўка *
Каля гаю хадзіла
Ды й з гаем гаварыла:
— А ты, гаю, мой гаю,
Падымай вецце ўгору,
Платарай мне дарогу,
Бо [redacted] мамачцы іду.
Калі мамачка жыва,
Будзь, дарожачка, торна
І паходачка спорна.
Калі ж мамачка ўмерла,
Будзь, дарожка, не торна
І паходка не спорна.

763. На ўдоўчыным полі
Сабраліся работнічкі:
Мядзведзь карчом арэць,
Лісіца ваду бярэць,
А зайчык барануіць,
А ваўчок жыта сеіць.
А як пачаў дождждык
Ды ўсё надкрапляць,
А як пачалі работнікі
Дамоўкі ўцякаць:

* Кожны радок паўтараецца.

Мядзведзь на лес палез,
А зайчык — у Дунайчык,
А лісічка — ў норачку,
А ваўчок — ў хмызнячок.

764. Вы, сыночкі, галубочкі мае,
Вы пайдзіце ў зялёненькі садок
Да ўніміце вы на дудачкі сябе.
Чыя дудка галасней зайграе,
Таму сынку у салдацікі ступаць.
Старшы кажа: «Ў мяне дзяцей грамада».
Сярэдні кажа: «Ў мяне жонка малада».
Старшы кажа: «Трэба дзяцей гадаваць».
Сярэдні кажа: «Трэба жонку навучаць».
Меншаму сынку
У салдацікі ступаць.
Меншы сынок не ўпіраецца,
Ў каморцы прыбіраецца,
З атцом, з матушкай пращчаецца:
— Пращчай, пращчай, ацец, матушка,
Ці я ў вас не дзіцятачка?
Ці я ў вас не радзімы сынок?
Ці я ў вас не касіў, не араў,
Што ацец мяне ў салдацікі аддаў?

765. Па сінім моры *
Тры чаўны плывуць.

У першым чаўночку
Конікі ірзуць,

У другім чаўночку
Салдаты пяюць,

У трэцім чаўночку
Дзевачкі плачуць.

Конікі ірзуць —
Дарожку чуюць,

Салдаты пяюць —
На вайну ідуць,

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Дзяўчаты плачуць —
Іх пакідаюць.

766. Ой, лістам, лістам дарожачка запала,
Ой, там дзяўчоначка малойчыка шукала,
Вой, да знайшоўшы, яна ў яго пытала:
— Вой, да чаго ж ты, бел малойчык, засмуціўся?
— Ой, прыйшла копія і ў салдацікі ісці,
Вой, папка плача, конікаў сядлаючы,
Вой, сястра плача, ўслед за возам ідучы.

767. — Ай, восень, восень, ты, сцюдзёная,
Чаго рана настала?
— А што й за рана,
А што й за позна?
Ужо й мая пара прыйшла.
Лісточак падзець,
Травіцу кладзець —
Ужо й мая пара прыйшла.
Сняжочак падзець,
Травіцу крыець —
Ужо й мая пара прыйшла.

## ІЛЬНЯНЫЯ

768. На гарэ лён, на гарэ лён, белы кужаль,
Рана, рана, белы кужаль.
Не з кім стаці, не з кім стаці лёну браці,
Рана, рана, лёну браці.
Свёкар кажа, свёкар кажа: «Я з табою,
Рана, рана, з маладою».
То не бранне, то не бранне — гараванне,
Рана, рана, гараванне.
Свякрухна кажа, свякрухна кажа: «Я з табою,
Рана, рана, з маладою».
То не бранне, то не бранне — гараванне,
Рана, рана, гараванне.
Дзевер кажа, дзевер кажа: «Я з табою,
Рана, рана, з маладою».
То не бранне, то не бранне — гараванне.
Ятроўка кажа, ятроўка кажа: «Я з табою,
Рана, рана, з маладою».
То не бранне, то не бранне — гараванне,

Рана, рана, гараванне.
Залвіца кажа, залвіца кажа: «Я з табою,
Рана, рана, з маладою».
То не бранне, то не бранне — гараванне,
Рана, рана, гараванне.
Мілы кажа, мілы кажа: «Я з табою,
Рана, рана, з маладою».

769. Пасеялі дзеўкі лён,
Эй, люлі, дзеўкі лён.

Пасеяўшы, палолі,
Эй, люлі, палолі,

Белы ручкі калолі,
Эй, люлі, калолі.

Унадзіўся сівы конь,
Эй, люлі, сівы конь,

Патаптаў ён дзеўкам лён,
Эй, люлі, дзеўкам лён.

Ён макушкі паскусаў,
Эй, люлі, паскусаў

І ў рашточкі пакідаў,
Эй, люлі, пакідаў.

Дзеўкі лянок сабралі,
Эй, люлі, сабралі,

Белы кужаль паслалі,
Эй, люлі, паслалі,

А паслаўшы, памялі,
Эй, люлі, памялі.

Дзеўкі лянок папралі,
Эй, люлі, папралі,

Плаценка саткалі,
Эй, люлі, саткалі.

770. Ой, гаварыла канапелечка,
Стоячы у гародзе:
— Каб не тыя ціхія ветры,
Стаяла б, зімавала б.
Як сталі веяць, сталі павяваць —
Мусілі абламалі.
Ай, гаварыла маладая дзевачка:
— Каб не тыя добрыя людзі,
Жыла б я ў мамачкі,
Як сталі хадзіць, мамачку прасіць —
Мусілі з сабой узяці.

771. Бедаваў зялёны лён,
Да пры мяжы стоячы, *
Галоўкамі звонячы.

Не дадуць пасляліці,
Галоўкамі пазваніці.

Ой, бяда мая, бяда,
Што [redacted] ў мамачкі адна.

Не дадуць дасядзеці,
Касіцы дарасціці,

Кубяльца налажыці.
Ой, кубялец мой новы,

Не за год налажоны,
За гадзіну страчоны.

772. Гаварыў зялёны лён,
Пры дарозе стоя:
— Калі мяне не вырвіце,
Я сам завалюся, па дарожцы рассцялюся!
Гаварыла Юзэпка сваей роднай маці:
— Калі мяне не выдасце,
Я і сама замуж пайду:
Што за тын, за вароты,
За суседняга сына.
Ды ён будзе купчаваці,

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

29. Зак. 84

А я за ім — панаваці,
Ён будзе мёд-віно піці,
А я буду слёзы ліці!

773. Як пад гаем, як пад гаем
Зеляненькім, зеляненькім,

Там ірвала, там ірвала
Дзяўчынанька лён драбненькі.

Ехаў казак, ехаў казак
Маладзенькі, маладзенькі:

— Бог у помач, бог у помач,
Дзяўчынанька, лянок рваці.

— Ай, спасіба, ай, спасіба,
Казачэнька маладзенькі.

— Ай, паедзем, ай, паедзем,
Дзяўчынанька, з намі, казакамі.

У нас рэкі, у нас рэкі
Мядовыя, мядовыя,

У нас горы, у нас горы
Залатыя, залатыя,

У нас травы, у нас травы
Шаўковыя, шаўковыя.

— Пайду ў таткі, пайду ў таткі
Запытаю, запытаю.

— Ай, спасіба, ай, спасіба,
Маё дзіця не глупое.

А каб былі, а каб былі
Рэкі мядовыя, мядовыя,

Усе паны, усе паны
Паз'язджалі, паз'язджалі б,

А каб былі, а каб былі
Горы залатыя, залатыя,

Усе людзі, усе людзі
Пасхадзілі, пасхадзілі б.

774. Ой, за гаем, гаем зеляненькім,
Ой, там брала лён драбненькі,
Ой, там брала, дзеўка выбірала,
Пры дарозе тонка слала,
Пры дарозе, пры дарозе тонка слала,
К сырой землі прыпадала:
— Ой ты, зямля, ой ты, зямля сырусенька,
Узяла маіх айца і матку,
Узяла маіх, узяла маіх айца і матку,
Узяла маю ўсю радзіну,
Узяла маю, узяла маю ўсю радзіну,
Вазьмі мяне, сіраціну.
— Ой, нашто мне, ой, нашто мне цябе браці,
Трэба табе пару даці, 2
Хоць не таку,
Хоць не таку, як людскую,
Трэба даці сіроцкую.

775. — Чом вы, канапелькі, не зялёны стаіце?
Ой, люлі, люлі, не зялёны стаіце. *
— Як жа нам, канапелькам, зялёным стаяці?
Зверху канапелькі клююць вераб'і,
З ісподу канапелькі вада падмыла,
А ў сярэдзіне канапелькі хваля зламіла.
— Чом ты, дзевачка, не вясёлая ў танку?
— Як жа мне вясёлаю ў танку стаяці?
Бацюшка кажа — за князя аддаць,
Мамачка кажа — у чорныя чарнушкі.
Ой, стукаў, пагрукаў у цясовыя вароты,
Мне бачца, мой бацька з князямі, з баярмі,
Аж то мая мамка з чорнымі чарнушкамі.

776. Калапніна ты зялёная,
Як цябе выбіраці?
Аддала мяне, маладзенькую, мамачка
Навек гараваці.
Гарую гадок, гарую другі,

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

На трэці аглянуся:
— Калі долечка не паправіцца,
Дык пайду утаплюся.
— Да не тапіся, маё дзіцятка,
Сваю душу загубіш,
Да было казаць, было гаварыць,
Што ты яго не любіш.

777. Ой, гаварыла канапелька,
Стоячы ў гародзе:
— Адкуль на мяне, канапелечку,
Усё й тыя буйныя ветры?
Як сталі веяць, сталі павяваць,
Канапелечку убіваць.
Ой, гаварыла маладая дзевачка,
Жывучы ў татачкі:
— Адкуль на мяне, маладзеньку,
Усё й тыя добрыя людзі?
Як сталі хадзіць, мёд-віно насіць,
Мяне ў татачкі прасіць...
Датуль хадзілі, мёд-віно насілі,
Пакуль татачку упрасілі.

778. Дабро маё зеляное, зеляное,
Я й па табе, дабро маё, пахадзіла,
У цёмным лесе зеляненькім заблудзіла.
Татка клічаць — я й не чула.
Дабро маё зеляное,
Я й па табе, дабро маё, пахадзіла,
У цёмным лесе зялёненькім заблудзіла.
Мамка клічаць — я й не чула,
Па голасе не спазнала,
Роднай мамкай не назвала, не назвала.
Дабро маё зеляное, зеляное, зеляное,
Я й па табе, дабро маё, пахадзіла, пахадзіла,
У цёмным лесе зялёненькім заблудзіла, заблудзіла.
Мілы клічаць — ■ пачула, я пачула,
Па голасе, па голасе я й пазнала, я й пазнала,
Сваім мілым, сваім мілым я й назвала.

779. Па бару хаджу,
Па бару хаджу,
Я ягодкі бяру!

Памачылася,
Урасілася,
Я й пазябла дужа!
А ты, сонейка,
Да ты, жаркае,
Абагрэй ты мяне!
А ты, ветрычак,
Да ты, буйненькі,
Абсушы ж ты мяне!
А мой міленькі,
Чарнабрывенькі,
Пажалей ты мяне!
Я на цябе
Не забуду,
Пакуль жыва буду!
А калі памрэш,
А калі памрэш,
Буду плакаць па табе!

780. Па бару хаджу,
Па бярэзнічку,
Ой, люлі, люлі,
Па бярэзнічку. *

Бяру ягадкі,
Буйны, салодкі.

Мяне свёкарка
Ўсё гуку-гуку.

А [redacted] й, малада,
Не адгукаюся,

Толькі слёзкамі
Абліваюся.

Па бару хаджу,
Па бярэзнічку.

Бяру ягадкі,
Буйны, салодкі.

* Прыпеў паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Мяне міленькі
Ўсё гуку-гуку.

А я й, малада,
Адгукаюся,

Адгукаюся
І ўсміхаюся.

781. Схілю, зламлю *
Арэшынку

Да нашчыплю
Арэшыкаў.

Спеленькія —
Да ў прыпалочак,

Зялёныя —
Да ў кішанёчак.

Спеленькія —
Роднай мамцы,

Зялёныя —
Ліхой свякроўцы:

— Еш, да мамка,
Да пажывіся,

А ты, свякроўка,
Еш, папярхніся.

782. — Выйдзі, выйдзі, пастушок,
І затрубі ў ражок.
Выйшаў, выйшаў пастушок
І затрубіў у ражок:
— Выганяйце вы быдліну
На шырокую даліну,
На зялёну лугавіну.
Жануць дзеўкі, жануць бабы
І маленькія дзіцята.

* Кожны радок паўтараецца.

783. — Чаго, зімачка маразяная,
Так рана наступаеш?
— Я не ранняя і не позняя —
Самая паравая.
Дробны дождж ідзе,
Белы снег падзе —
Мне ўжо пара прыйшла.
— Чаго, Ганначка маладая, так рана
Замуж ідзеш?
— Я не старая і не малая —
Самая паравая.
Татачка аддае,
Ясюлька бярэ —
Мне ўжо і пара прыйшла.

## ТАЛОЧНЫЯ ПЕСНІ

784. Талака, талака
Талачылася,
Увесь дзень па полі
Валачылася.
Мы ўвесь гнаёчак
Павыносілі,
На падводачках
Павывозілі.
Да ўвесь гнаёчак
Раскалацілі,
На ручках гнаёчак
Перадзяржалі,
Ножкамі зямельку
Перамералі.

785. Гаспадар, гаспадар,
Выхадзі з клеці,
Вынасі, вынасі
Кварту гарэлкі.
Мы твае гнаёчкі
Павывозілі,
Мы твае хлявочкі
Павычышчалі,
Мы твае нівачкі
Пазасцілалі.

786. А і добра мы табе,
Татулька, зрабілі:
Мы твае хлявочкі
Папаражнілі,
Мы твае нівачкі
Пазалацілі.
Заплаці ж вознічкам
Хоць па грыўнічку,
А сваім капачам —
Па рубельчыку.

787. А мы свайму пану
А ўчынілі славу,
Славу ўчынілі:
Гнаёк павазілі,
Ніўку ўкрасілі.
Радзі ж, божа,
Жыта на навозе,
Дай, божа,
Такое і на аблозе,
Жыта ядраное,
Калоссе буйное.

788. Таргуйся, таргуйся, Кірылку, з намі,
Мы тваё поленька золатам слалі,
Золатам, золатам да ўсё серабром.
Дай жа нам, Кірылка, хоць па талеру,
Вяйшцякам, вайшцякам хоць па рубялёчку,
Капачам, капачам хоць па бізуночку,
Што яны табе наругаліся,
На стайні конікі настаяліся,
У полі жоначкі напяяліся.

789. Таргуйся, таргуйся, суседка, з намі,
А плаці ж, суседка, нам чырванцамі.
Мы тваё полечка ўсё разведалі,
Мы твае нівачкі пазатрасалі,
Мы твае хлявочкі павычышчалі,
Ад цябе, суседка, чэсці не зналі.

790. У майго татулькі
Новая брама.
А з-пад той брамачкі
Тры ручаёчкі ідуць:
У адным ручайку —
Горка гарэлка,
А ў другім ручайку —
Зялёнае віно,
А ў трэцім ручайку —
Салодкі мядок.
Горкая гарэлка —
Для кідальнічкаў,
Зялёнае віно —
Для трасеннічкаў,
Салодкі мядочак —
Для важтаечкаў.

791. Дамашэўскае поле
Задрамала стоя.
Чаго яно задрамала?

Разбівачкі старыя,
А вілкі дзервяныя —
Таго яно задрамала.

Папоўскае поле
Зазвінела стоя.
Чаго яно зазвінела?

Разбівачкі маладыя,
А вілкі залатыя —
Таго яно зазвінела.

792. Няслава, няслава, гаспадар, твая,
Не п'яна, не п'яна талака твая.
А ў хлеве, у хлеве мужчынкі п'янюсенькі,
А ў полі, у полі жоначкі цверазюсенькі.
А ў хлеве мужчынкі, як жучкі, гудзяць,
На полі жоначкі, як пчолкі, звіняць.
Да ўчыні, да ўчыні славеньку сваю,
Да ўпаі, да ўпаі талаку тваю.

793. — Ні слава, ні слава, Ярэмка, твая,
Ні п'яна, нясыта талака твая.
Хто ў цябе, Ярэмка, работу рабіў?
Хто ў цябе, Ярэмка, гарэлку папіў?
— Рабілі работку талачаначкі,
Папілі гарэлку прыхажайкі.
Трасейкам-паненкам хоць па талеру,
А гультаям-капачом — у лоб таўкачом.

794. А, знаць, наш бацюшка багата жывець,
Яго талака далёка слывець.
А ў яго талака ўсё наёмная,
Паплаціць бацюшка талачаначкам:
Маладым дзевачкам па чырвончыку,
А маладым важтайкам па рубельчыку,
А сваім кідачом паддай гарбачом:
За імі конікі настаяліся,
Малыя важтайкі нагуляліся,
У полі дзеванькі напяяліся.

795. Талачу, талачу, я гарэлкі хачу!
Талака, талака, талакі не ўняць,
Не даюць гарэлкі — не буду пяяць.
А ў каго, а ў каго двор на памосце,
А ў таго, а ў таго любыя госці.
— А чаму, сусед, піва не варыш,
Ці ў цябе, сусед, ячмень не ўрадзіў?
— Не ўрадзіў ячмянёк, толькі пшоначка,
Не вяліць, не вяліць мая міла жоначка.

796. Знаць, наша доля не такая, *
Наша гаспадынька скупая.
Сядзіць на палочку ў куточку,
Дзяржыць бутэлечку ў падалочку,
Ківаець, міргаець на мілога:
— Не пей, мой міленькі, гарэлку,
Кідай к заўтраму на пахмелку.
Будзем раненька ўставаці,
Сваю сямейку пахмяляці.

* Кожны радок паўтараецца.

797. — Ці ў цябе, Барыска, двор на памосце?
Ці ў цябе, суседка, любыя госці?
Чым жа нас, суседка, частаваць будзеш,
Ці віном зялёным, ці гарэлачкай?
— Я віном зялёным, салодкім мёдам.
— Ці ў цябе, Барыска, ячмень не ўрадзіў,
Што для нас, для гасцей, піва не варыў?
— А ўрадзіў жа ячмень, яшчэ й пшоначка,
Не варыла ж піва мая жоначка.

798. Каля месяца, каля яснага
Усё дробныя звёзды,
У нашага гаспадара кала століку
Усё любыя госці.
— А ты, Андрэйка, ты, татулькін сын,
Прыглядай жа гасцей.
А ты, чарачка пазлачоненька,
Да хадзі ж ты часцей.

799. Талака, талака
Талачылася,
Таўкучы, мелючы,
Я змарылася.
Сеяла мучыцу —
Апылілася.
Выйшла на вуліцу —
Скаланулася
Ды сваім суседкам
Наругнулася.
Работка мая —
Уся пыльная,
Маім суседзям
Ды й завідная.

800. Добра мне, добра
За старым дзедам:
Не маю клопату
За яго хлебам.
Пойдзець у карчомку,
А я за ім следам.
З карчомкі ідзець —
За ручку вядзець.

Прывёўшы дамоў,
Пасцельку сцелець.
Паслаўшы пасцель,
Спатачкі кладзець:
«Спі, мая мілая,
Да белага дня:
У мяне не дзесяць —
Ты ў мяне адна».

801. Як сядзем мы на лавачцы,
Як вып'ем ды па чарачцы,
Як сядзем мы на роўненькай,
Як вып'ем ды па поўненькай.
А мы пілі, не ўпіваліся,
Што дамоў ішлі — не валяліся,
У вароцейках пахіліліся,
У новых сенях паваліліся.

802. На мяне казалі:
Пасялушачка, *
А я ў свайго таткі
Весялушачка.
На мяне казалі:
Па сялу хаджу,
А я ў свайго таткі
Работку раблю.
На мяне казалі:
Горка п'яніца,
А я ў свайго таткі
Ды работніца.

803. А ты, вуліца мяцёная, **
А чым вуліца ўкрашоная?
Ці дудамі, ці музыкамі,
Ці мальцамі без'языкімі?
Ні дудамі, ні музыкамі,
Ні мальцамі без'языкімі,
А тэй дзевіцай-красавіцай...

* Кожныя два радкі паўтараюцца.
** Кожны радок паўтараецца.

804. Коціцца-валіцца
Звёздачка з неба.
Хочацца моладзе
Белага хлеба.
Я б, малада,
Чорны хлеб ела,
Абы я, малада,
Журбы не мела.
Хоць бы я хлеб ела,
Хоць і з вадою,
Абы мне жыці
Не із бядою.

805. Вы, мужове-панове!
Піце піва п'яное,
Гаварыце мужское:
А ў каго мамка стара —
У той хаце слаўна.
А чыя жонка добра —
У той хаце штодзень гульня,
У каго жонка ліха —
У хаце няціха.

806. Людзі — суседзі мае
П'юць і ядуць у мяне,
П'юць і ядуць у мяне,
Судзяць, гавораць аба мне,
Штоб я пакінуў жану,
Штоб [redacted] пакінуў маладу.
То ж не сумленне маё,
Каб [redacted] пакінуў жану,
Каб я пакінуў маладу.
Дзеткі — пацеха мая.
Жонка — пакраса мая.
Дзеткі пацешуць у даму,
Жонка пакрасіць у піру.

807. Пазвалі мяне ў бяседу *
Чэраз вуліцу ды к суседу.
— А ідзі, жана, у бяседу,
Павышай людзей не садзіся,

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

За поўную чару не бярыся,
Дамоў ідучы, не валяйся.
Ай, жана мужа не слухала:
Павышай людзей садзілася,
За поўную чару ўхапілася,
Дамоў ідучы, валялася.

808. Бруіла вада каля каменя, *
Сколькі бруіўшы, ды на ніз пайшла.
Мовіла дзеўка з добрым молайцам,
Сколькі мовіла, ды ў цяром пайшла.
— Ты не йдзі ка мне позна з вечара,
А прыйдзі ка мне су паўночанькі.
Па полю ідзі ты туманейкам,
Па сялу ідзі дробным дожджыкам,
А на двор ідзі ясным месяцам,
А ў сеначкі — шэрым коцікам,
А ў хатаньку — залатым кальцом,
На краватаньку — добрым малайцом.

809. Лятала паванька ў саду, па саду,
Раніла пер'ейка ў зеляну траву.
Не жаль жа мне паванькі, ні пер'я яе,
Ды жаль жа сястрыцы ў чужой старане.
Як трудна рыбаньцы ў мутнай вадзе,
Так маей сястрыцы ў чужой старане.
Як трудна рыбаньцы без вады быць,
Так маёй сястрыцы без радні жыць.
Як лягу — забуду, устану — на ўме,
Што мая сястрыца ў чужой старане.

810. Ішла я, малада, быстраю ракою,
Ламала красачкі праваю рукою.
Я тыя красачкі ды пагубляла,
Я свайго татульку тры гады ждала,
Тры гады, тры гады, тры нядзелечкі,
Прыехаў татулька неспадзевачкі.
Я свайму татульку піва варыла,
Ішла я з піўніцы — завалілася,
Залата чарачка разбілася,
Я з сваім татулькам пасварылася.

---

* Кожны радок паўтараецца.

811. Дунай з морам паспіраліся
А за дзеваньку сіроціньку.
Мора кажыць: «Я яе ўтаплю
Гэту дзеваньку сіроціньку».
Дунай кажыць: «Валной выкіну
Гэту дзеваньку сіроціньку».
Сонца кажыць: «Я яе высушу
Гэту дзеваньку сіроціньку».
Дождж кажыць: «Я яе абаллю
Гэту дзеваньку сіроціньку».
Вецер кажыць: «Я яе абадму
Гэту дзеваньку сіроціньку».
А бог кажыць: «Я ёй долю дам
Гэтай дзеваньцы сіроціньцы».

812. Белая бярозка караністая,
Да папаўся мне мілы наравісты.
Пакуль я наравы яго зведала,
Не раз я слёзкамі паабедала,
Не раз я пад акном настаялася,
Рукаўком слёз наўціралася.
Не раз мне падпаветка за хатку была,
Не раз мне суседка за мамку была.

813. Нядоля, нядоля,
Няшчасце маё,*
Не любіць свякроўка
Йменнечка майго,
Ні ймення, ні мяне,
Ні работачкі.
Шчэ й пятух не пяяў,
Гусак не крычаў,
Толькі адна ваўчыца
У лесе выла,
Тады мяне свякроўка
Па ваду слала.
Як стукну, як грукну,
Суды беручы,
Як крыкну, як гукну,
Па вуліцы йдучы.
Як пачуў міленькі,
Коні пасучы.

---

*Кожныя два радкі паўтараюцца.

— Пастаі, мілая,
Коні напасу,
Я й коні напасу,
Ваду прынясу.
— Чарэпай, міленькі,
Суды поўныя
Ды нясі, міленькі,
Памалюсеньку,
А пастаў, міленькі,
Паціхусеньку,
Каб гэта лавачка
Не ўздрыгнулася,
Каб гэта вадзіца
Не пліхнулася,
Ліхая свякроўка
Не абачхнулася.
Вот табе, свякроўка,
З Дунаю вада,
Памыйся, напіся
З поўнага вядра.
— Я й цябе, нявеста,
Ні вады слала,
Я й цябе, нявеста,
З свету збаўляла.

814. Зара мая, зоранька,
Узайдзі рана, пастой позна,
Пакулька я прыбяруся,
Умяту двор мяцёлачкай,
Усцялю стол скацёрачкай.
Будуць ка мне любыя госці:
А любы госць — родны татка,
Любая госця — родная мамка.
Госці на двор — кубкі на стол,
Госці з двору — кубкі з столу.

815. На вуліцы жук, жук,
На вуліцы чорна,
Натачыў норкі
Аж да чужой жонкі.
А чужая жонка,
Як асіна горка,
Свая, маладзенька,
Як мёд, саладзенька.

816. Ды жаль жа я маю ні памалу,
Што я малады не жаніўся,
Пад старыя леты валачыўся,
Узяў сабе жонку маладую,
Узяў і пасцельку мяккую.
Ды лёг жа я спаці на краваці,
Сасніўся мне сон нярадасны:
З правай рукі персцень зваліўся
Ды па белай ложы пакаціўся —
Ды знаць мая смерць недалёка,
Астанецца жонка маладая,
Астанецца пасцелька мяккая,
Астануцца да й дзеткі малыя.

817. Да бараначка чорненькі, чорненькі,
На ім воўна сучыцца, сучыцца —
Нам гарэлачкі хочыцца, хочыцца.
Мы бараначку стрыч будзем, стрыч будзем.
Мы бараначку астрыжом, астрыжом,
Мы гарэлачку ўсю пап'ём, усю пап'ём.
На іх воўна каротка, каротка,
Нам гарэлачка салодка, салодка.
На іх воўніца роўненька, роўненька,
Нясуць нам бутэлькі поўненькі, поўненькі.
Да наш паночак у вобрэ, у вобрэ,
Наша пані ў лісах, у лісах,
Нясець нам закускі ў місах, у місах.

818. Ішла талака з чыстага поля,
З круглае ніўкі.
— Гаспадынька, запалі свечку,
Выйдзі на сустрэчку.
Не пытаець наша гаспадынька:
Ці жывы, здаровы,
Ці крэпкі, вясёлы?
Толькі пытаець:
Ці многа ўвазілі,
Ці многа ўлажылі?
Улажылі поле нязмернае,
Увазілі вазы незлічоныя.

819. Да што ў полі шуміць-гудзе?
Талака з поля ідзе,
Талака бяленька,
Там жа ж і мая міленька.
Мая міла знакаміта:
На ёй шуба шоўкам шыта,
Сабалямі падбітая,
А кунаю абложана
І на яе ўзложана.

820. А чыя ж то жана па двару ходзіць —
Двор разлягаець?
Максімава жана па двару ходзіць —
Двор разлягаець.
На ганачак ўзойдзіць — аж ганачак гнецца,
А ў клетаньку ўвойдзець — аж клетанька ззяець,
За пляшачку возьмецца — гарэлачка льецца,
За чарачку возьмецца — гарэлачка п'ецца.

821. Ай, жарка-то, жарка ў лозе калінцы,
Ай, жарчэй-то, жарчэй нашай гаспадыньцы.
Наша гаспадынька па двару хадзіла,
Па двару хадзіла, слядочкі драбіла.
На ганак ступіла — ганак абламіла,
У сені ступіла — сені асвяціла,
У хату ступіла — хату залаціла,
У камору ступіла — служак пабудзіла:
— Уставайце, служкі, верныя дачушкі,
Сталы засцілайце, кубкі налівайце,
Кубкі налівайце, гасцей сазывайце.
— А сталы засланыя, кубкі наліваныя,
Кубкі наліваныя, госці сазваныя.

822. Ці не пчолка
Зазвінела звонка,
З улля вылятая?
То ж не пчолка —
Наша гаспадынька
Па двару хадзіла,
Ключыкі насіла,
Каморы адмыкала,
Кубкі налівала,
Кубкі налівала,
Гасцей частавала.

823. — Чыя ж гэта талака
Шчуку-рыбу валакла
А сабе на вячэру?
— Іванава талака
Шчуку-рыбу валакла
А сабе на вячэру.
Гаспадыня тужыла,
Што вяліка дружына:
Піва не набраці.
А гаспадар таму рад:
«Садзіцеся, жнейкі, у рад,
Буду частаваці».

824. А ў нашага пана
Як стаіць дык стаіць
Вараны конічак на стаенцы.
А каго ж нам наняць
Ды за што ж нам наняць?
Трэба молайца наняць
Варанога каня напаіць.
А ў нашае пані
Як мокра дык мокра...
Тонкія абрусы на стале.
А каго ж нам наняць
Ды за што ж нам наняць?
Трэба прачак наняць
Абрусы папаласкаць.
А ў нашага паніча
Як вісіць дык вісіць
Вострая шабелька пры боку.
А каго ж нам наняць
Ды за што ж нам наняць?
Трэба молайца наняць
Войстру шаблю шараваць.
А ў нашае паненкі
Як зарасла дык зарасла
Рута-мята ў гародзе.
А каго ж нам наняць
Ды за што ж нам наняць?
Трэба полатых наняць
Руту-мяту папалаць.

825. Дажалі мы жыта
Да самай граціцы,
У нашай гаспадыні
Шырокія спадніцы.
Спадніцамі патрасець,
Нам закуску прынясець.
Плён жыта, плён са ўсіх старон!
А ў нашага гаспадара
Кудравая галава.
Ён кудрамі патрасець,
Гарэлкі нам прынясець.
Ён кудрамі пакалоціць,
Гарэлку нам пасалодзіць.
Плён жыта, плён са ўсіх старон!

826. — Сакол мой, саколе,
Пераляці маё поле,
Накажы маёй матцы,
Няхай ка мне жанцоў прышле,
Няхай маё жыта сажне.
— Не журыся, маладзіца,
Я к табе сама прыйду,
Я тваё жыта сажну
Да у копкі пакладу:
Дзе горка — там копка,
Дзе далінка — там сцірдзінка,
Дзе ражочак — там стажочак.

827. Па полю сіз голуб лятаіць,
А ён свае галубкі шукаіць:
— Ай, каб мая галубка са мною,
А ўмеў ба ж я па полю лятаці,
А ўмеў ба ж я пшанічку кляваці...
Іванічка ўсё па двару ходзіць,
А ён сваю Алесечку просіць:
— Ай, каб мая Алесечка са мною,
А ўмеў ба ж я пры сталу стаяці,
А ўмеў ба ж [redacted] жнеек частаваці.

828. Дзе ж тая барэлачка,
Што была гарэлачка?
Ці ў хаце пад лаўкай

Зарасла мураўкай,
Ці ў сенях над суднікам
Зарасла трыпутнікам,
Ці ў хаце пад загнетам
Зацвіла жоўтым цветам?
Дайце нам зелязніцу,
Адкапаем п'яніцу,
Сядзем мы на лаваньцы,
Вып'ем мы па чараньцы,
Сядзем мы на роцьніцы,
Вып'ем мы па поўніцы.
Мы людзі рабочыя —
Піць гарэлку ахвочыя.

829. Ох вы, столікі мае,
Вы цясовыя мае,
Чаго ж вы стаіцё
Не засланы у мяне?
А вы, кубачкі мае,
Пазлацаныя мае,
А чаго ж вы стаіцё
Не наліты у мяне?
Ах вы, госцікі мае,
Вы любыя мае,
А чаго ж вы седзіцё
Не вясёлы у мяне?
Ці мой хмель не хмялён,
Ці мой хлеб не пушон?
Калі хмель не хмялён,
Кажу хмелю падлажыць,
Калі хлеб не пушон,
Кажу хлеб папушыць.

830. Ах вы, столікі мае,
Вы цясовенькія!
А чаго вы стаіцё
Незасланенькія?
Ах вы, госцікі мае,
Вы любоўненькія!
А чаго вы сядзіцё
Невясёленькія?
А ці хлебушка пушон,
Ці хазяін невясёл? .

Калі хлебушка пушон —
Магу выпалаць.
А хазяін невясёл —
Магу выведаць.
Кунні сабалі
На колічках вісяць,
Мужыкова наравы
На плечыках ляжаць.
Кунні сабалі
Усе сізюсенькія,
Мужыкова наравы
Усе малюсенькія.

831. Дачка мамцы гасцінца шле,
Дачка мамцы гасцінца шле
Садовае яблычка.

На тым яблычку,
На тым яблычку
Тры слоўцы напісана:

Першае словечка,
Першае словечка:
«Гора мне, матулечка».

Другое словечка,
Другое словечка:
«Дзеткі мае маленькія».

Трэцяе словечка,
Трэцяе словечка:
«Мой муж наравісты».

— Ой, гаруй, дзіця, гаруй,
Ой, гаруй, дзіця, гаруй,
Малых дзетачак гадуй,
А як дзетак пагадуеш,
Тады гора адгаруеш.

832. — Сілязенька, галоўка сізенька,
А крыллейка быстрынька,
Ці пераляціш шырокае поле,
Глыбокае мора?
— Не пералячу я шырокага поля,
Глыбокага мора,

Толькі peралячу імхі ды балоты
Ды вузкія валокі!
— А ты, Аўдулька, нежнае дзіцятка,
Ці перанясеш матульчыну негу
К свёкру на падвор'е?
— Толькі перанясу цяжкае ўздыханне,
Слёзнае абліванне.

833. Ах вы, мілы мае бабачкі, *
Вы пажалі маё жыцечка, у!
Вы пажніце маю белую яр!
Пабярыце канапелечкі,
Пакапайце мае градачкі,
Пакажыце мне парадачкі.

834. Ой, пайду я да Дунаю
Да я стану, падумаю,
Да ў Дунаю да дно відно.
Мне ў бацюхны дабро было,
У свёкаркі пагоршала,
Работанькі пабольшала:
На постаці пераднюю,
Над жорнамі заначую.

835. Час дамоў, час дамоў, час дамоў ісці, *
А ў маім дамочку раёчкі ўюцца,
Усё раі, усё раі, усё не пустыя,
Ай, носюць мядочкі, ўсё й густыя.
Хто ж тыя раёчкі аграбаць будзець?
Хто ж тыя раёчкі спажываць будзець?
Аграбаць раёчкі будзець Коленька,
Спажываць мядочкі будзець Валечка.

## ПІЛІПАЎСКІЯ

836. Доўга, доўга звячора сядзела,
Тонкі я, белы кужалёчак я прала,
Часта я, часта праз ваконца пaглядала.
Адкуль, адкуль ясны месяц узойдзець,
Адтуль, адтуль мой татулька прыедзець.
Кіну я пралку на белую лаўку,

* Кожны радок паўтараецца.

Сама пайду татку пераймаць.
Правай ручкай татульку вітаю,
Левай ручкай слёзкі выціраю.
— Чаго, чаго, мая дзіцяці, плачаш?
Ці табе свякроўка ліхая!?
— Мне свякроўка, як родна матулька.
— Ці табе свёкарочак ліх?
— Мне свёкарочак, як родны татулька.
— Ці табе дзевярочкі ліхія?
— Мне дзевярочкі, як родныя браточкі.
— Ці табе зальвіцы ліхія?
— Мне зальвіцы, як родны сястрыцы.
— Ці табе міленькі ліхі?
— Згадаў, згадаў, мой татулька родненькі:
Ціха іду — як свіння паўзу я,
Скора іду — як каза скачу я,
Бела нашу — то жана хвасліва,
Чорна нашу — то жана лянівa.

837. Праду я, праду, спатанькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку там,
Ці не засну, ці не паляжу.
Свёкарка ідзець, мяне судзячы:
— Санлівая, драмлівая,
На работу лянівая.
Толькі ёй ўсё спаць,
Толькі ёй ўсё драмаць.
Праду я, праду, спатанькі хачу.
Як пайду ж [redacted] ў каморачку,
Прыкладу я галовачку там,
Ці не засну, ці не задрамлю.
Свякроўка ідзець, мяне судзячы:
— Санлівая, драмлівая,
На работу лянівая.
Толькі ёй ўсё спаць,
Толькі ёй ўсё драмаць.
Праду я, праду, спатанькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку там,
Ці не засну, ці не паляжу.
Мамачка ідзець, мяне жалеець:
— Дзіця ж маё дарагое
Пайшло замуж маладое,
Дзеткі абнялі, спаткі не далі.

838. Як пайшоў жа кужаль па кутах, па лаўках.
Каліна, маліна мая! *
Па кутах, па лаўках, па дзеўках-красаўках.
Ды прыйшоў жа кужаль ды к нашай Насцінькі.
А наша Насцінька — ды тонкая пралля,
Ды тонкая пралля, ды звонкая ткалля:
Увадзіла ніткі пароўна калена,
Пароўна калена, таўсцей за палена.
Задумала Насцінька красёнкі ткаці,
Пайшла ў добры людзі бёрды дабываці.
Бёрды не дабыла — сабак надражніла,
Сабак надражніла, людзей насмяшыла.
Параілі людзі па пнёўю снаваці,
Па пнёўю снаваці, у ізгароду ткаці,
У ізгароду ткаці, калом прыбіваці.
Ехалі баяры, бог помач давалі:
— Бог помач, Насцінька, красёнцы ткаці!
Красёнцы ткаці, калом прыбіваці,
Дочкам — на платочкі, сынам — на парточкі.
Павязла Насцінька бялізну бяліці:
На рэчку — каламі, а з рэчкі — валамі.

839. Пойдзем, дзевачкі, у начлежачкі.
Люлі, люлі, у начлежачкі. **
Возьмем, дзевачкі, паўтары мычачкі,
Напрадзём, дзевачкі, паўтары цэвачкі,
Аснуём, дзевачкі, паўтары губачкі.
Пайдзём, дзевачкі, на сяло бёрда шукаць.
Ўсё сяло абышлі, бёрда не найшлі.
Будзем, дзевачкі, ў прасла кросны снаваць,
Будзем, дзевачкі, у тын кросны ткаць.

840. Сядзела Рында ды на печышчы, Рында, Рында, ***
Задрала ногі, ногі ды на гарадзішча, Рында, Рында,
Прыйшлі к Рындзе жаніхі, узялі Рынду варухі,
Рында, Рында.
Ой, пайшла яна па суседачках, Рында, Рында:
— Да суседачкі, мае матушкі, Рында, Рында,
Па сарочачцы, па намётачцы, Рында, Рында.
— Не спаць было Рындзе Ліліпавай ночы, Рында, Рында,
Прадзіраць было дзерчаком вочы, Рында, Рында.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
** Прыпеў «Люлі, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
*** Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Чорт жа вас бяры, мае суседачкі, Рында, Рында.
У майго бацькі да бяроз многа, Рында, Рында.
Да здзяру ж я берасцінaчку, Рында, Рында,
Да пашыю ж хвартушыначку, Рында, Рында.
Падзёрачкам як падперажуся, Рында, Рында,
Перад сваім-сваім жанішком як наражуся, Рында, Рында,
Накрыюся я мяшком, мне не сорам з жанішком,
Рында, Рында.

841. Мне спаць не даюць
І драмаць не вяляць.
Ох, і толькі ж то вяляць
Паціхонечку ступаць.
Ай, і міленькі па сенюшках
Пахажываець:
— Ой, спі ж ты, жанушка,
Ты душка мая!
На зялёны канаплі
А я стоража найму.
Я на белы кужалёк
Папрадуху пасаджу,
Я [illegible] малому дзіцю
А я нянюшку панайму.

842. Да было не спаць да Піліпавай ночкі, *
Было прасці тоненькія сарочкі.
Як пайду я да й у сад зеляненькі,
Сустрэў мяне да казак маладзенькі.
Ён на мяне да ківае, міргае,
Я ж думала, што дарожкі пытае.
— Ці ты, казак, ці аслеп, ці не бачыш,
На дарозе стаіш, шчэ й дарожкі пытаіш?
Ці на гэта мяне мамка радзіла,
Каб я казакоў па дарожцы вадзіла?
Вой, на гэта мяне мамка радзіла,
Тонка прасці, звонка ткаці
Да беленька збяліці.

843. Вы прадзіце, вы прадзіце, супражонкі,
Э-эй, ха-ха, супражонкі! **
Не глядзіце на мяне, маладу дзяўчыну.
Я, малада дзяўчына, заручона

* Кожны радок паўтараецца двойчы.
** Прыпеў «Э-эй, ха-ха» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

За такога за маладога недаростка.
Не пушчае недаростак к мамцы ў госці.
Павяду я недаростка ў чыста поле,
Прывяжу я недаростка да бярозы,
Я дам недаростку вязку сена,
Пастаўлю недаростку вядро вады.
Не пайду я к недаростку тры дзянёчкі,
А тады я папрашуся к мамцы ў госці.
— А ты, душка-жанушка, хоць сягоння.

844. Ай, вярбіна, вярбінушка,
Ай, вярбіна кудравая,

Як табе не здакучыла,
Як табе не здакучыла,

У цёмным лесе стоючы,
У чыстае поле гледзючы.

Маладзіца маладая,
Маладзіца маладая,

Як табе не здакучыла,
Як табе не здакучыла,

Із ліхім мужам жывучы,
Із ліхім мужам жывучы.

— Ай, суседзі, суседачкі,
Вы ж парайце парадачку,

Вы ж парайце парадачку,
А як мне з ліхім мужам жыць.

— Маладзіца маладая,
Мы ж параім парадачку:

А й ідзі ў чыстае поле,
Наскрабі хмелю ярага.

Наскрабі хмелю ярага,
Навары піва п'янага.

Навары піва п'янага,
Упаі мужа ліхога.

Упаі мужа ліхога,
Палажы спаці ў краваці.

Абсцялі ты саломкаю,
Запалі ты лучынкаю.

Сама выйдзі на вулачку,
Крыкні, гойкні ратуначку:

— Ой, суседзі, суседачкі,
Вы спіцё, вы не чуеце!

Усю ноч грамоты гулі,
Майго мужа пярун забіў.

Майго мужа пярун забіў,
Я й, маладзенька, ’дкацілася.

845. Двор пад гарою, [redacted] сад над вадою.
— Пусці, пусці, мой свёкарка,
У свой сад пагуляць, вішанькі нашчыпаць.
Я не буду вішні шчыпаць,
Толькі вышчыкну адну вішаньку,
Панясу татачку на парадачку.
— Парай, парай, татачка,
Як з нялюбым жыць, нялюбаму наравіць.
— Сядзь, маё чада, за цясовым сталом,
Назаві нялюбага ясным сакалом.
— Лепей, татачка, горкі палын есці,
Чым з нялюбым за сталом сесці.
Лепей, татачка, камень падняць,
Чым нялюбага сакалом назваць.
Камень падніму — я й не ўтамлюся,
Нялюбага сакалом назаву — слязамі абальюся.

846. Асвяціў месяц і зямлю, і ваду,
Ой, рана-рана, і зямлю, і ваду! *

Мяне, маладу, сярод горада.
А я, малада, ўсё каўры ткала,
Кругі золата паразбірала.

---

* Прыпеў «Ой, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

У тую пару, у тое ўрэмечка
Ка мне, маладзе, да свёкар на двор,
Свёкар на двор, пад акошачка.
Ах я, малада, сыпужалася:
Кругі залаты памяшаліся,
Сізыя галубы пападымаліся,
Ясныя сакалы паразляталіся.
Сізыя галубы да пад стрэшанькі,
Ясны сакалы да пападнебейку.

Асвяціў месяц і зямлю, і ваду,
І мяне, маладу, сярод горада.
А я, малада, ўсё каўры ткала,
Кругі золата паразбірала.
У тую пару, у тое ўрэмюшка
Ка мне, маладзе, мой татка на двор,
Мой татка на двор, пад акошачка.
Ах я, малада, узрадавалася,
Кругі залаты азлаціліся,
Сізыя галубы саляталіся,
Ясныя сакалы сабіраліся,
Сізыя галубы з-пад стрэшанькі,
Ясны сакалы з-пад небейка.

847. А ўзышоў месяц вышэй гораду,
Ай, рана, рана, вышэй гораду.
Асвяціў месяц і зямлю, і ваду,
І зямлю, і ваду, і мяне, маладу,
Ай, рана, рана, і мяне, маладу.

А я, малада, ўсё каўры ткала,
Ай, рана, рана, усё каўры ткала.
Залаты кругі прысесць клала,
Ай, рана, рана, на прысесць клала.

Ай, стуку, груку, ды свякор на двор,
Ай, рана, рана, ды свякор на двор.
А я, малада, улякнулася,
Ай, рана, рана, улякнулася

І з падножайкі спатыкнулася,
Ай, рана, рана, спатыкнулася.

848. А што ўчора са вячора
Сасна з ветрам гаварыла:
— Ой ты, ветра, ты, мой ветра,
Не шугукай нада мною,
Не шугукай нада мною,
Над зялёнаю сасною.
А што ўчора са вячора
Цешча з зяцем гаварыла:
— Ох ты ж, зяцю, ты, мой зяцька,
Ты не бей майго дзіцяці.
А маё ж то дзіцяця
Дзень стаіць на рабоце,
А ў вечары — на варкоце,
Ночка прыйдзець — на ташноце.

849. Як пайду ды ў лес далінаю,
Ці не спаткаю ды вярбу з калінаю.
Я й выламлю ды з каліначкі ветку,
Кіну, кіну ды пад мамчыну клетку.
Нейдзе мая мамка ды весел банкет мае,
У тым банкеце ды мяне ўспамінае:
— Нейдзе маё дзіця без долі радзілася,
Што яно ка мне ды на абед спазнілася.
Узыдзі, узыдзі, ды вячэрняя зара,
Прыйдзі, прыбудзь, ай, далёкае дзіця!
Зара ўзышла, увесь свет асвяціла,
Дзіця прыйшло, увесь род ўзвесяліла.

850. Як жылі ж то былі да два брахненькі родных,
Яны піва наварылі і гасцей пазазвалі.
Па багатую сястру коней паслалі,
А худую ж, бядную да людзечкі наказалі,
А багатую сястру на тры ночы ўзнімаюць,
А худую, бядную да скрозь ноч пасылаюць:
— Ты ідзі-ка, сястрыца, ты ідзі-ка, бядная,
А скрозь ночаньку двору,
Тваe дзетушкі плачуць, піці-есцінькі хочуць.
Як пайшла ж то сястрыца, як пайшла ж то худая
Да скрозь ночаньку двору,
Як крыкнула, гукнула тонкім, громкім голасам,
Маладзенькім посвістам:
— Ох вы, серыя воўкі, раздрыгайце ж вы мяне
А па чыстаму полю, па шырокай даліне!

Як зачула сястрыца, ды й на ложы лежучы:
— Уставайці-тка, братцы, вы сядлайце-ка коней:
Ета ж нашую сястрыцу серыя воўкі з'елі
Па чыстаму полю, па шырокай даліне.

851. Ты дуброва, дуброва,
Дубровачка зялёная. *

Ах, і што ж ты, дуброва,
А не родзіш нічога?

Не зрадзіла дуброва
А ні хмелю, ні ячменю,

А зрадзіла дуброва
Густы ельнік ды бярэзнік.

Каб жа там, па ельнічку,
Ды два брацінькі гулялі.

Ды два брацінькі гулялі,
Яны брусейка цясалі.

Яны брусейка цясалі,
Святлічаньку будавалі.

Яны думалі — святліца,
Ажно цёмная цямніца.

— Вот цяпер жа мы, брацец,
Навек з табой запрапалі.

А й не будзем, брацец, знаці,
Калі зіма, калі лета.

А й не будзем, брацец, знаці,
Калі свят дзень, калі будні.

А па том зіму зналі,
Што залезы прыставалі.

---

* Кожная страфа паўтараецца двойчы.

А па том лета знали,
Што зязюлі кукавалі.

А й па том ночку знали,
А што пеўні ўспявалі.

А й па том свят дзень знали —
Ува ўсе званы зазванілі.

852. Ах, і дай, божа,
Нам Каляд дажыць,

Лёлі-лёлі,
Нам Каляд дажыць. *

Нам Каляд дажыць,
Святак вечароў.

А пайшоў бы я
Ды й на йгрышчыка.

Паскакаў бы [redacted]
З тою дзеўкаю.

З тою дзеўкаю
Чарнаброўкаю.

Ах, і стану я
Ды паслухаю:

Ці стучыць зямля,
Ці гручыць зямля,

Ці вязуць нашу
Свет-кастромачку.

Свет-кастромачку,
Чарнабровачку.

---

* Прыпеў «Лёлі-лёлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

853. А Калядачкі, барджэй, барджэй,
А нам Піліпаўка надакучыла,
Усім жывоцікі перамучыла,

А ўжо ж жамеры зубы праелі.
А каб Калядак нядзель дзесятак,
А Піліпаўкі каб адзін дзянёк,
І то каб адзін святы вечарок.

854. Дай, божа, нам Каляд даждаць,
Лёлі-лёлі, нам Каляд даждаць. *
Ці не пойдзем на йгрышча гуляць,
Ідзем, ідзем ды паслухаем,
Ці гудуць гуслі, ці йграюць скрыпкі,
Ці скачуць дзеўкі-чарнабрыўкі.

855. Каб даў божачка,
Нам Каляд даждаць.

Люлі-люлі, нам Каляд даждаць. **

Нам Каляд даждаць,
Святых вечароў.

Як пайшлі ж бы мы
Ды ў начлежачкі,

Як напралі б мы
Па ручаечцы.

* Прыпеў «Лёлі-лёлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў «Люлі-люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

856. У дубнічку стрынаткі,
Недалёчка Калядкі.
Пайшла служка скачучы,
А пан за ёй — плачучы:
— Вярніся, служка, вярніся,
Яшчэ на гадок найміся.
— Каб ты, панок, не даждаў,
Як ты мною пасылаў.
На святога Сцяпана
Вышэй сяду за пана.
На святую Гаспожку
Вышэй сяду за кошку.



## АСНОЎНЫЯ КРЫНІЦЫ І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ


Бел. фальклор — Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Гомельская вобласць/Уклад. В. А. Захарава, Р. М. Кавалёва, В. Д. Ліцвінка, муз. часткі — У. І Раговіч. Мн., 1989.

Бессонов — Бессонов Петр. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871.

Бычко-Машко — Бичко-Машко И. Е. Сборник народных песен, записанных в поселке Калюго-Комарно Рогозенской вол. Кобринского у. Гродненской губ. СПб., 1911.

Богданович — Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнограф. очерк. Гродно. 1895.

Булгаковский — Булгаковский Д. Г. Пинчуки. СПб., 1890.

Васильева — Васильева А. Я. Рождественские праздники крестьян Мозырского уезда//Мин. губерн. ведомости. 1878, № 5.

Гілевіч, 1973 — Гілевіч Н. С. Песні сямі вёсак. Мн., 1973.

Гілевіч, 1974 — Гілевіч Н. С. Песні народных свят і абрадаў. Мн., 1974.

Гильтебрандт — Гильтебрандт П. Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вильно, 1866. Вып. 1.

Грынблат — Песні беларускага народа/Уклад. М. Я. Грынблата. Мн., 1940. Т. 1.

Грыневіч — Школьны спеўнік/Уклад. А. Грыневіч. Вільня, 1920.

Дембовецкий — Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии в историческом, физико-географическом, этнографическом...отношениях. Могилев, 1882. Кн. 1.

Добровольский, 4 — Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. М., 1903. Ч. 4.

Довнар-Запольский — Белорусское Полесье. Сборник этнографич. материалов, собранных М. Довнар-Запольским: Песни пинчуков. Киев, 1895. Вып. 1.

Захарава — Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры /Склад. В. А. Захарава. Мн., 1973.

Земцовский — Поэзия крестьянских праздников/Вступ. статья, составление, подготовка текста и примечания И. И. Земцовского. Л., 1970.

Карский — Карский Е. Ф. Белорусские песни с. Березовца Новогрудского уезда Минской губернии//Рус. филол. вестник. Варшава, 1884. Т. 12; 1885. Т. 13.

Карский, 1889 — Карский Е. Ф. Белорусские песни деревни Новоселок-Затрокских Виленской губернии Трокского уезда//Рус. филол. вестник. Варшава, 1889. Т. 21.

Косич — Косич М. Н. Литвины-белорусы Черниговской губ.//Живая старина. СПб., 1901. № 2—4.

Малевич — Малевич С. Белорусские народные песни. СПб., 1907.

Можейко, 1983 — Можейко З. Я. Песни Белорусского Полесья. М., 1983. Вып. 1.

Потебня — Потебня А. А. Объяснения малорусских и сродных народных песен. Колядки и щедривки. Варшава, 1887. Т. 1.

Раговіч — Раговіч У. Беларускія абрадавыя песні. Мн., 1985.

Радченко, 1881 — Сборник малорусских и белорусских песен Гомельского уезда, записанных для голоса с аккомпан. форт. Зинаидой Радченко. СПб., 1881. Вып. 1.
Радченко, 1888 — Гомельские народные песни (белорусские и малорусские). Записаны в Дятловицкой волости Гомельского уезда Могилевской губернии Зинаидой Радченко, с приложением 83 местных пословиц. СПб., 1888.
Радченко, 1911 — Сборник малорусских и белорусских народных песен Могилевской губ. Гомельского уезда Дятловицкой вол. Записаны для голоса З. Радченко. СПб., 1911.
Розенфельд — Розенфельд А. Белорусские народные песни. СПб., 1904.
Романов 1,2 — Романов Е. Р. Белорусский сборник. Киев, 1886. Вып. 1 и 2.
Романов, 8 — Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильна, 1912. Вып. 8.
Сахараў, 1 — Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940. Вып. 1.
Сахараў, 4 — Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукатэнскіх беларусаў. Рукапіс/ЦНБ АН БССР. АРКіР. Вып. 4.
Сербаў, 1 — Сербаў І. Аб беларускай народнай песні//Гоман, 1918.
Сербов — Сербов И. Белорусы-сакуны. Пг., 1915.
Тэраўскі — Тэраўскі У. Беларускі лірнік. Берлін, 1922.
Хрэстаматыя — Хрэстаматыя. Беларускі фальклор. Мн., 1985.
Чубинский — Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западнорусский край, снаряженной имп. Русским географическим обществом. Юго-западный отдел: Материалы и исследования, собранные П. П. Чубинским. СПб., 1872. Т. 3.
Чуркін, 1949 — Чуркін М. Беларускія народныя песні і танцы. Мн., 1949.
Шейн. Бел. песни — Шейн П. В. Белорусские народные песни. СПб., 1874.
Шейн. Материалы — Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887. Т. 1. Ч. 1.
Шлюбскі — Шлюбскі Ал. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Мн.,1927. Ч. 1.
Шырма, 3 — Беларускія народныя песні: У 4 т./Зап. Р. Шырмы. Мн., 1962. Т. 3.
Эвальд — Эвальд З. Песни Белорусского Полесья. М., 1979.
Ялатаў — Ялатаў В. І. Ад песні — да песні. Мн., 1961.
Янчук — Янчук Н. А. По Минской губернии (заметки из поездки в 1886 г.) // ИОЛЕАиЭ. Труды этнограф. отдела. М., 1889. Т. 1. Кн. 9. Вып. 1.
Barszczewski — Barszczewski I. Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś. Petersburg, 1844.
Bykowski — Bykowski P. Pieśni obrzębowe ludu ruskiego z okolic Pińska // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1878. T. 2.
Czeczot, 1844 — Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny z dołoczeniem perwotwornych w mowie słowiano-krewickiej. Wilno, 1844.
Czeczot, 1846 — Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny, niektóre przysłowia idiomatyzmy w mowie słowianokrewickiej, z postrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846.
Cerny — Cerny A. Pieśni Białoruskie z powiatu Dzisnienskiego gubernii Wileńskiej // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1895. T. 18.
Federowski, 5 — Federowski M. Lud Białoruski. Warszawa, 1958. T. 5.
Federowski, 8 — Federowski M. Lud Białoruski. Warszawa, 1981. T. 8.
Gawrońska — Gawrońska B. Pieśni ludowe ziemi Wilieńskiej i Nowogródzkiej. Wilno, 1935.
Hurynowicz — Hurynowicz A. Zbiór rzeczy białoruskich // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1893. T. 17.
Hryniewič — Hryniewič A. Bielaruskija narodnyja pieśni. Pieciarburh, 1910. T. 1; 1912. T. 2.
Jaraszewicz — Jaraszewicz J. Wiadomości o kupalnicach // Ondyna Druskienickich sródl. Druskieniki, 1846.

Kuba — Kuba L. Cesty za slowanskou pisni. 1825—1929. Zwazek prwy. Slowansky zapad a wychod. W Praze, 1933.

Moszyński — Moszyński K. Poliesie Wschodnie. Warszawa, 1928.

Rypiński — Rypiński A. Białoruś. Paryż, 1840.

Tyszkiewicz E.— Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

Tyszkiewicz K.— Tyszkiewicz K. Wilija i jej brzegi. Drezno, 1871.

Zieńkiewicz — Zieńkiewicz R. Piosnki gminne ludu Pińskiego. Kowno, 1851.

## АРХІВЫ

ААН СССР — Архіў Акадэміі навук СССР (Ленінградскае аддзяленне).

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

АГТ — Архіў Геаграфічнага Таварыства СССР.

АФК — Архіў фальклорнай камісіі.

ІРЛІ — Інстытут рускай літаратуры (Ленінград).

ЦДАЛМ — Цэнтральны Дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва.

ЦДГМ — Цэнтральны Дзяржаўны гістарычны музей СССР.

ЦНБ АН БССР АРКіР — Цэнтральная навуковая бібліятэка АН Беларускай ССР, Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў.

ЦНБ АН ЛітССР АРКіР — Цэнтральная навуковая бібліятэка АН ЛітССР.

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

акр. — акруга
б. — былая
в. — вёска
вар. — варыянт
вобл. — вобласць
вол. — воласць
воп. — вопіс
г. — горад
г. н. — год нараджэння
г. п. — гарадскі пасёлак
губ. — губерня
зап. — запісана (запісаў, запісала)
клц. — калекцыя
л. — ліст
м. — мястэчка
наст. — настаўнік
п. — павет
пас. — пасёлак
п-ка — папка
р. — раён
р. — разрад (фонд)
спр. — справа
студ. — студэнты (студэнт, студэнтка)
ст. — стужка
сш. — сшытак
ф. — фонд
фальв.— фальварак
часоп. — часопіс

## ЗІМОВЫЯ ПЕСНІ

### КАЛЯДКІ І ШЧАДРОЎКІ

### ПЕСНІ КАЛЯДНЫХ ІГРЫШЧАЎ

**1. А Калядачкі, а хадзіце к нам**

Гілевіч, 1974, с. 16. Зап. М. Драніца ў в. Навахросты Крупскага р.

**2. Прыехала Каляда на белым кані**

Гілевіч, 1974, с. 13. Зап. Л. Субач у в. Асіпавічы Вілейскага р. ад Н. Субач, 76 г., і Т. Субач, 80 г.

**3. Прыехала Каляда ў вазочку**

Гілевіч, 1974, с. 13. Зап. Г. Смольская ў в. Падгорцы Капыльскага р. ад Гэлі Бернік, 1905 г. н.

**4. Прыехала Каляда ўвечара**

Гілевіч, 1974, с. 14. Зап. Р. Адзінец у в. Жорнаўка Асіповіцкага р. ад Надзеі Адзінец, 63 г.

**5. Прыйшлі Калядкі ўвечары, ўвечары**

Гілевіч, 1974, с. 14. Зап. у в. Верхмень Смалявіцкага р. ад Антаніны Пяршай.

**6. Ехала Каляда з Полацка**

Бессонов, с. 71. Зап. у Смаленскай губ.

**7. Як пайшла Каляда**

Гілевіч, 1974, с. 13. Зап. В. Пшыркова ў в. Дражакі Гарадоцкага р. ад Фёклы Івановай, 72 г.

**8. Калядачкі, бліны-ладачкі**

Романов, 8, с. 128. Зап. у Быхаўскім п.

**9. За сяньмі, сяньмі там за новымі**

РФВ, т. 13, № 1—2, с. 266. Зап. Я. Ф. Карскі ў в. Бярозаўка Навагрудскага п. Мінскай губ.

**10. Добры вечар таму, хто ў етым даму**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 94, сш. 2, л. 23. Зап. А. Ляшкевіч і І. Мурашка ў 1975 г. у в. Прусы Старадарожскага р.

**11. Ой, у ляску, у ляску**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99 а, сш. 1, л. 43—44. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Бокшыцы Слуцкага р. ад Марыі Шэлег, 1910 г. н.

**12. Ці дома, дома сам пан гаспадар?**

Шырма, 3, с. 258. Зап. у 1934 г. у в. Задубенне Вілейскага п. ад вясковых жанчын.

**13. Чы дома ж, дома ж пан гаспадар**

Moszyński, с. 311. Зап. у вв. Галубічы, Дарашэвічы Мазырскага п.

**14. Хадзілі-блудзілі**

Зімовыя песні, с. 177—178. Зап. З. Я. Мажэйка ў 1970 г. у в. Клятная Пінскага р. ад М. П. Русак, 66 г., В. І. Вакульчык, 48 г., і Л. П. Сліж, 38 г.

**15. Ці дома, дома сам пан гаспадар?**

Можейко, 1983, с. 38. Зап. у 1968 г. у в. Краснае Возера Салігорскага р. ад А. Мацюкевіч, 1911 г. н.

**16. Пане гаспадару, ці спіш, ці ляжыш**

Потебня, с. 137. Зап. А. Ф. Садоўскі.

**17. У нашага пана**

АГТ, р. 20, воп. 1, клц. 21, л. 34—35. Зап. у Пінскім п.

*Рагатык, плашэнькі, сошнечкі, палычкі, падпалычкі, падвоічкі* — часткі палескай валовай сахі.

*Штальовыя* — стальныя.

*Ярэмчык, кульбачкі, занозікі, ражочкі, асценчык, сушанькі* — валовае ярмо і яго часткі.

**18. Ластаванька чарненькая**

Булгаковский, с. 45—46. Зап. у Пінскім п.

**19. Ой, чые ж то пастушкі**

Булгаковский, с. 30—32. Зап. у Пінскім п.

**20. Ходзіць, паходзіць**

Романов, 8, с. 113—114. Зап. у м. Жлобін Рагачоўскага п.

**21. Пане гаспадар, бог цябе заве**

Зімовыя песні, с. 221—222. Зап. З. Я. Мажэйка ў 1967 г. у в. Тонеж Лельчыцкага р. ад Ефрасінні Ярмоліч, 59 г.

*Валы паруе* — падзяляе на пары для работы.

*Коні стайлуе* — расстаўляе на стайнях.

*Стажкі шаруе* — накідае ў вялікія стагі.

**22. У нашага пана двор гараджоны**

Васильева // Минск. губерн. ведомости, 1878, № 5, с. 74—75. Зап. у Мазырскім п.

**23. Ой, па-над морам, па-над глыбокім**

Эвальд, 1979, с. 46. Зап. у 1934 г. у с. Тонеж Тураўскага р.

**24. А ці дома, дома сам пан гаспадар?**

Шейн. Материалы, с. 58. Зап. А. Шурпічам — настаўнікам Меляшкевіцкага нар. вучылішча.

**25. Ды хадзілі, гулялі калядоўшчыкі**

Сахараў, 1, с. 7—9. Зап. у 1939 г. у в. Шушкі Шкавенскай вол. Лудзенскага п. ад В. Дамчонак.

**26. А ў нядзелю ранюсенька**

Hurynowicz, с. 52—53 (187—188). Зап. у Свянцянскім п. Віленскай губ.

**27. Ой, ішла Каляда калядуючы праз сяло**

Шырма, 3, с. 264. Зап. Р. Шырма ў 1935 г. на хутары Высокі Груд Пружанскага п. ад Ганны Папко. 1875 г. н.

**28. Ой, пад вярбою, пад зялёною**

Чубинский, с. 440. Зап. у в. Драгічын Кобрынскага п.
*Леньма-паленьма* — паплывем.

**29. А ў пана, пана, пана Васіля двор гараджоны**

Романов, 1—2, с. 446. Зап. у г. Беліца.

**30. Добры вечар, Шчодры вечар**

Раговіч, с. 10. Зап. у 1961 г. у Століне ад В. Мельнік, 1942 г. н.

**31. А чалом, чалом пад акенечкам**

Шейн. Материалы, с. 65. Зап. навучэнец Мінскай духоўнай семінарыі А. П. Ральцэвіч.
*На палічкі* — на паліку, аздобленай нашыўцы на плячах жаночай кашулі.

**32. Ой, рана, рана каваліха ўстала**

ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 533. Зап. Г. Пузанаў у 1890 г. у с. Шумарава Мглінскага п.

**33. Ой, у лузе, ў лузе красна каліна**

Радченко, 1881, с. 15—16. Зап. у Гомельскім п.

**34. Ля варот, варот высокі цярон**

ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 533, л. 7. Зап. Г. Пузанаў у 1890 г. у с. Шумарава Мглінскага п.

**35. ...У нашага пана двор гароджаны**

Раговіч, с. 17. Зап. у 1960 г. у в. Рычоў Тураўскага р. ад Мікалая Рыдзецкага.

**36. Там за садамі трава-мурава**

Шырма, 3, с. 267. Зап. у 1929 г. у в. Харкі Пружанскага п.

**37. Ой, рана, рана куры запелі**

Шырма, 3, с. 262—263. Зап. у 1935 г. на хутары Высокі Груд Пружанскага п. ад Ганны Папко, 1875 г. н.
*Жанучы* — гонячы (дыялект.).

**38. А ў полі, полі ды жыта не зжата**

Гілевіч, 1974, с. 23—24. Зап. В. Серчанкова ў в. Красніца Рагачоўскага р. ад П. Душкевіч, 1912 г. н.

**39. Ой, па мосціку, па залатому**

ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 134, л. 7. Зап. Г. Дзмітрук у 1887 г. у в. Дубіч-Мураваная Бельскага п.

**40. Ой, рана, рана куры запелі**

Шырма, 3, с. 271—273. Зап. ў 1928 г. у в. Шакуны Пружанскага п. ад Захвеі Хвораст.

**41. Ой, у гародзе**

Булгаковский, с. 39—41. Зап. у Пінскім п.

**42. Да мостам, мостам да вярбованькім**

Захарава, с. 71—72. Зап. В. Захарава і Л. Ясінская ў 1969 г. у в. Какорыца Драгічынскага р. ад М. Зіновіч, 1932 г. н.

**43. Там на рэчаньцы, там на быстранькай**

Шейн. Материалы, с. 67. Зап. вучань VI кл. Слуцкай гімназіі Харламповіч у г. Слуцку.
*Чэрзлосны* — відаць, з чырвонага золата, бліскучы.

**44. Шыла Сонечка, шыла шаронку**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 60, сш. 2, л. 24. Зап. В. І. Скідан у 1973 г. у в. Вялікі Бор Хойніцкага р. ад Евы Дземідзенка, 90 г.
*Шаронка* — шырынка, тут: кашуля.

**45. А ў лесе, ў лесе**

Романов, 8, с. 120. Зап. Л. М. Ткачэнка ў в. Дуброўка Гомельскага п.

**46. Красна дзевачка, расці скоранька**

Бел. фальклор, с. 28. Зап. В. Ліцвінка і У. Раговіч у в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р.

**47. Узышло, узышло тры месяцы**

Шырма, 3, с. 261. Зап. у 1935 г. на хутары Высокі Груд Пружанскага п. ад Ганны Папко, 1875 г. н.

**48. Ці дома, дома, дома сам пан гаспадар?**

Шейн. Материалы, с. 84—85. З Чубінскага.

**49. Ой, пад лесам да пад высокім**

Шейн. Материалы, с. 75—76. Зап. настаўнік Рагачоўскага гарадскога вучылішча І. Аўсейц у Рагачоўскім п.

**50. Ой, рана-парану ды куры запелі**

АГТ, р. 20, воп. 1, клц. 8, л. 155: Рукап. «Мінская губерня і яе народная творчасць, год жыцця беларуса ў яго народных святах, звычаях, вераваннях». Зап. А. М. Шыманоўскі.

**51. Ой, як жа па мору да па Дунаю**

Радченко, 1881, с. 16. Зап. у Гомельскім п.

**52. Ой, за варацьмі крутая гара**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 60, сш. 2, л. 23. Зап. В. І. Скідан у 1973 г. у в. Вялікі Бор Хойніцкага р. ад Евы Дземідзенка, 90 г.

**53. У полі пад шатром Стасюнька з канём**

Moszyński, с. 313. Зап. у в. Галубічы Мазырскага п. ад Матроны Ганчаровай.

**54. На рэчцы, на рэчцы**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 92, ч. 1, л. 95. Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Прыбыткі Гомельскага р. ад А. Лявоненка, 50 г.

**55. Там на Тураве, там на мураве**

Зімовыя песні, с. 310. Зап. З. Я. Мажэйка ў 1970 г. у в. Выганішча Івацэвіцкага р. ад Аўдоцці Ланец, 69 г., Праскоўі Лукашэвіч, 65., і Матруны Ланец, 64 г.

**56. А ў лузе, у лузе красна каліна**

Радченко, 1888, с. 111—112. Зап. у Гомельскім п.

**57. А ў полі, у полі зялёная ёлачка**

Янчук, с. 63. Зап. у м. Юравічы Ігуменскага п.

**58. Хадзіла-блудзіла семсот малайцоў**

Зімовыя песні, с. 177. Зап. З. Я. Мажэйка ў 1972 г. у в. Клятная Пінскага р. ад Восіпа Пархуціна, 74 г.

**59. Гэй, Каляда!**

АГТ, р. 20, воп. 1, клц. 21, л. 25. Зап. у Пінскім п. Мінскай губ.

*Летаранька* — ліхтар.

*Ачапок* — тут: прывязка да падвешанай калыскі дзеля зручнага калыхання дзіцяці.

**60. Добры вечар таму**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 63, сш. 13, л. 5—6. Зап. І. Г. Несцяровіч у 1965 г. у в. Макарычы Слуцкага р. ад Кацярыны Лосік, 1899 г. н.

**61. У канцы сяла стаяла гара**

Шейн. Материалы, с. 86. З Чубінскага.

**62. Маладц Іваначка рожу ссякае**

Радченко, 1888, с. 117—118. Зап. у Гомельскім п.

*Кітаечка* — лёгкая тканіна на сукенку.

**63. Зажурылася крутая гара**

Шейн. Материалы, с. 83. Зап. наст. Рагачоўскага гарадскога вучылішча І. Аўсейц у Слонімскім п.

**64. А збегла, збегла з поля старожа**

Романов, 8, с. 113. Зап. у с. Хонава Быхаўскага п. Заўв. збіральніка: «Спяваецца халастому сыну гаспадара».

**65. Як задумаў Іван да жаніціся**

Радченко, 1888, с. 113. Зап. у Гомельскім п.

**66. Калядка йдзе, сто коні вядзе**

Federowski, 8, с. 85.

**67. А ў ляску, у ляску круглае поле**

Зімовыя песні, с. 353. Зап. З. Я. Мажэйка ў 1968 г. у в. Глушкавічы Лельчыцкага р. ад Вольгі Радзілавец, 1936 г. н., і групы жанчын-даярак.

**68. Ой, бегла, бегла старожа з поля**

Романов, 1—2, с. 447. Зап. у Гомельскім п.

**69. Вароты скрыпяць, марозы чуваць**

ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 52. Зап. Я. і А. Логіны ў 1913 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

**70. Ой, у мястэчку, у Берастэчку**

Булгаковский, с. 43—44. Зап. у Пінскім п.

**71. Ну, ну-ну, казёл**

Гілевіч, 1974, с. 16—17. Зап. Т. Кубрак у Капыльскім р. ад А. Віаленці, 60 г.

**72. Паварачывайся, казёл**

Шейн. Материалы, с. 38. Зап. вучань Слуцкай гімназіі Я. Копаць.

**73. На нова лета**

Шырма, 3, с. 277—278. Зап. у 1928 г. у г. Пружаны ад Ганны Дудзейка.

**74. Каляда-Калядзіца**

ЦДГМ, ф. 56, п-ка 27б. Зап. Я. Каханоўскі.

**75. Выйдзі, зорачка**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 8, сш. 1, л. 10. Зап. А. І. Гурскі ў 1968 г. у в. Загарэнне Краснапольскага р. ад Просі Трацяковай, 76 г.

**76. А ў заінькі тры думанькі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 52, сш. 1, л. 69. Зап. Л. М. Салавей у 1972 г. у в. Кажанавічы Верхнядзвінскага р. ад Лёлі Цыры, 1930 г. н.

**77. А ў нас сягоння сход Каляд**

Романов, 8, с. 134. Зап. Ф. Сакалоўскі ў Лепельскім п.

**78. Пайшла Каляда калядуючы**

Czeczot, 1846, с. 9. Зап. на Навагрудчыне.

**79. Ой, Каляды-Калядачкі, бліны-ладачкі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 94, сш. 1, л. 34. Зап. М. П. Гваздзёў у 1965 г. у в. Зубава Аршанскага р. ад Хімы Сцяпанаўны Рабенінай, 53 г.
*Нямецкія* — тут: нямыя.

**80. Ішла Каляда калядуючы**

Шырма, 3, с. 256. Зап. у 1932 г. ад мастака Язэпа Драздовіча з Дзісеншчыны.

**81. Да я Каляду да на кут павяду**

ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 79. Зап. Я. і А. Логіны ў 1914 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

**82. Пайшла Каляда калядуючы**

ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 49. Зап. Я. і А. Логіны ў 1914 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

**83. Пайшла Каляда калядуючы**

Захарава, с. 66. Зап. В. Захарава і Л. Зэлікава ў 1968 г. у в. Бакуны Пружанскага р. ад С. Багдановіч.

**84. Валадару, валадару!**

ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 313. Зап. В. Пратасевіч у 1888 г. у Старобінскай вол. Слуцкага п. ад Ірыны Русаковіч.

**85. У канцы сяла да стаіць вярба**

ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 49 адв. Зап. Я. і А. Логіны ў 1914 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

**86. Ляцеў каршунішча, Каляда**

Гілевіч, 1973, с. 31. Зап. у в. Альсевічы Мядзельскага р. ад Тэклі Хілы.

**87. Да на гары новы двор**

ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 51. Зап. Я. і А. Логіны ў 1913 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

**88. Скакаў гарабей да на сметнічку**

ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 50а. Зап. Я. і А. Логіны ў 1913 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

**89. А йшоў-перайшоў, Каляда**

Гілевіч, 1973, с. 32. Зап. у в. Альсевічы Мядзельскага р. ад Тэклі Хілы і Ганны Хілы.

**90. Чаго ты, рожа, адна ў гародзе?**

Дембовецкий, с. 525. Зап. у с. Гладкова Чавускага п.

**91. Там за садамі, за зялёнымі**

Шырма, 3, с. 271—273. Зап. у 1928 г. у в. Шакуны Пружанскага п. ад Захвеі Хвораст.

**92. А дзе была, Каляда**

ААН СССР, ф. 134, воп. 2, спр. 14, л. 49 адв. Зап. Я. і А. Логіны ў в. Моладава Навагрудскага п.

**93. А пад нашым сялом, пад Слабадою**

Шейн. Бел. песни, с. 52, № 101. Зап. А. Ф. Лісоўская ў Быхаўскім п.

**94. Перагараджу да тыжком рэчку**

АН БССР, АРКіР, ф. 23, воп. 1, спр. 472, л. 22. Зап. Я. і А. Логіны ў 1913—1914 гг. у в. Моладава Навагрудскага п.

**95. Прала Ганначка на лёду хусткі**

Зімовыя песні, с. 479. Зап. З. Я. Мажэйка ў 1967 г. у в. Азершчына Рэчыцкага р. ад Таццяны Лапацінай, 75 г., і Марыі Пермяковай, 68 г.

**96. Ой, Калядачкі, вярніцеся**

Захарава, с. 69. Зап. В. Захарава і Л. Чабатар у 1969 г. у в. Какорыца Драгічынскага р. ад М. Зіновіч, 1932 г. н.

**97. А Калядачкі, а вярніцеся**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 8, л. 56. Зап. А. С. Емяльянаў у 1960 г. у в. Цяцерын Бялыніцкага р. ад Вольгі Андрыенка, 75 г.

**98. Ад куту да куту ды ўсё жанішкі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 67, сш. 1, л. 23. Зап. Л. А. Малаш у 1973 г. у в. Цялуша Бабруйскага р. ад Насці Ступень, 1911 г. н.

ЦЯРЭШКІ

**99. Пайду я Цярэшку жаніць**

АІМЭФ, ф. 2, воп. 10, спр. 21, л. 92. Зап. Н. М. Маркава ў 1970 г. у в. Караліна Докшыцкага р. ад А. Н. Захарэвіч.

**100. Ай, божа мой, якая бяда**

АІМЭФ, ф. 2, воп. 11. Зап. З. Я. Мажэйка ў 1972 г. у в. Шпакоўшчына Полацкага р. ад Дар'і Цялушка, 64 г., і М. П. Прышчапёнак, 56 г.

**101. Божа мой, вялікая бяда**

Романов, 8, с. 124. Зап. у Дзісенскім п. Песня з гульні «Жаніцьба Цярэшкі».

**102. Мой мілы камкуць, камкуць**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 229а, л. 72. Зап. А. Ліс у 1985 г. у в. Чорная Пастаўскага р. ад Юзэфы Кузьміч, 1915 г. н.

**103. Пайду я у тын глядзець**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 229а, л. 71. Зап. А. Ліс у 1985 г. у в. Чорная Пастаўскага р. ад Юзэфы Кузьміч, 1915 г. н.

**104. Цярэшка-Цярэшанька**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 229а, л. 24. Зап. А. Ліс у 1985 г. на хутары Макараўшчына Пастаўскага р. ад Фені Казаровец, 1907 г. н.

**105. Паіў я каня ў ярку**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 229а, л. 14. Зап. А. Ліс у 1985 г. на хутары Макараўшчына Пастаўскага р. ад Фені Казаровец, 1907 г. н.

МАСЛЕНІЧНЫЯ

**106. Наша Масленіца гадавая**

Гілевіч, 1974, с. 56.

**107. Мы на горушцы пабывалі, пабывалі**

Романов, 8, с. 140. Зап. Т. Мадзалеўская ў с. Вузкае Веліжскага п. ад Андрэевай.

**108. У нас сягоння Масленіца**

Сербаў І. Аб беларускай народнай песні // Гоман, 1918, № 88.

**109. Наша Масленка катліва**

Шырма, 3, с. 293, № 193. Зап. ад пісьменніка М. Лужаніна.

**110. У нас Маслены дзень...**

Гілевіч, 1973, с. 347. Зап. В. Батак і В. Бутыла ў в. Паляны Барысаўскага р. ад Марыі Муха.

**111. Чок, чок, салавей, вы, пташкі, маўчыце**

АГТ, р. 53, воп. 1, клц. 110, л. 8.

На Сырную нядзелю. Без указання месца запісу.

**112. На вуліцы бабы сядзелі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 229а, сш. 1, л. 132. Зап. у 1981 г. у в. Нача Крупскага р. ад Вольгі Ждановіч, 1917 г. н.

**113. Ой, гора, гора старому**

Карский // РФВ, 1885, т. 13, с. 273. Зап. у с. Бярозавец Навагрудскага п.

## ВЕСНАВЫЯ ПЕСНІ

### ГУКАННЕ ВЯСНЫ

#### ВЯСНЯНКІ

**114. Благаславі, божа, на ўзгорачку сесці вясну загукаці**

Добровольский, 4, с. 99. Зап. ад вучаніцы з Магілёўскай губ. Заўв. збіральніка.

**115. Благаславі, божа, зіму замыкаці**

Шейн. Материалы, с. 126. Зап. у в. Савы Горацкага п.

**116. Благаславі, божа мілы, зіму замыкаці**

Шейн. Материалы, с. 126. Зап. у в. Савы Горацкага п.

**117. Благаславіце, старыя дзеды**

Веснавыя песні, с. 94. Зап. К. Кабашнікаў і І. Крук у 1978 г. у в. Струмень Кармянскага р. ад Н. Малчанавай.

**118. Ці пазволіце, старыя людзі**

Романов, 1—2, с. 263. Зап. у в. Балотня Рагачоўскага п.

**119. Благаславі, божа**

Гілевіч, 1974, с. 68. Зап. С. Нікіценка ў в. Купіск Навагрудскага р. ад М. Цырусь, 1904 г. н.

**120. Зіма з летам сустракаецца**

Радченко, 1888, с. 1. Зап. у Гомельскім п.

**121. Зіма з летам сустракалася**

Радченко, 1888, с. 1. Зап. у Гомельскім п.

**122. Вол бушуе, вясну чуе**

ЦНБ АН БССР, АРКіР, ф. 123, воп. 1, спр. 472, л. 6. Зап. Я. і А. Логіны ў 1914 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

**123. Ты, пчолачка ярая**

Kuba, с. 245. Благавешчанская.

**124. Благаславі, божа**

Наш край, 1927, № 1 (16), с. 24. Зап. Р. Трыбулёў у Лядняненскім р.

**125. Прыйдзі, прыйдзі, вясна**

Подольск. губерн. ведомости, 1895, № 26.

**126. Ой ты, жаваранку, ранняя пташка**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 22, сш. 1, л. 11, № 37. Зап. Г. І. Цітовіч у 1948 г. у в. Гайнаўка Кобрынскага р. ад А. Р. Шпендзік, 1904 г. н. Перад Благавешчаннем.

**127. Жаваранак, ранняя птушэчка**

Гілевіч, 1974, с. 68. Зап. Н. Лабуда ў в. Бакуны Пружанскага р. ад Пстыга.

**128. Дабравешчаннікo святое**

Веснавыя песні, с. 150. Зап. М. Лапо ў 1953 г. у в. Чорнае Дунілавіцкага р.

**129. Сё ж вясна, то вясна**

ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 325, л. 14 адв. Зап. В. Навіцкі ў Ціткавіцкай вол. Слуцкага п.

**130. Вясна, вясна, што ты нам прынясла?**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 13, сш. 12, л. 13. Зап. у 1966 г. у в. Хадоркі Івацэвіцкага р. ад П. Кульгавеня, 61 г.



32. Зак. 84

**131. Ой, вясна, вясна, што ты прынясла**

Захарава, с. 73. Зап. Р. Кавалёва, Т. Зяневіч у 1970 г. у в. Гаравіца Драгічынскага р. ад У. Шубіч.

**132. Ой, вясна ды й весенка, ды я весенка**

Гілевіч, 1974, с. 71. Зап. А. Корбут у Асіповіцкім р. ад Х. Музычнай.

**133. Да вясна красна**

Federowski, 5, с. 659—660. Зап. у в. Спадвілы, каля Крынак.

**134. Вясна красна**

Чуркін, 1949, с. 95—96. Зап. на Магілёўшчыне.

**135. Вясна красна к нам у госці прыйшла**

АІМЭФ, ф. 20, воп. 72, с. 26. Зап. С. Пятровіч у 1972 г. у в. Касенічы Крупскага р. ад М. Пульнач, 1912 г. н.

**136. Ой, вясна красна!**

Moszyński, с. 296—297. Зап. на Мазыршчыне.

**137. Ты, вясна, ты, красна**

Сербаў // Гоман, 1918, № 88. Зап. у в. Дамановічы Мазырскага п.

**138. На вясну пакрасло**

ЦНБ АН БССР, АРКіР, ф. 23, воп. 1, спр. 472, л. 6. Зап. Я. і А. Логіны ў 1914 г. у в. Моладава Навагрудскага п.

**139. Рынулі рэкі, рынулі**

Шырма, 3, с. 25. Зап. у 1929 г. у в. Шакуны Пружанскага п.

**140. Ай, вясна-вясна, вясна севярыстая**

Веснавыя песні, с. 149. Зап. А. Гурскі ў 1964 г. у в. Пасад Сенненскага р. ад М. Круцік, 1916 г. н., Г. Аўфяронак, 1910 г. н.

**141. Вясна красна, вясна красна наступае**

Гілевіч, 1974, с. 70. Зап. Т. Краўчанка ў в. Сяўкі Лоеўскага р. ад Макрэны Краўчанка, 64 г.

**142. Была ў маткі**

Гілевіч, 1974, с. 76. Зап. М. Кумейша ў Нясвіжскім р.

**143. А вясна, вясна, вясеначка**

Веснавыя песні, с. 148—149. Зап. К. Кабашнікаў у 1978 г. у в. Кляпіна Кармянскага р.

**144. Ой, вясна мая вясёлая**

Сербаў // Гоман, 1918, № 88. Зап. у м. Кульшычы Быхаўскага р.

**145. Вясна ж мая, вясеначка**

Веснавыя песні, с. 139. Зап. П. Альхімовіч у 1973 г. у в. Папоўшчына Кіраўскага р. ад Н. Скуднай, 1891 г. н.

**146. Ой, вясна, вясна, вясеначка**

Веснавыя песні, с. 144. Зап. у в. Асмолічы Рагачоўскага р.

**147. Дзякуй богу**

Чуркін, 1949, с. 95. Зап. у Дзісенскім п.

**148. Ой, прыйшла вясна красна**

Сербов. Белорусы-сакуны, с. 134—135. Зап. у в. Жыцень Бабруйскага п. ад Пелагеі Жыцінка.

**149. Стаптана трава зеляная**

Косич, № 3—4, с. 11.

**150. Зязуля куе, лецечка чуе**

Киркор. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнограф. сб., 1858, вып. 3, с. 92.

**151. Сярод Дуная дзевачка сядзіць**

Гілевіч, 1974, с. 78. Зап. Н. Рытус у в. Стайкі Ушацкага р. ад Ганны Качан, 62 г.

**152. Ой, бору мой, бору мой**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 54, сш. 1, л. 11—12. Зап. С. Асташэвіч у 1972 г. у в. Лакісава Верхнядзвінскага р. ад Фёклы Снапок. Вясенняя.

**153. Маладзіца маладая**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 50, сш. 2, л. 9—10. Зап. М. Я. Грынблат у 1972 г. у в. Шатрова Верхнядзвінскага р. ад Паліны Твecon Твbooлaнові,  74 г., Аўгінні Бужынскай, 78 г., Пелагеі Гейшын, 75 г., Ксеніі Бужынскай, 56 г.

## ВАЛАЧОБНЫЯ

**154. На першы дзень да на Вялікдзень**

Бессонов, с. 1—2.

**155. Добры вечар, часны й пане**

Бессонов, с. 5—7.

**156. Пане гаспадару, слаўны мужу**

Шейн. Бел. песни, с. 86—92. Зап. Усакоўскі ў в. Загор'е Дзісенскага п.

**157. Да на першы дзень святых Вялікадней**

А. Б. Воззрение белорусов на празднество Пасхи // Мин. листок, 1887, № 27.

**158. Да на Вялікдзень, да на першы дзень**

Булгаковский Д. Белорусские песни // Мин. губерн. ведомости, 1868, № 23.

**159. Цераз поле шырокае, цераз межы залаценькія**

Празднование праздника Пасхи у белорусов-католиков (Новоалександровский уезд)//Ковен. губерн. ведомости, 1981, № 31.

**160. Гаспадар, добры пану**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 50, сш. 3, л. 32—40. Зап. М. Грынблат у 1972 г. у в. Дворышча Біруцкае Міёрскага р. ад Казіміра Даргеля, 84 г.

**161. На першы дзень, на Вялікдзень**

Гілевіч, 1974, с. 83. Зап. у г. Смалявічы ад С. Ігнатовіч.

**162. Добры вечар, пане гаспадару!**

Гілевіч, 1974, с. 84—85. Зап. З. Кулеш у в. Сіняўская Слабада Карэліцкага р. ад Яўгеніі Навумовіч.

**163. Да й на Вялікдзень, да й на першы дзень**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 83, сш. 4, л. 1. Зап. А. Ліс у 1970 г. у в. Востраў Зэльвенскага р. ад С. Татарына, 1903 г. н.

**164. А на вуліцы на шырокай**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 80, сш. 22, л. 10. Зап. А. С. Дылейка ў 1975 г. у в. Замосце Талачынскага р. ад Р. П. Французы, 76 г.

**165. А з-за лесу, лесу цёмнага**

Добровольский, 4, с. 174—175.

**166. Дзень добры таму, хто ў гэтым даму**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 123, сш. 1, л. 59—60. Зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Чаросава Лепельскага р. ад Л. П., Шакута, 1908 г. н.

**167. А ў Сымона да на дварэ тры свіроначкі**

ААН СССР, ф. 216, воп. 4, спр. 291, л. 5. Зап. С. Мікуцкі ў 1854 г. на Дзісеншчыне. Бессонов, с. 9.

**168. Да выйдзі, выйдзі, пане гаспадару**

Материалы по этнографии Гродненской губ., 1911, вып. 1, с. 110—111. Зап. у в. Парэчча Слонімскага п.

**169. А на вуліцы да на шырокай**

Бессонов, с. 7—8.

**170. Чый то домік на прыгорачку?**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр 83, сш. 2, л. 29. Зап. А. С. Ліс у 1974 г. у в. Гародзькі Валожынскага р. ад В. Кезік і М. Кезік.

**171. Гаспадынечка-журавіначка**

Federowski, 8, с. 92. Зап. на Лепельшчыне.

**172. Да ў нашага пана гаспадара**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 12, сш. 1, л. 31—32. Зап. Ю. Мацкевіч у 1946 г. у в. Чапялі Старобінскага р.

**173. Ляцела пава ды на дварэ ўпала**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 66, сш. 7, л. 22—23. Зап. А. М. Акунькова ў 1973 г. у в. Бірча Бабруйскага р. ад Ганны Бураўскай, 1913 г. н.

**174. Стаяла вярба вілаватая**

Бессонов, с. 9—10.

**175. Ой, у агародчыку да ў малюсенькім**

Булгаковский // Мин. губерн. ведомости, 1868, № 23.

**176. Да ў гародзе на пагодзе**

ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 17, л. 2. Зап. І. Грынцэвіч у Куранецкай вол. Вілейскага п.

**177. А ў гародзе ды на пераходзе**

Шырма, 3, с. 89. Зап. у 1928 г. у в. Страшава Ваўкавыскага п.

**178. Ой, на азярыне ды на сіненькай**

Шырма, 3, с. 36. Зап. у 1957 г. у в. Зялёная Дуброва Смалявіцкага р.

**179. Ой, на моры, моры ды на сіненькім**

Карский // РФВ, 1885, т. 13, с. 268—269. Зап. у с. Бярозавец Навагрудскага п.

**180. Ляцела пава залацістая**

АГТ, р. 4, воп. 1, клц. 20, л. 4. Зап. у 1888 г. у Вілейскім п.

**181. А ў матулькі адна дочка**

Гілевіч, 1974, с. 113—114. Зап. М. Плыгаўка ў Докшыцкім р. ад Аляксандры Плыгаўка.

**182. А ў караля пасярод двара**

Карский С. Пасха у белорусов Виленской губернии // Вилен. вестник, 1891, № 86.

**183. Чэраз Дунай гібка кладка**

Шейн. Материалы, с. 162—163. Зап. Я Багданоўскі ў с. Валасовічы Барысаўскага п.

**184. Добры вечар, ды паненачка!**

Гілевіч, 1974, с. 105. Зап. Т. Кузьміч у в. Рудня Дзяржынскага р. ад І. Пахома, 1902 г. н.

**185. Вечар добры, паненачка**

ААН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 37, л. 4 адв.— 5. Зап. М. Герштановіч у Крэўскай вол. Ашмянскага п.

адзначаліся ў будзённым жыцці роўнай увагаю. Адны даты праходзілі зусім непрыкметна; з другімі звязаны паасобныя павер'і, парады выконваць ці, наадварот, не выконваць тую ці іншую працу; трэція шанаваліся як вялікія святы і былі акружаны абавязковымі ўрачыстымі абрадамі.

Беларускі народны каляндар раскрывае перад намі складаны светапогляд беларускага селяніна, яго глыбокае веданне прыроды і любоў да яе, цягавітасць да працы, дэманструе багатыя творчыя здольнасці, невычэрпную фантазію, палёт дапытлівай думкі.

## Студзень

Сама назва першага месяца года красамоўна гаворыць пра яго характар: студзень — значыць, сцюдзёны. У гэты час на зямлю прыходзілі моцныя халады («Студзень — году пачатак, зіме — сярэдзіна»), і кожны гаспадар мусіў загадзя падрыхтавацца да суровай пары, каб не выстуджваць хату і не мерзнуць самому. Нярэдка народныя прыкметы падзялялі год на дзве часткі: адна пачыналася з 1 студзеня, другая — з 1 ліпеня. Заўважаючы асаблівасці надвор'я ў пэўны дзень першага паўгоддзя, меркавалі пра надвор'е ў адпаведны дзень другой паловы года. Які-небудзь снежны дзень у студзені нібыта абяцаў роўна праз паўгода абярнуцца дажджлівым і непагодным. Супастаўляліся ў першым і другім паўгоддзях цэлыя месяцы, а то і поры года. Па студзеню меркавалі пра будучую вясну («Як студзень цёплы на лік, дык завідны сакавік») і пра лета («Студзень мяце — ліпень залье»). Па характару першага месяца сяляне стараліся вызначыць і набытак, які чакаецца ў агародзе і на полі: «Студзень пагодны — год будзе плодны». Гнілое надвор'е на пачатку года не абяцала ўцехі чалавеку: «Калі ў студзені дажджы — дабра не жджы».

1/19 *. Ілля, Цімафей, Рыгор. Цяпер у гэты дзень мы звыклі адзначаць Новы год. У старым жа календары ён не лічыўся святочным. Цягнучыся з папярэдняга года, апошні свой тыдзень дабываў Піліпаўскі пост. Ён заканчваўся з надыходам урачыстага зімовага перыяду, які на працягу двух тыдняў (з 6 па 19 студзеня) ахоплівае некалькі свят і вядомы ў народзе як Каляды, альбо Коляды.

* Першая лічба тут і далей азначае дату па новаму стылю, другая — па старому стылю. Напрыклад: 1/19 (1 — студзень па н. ст., 19 — снежань па ст. ст.). У адрозненне ад праваслаўных каталіцкія ўрачыстасці адпавядаюць толькі новаму стылю.

2/20. Ігнат, Даніла.

3/21. Ульяна, Пятро, Пракоп. Нярэдка народ у каляндарных прыказках, прыкметах імёны святых увязваў з якімінебудзь сугучнымі дзеяннямі, заняткамі, адпаведнымі пэўнай пары года: «П р а к о п па снегу ступае, дарогу к а п а е».

4/22. Настасся, Хвядоцця.

5/23. Павел, Ніфант, Феакціст.

6/24. Аўгіння, Клаўдзія, Мікола. Гістарычнымі карэннямі Каляды ўзыходзяць да старажытных часоў, калі рознымі народамі праводзілася святкаванне зімовага сонцастаяння. З прыходам на нашы землі хрысціянства пачатак Каляд сталі звязваць з Раством Хрыстовым. Напярэдадні Раства сям'я збіралася на перадкалядную вячэру — яна называлася у народзе куццёю, як і абавязковая рытуальная страва — каша з ячных ці іншых якіх круп. Вячэра насіла і больш дакладную назву — першая, вялікая, альбо багатая, куцця. І хаця да вялікага свята старанна рыхтаваліся яшчэ з Піліпаўкі: калолі свіней, рэзалі авечак (у гэтым праяўляліся рэшткі колішняга язычніцкага ахвярадаўства), тым не менш стол быў посны, паколькі разгаўляцца дазвалялася толькі назаўтра. Добра звараная куцця прадказвала ўдалы ўраджай ячменю. Калі сям'я садзілася за стол, гаспадар стукаў у акно і клікаў мароз куццю есці. Гэтак трэба было яго задобрыць, каб ніколі не марозіў пасаджанага ў полі і на агародзе.

За сталом варажылі, выцягваючы з-пад абруса сцябліны пакладзенага папярэдне сена. Доўгая сяннінка нібыта паказвала на высокі лён улетку. Густыя зоркі на небе сведчылі пра вялікі ўраджай хлеба, грыбоў, добры прыплод хатняй жывёлы. Завіруха надавала ўпэўненасці, што добра будуць раіцца пчолы. Калі чарнела з-за адлігі дарога, гэта павінна было значыць, што лета акажацца багатае на чорнае зерне — грэчку.

Каталіцкае свята Трох каралёў.

7/25. Раство Хрыстова. Пасля шматтыднёвага посту, нарэшце, прадстаўлялася доўгачаканая магчымасць паесці ўволю скаромнага. З гэтага дня па сялу пачыналі хадзіць калядоўшчыкі. Пераапранутыя ў цыганоў, казу (нацягвалі вывернуты поўсцю наверх кажух), жорава, кабылу спевакі спыняліся ля кожнага двара ў чаканні, калі гаспадар запросіць іх у хату. Калядоўшчыкі спявалі песні, скакалі пад скрыпачку і бубен. А ў заключэнне выконвалі велічальную песню гаспадарам дома з самымі шчодрымі пажаданнямі:

Добры вечар, пане гаспадару, ой, Каляда, ой, Каляда!
Харошыя маеш ты сыночкі, ой, Каляда, ой, Каляда!
Ой, што ж яны ў цябе робяць? Ой, Каляда, ой, Каляда!
— У святлічцы золата важаць, ой, Каляда, ой, Каляда!
Наважылі трыццаць пудоў і чатыры, ой, Каляда, ой, Каляда!
Тыя трыццаць пану гаспадару аддалі, ой, Каляда, ой, Каляда!
А тыя чатыры нам, каляднічкам і Калядзе, ой, Каляда, ой, Каляда!

У выніку калядоўшчыкі атрымлівалі пачастункі (сала, каўбасу), а таксама грошы. Гэта складвалася ў торбу, якая ад двара да двара рабілася цяжэйшаю. На працягу ўсіх Каляд нельга было нічога ні шыць, ні віць, ні плесці, ні рабіць крывога і колападобнага, ні сячы сякераю (напрыклад, плесці лапці, ставіць агароджы, пячы абаранкі, рабіць закруткі для саней), іначай, казалі, дзеці і жывёла, якія павінны з'явіцца на свет, абавязкова народзяцца пакалечаныя.

8/26. Сабор Прасвятой Багародзіцы, Яўхім, Кастусь.

9/27. Сцяпан, Хведар.

10/28. Феафіл, Дарафей, Агата, Домна, Ігнат, Міканор.

11/29. Маркел, Марк, Іван, Фадзей.

12/30. Макар, Анісся, Хвядора.

13/31. Язэп, Давыд, Якуб, Малання. Другая куцця напярэдадні старога Новага года. Гэта вячэра не саступала ў раскошы папярэдняй і насіла падобную з ёй назву — «тоўстая» і «шчодрая». У народзе папярэджвалі: «Хто не пячэ бліноў перад Новым годам, у таго не будзе гладкай тлустай жывёлы, асабліва цялят». Шчодрым называўся і сам навагодні вечар, у які дзяўчаты, абраўшы прыгажэйшую, выпраўляліся спяваць шчадроўкі па сялу:

Шчадровачка шчадравала,
Пад акенца падбягала:
— Што ты, цётка, напякла,
Прынясі нам да вакна,
Бо ў нас дзяўчынка маленька,
У яе спаднічка красненька,
Чаботкі храмовы.
Будзьце з празнічкам здаровы!

Абрады, гульні, песні нярэдка паўтараліся з дня ў дзень на працягу ўсіх Каляд. Але, бадай, ніколі за год гэтак, як на Шчадраца, не захаплялася моладзь варажбою. Дзяўчаты абхоплівалі калы ў плоце і былі радыя, калі іх аказвалася ў пару; слухалі пад вокнамі, што скажуць у чыёй-небудзь хаце, і па тым меркавалі, пойдуць яны ў бліжэйшы час замуж ці не; выпякалі штосьці з мукі і кармілі сабаку — чыё першае ён з'есць, тая дзяўчына раней за іншых і замуж пойдзе; выпраўляліся ў хлеў і там у цемры хапалі авечак, а калі

трапляўся баран — абавязкова дзеўчыне суджана быць замужам; прыслухоўваліся на двары, адкуль сабака забрэша — адтуль і жаніх з'явіцца і г. д.

14/1. Стары Новы год, Васілле. У навагодніх павер'ях адчуваецца прысутнасць магіі «першага дня». Першы дзень года, праведзены належным чынам, нібыта гарантаваў удачу на ўвесь год. Хто з хатніх жыхароў у самы першы дзень года апярэдзіць астатніх: прынясе са студні вады і ўмыецца — на працягу года будзе рухавы і бадзёры. Калі снег на Новы год падаў з самага ранку, то і ўся зіма прадбачылася снежная. Калі на Васілле вецер дзьмуў з усходу — трэба было чакаць гарачага і сухога лета, калі з поўдня — умеранага, заходні вецер абяцаў мокрае лета, паўночны — халоднае, з градам.

15/2. Серафім, Сільвестр.

16/3. Малахія, Гардзей.

17/4. Засіма, Апанас.

18/5. Міхей, Апалінарыя, Міна, Рыгор. Трэцяя (галодная, посная) куцця. Яна нагадвала папярэднія, аднак лічылася, што той, хто посціць напярэдадні свята Вадохрышча, і ўвесь год не з'есць нічога нячыстага ў стравах. Пасля заканчэння галоднай куцці сена, што ляжала на працягу двух калядных тыдняў, прыбіралася са стала і заносілася каровам, каб палепшыць і паскорыць іх малако, а заадно і засцерагчы ад сурокаў ведзьмы.

19/6. Вадохрышча — апошняе свята каляднага цыкла: «Святое Хрышчэнне — і Калядам прашчэнне». У гэты дзень, калі, згодна з праваслаўным календаром, святкавалася хрышчэнне Ісуса Хрыста, асвячалася вада. Народ верыў у цудадзейную сілу такой вады і выкарыстоўваў пры розных бытавых выпадках і здарэннях: яе давалі выпіць хвораму, ёю апырсквалі новую хату перад тым, як засяліцца, і вуллі, каб лепш вяліся пчолы; хрышчэнскай вадою асвячалі поле перад сяўбою і труну, перш чым пакласці туды нябожчыка. Дзе-нідзе ў гэты дзень дазвалялася выконваць некаторыя сялянскія работы, забароненыя на працягу ўсіх Каляд. Напрыклад, жанчыны маглі ўжо часаць да г л а д к а с ц і лён, для таго каб і цяляты вадзіліся г л а д к і я. На Вадохрышча прыпадалі самыя вялікія маразы, пасля якіх зіма паступова пачынала паварочваць на лета. У народзе казалі: «Трэшчы не трэшчы, прайшлі Вадахрэшчы — не к Ражству, а к Пятру», маўляў, большых маразоў ужо не будзе. Вадохрышча было днём, па якім арыентаваліся ў вызначэнні будучага надвор'я («На Вадохрышча вельмі сцюдзёна — у жніво вельмі горача»), спрабавалі прадказаць і якасць будучага ўраджаю («На Вадохрышча дзень цёплы — будзе хлеб цёмны»).

20/7. Адзначалася памяць Іаана Хрысціцеля. З раніцы, перад тым як сесці за стол, пілі хрышчэнскую ваду з «Іярдані» (па назве ракі, у якой хрысцілі Ісуса Хрыста, гэтак на Вадохрышча зваліся ўсе мясцовыя рачулкі, адкуль бралася вада для асвячэння). У тых мясцінах, дзе гэты дзень лічыўся святочным, ніякія работы не выконваліся.

21/8. Георгі, Емяльян, Васіліса. У гэты дзень, празваны ў народзе «Па абед Каляда», нібы канчаткова развітваліся са святамі. Да абеду не працавалі, а пасля паўдня ўжо браліся за адкладзеныя заняткі. Свята закончылася. На нейкі час у каляндарнай абраднасці надыходзіў зацішак.

22/9. Пілін, Пятро.

23/10. Рыгор, Маркіян, Феафан.

24/11. Хвядос, Міхаіл.

25/12. Таццяна, Сава. «На Таццяну звычайна бывае мароз. Сонечна — рана прыляцяць птушкі з выраю. Ідзець снег — дажджлівае лета».

26/13. Ярміла, Якуб, Елізар, Пятро.

27/14. Ніна, Язэп.

28/15. Павел, Іван, Прохар, Гаўрыла.

29/16. Максім, Леаніла.

30/17. Антон.

31/18. Апанас, Кірыл. Дзень Апанаса лічыўся паловаю зімы ў дачыненні да назапашанага для хатняй скаціны корму. Калі яго ўжо выкарыстана палова, селяніну можна спакойна чакаць першага веснавога выпасу. Калі ж заставалася меней — трэба было карміць больш ашчадна, паколькі, згодна з народным назіраннем, добра ўкормленая з восені і ў першую палову зімы жывёла, калі і галодная пад весну, усё ж вясны не баіцца. Апанаса называлі абаронцам жывёлы ад маразоў. Беларусы Смаленшчыны называлі Панассе «гусіным святам». Мяцеліца ў гэты дзень, нагадваючы белы пух, нібыта варажыла на тое, што выведзецца багата гусянят. Па надвор'ю вылічвалі пачатак надыходу цяпла і палявога сезона: раз на Апанаса завіруха — трэба чакаць працяглай вясны, з-за якой усе запасы з пуняў павымятаеш. Заканчваўся самы халодны месяц зімы, і народная прыказка папярэджвала: «Хавай нос у Апанасаўскі мароз!»

## Люты

На парозе другі месяц года. «Пытаецца люты, ці добра ногі абуты» — гаварыла прыказка. І сапраўды, зіма ў гэту пару звычайна была ў самай сіле. Па стану лютага прадказвалі асаблівасці будучага надвор'я. Калі ў гэтым месяцы быў

вострыы мароз, зіма павінна працягвацца нядоўга. Які студзень, люты меў свой адпаведнік у другім паўгоддзі: раз люты востры і сухі, то жнівень — гарачы. Па тым, наколькі высока нападае ў лютым снег, меркавалі пра вышыню травы ўлетку. Народны вопыт дазволіў вывесці калісьці і такое назіранне: які дзень першага лютага (праўда, паводле старога стылю), такімі выдадуцца і апошнія дні месяца.

1/19. Макар, Хведар, Сава, Арсень, Антон.

2/20. Яўхім, Лаўрын, Іна, Рыма. Каталіцкія Грамніцы. «Калі на Яўхіма сонечна ў поўдзень, то гэтак будзе да ранняй вясны. Калі завіруха, то на ўсю Масленіцу завіруха».

3/21. Максім, Яўген, Валяр'ян, Агнія, Настасся.

4/22. Цімафей, Лявонцій, Георгій, Пятро, Гаўрыла, Іван.

5/23. Клімент, Генадзь, Феакціст, Паўлін.

6/24. Ксенія, Герасім. Прападобная Ксенія, якая нібыта дзяліла зіму папалам, звалася ў народзе Аксінняй-паўзімніцай. Кепскае надвор'е ў гэты дзень сведчыла аб працягласці зімы. Як пераконвалі сялянскія назіранні, «калі на Аксінню дарогу перамяце, то і корм падмяце» — г. зн. зіма затрымаецца і хатняя жывёла паесць усе нарыхтаваныя яе запасы.

7/25. Рыгор, Майсей, Фелікс, Піліп, Аляксандр, Віталь.

8/26. Марыя, Аркадзь, Іван, Пятро, Сымон, Язэп, Давыд.

9/27. Іван.

10/28. Яфрэм, Хвядос, Ісак.

11/29. Ігнат, Лаўрын, Герасім, Раман, Якуб, Юльян, Сіліван. Пакутнік Ігнат прыходзіўся на пару, калі зіма была яшчэ ў поўнай сваёй красе. Аднак знаходзячыся, паводле старога календара, на мяжы студзеня і лютага, гэты дзень як быццам падаваў руку пераломнаму святу зімы — Грамніцам: «На святога Ігната зіма багата, а Ігнат — Грамніцам рад».

12/30. Дзень Трох свяціцеляў (Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова і Іаана Залатавуста). Калі мужчыны на Магілёўшчыне і на Усходнім Палессі дазвалялі сабе працаваць «кала двара» і «ўзяць кілішак», то жанчыны адзначалі свята строга: «Нельга жлукціць, нельга праць бялля, нельга прасці».

13/31. Кір, Апанас, Хвядоцця, Мікіта, Нічыпар, Клаўдзій, Віктар.

14/1. Трыфан. Калі начное неба было зорнае — гэта ўспрымалася як паказчык на позняю вясну. Па хатах сяляне рабілі свечкі, таму што назаўтра, у дзень Грамніц, адбывалася іх асвячэнне. Трыфан, які папярэднічае гэтаму святу, называўся ў народзе Грамнічным бацькам.

15/2. Грамніцы, альбо Стрэчанне. Першая назва свята, як мяркуюць, пайшла ад язычніцкага бога Грамоўніка, якому прыпісвалася ўтварэнне веснавых навальніц і дажджоў. Пасля

гэтага дня павінна была ўпасці ўлада змрочных боствай зімы: «На Грамніцы — паўзіміцы» або «Як прыйдуць Грамніцы — скідай рукавіцы». У засеках памяншаўся запас збожжа, і гэты святочны дзень таксама выступаў у гаспадарцы са сваёю меркаю: «Грамніца — хлебу палавіца». Другую назву — С т р э ч а н н е, якая паходзіла ад царкоўнага «Сретенье», народ тлумачыў як с у с т р э ч у зімы з вясною:

А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,
Зіма з летам стрэлася, стрэлася.
Лета зіму піхнула, піхнула
І ножачку звіхнула, звіхнула.
Зіма пайшла плачучы, плачучы,
Лета пайшло скачучы, скачучы.

Не дзіўна, што гэта пераломнае свята звязана з шэрагам метэаралагічных прыкмет. Найбольш пашыраная з іх выкарыстана ў паэтычнай мініяцюры: «Калі на Грамніцы певень з-пад страхі нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я — вол пад'есць травіцы». Калі ж на Грамніцы здараўся вялікі мароз — снег павінен быў праляжаць нядоўга, а вясна і лета не абяцалі нічога добрага. Грамнічная мяцеліца прадказвала, што вясна затрымаецца даўжэй, чым звычайна, у выніку чаго вычарпаюцца запасы корму для жывёлы. Рэзкае пацяпленне надвор'я не давала селяніну разлічваць на прыбытак у полі і на агародзе: «Як на Грамніцы адліга — з ураджаю будзе хвіга». Пры адсутнасці адлігі можна было спадзявацца на пагодлівае, сухое лета. На Беларусі гэта свята знамянальна такім абрадам, як асвячэнне свечак у царкве. Грамнічныя свечкі (або проста «грамніцы») асабліва шанаваліся ў народзе — іх запальвалі з вераю ў дапамогу падчас навальніц, каб маланка не спаліла хату; іх давалі цяжка хвораму ў час канання, каб полымя асвятляла таму шлях на той свет, ачышчала душу ад грахоў. Жыло ў народзе перакананне, што грамнічных свечак баіцца «нячыстая сіла», таму і вешалі іх ля ўваходу ў хлеў ці на стайню, каб, маўляў, ведзьмы не адабралі ў кароў малака і не заездзілі да смерці коней.

16/3. Сымон, Ганна, Мікола, Раман, Адрыян, Аўлас.

17/4. Сідар, Георгій, Кірыл, Аўрам, Мікола.

18/5. Агаф'я (Агата), Хвядос, Макар. Калісьці на Валожыншчыне ў гэты дзень у царкву прыносілі асвячаць хлеб з уторкнутымі драбочкамі солі — лічылася, што ён «памоцны» карове, якой чаплялі яго на рогі, «каб сурокаў не баялася». Пры пажары кідалі гэты хлеб у агонь, каб ён патух, ці ў чыстае поле, каб туды скіраваўся вецер. Такое павер'е замацоўвалася і ў адпаведнай прыказцы: «Соль святой Агаты бароніць ад агню

хаты». У гэты, трэці пасля Грамніц, дзень звычайна прыглядаліся да надвор'я: калі надаралася цяпло, то больш ужо вялікіх халадоў не прадбачылася.

19/6. Вукола, Іван, Фоцій, Дарота, Хрысціна, Максім, Марфа, Марыя. Імя Вукола блізкае па вымаўленню такому распаўсюджанаму сярод сялян міфічнаму паняццю, як «ваўкалак» — пярэварацень. Гэта сугучнасць і нарадзіла павер'е, нібыта Вукола з'яўляецца ахоўнікам ад ператварэння чалавека ў ваўкалака.

20/7. Пархвен, Лука. Дзень аддання Стрэчання. Калі раптам нечакана загрыміць гром, то ў гэтай з'яве бачылі прарочы знак, што летам прападуць пожні. Гром пад канец Грамніц нібыта папярэджваў сялян магчымай сваёй карай у адказны для земляроба час. Першая серада Вялікага посту — «уступная серада». Дзе-нідзе ў заходняй частцы Беларусі гаспадыні збіраліся на застоллі, весела балявалі і скакалі праз пень, пастаўлены пасярод хаты. Гаварылі, што як хто падскочыць, так высока лён вырасце. Мылі прадметы для прадзіва льну — верацёны і калаўроты. Рабілася гэта хутчэй за ўсё дзеля таго, каб лён улетку вырастаў чысты, без пустазелля.

21/8. Хведар, Захар, Сава.

22/9. Нічыпар, Інакенцій, Панкрат, Генадзь, Маркел. У каталіцкім календары — Пятро. «Калі на Пятра цёпла — зіма працягнецца да Вялікадня».

23/10. Харлам, Парфір, Ганна, Прохар, Валянціна, Паўла.

24/11. Аўлас, Усевалад, Дзмітры. Аўласа народ лічыў апекуном свойскай жывёлы, а яго дзень адпаведна — каровіным ці конскім святам. Вось чаму, не шануючы гэту дату, гаспадар меў небяспеку наклікаць на сваю худобу розную немач. Жывёле трэба было даваць лепшы корм, не працаваць на ёй, але раілася аб'язджаць маладых коней. Даўней на Капыльшчыне стараліся ездзіць на маладых конях як мага далей, па доўгіх дарогах усю ноч, каб на лета доўгі радзіў лён. А каб цяляты раслі здаровыя ды гладкія, гаспадыні пяклі аладкі. Калі Аўлас супадаў з Масленічным (апошнім перад Вялікім постам) тыднем, тады пра гэтага святога гаварылі: «На Аўласа бяры каўшом масла».

25/12. Аляксей, Марыя, Яўген, Антон.

26/13. Зоя, Святлана, Сцяпан, Сымон. Фаціннsocket, якая таксама шанавалася ў гэты дзень, у народзе называлі заступніцай ад трасцы.

27/14. Кірыл, Аўксенцій, Ісак, Міхал, Хведар, Аўрам.

28/15. Анісім, Ефрасіння, Яўсей.

## Сакавік

Пра пару, калі зіма павінна саступіць месца вясне, у народзе гаварылі: «Люты вады падпусціць, а сакавік падбярэ». Але надта давярацца лагоднасці першага веснавога месяца было б неабачліва, паколькі зіма ў гэты час яшчэ не здалася: «Марац кусае за палец». Калі зямля зарань вызвалялася з-пад снежнага покрыва і агаляла азіміну ў той час, як прыціскалі маразы, селянін мог разлічваць на небагаты ўраджай: «Калі жыта ў марцы глядзіць на неба, не есці тады хлеба».

1/16. Памфіл, Валент, Павел, Парфір, Ілля, Даніла, Ісай.

2/17. Пакутнік Фёдар Ціран успрымаўся сялянамі як ахоўнік ад злодзеяў. Яму служылі імшу людзі, у якіх што-небудзь было ўкрадзена.

3/18. Леў, Флавіян, Кузьма.

4/10. Архіп, Халімон, Максім, Хвядот, Яўген, Макар, Дасіфей. Згодна ж з каталіцкім календаром, адзначаецца Казімір. Яго імя, зарыфмаванае ў народнай прыкмеце з адпаведным станам прыроды, нібы падводзіла рысу пад панаваннем зімы: «На Казімéра зіма ўмера». «Казімір дровы сячэць, у клады кладзець»,— спявалася ў песні.

5/20. Леў, Агафон, Карніл.

6/21. Цімафей, Астап, Георгій.

7/22. Хведар, Піліп, Апанас.

8/23. Палікарп, Іван, Майсей, Аляксандр.

9/24. Іван, Эразм. Праз тры тыдні і адзін дзень пасля Грамніц значыўся прысвятак Паўрацэнне, або Абратанне (ад царкоўнага «Обретение» — знаходжанне галавы Іаана Хрысціцеля). Асабліва шанавалі яго пчаляры. Яны заглядвалі ў вуллі і калі знаходзілі («обретали») пчол жывымі, то ўжо не сумняваліся ў паспяховай іх перазімоўцы. На Валожыншчыне слова «паўрацэнне» тлумачылі тым, што мядзведзь у бярлозе ў гэты дзень паварочваецца на другі бок. «Янавай галавы баіцца зіма» — г. зн. цяпло ўсё больш упэўнена сыходзіць на зямлю.

10/25. Тарас.

11/26. Рыгор, Парфір, Севасцян.

12/27. Пракоп, Ціт.

13/28. Васіль, Марына. «На Васіля-капельніка са стрэх капае». У гэты дзень можна было прасці толькі тую воўну, якую не трэба слініць. Прасці лён і пяньку нельга таму, што, маўляў, можна «адслініць замураваную зіму», у выніку чаго зноў надыдуць зімовыя халады.

(29 лютага ст. ст.— Касьян. Народ гаварыў, што ў яго дурное вока: «Няхай Касьян прыплюшчыць свае вочы і не глядзіць нінавошта». Ды і год высакосны лічыцца цяжкім годам.)

14/1. Дзень Аўдакеі (Яўдокі). Імя святой нярэдка ў народзе гучала таксама і ў мужчынскай форме: «Аўдакей». Радок з валачобнай песні быццам пацвярджае беларускую назву першага веснавога месяца: «Святы Аўдакея с о к і збіраець». Да гэтага тэрміну, як правіла, сыходзіў снег, нярэдкім быў і галалёд, таму і зазначана ў прыказцы: «На Яўдокі — голы бокі». На Магілёўшчыне прыкмячалі, што калі ў дзень Аўдакеі «сонца добра свеціць і вол нап'ецца з-пад страхі, то вясна будзе добрая». У іншых мясцовасцях таксама падтрымліваліся падобныя назіранні: «Калі на Аўдакея курыца з-пад страхі нап'ецца, то на Благавешчанне — вол». Розным сваім надвор'ем дыктавала Аўдакея і неаднолькавыя прагнозы на будучае: цёплы дзень варажыў цёплую вясну і лета і асабліва ўдалы сенакос; дождж абяцаў ураджай на жыта; туман — на струковыя расліны; мароз гразіўся прымарозіць грэчку ў час яе цвіцення; рэдкія для гэтае пары завірухі, мяцеліцы прадказвалі вялікі холад на ўвесь год. Дзень Аўдакеі надта не выдзяляўся ў афіцыйным календары, але ў народзе меў рытуальныя правілы. Відаць, святая ва ўяўленні сялян нейкім чынам спрыяла кабетам, таму і вымагала ў гэты дзень ад іх пэўных абмежаванняў у дзеяннях: ім нельга было прасці, а дазвалялася толькі гатовыя ніткі сукаць; рэзаць жа можна было толькі аўчыннымі нажніцамі. Мужчынам на Аўдакею дазвалялася ўсё рабіць. Вельмі рэдка ў якіх мясцінах не працавалі зусім, каб не прагнявіць пакутніцу, якая нібыта «дзержа ў руцэ лета». У гэты ж дзень адзначаліся таксама Нестар, Антаніна, Антон, Маркел. Часам у асобных вёсках праводзілася Гуканне вясны.

Гэй вясна, гэй красна,  
Што ты нам вынесла?  
Ці сала кусочак?  
Ці масла брусочак?  
Ці па яечку?  
Ці па піражэчку?  
Гэй, вясна, гэй красна,  
Закідай сані  
Ды едзь калёсамі.

14—16/1—4. Па характару гэтых колішніх першых дзён вясны меркавалі пра адпаведнае надвор'е ў наступныя поры года: 1 сакавіка нібыта ўяўляла сабою вясну, 2-га — лета, 3-га — восень і 4-га — зіму.

15/2. Хвядот, Арсень, Агафон. Мяцеліца ў гэты дзень падавала селяніну знак на няўдалы сенакос улетку: «На Хвядота занос — усё сена знясе».

16/3. Яўтропій, Кляонік, Васіліск.

17/4. Герасім, Васіль, Даніла, Павел, Ульяна, Якуб, Вячаслаў, Рыгор, Канстанцыя.

18/5. Хведар, Давыд, Кастусь, Адрыян, Конан, Марк, Іраіда.

19/6. Кастусь, Феафіл, Хведар, Аркадзь. У каталіцкім жа календары — Язэп. Жыхары Вілейскага павета калісьці з гэтым днём звязвалі прылёт бусла. Народная прыказка таксама не абышла знамянальную дату ўвагаю: «Як Язэп кіўне барадою, дык зіма ўцякае ўніз галавою». Наогул жа ясная пагода на Язэпа прыносіла спадзяванні на добры ўраджай. Як вядома, у перыяд пастоў (на які прыпадае і Язэп) існуе афіцыйная забарона на вянчанні. Калі ж такое здаралася, то ў народзе знаходзіла адпаведную ацэнку: «Святы Язэп сярод посту шлюб дае прахвосту».

20/7. Васіль, Яфрэм, Капітон, Яўген, Павел, Емяльян.

21/8. Феафілакт, Лазар, Апанас, Феадарыт, Даміцій.

22/9. Сорак пакутнікаў, або па-народнаму Саракі (Сорокі). Лічба, што ўваходзіла ў назву свята, шырока абыгрывалася ў павер'ях і абрадавых дзеяннях, якія бытавалі ў гэты дзень. Калі на Саракі здараўся мароз, то меркавалі, што пасля яго адбудзецца яшчэ 40 маразоў. На Саракі сарока пачынае віць гняздо і прыносіць для яго 40 пруткоў. Раніцай перад усходам сонца хлопчыкі стараліся перакінуць цераз страху 40 трэсак — калі гэта ўдасца, то ўлетку добра будуць ім знаходзіцца птушыныя гнёзды. Свае звычаі былі і ў дзяўчат: яны пераломвалі 40 дошчачак і перарывалі 40 вяровачак і шнуркоў. Прадметы, што пераломваліся і разрываліся, напэўна, павінны сімвалізаваць сабою сілы, якімі была скавана зямля, і выкананне гэтага абраду мела сваёй мэтаю наблізіць надыход цяпла, абудзіць ад зімовага сну ўсю жывую прыроду. «На Саракі дрэвы адпушчаюцца» — сведчылі народныя назіранні. «На Саракі прыляцелі з-за мора птакі» — падказвалі вясковыя фенолагі і нават удакладнялі: «Прылятае 40 жаўранкаў». (Ці не таму іх прылёт адзначалі гаспадыні, выпякаючы ў гэты дзень для дзяцей 40 жаваранкаў з цеста і кладучы ў адзін з іх «саракоўку» — 20 капеек? Каму яна дастанецца — той будзе шчаслівы.) Надвор'е на Саракі таксама прыцягвала ўвагу чалавека. Калі ад Грамніц да Саракоў не ішлі дажджы і не псавалася дарога, то летам чакалася засуха. Калі ў гэты дзень на стрэхах ляжаў снег, то на Благавешчанне снег будзе пакрываць усю зямлю, а на Юр'я — асобныя мясціны. Калі на Саракі ўволю нап'ецца вол ад расталых ледзяшоў — значыць, будзе добрая вясна. Зрэшты — яна ўжо стаяла на двары: «Саракі — не суйся блізка да ракі», г. зн. была пара разводдзя. На Усходнім Палессі дзяўчаты хадзілі гукаць вясну на Саракі:

— Жаваранак, ранняя птушачка,
Чаго так рана з выраю вылятаеш?
А там пры даліне — там ляжаць крыгі,
А там пры дарозе — снягі і марозы.
— А я тыя крыгі крыламі разаб'ю,
А я тыя марозы нагамі растапчу.

На Саракі прыладжвалі арэлі і абавязкова гушкаліся — казалі, «каб камары не елі» (Шумілінскі раён).

23/10. Віктар, Леанід, Кіпрыян, Дзяніс, Павел, Нічыпар, Клаўдзій, Васіліса, Ніка, Галіна, Хвядора, Руфіна, Настасся.

24/11. Сафрон, Яўхім.

25/12. Іван, Феафан, Сымон, Рыгор — «На Рыгора зіма ідзе ў мора» (або «ідуць рэкі ў мора»). Цёзка Рыгора паблізу ў календары прысутнічаў 17 сакавіка. У гэту пару, калі «ўдзень плюшчыць, а ўночы трашчыць», г. зн. цяпло чаргуецца з маразамі, «Рыгорава» прыказка адносна таяння снегу і пачатку ледаходу можа адпавядаць і аднаму і другому яго дням. У каталіцкім календары — Благавешчанне.

26/13. Нічыпар, Цярэнцій, Аляксандр, Хрысціна.

27/14. Венядзікт, Расціслаў, Міхал.

28/15. Аляксандр, Дзяніс, Нікандр.

29/16. Савін, Серапіён, Аляксандр, Трахім.

30/17. Аляксей, Макар, Марына. «На Аляксея зіма пацея» — адзначалі ў народзе. Адзінаборства дзвюх пораў года расцягвалася на доўгі перыяд. Вядома ж, у сакавіку ўвесь час «сані з калёсамі сварацца». Пад канец жа месяца, у дзень Аляксея, гаварылася: «рыба — аб лёд, саначкі — аб плот», г. зн. рэкі ўскрываліся, ■ селянін з саней канчаткова пераходзіў на калёсы. Аляксей настойліва нагадваў земляробу пра набліжэнне палявых работ. Як спявалася ў песнях, «Аляксей лемяшы істрыць, сохі путрыць», «хамуты строіць». Не забыта і рыбалоўства пасля таго, як «лёд пайшоў вадою, а рыба — лускою»: «Аляксей сеці садзіць, лодкі смаліць, рыбу коліць». Дзе-ндзе ў гэты дзень не працавалі, але рыбаловы павінны былі на Аляксея — свайго апекуна — напрасці нітак і сплесці з іх froднік ці якую іншую сетку. Існавала пераканание, што такая прылада, зробленая за адзін дзень, будзе лавіць шмат рыбы.

31/18. Кірыл, Трахім.

## Красавік

Нават у другім веснавым месяцы прырода яшчэ захоўвала сляды зімы: «Красавік чорны ў полі, а ў бары — белы». Калі ж вясна здаралася ранняя, дрэвы пачыналі пакрывацца маладымі лісткамі, пасля чаго ўжо гром на зялёнае голле

ўспрымаўся ў народзе як паказчык будучых поспехаў у жыцці і гаспадарцы. Пра гэта гаварылася і ў прыкмеце: «У красавіку грымот — цёплы будзе год». Сухі красавік абяцаў, што такі ж будзе і чэрвень, аднак ліпень за ім павінен прыйсці дажджлівы. Пчаляры прыглядаліся: раз не вылецелі ў красавіку пчолы — спадзявайся халадоў, слаты.

1/19. Марыя, Хрысанф, Дар'я, Клаўдзій, Соф'я, Інакенцій.

2/20. Іван, Сяргей, Святлана, Віктар, Анатоль, Параскева, Севасцян, Аляксандра, Клаўдзія, Матруна, Мікіта.

3/21. Якуб, Кірыл, Хама.

4/22. Васіль, Ісак.

5/23. Нікан, Лідзія, Васіль.

6/24. Захар, Арцём, Сцяпан, Пятро, Якуб. Пярэдадзень вялікага свята Благавешчання. На Віцебшчыне не дазвалялася снаваць кроснаў пад пагрозай, што гэтак можна «заснаваць дождж» на ўсё лета, а ў дадатак будзе хварэць той, хто стане насіць тканіну з такой асновы. У некаторых мясцовасцях калісьці ў гэты дзень адзначалася «свята камаедзіцы» — у гонар мядзведзя. На стол падаваліся адмысловыя раслінныя стравы (з сушанага рэпніку, з аўса), у тым ліку і гарохавыя камы, якія і далі назву святу. Пасля абеду ўсе хатнія клаліся і, не засынаючы, штохвіліны, як мага павольней, перакочваліся з боку на бок, стараючыся нагадаць пераварочванне мядзведзя ў бярлозе. Рабілася гэта дзеля таго, каб мядзведзь абудзіўся ад зімовай спячкі (абуджэнне звязвалі менавіта з днём Благавешчання). Гэтак сустракалі яго з добрымі пажаданнямі, каб не шкодзіў людзям улетку.

7/25. Благавешчанне (Дабравешчанне, Звеставанне). Як і на кожнае свята, на яго забаранялася што б там ні было рабіць: «На Благавешчанне дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе». Праваслаўная царква адзначала зачацце Маці Божай Ісуса Хрыста. У народзе свята мела старажытныя карэнні, яно лічылася днём надыходу вясны. Шмат дзе якраз ад Благавешчання (а ў некаторых мясцовасцях нават раней, у залежнасці ад традыцый і, вядома, ад надвор'я) адбывалася Гуканне вясны.

Дабравешчанніко святое,
Пашлі сонейка залатое,
Каб зямелька адышла
Ды вясна да нас прыйшла,
Каб распусціліся ветачкі,
Каб раскраснеліся кветачкі,
Каб лугі зазелянеліся,
Нашы нівачкі адзеліся.

Дзяўчаты ўсёй вёскі выходзілі куды-небудзь на ўзвышша і спявалі пакуль не сцямнее вяснянкі. Прыляталі звонкія галасы і з суседніх вёсак. Сялянам хацелася верыць, што наступны гаспадарчы год, які з гэтага дня пачынаецца, прынясе багаты ўраджай, шчасце ў дом. Часта на Благавешчанне згадвалі птушак. Адны гаварылі, што ў гэты дзень бусел прылятае, другія — што ён кладзе яйка ў гняздо. «Як за тыдзень да Благавешчання прыляціць бусел, то ў свірне на засек трэба дошку накладваць — поўна пашні будзе, добры ўраджай, а як пасля Благавешчання, то трэба знімаць дошкі, бо не засыплеш поўных засекаў». І хаця па вёсках шчыра гукалі вясну, не заўсёды яна з'яўлялася, таму канчаткова развітвацца з зімою было ранавата: «Да Благавешчання зіму не лай і сані трымай». Пасля свята дазвалялася ўрабляць зямлю пад новыя пасевы (да гэтага часу зямля спіць, і чапаць яе няможна). Як спявалася ў народных песнях, «Благавешчанне — араты на ніву... і каня вядзець, і саху нясець, заворваець». Благавешчанне было вяхою ў прадбачанні надвор'я. Калі свята аказвалася цёплым, селянін мусіў чакаць марозную восень, і наадварот, снег, што заляжаўся да гэтае пары, абяцаў цёплую восень. Па асаблівасцях гэтага дня рабіліся прагнозы на ўраджай. Як на Благавешчанне дождж — збярэш багата хлеба; калі суха, то летам магчыма засуха. Умеранае надвор'е — умеранае будзе лета і такі ж ураджай. Гаварылі, што такое ж надвор'е, як на Благавешчанне, павінна паўтарыцца на Вялікдзень.

8/26. Гаўрыла, Ганна, Ала, Ларыса, Васіль.

9/27. Матруна, Хвядос, Іван. На Матруну, казалі ў народзе, «шчупак лёд прабівае». Цяпло прыходзіла штогод не адначасова, і не дзіўна таму, што падобныя прыкметы маглі звязвацца і з іншымі днямі гэтага перыяду.

10/28. Ларыён, Сцяпан, Яўстрат, Іона.

11/29. Марк, Кірыл, Іван.

12/30. Іван, Сафрон, Панцеляймон, Засіма.

13/31. Іпацій, Іона, Інакенцій, Веніямін.

14/1. Марыя, Яўхім, Аўрам, Макар.

15/2. Ціт, Палікарп — ён з'яўляўся рубяжом, пасля чаго можна было чакаць бясхлебіцы.

16/3. Мікіта, Хвядосся.

17/4. Язэп, Георгій.

18/5. Фядул, Сымон, Марк, Платон, Хвядора.

19/6. Яўціхій, Мяфодзій, Платаніда.

20/7. Георгій, Даніла.

21/8. Ірадзівон, Ніфант.

22/9. Вадзім.

23/10. Цярэнцій, Афрыкан, Максім, Аляксандр, Хведар,

Якуб. Каталіцкі каляндар згадвае Войцеха, якога ў народзе так ахарактарызавалі: «Святы Вайцеха выпусціў жаўранка з меха».

24 / 11. Якуб, Варсанофій, Іван, Рыгор, а таксама Анціп, які святкаваўся толькі тымі, у каго балелі зубы, і знахарамі, якія загаворвалі зубны боль.

25 / 12. Васіль, Зінон, Ісак, Міна, Давыд, Іван, Апанасся.

26 / 13. Артамон.

27 / 14. Марцін, Антон, Іван, Астап, Ардальён.

28 / 15. Арыстарх, Трахім, Васіліса, Настасся, Кандрат, Лук'ян, Якуб, Віктар, Засіма, Сава, Андрэй. «Святы Андрэю — канапелькі сею» — так раілася рабіць на Усходнім Палессі.

29 / 16. Ірына, Галіна, Ніка, Васіліса, Хвядора, Тамара. «На Ірыну,— казалі,— добра сеяць капусту».

30 / 17. Сымон, Ананій, Акакій, Аляксандр. Святы Засіма, які таксама шанаваўся ў гэты дзень, разам са святым Савацеем лічыўся ахоўнікам пчол — нездарма яго імя ўжываецца ва ўсіх пчалярскіх замовах. На пчальніках абавязкова меўся абразок абодвух святых, прычым Засіма быў намаляваны на фоне лесу так, што ў адной руцэ трымаў «кацялок», а ў другой — крыж і мяцёлку для зграбання раёў (ці крапіла). Зімою абразы пераносіліся ў амшанік, дзе захоўваліся вуллі, ці ў хату. На «Засіма-пчальніка» расстаўлялі вуллі.

Калі ў апошні дзень красавіка сонца ўзыйдзе ясна — будзе сухое лета, а калі праз хмары — дажджлівае.

## Май

У апошні месяц вясны,— які б ён ні выпаў — з раннім ці запозненым цяплом, звычайна распускалася зеляніна. Пра яе нагадвала і другая назва месяца — т р а в е н ь. У гэтым месяцы першы раз пасля зімы гоняць скаціну ў поле, якая ў хлявах не магла дачакацца свежай травіцы: «Май — жывёлу ў поле пхай». І хоць да лета было рукою падаць, народны разлік папярэджваў: «Май зямлю грэе, а сіверам вее». Работы з кожным днём прыбывала, але гаспадар не спяшаўся даверыцца такому няпэўнаму яшчэ цяплу: «Май — валам дай, а сам на печ уцякай». Па стану мая прыкідвалі, чым абернецца для селяніна палявы год: «Май халодны — год галодны». Снег і мароз у апошнім веснавым месяцы прадказвалі засушлівае лета, не пакідалі добрых спадзяванняў і пчалярам. І наадварот, майскія грымоты нібыта паведамлялялі рупліўцу пра добры плён на яго зямлі: «Дождж у маі — хлеба будзе і на гультая».

Калі ноч пад першы дзень мая зорная і вее цёплы

паўдзённы вецер — лета будзе з бурамі, але цёплае і ўраджайнае.

1 / 18. Іван, Віктар, Зінон, Северыян, Аўксенцій, Кузьма. На гэты дзень прынята было сеяць моркву, буракі.

2 / 19. Іван, Хрыстафор, Антанін, Пафнуцій, Георгій, Трыфан, Нічыпар.

3 / 20. Хведар, Аляксандр, Гаўрыла, Рыгор, Анастас.

4 / 21. Януар, Яўціхій, Хведар, Дзяніс, Ісак, Сакрат.

5 / 22. Хведар, Усевалад, Гаўрыла, Лука, Клімент, Віталь.

6 / 23. Георгій (Юр'я, Юрай, Ягор'я). У ліку іншых веснавых дзён гэта свята, больш чым якое іншае, прэтэндуе на сапраўдны пачатак вясны. Менавіта з Юр'я, як лічылі амаль паўсюдна, пачынае куваць зязюля; на Юр'я сяляне выходзілі з песнямі і ахвярнымі стравамі аглядаць свае зарунелыя палеткі («Калі прыйдзе Юры, не ўглядзіш у жыце куры»); з Юр'ем звязваўся, як правіла, і першы выпас жывёлы (запасаў для яе павінна было хапіць як мінімум да гэтага дня — «На Юр'я каб сена было і ў дурня»). Дбайны гаспадар не прапускаў без увагі стан надвор'я і рабіў для сябе пэўныя высновы: «Калі на Ягор'я мароз — будзе добры авёс». Снег на Юр'я падаваў надзею, што ўлетку пабялеюць палі ад удалай ураджайнай грэчкі, і наадварот — «Як на Юр'я пагода, то на грэчку няўрода». Густы юр'еўскі дождж упэўніваў селяніна, што вырасце густое вялікае жыта. Жыватворная юр'еўская раса таксама абяцала прыбытак: «Калі будзе раса — хопіць коням аўса». Галоўнай адказнасцю, якой народ надзяліў святога Юр'я, было апякунства хатняй жывёлы і гаспадаркі. Адначасова Юр'я называлі і валадаром ваўкоў. У народзе ўяўлялі, што ён едзе на белым кані і замыкае пашчы дзікім звярам, пасля чаго тыя менш нападаюць на скаціну. Статак стараліся выгнаць зарань, на цудадзейную расу — яна павінна забяспечыць вялікі дастатак малака. За лепшае лічылі, калі запасванне супадае з поўняю, «каб усяго было поўна». Перад тым як выгнаць, гаспадар тройчы абыходзіў сваю худобу з запаленай грамнічнай свечкай і апырскваў яе свянцонаю вадою. Абкурвалі жывёлу падпаленымі купальскімі зёлкамі, якія захоўваліся ў кожнай хаце. Выганялі скаціну з хлява, пасцёбваючы асвячонымі на Вербніцу галінкамі вярбы, затым яе ўтыркалі ў хляве ад злых духаў. На парозе хлява перад жывёлай клалі розныя сімвалічныя прадметы: курынае яйка — нібыта затым, каб заткнуць ім ваўку пашчу і каб каровы былі круглыя і поўныя, а калі яйка заставалася цэлае пасля праходу жывёлы, спадзяваліся, што і жывёла сёлета будзе цэлая; замкнуты замок пад нагамі худобы павінен быў выступаць як ахоўны сродак ад ваўкоў («Няхай так замкнецца яго пашча на ўсё лета»); ніты ад кроснаў («Як гадзюка ніта не разбярэ, так

ад кароўкі малака не адбярэ»); сякеру, каб абараніць ёю гавяду ад «нячыстай сілы» і чарадзеяў; пояс ці жменя выцягнутай са страхі саломы азначалі, што скаціна не будзе адыходзіць ад дому; бязмен мусіў садзейнічаць таму, каб жывёла павялічвалася ў вазе. Запасванне на Юр'я станавілася і святам пастухоў — для іх гаспадары рыхтавалі добрыя закускі, а тыя ўжо на пашы ладзілі пачастунак. У першы дзень пастухі не павінны былі рабіць ніякіх пазык, не бралі яны ў поле агню, нажа (вастрыць яго, першы раз на весну гонячы статак, значыла б вастрыць ваўку зубы). Не забываў селянін на Юр'я і пра сваю ніву. Ён выходзіў на яе са спечаным напярэдадні, загорнутым у абрус караваем — увасабленнем леташняга ўраджаю, абыходзіў з ім палеткі, клаў яго ў рунь, і калі той хаваўся ў жыце, казалі, што ў бягучым годзе яно вырасце ўдалае. Выносілі ў поле косткі, што заставаліся ад велікоднага стала, і закопвалі па канцах поля. Асвячоная вербачка ўторквалася ў зямлю з верою, што гэтым самым удасца абараніць ніву ад граду. На полі частаваліся, спявалі юраўскія песні:

Юр'я Бога клікала:
— Да падай, Божа, ключыкі
Адамкнуці зямліцу
Да выпусціці травіцу.
Да на буйна жыта,
Да на цёпла лета,
Да на волікі ярмачко,
Да на кароўкі малачко.

7 / 24. Сава, Валянцін, Лявонцій, Хама, Лізавета, а таксама А л я к с е й і А ў с е й — імёны гэтых святых як быццам самім сваім гучаннем заклікалі селяніна хоць што-небудзь п а с е я ц ь на ніве. Асабліва сугучнае з абавязковай палявой культурай імя апошняга святога, здавалася, зашыфроўвала ў сабе несумненную параду: «Аўсей — авёс сей».

8 / 25. Марк, Сільвестр. «Дождж на святога Марка — дык зямля, як скварка». Адзначаны ў каталіцкім календары Станіслаў даваў селяніну свае парады на гэты дзень: «Сей лён на Станіслава, вырасце як лава».

9/26. Васіль, Сцяпан, Глафіра.

10/27. Сымон, Сцяпан, Яўлогій.

11/28. Кірыл, Віталь, Максім.

12/29. Арцём, Хвядот, Філімон, Васіль, Іван.

13/30. Мікіта, Ігнат, Данат, Васіль, Максім, а таксама апостал Якуб. Народная прыкмета звязвала з гэтым імем набліжэнне цяпла: «На Якуба грэе люба».

14/1. Ігнат, Акакій, Макар, Пафнуцій.

15/2. Дзень Барыса і Глеба быў значным святам у народзе.

Надта шанаваліся на яго крыніцы, якія не замярзалі і лічыліся гаючымі, асабліва ад хвароб вачэй. Шмат дзе, хоць далёка не паўсюль, не дазвалялася працаваць на конях. І ўсё ж гарачая на ніве пара не давала ніколі селяніну сядзець спакойна. Калі сабраць усё, што гаворыцца пра Барыса ў народных песнях, то можна з упэўненасцю назваць гэты дзень святам працы: «Святы Барыс — коні пасець, прывёўшы дамоў, закладываець...», «барануець, поле раўнуець...», «ляды паліць», «ячмень сеець з поўнай сявенькі, з правай жменькі, кіне рэдка — дасць Бог густа». Па розных мясцовасцях на Барыса неабходным лічылася сеяць дзе бульбу, дзе бабы, дзе цыбулю.

16/3. Маўра, Цімох, Хвядос, Пётр.

17/4. Палагея, Мікіта, Кірыл, Нічыпар, Клімент, Ісак, Сільван.

18/5. Ірына, Якуб.

19/6. Іоў, Міхей, Дзяніс.

20/7. Акакій, Ніл, Іван, Давыд, Зянон, Фадзей, Язэп, Сідар, Міхал, Сцяпан.

21/8. Арсень, Пімен, а таксама Іаан Багаслоў. На гэты дзень прыходзіліся тыя ж указанні, што і на Барыса. Не выкарыстоўвалі коней, каб пазбегнуць у будучым няшчасных здарэнняў з імі. Па агародах садзілі моркву, агуркі, рэдзьку, цыбулю. Гаспадыні высока падтыркалі спадніцы, спадзеючыся, што ўсё пасаджанае вырасце высока, і хапаліся за калена з упэўненасцю, што гэткая ж круглая і тоўстая будзе гародніна. Іаан Багаслоў непасрэдна папярэднічаў дню Міколы і таму ў народзе іменаваўся «Міколіным бацькам». Народная песня так характарызавала яго: «Міколін бацька — з сявалачкай яр засяваець. Першая сяўба — белы й гарошак, другая сяўба — яра пшаніца... усякая пашніца, авёс вяцісты й ячмень пляцісты... а гарох стручысты й пшаніца бела».

22/9. Мікола веснавы (ці летні). «Да Міколы няма дабра ніколі» — гаварылі ў народзе, г. зн. няма пэўнасці ў надвор'і, і толькі Мікола «пагоду становіць», таму і зваўся ён яшчэ цёплым. Гаспадар ведаў, што, зрабіўшы запас сена да Міколы, ён можа заставацца спакойным за жывёлу: «Мей сена да Міколы і не бойся зімы ніколі». Не забывалася і народная песня пра гэтага, бадай, самага шанаванага святога — цудатворца, абразы якога віселі амаль у кожнай хаце: «Святы Мікола па межах ходзіць, жыта раўнуець... дзе вымакла — там падсушыць, дзе высахла — там падмочыць»; «Мікола — стары сявец, ячмень сеець... з левай ручкі засяваець, кінець рэдка — расцець метка», «і траву расціць, і скот пасціць». Веснавы Мікола лічыўся святам конюхаў. Каб засцерагчы коней ад свавольства ведзьмаў, пастухі абкурвалі коней прыхаванымі купальскімі зёлкамі.

З Міколінага дня трэба паспяшацца пастрыгчы авечак, пакуль яны не пачалі ліняць: «Да Міколы не сей грэчкі, не стрыжы авечкі». Паглядаў селянін і на палеткі: як жыта выплыве перад Міколаю, то будзе добры ўмалот.

23/10. Сымон, Кіпрыян, Анісім, Эразм, Сідар, Таіса, а таксама апостал Зілот. Яго імя выклікала ў чалавека асацыяцыю з золатам. Але адкуль магло прыйсці багацце селяніну, як не з уробленых ім палеткаў? Вось і звязваў ён гэты веснавы дзень з вытокам свайго дабрабыту: «Сей пшаніцу на Зілота — яна будзе, як злота». Часам пад вечар высявалі і каноплі.

24/11. Дзень Кірылы і Мяфода. Па ім меркавалі пра ўсё наступнае лета: калі ён мокры — і лета будзе мокрае, калі сухі — усё лета сухое. Чамусьці гэты дзень называлі «днём абнаўлення Царграда» (ад землятрусу) і аддавалі яму ўвагу асвячэннем палёў з хрэсным ходам, каб г р а д а м (сугучнасць з назвай горада абавязвала) не пабіла пасеваў. Асабліва забаранялася на «градабоддзе» араць.

25/12. Епіфан, Герман, Ермаген, Дзяніс, Савін.

26/13. Глікерыя, Макар, Аляксандр, Георгій, Ірына, Яўхімія.

27/14. Максім, Сідар. У гэты дзень дапускаўся налёт халодных вятроў: «Прыйшлі Сідары — прыйшлі і сівяры».

28/15. Пахом, Ісай, Дзмітры. Гэты дзень у адрозненне ад папярэдняга прадугледжваў адваротнае надвор'е: «Пахом павее цяплом». На Пахома амаль усюды дазвалялася ўсё рабіць, але паколькі ён лічыўся галоўным чынам агародным святам, то абавязкова стараліся пасадзіць агуркі: «Пасееш агуркі калі Пахом — будзеш хадзіць з мяхом», г. зн. збярэш шмат агуркоў на агародзе.

29/16. Хведар, Яфрэм, Касьян, Лаўрын, Аляксандр, Мадэст, Муза, Сава, Георгій. А каталіцкі каляндар згадвае Магдалену, якая, паводле народных сцвярджэнняў, «зязюльку прысылае».

30/17. Андронік, Ефрасіння, Еўдакія, Сцяпан.

31/18. Хвядот, Пётр, Дзяніс, Андрэй, Павел, Хрысціна, а таксама — Сем дзеў. Лён раілася сеяць не пазней гэтага дня. Сеялі таксама і каноплі, арыентуючыся на імя адной з дзеў — Матруны: «Канапелька Матруна, штоб ты ў зямлю махнула!»

## Чэрвень

Першым летнім месяцам звычайна лічыцца чэрвень, хаця ў народным календары даволі цяжка правесці мяжу паміж вясной і летам. З вясною мінаўся пачатковы этап палявых работ. Пачыналася пара, калі селянін могназіраць за вынікамі нядаўняй сяўбы, па маладых парастках у полі і на

агародзе меркаваў пра ўраджай на восень. Пра месяц, які распачынаў лета, народная прыказка гаварыла: «У чэрвені ўбача спадар, што Бог дасць у дар».

1/19. Дзмітры, Карніл, Акакій, Іван, Ігнат, Сяргей.

2/20. Аляксей, Цімафей. Гэта таксама і дзень «трох мучанікаў — зледзянелых старцаў» (Фалалея, Аляксандра, Астэрыя). Да яго, казалі, няма лета, але пасля яго ўжо не бывае зімы.

3/21. Кастусь, Алена, Міхал, Хведар. «Каля святой Алены гароды ўжо добра зялены». Лічылася, што пасеяны на Алену лён будзе асабліва ўдалы. Перакананне было падмацавана сугуччам «л ё н — А л е н а», што ў народным уяўленні рабіла святую нібыта апякункаю гэтай палявой культуры, і засталося замацавана ў прыказцы: «Сей лён на Алену — будзе кашуля па калена». Выпраўляючыся на сяўбу, апраналі чыстую бялізну, каб і лён вырас чысты. У кашолку з насеннем клалі вараныя яйкі, якія, прыехаўшы на ніву, сейбіт падкідаў угору, каб лён быў высокі і з буйнымі галоўкамі.

4/22. Васіліск, Іван. Пасля гэтага дня ўслухоўваліся, каб пачуць спеў самай галасістай птушачкі: «Ад Васіліска і салавей блізка».

5/23. Ефрасіння, Лявонцій, Міхал, Ісай, Ігнат, Якуб, Хведар, Дзмітры, Аўрам, Пятро, Іван, Васіль, Кастусь, Давыд, Мікіта, Даніла, Андрэй, Раман, Адрыян, Аляксандр, Генадзь.

6/24. Сымон, Мікіта, Мялецій, Сцяпан, Іван, Серапіён, Калінік, Хведар. Калі ў гэты дзень, што папярэднічае дню Іаана Хрысціцеля, стаяла цёплае надвор'е, то для пчаляроў існавала прафесійная прыкмета: «Калі выйдзець рой перад Янам, будзець зямец панам». Незапознены вылет пчол абяцаў багаты медазбор.

7/25. Іван, Ферапонт.

8/26. Карп, Георгій, Макар, Аверкій, Алена, Іван.

9/27. Ферапонт, Ніл, Кіпрыян, Фоцій, Іона, Іван, Хвядора.

10/28. Мікіта, Ігнат, Яўціхій.

11/29. Іван, Хвядосся. «Хвядосся-каласяніца — жыта каласіцца».

12/30. Ісак. «На Ісака адбываюцца змяіныя вяселлі».

13/31. Ерма, Ярмія. Канец усякай сяўбы. «Прыйшоў Ерамей — больш не сей».

14/1. Пакутнікі Юстын і Харытон. У гэты час селянін звычайна аглядае свае пасевы, што і адбілася ў прыказцы: «Юстын цягне ўверх каноплі, Харытон — лён».

15/2. Нічыпар, Іван, Ульяна, Варлам.

16/3. Клаўдзій, Іпацій, Павел, Дзяніс, Паўла, Дзмітрый, Лук'ян, Юльян.

17/4. Мітрафан, Мяфодзій, Севярын, Засіма.

18/5. Дарафей, Канстанцін, Хведар, Аляксандра, Іона, Маркіян, Нікандр, Леанід, Георгій.

19/6. Вісарыён, Ларывон, Іона, Фёкла.

20/7. Хвядот, Клаўдзій, Маркел, Калерыя, Марыя.

21/8. Хведар, Васіль, Яфрэм, Засіма. У гэты дзень па атмасферных з'явах спрабавалі прадказаць надвор'е і ўраджай: «На Тодара раса — лета сухое і ўраджайнае»; «На Тодара раса — канапель паласа».

22/9. Кірыл, Аляксандр, Фёкла, Марфа, Марыя.

23/10. Цімафей, Васіль, Іван, Аляксандр, Антаніна, Феафан.

24/11. Варфаламей, Варнава.

25/12. Анупрэй, Пётр, Ганна, Арсень, Іона, Аўксенцій, Сцяпан, Андрэй, Феафіл. З імем Анупрэя ў сялянскім календары звязвалі пасяванне на ўзвышшах суніц. Па гаспадарках прынята было сеяць да абеду якое-небудзь белае зерне, а па абедзе — чорнае, грэчку. Выкананне гэтага правіла гарантавала ўдачу, што пацвярджала прыказка: «Хто на Нупрэя пасее грэч, той будзе бліны печ». Часам жа лічылі, што трэба толькі заворваць пад грэчку, а сеяць яе назаўтра.

26/13. Акуліна-«грачышніца».

27/14. Елісей, Мяфодзій, Мсціслаў, Георгій.

28/15. Іона, Рыгор, Мадэст, Еранім, Хведар, Лазар, Яфрэм, Аўгусцін, а таксама прарок Амос. Пасеяны незадоўга перад гэтым авёс тым часам прабіўся скрозь зямлю зялёнымі парасткамі. Разам з рунню прарастала ў народзе прыкмета, якая прыставіла да аўса спецыяльнага апекуна: «Прарок Амос цягне ўгару авёс».

29/16. Ціхан, Яўтропій.

30/17. Мануіл, Савел, Ісмаіл. «На Мануіла сонца застойваецца».

## Ліпень

У ліпені работы ў полі і на агародзе прыбаўляецца. Большасць «ліпеньскіх» прыказак гавораць менавіта аб працы: «Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае» (здаецца, самой прыродаю адмераны былі доўгія сонечныя дні, каб чалавек паспеў управіцца з усімі гаспадарчымі клопатамі); «Хто ў ліпні на полі пацее, таго ўзімку і печка пагрэе». Ліпень земляроб называе «гаручым» (спякотным), але яшчэ не «даручым» (не надта шчодрым), як наступныя за ім месяцы. А каб ураджай не падвёў, каб «даручасць» зямлі спраўдзілася пад канец лета і ўвосень, трэба добра папраца-

ваць. Характар месяца, які з'яўляецца ядром лета, адлюстраваны ў прыкмеце-прыказцы: «Ліпень што спаліць агнямі, тое залье слязамі» — маўляў, надвор'е звычайна ўраўнаважанае, з чаргаваннем сонца і дажджу.

1/18. Лявонцій, Іпацій, Фядул.

2/19. Іуда, Варлам, Паісій, Засіма, Іван.

3/20. Мяфодзій, Глеб, Андрэй, Гурый, Іна, Рыма, Апанас, Міна.

4/21. Юльян, Цярэнцій, Юлій.

5/22. Яўсей, Зінон, Галакціён, Ульяна.

6/23. Агрыпіна, Арцём, Герман.

У ноч з 6-га на 7-е (з 23-га на 24-е) Купалле (Купала, Ян, Іван). Калі кульмінацыяй зімовых падзей былі ў народным жыцці Каляды, то адпаведным па значнасці святам улетку з'яўлялася Купалле (царкоўнае свята Раство Іаана Хрысціцеля), якое адзначалася дзень у дзень праз паўгода. Напярэдадні яго дзяўчаты збіралі кветкі на вянкі, рабілі запасы лекавых раслін ад рознай немачы. Асаблівую ўрачыстасць святу надавала купальскае вогнішча. Дзяўчаты і хлопцы з усёй вёскі сцягвалі розную старызну (атопкі, абноскі, непрыгодны посуд, палазы, якія ад'ездзілі свой век), а таксама траецкі ссохлы «май» і вывозілі ўсё гэта за сяло, дзе меркавалася гулянне. Туды ж увечары накіроўваліся вяскоўцы з купальскімі песнямі. Агонь для вогнішча здабывалі ад трэння драўляных брускоў. Як сімвал сонца ўздымалі на шчасце запаленае кола. Полымя купальскага вогнішча надзялялася ачышчальнай сілай, хлопцы і дзяўчаты скакалі праз яго. Моладзь забаўлялася гульнямі, варажбою, вадзіла карагоды, спявала песні.

Купалка Йвана на вулку звала:
— Іван-Іванішча, хадзі на йгрышча.
— Гуляй, Купалка, здаровенька,
Некалі йгрышчы мне гуляці:
Нада жыта пільнаваці,
Каб дзевачкі не хадзілі,
Майго жыта не таптапі
І красачак не шчыпалі,
І вяночкі не звівалі,
На галовачцы не насілі,
Па вулачцы не хадзілі,
Малойчыкаў не звадзілі.

З Купаллем звязана адна з самых рамантычных легенд беларускага народа пра папараць-кветку. Верылі, што ў купальскую ноч на папараць сыходзіць агонь Перуна і яна ўспыхвае яркім цветам, цвіце апоўначы некалькі імгненняў і трэба паспець ухапіць яе. «Хто гэту кветку здабудзе, будзець мець

усё, чаго толькі яго душа пажадае»; «...можна тады ведаць усё, што на свеце робіцца». Недасягальнасць папараці-кветкі ў беднага чалавека атаясамлівалася з багаццем, з закапанымі немаведама кім і калі скарбамі, якія ў гэту ноч выходзяць на паверхню прасушыцца. Скарбы, што ахоўваюцца нячысцікамі, могуць дацца ў рукі толькі ўладальніку папараці-кветкі. У паданнях расказвалася, што ў купальскую ноч расліны размаўляюць між сабою, дрэвы пераходзяць з месца на месца, а рэкі свецяцца прывідным святлом. Сярод цудаў купальскай ночы называлі разгул розных чараўнікоў і ведзьмаў, якія ўсяляк шкодзяць людзям — заезджваюць коней і адбіраюць малако ў кароў. Каб не дапусціць «нячыстую сілу», над парогамі хлявоў і хат вешалі прадметы, якімі ведзьма магла парэзацца, пакалоцца, апячыся: сярпы, іголкі, крапіву. На страх ведзьме вешалі і забітую сароку. Вельмі пашыранай на купальскім святе была варажба. Дзяўчаты і хлопцы загадвалі, што чакае іх у будучыні. Па кінутых на ваду папарна вянках сачылі, сыдуцца яны ці, наадварот, разыдуцца; можа, чый вянок не будзе падхоплены плынню, ■ прыстане ці нават патоне. Сабраныя на Яна галінкі купалкі з нераспушчанымі кветкамі прыносілі ў хату, утыркалі за абразы, у шчыліны між бярвёнамі ці за бэлькі. Калі кветкі распускаліся, гэта значыла, што дзяўчына выйдзе замуж альбо задуманае ёю збудзецца. А то яшчэ варажылі гэтак: ля дарогі знаходзілі трыпутнік і прыкмячалі адзін нейкі ліст, апоўначы трэба сарваць яго, кажучы тры разы без аддышкі:

Трыпутнік, трыпутнік,
Ты сядзіш пры дарозе,
Ты відзіш старога, малога,
Ці відзіш майго мілога?

Гэты ліст прыносілі дадому, клалі пад падушку і спадзяваліся, што сасніцца любы. Пад раніцу моладзь купалася ў рацэ (праўда, на Смаргоншчыне забаранялася купацца на Купалле, каб не замуціць ваду ў дзень нараджэння Іаана Хрысціцеля), качалася па купальскай расе, сустракала ўсход сонца, у гонар якога некалі і святкавалася Купалле. Казалі, што на купальскую зару сонца «іграе» — дваіцца, траіцца і пераліваецца рознымі колерамі. Купалле, як вынікае з песень, пазначана было магутным прыродным рухам і адначасова рухам чалавечай працы: «Святы Іван колас наліваець... пчолы садзіць, коску правіць — лугі пратаць, у сцірты кідаць»; «Святы Ян папар арэць, барануець... гнаёк возіць»; «Святы Ян — божы каваль: косы круціць, сярпы зубіць». Свята святам, але і ў гэты дзень не пакідалі селяніна думкі пра ўраджай, пільна ўзіраўся

гаспадар у кнігу прыроды, зямлі, чытаў па зразумелых яму знаках ці прадказаннях.

8/25. Фяўронння, Пятро, Давыд, Ефрасіння.

9/26. Давыд, Дзяніс, Ціхан, Іван.

10/27. Самсон, Георгій, Марцін. «На Самсона дождж — сем тыдняў то ж» альбо «...дажджыць будзе да сярэдзіны верасня».

11/28. Сяргей, Герман, Ксенафонт, Павел.

12/29. Пётр і Павел (Пятрок). Гэтаму дню папярэднічаў Пятроўскі пост («Пятроўка — галадоўка»), які пачынаўся праз тыдзень пасля Сёмухі і выклікаў асаблівую незадаволенасць мужчын-касцоў (ён называўся імі «бабскім» пастом, які нібыта выдумалі жанчыны ад неразумення іх цяжкай фізічнай працы ў гэты перыяд). У Пятроўку трэба было ліпы драць на лыка, бо пазней ужо кара прысыхае. Народам заўважана: калі гразь у Пятроўку, то ўлетку будзе добры ўраджай. На Пятра ўжо можна разгавецца сырам і маслам: «Жджы Пятра — сыр з'ясі». А таму, хто ігнараваў звычай, пагражалі не дачакацца таго ж разгавення на наступны год. Валачобныя песні, згадваючы Пятра, называюць шэраг разнастайных сялянскіх заняткаў, а таксама ўказваюць на стан збажыны: «Святы Пётра ў косы звоніць, святы Паўла граблі робіць». Пад звоны косаў «святы Пятро талаку збіраў копы сена вазіць, стагі мятаць». Ен жа і «папар барануець, поле раўнуець, грунт гатуець» ды яшчэ «жыта родзіць», «жытцо спяліць» («Святы Пятро — жытцу ядро»). Значыць, трэба ўжо і сярпы вастрыць, бо «з Пятрова дня ў полі пажня» (зялёны пакос). Па дню Пятра народныя метэаролагі прадказвалі ўраджай, пагоду і непагадзь і размяркоўвалі свае заняткі: «Калі на святога Пятра дождж, будзе жыта, як хвошч»; «На Пятра дождж — сенакос мокры»; «Калі Пётра з Паўлам плачуць, дык людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць»; «Калі на Пятра дождж, то на Новы год будзе страшная мяцеліца». Лічылі, што зязюля куе ад Юр'я да Пятра, пасля чаго замаўкае, нібыта падавіўшыся ячменным коласам, які пад гэту пару выходзіць з трубак. Адхіленні ад згледжанай заканамернасці ведалі і заўважалі: «Калі зязюля перад Пятром перастане куваць, то будзе восень халодная і ранняя зіма. Калі зязюля па Пятрэ куе, то восень будзе цёплая, а зіма — па Усіх Святых (1 лістапада) стане»; «Калі зязюля перастане кукаваць за два тыдні да Пятра, то тое лета будзе ўраджайнае і спакойнае». Як напамінак пра паварот да наступнай пары года гучыць прыказка: «Прыйшоў Пятрок — апаў лісток». Дзе-нідзе на Пятра і на Сёмуху спраўлялі вяселлі.

Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Бел кужаль прала — драмала,
Красёнцы ткала — заснула,
Ехаў Іванька — не чула.
Махнуў платочкам — не ўстаець,
Кінуў калечка — не бярэць.
— Чаму, Манечка, не ўстаеш,
Майго калечка не бярэш,
За мяне замуж не ідзеш?

Пра вяселлі згадвалася і ў прыказках: «Да Пятра дзеўка хітра, а па Пятры — хоць твар ёю падатры» (да Пятрова дня, значыць, стараецца спадабацца хлопцу і выйсці замуж; калі ж намаганні марныя, яна мусіць чакаць наступнай пары вяселляў).

На Вілейшчыне Пятрок лічыўся адным з памінальных дзён, калі адведваюцца могілкі. У спрыяльнае лета гаспадыні нават спрабавалі рабіць першы зажон і частавалі плёнам сваёй працы сям'ю — адсюль і прыказка: «На Пятра крышку хлеба напякла».

13/30. У дзень 12 апосталаў, сярод якіх былі Сымон і Юда, пачыналі араць ці баранаваць папар: «На Сымана і Юды конь баіцца груды».

14/1. Кузьма і Дзям'ян — у іх, як і ў іншых святых, народ бачыў апекуноў і дарадцаў сваім галоўным справам гэтай пары — сенакосу і падрыхтоўцы да жніва. Таму і маляваў іх прыземлена, надзяляў тымі ж клопатамі, што і простых людзей: «Кузьма і Дзям'ян прыйшлі, на сенакос пайшлі»; «Святы Кузьма сярпы робіць, святы Дзям'ян сена грабіць». На Усходнім Палессі гэты прысвятак называлі «Кузьма-сякач» і пазбягалі працаваць на полі і агародзе, каб святы не пасек усё градам. Не працавалі і ў кузнях, лічачы Кузьму з-за сугучнасці імені апекуном кавальства.

15/2. Фоцій, Ювеналій, Ціхан, Васіль, Нікан, Арсень.

16/3. Філіп, Анатоль, Васіль, Кастусь, Іван, Нікадзім, Дзямід, Яўлампій, Марк, Аляксандр.

17/4. Андрэй, Марфа, Яўхім, Хвядот, Хвядоцця, Хведар.

18/5. Апанас, Сяргей, Ганна, Кірыл.

19/6. Ульяна, Марфа, Валянцін, Інакенцій, Антон, Лук'ян, Сідар.

20/7. Фама, Акакій, Еўдакія, Ефрасіння, Лук'ян, Герман.

21/8. У дзень Казанскай Божай Маці на поўдні Беларусі магло пачынацца жніво. На Случчыне на «Казанскую» не працавалі: «Калі хто паробіць, так нешта і зробіцца — маланка ў стог ударыць»; «Будзеш вазіць сена на «Казанскую», то гумно другое «Казанскае» не дастоіць». Паводле каталіцкага ка-

лендара, «святому Данату» наканавана было ў гэты дзень «коскі тачыць», «сянцо касіць».

22/9. Панкрат, Кірыл, Аляксандр, Хведар.

23/10. Лявонцій, Маўрыкій, Даніла, Антон, Аляксандр.

24/11. Яўхімія, Вольга, Алена.

25/12. Прокл, Міхал, Хведар, Іван, Арсень, Сымон, Гаўрыла. На пакутніка Прокла чакалі вялікіх рос, ад якіх магло пагнісці сена, таму яго стараліся найхутчэй высушыць. Згодна з каталіцкім календаром, у гэты дзень шанаваўся Якуб, які быў арыенцірам метэаралагічных прадказанняў: «Які Якуб да паўдня — такая да снежня зіма»; «Дождж на Якуба — для жалудоў згуба».

26/13. Гаўрыла, Сцяпан, Юльян, Серапіён, Маркіян. У каталіцкага насельніцтва гэта дзень Ганны, ён працягваў папярэднія назіранні за надвор'ем і ўраджаем: «Як Ганна з дажджом — дык гарох з чарвяком»; «Святая Ганна раніцы халодзіць»; «Калі на Ганну раніца халодная, то і зіма будзе ранняя і халодная».

27/14. Сцяпан, Анісім. Каталіцкі каляндар адзначае гэту дату як дзень Сямі спячых братоў. Пераконвалі, што калі заладзіць дождж на Сем братоў, то будзе ісці без перапынку сем тыдняў, што ніяк не паспрыяе земляробчым работам.

28/15. Уладзімір, Васіль.

29/16. Афінаген, Павел, Валянціна, Юлія.

30/17. Марына, Маргарыта, Лазар, Леанід.

31/18. Емяльян, Іван.

## Жнівень

Назва апошняга летняга месяца — напамін пра галоўную сялянскую працу ў гэту пару: «У жніўні панамі сярпы — маруды тады не цярпі». Кожнаму гаспадару было вядома: «Хто ў жніўні гуляе, той зімой галадае».

1/19. Серафім, Раман, Сцяпан, Міліца, а таксама Макрына — імя яе не магло не выклікаць асацыяцыі з макрэчай, з дажджом, якія ў сваю чаргу выводзілі свае прыкметы: «Калі ў дзень Макрыны дождж, то ўсё лета і восень будуць мокрыя, а калі суха, то восень сухая». Дзейнічалі і павер'і-забабоны: «На святую Макрыну нельга палоць грады, таму што ўсякая гародніна адмокне ад вялікіх дажджоў».

2/20. Прарок Ілля. Адзін з найпапулярнейшых у сялян вобразаў успрымаецца па той жа сэнсава-фанетычнай асацыяцыі (Ілля — ліць — дождж) нібы родны брат Макрыны. Грымоты з маланкамі на Іллю тлумачылі тым, што гэта сам прарок у вогненнай калясніцы раз'язджае па небе. А каб не ўзнік

пажар ад навальніцы, стараліся не працаваць. Калі ж выпадала сонечнае надвор'е, баяліся гневу Іллі, які можа пакараць грэшную зямлю і людзей засухай. Нормай лічылася, што прарок Ілля прынясе дождж: «Ілля наробіць гнілля». Існавалі на гэты дзень больш-менш рацыянальныя аграрныя і метэаралагічныя назіранні: калі дождж — будзе жыта ядронае, але маланка папаліць арэхі; калі пагода — павінен быць добры сенакос; калі спякота — трэба чакаць працяглай зімы. Ад Іллі звычайна пачыналася доўгачаканае жніво: «Святая Ілля — слаўна жняя»; «Свята Ілля копы лічыць». Выспяванне жыта часам вывяралі па ягадах у лесе: паспелі на Іллю чарніцы — значыць, паспела і жыта. Тады ўжо прыказка вуснамі дбайнай гаспадыні сцвярджала: «На Іллю поўну печ хлеба наллю»; «На святога Галляша (мясцовая назва Іллі.—*У. В.*) з новых круп каша». Дзесьці каля Іллі трэба было «брацца да раллі» — пачыналі араць паравое поле, рыхтуючыся спакваля да сяўбы азімых: «Да Іллі хоць адным зубам зямлі парні». Свае назіранні мелі і бортнікі: паводле іх сцвярджэнняў, надзейныя тыя раі, што выйшлі да Іллі, пазней жа раі амаль нічога не вартыя і іх лепш не асаджваць, а адпускаць. Дзень Іллі ўспрымалі як рубеж між летам і восенню: «Ілля жніво пачынае, а лета канчае»; «На Іллю да абеду лета, а па абедзе восень»; «Да Іллі поп просіць Бога пра дождж, а з Іллі і баба хвартухом яго нагоніць». І яшчэ адна прыкмета: «Прыйшоў Ілля і ўкінуў у ваду алядня» — менавіта з гэтага дня забаранялася купацца. Калі, маючы на ўвазе паступовае скарачэнне дня, пра папярэдніх святых гаварылі, што «Пётра-Павел час убавіў», то пра Іллю дабаўлялі: «Ілля-прарок — два ўвалок».

3/21. Сымон, Іван, Анупрэй, Анісім.

4/22. Марыя Магдаліна, Фока, Карніл. Дажджы, непагадзь ад папярэдніх «мокрых» дзён Макрыны і Іллі не спыняліся: «Магдалена — вады па калена»; «На Марыю вялікія росы — будзе лён шэры і косы».

5/23. Трафім, Феафіл, Апалінар.

6/24. Барыс і Глеб, Палікарп. Наступныя пасля Іллі прысвяткі былі цалкам падпарадкаваны жніву, і апякун Барыс у народнай песні далучаўся да работы як просты селянін, каб хутчэй «зваяваць поле»: ён «снапы зносіў», «копкі ставіў гусценькія», «бабкі злічаў». Няцяжка пачуць сугучча імені другога святога з галоўным клопатам і радасцю селяніна: «Барыс і Глеб — паспеў хлеб».

Ай, добра ноч, шырокае поле, жыта ядраное!
На здароўе, жнейкі маладыя, сярпы залатыя!
Прыхадзіце заўтра раненька, як сонейка ўзойдзець.
Прынасіце адзін гаршчок кашы, а другі сыраквашы.

Вы сажніце шырокае поле, жыта ядраное!
Пастаўляйце ў полі капамі, а ў лузе стагамі!
А мы зжалі і поле пажалі і пастаўлялі,
У полі капамі, а ў гумне стагамі пастаўлялі.

Як ні дзіўна, але ў такую гарачую пару часам забараняліся цяжкія работы з-за пагрозы раптоўнага дажджу з навальніцай, якая можа разнесці скіданы ў гэты дзень стог ці спаліць яго маланкай. Ні прыбіраць сена, ні звозіць збожжа ў гумно было нельга, інакш, гаварылі, на свае будынкі сцягваеш перуны і накікаеш пажар. Саломай ад зжатага на Барыса і Глеба збожжа хаты не крылі, бо, лічылі, страху знясе вецер ці спаліць маланка. У некаторых мясцінах ушаноўваецца і Палікарп, які зваўся Палікопам. У гэты дзень можа здарыцца ці спякота — і зерне высыплецца, ці вялікі дождж — і яно прарасце, таму пажаты хлеб яшчэ нельга лічыць сваім: «Палікопы — не твае ў полі копы».

7/25. Дзень Ганны, ідучы следам за Барысам, нічым не адрозніваўся ў сялянскіх занятках: «Барыс з Ганнай не гуляюць, святой Іллі памагаюць». За Ганнай прызнавалі тую ж стараннасць: «Святыя Ганны да помачы жаць сталі, вязь вязалі, копы клалі», «бабкі стаўлялі», «дамоў снапы звозілі, копы лічылі». Сустракаліся мясціны, дзе на Ганну працаваць можна было толькі на талацэ ці па найму. У гэты ж дзень каляндар вылучаў імя М а к а р а, якое ўслед за Макрынай і Іллёю народ таксама звязваў з м а к р э ч а й, ліўнямі: «Макаў налье ў рукаў».

8/26. Ермалай, Майсей, Параскева.

9/27. Угоднік Панцеляймон лічыцца лекарам, асабліва ад хвароб галавы. Дзень адзначае таксама Мікалая, Анфісу, Клімента, Германа, Навума, Саву.

10/28. Прохар, Міканор, Піцірым, Майсей, Астап, Юльян, Акакій.

11/29. Калінік, Кастусь, Кузьма, Серафіма, Хвядоцця, Міхал, Яўстафій.

12/30. Сіла, Андронік, Іван, Герман, Лука, Алімп, Максім, Валянцін, Апалон. Калі паспявалі закончыць жніво, гаварылі, што карысна пачаць сяўбу новага хлеба: «Хто на Сілу жыта пасее — у таго на хлеб надзея». Надзею нібы гарантавала імя святога — Сіла! Івану-воіну, які таксама прыпадае на гэты дзень, маліліся, каб адшукаць украдзеныя рэчы і коней і каб пакараць злодзеяў. У народзе верылі, што калі адслужыць малебен Івану-воіну, то ён нашле на крыўдзіцеля і злоснага ворага страшную кару.

13/31. Еўдакім, Юліта.

14/1. Першы Спас (усіх было тры). Поле і агарод ужо ладнатакі кармілі сялянскую сям'ю, і другая палова жніўня, нягледзячы на двухтыднёвы пост, які пачынаўся з гэтага дня, празвана

была «спасаўкай-ласаўкай». У смаленскіх беларусаў бытаваў звычай напярэдадні першага Спаса варыць столькі яек, колькі ў двары мужчын. Разбіўшы яйкі, прыглядаліся: у каго паўнейшае — таму наканавана засяваць жыта, каб атрымаўся поўны ўраджай. Звычай аб'яднаў два сімвалы: яйка (зараджэнне новага жыцця) і паўнату (увасабленне дабрабыту, багацця). Шчасліўцу, у якога абодва сімвалы сышліся, нібы даравалася дабратворнасць, і ён мусіў перанесці яе на агульную ніву ў час Масяўбы. Першы Спас зваўся ў народзе таксама Макавей, Макаўе. У пацвярджэнне назвы на Віцебшчыне кожнай гаспадыні трэба было прыгатаваць хоць бы адну страву, якую можна мачаць,— бліны, сачні з «пражанінай» ці з селядцовай жыжкай; пчаляры здабывалі мёд, каб мачаць у яго агуркі і хлеб. На Макавея падкопвалі маладую бульбу, і па ёй меркавалі пра ўвесь будучы ўраджай; паспявае мак, шпакі і гракі збіраюцца ў агароды.

У жніўні, але пераважна на Спасаўку, павінна прайсці так званая «Рабінавая ноч» (ці «Вераб'іная ноч»). На працягу яе грымоты сатрасаюць неба, грозна бліскаюць маланкі, лье праліўны дождж, дзьме вецер. Згодна з народнымі павер'ямі, у гэту ноч з пекла на свет выходзяць усе злыя сілы, якія нібы спраўляюць сваё галоўнае гадавое свята і страшаць хрышчоных людзей. Паводле іншых меркаванняў, у гэту ноч усе сілы прыроды ядналіся, каб знішчыць «нячыстую сілу», што пасля Купалля расплодзілася за лета і шкодзіла людзям. Забіты ці пакалечаны перуном у «Рабінавую ноч» лічыўся чараўніком. На Палессі гаварылі, што ад такой моцнай буры рабчыкі разляталіся па ўсім лесе і да самага такавання жылі па аднаму. Пераконвалі, што неспакойная ноч патрэбна для выспявання ягад на рабіне. Калі ж ягады не спелі — чакалі благога заканчэння лета і халоднай восені.

15/2. Сцяпан, Нікадзім, Васіль. «Базыль — авечкам воўну дае».

16/3. Ісак, Далмат, Кузьма, а таксама Антон, у дзень якога чакалі вятроў, якія зваліся народам «Антоны-віхравеі».

17/4. Максімільян, Іван, Дзяніс, Канстанцін, Антанін, Еўдакія.

18/5. Еўсцігней, Нона.

19/6. Другі Спас, ці проста Спас, Іспас — самы вядомы і шаноўны ў народзе. Звязваўся перш за ўсё з паспяваннем яблыкаў і асвячэннем іх у царкве. Вельмі пашырана павер'е, што да Спаса нельга есці яблыкаў, бо будуць дзеці паміраць. Не менш дзейнічала забарона есці перад Спасам яблыкі на тых людзей, у якіх папярэдне паміралі дзеці. На тым свеце, казалі, Бог будзе раздаваць на Спаса яблыкі (як і іншую садавіну), а таму дзіцяці, чыя маці каштавала іх раней дазволенага тэр-

міну, пачастунку не дастанецца. На Капыльшчыне пасля асвячэння ў царкве людзі неслі яблыкі на магілкі, дзе клалі ўсёй радні па яблычку. «Спас» тлумачылі і па сугуччу з дзеясловам «спаць». Сцвярджалася, што зямля ў гэты дзень спіць; трывожыць яе сон, а таму і працаваць нельга. І ўсё ж нездарма жыла прыказка: «Спас — усім рабочы час». Свята не давала забыцца, што доўга адпачываць няма як: «Спас не гуляець, каня сядлаець, поле аб'язджаець, копы аблічаець, у гумно вязець», «па полі ходзіць... раскладаець: гэта на семя, гэта на емя!»; «сцірты віець, гнаі возіць»; «А стары Іспас — старэнькі дзядок, на восець садзіў, жыта малаціў»; «...едзець у поле ды зямельку мяшаець, прыгатаўляець»; «Святы Спасік, пільны часік, папар строіць, жытцо малоціць». Ад другога Спаса пачыналася сяўба азімага жыта. На Палессі бортнікі падглядалі пчолы і даставалі мёд. Згодна са звычаем, калі пчаляр пашкадуе ў гэты дзень даць мёду хоць аднаму з прысутных дзяцей, пчолы прападуць. У народзе Спас лічылі днём адлёту буслоў. Калі буслы пачыналі рыхтавацца ў вырай за тыдзень перад Спасам, значыла, што раней надыдзе зіма і будзе яна марозная, а вясна цяплейшая; калі пасля Спаса — восень будзе цёплая, зіма позняя, вясна халодная. Адлёт буслоў адназначна сведчыў пра надыход восені, а прыказкі нагадвалі: «Спас — лета шась!»; «Спас — бяры рукавіцы ў запас».

20/7. Дамецій, Мітрафан, Пімен.

21/8. Емяльян, Рыгор, Засіма, Савацей, Мірон, Леанід.

22/9. Апостал Мацей, Антон, Юльян, Маркіян, Іван, Якуб, Аляксей, Дзмітры, Фоцій, Пятро, Лявонцій, Марыя. Большая частка работ у полі, як правіла, да гэтага тэрміну была выканана. Падступалася восеньская прахалода: «Пасля Мацея мужык на полі не пацея».

23/10. Лаўрын, Раман. Гаспадарчыя работы тым часам змянялі адна адну, і селянін ужо выпраўляўся малоць новае збожжа: «На Лаўрына спяшай да млына».

24/11. Хведар, Васіль, Клаўдзій, Максім, Аляксандр.

25/12. Фоцій, Аляксандр, Памфіл, Капітон. Дзе-нідзе на Віцебшчыне пачыналася так званая «Чарвівая нядзеля». Пасеяны на працягу наступнага тыдня хлеб, як казалі, дае «чарвівую муку», з якой нельга вывесці кузурак; нават калі з яе пячэш, яны да пары заціхаюць і аджываюць пасля таго, як астудзіцца хлеб.

26/13. Максім, Ціхан, Іпаліт.

27/14. Міхей, Хвядос, Аркадзь, Маркел. Апошні дзень «спажынога посту» («спасаўкі-ласаўкі»).

28/15. Прачыстая (Спажа, Успленне) — самае значнае свята ў канцы лета. Царкоўную назву «У с п е н и е» (вечны сон, смерць) тлумачылі ў народзе тым, што да гэтага дня с п е ю ц ь

розныя плады. Прачыстая была сапраўдным святам ураджаю, яна падводзіла вынік працы селяніна: «Свята Прачыста — поле ўрачыста». З асаблівай жа пашанай казалі пра новы хлеб: «Прачыстая прынясе хлеба чыстага»; «Спажа — хлеба дзяжа». Як Спас славіўся асвячэннем яблык, так Прачыстая — асвячэннем хлеба. Асвяціўшы жыта, перамешвалі яго з астатнім і адкладвалі да наступнай сяўбы, каб новае збожжа добра расло. На Палессі Прачыстую называлі Зельнаю, бо асвячалі разам са збожжам «усялякія зелля». На Случчыне сустракалася такое павер'е: калі каго даймае асот, яго сцябліну трэба ўвязаць у букет, пасвяціць, прывезці назад і на полі пасадзіць — ён ужо не будзе расці. Калі каму ўдавалася да свята не толькі паспець сабраць хлеб, але і пачаць заворваць, то таму хлебаробу гэта павінна было прынесці ў будучым большы ўраджай: «Да святка араць — лішнюю капу нажаць». Пра подых восені паведамлялася: «Прыйшла Прачыстая — зусім пацiснула». Адразу пасля свята пачыналася сяўба азіміны, і гаспадар мусіў быць падрыхтаваны: «Успленне — ці гатова насенне?» Да назвы «Прачыстая» нярэдка дадавалася «першая», «вялікая», «большая», каб адрозніць яе ад «другой», «меншай», «малой» Прачыстай (інакш — Спожкі, Багача), што адзначалася ў верасні. Разам з Пакровам гэтыя святы ўтваралі цыкл багародзіцкіх святкоў («Прыйшлі святкі — апалі лісткі»).

29/16. Дзямід. Трэці Спас. Па ім, як і па другім Спасе, раілася «трымаць рукавіцы ў запасе», бо прырода ўсё больш упэўнена набліжалася да зімы. Гэты Спас у адрозненне ад папярэдняга, «яблычнага», дзе-нідзе называлі «арэхавым», паколькі надыходзіла пара паспявання арэхаў.

30/17. Мірон, Павел, Ульяна, Фірс, Стратон, Пілiп, Кіпрыян.

31/18. Святыя Флор і Лаўр ушаноўваліся ў народзе як заступнікі коней. «Конскім святам» называлі гэты дзень. На конях не працавалі, не запрагалі іх, не путалі, выказваючы тым самым падзяку сваім надзейным памочнікам. Жанчыны пяклі ляпёшкі, меншыя за чайныя сподачкі, і называлі іх капытамі. У асобных вёсках дзень Флора і Лаўра лічыўся прысвяткам пастухоў. Здаралася, што разам з забаронамі работ на конях забаранялася таксама жанчынам ткаць.

## Верасень

**Рубеж**, на якім адбывалася развітанне з летам і пачыналася восень, указваўся ў народзе па-рознаму. Відочныя знакі восеньскай пары прыкмячалі ўжо на Іллю, потым — на Спаса, на Прачыстую, на Флора і Лаўра. Умоўна восень лічыцца ад пачатку верасня. Крыху панылыя, але яшчэ з праблiскамі сонца карціны першага восеньскага месяца малююць на-

родныя прыкметы: «Верасень — з досвіткам дзень», паказваючы гэтым самым паступовае скарачэнне дня. Усё мацней бяруцца халады, звычнымі робяцца туманы,ападаюць лісты з дрэў, чырванеюць арабіны («У верасні адна ягада — ды тая горкая рабіна»). Але земляроб меў чым парадавацца пад час прыроднай сумоты, бо хоць «верасень месяц халодны, але сыты». Нездарма ж гаварылася: «Як настане верасе́нь — у гаспадара поўна гумно і кішэнь».

1/19. Андрэй, Піцірым, Цімафей, Агата, Тэкля.

2/20. Самуіл, Сявір.

3/21. Фадзей, Васа, Аўрам.

4/22. Апанас, Анфуса.

5/23. Дзень пакутніка Лупы, як і наогул першая дэкада верасня, прызнаваўся ўдалым для азімай сяўбы — тады, маўляў, «на Лупа будзе жыта купа». Павер'е магло нарадзіцца не толькі на падставе гукавога падабенства, але і па зрокавых асацыяцыях: «У дзень памяці святога Лупы нельга сеяць жыта, таму што на ўсёй ніве будуць «лупы» — жыта ўзыйдзе і вырасце плешынамі». Так, адзін і той жа вобраз у залежнасці ад мясцовай традыцыі надзяляўся супрацьлеглым стаўленнем да сялянскай працы ў гэты дзень.

6/24. Яўціхій, Іван, Пятро, Арсень, Георгій.

7/25. Варфаламей, Ціт, Міна, Яўлогій. Імя святога Варфаламея (у народзе — Баўтрамея) рыфмавалася з адпаведнымі аграрнымі работамі: «Прыйшоў Баўтрамей — жыта на зіму сей». У гэты ж дзень прадугледжваўся адлёт у вырай буслоў, іх зварот праз дзевяць месяцаў падмацоўваў тлумачэнне, што дзяцей прыносяць менавіта гэтыя птушкі: «Святы Баўтрамей высылае буслоў на дзяцей». Па стану надвор'я на Варфаламея вызначалі характар усёй восені.

8/26. Адрыян, Наталля.

9/27. Пімен, Анфіса, Сава.

10/28. Майсей невядома з якой прычыны шанаваўся як збавіцель ад п'янства, асабліва запойнага. Таму жанчыны, што пакутавалі ад мужоў-п'яніц, звярталіся менавіта да Майсея за дапамогай.

11/29. Дзень адсячэння галавы Іаана Прадцечы меў у народзе назвы: Іван Галавасек (Галаварэз, Сценцель), або Іван Калінавік (Калінік). Адзначаўся праваслаўнай царквою строгім постам. Разнастайныя формы жалобы бытавалі і сярод простага люду, кожная парада ці забарона па-свойму лагічна выцякала з характару дня. На Галавасека нельга было есці круглых пладоў, каб не спадобіцца Ірадыядзе, якая забаўлялася галавою Іаана Хрысціцеля, як яблыкам, і каб не садзілася ў бліжэйшы год на целе скулле. Баяліся варыць чырвонае

бацвінне, бо ў доме на працягу года пральецца чыя-небудзь кроў. Забаранялася рэзаць нажамі і сячы сякерамі ўсё, што мела круглыя абрысы, нават хлеб кроілі загадзя ці ламалі яго рукамі. Пад пагрозаю пажару рупіліся выпаліць напярэдадні ў печы і ўсяляк пазбягалі звозіць сена ў хлявы. Ужо сама назва свята падказвала паклапаціцца і пра ўласную галаву. А каб яна не балела, ламалі на Галавасека каліну, што якраз паспявала, і варылі з яе кісель ці кашу з аржаной мукой і цукрам. На Магілёўшчыне ў гэты дзень стараліся паболей заараць і засеяць жыта, якое, разлічвалі, будзе асабліва ўмалотнае. Пра дзень Галавасека ў песнях спявалі, што ён «руняй сцеліць» і «бульбу з поля збірае».

12/30. Аляксандр, Іван, Павел, Даніла.

13/31. Кіпрыян, Генадзь.

14/1. Сямён, Марфа. Дзень Сямёна Стоўпніка («Стаўбуна») меркаваўся як апошні дзень сяўбы азімых: «Святы Сымон — а й сявец дамоў». Паводле народнага павер'я, жыта, пасеянае ў гэты дзень, не будзе баяцца павалу, будзе трымацца «станьком», высокае, але неўмалотнае. А каб засцерагчыся неўмалоту, няпоўных каласоў, забаранялі на Сымона малаціць. Павер'ем служыла сугучнасць: с е м я і С я м ё н. У выніку святы станавіўся нібы паверaным селяніна ў зерневай справе. Наогул селянін кожны этап да будучай сяўбы азімых «даручаў» асобнаму святому: «Да Пятра трэба зямлю паараць, да Іллі — узбаранаваць, да Вялікай Прачыстай — памяшаць і да Сямёна — жыта ўзараць». Яшчэ адляталі птушкі ў вырай. З Сымонам звязвалася павер'е, быццам ластаўкі хаваюцца на зіму ў ваду. На Сымона, як і раней на Баўтрамея, знішчалі ў хаце мух.

Другая палова верасня і пачатак кастрычніка ў народным календары звязваліся з пацяпленнем і насілі назву «бабінага лета». Яна паходзіць нібыта ад таго, што на гэты час прыпадала пераважна «бабская» работа на агародзе і ў полі. Лагоднае надвор'е спрыяла ўборцы гародніны, капанню бульбы, у гэты час церлі і трапалі лён і каноплі.

15/2. Хвядот, Руфіна, Іван, Антон, Хвядос.

16/3. Феафіл, Дарафей, Пятро, Зінон, Домна, Яўхім, Феакціст, Іван, Васіліса.

17/4. Вавіла, Майсей, Піліп, Хведар, Юльян.

18/5. Захар, Лізавета, Апанас, Глеб, Давыд, Максім, Хведар, Аўдзей, Раіса.

19/6. Дзень успаміну цуда Арыстраціга Міхаіла па-народнаму называўся проста «Цуда». Гэта не было свята, і лічылі, калі хто сее жыта, ды не ведае, што за дзень, то ўродзіць ц у д о ў н а я збажына, а калі хто ўведае ці згадае, але не спыніць работу — з ураджаю атрымаецца «ц у д а» н а а д в а р о т.

На Магілёўшчыне распачатую малацьбу спынялі ў дзень Цуда, бо яна, як і распальванне агню ў гумне (найверагодней па асацыяцыі з ударамі перуна і блiскамі маланкі), пагражае спаліць пабудову.

20/7. Сазонт, Іван, Макар, Серапіён, Лука.

21/8. Свята Раства Маці Божай шмат у чым пераклікалася з Прачыстай, але было як бы рангам ніжэй, што выявілася і ў назвах: Малая (меншая, другая) Прачыстая (у параўнанні з Вялікай, большай, першай), Спожка (у параўнанні са Спажой), Другі святок. Пачынаўся адлік дням чарговай пары года: «Другі святок — восень, браток». Была і свая назва ў гэтага свята, што з найбольшай яскравасцю сведчыла пра канчатковы набытак селяніна з яго нівы: Багач. І, як заўсёды, святочны дзень не толькі падсумоўваў зробленае, але і настройваў на далейшыя работы: «Багач — бярыся за рагач (саху), ідзі пад авёс гараць»; «Прыйшоў Багач — кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку». Ад цяжкіх работ пад восень ужо добра такі стамляліся, асабліва жанчыны: «Да Багача баба рабача, па Багачы — хоць за плот валачы». На Віцебшчыне жанчыны хадзілі па ільнішчах і на кожным прыгаворвалі: «Няхай будзіць лён такей даўгей, сколькі мы прайшлі!» У заходніх раёнах на Багача забівалі жывёліну, ■ гаспадара, які шкадаваў зарэзаць барана, перасцерагалі, што таго барана воўк парве. Назіралі за жывёлай, каб рабіць прагнозы з наступленнем зімы: калі пасля Малой Прачыстай жывёла імкнецца на пашу вельмі рана, то і зіма будзе ранняя. Сапраўды, прадчуваючы зазімкі, жывёла рвецца, каб у апошнія дні паболей скубянуць свежай травы.

22/9. Якім, Ганна, Язэп, Хвядос, Феафан, Харытон, Мікіта.

23/10. Павел, Андрэй, Клімент, Пульхерыя, Пятро.

24/11. Хвядора, Сяргей, Герман, Дзмітры, Ія. «На Тадору ўсякае лета канчаецца».

— Ой, восень мая, восень сцюдзёная,
Чаго ты рана захаладала?
— Я й не раненька, ■ й не позненька —
Калі мая пара прыйшла:
Лісточак апаў, зямельку ўслаў,
Вось мая і пара прыйшла...

25/12. Сямён, Юльян, Хведар.

26/13. Лявонцій, Юльян, Лук'ян, Валяр'ян, Пятро.

27/14. Узвіжанне (Здзвіжанне) — так у народзе называлася царкоўнае свята, звязанае з ушанаваннем крыжа, які ўздымаўся («воздвигался» — адсюль і назва свята) над натоўпам вернікаў. Народнае тлумачэнне назвы немудрагелістае: «К Здзвіжанню ўсё павінна быць здзвінута», г. зн. усе азімыя

і яравыя павінны быць звезены з поля. На Капыльшчыне тлумачылі і так: «На Узвіжанне сонца, калі ўсходзіць — гуляе, прыгае, д з в і ж а ц ц а» (звычайна гэта прыродная з'ява прыпісваецца Вялікадню ці Купаллю). Песня раіла на Узвіжанне «з поля збіраць, бульбу капаць, сцяліць лянок». Чым далей гартаецца народны каляндар, тым часцей згадваецца пра надыход халадоў: «На Узвіжанне халат з плеч, а кажух на плечы». Гэта, па ўсім, апошняе свята, якое канчаткова развітваецца з летам. Ключы ад лета — у шызай галачкі, і яна, адлятаючы ў цёплыя краі, замыкае яго і забірае з сабою ключы. Апрача адлёту птушак, вельмі значнай з'явай дня быў для народнага ўяўлення яшчэ адзін рух («здзвіжанне») у прыродзе — выпаўзалі ўсе змеі і збіраліся разам, каб адправіцца на зімовы сон да вясны: «Ва Узвіжання пару гадзюкі і вужакі хаваюцца ў нару». Першы вясновы і апошні восеньскі змяіныя ўкусы лічыліся самымі небяспечнымі, таму на Узвіжанне пабойваліся хадзіць у лес, асабліва ж наказвалі тое дзецям. Легенды пра сыход змей на Узвіжанне пашыраны ў беларускім фальклоры. У іх заўжды малюецца на чале змяінага шэсця Цар-змей з залатой каронай (ці рожкамі). Следам за ім — незлічоныя падданыя-паўзуны. Цар вылучаецца сярод усіх сваёй велічынёю і лускою з серабрыстым адлівам. Шэсце рухаецца па непраходных для чалавека мясцінах, і калі раптам камусьці здаралася сустрэцца са змяіным «выраем», то варта было разасланы перад царом абрус з хлебам-соллю і пакланіцца да зямлі, як той, прапаўзаючы праз абрус, у падзяку скідаў з кароны залаты ражок. Уладальнік такога ражка нібыта набываў незвычайную мудрасць і праніклівасць, здольнасць угадваць чужыя думкі, выходзіць з самых цяжкіх абставін; на яго таксама не дзейнічаў змяіны яд. Нягледзячы на страх перад змеямі, Узвіжанне на Палессі з'яўлялася першым днём агульнага збірання журавін.

28/15. Мікіта, Акакій, Максім, Хвядот, Парфірый, Сцяпан, Язэп.

29/16. Віктар, Дарафей, Людміла, Язэп, Ісак. У каталіцкім календары гэта дзень Міхаіла, які прадказваў надвор'е: «Калі на Міхала з поўначы вее, то не мей на пагоду надзеі». Ясная ноч абяцала трывалую зіму.

30/17. Вера, Надзея, Любоў, Соф'я.

Калі на працягу верасня ліст на дрэвах трымаецца моцна — зіма няскора прыйдзе.

## Кастрычнік

Другі месяц восені — кастрычнік. Гэта той самы, які «зямлю балоціць, а лес залоціць», з-за чаго ён «ні калёс, ні палоз не

любіць». Вядома ж, «у кастрычніку снег — толькі на грэх». У гэтай няўтульнасці пасля ласкавага лета гаспадар з дастаткам пачуваў сябе задаволена: «У кастрычніку насмаркаць багачу, я свой сноп малачу!»; «У кастрычніку і хата з дрывамі, і мужык з лапцямі». І сталая восень не дазваляла надта адрывацца ад працы. Усе святкаванні гэтай пары — нібы кароткія перадышкі ва ўмовах падрыхтоўкі да зімы. У кастрычніку было, бадай, адно значнае свята — Пакроў, але тыдзень перад ім меў сям-там сваю прыкметнасць.

1/18. Арыядна, Соф'я, Ірына.

2/19. Трафім, Хведар, Давыд, Кастусь.

3/20. Астап, Міхал, Хведар, Алег.

4/21. Дзмітры, Даніла, Андрэй, Язэп, Іпацій, Ісак, Мялецій, Яўсей.

5/22. Іона, Фока, Хведар, Пятро, Макар.

6/23. Іван, Інакенцій, Паліксена, Іраіда, Андрэй, Пятро.

7/24. Тэкля, Нікандр, Галакціён, Уладзіслаў.

7—14/24—1. Гэты тыдзень перад святам Пакрова на Мядзельшчыне называўся «бабіным летам» (у адрозненне ад амаль паўсюднага вераснёўскага). Варажылі на «шчаслівую бабулю» (бабку-пупарэзніцу). Усе дні «бабінага лета» загадзя «раздаваліся» «бабулям», якія прымалі роды ў наваколлі: панядзелак — Тэклі, аўторак — Юстыні, серада — Марцэлі і г. д. Калі дзень выдаваўся сонечны, ціхі, вясёлы, значыла, што рука ў «бабулі» лёгкая, шчаслівая, і роды адпаведна пройдуць лёгка, а дзіця будзе мець шчасце. Звычайна на Беларусі ў гэтыя дні ўсталёўваецца прыгожае надвор'е, і пагоднасць дзён увасабляе такім чынам шчасце «бабуль». Светлая варажба надавала парадзіхам упэўненасці ў добрым зыходзе іх цяжарнасці. На гэтым тыдні адзначаліся па вёсках і іншыя прысвяткі.

8/25. Ефрасіння, Сяргей, Герман, Пафнуцій.

9/26. Іван Багаслоў (Благаслоў, Багуслаў, Шаптун). Гэты дзень — мяжа ўсім шчыраванням дбайнага земляроба, бо зямля атрымлівае за свае дары нябеснае благаславенне на спакой да самае вясны. Няўпраўнасць гаспадара дакаралася ў народзе: «Хто не дасее да Івана Багаслова, той не варты добрага слова». Галоўнай жа прыкметай дня быў пачатак восеньскіх вяселляў — сваццці і жаніхі дамаўляліся пра дзяўчат на выданні, што як закон гучыць у прыказцы: «Іван Багуслаў дружкі разаслаў».

Бяроза з лістом, бяроза з лістом усю восень шумела:
— Мая бярозка, мая белая, як мы расстанемся?
— Ты мой лісточак, ты мой зялёны, так мы расстанемся:
Ветры павеюць, цябе абвеюць, а я застануся.
— Мая бярозка, мая белая, я ж цябе не забуду,

На вясну к табе буду.
Дачушка з мамкай, дачушка з мамкай усю ночку гуляла:
— Мая матулька, мая родная, як мы расстанемся?
— Сваты прыедуць, цябе возьмуць, а я застануся.
— Мая й матулька, мая й мілая, я ж цябе не забуду.
Зараз у госцікі буду.

10/27. Савацей, Калістрат, Марк, Арыстарх, Ігнат. А імені Францішка з каталіцкага календара шукалі асацыяцый з апусцелым на гэтую пару полем, што і адзначана ў вуснай народнай творчасці: «На святога Францішка шукае зярнят у полі мышка».

11/28. Харытон, Антон, Прохар, Іван, Хведар, Васіль, Варлам, Апанас, Анатоль, Мікола, Рыгор, Спірыдон, Ілля, Вячаслаў.

12/29. Кірыяк, Феафан.

13/30. Рыгор, Міхал.

14/1. Пакроў (Пакравы, Пакрова). Само слова праваслаўная царква тлумачыла літаральна: пакроў (пакрывала) Божай Маці. У народнай жа трактоўцы гэта паняцце атрымлівала куды больш шырокі сэнс, ахопліваючы самыя розныя прыкметы прыроды: «Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, малалым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам», «...рыбу луской, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом»; «Святэй Пакроў стагі пакрыў: першы стажок дранічкамі, другі стажок саломкаю, трэці стажок белым снегам». Гаварылі, што зіма закрывае лета, а Бог пячатае зямлю пасля Пакрова, і да вясны ніхто не можа знайсці скарбаў. На Віцебшчыне існаваў звычай пячы на свята пірог і абыходзіць з ім усе гаспадарчыя будыніны, прыкладаючы да кожнае страхі, каб буры, што пачынаюцца ад Пакрова, не разбуралі стрэхі. Прыгадаем, што абыходзілі з хлебам палеткі вясною і менавіта на Юр'я, калі зямля «адмыкаецца» ад сіл, якія скавалі яе. Юр'е і Пакроў яднаюцца між сабою тым, што з першым звязаны выган жывёлы пасля зімы, а з другім — пачатак зімавання скаціны ў хляве («Пакрова — зарыкала ў хляве карова»). На Пакроў трэба было закласці ў яслі корму, нават калі жывёла была сытая: «На Пакровы дай сена карове». Дзякуючы фанетычнай сугучнасці свята Пакрова сабрала шмат прыкмет і парадаў, звязаных з каровамі: «Прыйшла Пакроўка — не дала малака кароўка» (г. зн. запускаецца) або — у дачыненні да нерухавага гаспадара: «Хто сее на Пакрове — не будзе мець чаго даць карове». Пакроў лічыўся надзейным паказчыкам прагнозаў надвор'я на даволі аддаленыя дні і нават на цэлыя поры года: «Калі да Пакрова дня снег не пакрые зямлю, то і на Каляды не будзе снегу»; «Якое надвор'е ў дзень Пакрова, такое яно і будзе ўсю зіму да вясны»; «Калі да Пакроў не было снегу,

не будзе яго яшчэ дзве нядзелі»; «Калі ад Пакроў да свята Усіх Святых (1 лістапада) краты зямлю точаць, то зіма будзе снежна і марозліва». Асабліва пільна сачылі на Пакрова за напрамкам ветру: з якога боку ён быў у гэты дзень, з таго боку ён павінен дзьмуць галоўным чынам і ў бліжэйшую зіму. Зыходзячы з таго пераканання, што поўдзень заўсёды нясе цяпло, а поўнач — холад, сцвярджалі, што паўночны пакроўскі вецер прадказвае суровую зіму, а паўднёвы — мяккую, гнілую. Калі ж з раніцы задзьме ўсходні вецер — зіма будзе маласнежная, заходні — наадварот, вельмі снежная. Прагноз на свае поспехі ці няўдачы рабілі некалі ў Барысаўскім павеце пчаляры: дажджлівы дзень Пакрова — прыкмета таго, што на наступны год пчолы збяруць багата мёду. У гэту вясельную пару хлопцы па вёсках выглядалі сабе нявест, а тыя напярэдадні Пакрова варажылі на замужжа. На Брэстчыне набіралі ў хвартух апалае лісце і пасля вытрасалі з прыполу — куды вецер панясе, туды і замуж ісці. У іншых мясцінах пяклі салёныя блінцы і перад сном з'ядалі, задумваючы, каб сасніўся і напаіў той, хто наканаваны лёсам. Як сцвярджала прыказка: «Ад Пакрова ўжо дзеўка гатова». З марамі пра замужжа дзяўчаты прасілі святы Пакроў пакрыць іх галаву вянком (чапцом): «Пакравы прыйдуць — дзеўцы галаву накрыюць». Калі ж вяселле на гэты раз абмінала хату, то «Праходзіць Пакрова — раве дзеўка, бы карова».

14—21/1—8. Тыдзень пасля Пакрова на Мядзельшчыне называўся «дзявоцкае лета» ў адрозненне ад «бабінага». Усе дні размяркоўвалі між дзеўкамі і дзяўчынкамі, якіх ужо прынялі «ў дзеўкі», і варажылі пра добры характар будучых маладух. Калі дні стаялі пагодныя, сонечныя, значыць, і характар у дзяўчат павінен быць людскі, ласкавы. Далікатныя абмеркаванні і размовы змушалі дзяўчат, якім не зашкодзіць, удумліва глянуць на сябе і на свой нораў.

15/2. Кіпрыян, Юстыня, Феакціст, Андрэй, Ганна, Касьян, Давыд, Кастусь.

16/3. Дзяніс, Іван.

17/4. Ерафей, Гурый, Варсанофій, Уладзімір, Яўсей, Пятро, Вірынея, Вераніка, Павел, Сцяпан.

18/5. Пятро, Аляксей, Іона, Піліп, Дзям'ян, Мацей, Рыгор, Дзяніс.

19/6. Фама.

20/7. Палагея, а таксама Сяргей — яго дзень у асобных кутках лічылі пачаткам зімы, хоць за сапраўдную зіму прымалі незалежна ад даты тую пару, калі прыцісnуць маразы ды выпадзе снег.

21/8. Палагея, Дасіфей, Трыфан, Таіса.

22/9. Якуб, Андронік, Максім, Пятро.

23/10. Яўлампія, Амбросій, Андрэй, Феафіл.

24/11. Піліп, Феафан, Зінаіда.

25/12. Дзень Марціна з праваслаўнага календара меў сваю прыказку: «Марцін святы — губіцель гагаты». Пад «гагатой» разумеліся патлусцелыя за лета гусі, якіх к прысвятку смажылі ці везлі прадаваць.

26/13. Карп, Веніямін, Мікіта.

27/14. Назар, Параскева, Мікола, Сільван.

28/15. Яўхім, Лук'ян, Іван, Савін.

29/16. Святому Лонгіну маліліся хворыя на вочы, бо ён лічыўся ў народзе лекарам такіх хвароб.

30/17. Андрэй, Антон, Кузьма, Дзям'ян, Лявонцій, Лазар.

31/18. Дзень Лукі ў Гомельскім павеце называлі прысвяткам іканапісцаў. Паўсюль спраўляліся восеньскія вяселлі, шчаслівыя сваты задаволена канстатавалі: «На Лукаша — дзеўка наша». Адзначаны ў той жа дзень Юльян лічыўся захавальнікам малых дзяцей.

На трэцім тыдні пасля Пакрова, у суботу (дата непастаянная), напярэдадні Змітравага дня, па ўсёй Беларусі адзначаўся агульны памінальны абрад, вядомы як восеньскія (Змітраўскія) Дзяды, ці Змітраўка. Шмат дзе памінкі абмяжоўваліся рытуальнай вячэрай у хаце. Але ў многіх мясцовасцях (у Барысаўскім, Вілейскім, Слонімскім, Пінскім і іншых паветах) усёй сям'ёй ішлі на могілкі. Абкладвалі магілы дзёрнам, камянямі, ставілі ці мянялі крыж або якія іншыя помнікі. Маліліся, галасілі, звяртаючыся да нябожчыкаў, як да жывых. Дома рабілі памінальны стол, да якога старанна рыхтаваліся загадзя. Сядзелі доўга, прытрымліваючыся строгага парадку чаргавання страў, сярод якіх былі любімыя нябожчыкамі. Не падымалі лыжак ці кавалкаў стравы, якія незнарок падалі — маўляў, мёртвыя імі пакарыстаюцца. З'яўленне якога-небудзь матыля ўспрымалі як прылёт душы продка.

## Лістапад

Назва апошняга восеньскага месяца заступае сваё месца з некаторым спазненнем, бо лісты з дрэў у асноўным паападалі, з чым згаджаецца і такая выразная пейзажная прыкмета: «У лістападзе гола ў садзе». Зіма ўсё смялей заяўляе пра сябе, адцясняючы мокрую, але ўпартую восень, і сутычка дзвюх пор года дае магчымасць земляробу меркаваць пра наступны ўраджай: «Лістапад снегу надуе — хлебу прыбудзе, а вада разальецца — сена набярэцца». Што да нарыхтоўкі запасаў на зіму, то існуе нямала парадаў накшталт: «У лістападзе кладзі капусту ў кадзі».

1/19. Іван, Клеапатра. А ў каталіцкім календары — дзень Усіх Святых, калі адбываецца агульнае памінанне нябожчыкаў. Народная творчасць, абыгрываючы назву гэтай урачыстасці, паведамляе пра змены надвор'я: «Па Усіх Святых — холад для ўсіх»; «Усе Святыя як засваволяць, дык дрэвы дарэшты агаляць».

2/20. Арцём.

3/21. Ларывон, Феафіл, Якуб.

4/22. Святкаванне абраза Казанскай Божай Маці. Асаблівасці надвор'я нібыта змяшчалі ў сабе характар будучай зімы: «Што Казанская пакажа, тое й зіма скажа». Спрыяльным гэты дзень быў для тых, хто браў шлюб: «Хто на Казанскую жаніхаецца, той не пакаецца»; «Да Казанскай не зіма, пасля Казанскай — не восень».

5/23. Якуб, Ігнат, Алісей.

6/24. Феафіл, Апанас.

7/25. Маркіян, Анастас.

8/26. Дзмітры (Зміцер). Гэты дзень выглядае ў народнай паэзіі своеасаблівым апагеем вясельнай тэмы: «Святы Змітры — людзі хітры, чаны параць, піва вараць, сыноў жэняць, дачок даюць». Да пэўнага часу дзяўчаты яшчэ маглі перабіраць жаніхоў, але пазней з-за набліжэння посту спяшаліся з вяселлямі: «Да Дзмітра баба хітра, а па Дзмітры — мужчыны хітры». У залежнасці ад надвор'я заканчваўся выпас жывёлы, і такім рубяжом мог стаць не толькі названы раней Пакроў, але і Змітраў дзень: «Да Змітра пасуць, а па Змітры пільнуюць». Лічылі таксама, што на працягу тых месяцаў, калі жывёла зімуе ў хляве — ад Змітраўкі да Юр'я, воўк нападае на ўсялякіх жывёлін і есць без разбору. З паваротам гадавога кола карціны прыроды ў прыкметах і прыказках малююцца ўсё больш стрыманымі, халоднымі фарбамі: «Зміцер зямлю выцер, на груды пабіў, каб ніхто не хадзіў»; «Святы Зміцер грудамі гвоздзіць». Па Змітраваму дню глядзелі наперад: «Калі Змітра на снезе, то і Каляды на снезе, ■ вясна позняя».

9/27. Нестар, Андрэй, Капіталіна, Марк. Да гэтага дня, як і да Тодара з каталіцкага календара, ураджай па гаспадарках даўно сабраны, але селяніну прыемна было лішні раз падкрэсліць сваю спраўнасць: «На святога Тадора — поўная камора».

10/28. Параскева, Цярэнцій, Неаніла, Фот, Фядул, Сцяпан, Арсень, Дзмітры, Максім, Іван. У дзень Параскевы Пятніцы, якая лічылася апякункай прадзіва, забаранялася працi, ткаць, а таксама выносіць попел і рабіць луг для мыцця бялізны, мужчынам — араць. Гэтаксама шанаваліся пятніцы напярэдадні дванадзесятых свят, перад Іллёю, перад Пакровам.

Многія жанчыны ўстрымліваліся ад прадзіва па пятніцах на працягу ўсяго года. Гаварылі, што ручнік, які нейкі час павісеў на абразе святой Параскевы, атрымлівае гаючую сілу і тыя, хто моліцца, выціраюць ім твар і хворыя вочы.

11/29. Настасся, Аўрам, Марыя, Клаўдзія, Ганна. На прысвятках Настусі пачыналі стрыгчы авечак. Дзень Марціна, які ў каталіцкім календары супадаў з гэтым днём, прызнаваўся ў народзе прысвяткам млынароў, таму што пасля яго ледзяная корка скоўвала рэчкі, і тады на млынах спынялася работа. Ад надвор'я на Марціна (яго ў асобных вёсках таксама лічылі пачаткам зімы) залежалі, думалася, не толькі паасобныя наступныя дні, але і цэлыя сезоны. Напрыклад, калі Марцін з'яўляўся з дажджом ці разводдзем, то гэтым абяцаў на Каляды лёд і пазней — мокрае лета. Гаварылі, што на Марціна мядзведзь кладзецца ў бярлогу і пачынае смактаць лапу, на Стрэчанне — пераварочваецца і смокча другую лапу, а на Благавешчанне — выходзіць з бярлогі.

12/30. Зіновій, Марк, Настасся, Сцяпан, Алена, і таксама Арцём, да якога смаленскія беларусы звярталіся: «Святэй Артошка, напрадзі пачатак з лукошка, а клубок з карабок, а мальчык, напрадзі пачатак з пальчык».

13/31. Стах, Спірыдон, Нікадзім, Маўра.

14/1. На Кузьму-Дзям'яна па гумнах ішла малацьба: «Кузьма з Дзям'янам на восець содзяць, на помач просяць малыя святкі: «Бярыце цапкі». Магчыма, па аналогіі з такім заняткам ці з-за сугучнасці «К у з ь м а — к у з н я» гэты дзень лічыўся прысвяткам кавалёў. Чаргаванне маразоў, якія скоўвалі зямлю і ваду, і адлігі вобразна схоплена ў прыказцы: «Кузьма закуе, а Міхал раскуе». Да Піліпавага посту заставаўся невялікі адрэзак часу, і дзяўчат яшчэ не пакідала надзея на замужжа. Дзень Кузьмы-Дзям'яна асабліва шанаваўся імі, таму што гэтыя святыя, на іх думку, спрыялі вяселлям.

15/2. Афоній, Маркіян.

16/3. Язэп, Георгій.

17/4. Нікандр, Меркурый.

18/5. Галакціён, Іона, Рыгор.

19/6. Павел, Варлам, Лука, Герман, Аляксандра, Клаўдзія, Ефрасіння, Матруна.

20/7. Апанас, Нікандр, Нікан, Хведар, Валерый, Яўген, Епіфан, Дарафей, Хвядот, Лазар, Кірыл.

21/8. Дзень Міхала прыходзіў, як спявалі ў песні, «з халодным вятром». Між ім і Міколам зімовым, які надыходзіў амаль праз месяц, народная метэаралогія ўстанавіла непасрэдную залежнасць: «Калі на Міхайлаў дзень сціснець (мароз), то ў Міколаў дзень адпусціць»; «Калі Міхайла ў снягу, то і Пасха

ў снягу, а як не — дык і не» (Шумілінскі раён). Палявыя работы даўно ўжо былі скончаны, што таксама было адзначана: «Прыйшоў Міхал — усіх з поля паспіхаў». У Рэчыцкім павеце напярэдадні Міхалавага дня праводзіліся памінанні нябожчыкаў.

22/9. З дня Матруны (і не толькі з яго, як пераконваюць шматлікія народныя выказванні) дзе-нідзе лічылі, што «становіцца зіма». Калі на Матруну шэрань на дрэвах — будуць маразы, туман — чакай адлігі.

23/10. Алімп, Радзівон, Арэст, Мілій, Кастусь.

24/11. Міна, Віктар, Вікенцій, Стэфаніда, Хведар, Максім, Сцяпан, Марцірый.

25/12. Іван Міласцівы. Ва ўгоду святому на Палессі стараліся з кім-небудзь хоць чымсьці падзяліцца, што маеш, пазычыць, падараваць. Калі на Івана Міласцівага дождж або снег, то ажно да Грамніц трэба чакаць адлігі.

26/13. Іван, Нічыпар, Герман, Манефа.

27/14. Святога Юстыніяна беларусы лічылі збавіцелем ад бясплоднасці. На абразах ён быў намаляваны з дзіцем на руках у малітве перад іконаю Божай Маці. Бяздзетныя сяляне ці тыя, у каго паміралі дзеці, абавязкова мелі абраз святога Юстыніяна ў сваім доме. Другі святы гэтага дня — Піліп, як казалі ў народзе, «дзеці адзявае». Стараліся закончыць прадзіва, бо пасля так званай Пілінаўкі наступае пара ткацтва.

28/15. Гурый, Паісій, Маркел, Дзмітры. Ад гэтага дня пачынаецца апошні ў годзе пост — Калядны, або Піліпаўскі (Піліпаўка), які працягваецца да самых Каляд. Уважлівае вока падглядала: «Калі да Піліпавых заговін мянтуз намеча ікру — зіма атыйдзе раней; адваротнае здарыцца, калі мянтуз меча ікру пазней, перад днём восеньскага Юр'я»; «Калі непагадзь суправаджае Калядныя запусты, то можна разлічваць на ўраджайнае лета»; «На Піліпаўку пагода хмарная або снежная — травень будзе мокры». З Піліпаўкі, калі, паводле народнага выказвання, «дзень толькі да палудня», а потым ужо цямнее, пачыналіся вячоркі і попрадкі: «Спорны піліпаўскі клубок, а пятроўскі стажок». Наколькі плённай была работа цяпер, настолькі ж плённы быў затым і наступны этап — ткацтва: «Што ў Піліпаўку спрадзеш, тое ў Вялікі пост саткэш». Казалі, што гэтым часам ваўкі збіраюцца ў зграі.

29/16. На Мацея надвор'е звычайна яшчэ вельмі няпэўнае, восень ніяк не саступае зіме, і гэта асаблівасць стану прыроды перададзена ў каляндарнай прыкмеце: «На Мацея дарога (зіма) пацея».

30/17. Рыгор, Нікан, Сяргей.

І вось, нарэшце, надыходзіў апошні месяц года, які «зямлю грудзіць, хаты студзіць, год канчае, зіму пачынае». У беларускай і ўкраінскай мовах самі назвы сведчаць пра характар гэтага месяца: «с н е ж а н ь», г р у д е н ь». Па ім, лічылі ў народзе, раўняліся вясна і лета. Будзе снежань сухі — і яны будуць сухія, а выдасца цёплы, дык і лета такое ж: «У снежні адкрытае вуха — летам горача і суха». Правяралі і ўрадлівасць наступнага лета: «У снежні мароз і снег вышай хаты — год будзе багаты». Разважалі: калі 1 снежня пагода — пагодная і ранняя будзе вясна; які дзень 2 снежня — такое надвор'е чакаецца ў сенакос; якое 3 снежня — такім яно будзе ў жніво.

1/18. Платон, Раман.

2/19. Аўдзей, Варлам, Ларывон.

3/20. Рыгор, Прокл, Астап, Анатоль, Язэп, Іван, Ісак, Іпацій, Фёкла, Ганна.

4/21. Увядзенне. Назву афіцыйнага свята праваслаўнай царквы народ тлумачыў па-свойму: «Бог п р ы в о д з і ц ь зіму на зямлю». Як зіма павядзе сябе ў гэты дзень, такая яна ў асноўным уся будзе. Прадугледжвалася магчымае пацяпленне: «Уведзенне разбівае ледзенне». На Чарнігаўскім Палессі дзяўчаты-беларускі, кладучыся спаць напярэдадні свята, загадвалі: «Святое Увядзенне, вядзі мяне туды, ідзе мне жыць». І спадзяваліся сасніць хату будучага мужа.

5/22. Філімон, Архіп, Міхал, Яраполк, Пятро, Валяр'ян, Пракоп.

6/23. Рыгор, Аляксандр, Аляксей, Мітрафан, Макар, Хведар.

7/24. На Кацярыну варажба працягвалася: дзяўчаты пяклі ляпёшку на адной солі і з'ядалі яе перад тым як легчы спаць, каб у сне «суджаны-раджаны» падаў вады. Усё больш упэўнены наступ снежнай зімы адчуваўся з кожным днём: «Прыйшла Кацярына — прыйдзе і пярына».

8/25. Клімент, Пётр.

9/26. Восеньскі (ці зімовы) Юр'я. Пра яго гаварылі, што ён «грудай гвоздзіць». Юр'я і Мікола святкуюцца і ўвесну і ўвосень з невялікім перапынкам адзін пасля другога. Гэтыя святыя разам пастаўлены і ў шматлікіх веснавых і восеньскіх прыказках: «Вясною Георгі, летам Мікалай — з кормам; увосень — з мостам, зімою — з гвоздам» або «Юрай масціць, а Мікола гваздзіць (грудзіць)». Перагукваўся восеньскі Юр'я (халодны) са сваім веснавым цёзкам (галодным) і ў народнай прыкмеце: «Колькі на асенняга Юр'я снегу, столькі на вясен-

няга — травы». Як і той, гэты Юр'я меў дачыненне да свойскай жывёлы і драпежнікаў, толькі рабіў зусім адваротнае: «Асенні Юрай адмыкае раты ваўкам, такім чынам, з гэтага дня крыважэрныя ваўкі пачынаюць хадзіць табунамі і нападаць на скаціну». У дзень зімовага Юр'я падстрыгаюць грывы і хвасты коням, а таксама аднімаюць ад кабыл жарабят-смактуноў і ставяць іх у асобныя хлявы да вясны.

10/27. Якуб, Паладзій, Гаўрыла, Раман.

11/28. Сцяпан, Хведар, Васіль, Рыгор.

12/29. Парамон, Акакій, Нектарый.

13/30. Дзень святога Андрэя асабліва славіўся варажбою дзяўчат, прымеркаванай менавіта да яго. «Высявалі» насенне канапель ці льну на калодзежы, ля палонкі, у пасцелі. Уяўнае высяванне было невыпадковае — дастаткова прыгадаць, што вясною, 28 красавіка, таксама ў дзень Андрэя, прынамсі на Палессі, звычайна сеялі каноплі. Водгукі гэтага занятку чуюцца ўвосень і нібы змыкаюць агульнай справай двух цёзкаў. Само дзеянне варажбітак — сяўба насіла яўна сімвалічны характар: як засеянае павінна ўзысці, так і загаданае павінна ажыццявіцца ў недалёкім будучым: «Святы Андрэю, я каноплі сею, дай мне знаць, з кім буду рваць». Каб жаданні збываліся, дзяўчаты цэлы дзень пасцілі і пазбягалі размоў. Калі кінутае ў агародзе насенне ўсё на вясну прарастала, гэта абяцала шчаслівы шлюб, калі ўзыходзіла зрэдку — чакала бязрадаснае замужжа, калі насенне зусім не ўзыходзіла — гэта нібыта быў знак на смерць. На трох прыкрытых талерках клалі пярсцёнак, ружанец і кветку; хто з дзяўчат выцягне пярсцёнак — тая пойдзе замуж, кветку (сімвал цнатлівасці) — застанецца ў дзеўках, ружанец — пойдзе ў манастыр.

14/1. Прарок Навум, сваім імем выклікаў адзіную асацыяцыю: «у м». Пра яго гаварылі так: «Навум розуму навучыць» або «Навум наставіць на вум». Таму і імкнуліся з гэтага дня вучыць грамаце дзяцей, спадзеючыся, што яны дзякуючы Навуму хутчэй і лепш засвояць навуку.

15/2. Авакум, Апанас, Андрэй, Іван, Сцяпан.

16/3. Сафонія, Сава, Фядул, Іван, Хведар.

17/4. Варвара. Яе імя таксама вельмі красамоўна абыгрывалася народам. Галоўнае, што адзначаў селянін, гэта як ад Варвары паступова пачынае прыбываць дзень («на казіны скок»), такім чынам, былі ўсе падставы «папракнуць» яе за тое, што яна, Варвара, «ночы ў в а р а в а л а, а дня прытачыла». Другое сугучнае выкарыстанне імені Варвары ў прыкметах — што «В а р в а р а в а р ы ц ь», г. зн. на яе дзень магчыма параўнальна цёплае надвор'е напярэдадні вялікіх маразоў. Цёплая пагода на Варвару прадказвала добры ўрад-

жай ільну на лета. Гэты дзень быў «бабскім» святам, таму не пралі кудзелі, але талакно малоць і лён трапаць дазвалялася. Адзначалі яго і як свята надрэчных вёсак дзеля таго, каб дзеці і жывёла не тапіліся. Каб лепш пладзілася жывёла і вялася скаціна, у адных мясцінах пякліся пірагі з макам, якія называлі «в а р э н н е» (зноў жа блізка да імені Варвары з яўным разлікам на яе спагаду), у другіх кутках ляпілі з пшанічнага цеста галовы, рогі, ногі, капыты, вушы і кармілі спечаным худобу. У абодвух выпадках праглядваецца культ Варвары як заступніцы хатняй жывёлы.

18/5. Сава (Саўка), як і Варвара, быў «бабскім» святам з тымі ж правіламі. Паколькі ён ішоў непасрэдна перад Міколам, то зваўся «Міколіным бацькам». Пра гэту «тройцу» гаварылі: «Барбара мосціць, Саўка цвякі вострыць, а Мікола прыбівае», маючы на ўвазе паступовае нарастанне маразоў. Калі на Саву надта дзьмуў вецер, такога ж ветру трэба было чакаць усю квадру пасля Пятра.

19/6. Мікола зімовы. Менавіта ён выступае пачынальнікам сапраўднай зімы: «Да Міколы няма зімы ніколі». І Мікола зімовы, і Мікола летні як бы адкрывалі кожны свой сезон: «Мікола — сапраўдная зіма, Мікола — сапраўднае лета». Ды зноў жа надвор'е, якое год на год не прыпадала, уносіла папраўкі ў народныя назіранні, і, часам ашукаўшыся, казалі: «Ніводнаму Міколе не вер ніколі». Затрымка зімы на Міколу была знакам, што маразы прыйдуць няскора і наогул уся зіма будзе бяспутная. Мікола зімовы быў далучаны землярobам да будзённых гаспадарчых разлікаў і прагнозаў: «Беражы сена ад Міколы і да Міколы і не бойся зімы ніколі» — гарантавала прыказка, адзначыўшы прыблізна, колькі трэба трымаць у хляве жывёлу. Пра пачатак веснавой сяўбы і пра плён у полі меркавалі так: «Калі іней будзе раней Міколы зімовага, то трэба сеяць ранні ячмень, калі пазней Міколы — позні»; «Іней, які пакрывае дрэвы на Міколу, прадказвае добры ўраджай ільну».

20/7. Амбросій, Ніл, Антон, Іван, Павел.

21/8. Патап, Кірыл, Анфіса.

22/9. Ганна. Калі на Варвару ці Міколу яшчэ былі сумненні наконт дарог, якія то падмярзалі і добра пакрываліся снегам, то зноў ператвараліся ў гразь, збіваючы з толку селяніна пры яго выездзе на кані, дык ужо гэты прысвятак амаль узаконьваў пераход на зімовы транспарт: «На Ганкі сядайце на санкі». Ад Ганны, прыкідвалі, пачынаецца паступовы паварот на лета, насуперак якому будуць меншаць сілы ў чалавека, калі ён не паспеў назапасіць іх. Па дню Ганны вызначалі надвор'е, якое будзе роўна праз паўгода, кіруючыся прыказкай «па

зіме і лета». Шукалі падабенства: снег — да дажджу, мяцеліца — да ветру з дажджом, мароз — да яснай пагоды, адліга — да цёплага дажджу і г. д. Сама ідэя павароту ўвасаблялася ў такім вось звычаі. Калісьці на Ганну, толькі прачнуўшыся, абходзілі хлявы, каб падняць на ногі кожную жывёліну і павярнуць яе галавой да выхаду; потым абыходзілі клеці і свірны, гумны і пуні, каб павярнуць кожную рэч, асабліва перамяшаць насеннае зерне. «Усё гэта трэба зрабіць дзеля дабратворнага павароту на лета, якое цяпер пачынае, відаць, «бліжаць да людзей» (М. Я. Нікіфароўскі). Яшчэ зіма толькі пачыналася, яшчэ самыя жорсткія маразы і суровыя завірухі былі наперадзе, а селянін ужо ў думках парываўся да веснавога абуджэння прыроды. Сваімі рытуальнымі дзеяннямі ён нібы дапамагаў рухацца няспыннаму колу часу.

23/10. Міна, Яўграф, Фама, Ангеліна, Іван, Сцяпан.

24/11. Даніла, Нікан, Лука.

25/12. Спірыдон, Ферапонт, Аляксандр.

26/13. Яўстрат, Аўксенцій, Яўген, Арэст, Аркадзь, Арсень, Нікадзім.

27/14. Фірс, Калінік, Філімон, Апалоній.

28/15. Павел, Сцяпан, Трыфан.

29/16. Агей, Феафанія.

30/17. Дзень Сцяпана знамянальны тым, што заканчваўся тэрмін службы парабкаў. Чалавек, які ад Каляд і да Каляд працаваў на свайго гаспадара, мог адчуць сябе, нарэшце, больш-менш вольным: «На святы Сцяпан кажан парабак сабе пан!» Парабак дарабляў абгавораны тэрмін і спадзяваўся ў наступным годзе на больш выгадную дамоўленасць: «На святога Сцяпана найду другога пана».

Тыдзень, тыдзень да Каляд,
Наш пан чэлядзі не рад,
Пайшла чэлядзь скачучы,
А пан за ёю, плачучы:
— Вярніся, чэлядзь, вярніся,
На другі гадок найміся.
— Скажу, пан, табе без спорак,
Мне ўжо твой хлеб стаў горак.
Аддай, пан, мне каляду,
Ужо я ад цябе пайду.

31/18. Севасцян, Марк, Клаўдзій, Віктарын, Сымон, Флор, Міхал, Зоя, а таксама ўгоднік Мадэст, які лічыўся захавальнікам жывёлы.

*
* *

Адначасова са святамі і прысвяткамі, якія маюць з году ў год стабільныя дні правядзення, каляндар (як афіцыйны

царкоўны, так і народны) змяшчае таксама шэраг вялікіх святкаванняў і проста прыкметных падзей, не прывязаных да строга вызначанай даты. У ліку такіх выступаюць урачыстасці, непасрэдна залежныя ад рухомага дня Вялікадня (ён можа святкавацца ў перыяд між 4 красавіка і 8 мая, заўсёды ў нядзелю). Кожнае са свят гэтага цыкла знаходзіцца на пэўнай часовай адлегласці ад Вялікадня (ці перад ім, ці пасля яго), і штогод усе яны сінхронна перамяшчаюцца адпаведна з часам правядзення свайго кульмінацыйнага свята.

За 10 тыдняў перад Вялікаднем з панядзелка пачынаецца тыдзень мытара і фарысея, які зваўся ў народзе Усяядным, Усярадным, Сплашным. Звычайна гэтая сядміца суправаджалася снежнымі завірухамі, пра што ў народзе на пачатку тыдня гаварылі: «Ета Усяядная ў госці едзе!» А ў канцы тыдня — «Ета з гасцей Усяядная едзе!» Па надвор'ю гэтага тыдня вылічвалі, у які час лепей выходзіць на поле з сявенькаю: «Калі на Усяёднай нядзелі ідзець бальшая мяцель — сей авёс раньша, а мяцелі нет — сей авёс пазней. Да таго ж, калі пасеяць у той жа дзень, у які на Усяёднай была мяцеліца, то ў аўсе не будзе ніякай травы» (вятрыска нібы абяцаў садзьмуць з насення ўсё непатрэбнае). Прыглядаліся, у які дзень на Усяядным тыдні бывае павадак — у такі ж дзень тыдня вясною высявалі бульбу.

На дзевятым перадвелікодным тыдні, у суботу, напярэдадні мясапуснага тыдня, калі, згодна з праваслаўным календаром, адбываюцца памінкі па ўсіх памёршых продках, на Беларусі адзначалі Масленыя (зімовыя, Стрэчаньскія) Дзяды. Як і ва ўсе іншыя сезонныя Дзяды (на Радаўніцу, напярэдадні Сёмухі, увосень перад Змітравым днём), на Масленыя за памінальнай вячэрай збіралася ўся сям'я. Хаты і падворкі старанна прыбіраліся, на сталы падавалася вялікая (як правіла, няпарная) колькасць страў. Гаспадары імкнуліся належным чынам сустрэць душы продкаў, якія, верылася, злятаюцца ў дні агульнага памінання на свае колішнія сядзібы. На стол у шклянку з зернем ставілася запаленая свечка, для душ адкладвалася патроху ад усіх страў, адлівалася асобна і гарэлка. Пасля малітвы пачыналася «дзядоўская вячэра», на працягу якой стараліся весці сумныя размовы, успамінаць блізкіх і далёкіх родзічаў, што пакінулі гэты свет. Пасля заканчэння вячэры посуд са стала не прыбіраўся.

Наступны, восьмы тыдзень перад Вялікаднем зваўся мясапусным, або «сырнай сядміцай» (Масленіцай). Апошнія дні дазвалялася есці малочныя стравы.

Святкаванні на Масленічным тыдні («сырнай сядміцы») на Беларусі праводзіліся больш сціпла, чым у Расіі, але і ў нас



38. Зак. 84

сустракаліся цікавыя забавы. І дзятва, і моладзь коўзаліся з горак на санках, на высечаных на рацэ кавалках ільду. Чым даўжэй скоцішся — тым, думалася, даўжэй будуць летам лён і пянька. Дзеля гэтага нават спецыяльна насыпалі высокія горкі са снегу. У некаторых мясцовасцях сустракаўся звычай сярод маладых хлопцаў вазіць на Масленіцу павівальных бабак. Пэўна, такім чынам імкнуліся забяспечыць паспяховы працяг свайго роду ў будучым.

Мы на горачцы пабывалі, пабывалі,
Масленку сустракалі, сустракалі,
Сырам гару набівалі, набівалі,
Маслам гару палівалі, палівалі.
Мы думалі Масленкі — сем нядзелек, сем нядзелек,
Ажно Масленкі сем дзянёчкаў, сем дзянёчкаў!
Нас Масленка абманіла, абманіла:
На сем нядзель паста пасадзіла, пасадзіла.

Пасля Масленічнага тydня пачынаецца Вялікі пост, які доўжыцца 7 тыдняў.

Наступны тыдзень пасля Масленіцы ў народзе называўся Ізбор (Узбор). Асабліва часта згадваецца ён у валачобных песнях: «Прыйшоў Ізбор — пагнаў снег з гор, снягі зганяець, воды пускаець, вада з гор, а рыбінка з нор». Лічылі таксама, што на Зборніцу ўсе залётныя птушкі збіраюцца за морам і адлятаюць у наш край.

Першая серада Вялікага посту — уступная серада. Дзенідзе ў заходняй частцы Беларусі гаспадыні збіраліся на застоллі, весела балявалі і скакалі праз пень, пастаўлены пасярод хаты. Гаварылі, што як хто падскочыць, так высока ў таго лён вырасце. У гэты ж дзень мылі прадметы для прадзіва льну — верацёны і калаўроты. Рабілася гэта хутчэй за ўсё дзеля таго, каб лён улетку вырастаў чысты, без пустазелля.

Сярэдзіна Вялікага посту звалася ў народзе Серадапосце, Хрэсцы, Прапалоўны дзень. Па розных кутках Беларусі на гэты дзень гаспадыні выпякалі з цеста крыжы («храсты», «хрэшчыкі») і іншыя фігуры, часцей за ўсё ў выглядзе разнастайных прылад працы. «Хрэшчыкі» хавалі за абразамі, дзе яны ляжалі на працягу года і выкарыстоўваліся членамі сям'і пры розных выпадках: на пачатку гаспадарчых работ (напрыклад, пры заворванні, сяўбе, зажынках — каб быў добры ўраджай), у дзень запасвання гавяды, у час навальніцы або граду, пры пажары, паводках ці калі находзіў паморак. Верылі, што «храсты» засцерагаюць людзей ад усяго ліхога. Іх давалі дзецям, каб тых абыходзілі хваробы, з'ядалі іх, каб не балела ў жніво сярэдзіна (нездарма пра яе рупіліся менавіта ў сярэдзіну посту). Жыхары надрэчных вёсак гаварылі,

што ў дзень Серадапосніцы «шчупак хвастом лёд разбівае».Назіранне за надвор'ем у дзень, які дзяліў пост пароўну, давала магчымасць селяніну рабіць свае прадказанні. На Віцебшчыне цеплыня і пагода ў Прапалоўны дзень абяцалі неўраджай на ягады, грыбы і арэхі. Такі ж стан у заходніх раёнах Беларусі гарантаваў усё лета пагоднае, а дождж або снег, што ішлі там на Серадапосце, прымушалі настроіцца на мокрае лета.

Апошняя нядзеля перад Вялікаднем называецца Вербніцай (Вербнай нядзеляй). Паўсюдна па цэрквах асвячалі галінкі вярбы, імі сцябалі адзін аднаго. Сцебануўшы незнаёмага хлопца, дзяўчына пыталася ў яго імя, каб выважыць імя будучага мужа. Паколькі асвячонай вярбе надаваліся гаючыя ўласцівасці, то яе захоўвалі ў сялянскай хаце. На Піншчыне калісьці, каб не балелі зубы, каб не было ліхаманкі, з'ядалі 9 вербных пупышак. Галінкай такой вярбы выганялі жывёлу на першы выпас. Маразы, што здараліся на Вербніцу, зваліся смаленскімі беларусамі «вербічамі». Лічылі, што яны неабходны менавіта ў гэты час, каб не прыйшло больш позніх маразоў, якія могуць пашкодзіць сяўбе і ўсходу яравых. Аздобленыя каляровымі засушанымі кветкамі, травамі, каласкамі і мохам галінкі вярбы (т. зв. «пальмы Віленскія»— яны вырабляліся каталіцкім насельніцтвам на Віленшчыне) імітавалі пальмы, з якімі народ сустракаў Хрыста пры яго ўездзе ў Іерусалім. Гэта хрысціянскае свята было прымеркавана да Вербніцы. «Пальмамі Віленскімі» ўпрыгожвалі дом, а таксама клалі іх на магілы блізкіх людзей.

Следам за Вербніцай пачынаецца перадвелікодны тыдзень («страстная седмица»). Той, хто ў Чысты панядзелак шчыра посціць (не есць і не п'е цэлы дзень), будзе, як прадказвалі на Віцебшчыне, паспяхова знаходзіць улетку птушыныя гнёзды. Гомельскія палешукі пазбягалі трымаць у хаце ў гэты панядзелак і аўторак хоць што нячыстае, каб на людзей і гавяду не напала парша.

Напярэдадні Чыстага чацвярга клалі пад страху хлеб, соль і мыла. З тым хлебам на Юр'я выганялі жывёлу з хлява, соль у наступным выкарыстоўвалі як сродак ад сурокаў, а мылам назаўтра да ўсходу сонца мыліся ў лазні, каб быць чыстымі (здаровымі) цэлы год. Калі вынесены хлеб за ноч замярзаў, меркавалі, што і яравыя вымерзнуць. У Чысты чацвер абавязкова чысцілі і прыбіралі хату, падворак, мылі жывёлу, асабліва коней, каб былі дужымі. Хто адважыцца сам выкупацца ў палонцы ці вымыецца на досвітку ў лазні, кінуўшы ў пасудзіну серабро, той не будзе хварэць увесь год. Каровам, каб заставаліся малочныя, абмывалі вымя вадою, зачэрпнутай да ўзыходу

сонца з месца зліцця двух ручаёў. На Чысты чацвер стараліся абавязкова што-небудзь пасеяць на полі ці ў агародзе — спадзяваліся, што і збажына вырасце чыстая, без пустазелля. Чакалі, што надвор'е Чыстага чацвярга павінна паўтарыцца на Вялікдзень, а затым і на Ушэсце (40-ы дзень пасля Вялікадня). Гаспадыням хацелася верыць, што ад дажджу ў гэты дзень каровы стануць даваць шмат малака. У некаторых кутках Усходняга Палесся пад вечар Чыстага чацвярга гатавалася вялікая вячэра з 12 посных страў, на якой паміналі родных памёршых. З вечара пачынаўся і працягваўся да самага наступлення Вялікадня строгі пост. У заходніх раёнах Беларусі ў апошнія тры дні перадвелікоднага тыдня жанчыны пакідалі прасці кужаль.

Пасеяны на Вялікую пятніцу хлеб, як перакананы на Віцебшчыне, не баіцца ні ветру, ні дажджу, ні граду. На Палессі ж гаварылі, што трэба ў Вялікую пятніцу сеяць гарох — ён вельмі добра зародзіць.

На Вялікую суботу яшчэ ў мінулым стагоддзі ў некаторых вёсках выконваўся абрад, які дайшоў з сівой даўніны: 12 дзяўчат, адзеўшы белыя кашулі, бралі саху і з малітваю праводзілі ёю баразну вакол сяла — гэтым хацелі як бы адмежавацца ад ўсяго ліхога на цэлы год. З прыходам хрысціянства ў Велікодную ноч пачыналася самае значнае свята праваслаўнай царквы — Уваскрасенне Хрыстова. Абавязкова трэба дачакацца паўночы, каб пачуць званы. У час усяночнай службы прыглядваліся, як гараць свечкі. Калі яны трашчаць — лета прыйдзе дажджлівае, з грамамі і маланкамі. Дождж у Велікодную ноч абяцаў да Сёмухі больш дажджоў, чым пагоды, а затым і халоднае лета; ціхае цёплае надвор'е варажыла на такое ж лета.

Вялікдзень. Няма больш любімай урачыстасці ў праваслаўных хрысціян, як Вялікдзень (Вялікадне, Вялічка) — свята Уваскрасення распятага Ісуса Хрыста. Здаецца, радасць святкавання распаўсюджвалася на ўсю жывую прыроду, якая паступова абуджалася ад зімовага сну. Казалі нават, што ад гэтага дня пачынаюць спяваць птушкі, а сонца на Вялікдзень, падымаючыся, «іграе» — раздвойваецца, разбягаецца, а потым зноў сыходзіцца. На чыстым ад воблакаў небе яно быццам абяцала добры ўраджай і шчаслівыя вяселлі.

Свята прыходзіла пасля доўгага 7-тыднёвага Вялікага посту.

«Свято Вялічка — з красным яічкам», — паведамляла народная песня. Напярэдадні свята ці на самым яго пачатку людзі неслі асвячаць у царкву самыя розныя стравы: пірагі, мяса, сала (казалі, што калі змазваць асвячоным салам рукі

перад вялікай работай, то на іх ніколі не будзе трэшчын), сыр, соль і ў першую чаргу, вядома, яйкі, пафарбаваныя галоўным чынам у адвары шалупіння цыбулі ці кары дрэў, што надавала ім чырвоны колер (былі і «пісанкі» — яйкі, размаляваныя рознымі ўзорамі). Яйка пры асвячэнні раілася крышачку аблупіць, каб святасць лепш прайшла ў яго. Менавіта святочным яйкам разгаўляліся на Вялікдзень за ўрачыстым сталом. А перад гэтым, здаралася, прынёсшы яйка дадому з царквы, апускалі яго ў ваду, каб потым ёю памыцца і дзякуючы гэтаму быць здаровым, прыгожым і румяным увесь наступны год.

Самая любімая гульня на Вялікдзень — біткі. Стукаліся святочнымі яйкамі, і пераможцам аказваўся той, у каго яно заставалася цэлае («мацак»). Некаторыя шчаслiўцы выйгравалі ажно поўную шапку чырвоных яек. Знаходзіліся і жартаўнікі, якія замест яек падстаўлялі пафарбаваны камень круглай формы і такім вясёлым падманам здабывалі перамогу. Улічваючы, што гэтае свята, як і іншыя, не абыходзілася без выпіўкі, катэгарычна забаранялася на Вялікдзень біцца з кім бы там ні было — за бойку страшылі градабоем на ўсю вёску. Такім чынам народная мараль стаяла на варце шануемага свята.

Гаварылі, што чужы чалавек, які трапіць на велікоднае застолле, мае здольнасць прыносіць шчасце ў гаспадарку. Першы дзень Вялікадня трэба было есці толькі асвячонае — гэта нібыта гарантавала, што ўлетку не ўкусіць змяя. Разгавеўшыся ў сваёй хаце, гаспадары не выкідалі рэштак страў са святочнага стала. Нешта прыхоўвалі, каб праз дзевяць дзён, на Радаўніцу, занесці на могілкі і «пачаставаць» блізкіх нябожчыкаў. Косткі і крошкі зберагаліся дзеля таго, каб у дзень сяўбы закапаць па краях свайго поля — ад гэтай ахвяры чакалі лепшага ўраджаю; альбо нават трымалі хлебныя крошкі да дня, калі новае збожжа звозілі з поля ў гумно. У народзе бытавала перакананне, нібыта нямытым велікодным абрусам варта абнесці полымя ў час пажару, і агонь спыніцца. А дзеля таго, каб улетку на садзе чарвякі не паяўляліся, на Вялікдзень вымяталі з печы попел і пасыпалі ім па ветру між дрэў.

Заціхлыя на доўгі час песні, гульні, забавы цяпер зноў абуджаліся. На Вялікдзень мужчыны і хлопцы збіраліся ў вялікія, чалавек да 10—20 гурты валачобнікаў, сярод якіх абавязкова прысутнічаў механоша, астатнія зваліся падхватнікамі, іх суправаджаў музыкант са скрыпкай, гармонікам ці дудой. Традыцыя велікоднага валачобніцтва захоўвалася, дарэчы, толькі на Беларусі. Валачобнікі абыходзілі ўсе мясцо-

выя двары, спыняючыся пад вокнамі кожнага дома, дзе спявалі шмат розных абрадавых песень, пераважна велічальнага зместу, услаўляючы гаспадара, яго руплівую працу, жадалі яму ўраджаю на ніве, прыплоду ў хляве, прыбытку ў хаце. Хвалілі валачобнікі і гаспадыню за яе працавітасць і розум. Добрыя словы гучалі ў адрас дзяцей.

Валачобнікі валачыліся,
Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі ў хату, пасушыліся.
А ці дома, дома сам хазяін?
А калі дома — пакажыся.
Ды з хазяінам павіталіся,
Ды хазяюшку павесялілі,
Дабра-шчасця ім нажываць.
А дарыце ж нас, не марыце ж нас,
Хоць па яечку ды па цэламу,
Хоць па стаканчыку ды па поўнаму.

Торба валачобнікаў ад хаты да хаты папаўнялася рознымі дарункамі — салам, каўбасамі, сырам і абавязкова чырвонымі яйкамі, галоўным знакам свята. Гурт дзякаваў за пачастунак, кпіў з гаспадароў, калі плата за песні здавалася малой, і ішоў далей. Пасля абыходу ўсіх двароў дзялілі між сабою заробленае. У народзе жыла непахісная вера, што валачобнікі спрыяюць ураджаю, дастатку ў сям'і і засцерагаюць ад нягод.

У гэты вясёлы дзень не абыходзілася і без выражбы. Каб даведацца, ці пойдуць на гэты год замуж, дзяўчаты спрабавалі пераскочыць цераз сані. Гаспадары, у якіх неўзабаве павінна была ацяліцца карова, чакалі, хто першы на Вялікдзень пераступіць парог хаты: калі жанчына — народзіцца цёлачка, ■ калі мужчына — то бычок. У некаторых мясцінах жанчыны бегалі навыперадкі, каб высветліць, якая з іх спраўней будзе жаць улетку. А каб не балела ў жніво сярэдзіна, жанчыне лічылася карысным злёгку падняць воз. Паляўнічы стараўся застрэліць на Вялікдзень хоць якую жывіну, каб потым яго стрэльба не давала промаху. Гэта ж дзеянне выконвалася і затым, каб ваўкі шкоды не рабілі.

З другога дня Вялікадня кожная сям'я наведвала сваякоў і суседзяў. І гэтыя завітанні ў госці працягваліся цэлы тыдзень, на які нічога не рабілі.

Відаць, таму, што на Велікодным тыдні ў царкве стаяць адчыненыя царскія вароты, у народзе перакананы: для ўсіх, хто памрэ ў гэты час, адчынены светлы рай, і іх душы ўвойдуць туды без перашкоды.

На Вялікдзень у народзе існавала багата прадказанняў надвор'я. Гаварылі, што адкуль вецер вее — адтуль ён будзе

веяць і ўсё лета. Калі ясная і халодная пагода — значыць, летам будзе на садах поўна розных пладоў. Калі на гэтае свята дождж — то да Сёмухі трэба чакаць больш дажджоў, чым пагоды. І яшчэ адна прыкмета: якое надвор'е на Вялікдзень, такім яму быць і на Благавешчанне.

У паслявялікодную пару народ імкнуўся быць асабліва шчодрым і міласэрным. Жыла вера, што ад Вялікадня да Узнясення (Ушэсця) Ісус Хрыстос ходзіць па зямлі ў вобразе жабрака, і ніхто не адважваўся адмовіць тым, хто просіць міласціну. Нярэдка ў паўднёвых і цэнтральных раёнах Беларусі на Вялікдзень хадзілі памінаць родных нябожчыкаў на могілкі.

Градавая серада прыпадае на бліжэйшую сераду пасля Вялікадня. Нельга на яе было парушаць зямлі, каб град збожжа не выбіў. Дзеля большай надзейнасці некаторыя сяляне нават пасціліся ў гэты дзень ці абыходзілі палі з грамнічнай свечкай.

Пераважна ў чацвер Велікоднага тыдня (хоць сустракаліся і нязначныя адхіленні) на Палессі адзначаецца так званы Наўскі (Шопшы) Вялікдзень, або Вялікдзень мёртвых, калі жыхары выпраўляліся на могілкі, каб памянуць сваіх нябожчыкаў.

У розных кутках Беларусі ўвесь святы тыдзень напоўнены шматлікімі павер'ямі. Пазбягалі м а л о ц ь, каб гэта не прывяло да сваркі жанчын у сям'і (маўляў, каб і яны лішне языкамі не м а л о л і); не садзілі агарод, упэўненыя, што такія пасевы ніколі не бываюць удалыя; не забівалі калоў у зямлю, інакш, казалі, можна вярнуць назад маразы.

Другі пасля Вялікадня тыдзень пачынаецца з Фаміной (Хамовай, Правадной) нядзелі. Яна таксама мела свае павер'і. Некалі на Віцебшчыне ў гэту нядзелю пасля ўсходу сонца перакідвалі цераз страху велікоднае яйка, і калі яно, упаўшы, разбівалася на дробныя кавалкі, чакалі, што ў доме хтосьці памрэ на працягу года. Стараліся цэлы дзень не піць, не есці, каб не мучыла потым смага ў прыпарніцу. Увесь тыдзень нельга было снаваць кроснаў і г. д.

Часам панядзелак, які папярэднічае распаўсюджанаму памінальнаму дню Радаўніцы, называўся «жывая Радаўніца», і ў адрозненне ад наступнага за ім аўторка на яго раілася садзіць, сеяць, абразаць на дрэвах сукі.

У аўторак паслявелікоднага тыдня на большай частцы тэрыторыі Беларусі адзначаецца адзін з найбольш вядомых памінальных дзён — Радаўніца (Радуніцкія Дзяды). Пасля паўдня кожная сям'я ішла памінаць родзічаў спачатку ў царкву, а потым на могілкі, дзе прыводзіліся ў парадак магілы блізкіх (часам гэта рабілі напярэдадні, у панядзелак). Затым

на насыпе, разаслаўшы абрус, пачыналі памінкі. Велікоднае яйка, крыху страў і гарэлкі пакідалі «для мёртвых». Галасілі, калі смерць блізкага была нядаўняя. Пасля могілак памінанне заканчвалася застоллем дома ці ў карчме, дзе паступова развейваўся сумны настрой. Вось чаму ў народзе казалі: «На Радаўніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечары скачуць». У залежнасці ад мясцовых традыцый памінальны абрад на могілках мог адбывацца таксама на першыя пасля Вялікадня дні.

Паслявелікодная серада называлася сухою, таму, як і на «мёртвую Радаўніцу», пазбягалі сеяць, баючыся, што хлеб не стане расці, і нават не дакраналіся да насення. Наадварот, карысна было дакрануцца да харчовых запасаў, каб яны спажываліся не так хутка.

Наступны (трэці пасля Вялікадня) тыдзень насіў назву жанок-міраносіц, і пачынаецца ён з нядзелі, якая лічылася калісьці «бабскім святам». У гэты дзень жанчыны хадзілі з яечняю ў поле і там, з'еўшы яе, прыгаворвалі: «Дай, Божа, каб наш лён урадзіўся кужалем».

Дзень, які дзеліць папалам перыяд між Вялікаднем і Сёмухай, называецца Прапалавенне, ці Перапалаўная серада. У абедзвюх назвах чуецца «палавіна». Але ў народзе давалі і іншае тлумачэнне: «У гэты дзень Ісус Хрыстос купаўся і п е р а п л ы ў цераз мора. Ад гэтага дня дазваляецца купацца да Іллі (2 жніўня)». На Прапалавенне раілі садзіць цыбулю, каб яна не была занадта горкая. Гаварылі, што дзікія птушкі вельмі пільнуюць у гэты дзень свае гнёзды, і таму іх лягчэй можна злавіць. Існавала павер'е, што калі прасушыць адзежу ў Перапалаўную сераду, якая таксама звалася сухою, знікне моль.

Царкоўнае свята Узнясенне, альбо па-народнаму Ушэсце (г. зн. ушэсце Божае на неба), адбывалася заўсёды на шостым тыдні пасля Вялікадня, у чацвер. Парушаць свята работаю баяліся пад пагрозай павер'я, што ў сям'і народзіцца шасціпалае дзіця. Гаспадыні абавязкова павінны былі пячы бліны: «Трэба Хрысту напекчы ануч, каб было ў што абувацца! Абуецца і пойдзе ўжэ ад нас па небу!» Пасля гэтага дня дзяўчаты пераставалі спяваць вяснянкі. На Ушэсце на Гомельшчыне праходзіў абрад «пахавання (ваджэння) стралы». Павадзіўшы карагоды, дзяўчаты і сталыя жанчыны браліся за рукі і доўгім шнурам з песнямі цягнуліся за сяло ў жыта. Там яны разыходзіліся паасобку і, хаваючыся, закопвалі ў зямлю якую-небудзь рэч: пацерку, пярсцёнак, каснічок і г. д. Здаралася, следам за дзяўчатамі беглі хлопцы і шукалі захаваныя рэчы. Па згадванню Ушэсця ў песнях можна адчуць, як няспынна ідзе рух у жывой прыродзе: «Святы Ушэснік — жыта выплываець... жытцо

пучком, каленцам»; «Святы. Шоснік колас точыць... з шастом ходзіць, межы раўнуець». У прамежку паміж Ушэсцем і Сёмухай (заўсёды 10 дзён) нельга было ні снаваць кроснаў, ні ткаць, таму што, казалі, можна «заснаваць» неабходныя ў гэты час дажджы, затое гэта была пара сялянскай узаемадапамогі — талакою дапамагалі адзін аднаму вывозіць у поле гной.

Серада на сёмым тыдні пасля Вялікадня называлася на Піншчыне «крывою». Капусту, буракі і іншае насенне ў гэты дзень не садзілі, а то ўсё можа ўрадзіць крывое, малое, чарвівае.

У суботу напярэдадні свята Сёмухі адзначаўся чарговы памінальны дзень — летнія (Траецкія, Сёмушныя, Стаўроўскія) Дзяды, асабліва пашыраныя ў паўночнай і ўсходняй частцы Беларусі. У радзе раёнаў яны фактычна замяняюць Радаўніцу. Блізкі да лета час дазваляў прывесці магілу ў парадак, пасадзіць кветкі і памянуць нябожчыка. Даўней магілы прыбіраліся «маем» — аерам, кветкамі; прыносілі сюды зялёныя яйкі, пафарбаваныя ў адвары маладой зеляніны. Магілы замяталі бярозавымі галінкамі, жадаючы зрабіць мёртвым задавальненне, як ад лазні. У вокнах хат вывешвалі ручнікі, каб душы нябожчыкаў маглі пазнаць жытло сваіх родных. Там, дзе не было звычаю наведваць у гэты дзень могілкі, абмяжоўваліся традыцыйнай памінальнай вячэрай у хаце. З суботы на заўтрашняе свята двор і хату таксама ўпрыгожвалі «маем» — ссечанымі маладымі бярозкамі, клёнамі, іншымі дрэўцамі і зялёнымі галінамі; на падлозе слалі траву, аер; кветкамі прыбіралі абразы, сталы, вокны. Калі «май» не сох пэўны час, хаця б дні са тры, то чакалі мокрых сенакосаў.

Сёмуха (Тройца) — нядзеля, якою завяршаецца сёмы тыдзень пасля Вялікадня. Сярод каталіцкага насельніцтва часта яе называлі Зялёныя святкі, ці Зелянец. Нягледзячы на пераважна летнія тэрміны яе святкавання, Сёмуха знаменавала сабою развітанне з вясною: «На Зелянец вясны канец». З вясной найчасцей канчаліся і запасы хлеба ў селяніна, на што паказваў варыянт прыказкі: «На Зелянец — хлебу канец». Прыкмета Сёмухі ў полі — красаванне жыта. У гаспадарцы ж вакол яе замацоўваліся свае правілы і парады: «Святая Сёмуха навозы возіць». Напярэдадні свята, памыўшыся ў лазні, сеялі каноплі. Спявалі на Сёмуху траецкія песні.

Тройца, Тройца, свята Багародзіца,
Пасею жыта, да няхай зародзіцца.
Што зародзіцца, то для майго бацюхна,
Што не зародзіцца, то для майго свёкарка.
Саладок мядок, то для маёй матанькі,
А горка гарэлка, то для маёй свякоркі.

На параўнальна невялікай тэрыторыі паўднёва-заходняй часткі Беларусі існаваў на Сёмуху надзвычай цікавы абрад — Куст. Наламаўшы кляновых галін, дзяўчаты звязвалі тоўстыя іх канцы ніткамі — і «куст» гатовы. На яго надзявалі другі, меншага памеру («подкуст»), а на абраную дзяўчыну, якая павінна была насіць «куст»,— вянок з розных кветак. Затым дзяўчына залазіла ў звязаны «куст», як у мяшок, і ў такім уборы ішла на чале грамады дзяўчат па вёсцы з песнямі:

Прывялі куста зеляненькага клёну,
Дай нам, пане, хоць па залатому.
Дай нам, пане, тры барыла гарэлкі,
Прывялі куста да харошай дзеўкі.
Да не тут кусту стоем стаяці,
Трэба кусту піці-есці даці.

Пранёсшы «куст» некалькі разоў, яго разрывалі на вуліцы і спяшаліся падабраць лісты. Казалі, што яны надта памагаюць ад нарываў — дастаткова размачыць іх у вадзе і прыкласці да болькі. (Гаючымі ўласцівасцямі зажыўлення ран надзяляліся таксама кляновыя лісты траецкага «маю».) З зелянінаю на Сёмуху варажылі. Вяскоўцы, часта з добрай закускай, ішлі надвячоркам у гай, дзе дзяўчаты, а зрэдку і замужнія кабеты завівалі галінкі бяроз накшталт вянка ці наміткі. Колькасць вянкоў адпавядала колькасці блізкіх людзей, пра будучы лёс якіх задумвала жанчына. Кожны вянок прызначаўся для пэўнай асобы: бацькі, маці, сястры, мужа, дзяцей. (На Палессі дзяўчаты завівалі вянкі адпаведна колькасці сваіх ухажораў.) Праз тыдзень ішлі правяраць захаванасць вянкоў: калі тыя заставаліся свежымі — абяцалася шчасце задуманаму чалавеку, калі ж былі засохлымі — значыла, што век яго будзе кароткі. Развіваць вянкі лічылася абавязковым, каб дрэва не пракляло дзеўку за неразвіты вянок. Часта дзяўчаты сплятаді вянкі на жаніхоў і на сваю долю з гаючых і чарадзейных траў, якія і складалі сілу вянкоў. Да гаючых траў адносілі букавіцу, палын, любісцік, аер і інш., а з дрэў — чаромху і бярозу.

Назаўтра пасля Сёмухі адзначаўся дзень сашэсця Святога Духа. Калі Сёмуху ўмоўна можна лічыць апошнім днём вясны, то наступны за ёю дзень гэтак жа ўмоўна можна прызнаць за першы дзень лета, на самым пачатку якога прыкмета-прыказка папярэджвала: «Да Святога Духа не скідай кажуха, а па Святым Дусе — у тым самым кажусе», маўляў, лета летам, а берагчыся ад халадоў не зашкодзіць. Існаваў і больш аптымістычны прагноз: «На Духа будзець цёпла і суха».

З дня Святога Духа пачынаўся Русальны тыдзень (часам ён называўся «крывым» і меў тыя ж забароны, што і згаданая

вышэй «крывая» серада). Менавіта русалкі — міфічныя істоты, што паходзяць, згодна з паданнямі, ад тапельцаў і нехрышчоных душ, пануюць у гэты тыдзень на зямлі, то хаваючыся ў жыце, лесе ці балоце, то выходзячы апоўначы на бераг ракі і гушкаючыся на галінах дрэў. Злавіўшы чалавека, які па неасцярожнасці наведваўся ў іх уладанні, русалкі маглі заказытаць сваю ахвяру да смерці, таму, паводле народнага пераканання, хадзіць у лес альбо купацца на Русальным тыдні было вельмі небяспечна. Каб задобрыць русалак, у народзе праводзілі розныя святкаванні. Калісьці ў Гомельскім павеце дзяўчаты выбіралі са свайго гурту «русалку» і пад вечар з песнямі ішлі за вёску, дзе разам з хлопцамі раскладвалі вогнішча, у якое скідалі з галоў вянкі і разбягаліся ад страху, што іх заказычуць русалкі. Ад таго даўняга абраду захавалася ў народнай памяці шмат песень:

Правяду русалку, правяду,
Да й асінкаю заламлю,
Каб тая русалка
Па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла.
Маё жыцейка дробнае,
Да ў каласкі буйнае.

Аўторак Духавага тыдня на Пінскім Палессі меў сваю адметнасць. Услед за Вялікаднем і так званым «Вялікаднем мёртвых» (ушанаваннем нябожчыкаў на могілках) гэты дзень у народзе звалі «Конскім вялікаднем»: коней не бралі на работы, а на канюшнях вешалі свечкі за іх здароўе. Святы верных памочнікаў земляроба адзначаліся і ў іншыя дні года.

Першая серада пасля Сёмухі (як і тая, што ішла за Вялікаднем) звалася Градавай. На яе не працавалі, каб не наклікаць град на свае палеткі.

Чацвер Траецкага тыдня меў назву «сухі». На Гомельшчыне, каб не было летам засухі, маладыя людзі, хай сабе і жанатыя, лічылі за абавязак абліваць у гэты дзень адзін аднаго вадою.

У суботу Траецкага тыдня, напярэдадні Пятроўскага посту («Пятровіцы»), на Случчыне праводзілі летнія Дзяды.

У нядзелю, праз тыдзень пасля Сёмухі, адбываліся заговіны на Пятроўскі пост.

Праз 10 дзён пасля Тройцы, у чацвер, католікі адзначаюць свята Божага Цела.

Чацвер дзевятага тыдня пасля Вялікадня зваўся ў народзе Дзевятнікам. Часам на яго забаранялася працаваць, каб не выклікаць засуху. Католікі і уніяты святкавалі Дзевятнік у гонар Цела Божага і праводзілі хрэсны ход з вялікімі цырымоніямі.

Царква прыстасавала ў свой час на Дзевятнік урачыстасць у памяць уз'яднання беларускіх уніятаў з праваслаўнай царквою. На полі, дзе ўжо адкрасоўвала жыта, пачынала ў каласах налівацца зерне: «Святы Дзевятнік краску здымаець, пятку становіць, жыта раўнуець, наліваець».

Пятніца дзесятага паслявялікоднага тыдня мела назву «Дзесятуха». У гэты дзень асцерагаліся не столькі засухі, колькі маланкі. На Віцебшчыне казалі: «Хто стане сеяць хлеб у дзесятую пяцінку пасля Вялікадня, у таго ён не будзе радзіць роўна дзесяць гадоў». У народных песнях гэты дзень звязваўся з больш познім станам жыта ў полі: «Дзесятуха ядро ўкладаець»; «Дзесятка — жыту пятка»; «Дзесятуха зярно поўніць» і нават «Дзесятуха — жыта паспявае».

Дзе-нідзе пятніцу адзінаццатага паслявелікоднага тыдня называлі Адзінаццатухай. Яна суправаджалася багатымі кірмашамі.

*УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ*



## ЗМЕСТ

Каляндарна-абрадавая паэзія . . . . . . . . . 5
Зімовыя песні . . . . . . . . . . . . . . 107
Веснавыя песні . . . . . . . . . . . . . 171
Летнія песні . . . . . . . . . . . . . . 293
Восеньскія песні . . . . . . . . . . . . 401
Каментарыі . . . . . . . . . . . . . . . 483
Асноўныя крыніцы і прынятыя скарачэнні . . . . . 485
Архівы . . . . . . . . . . . . . . . . 487
Іншыя скарачэнні . . . . . . . . . . . . 487
Народны каляндар . . . . . . . . . . . . 554

Научное издание

БЕЛОРУССКОЕ НАРОДНОЕ ТВОРЧЕСТВО

**ПОЭЗИЯ БЕЛОРУССКОГО ЗЕМЛЕДЕЛЬЧЕСКОГО КАЛЕНДАРЯ**

Минск, издательство «Навука і тэхніка»

*На белорусском языке*

Навуковае выданне

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

**ПАЭЗІЯ БЕЛАРУСКАГА ЗЕМЛЯРОБЧАГА КАЛЕНДАРА**

Загадчык рэдакцыі *Л. І. Пятрова*

Рэдактар *М. А. Вячорка*

Мастак *Е. Н. Дашкевіч*

Мастацкі рэдактар *В. В. Саўчанка*

Тэхнічны рэдактар *В. І. Кручонак*

Карэктар *Я. У. Марціновіч*

ІБ № 3841

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 08.01.91. Падпісана ў друк 27.09.91. Фармат 60×84¹/₁₆. Папера афсет. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 35,81. Ум. фарб.-адб. 36,24. Ул.-выд. арк. 34,4. Тыраж 2500 экз. Зак. № 84. Цана 3 р. 50 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600. Мінск, Жодзінская, 18. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Жодзінская, 18.

**Паэзія** беларускага земляробчага календара / Уклад.,
П22 сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. А. С. Ліса; Рэдкал.: А. С. Фядосік (гал. рэд.) і інш.— Мн.: Навука і тэхніка, 1992.—613 с.— (БНТ: Беларус. нар. творчасць / АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

ISBN 5-343-00676-0.

Поэзия белорусского земледельческого календаря.

Каляндарна-абрадавая паэзія, прадстаўленая ў томе сваімі лепшымі ўзорамі, з выключнай паўнатой адлюстравала светапогляд народа, яго працоўнае і духоўнае жыццё. Яна адрозніваецца глыбокай гуманістычнай накіраванасцю і мастацкай дасканаласцю. Каляндарна-абрадавая паэзія, або песні гадавога кола,— рэпрэзентатыўны раздзел беларускай народна-паэтычнай культуры.

Разлічана на этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў, філолагаў, работнікаў культуры, усіх, хто цікавіцца беларускай народнай творчасцю.

П $\frac{4702120105-129}{М316(03)-92}$ 136—91

ББК 82.3Бел.-6